# З росных сцяжын

Аўтабіяграфіі
пісьменнікаў Беларусі



Мінск
«Літаратура і Мастацтва»
2009

## *НА ПАЧАТКУ ВЯЛІКАЙ ДАРОГІ*

*У гісторыі айчыннага літаратуразнаўства сваю важкую справу зрабілі кнігі, якія ўвабралі ў сябе аўтабіяграфіі пісьменнікаў Беларусі, – «Пяцьдзесят чатыры дарогі», «Пра час і пра сябе», «Вытокі песні». Тры сімпатычныя, прыцягальныя тамы шчырых, адкрытых распаведаў, што называецца, «з першых вуснаў», на дзесяцігоддзі сталі крыніцай шырокай і надзвычай грунтоўнай інфармацыі для тых, хто вывучае айчынную літаратуру. І сёння даўно выдадзеныя кнігі не залежваюцца на паліцах бібліятэк. Па-ранейшаму імі карыстаюцца вучні і настаўнікі, студэнты і вучоныя. Вырашыўшы прадоўжыць адмысловую серыю, наша выдавецтва ўжо зараз усведамляе, што мы знаходзімся на пачатку вялікай дарогі. Болей як трыццаць гадоў прайшло з таго часу, калі пабачыла свет папярэдняя, трэцяя па ліку, кніга – «Вытокі песні». За гэты час у літаратуру Беларусі прыйшоў велізарны атрад празаікаў, паэтаў, драматургаў, літаратурных крытыкаў, публіцыстаў... Хацелася б з усімі імі пазнаёміць айчыннага чытача. Вырашыць гэтую задачу ў межах аднаго зборніка, пагадзіцеся, немагчыма. Таму і задача наперадзе дастаткова няпростая і разлічаная на пэўны час, на выданне некалькіх кніг. Загадваць нешта і планаваць з вялікай доляй дакладнасці сёння, відавочна, не зусім правільна. І ўсё ж мы плануем перспектыву, разважаем пра тое, што ўвойдзе ў наступнае выданне аўтабіяграфій пісьменнікаў Беларусі.*

*Па-першае, мы ўсё ж спадзяёмся на падтрымку айчынных архівістаў. Справа ў тым, што шмат хто з пісьменнікаў, якія не сталі героямі папярэдніх зборнікаў аўтабіяграфій, даўно пайшоў з жыцця. Да іх ужо з клопатам расказаць пра сябе не звернешся... Але, відавочна, ці накіды творчых аўтабіяграфій, ці аўтабіяграфіі, напісаныя пад час працаўладкавання, уступлення ў творчы саюз, засталіся ў дзяржаўных альбо хатніх архівах. І гэтыя тэксты – таксама дакументы, вартыя прачытання. Па-другое, мы разлічваем, што сам факт выдання зборніка «З росных сцяжын» зварухне пісь-*

*менніцкую ініцыятыву і прымусіць многіх прыўзняцца над часам і занатаваць пэўныя старонкі ўласна перажытага і зробленага ў літаратуры. Кожнаму дадзены шанц быць самому сабе і крытыкам, і суддзёю. Кожны мае магчымасць з некім паспрачацца, некаму выказаць і патлумачыць набалелае і перажытае. Паэтычныя і празаічныя радкі кожны стварае ва ўмовах і сітуацыі, толькі яму ўласцівыя. Магчыма, праз знаёмства з аўтабіяграфіяй мы даведаемся і нешта такое, што дазволіць па-новаму прачытаць ужо вядомыя творы, дазволіць зазірнуць у творчую лабараторыю пісьменніка.*

*Таму спадзяёмся на працяг, на тое, што ўслед за кнігай «З росных сцяжын» створым яшчэ не адзін і не два зборнікі, якія разам складуць адмысловую анталогію пісьменніцкіх аўтабіяграфій, дапоўняць агульную карціну гісторыі літаратуры Беларусі. А зараз мне застаецца толькі падзякаваць пісьменніку, кніжнаму рэдактару і ўкладальніку Міколу Мінзеру, які ўсклаў на свае плечы няпростую і доўгатэрміновую задачу: будзем чакаць, што карысць з яго клопатаў паслужыць беларускаму чытачу праз многія гады.*

*Алесь КАРЛЮКЕВІЧ,*
*дырэктар РВУ «Літаратура і Мастацтва»*



## *Аўласенка*
### *Генадзь Пятровіч*

## ПРА СЯБЕ І СВАЮ ТВОРЧАСЦЬ

Нарадзіўся я 16 жніўня 1955 года ў в. Ліпавец Ушацкага раёна. Можна сказаць, што нарадзіўся я ў самім раённым цэнтры, бо в. Ліпавец з'яўлялася (і зараз з'яўляецца) прыгарадам (дакладней, акраінай) г. п. Ушачы. Бацькі мае працавалі там, ды і сам я там вучыўся, і ў 1972 годзе больш-менш паспяхова скончыў Ушацкую сярэднюю школу.

І дзяцінства, і юнацтва маё праходзілі звычайна, без асаблівых нейкіх падзей і здарэнняў. Хачу адзначыць толькі непаўторную па прыгажосці прыроду Ушаччыны, з яе рэкамі, азёрамі, лясамі. Ці не гэтым у першую чаргу тлумачыцца тое, што тут так многа талентаў, што менавіта з гэтых мясцін выйшлі і Броўка, і Быкаў, і Барадулін…

Ну, а яшчэ я з самага дзяцінства ведаў аб гераічным партызанскім мінулым сваёй малой радзімы, аб Ушацкай партызанскай зоне з яе 16 баявымі брыгадамі, аб крывавай блакадзе вясны 1944 года. І бацька,

і дзед мой былі тады ў партызанах і шмат чаго маглі расказаць аб тым часе. Другі мой дзед якраз і загінуў у час гэтай блакады, яго прозвішча ёсць сярод іншых на мемарыяльным комплексе «Прарыў».

Але вяртаюся зноў да сябе, дакладней, да творчай сваёй біяграфіі.

Пасля школы была служба ў арміі, ну, а пасля арміі я паступіў у Белдзяржуніверсітэт. На біялагічны факультэт.

Чаму не на філалагічны?

Не ведаю. Напэўна, на сённяшні розум, я б і сапраўды спрабаваў паступіць менавіта на філфак… але ў той час у мяне была зусім іншая сітуацыя.

Пачну з таго, што я з самага ранняга дзяцінства літаральна «захварэў» літаратурай, у тым сэнсе, што кнігі не чытаў нават, а «глытаў». Памятаю, як аднойчы ўлетку (пасля сёмага класа, здаецца), не знайшоўшы ў хаце нічога для сябе больш-менш падыходзячага (г. зн. яшчэ не прачытанага), зняў з кніжнай паліцы тоўстую кнігу з даволі нецікавай назвай «Ціхі Дон». Разгарнуў і… ўжо не змог ад яе адарвацца. Усе чатыры тамы я прачытаў, здаецца, за тры дні, нават за два з паловай, потым вельмі доўга хадзіў пад уражаннем ад прачытанага. А яшчэ потым, калі праходзілі ў школе творчасць Шолахава, да слёз чамусьці было крыўдна, што вывучалі мы там зусім іншыя ягоныя творы, якія нічым асаблівым мяне не ўразілі…

З беларускіх пісьменнікаў у той далёкі перыяд больш за ўсё падабаліся мне творы Янкі Маўра.

А яшчэ мяне літаральна зачароўвалі вершы. Не ўсе, зразумела. Сапраўдныя.

Але вось парадокс. Наколькі мне падабалася літаратура, настолькі я не любіў урокі мовы (і рускай, і беларускай). Дыктанты я пісаў заўжды не вышэй за «трояк» (а здаралася, і ніжэй), па сачыненнях у мяне заўжды былі дзве вельмі розныя адзнакі (да прыкладу: пяць/тры). Да гэтага часу магу зрабіць у тэксце элементарную граматычную альбо арфаграфічную памылку (дзякуй хатняму камп'ютэру, які мне іх паказвае, на жаль, пакуль што толькі ў рускамоўных тэкстах). Яшчэ мне вельмі не давалася ў школе замежная (нямецкая) мова. А ўсё гэта было якраз тое, што патрабавалася ў той час (ды і зараз таксама) для паступлення на філфак.

Так што шанцаў паступіць туды ў мяне амаль не было. Ды і не жадаў я паступаць на філфак у тыя далёкія гады, бо аб літаратурнай творчасці нават не марыў, а прыроду вельмі любіў, і біялогія ў школе была адным з любімых маіх прадметаў. Таму паступленне на біяфак здавалася мне ў той час найлепшым варыянтам з усіх магчымых.

На біялагічным факультэце я выбраў кафедру заалогіі, а калі больш дакладна – пачаў вывучаць чмялёў. І даволі паспяхова.

На той час я, здаецца, быў адзіным, хто займаўся чмялямі Беларусі за доўгі-доўгі папярэдні перыяд. (Да мяне быў, праўда, адзін вучоны аж з 20-х гадоў па прозвішчы Дабратворскі… Ці займаўся чмялямі хтосьці пасля мяне і ці займаецца хоць хто-небудзь імі зараз – дальбог, не ведаю.) Я вывучаў чмялёў, збіраў іх, вызначаў… марыў аб далейшай навуковай працы, аб кандыдацкай дысертацыі, магчыма нават, аб аспірантуры, але…

Ведаеце, у жыцці здараецца часам гэтае самае «але», якое не проста змяняе тваё жыццё, але змяняе яго кардынальна…

Да чацвёртага курса (а было мне ўжо амаль 25 гадоў) я, хоць па-ранейшаму захапляўся і паэзіяй (асабліва творчасцю Андрэя Вазнясенскага і Яўгена Еўтушэнкі), і прозай (у першую чаргу фантастыкай), сам нават не спрабаваў стварыць хоць штосьці самастойнае. А тут раптам пачаў. І пачаў, вядома ж, з лірычных вершаў. Рускамоўных, што на той час было зусім не дзіўна…

Пачалося гэта неяк нечакана нават для мяне самога. Яшчэ больш нечаканым было тое, што вершы гэтыя пачалі амаль адразу ж атрымлівацца. Праўда, на той час гэта здаралася не часта і даволі нерэгулярна. Бывала, напішу некалькі вершаў запар, а потым раптам зацішша, якое можа доўжыцца і тыдзень, і два, а то і некалькі… і новы ўздым творчага натхнення пасля гэтага працяглага зацішша…

Нікому з сяброў я сваіх вершаў не паказваў, ніхто ў той час нават і не падазраваў, што я цішком штосьці такое ствараю. А я раптам з жахам зразумеў, што мне зусім не хочацца працягваць вывучэнне чмялёў, не хочацца займацца біялогіяй наогул. Яшчэ я зразумеў, што паступленне на біяфак – прыкрая памылка, выпраўляць якую было ўжо, на жаль, пазнавата (узрост, як-ніяк).

Але разуменне разуменнем, ды прызнацца нават самому сабе ў тым, што значная частка жыцця патрачана марна, не так і проста. Увесь чацвёрты курс я, як бы па інерцыі, працягваў наведваць лекцыі, здаваць залікі і экзамены, вывучаць усё тых жа чмялёў, рыхтуючы чарговую курсавую работу. Але з кожным новым днём, з кожным новым вершам біялогія як навука ўсё больш і больш страчвала для мяне сваю ранейшую прыцягальнасць, адсоўваючыся кудысьці, не на другі нават, на дзесяты план, а наперад, засланяючы сабой усё і ўся, выходзіла Яе Вялікасць Паэзія…

Скажу шчыра, я нават разгубіўся тады ад такога вось нечаспадзяванага павароту лёсу. І зрабіў тое, чаго рабіць, магчыма, і не трэба было…

А магчыма, і трэба! Можа без гэтага свайго рашучага і вельмі ўжо неразумнага кроку я б не быў зараз тым, кім з'яўляюся. Я быў бы

тады кімсьці зусім іншым… магчыма, нават лепшым, чым зараз, але ўсё ж зусім іншым…

Карацей, я кінуў універсітэт на… пятым курсе, калі да доўгачаканага дыплома заставался ўсяго нічога, рукой, як кажуць, падаць. Прычым кінуў не па прычыне непасняховасці (адзнакі ў заліковай кніжцы ў мяне заўсёды былі больш чым прыстойныя), а менавіта таму толькі, што біялогія як навука згубіла для мяне сваю прыцягальнасць. Больш таго, яна замінала і нават перашкаджала мне займацца літаратурнай творчасцю (на той час выключна паэтычнай).

Праўда, была яшчэ адна прычына гэтага майго нечаканага для ўсіх знаёмых учынку. Прычына гэтая старая як свет, і імя ёй – каханне. Дакладней, крушэнне і самога кахання, і ўсіх надзей хоць штосьці выправіць ці змяніць у тупіковай гэтай сітуацыі.

Дарэчы, усе мае сябры-аднакурснікі і да гэтага часу ўпэўнены, што менавіта нешчаслівае каханне і было адзінай прычынай таго, што я пакінуў універсітэт. І ў чымсьці яны, вядома ж, маюць рацыю. Але гэта быў, скажам так, апошні каменьчык (ці апошняя кропля, калі так лепш гучыць). А далей усё пакацілася само сабой…

А яшчэ потым было маё вандраванне па неабсяжных сібірскіх прасторах… Забайкалле, Якуція… Вандраванне без пэўнай мэты, проста так. Я спыняўся ў нейкім адным месцы, уладкоўваўся на працу, нейкі час працаваў. Калі збіралася больш-менш прыстойная сума грошай, звальняўся, садзіўся ў самалёт і ляцеў кудысьці яшчэ, загадзя гэтага не плануючы нават. Праўда, у адным месцы затрымаўся на даволі значны тэрмін. У Якуціі, на звераферме, звераводам. Вырошчваў пясцоў, сябраваў з мясцовымі жыхарамі і… працягваў пісаць вершы. Усё яшчэ рускамоўныя.

А потым пацягнула на радзіму. Вярнуўся, завочна скончыў усё той жа біяфак (толькі дзеля дыплома). А перад гэтым паспеў ажаніцца, трывала асеў у Чэрвені і жыву там да гэтага часу. Зразумела ж, уладкаваўся на працу, згодна са сваім біялагічным дыпломам, але ўжо цвёрда ведаў: галоўнае для мяне – літаратура!

Праўда, не ўсё пайшло так проста і гладка, як хацелася. Пісаў я ў той час толькі вершы, прытым, рускамоўны. Друкаваўся спачатку толькі ў чэрвеньскай раённай газеце (тады яна называлася «Уперад», зараз – «Раённы веснік»). Час ад часу падборкі маіх вершаў друкаваліся ў газетах «Мінская праўда», «Во славу Родины», «Знамя юности», часопісе «Рабочая смена» (потым ён называўся «Парус»). У «Нёмане» надрукавана было ў той час некалькі маіх вершаў, а адзін верш нават у маскоўскім часопісе «Смена».

Але я адчуваў, што ўсё гэта не зусім тое, што мне хацелася б, дакладней, зусім не тое. Друкавалі мяне (акрамя нашай «раёнкі»)

даволі рэдка і ў асноўным, як я ўжо адзначаў, у газетнай перыёдыцы. Калі ж я, набраўшыся смеласці, даслаў рукапіс у «Мастацкую літаратуру», яго хутка вярнулі з абыякава-ветлівым допісам-адмовай. Праўда, потым каля двух дзесяткаў маіх вершаў увайшло ў калектыўны рускамоўны зборнік «Первая встреча», які выйшаў у «Мастацкай літаратуры» ў 1989 годзе. У тым жа годзе мой верш «Куропаты» з’явіўся ў чарговым зборніку «Дзень паэзіі»…

Але галоўным было нават не тое, што я друкаваўся рэдка і не там, дзе хацелася б. (А больш за ўсё хацелася мне друкавацца ў цэнтральных маскоўскіх часопісах, і я старанна і рэгулярна дасылаў туды падборкі маіх вершаў і гэтак жа рэгулярна атрымліваў адмоўныя адказы.) Галоўным было тое, што і пісалася мне ўсё горш і горш. Не ў сэнсе якасці вершаў, а ў сэнсе іх колькасці… Трэба было штосьці змяняць у сваёй творчасці, і я змяніў…

У маім пераходзе на беларускамоўныя вершы быў свой сэнс. Мову я ведаў добра, з дзяцінства, ды і ў школе з першага па дзесяты клас усе прадметы вывучаў на беларускай мове (акрамя рускай мовы і літаратуры, вядома). Праўда, за час арміі, вучобы на біяфаку і сібірскіх вандровак родную мову я амаль што забыўся, ды і потым амаль не ўжываў яе. І доўжылася гэта даволі доўга, аж да 1990 года, калі пачаў працаваць настаўнікам у Вайнілаўскай базавай школе (дзе і зараз працую). У вясковай школе навучанне, зразумела ж, было беларускамоўным, так што я вельмі хутка ўспомніў родную мову і пачаў на ёй не толькі выкладаць біялогію і хімію, але і размаўляць, і нават думаць…

І тады ў мяне, неяк адразу, пачалі атрымлівацца беларускамоўныя вершы. І амаль адразу ж іх пачалі друкаваць і «ЛіМ», і «Маладосць», і «Полымя». Асабліва часта мае вершы друкавала газета «Голас Радзімы». Ну і, вядома ж, наша чэрвеньская «раёнка», плённае супрацоўніцтва з якой працягваецца ў мяне і сёння. Апрача «дарослых» вершаў я пачаў пісаць і дзіцячыя. І іх таксама з задавальненнем друкавалі – і «Вясёлка», і «Бярозка», і дзіцячыя старонкі такіх выданняў, як «Алеся», «Пачатковая школа», пазней – «ЛіМ»…

Вершы таго часу склалі мой першы (і адзіны пакуль) паэтычны зборнік «Час збіраць камяні», які выйшаў у выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў 2003 годзе.

А крыху пазней (не парываючы з паэзіяй) я захапіўся драматургіяй. І адразу ж даволі паспяхова.

Мая самая першая п’еса «Новыя прыгоды Калабка» заняла на Першым рэспубліканскім конкурсе драматургіі (1995) трэцяе месца сярод п’ес для дзіцячых тэатраў. На другім такім жа конкурсе (здаецца, гэта быў 1997 г.) мая п’еса «Снегавік і Вясна» таксама заняла

трэцяе месца, але ўжо сярод п’ес для лялечных тэатраў. А самым плённым стаў для мяне трэці конкурс, калі лаўрэатамі яго сталі аж тры (!) мае п’есы – дзве дзіцячыя і адна дарослая.

У гэты ж час дзве мае п’есы паспеў надрукаваць часопіс «Тэатральная творчасць». На старонках «Радыёкаруселі» гучалі даволі рэгулярна і мае дзіцячыя п’есы, і падборкі маіх вершаў для дзяцей…

Маё захапленне драматургіяй у той час было даволі сур’ёзным і плённым. Дастаткова будзе адзначыць, што за гэтыя некалькі год (з 1994-га па 2000-ы) я напісаў каля дваццаці дарослых і дзіцячых п’ес і гатовы быў ствараць іх яшчэ і яшчэ… Дарэчы, у 1999 годзе мяне прынялі ў Саюз пісьменнікаў, і прынялі менавіта як драматурга.

А потым усё скончылася.

«Радыёкарусель» спыніла сваё існаванне, як, дарэчы, і часопіс «Тэатральная творчасць». Самае крыўднае, што спыніў ён існаванне якраз на нумары, дзе павінна была быць надрукавана мая дзіцячая п’еса «Снегавік і Вясна», тая самая, што стала крыху раней лаўрэатам Другога рэспубліканскага конкурсу драматургіі.

Але не гэта было самае крыўднае. Самым крыўдным было тое, што беларускія тэатры, як згаварыўшыся, ігнаравалі і мяне, і мае п’есы. (Чаму так адбывалася, я і тады не разумеў, не разумею і зараз.) Адзіным выключэннем з гэтага правіла стаў Брэсцкі тэатр лялек, дзе быў пастаўлены спектакль па маёй п’есе «Зайцава хатка».

І я перастаў пісаць п’есы. Не хачу сказаць, што назаўсёды (хто ведае сваю будучыню!), але за восем апошніх гадоў я звярнуўся да драматургіі толькі аднойчы (у 2006 годзе), калі напісаў некалькі гумарыстычных сцэнак для часопіса «Вожык». (Дзве з іх «Вожык» ужо, дарэчы, надрукаваў.)

Ну, а ў мяне ў гэты час з’явілася новае захапленне – проза.

Спачатку гэта былі дзіцячыя казкі, якія друкаваліся ў «Вясёлцы», «Бярозцы», «Лесавічку», іншых выданнях. Некаторыя з гэтых казак увайшлі потым у зборнікі казак «Бурштынавыя пацеркі» і «Вежа міру», якія выйшлі ў «Мастацкай літаратуры» адпаведна ў 2006 і 2007 г. А ў выдавецтве «Літаратура і Мастацтва» нядаўна былі выдадзены зборнікі казак «Чырвоная кніга ў казках і вершах» і «Лясная кніга ў казках і вершах», дзе сярод твораў іншых аўтараў ёсць і мае казкі.

Акрамя дзіцячых казак я пачаў пісаць у той час і невялікія «дарослыя» апавяданні, разнастайныя па тэматыцы… але ўсе можна аб’яднаць адной фразай: «на мяжы рэальнага і фантастычнага». А пачалося ўсё з конкурсу апавяданняў у газеце «Звязда». Зацікавіўшыся ім, я вырашыў паспрабаваць свае сілы ў гэтым, но-

вым для сябе жанры. Атрымалася. У конкурсе «Звязды» з таго часу ўдзельнічаю рэгулярна, а ў 2007 годзе маё апавяданне «Выпадак на балоце» перамагло ў гэтым конкурсе. Мае апавяданні друкаваліся ў «Маладосці», «ЛіМе», іншых перыядычных выданнях. Усяго на сёння ў мяне створана каля трох дзесяткаў апавяданняў. Праўда, за апошні час гэты свой багаж амаль не папоўніў, перашкодзілі новыя захапленні…

Але аб гэтым крыху ніжэй.

А спачатку вось пра што.

У літаратуры ёсць пэўныя жанры. І ёсць пэўныя пісьменнікі: паэты, празаікі, драматургі… Ёсць гумарысты, ёсць пісьменнікі дзіцячыя, у рэшце рэшт…

А я вось не ведаю, да каго з іх магу аднесці сябе ў першую чаргу. Мне падабаецца ўсё: пісаць п’есы (падабалася, ва ўсялякім разе… і, можа, я яшчэ вярнуся да іх у будучым), пісаць апавяданні, дзіцячыя творы. І паэзія мне таксама падабаецца па-ранейшаму…

Дарэчы, у апошнія гады я захапіўся так званымі цвёрдымі формамі верша: трыялетамі, рандэлямі, актавамі, тэрцынамі… А зусім нядаўна засвоіў для сябе такія формы верша, як віланела, віралэ, лэ, рытурнель…

А ў 2006 годзе я зусім выпадкова «адкрыў» у сябе новы дар – дар… парадыста. Гумарыстычныя вершы я пісаў і раней, а вось пародыі… Зараз іх у мяне даволі шмат (хай не крыўдуюць паэты), пародыі гэтыя рэгулярна друкуюцца на старонках гумару штотыднёвіка «ЛіМ».

А яшчэ ў часопісе «Бярозка» з 2006 года я вяду штомесячную рубрыку «Азы вершаскладання». А ў часопісе «Рюкзачок» (з ім я супрацоўнічаю з самага пачатку яго існавання), у навукова-пазнавальных рубрыках «Старонкі гісторыі» і «Свет прыроды», рэгулярна друкуюцца мае артыкулы пра гісторыю Беларусі, пра розных беларускіх жывёл: звяроў, птушак, насякомых…

Але і гэта яшчэ не ўсё!

Хоць я і перайшоў у сваёй творчасці на беларускую мову, канчаткова з рускамоўнай так і не парваў. Праўда, рускамоўных вершаў больш не пішу, але час ад часу раблю пераклады з беларускай мовы на рускую вершаў беларускамоўных паэтаў. Да прыкладу, у дванаццатым нумары часопіса «Нёман» за 2006 год былі надрукаваны мае пераклады вершаў Уладзіміра Мазго. У часопісе «Немига литературная» ў 2007 годзе з’явіліся мае пераклады лірычнай падборкі вершаў Віктара Шніпа.

А яшчэ я пішу прозу. І дзіцячую, і дарослую.

У тым жа «Рюкзачке» ў 2007–2008 гадах друкавалася мая казачная аповесць на рускай мове «Вася Лентяйкин в Стране сказок».

А ў 2008–2009-м – яе працяг «Вася Лентяйкин в Стране вредных привычек». У самым пачатку 2009 года ў выдавецтве «Літаратура і Мастацтва» выйшла мая рускамоўная дзіцячая кніга «Удивительные приключения маленького Ветерка из Вентилятора».

Ёсць у мяне і проза для моладзі і дарослых чытачоў. Гэта некалькі раманаў, якія я напісаў за апошнія гады… і напісаў, як кажуць, «у стол», дакладней, у камп'ютэр. Праўда, у 2008 годзе выдаў у выдавецтве «Ковчег» невялікім тыражом адзін з гэтых раманаў, які называецца «История вместо математики». Гэта містычны трылер, і выдаў я яго, хутчэй, проста для сябе. Так, паступова раздаю экзэмпляр за экзэмплярам блізкім і знаёмым…

А ў славутым гэтым «стале-камп'ютэры» па-ранейшаму ляжаць і чакаюць свайго часу іншыя мае раманы. Тут і раман-фэнтэзі, і лірыка-фантастычны раман, і проста фантастычны… І некалькі раманаў пачатых, але пакуль так і не скончаных…

А яшчэ я напісаў два кінасцэнарыі. І адзін з іх («Разрешите стать вашим слугой») нават заахвочвальную прэмію атрымаў на конкурсе, які праводзіла кінастудыя «Беларусьфільм» гады два таму. Праўда, надзеі на тое, што па ім хоць калі-небудзь паставяць фільм, у мяне няма аніякай.

Вось такая ў мяне шматпланавая творчасць. Добра гэта ці дрэнна – не ведаю. Мне падабаецца.

Адзіны літаратурны жанр, які мяне не цікавіць і ніколі, напэўна, не зацікавіць, – гэта крытыка. Чытаю чужыя крытычныя і літаратуразнаўчыя артыкулы заўжды з задавальненнем, але цвёрда ведаю – гэта не маё! Гэтым я ніколі займацца не буду. Не змагу, дакладней, калі б нават і хацеў…

А ўсё астатняе – хто ведае…

*Студзень 2009 года*



***Аўруцін***
***Анатоль Юр’евіч***

## ПАД СУЗОР’ЕМ СЛОВА…*

Некалькі гадоў назад вядомы пісьменнік Іван Сабіла, з якім мы некалі разам раслі ў Мінску, у маленечкім завулачку з недарэчнай назвай Аўтадораўскі, даслаў мне з Піцера свой паспеўшы ўжо нямала нашумець аўтабіяграфічны раман «Адкрыты рынг». У кнігу была прадбачліва ўкладзеная закладачка – каб я адразу мог разгарнуць яе на самым цікавым для сябе месцы. Зрабіўшы так, як падказваў даўні сябар, я адкрыў закладзеную старонку і прачытаў: «Іду па Чыгуначнай. Злева – вагонарамонтны завод, справа – чыгуначнае вучылішча нумар тры… За вучылішчам – вялізны будынак, на першым паверсе ашчадкаса, сталовая. За гэтым будынкам – два трохпавярховыя цагляныя дамы. Здаецца, у нейкім з іх жыве з бацькамі Толік Аўруцін з нашага завулка. Сястра мая, Валечка, гаварыла, што ён піша вершы. Ці піша?..»

Апісаны эпізод адносіцца да пачатку 70-х гадоў, калі я хадзіў у самых «зялёных» пачаткоўцах. І задоўга да гэтага сябра Сабіла,

які паехаў вучыцца ў Ленінград і назаўжды застаўся там, сапраўды пра мяне тагачаснага амаль нічога не ведаў. Ды і ведаць было няма чаго – падумаеш, чалавек у «Железнодорожнике Белоруссии» ды зрэдку ў «Знаменке» друкуецца…

Зрэшты, сам факт згадвання пра мяне ў сабілаўскім рамане прымусіў схамянуцца, на многае зірнуць іншымі вачамі. І паплылі ўспаміны…

Аўтадораўка наша, якая была да рэвалюцыі вуліцай Благавешчання, уяўляла сабою маленечкі, дамоў на дванаццаць, завулачак, які прыляпіўся да Таварнай станцыі. Побач – чыгуначная лякарня, пабудаваная яшчэ ў 70-х гадах XIX стагоддзя, разам з чыгункай. Над лякарняй узвышалася арыгінальнай канструкцыі воданапорная вежа з даўно пацямнелай чырвонай цэглы адмысловай трываласці – у вайну ўсе бамбёжкі перажыла, выстаяла. Патрапіць унутр воданапоркі, аблазіць яе цёмныя закуткі заўсёды лічылася адмысловым шыкам для аўтадораўскай пацанвы, якая большую частку дня была прадастаўлена сама сабе.

Зрэшты, на мяне гэта не распаўсюджвалася. Я быў адзіным і досыць познім дзіцём у сям'і інжынера-вагонніка Юрыя Майсеевіча Аўруціна і маці, Фаіны Ільінічны. Бацьку гадоў да сямі я бачыў толькі ўрыўкамі – быў ён акрамя ўсяго іншага яшчэ і сакратаром партарганізацыі, знікаючы з дому нацямку і вяртаючыся, калі я даўно ўжо салодка пасопваў. Прыйшоўшы дадому, бацька піў моцную каву, каб не зваліцца ад стомы, і садзіўся… канспектаваць працы заснавальнікаў марксізму-ленінізму для будучых палітзаняткаў. Быць парторгам у пасляваенную пару было не толькі адказна, але і небяспечна – добра памятаю кулю, якая захраснула ў трывалых уваходных дзвярах – уначы хтосьці стрэльнуў у ненавісныя дзверы… Бацька яшчэ быў народным засядацелем і, хоць судзілі яны ў асноўным крымінальнікаў, шмат гадоў страшна перажываў, што аднаго рабаўніка-рэцыдывіста прысудзілі да вышэйшай меры – усё-ткі чалавека жыцця пазбавілі… І пры гэтым бацька не пераставаў пісаць вершы аб каханні і байкі, у якіх бічаваў нявартых будаўнікоў новага грамадства. Некаторыя з іх ён нават публікаваў пад псеўданімам у газеце…

Так, бацькі я амаль не бачыў, затое маці пасля майго нараджэння ён угаварыў пакінуць бухгалтарскую працу і цалкам прысвяціць сябе выхаванню сына. Чым, уласна кажучы, маці і займалася да самага майго пасталення, ледзь зарабіўшы маленькую пенсію – чамусьці лічыцца, што выхоўваць годнага чалавека – гэта не праца…

Жылі мы ў доміку на тры сям'і, дзе ў нас быў пакойчык з маленечкай кухняй без акна. Гатавала маці спачатку на прымусе, потым – на керагазе, ваду ў цяжкіх вёдрах цягала ад калонкі, да якой было метраў сто. Пакуль маці хадзіла па ваду, я стаяў ля вакна і ў думках пад-

лічваў мамчыны крокі: «Топ-топ, топ-топ». Калі, па маім разуменні, колькасць «топ-топаў» была вычарпана, а маці ўсё яшчэ не было, я пачынаў ціха плакаць…

Аднаго на вуліцу мяне не выпускалі – прама пад акном грукатала брукаваная дарога, па якой з раніцы да вечара насіліся, паднімаючы фантаны пылу і ляскаючы металічнымі бартамі, вялікагрузныя самазвалы. Мне заставалася глядзець у акно, слухаць радыё, якое не выключалася, ды наталяцца кнігамі, якія кожную вольную хвіліну чытала мне маці. На рэдкай па тых часах этажэрцы ў нас мясціліся тамы Лермантава, Чэхава, Серафімовіча… На асобных паліцах стаялі карычневыя зборы сачыненняў Леніна і Сталіна…

Прырода надзяліла мяне ўчэпістай памяццю, і, паслухаўшы разок «Сказку о царе Солтане» або «Федорино горе», я імгненна запамінаў іх цалкам. Нават дзіўным падавалася, што ў іншых такое не атрымоўвалася… Дзеля жарту маці неяк прачытала мне чыгуначную інструкцыю па сігналізацыі і сувязі – аб'ёмістую кніжыцу, дзе апісваліся ўсе наяўныя на чыгунцы сігналы. Дасведчаныя інжынеры штогод з жахам чакалі чарговай пераэкзаменоўкі па гэтай цяжка запамінальнай дысцыпліне. Але і гэтую кніжку, якая прыцягвала мноствам каляровых ілюстрацый, я запомніў гуляючы. У памяць урэзалася, як здзіўлена цокаў языком бацькаў калега Іван Антонавіч Піла, адмыслова прыйшоўшы праверыць мае пазнанні: «Ды не можа чатырохгадовае дзіця гэтага запомніць! Толік, а што азначаюць два доўгія і тры кароткія гудкі?..» Я адказваў без запінкі, чым увёў татавага прыяцеля ў яшчэ большае здзіўленне…

А дзякуючы рэпрадуктару я запомніў сталіцы ўсіх буйных дзяржаў свету, імёны прэзідэнтаў і генеральных сакратароў кампартый, назвы папулярных опер і іх аўтараў… Улюбіўся ў футбольныя рэпартажы Вадзіма Сіняўскага і вывучыў беларускую мову… І, нарэшце, наслухаўшыся пераможных зводак, у чатырохгадовым узросце выдаў свой першы, захаваны мамай, верш. Гэта была свайго роду ода трактару:

Трактор, трактор! Ты пойдешь
По полям станицы.
Много хлеба привезешь
Жителям столицы.

Залішне гаварыць, што ні сапраўднага трактара, ні тым больш станіцы я да той пары і ў вочы не бачыў. Якая тут сельская гаспадарка, калі з усіх чатырохногіх я, акрамя кошак і дварнякоў, зразумела, бачыў толькі крэсла?.. Але вось жа, рэпрадуктар натхніў…

Самай вялікай радасцю той пары была магчымасць зрэдку апынуцца на некалькі гадзін у бацькі на працы, калі татавы калегі заводзяць цябе ўнутр дэпо, дзе рамантуюцца вагоны, і ты можаш усе гэтыя шчыткі і рэгулятары круціць колькі хочаш. Або пракаціцца на аўтакары, седзячы на скрынях з запаснымі часткамі, а потым праз адмысловы шчыток назіраць за феерычным россыпам іскр электразваркі… Але зусім ужо святам я лічыў, калі бацька за руку прыводзіў мяне ў суседняе, паравознае, дэпо, дзе па яго просьбе мне дазвалялі трошкі пастаяць на паваротным крузе – дзіўным збудаванні для развароту лакаматываў на патрэбны шлях. Падавалася, што гэта я кручу цуд-карусель, што гэта па маёй волі магутныя машыны паслухмяна з’язджаюць на рэйкі… Праз шмат гадоў адну з сваіх першых паэтычных кніг я так і назваў – «Поворотный круг»…

Добра памятаю сакавік пяцьдзесят трэцяга, калі прыляцела вестка аб смерці Сталіна. Памятаю, як аб гэтым здарэнні мне са слязамі сказала раніцай маці, і мы разам з ёй доўга плакалі. Днём бацька прынёс мне жалобную павязку, і я, седзячы з чарговай прастудай дома, усё імкнуўся, каб яе ўбачылі на маім рукаўчыку многія людзі, што заходзілі ў той дзень да нас у хату. Пра мяне на нейкі час забыліся, і я ўсё разважаў: вось зусім нядаўна быў у мяне дзень нараджэння, а госці першы тост пілі не за мяне, а за Сталіна… А ён усё роўна памёр… можа быць, гэта таму, што яго занадта шмат славілі?..

У пяцьдзесят дзевятым мы нарэшце перасяліліся ў добраўпарадкаваную кватэру – вагоннае дэпо сіламі сваіх супрацоўнікаў, так званым «горкаўскім метадам», за чатыры гады выбудавала трохпавярховы цагляны дом на вуліцы Чыгуначнай, метрах у пяцістах ад нашай Аўтадораўкі. Будоўляй кіраваў бацька, ён там дняваў і начаваў, аднойчы нават траўміраваўся цяжка – ішоў спіной, кіруючы працай крана, ды і зваліўся ў адчынены каналізацыйны люк. Балазе, было неглыбока, але пры падзенні бацька моцна пашкодзіў калена і потым доўга лячыўся…

Напярэдадні кастрычніцкіх святаў мы ўехалі ў двухпакаёвую «хрушчоўку», якую маці тут жа назвала панскай кватэрай. І не бяда, што газ нам правялі толькі гадоў праз пяць, а каб памыцца, трэба было распальваць дровамі і доўга грэць тытан. Затое мы жылі на другім паверсе з балконам, з крана цякла халодная вада, а батарэі ацяплення, калі злазіць на гарышча і добранька выпусціць паветра, іншы раз станавіліся амаль цёплымі… Шасціметровая кухня ў параўнанні з маленечкай і цёмнай аўтадораўскай падавалася вялізнай… Тут я пражыў ні многа ні мала – сорак чатыры гады, да таго самага дня, калі ў пачатку 2003 года наша сям’я пераехала жыць у цэнтр Мінска, у невялікую, але ўтульную трохпакаёвую кватэру на вуліцы Гікалы…

Зрэшты, я забег далёка наперад. З-за змены адраса мяне забралі з дваццатай чыгуначнай школы, куды прыходзілася хадзіць па пуцях выключна ў суправаджэнні бацькоў, у якіх ахова яшчэ і пропуск на такі пераход часам пытала. Прыйшлося расставацца з так палюбіўшай мяне першай маёй настаўніцай Верай Пятроўнай Рачкоўскай, з лексікона якой мне запомнілася фраза: «Вот видите, дети, мальчик болел, а знает…» Зараз я вучыўся ў школе нумар тры, дзе дырэктарстваваў знакаміты Абрам Шаевіч Клябанаў па мянушцы Шайба, якога і сёння на традыцыйных вечарах успамінаюць выпускнікі са стажам. Аднаму Госпаду вядома, як гэты ціхі яўрэй прымудраўся падтрымліваць парадак у школе, дзе вучылася выключна грушаўская шпана, якая не прызнавала ніякіх аўтарытэтаў. Але, дзіўная справа, адна толькі вестка аб набліжэнні Шайбы дзейнічала выцвераджальна на самых шалёных прагульшчыкаў-другагоднікаў…

У школу я хадзіць не любіў – мяне прыгнятаў сам працэс навучання. З кантрольнымі, якіх трэба было страшыцца, неаб'ектыўнасцю настаўнікаў і бессэнсоўнасцю збору металалому, на які зухаватыя грушаўскія хлопцы прымудраліся адпраўляюць цалкам прыдатныя механізмы, якія апынуліся без нагляду… Паступова выпрацаваўся нават пэўны рэфлекс – калі трэба было ісці ў школу, у мяне імгненна знікаў апетыт, я не мог увапхнуць у сябе нават скарыначкі хлеба. А калі ўсё ж прыходзілася, не вытрымаўшы мамчыных стогнаў, што-небудзь засунуць у рот, мяне муціла па дарозе каля першага ж слупа…

У старшых класах я ўжо дакладна ведаў, што буду гуманітарыем, фізіку, хімію і матэматыку свядома запусціў, а ў адзінаццатым класе наогул апошнюю чвэрць праляжаў у бальніцы. У выніку, ад выпускных іспытаў мяне вызвалілі, але ў атэстаце апынулася цэлых шэсць троек…

Я пайшоў працаваць слесарам-інструментальшчыкам у вагоннае дэпо, паралельна паступіў на завочнае аддзяленне гістфака БДУ. Гісторыя мне падабалася змалку, але працаваць выкладчыкам хацелася менш за ўсё.

Не, мне марылася працаваць у газеце або часопісе. Дзе ўсё сучаснасць – і падзеі, і людзі! Ва ўсякім разе, так мне тады падавалася.

Неўзабаве пасля універсітэта мяне запрасілі працаваць педагогам-арганізатарам у чыгуначнае домакіраўніцтва. Там мяне і застала неўзаемнае каханне да замужняй жанчыны – бібліятэкара, маці дваіх дзяцей. Ад роспачы я напісаў сотні дзве вершаў аб няшчасным каханні, частку з якіх ахвотна апублікаваў «Железнодорожник Белоруссии». Дзякуючы штотыднёвым публікацыям я імгненна стаў папулярным у сентыментальнай, у асноўным жаночай, часткі чыгуначнікаў. Мне

пісалі лісты, пыталіся парад у цяжкай сітуацыі і нават пяць разоў запар (!) абвясцілі пераможцам паэтычнага конкурсу «У летапіс пяцігодкі». Прычым аднойчы на паседжанні журы яго старшыня, намеснік начальніка дарогі Г. Ф. Яхніцкі, гарачы мой прыхільнік, валявым рашэннем павялічыў памер прэміі за першае месца з 30 рублёў да 40…

Амаль сорак гадоў прайшло пасля той закаханасці. Даўно ўсё забылася. Наўрад ці я зараз пазнаў бы тую жанчыну. Але менавіта з той пары паэзія стала не проста захапленнем, а арганічнай часткай майго жыцця.

У 1973 годзе я выпадкова ўбачыў у часопісе «Советские профсоюзы» старонку вершаў членаў літаб'яднання «Вышыня». Паслаў свае вершы ў Маскву. І – вось цуд! – іх не толькі апублікавалі, але і запрасілі мяне ў белакаменную на ўсесаюзную нараду-семінар… працоўных літаратараў. Там я ўпершыню ўбачыў Андрэя Вазнясенскага, Льва Озерава, іншых знакамітасцяў. Тады ж пазнаёміўся з валгаградскім паэтам Іванам Сараной, вязнем сталінскіх лагераў, з якім потым сябраваў доўгія гады.

Пры «Железнодорожнике Белоруссии» неўзабаве таксама ўзнікла літаб'яднанне – «Магістраль», якое мяне запрасілі ўзначаліць у якасці літкансультанта і якое праіснавала роўна дзесяць гадоў, да 1984 года, калі яго разагналі па ўказцы ЦК КПБ. Нам так і не растлумачылі, чаму. Толькі туманна намякнулі: чыгуначнікаў у вас мала, ды і пішуць яны не аб чыгунцы… Заступіўся за маладых літаратараў рэдактар газеты Іван Шуцік, але і сам быў абвінавачаны ў мностве смяротных грахоў, цяжка захварэў і праз некалькі гадоў сканаў… Ды многае атрымалася зрабіць нават тады. Кожны другі чацвер месяца ў рэдакцыі дапазна не гасла святло – маладыя паэты бязлітасна аналізавалі творчасць сваіх таварышаў. На «агеньчык» часцяком наведваліся і масцітыя – Анатоль Грачанікаў, Міхась Стральцоў, Анатоль Вярцінскі, Мікола Аўрамчык…

Да першых угодкаў «Магістралі» мне атрымалася запрасіць на паседжанне народнага паэта Беларусі Пімена Панчанку. Найвядомейшы чалавек, ён адразу ж пагадзіўся прыйсці, з'явіўся неўзаметку, ціха прысеў у кутку. Яго нават не адразу заўважылі… Пасля паседжання, даўшы маладым нямала слушных парад і пакінуўшы для публікацыі ў газеце свой верш «Беларуская чыгунка», Пімен Емяльянавіч хітра паглядзеў на мяне: «Не сумняваюся, што ў вас ужо падрыхтаваны рукапіс першага зборніка… Не супраць, калі я яго пагляджу?» Зразумела, я не пярэчыў! Праз два дні я аддаў папку народнаму паэту, а яшчэ праз тыдзень ён запрасіў мяне ў госці: «Зайдзіце, ёсць аб чым пагаварыць!..» У гасцях я прабыў амаль цэлы дзень – гаспадар то гаварыў аб маіх вершах, то пачынаў чытаць свае, то распавядаў аб сваіх шматлікіх сустрэчах з найвядомейшымі

паэтамі, Міхаілам Святловым, напрыклад. Рукапіс мой ён вярнуў з уласнаручна напісанай рэкамендацыяй у рэдакцыю паэзіі выдавецтва «Мастацкая літаратура»: «Вам трэба толькі аднесці… Я ж народны паэт, з маёй рэкамендацыяй кніга выйдзе вельмі хутка…»

Наіўны Пімен Емяльянавіч! У сваёй высакароднасці ён выпусціў з віду, што яго аўтарытэт спрацоўваў тады, калі ён рабіў тое, чаго ад яго чакалі. Калі б я быў сельскім хлопцам, які пісаў па-беларуску, – тады іншая справа, а так… Адным словам, колькі потым Пімен Емяльянавіч ні лаяўся па тэлефоне з тагачасным дырэктарам выдавецтва Міколам Ткачовым, колькі ні абураўся несправядлівасцю – рукапіс паклалі ў доўгую скрыню, тройчы (!) аддавалі на рэцэнзію, і хоць кожны раз ацэнка была станоўчай, а Сцяпан Гаўрусёў наогул напісаў, што адчувае светлую зайздрасць да аўтара і радасць ад таго, што ў літаратуру прыйшоў яшчэ адзін таленавіты паэт, у план кніга ўпарта не патрапіла. Пакуль за справу не ўзяўся Міхась Стральцоў…

З «залатым хлопчыкам» беларускай літаратуры, яе ўлюбёнцам і пестуном Міхасём Стральцовым мяне ў рэдакцыі «Нёмана» пазнаёміў загадчык аддзела крытыкі Уладзімір Жыжэнка. Было гэта ў сярэдзіне сямідзесятых, калі адзінай магчымасцю для маладога літаратара апублікавацца ў часопісе было напісанне кароткіх, а калі пашанцуе – і паўнаважкіх рэцэнзій на новыя кнігі. Уладзімір Аляксандравіч адзін час увёў для аўтараў своеасаблівую шкалу ацэнак: калі прынесеная рэцэнзія яму не падабалася, ён моўчкі вяртаў яе аўтару, што азначала растанне назаўжды. Калі ж артыкул Жыжэнку быў даспадобы, ён даставаў з-пад стала «фауст» таннага вермута і наліваў аўтару паўшклянкі. Асабліва ўпадабаныя рэчы адзначаліся поўнай шклянкай. Можна было адмовіцца, але гэта таксама азначала канец кантактаў з рэдакцыяй…

Я прынёс Жыжэнку рэцэнзію на зборнік Святланы Яўсеевай «Зову!», і ён, прачытаўшы, шчодра наліў мне шклянку да самых краёў. Не паспеў я з жахам падумаць аб тым, як жа мне спажыць гэтую гадасць, як дзверы расчыніліся і на парозе з'явіўся хударлявы і падцягнуты Стральцоў. Быў ён у шэрым пінжаку і светлай кашулі без гальштука. Уразілі яго вочы, быццам увабраўшыя ў сябе ўвесь сусветны смутак і ўсе сусветныя веды адначасова… Паэт Антон Бялевіч, які сядзеў у кабінеце Жыжэнкі, што намагаўся без ухвалы Уладзіміра Аляксандравіча нічога свайго ў друк не даваць, тут жа кінуў Міхасю: «Ты маю апошнюю паэму ў «Полымі» чытаў?» – «Вядома, чытаў!» – «Ну, і як?» – «Як заўсёды…» У Бялевіча перахапіла дыханне, ён пачырванеў, але нічога вымавіць у адказ не здолеў…

Стральцоў ахвотна апаражніў замест мяне шклянку з вермутам, пасля чаго мы разгаварыліся. На наступны дзень ён прыйшоў да мяне ў рэдакцыю, яшчэ праз пару дзён – у госці… Вельмі хутка Міхась стаў сваім чалавекам у нашым доме, з'яўляючыся часам далёка за поўнач або застаючыся пажыць тыдзень-паўтара… Так пачалося наша шматгадовае сяброўства, зразумець сутнасць якога многія не могуць па гэты дзень. Злыя языкі нават пагаворвалі, што нецвярозы Стральцоў «выдае ідэі», а «Аўруцін з жонкай (!) сядзяць і запісваюць»…

У нас падрасталі маленькія дзеці, і далёка не кожная жонка прывітала б позния візіты Стральцова з абавязковымі просьбамі паставіць на кухні «раскладуху», даць яму пакурыць «Прыму» пад коўдру і бубненнем верша Баратынскага «На посев леса», які Міхась пры адпаведным настроі мог чытаць бясконца. Але мая Зоя Рыгораўна ў самым пачатку нашага са Стральцовым сяброўства прачытала яго «Чацвёрты год вайны», уражаная ім, пасля чаго Стральцову стала ў нашай хаце можна ўсё… За спагадлівасць Міхась плаціў той жа манетай… Ва ўсякім разе менавіта мне Стральцоў даслаў ні многа ні мала – цэлых 36 лістоў з ЛПП, куды яго адправілі лячыцца ад прыхільнасці да алкаголю. У лістах гэтых – надзіва адважныя і дакладныя характарыстыкі многіх дзеячоў беларускай літаратуры. Настолькі дакладныя, што нават зараз, праз два з лішкам дзесяцігоддзі, публікаваць лісты ранавата…

Стральцоў і вырашыў пытанне з выданнем майго зборніка «Снегопад в июле» за адзін паход у выдавецтва. Не ведаю, пра што ён там гаварыў з тагачасным загадчыкам рэдакцыі паэзіі Уладзімірам Паўлавым, але кніга неўзабаве была абвешчаная ў выдавецкім плане, а ў 1979 г. убачыла свет.

Пасля гэтага пачалася прафесійная літаратурная дзейнасць, апісваць якую можна або вельмі дэталёва, і гэта зойме цэлую кнігу, або вельмі коратка, і тады знікае галоўнае – сама атмасфера, у якой вяршыцца патаемнае, што называюць літаратурай.

Таму скажу толькі, што з прыёмам у Саюз пісьменнікаў мяне валакіцілі не менш, чым з першай кнігай, – восем гадоў. А калі ў 1993 годзе ўсё ж прынялі, то ў душы ад гэтай падзеі засталіся толькі горкія ўспаміны, бо адначасова ў СПБ адкрытым галасаваннем (!), што супярэчыла тагачаснаму Статуту, аднагалосна прынялі нейкага Лявона Случаніна, які ў гады вайны актыўна супрацоўнічаў з акупантамі і быў асуджаны пасля за здраду на пятнаццаць гадоў. Яго так і не здолелі рэабілітаваць, але ў СП прынялі. І ніхто з масцітых не ўзняў свой голас.

Мяняліся рэдакцыі, дзе я працаваў: «Служба быту Беларусі», «Салон», «Личная жизнь», «Советская Белоруссия», «Белоруссия», «Немига литературная», «Нёман», – усё больш станавілася кніг

з маім прозвішчам на вокладцы – іх ужо звыш пятнаццаці. Двойчы, у Санкт-Пецярбургу і Мінску, выходзілі кнігі аб маёй творчасці, абраны членам-карэспандэнтам Пятроўскай Акадэміі навук і мастацтваў у Санкт-Пецярбургу і Маскоўскай Акадэміі паэзіі, лаўрэат некалькіх літаратурных прэмій: імя Сімяона Полацкага, імя Мікалая Мінскага, імя Антона Чэхава, «Русь адзіная», імя «Маладой Гвардыі» (Украіна), гадавой прэміі часопіса «Аврора» ў жанры паэзіі за 2007 год. Адзін з пераможцаў Трэцяга Маскоўскага міжнароднага конкурсу паэзіі «Залатое пяро – 2006»… А нядаўна я атрымаў з рук Прэзідэнта краіны высокую ўзнагароду – медаль Францыска Скарыны.

Са многімі цікавымі людзьмі давялося за гэтыя гады сустрэцца. Колькі мне дапамог сяброўскімі парадамі, а дзе трэба – і закінутым слоўцам мой аўтадораўскі сябар Іван Іванавіч Сабіла, выбітны пісьменнік, заслужаны работнік культуры Расіі. Колькі мудрасцяў паднёс мне дзіўны паэт Веніямін Блажэнны, з якім мы пазнаёміліся ў канцы яго тленнага існавання! Гэта яго, нікому невядомага «нищеброда», некалі заўважыў вялікі Барыс Пастарнак, даў яму грошай, каб не галадаў. Да самой смерці Веніяміна Міхайлавіча пастарнакаўскія купюры праляжалі ў адным з тамоў Шэкспіра. Не змог выдаткаваць! І гэта яму, Блажэннаму, знакаміты Арсеній Таркоўскі некалі напісаў, што не ведае, як бы склаўся далейшы паэтычны лёс Марыны Цвятаевай, калі б яна была знаёмая з яго вершамі… Хто і калі яшчэ атрымоўваў такія лісты?

Ніколькі не шкадую аб тым, што ў лістападзе 2005 года разам з узначаленай Мікалаем Чаргінцом групай літаратараў выйшаў са складу Саюза беларускіх пісьменнікаў, каб утварыць Саюз пісьменнікаў Беларусі. На Устаноўчым сходзе быў абраны першым сакратаром Праўлення, на дадзенай пасадзе прапрацаваў два з паловай гады, да сярэдзіны лютага 2008 г. І хоць сакратарства гэтае прынесла мне масу непрыемнасцей і спарадзіла нямала злоснікаў, ні на хвіліну не сумняваюся ў тым, што крок гэты зрабіць было неабходна…

За ўсе гэтыя гады выраслі і сталі дарослымі сыны Ігар і Алег, нарадзіліся ўнукі Данііл і Ліза. Сыны выбралі іншыя жыццёвыя дарогі, хоць Алег зрэдку піша нядрэнныя аповеды і нават адзін час працаваў аглядальнікам у газеце «Знамя юности». А маленькі Данік ужо ў чатыры годы часта паўтараў, што «свет уратуе прыгажосць»… Усё роўна, кім ён вырасце, галоўнае, каб пачуццё гэтае ён пранёс у душы праз усё жыццё. Тады можна быць упэўненым, што ў літаратуры ты працуеш нездарма!

*Чэрвень 2008 г. – сакавік 2009 г.*

---

* Напісана на рускай мове. Пераклад зроблены ўкладальнікам.



***Баравікова***
***Раіса Андрэеўна***

## ШУКАЮ СВАЮ БЕЛАРУСЬ

Некалькі гадоў таму назад настаўнікі з маёй малой радзімы – Бярозы, што на Берасцейшчыне, запрасілі мяне ў жніўні на сваю настаўніцкую канферэнцыю. Адным словам, на сустрэчу з імі. У Бярозе наша сям'я жыла да 1965 года. У той год бацькі пераехалі на Магілёўшчыну, у Бялыніцкі раён на радзіму майго бацькі, а я якраз тым годам закончыла Бярозаўскую сярэднюю школу. Здаралася зрэдку прыязджаць у тыя мясціны да сваякоў, што жывуць у Пешках– вёсцы, дзе я нарадзілася, а ў самую Бярозу не выпадала. І вось больш як праз сорак гадоў – тыя ж вуліцы, тыя ж дамы, тыя ж скверыкі...

Пасля сустрэчы былі розныя прапановы, як мне правесці час у чаканні цягніка, якім павінна была вярнуцца ў Мінск, але я, падзякаваўшы за гасціннасць, сказала, што праваду гэтыя гадзін пяць адна сам-насам з Бярозай, такой знаёмай і блізкай і разам з тым ужо

амаль цалкам новай. І ўсё ж гэта была мая Бяроза... Не было ўжо таго дома, дзе жыла наша сям'я, на яго месцы быў пабудаваны іншы, але былі тыя ж дрэвы, нават корчыкі бэзу на тым месцы, дзе калісьці рос вялікі і пышны бэзавы куст. Там, ля тых корчыкаў адразу вымалеваўся летні дзень, мама дае мне тры рублі, такую зялёненькую паперку на цукеркі і я адразу ж збіраюся бегчы ў «Блакітны Дунай», а за акном усё дыхае блізкай навальніцай, – неба абкладзена хмараю, паблісквае і пагрымвае... Але я выбягаю з хаты, бягу па сцяжынцы да весніц, вось і бэзавы куст... І я раптоўна застываю, адхінаюся назад, – у некалькіх сантыметрах ад мяне пралятае агністая палачка з іскрынкамі на канцах, якія патрэскваюць, як бянгальскі агонь. Не адхініся я і гэтая палачка ўваткнулася б у мяне. Я стаю ўражаная, а нада мною грымнуў гром  і адразу ж хлынула залева дажджу... Неўзабаве я пачала пісаць вершы. Да гэтага часу лічу, што тая агністая палачка абдала мяне нейкім невядомым відам касмічнай энергіі, а магчыма гэта проста мая фантазія, але тады ж абудзілася і цікавасць да астраноміі.

Пяць гадзін  пешшу па Бярозе, з канца ў канец па вуліцы Леніна, потым па Кірава, па Чырвонаармейскай... Царква, куды мама вадзіла да прычасця, цэнтральны сквер, у якім бацька мяне, малую, насіў на плячах, дзве школы – адна старая, драўляная, другая новая, якую заканчвала... Падчас той вандроўкі я зразумела, што шукаю сваю Беларусь, што была дадзена мне ад пачатку – у жыццё, у лёс і нязменна назаўжды, да канца зямнога майго шляху...

Мая маці, Ніна Уладзіміраўна, паходзіць з вёскі Пешкі, з роду Шыманскіх. Характарам, натураю, напэўна, я пайшла не ў яе, але мама шмат чым здзіўляла. Нам, дзецям, у мяне два малодшыя браты, любіла чытаць свае вершы, якія ў дзяцінстве яна пісала на польскай мове. Часта паказвала свой дзіцячы малюнак – вялікага аранжавага тыгра, які хавала ў сваім яшчэ з часоў дзявоцтва, сундуку. Нават падчас вайны зберагла яго. Калі наша сям'я пераехала з Пешак у Бярозу, яна адразу ж размалявала ў хаце сцены. Нафарбаваным шнурам разліноўвала іх на ромбы і ў тых ромбах малявала кветкі. З яе моцным уладным характарам ужываўся дзівак-мастак, які чамусьці не схацеў быць мастаком. Не помню, каб мама расказвала мне ў дзяцінстве казкі, але штовечар няўхільна вучыла «пацэру» – збору малітваў і прыводзіла шмат прыкладаў, калі менавіта малітвы ратавалі чалавека – ад ліхіх людзей, ад дзікага звера і нават ад кулі... Вера, любоў да Бога ніколі не пакідалі маму. А яшчэ яна ніколі не здраджвала сваёй палескай гаворцы, той мясцовай мове, якая завецца дыялектам, на якой размаўляе і цяпер, пражыўшы больш як сорак гадоў на Магілёўшчыне. Дарэчы, калі мяне першы раз везлі ў Бя-

лыніцкі раён, каб паказаць бабулі і дзядулі – бацькавым бацькам, а гэта быў самы канец саракавых гадоў мінулага стагоддзя, у цягніку я чула дзве мовы: тую, дыялектную, на якой размаўляла мама, і чыста беларускую, як гавораць на Магілёўшчыне, на якой размаўляў бацька. Рускай мове пачалі вучыць у школе, куды пайшла ў 1954 годзе.

Мама заўжды казала, што характарам яна ў майго дзеда Ладымера і сапраўды шмат што ўзяла ад свайго бацькі, які заўжды быў вельмі шляхетным. А бабуля Галена была не толькі шляхетнай, а яшчэ і мела вялікае ўяўленне, калі пра нешта расказвала, дык гэта былі сапраўдныя апавяданні, вельмі вобразныя, з дэталямі. Ад яе я пачула пра  старадаўняе люстэрка, якое цяпер у мяне. Перад вайною на кірмашы ў Бярозе прадаў дзед вала. Думаў, думаў, што купіць за грошы, якія ўзяў за яго, і купіў вялізнае- вялізнае люстэрка ў раме, аздобленай касцяным узорам, з кветкаю на шкле, маўляў, хай красуюцца ў ім  прыгажуня-жонка – мая бабуля, цешча – мая прабабуля і дачка-падлетак – мая мама. Калі ў вайну нашу вёску палілі немцы, прабабулі ўдалося ўратаваць ад агню толькі тое люстэрка. Вечарам вярнуліся ўсе з хутароў, дзе хаваліся, на папялішча, дзе яшчэ чырванела вуголле, а там – прабабуля з гэтым вялізным люстэркам у руках і ў ім адбіваецца чорная апаленая печ... Калі скончылася вайна, гэтае люстэрка было адно-адзінае на ўсю вёску, яго пазычалі на вяселлі, каб тая ці іншая маладая, што ішла да шлюбу, магла перад ім прыбрацца. Магчыма, зноў мая фантазія, але гэтае люстэрка цяпер ужо ад мяне адганяе, даруйце, старасць.

Але вярнуся да бабулі Галены... Ад яе – усе мае казкі ў дзяцінстве, усе песні і паданні, якія яна любіла расказваць і ведала іх безліч. Творчую фантазію дала мне бабуля. І калі зусім нядаўна гісторык Леў Казлоў падарыў мне ксеракопію старажытнай карты, на якой можна разгледзець кожную хату ў Пешках у выглядзе квадраціка і рыскамі пазначанае балота, што падступалася да самых хлявоў, і, якое ўжо ў наш час, асушылі, гледзячы на яе я ўсё згадваю і згадваю тыя бабуліны паданні – шукаю сваю Беларусь у іх, такую чароўную і загадкавую, што колькі не разгадвай, да канца не разгадаеш, адно, заходзіцца сэрца ад любові да бабулі і нечага вельмі таемнага, што хаваюць туманы над лугам, дзе лёгка бегалася басанож, што тоіцца ў сажалках і на незабыўных лясных сцежках дзяцінства.

Напэўна гэтыя мае нататкі цяжка назваць біяграфіяй, я амаль нічога не сказала пра Магілёўшчыну, пра вёску Цяхцін у Бялыніцкім раёне, куды, як ужо вядома чытачу, пераехалі мае бацькі. Але ў тых мясцінах я ўжо была толькі наездамі, калі прыязджала да бацькоў і падчас працы ў рэдакцыі Быхаўскай раённай газеты, і падчас свайго студэнцтва ў Маскоўскім літаратурным інстытуце і пасля, калі ўжо

жыла ў Мінску. Цікава адно, што з бацькавай радні ніхто ніколі не здзіўляўся, што сваім жыццёвым шляхам я абрала літаратуру. Вельмі часта ўсе згадвалі, што бацькаў дзед Алімпей, а мой прадзед, складаў вершы. Але ні ён сам, ні хто іншы ніколі іх не запісваў – не хапала граматы, таму нічога і не захавалася з тых радкоў. У Цяхціне пахаваны мой бацька Андрэй Мікалаевіч і гэтая мясціна назаўжды злітная са мною. Хоць так атрымалася, што для свайго жыцця, акрамя Мінска, я абрала невялікую вёсачку недалёка ад Узды – гэта ўжо Міншчына. У Сутках, а свой падворак заву проста Сядзібай, таксама шукаю сваю Беларусь, а дакладней, абсталёўваю там усё так, чым жыла ў дзяцінстве, ад чаго адштурхнулася і пайшла ў вялікі свет. А ён аказаўся і не такім вялікім, таму што ўсё самае вялікае – тое, да чаго горнецца сэрца, без чаго не ўяўляеш свайго жыцця, з чым проста хочацца жыць і жыць... любавацца, захапляцца, удыхаць той водар, знаёмы з дзяцінства і дзякаваць Богу, што сярод усіх зямных абшараў Ён даў табе менавіта гэтую мясцінку, што завецца Бацькаўшчынай. Яе ўсё глыбей і глыбей знаходзіш у сабе, калі пачынаеш шукаць сваю Беларусь. І гэты пошук бясконцы...

А цяпер – тое-сёе пра творчасць. Свой першы верш напісала, калі вучылася ў шостым класе. Тым годам у акіяне згубілася баржа з савецкімі маракамі. Іх некалькі тыдняў шукалі і знайшлі. Па радыё ўвесь час расказвалі, як яны ратаваліся і гэтае іхняе змаганне за жыццё мяне вельмі ўразіла, пра што і напісала ў вершы. Паказала яго настаўніцы Ганне Канстанцінаўне Жэжка і яна аднесла яго ў рэдакцыю раённай газеты.Той верш і стаў маёй першай публікацыяй. Вершы працягвала пісаць і ў старшых класах пачала наведваць літаратурнае аб’яднанне, якое існавала пры рэдакцыі раённай газеты. Кіраваў тым літаб’яднаннем журналіст Яўген Васільевіч Сяленя. Ён цяпер Ганаровы грамадзянін Бярозы і я шчаслівая, што ў нас да гэтага часу самыя цёплыя адносіны. Тое наша літаб’яднанне тады наведвалі Анатоль Казловіч – цяпер вядомы пісьменнік-публіцыст, Алесь Разанаў – знакаміты паэт не толькі ў Беларусі, але і ў далёкім замежжы. Трошкі пазней у літаб’яднанне прыйшлі незабыўная Ніна Мацяш і Зіна Дудзюк, з якой рэдка бачымся, але ад гэтага не менее сардэчнасці і ўсе яе літаратурныя поспехі вельмі радуюць.

Пасля заканчэння Бярозаўскай сярэдняй школы я спрабавала паступіць у Беларускі дзяржаўны універсітэт на філалагічнае аддзяленне і не прайшла па конкурсу. Бацькі ўжо жылі ў Бялыніцкім раёне і было вырашана, што паспрабую ўладкавацца на працу піянерважатай у мясцовую школу, але раптам запрасіў да сябе ў госці дзядзька Якаў, бацькаў брат, які жыў таксама на Магілёўшчыне ў Быхаве. Калі паказала дзядзьку сшытак з вершамі, ён мне параіў па-

казаць іх каму-небудзь з супрацоўнікаў Быхаўскай раённай газеты «Маяк Прыдняпроўя», дзе я дазналася, што рэдакцыі патрэбен карэспандэнт. Звярнулася да галоўнага рэдактара Георгія Ерамеевіча Барысава – выдатнага журналіста і вельмі глыбокага чалавека, які назаўжды застаўся ў маёй памяці.У яго вачах засвяціліся хітрынкі, маўляў, а чаму б і не, але ў мяне конкурс! На гэтае месца просяцца два хлопцы – журналіст-завочнік і яшчэ адзін, такі ж няўдачнік, як і я, з тых, хто не паступіў. Яны ўжо атрымалі заданне, заўтра едуць у Грудзінаўскую школу-інтэрнат, каб зрабіць адтуль матэрыял, маўляў, едзь туды і ты, ідзі выпісвай камандзіроўку. Той мой матэрыял быў прызнаны Георгіем Ерамеевічам лепшым і ён стаў маёй першай журналісцкай публікацыяй, але ж я – была дзяўчынкай, а рэдакцыі патрэбен быў карэспандэнт, які б ездзіў па раёне, асвятляў працу гаспадарак... Тут перавага была на баку  хлопцаў і ён даў нам яшчэ адно заданне – зрабіць рэпартаж з элеватара, які стаў маёй другой публікацыяй у газеце, дзе я і стала працаваць карэспандэнтам. Калі пракручваю ў памяці месяцы той сваёй працы, усё, як фантастыка, уражвае адвага, з якой садзілася на папутныя машыны, а колькі разоў даводзілася вяртацца ў Быхаў позняй ноччу, калі затрымлівалася ў нейкай гаспадарцы… Помню , дзесьці ў сакавіку познім вечарам высадзіў мяне вадзіцель папуткі на паваротцы ў Быхаў і ніякага спадзявання хоць на які транспарт, а да горада ж не адзін кіламетр. Іду пехатою , наўкол лес і лес. І раптам наперадзе штосьці вялікае чарнее пасярод дарогі, падумалася, што гэта воз з сенам. Падыходжу бліжэй – агромністы лось! Я і паляцела з адхона ў мокры снег, у ваду... Нарэшце ён працокаў, перайшоў дарогу, тады ўжо выбралася на яе і я – і бягом, бягом...Гэта быў яшчэ той крос! Але праца ў рэдакцыі была добрай школай для пачаткоўца, да таго ж у кожнай літаратурнай старонцы змяшчаліся мае вершы. На іх звярнуў увагу выдатны паэт і вельмі зычлівы чалавек Аляксей Васільевіч Пысін, які жыў у Магілёве і аднойчы прыехаў у Быхаў. Гэта быў першы беларускі пісьменнік, з кім тады пазнаёміў мяне Барысаў, і які стаў для мяне першым літаратурным настаўнікам. Георгій Ерамеевіч настойваў, каб я паступала завочна на журфак, а Аляксей Васільевіч праз час параіў мне паступаць у Маскоўскі літаратурны інстытут пры Саюзе пісьменнікаў СССР. З яго лёгкай рукі ў 1966 годзе я і стала студэнткай гэтай навучальнай установы.

На першым жа экзамене, калі пісалася сачыненне, Жэня Шмідт – будучы аднакурснік, крануў за плячо: «Вы не памятаеце, як правільна пішацца: Экзюперы ці Экзеперы?» А я, увогуле, упершыню пачула такое прозвішча і адразу ж пасля экзамена пабегла ў інстытуцкую бібліятэку паглядзець, што ж гэта за пісьменнік такі? Фактычна

з гэтага і пачалася мая літаратурная вучоба, дзе трэба было шмат што адкрыць для сябе, і гэтыя адкрыцці найчасцей адбываліся на творчым семінары, якім кіраваў вядомы расійскі паэт і перакладчык Леў Адольфавіч Озераў. Значна пазней у Мінску мой вельмі блізкі сябра Міша Пташук, з якім сябравалі больш як трыццаць гадоў, нярэдка казаў: «Мы з табой атрымалі выдатную школу майстэрства» (ён у тыя ж гады вучыўся ў Маскве на рэжысёра). Але самае дарагое звязана не з майстэрствам, а з тым, што там я пазнаёмілася і з самім Мішам, і са сваімі аднакурснікамі, многія з якіх сталі сябрамі, і якіх, на вялікі жаль, ужо давялося страчваць і страчваць... Але вярнуся да нашага творчага семінара. Катэгарычны, заўсёды з вельмі важным выглядам Ваня Ласкоў, што было напускным, на самой справе ён быў вельмі душэўным чалавекам, Ала Кабаковіч, чыёй жыццёвай мудрасці мне не стае і па сённяшні дзень, а нашай літаратуры – таленавітага літаратуразнаўцы, крытыка-філосафа, даследчыка літаратуры з Вялікай літары, Святлана Басуматрава – заўжды смяшлівая і бадзёрая, і вельмі таленавітая... Леў Адольфавіч Озераў – сябар і даследчык творчасці Барыса Пастарнака, цудоўны паэт і перакладчык паэзіі пераважна з літоўскай мовы, уводзіў нас у школу мастацкага перакладу і паэзіі адначасова. Як гэта ўсё адбывалася, трэба яшчэ раз скончыць той семінар з усімі тымі творчымі практыкаваннямі, якія прывучалі да працы са Словам...

Гэтай працы, калі лічыць з моманту першага напісанага верша, я аддала ледзь не пяцьдзесят гадоў свайго жыцця. Шмат самых розных пачуццяў дала яна мне: і прыемных, і горкіх, але ніколі не замінала быць проста – жанчынай, гаспадыняй двух сваіх дамоў: гарадскога ў Мінску і вясковага на Уздзеншчыне, жонкай і маці дваіх дзяцей: сына і дачкі.

*2008 год*



***Башлакоў***
***Міхась Захаравіч***

# ШЧЫМІЦЬ ДУША АБ НЕЗВАРОТНЫМ

*Штрыхі да аўтапартрэта*

Чым далей адыходзяць за небасхіл пасівелых гадоў прапахлыя п'янкім водарам духмяных суніц незабыўныя дні залатога маленства і ўзнёсла-трапяткія світанні чаромхавага юнацтва, тым часцей згадваюцца родныя мясціны і балюча шчыміць душа аб незваротным...

Пасёлак Станцыя Церуха былога Церахоўскага, а цяпер Гомельскага раёна, дзе я нарадзіўся і рос, прытуліўся каля чыгункі Гомель–Чарнігаў. Узнік ён у канцы 20-х гадоў мінулага стагоддзя падчас будаўніцтва гэтай самай чыгункі. Жыхары навакольных вёсак, блізкіх і больш далёкіх, ехалі сюды ў пошуку заробку, ды так і заставаліся тут. Ставілі яны свае хаты адвольна, без усякага парадку, хто дзе захоча. Можа, таму пасёлак і празвалі ў народзе Самаволкай. Пасёлак лічыўся рабочым: хто працаваў на чыгунцы, хто ў лесе, хто

на пагрузцы вагонаў. Пасля вайны тут размяшчаліся базы Церахоўскай нарыхтоўчай канторы, а таксама лесасклад, адкуль адпраўлялі сасновую стойку (па 30 вагонаў штодня) на шахты Данбаса. Мне добра помняцца вялізныя будыніны-склады, пакуль іх не знеслі, і бясконцыя штабялі сасновай стойкі. Большая ж частка церушан ездзіла на прыгарадным цягніку на працу ў Гомель.

Побач з нашым пасёлкам знаходзіцца пасёлак Баштан, які ўпершыню ўпамінаецца ў 1909 годзе як хутар (1 двор, 5 жыхароў), уласнасць памешчыка Фелікса Фашча. У 1926 годзе згодна перапісу тут ужо значыцца 24 двары і 129 жыхароў. Нехта даўмеўся аб’яднаць два пасёлкі ў адзін. І мой пасёлак Станцыя Церуха стаў называцца Баштанам, хаця ніхто з церушан ніколі сябе баштанцам не лічыў. А на пытанне: «Адкуль?» – звычайна адказвалі: «З Самаволкі...» Сама ж станцыя сваю назву захавала. З 1953 года яна адносілася да Паўднёва-Заходняй чыгункі з упраўленнем у Кіеве, хаця і знаходзілася недалёка ад Гомеля, а са снежня 1991 года адышла да Беларускай чыгункі. Цяпер гэта апошняя беларуская станцыя на мяжы з Украінай. Тут спыняюцца ўсе цягнікі: і пассажырскія, і прыгарадныя, бо на станцыі размяшчаецца таможня.

Мясціны вакол майго пасёлка прыгожыя. Наша хата стаяла амаль у лесе. Насупраць хаты, праз дарогу – сасновы лес. Адразу за агародам – бярозава-асінава-сасновы пералесак, а праз поле зноў лес на многія кіламетры, ажно пад самы Гомель. За полем, ускрай лесу, між высокіх вольхаў і зарасніку ажыны, чаромхі і ляшчыны, струменілася неглыбокая, дзе па калена, а дзе па пахі, рэчачка. Яе так і называлі «Рэчачка». І толькі праз гады, працуючы над матэрыяламі да гісторыка-дакументальнай хронікі «Памяць» Гомельскага раёна, я адшукаў у інвентары Гомельскага староства 1640 года сваю рэчачку пад назвай Пясочна. На сучаснай двухкіламетроўцы яна пазначана як Пясошанька. Гэта пра яе я напісаў некалі ў юнацтве вершаваныя радкі, якія сталі маімі першымі друкаванымі радкамі:

Раўчук за полем звонка ўецца
Паміж алешын і балот...

Што ж да балот, то іх сапраўды хапала. Берагі раўчука былі не толькі мурожныя і пясчаныя, а часцей гразкія і дрыгвяністыя. Памятаю, як з братам Міколам не раз цягалі па гэтай самай дрыгве ношкі з мокрай травой, якую выжыналі сярпамі па кустоўі каля рэчачкі, калі пачыналася сенакосная пара. Пра касавіцу ў мяне таксама ёсць вершаваныя радкі, але ў аснову ляглі больш раннія ўспаміны, калі гэтыя самыя ношкі травы насіла на сваіх плячах маці.

У рэчачцы мы лавілі таптухай шчупакоў і цягалі з-пад карчоў ракаў. За рэчачкай, ва ўрочышчы Мурашкі, калі пачынаў цячы бя-

розавік, ставілі пад бярозамі шчарбатыя гладышы, ірвалі пралескі, сон-траву і ландышы. Летам збіралі суніцы. Адсюль кошыкамі насілі баравікі, рыжыкі і лісічкі. Гэта цяпер у Мурашках ды іншых грыбных месцах грыбоў не стала, а тады мы насушвалі цэлыя нізкі баравікоў, што віселі ўсю зіму на жэрдцы каля печы. У Мурашках ці далей, па дарозе на Аб’езд, мы ірвалі арэхі, якіх, як і грыбоў, насушвалі нямала. Лес карміў нас. Я вельмі люблю лес. І гэта любоў жыве ўва мне з тых далёкіх гадоў майго маленства. Мой лес. Мая Рэчачка. Мая Станцыя Церуха. Тут я спазнаваў таямніцы прыроды, вучыўся асэнсоўваць жыццё. Тут складаліся мае першыя вершаваныя радкі. Пазней, ужо ў сталасці, родныя мясціны адгукнуліся вершамі: «***Завечарэла. Дымкай зацягнула...», «Гусі ўсклікнулі», «Пясчаная дарога», «Помніцца», «***Прыйду да Церухі...» і інш.

З цягам часу мой пасёлак змяніўся, як змяняецца з гадамі і сам чалавек. Маё любімае поле з бярозамі на ўскрайку, дзе ўлетку пад лагодным ветрыкам гайдалася высокае жыта, і ўсе вольныя месцы каля пасёлка скрозь забудавалі дачамі. Ваколіцы страцілі сваё першапачатковае хараство. А сам пасёлак амаль абязлюдзеў: хто памёр, а хто пераехаў у іншае месца. Пераехалі і мы, яшчэ да гэтага спусташэння і здзічэння ў той жа год, калі я паступіў ва універсітэт. У пачатку верасня нас, філолагаў-першакурснікаў, адправілі капаць бульбу ў вёску Ворнаўка Кармянскага раёна. А калі праз месяц я вярнуўся, то аказалася, што маці прадала на пасёлку хату і перавезла небагаты наш скарб на вуліцу Сонечную, што ў Навабеліцы. Нейкі час я вельмі сумаваў па родных мясцінах. А потым прывык і нават палюбіў навабеліцкія ваколіцы. Гэта была ўскраіна горада Гомеля. Тут, як і ў вёсцы, гэтак жа галасіста кукарэкалі пеўні. А зусім недалёка, гайдаючы на хвалях бакены, плёскаўся Сож. За агародамі пасвіліся коні, а ў канцы вуліцы, адразу за соснамі, што купкай узвышаліся на старых могілках, пятляла старое рэчышча Сожа. Як вар’яцелі тут у густых лазняках па вясне салаўі! А ў час паводкі вада падступала пад самыя могілкі і крыгі гулка стукаліся аб ствалы сосен, а потым, нагуляўшыся ўволю, добра пагудзеўшы, нібы кабета на шумным вясковым вяселлі, рака неахвотна вярталася ў свае берагі. З гэтага высокага пагорка любіў я глядзець у засмужаную далеч, дзе свяціліся-мігцелі агеньчыкі далёкіх вёсак. Тут не раз блукаў я ціхімі задумнымі вечарамі, і не раз шаптаў радкі сваіх новых вершаў...

Карані мае па бацькавай лініі ў вёсцы Грабаўка. У вядомай кнізе А. І. Жураўлёва аб раскольніках (Журавлёв А. И. Полное историческое известие о Древних Стригольниках и новых раскольниках… М., 1795), Грабаўка называецца сярод першых чатырнаццаці слабод, заснаваных у канцы XVII ст. стараверамі з Расіі. Сяляне,

рамеснікі, стральцы, купцы і нават баяры, не прыняўшы новаўвядзенняў царкоўнай рэформы патрыярха Нікана, а таксама ўсе тыя, хто быў не задаволены цяжкім уціскам прыгоннага права, уцякалі на вольныя ўскраінныя землі Вялікага княства Літоўскага. Уцекачы з Масквы, Вязьмы, Кастрамы, Яраслаўля, Калугі, Арла і іншых месцаў ахвотна сяліліся пад Гомелем. Вядома, цяпер застаецца толькі здагадвацца, ці продкі мае сапраўды былі прышлымі людзьмі, ці тутэйшымі, але ў прозвішчы маім яскрава чуюцца водгукі далёкіх краёў. Так, у слоўніку У. І. Даля знаходзім некаторыя тлумачэнні: башла́ ці башла́ва – з валагодскага купал на будынку, на царкве, а яшчэ лазня; ба́шлаўка – у казакоў ганаровы дар, падарунак атаману. Калі ж уявіць, што маё прозвішча было ўтворана ад слоў «башлык» ці «башмак», то гэтыя словы таксама з'яўляюцца запазычанымі і кожнае з іх мае па некалькі значэнняў. Цікавым мне здаецца тлумачэнне слова «башлык». Акрамя агульнавядомага, як верхняя шапка ад непагоды ці суконны каўпак, у Сібіры гэта слова мела наступныя значэнні: начальнік, галава, атаман, а ў казакаў на Каўказе слова «башлык» азначала яшчэ конскую аброць. Слова «башмак», акрамя аднаго з відаў скуранога абутку ў татар, азначала яшчэ і гняздо пад пятку кап'я каля стрэмя, а ў Сібіры – конскія путы. Але пакінем гэтыя развагі мовазнаўцам...

Мой дзед Захар Якаўлевіч Башлакоў, ці як яго называлі Захарка, быў леснікам. Жыў ён з сям'ёй у лесмічоўцы каля пасёлка Калініна, што знаходзіцца кіламетраў за восем ад станцыі Церуха. Маці казала, што яшчэ да яе знаёмства з маім бацькам, прыязджала з Насовіч з братам Архіпам у леснічоўку да Захаркі, каб выпрасіць назад канфіскаваныя ў лесе пілу і сякеры. Дзед быў чалавекам дужа наравістым, гарачым і няўмольным на ўгаворы, і інструменты звычайна аддавала за мех-другі капусты ці буракоў больш мяккая і спагадлівая бабка Марфа. Аддавала яна ўпотай ад Захаркі і дровы: не гніць жа ім каля стражы. Марфа Якаўлеўна Лукашова была таксама родам з Грабаўкі. Перажыла яна свайго Захарку, здаецца, на семнаццаць гадоў... Яе я зусім не помню, бо жыла яна не з намі і памерла недзе ў 1956 годзе, а пахавана на тых самых Навабеліцкіх могілках, што знаходзіліся ў канцы нашай вуліцы Сонечнай і за якімі адкрываліся такія маляўнічыя краявіды...

Мой бацька Захар Захаравіч, або за вочы Зорык, працаваў на чыгунцы. Да вайны – дзяжурным на станцыі Навабеліцкая, а пасля вызвалення дзяжурным на станцыях Церуха, Васілевічы, начальнікам на суседняй станцыі Вуць. У маі 1952 года яго накіравалі на новае месца працы – на станцыю Пятрунь Пячорскай чыгункі, што пад Варкутой. Пагрузілі мае бацькі сякі-такі скарб у таварны вагон ды

і паехалі на Поўнач. Паехалі ўсёй сям'ёй: бацька, маці, адзінаццацігадовы Валік, шасцігадовы Толік, чатырохгадовы Коля і я, у гадавалым узросце. Праўда, недзе праз два месяцы Валянціна і Міколу бацька адвёз назад у Церуху, дзе за гаспадыню заставалася сямідзесяцігадовая бабка Ульяна. Бацька працаваў дзяжурным на станцыі Пятрунь, потым на станцыі Піярга, маці – у магазіне на станцыі Пятрунь. Прабылі мы на Поўначы нядоўга, недзе каля года. Перамена клімату адмоўна адбілася на маім здароўі – і я сур'ёзна захварэў. Доктар, былы ссыльны, параіў маёй маці тэрмінова вяртацца ў родныя мясціны. А тут яшчэ да ўсяго гэтага бацька, працуючы на суседняй станцыі, зноў загуляў, як было ўжо не раз. Скончылася ўсё тым, што маці, брат Анатоль і я вярнуліся дахаты. Са сваёй новай сям'ёй бацька прыехаў з Поўначы ў пачатку 60-ых гадоў. Спачатку працаваў на станцыі Нахаў, што каля Васілевіч, а потым на станцыі Бярозкі, побач з Навабеліцай. За ўвесь час ён так ні разу і не наведаўся да нас. А вось мы аднойчы завіталі да яго ў госці. Я вучыўся тады ва універсітэце, а Мікола, будучы ваенным, прыехаў у водпуск. Самы старэйшы брат Валянцін і сагітаваў нас з'ездзіць да бацькі. Помню, як ён ажно з твару змяніўся, калі мы зайшлі ў хату. Відаць, падумаў, што біць яго прыехалі. А мы бутэльку на стол... Так я пазнаёміўся са сваім бацькам... Быў ён як вецер і жыў як вецер... Калі ж я пытаўся ў маці, якім быў мой бацька, яна, не задумваючыся, адказвала: «Брахун, мацюжнік і гуляка...» І не толькі, напэўна. І працаўнік таксама, бо разам з маці яны агоралі пасля вайны ажно дзве хаты... Памёр ён на 69 годзе жыцця ў маі 1983 года і пахаваны на Калінінскіх могілках побач са сваім бацькам, маім дзедам Захарам Якаўлевічам. Так што, якім быў мой бацька на самай справе я ўжо не даведаюся. У вершы «Зорык», напісаным 30 гадоў таму, калі бацька быў яшчэ жывы-здаровы, я паспрабаваў стварыць ягоны вобраз і, здаецца, гэта мне ўдалося, а вось станцаваць з ім разам «Цыганачку» так і не давялося...

Маці мая Пелагея Міхееўна Ступакова, ці як яе ўсе называлі Паліна Міхайлаўна, родам з вёскі Насовічы, што ў Добрушскім раёне. Свайго бацьку Міхея Марцінавіча яна не памятала, бо той памёр ад тыфу ў ліпені 1920 года за два тыдні да яе нараджэння. Служыў ён у царскай арміі шэсць гадоў, затым тры гады яшчэ ваяваў. Прымаў удзел у руска-японскай вайне, некалькі гадоў жыў у Кітаі. З першай сусветнай вярнуўся дадому унтэр-афіцэрам. Па ўспамінах маёй бабулі Ульяны, Міхей быў сумленным і справядлівым, гатовым кожнаму прыйсці на дапамогу. Пасля вайны жыў у Насовічах, займаўся гаспадаркай, а зімой вазіў на продаж гаршкі.

Мая бабуля Ульяна Тарасаўна Чуясава ў тры гады засталася сіратой, і яе выхоўваў Сцяпан Сцяпанавіч Чуясаў, яе дзядзька.

Калі падрасла, служыла ў пана, працавала па гаспадарцы – даіла кароў, даглядала свіней. У семнаццаць гадоў выйшла замуж за Міхея. Нарадзіла дзесяць дзяцей, пяцёра з якіх памерлі яшчэ малалетнімі, а самая старэйшая, Марыя, у васемнаццацігадовым узросце. Засталіся Аксіння, Васіль, Архіп і мая маці, якая нарадзілася 24 ліпеня 1920 года, самая малодшая ў сям'і. Нагаравалася бабуля. У 30-ыя гады, калі ў Насовічах стваралі калгас, бабка Ульяна разам з дваццаццю іншымі вяскоўцамі адмовілася аддаваць усё нажытае дабро ў калектыўную гаспадарку. Пратрымалі яе трое сутак пад арыштам у сельсавеце, але бабуля заяву аб уступленні ў калгас не падпісала. Тады бабуліну гаспадарку як аднаасобную абклалі непамерным падаткам. Калі ж падатак быў выплачаны, на наступны месяц гаспадарку абклалі яшчэ большым падаткам, які, безумоўна, не мог быць выплачаны. З калгаса прыехалі на трох падводах і забралі ўсё, што можна было забраць: сена, салому, лес на хату. Забралі каня, воз, і нават збрую. Разабралі і звезлі ў калгас гумно і хлеў. Пакінулі толькі адну хату. І толькі таму, што бабуля не была заможнай, а лічылася беднай, яе не выслалі. Было гэта ў 1935 годзе. Не быў лёс спагадлівым да маёй бабулі і надалей. У 1943 годзе яе сына Васіля немцы спалілі жывым у Насовічах. Архіп загінуў у лістападзе таго ж года пры фарсіраванні Сожа каля вёскі Жаробнае (цяпер Чкалава), што ў Гомельскім раёне. Маці казала, што Васіль быў выдатны цясляр, а вось Архіп умеў вельмі добра маляваць. Запомнілася мне бабуля ціхай, маўклівай, працавітай і па-жыццёваму мудрай. Была яна ўся сівенькая, шчупленькая, малога росту. Ніколі не чуў ад яе ніводнага брыдкага слова. І таксама ніводнага дрэннага слова пра яе не сказаў ніхто. Памерла мая бабуля ў сакавіку 1963 года, калі я хадзіў у пяты клас, і пахавана на Баштанскіх могілках. Там жа, побач з ёй, спачываюць мая матуля і мой самы старэйшы брат Валянцін

У маёй маці, як і ў бабулі Ульяны, жыццё не было салодкім. У 1935 годзе яна скончыла Насовіцкую сямігодку, паступала ў Гомельскі педтэхнікум, але яе не прынялі, паколькі іх сям'я не ўступіла ў калгас. І цэлы год давялося маці працаваць у садзе ад кандытарскай фабрыкі «Спартак». Пасля закончыла курсы вагаўшчыкоў і працавала на станцыі Нававеліцкая. Часта ўспаміналa, як перад самай вайной адзін за адным ішлі саставы з гаручым і прадуктамі на Германію. Савецкі Саюз дапамагаў набіраць моцы свайму ворагу. Тады ж маці і пазнаёмілася з маім бацькам, за якога выйшла замуж у 1939 годзе. Бацькі працавалі на станцыі да самага прыходу немцаў і, як успаміналa маці, на апошнім паравозе выехалі з Нававеліцы. Спачатку жылі ў Насовічах, а вясной 1942 года пераехалі на станцыю Церуху, дзе ў Прымакова Ціхана прыдбалі за 28 пудоў хлеба невялікую хатку,

якую немцы спалілі пры адступленні. Пасля вайны будаваліся двойчы. Адна хата, вялікая і прасторная, згарэла 19 мая 1946 года. Згарэла, як куль саломы, вокамгненна. Бацькі паехалі ў Гомель, а малы пяцігадовы Валік, які застаўся з бабуляй, уздумаў змайстраваць дымар ад мошак... Не раз потым маці ўспамінала тую хату з жалем, бо згарэла ўсё нажытае дабро, усе дакументы і шматлікія фотаздымкі. Другая хата, значна меншая, у якой я і нарадзіўся, і цяпер стаіць на тым самым месцы. Толькі жывуць у ёй ужо іншыя людзі. Абедзве хаты мае бацькі будавалі сваімі рукамі...

Адразу пасля вайны маці працавала на чыгуначным пераездзе, потым загадчыцай лесасклада. Калі ж прыехала з Поўначы, яе ўгаварылі пайсці працаваць у магазін. А паколькі памяшкання пад краму ў пасёлку не было, магазін адчынілі ў нас дома. Так што людзі тоўпіліся ў нашых сенцах з раніцы да позняга вечара. Калі ж пабудавалі магазін на станцыі ад Чарнігаўскага АРЗ (аддзела рабочага забеспячэння), то маці перайшла працаваць туды. Сярод вяскоўцаў маці карысталася павагай, яе неаднаразова выбіралі дэпутатам сельсавета. Яна была настойлівая, упартая, умела пастаяць за сябе і за людзей. У сям'і асаблівай мяккасцю не вызначалася, была строгая і нават суровая. Можа, таму і выгадавала адна чатырох сыноў... Памерла яна 29 кастрычніка 2002 года. Матулі я прысвяціў нямала паэтычных радкоў. Яшчэ ў юнацтве былі напісаны такія вершы, як «Рукі маці», «Бярозавая рунь», «Матчыны грыбы перабіраю», «*** У восень познюю дарога...». Пазней былі створаны «Пажоўклае фота», «Маці», «***Ты памаліся, маці, за мяне...» і інш. Больш як два дзесяткі вершаў я прысвяціў сваёй маці...

Нарадзіўся я 27 красавіка 1951 года ў перадвелікодную пятніцу, пад вечар. А калі дакладна, то а 17 гадзіне. Гэта час вялікага смутку, калі паводле Святога Пісання Ісус Хрыстос быў ужо распяты і цела яго яшчэ знаходзілася на крыжы. Не ведаю, ці таму, але ў жыцці ўсё мне даецца з вялікімі цяжкасцямі. Не магу сказаць, што я ўдачлівы...

У дзяцінстве я часта хварэў, а яшчэ быў вельмі капрызным ці карадлівым, як у нас кажуць. Бабка Ульяна доўга цярпела мае капрызы, а потым пасадзіла мяне ў крапіўны мех і аднесла з Валікам на сметнік, дзе і «выбіла» старым дзеркачом усе мае карады. Як ні дзіўна, але пасля гэтых народных лекаў я перастаў карадзіць. Праўда, гэты адказны момант майго выхавання мне чамусьці не запомніўся...

У сям'і я быў самы малодшы, і асноўны цяжар гаспадарчых работ клаўся на плечы маіх старэйшых братоў. І толькі ўжо ў юнацтве, калі Валянцін ажаніўся і жыў асобна ў вёсцы Грабаўка, а Анатоль і Мікола служылі ў арміі, мне таксама давялося паспытаць больш сур'ёз-

най, чым штодзённыя хатнія абавязкі, работы. Праўда, скажу шчыра, касец з мяне так і не атрымаўся, бо ўсё роўна лепей за маці з нас ніхто не араў і не касіў. А вось калоць дровы я навучыўся спраўна.

Вучыўся я спачатку ў Баштанскай пачатковай школе, якую адкрылі ў 1958 годзе ў нашым пасёлку, дзякуючы актыўным намаганням маёй маці, якраз перад тым, калі трэба было ісці мне ў першы клас. Школа размяшчалася ў звычайнай сялянскай хаце, дзе ніхто не жыў. Два класы займаліся разам. І настаўніцы даводзілася працаваць на ўроку па чарзе то з адным, то з другім класам. Мая першая настаўніца Смалякова Паліна Міхайлаўна была строгая. У нечым яна нагадвала маю маці. Настаўніца пераехала на Баштан са Смаленшчыны, дзе ў гады вайны была ў партызанах, чым мы, яе вучні, вядома ж, ганарыліся. Відаць, ад партызанства засталася звычка курыць. Гэта была таямніца, якую ведалі ўсе... У першым класе я ўпершыню закахаўся. Разам з намі, толькі ў трэцім класе, вучылася Сцешанкова Надзя, самая прыгожая дзяўчынка ў нашым пасёлку. І на ўроку, калі мы, першакласнікі, былі не вельмі занятыя, а настаўніца працавала з трэцякласнікамі, я цішком пазіраў у Надзін бок... Закончыў я пачатковую школу на «выдатна» і пайшоў у пяты клас у Грабаўскую сярэднюю школу. Шэсць кіламетраў туды і шэсць – назад. І так кожны дзень. А зімы былі снежныя, марозныя. Замяце ўсё навокал. Ні дарогі, ні следу. Уставалі рана. На дварэ цёмна, а ты ідзеш лесам, вязнучы па калена ў снезе, з сумкай за плячыма, набітай падручнікамі і сшыткамі. Але, нягледзячы на маразы і завеі, заняткі мы не прапускалі, толькі калі хварэлі. Вучыўся я на «чатыры» і «пяць». З пятага класа мяне заўсёды выбіралі ў рэдкалегію, і я займаўся выпускам класнай, а пасля і школьнай сценгазеты. Настаўніцкі калектыў быў даволі моцны. З нашай школы нямала выпускнікоў паступала ў ВНУ. Некалькі слоў пра настаўнікаў, якія мяне вучылі і якія найбольш запомніліся. Ларчык Пётр Яфімавіч выкладаў у нас беларускую мову і літаратуру і яшчэ маляванне. Гэта было ў пятым класе. Пасля ажно да выпускных экзаменаў беларускую і рускую мову і літаратуру вёў Шастапалаў Іван Рыгоравіч. Ён пісаў вершы, а таксама хораша іграў на балалайцы і мандаліне. Створаны ім ансамбль народных інструментаў выступаў на вечарах у школе і ў сельскім клубе. Гэта яго бацьку Рыгора Цімафеевіча спалілі немцы жывым у Насовічах разам з маім дзядзькам Васілём Міхеевічам Ступаковым і сямю іншымі жыхарамі вёскі. Матэматыку з пятага па восьмы клас выкладаў Барысавец Анатоль Антонавіч, а ў старэйшых – Віннікаў Іван Кандрацьевіч, які выдатна ведаў матэматыку, але быў даволі мяккім чалавекам, чым карысталіся некаторыя вучні. Біялогію вёў Каршакоў Мікалай Паўлавіч. Ён адносіўся да вучняў

з павагай. Калі я паступіў вучыцца ва універсітэт, яго прызначылі дырэктарам сярэдняй школы ў вёсцы Церуха, дзе ён трагічна загінуў. Фізіку выкладалі Аляксеенка Мікалай Андрэевіч і Сяргеенка Ісай Дзмітрыевіч. Нямецкую мову вёў Вайцянкоў Сцяпан Феафанавіч. Ён быў іранічна-здзеклівы і нават жорсткі. У школе вучні яго баяліся і, шчыра кажучы, не любілі. Мятлева Варвара Міхайлаўна, ягоная жонка, таксама асаблівай душэўнасцю не вызначалася. Яна вяла ў нас маляванне, геаграфію і астраномію. Бірыла Іван Мікалаевіч выкладаў гісторыю і грамадазнаўства і быў у нас класным кіраўніком. Настаўнік рускай мовы і літаратуры Лакутка Іван Іванавіч меў выдатны голас і вёў у школе яшчэ і спевы. Хор пад яго кіраўніцтвам заўсёды выступаў на вечарах, а сам Іван Іванавіч пранікнёна спяваў рускія, украінскія і беларускія народныя песні. Сярод іншых ён вызначаўся сваёй далікатнасцю і інтэлегентнасцю. Завуч па выхаваўчай рабоце Барысавец Вольга Іванаўна не вучыла мяне, але калі я ўжо друкаваў свае заметкі, а потым і вершы ў раённай газеце, цікавілася маёй творчасцю і падтрымлівала мяне. У 1966 годзе ёй прысвоілі званне «Заслужаны настаўнік БССР». Яна, напэўна, адзіная з настаўнікаў нашай школы, хто ўважліва сачыў і, нягледзячы на свае 88 гадоў, працягвае сачыць за маімі поспехамі, і, як ні дзіўна, ніколі не забывае павіншаваць з Днём нараджэння. Вольга Іванаўна, як і мая маці, родам з вёскі Насовічы. Яны вучыліся разам у адным класе і нават сядзелі за адной партай...

У 1968 годзе я закончыў дзесяць класаў і паступіў у Гомельскі дзяржаўны універсітэт. Пачаліся студэнцкія гады – гады натхнення і закаханасці, пошукаў і знаходак. Больш за ўсё мяне цікавіла літаратура і асабліва паэзія. Вялікі мацярык паэзіі я адкрываў для сябе паступова. Мне палюбіліся радкі Максіма Багдановіча, Паўлюка Труса, Максіма Танка, Сяргея Ясеніна, Паўла Васільева, Мікалая Рубцова, якога тады мала хто ведаў. Мяне зачаравала паэзія Франсуа Віёна, Роберта Бёрнса, Шандара Пецёфі, Поля Верлена, Гіёма Апалінэра, Эдгара По, Гарсія Лоркі. Падабаліся кітайскія і польскія паэты. Шмат чытаў, вядома, сучасных рускіх, беларускіх, украінскіх паэтаў. Я не магу жыць без кніг. Звычайна чытаю адразу дзве-тры кнігі. Стаміўшыся ад адной, пераходжу да другой. Амаль ніколі не чытаю аднаго аўтара запар. Чытанне – не самамэта. Гэта адпачынак і ў той жа час прыемная праца для розуму і душы. Ад чытання патрэбна атрымліваць асалоду. Люблю чытаць спакойна, не спяшаючыся, вяртаючыся да прачытанага, да той ці іншай фразы, радка. Люблю здзівіцца характву гучання слоў, парадавацца разам з аўтарам. Трэба ўмець радавацца ўдачы іншага паэта. Не зайздросціць, а менавіта радавацца. Іначай сам перастанеш быць паэтам. Толькі

шчырая душа можа нараджаць сапраўдную паэзію. Гэта аксіёма. А зайздрасць, як і крыўда, перашкаджае нармальна жыць і тварыць, яна спусташае душу...

Захапляцца літаратурай і пісаць вершы пачаў яшчэ ў школе. Неяк на летніх канікулах (я скончыў тады пяты клас) мой старэйшы брат Анатоль прынёс ад сябра томік паэзіі А. К. Талстога і стаў услых чытаць яго сатырычныя творы, асабліва «Мудрасць жыцця». Я быў настолькі ўражаны прастатой, шчырасцю і народным гумарам вершаваных радкоў паэта, што ў той жа дзень мне таксама захацелася напісаць нешта падобнае. У шостым класе спрабаваў пісаць апавяданні, у сёмым і восьмым – байкі. Затым былі допісы аб школьным жыцці ў раённую і абласную газеты. І, нарэшце, разам з закаханасцю прыйшлі да мяне і першыя паэтычныя радкі. Пры гомельскай раённай газеце «Маяк» дзейнічала літаб'яднанне, якім кіраваў выдатны рускі паэт, член Саюза пісьменнікаў СССР Юрый Фатнеў. У яго ўжо выйшлі чатыры зборнікі вершаў, і ягоныя высока прафесійныя разборы нашых твораў былі добрай школай для нас, пачынаючых літаратараў. Літаб'яднанне ў нас было даволі моцнае. Яго наведвалі Уладзімір Шварц, які пазней выдаў некалькі вельмі таленавітых кніжак вершаў для дзяцей і якога, на жаль, так і не прынялі ў Саюз пісьменнікаў, Ніна Шклярава, Таіса Мельчанка, Алесь Дуброўскі... З Юрыем Фатневым я адразу неяк зблізіўся, пасябраваў на ўсё жыццё. Там жа, у рэдакцыі раённай газеты, я пазнаёміўся і з вядомым рускім паэтам, нашым земляком Дзмітрыем Кавалёвым. Ён часта прыязджаў з Масквы, дзе ён жыў і кіраваў паэтычным семінарам у Літінстытуце, да сваёй маці ў Навабеліцу і кожны раз заходзіў у «Маяк». Не аднойчы ён прысутнічаў і на пасяджэннях нашага літаб'яднання. Быў ён добразычлівы, уважлівы і строгі ў сваіх ацэнках. Ніколі не цярпеў фальшу ні ў паэзіі, ні ў жыцці. Пра мае першыя паэтычныя спробы адгукаўся з цеплынёй. І гэта мяне акрыляла. Але самы значны ўплыў на фарміраванне мяне як паэта аказаў, вядома ж, Юрый Фатнеў. Я прайшоў у яго незабыўную школу паэтычнага майстэрства.

Займаючыся ва універсітэце, я аб'ездзіў амаль усю Гомельскую вобласць. Абком камсамола ахвотна даваў нам творчыя камандзіроўкі на тыдзень ці на больш. Асабліва запомнілася паездка ў Лельчыцы і Тураў. Тады, у кастрычніку 1971 года, я ўпершыню адкрыў для сябе Палессе, сціплае хараство якога зачаравала мяне на ўсё жыццё.

Помніцца, прыехалі мы ў Лельчыцы вельмі позна. Цішай і спакоем поўнілася ясная месячная ноч. І толькі пад нагамі чуўся рып старых дошак надзіва доўгага драўлянага моста цераз Убарць. Вялізная поўня завісла на алешыне старажытнаславянскай завушніцай, і яе сярэбраны адбітак трапятаўся на хвалях, нібы рыбіна, што

патрапіла ў нерат. За зіхатлівай месячнай сцяжынкай, якая бегла ўдалеч па вадзе, туманілася восеньская пойма і гучна фыркалі коні, скубучы хрупасткую траву. І мне раптам падалося, што мы апынуліся ў тых далёкіх сівых стагоддзях, калі на нашай зямлі жылі плямёны дрыгавічоў, радзімічаў і крывічоў – дзіўнае пачуццё, якое ўжо ніколі потым не пакідала мяне...

А праз некалькі дзён мы ехалі ў старажытны Тураў. З раніцы па нізінах слаўся туман. Недзе за Лельчыцамі на зялёнай азіміне хлопалі крыламі, узляталі з крыкам і зноў садзіліся шэрыя чаплі. Цэлае поле чапляў... Аўтобус часта прыпыняўся, падбіраючы на лясной дарозе палешукоў з поўнымі кошыкамі грыбоў і журавін. За вокнамі шапацеў залаты лістапад. Лісце, зрываючыся з дрэў, павольна кружылася ў паветры і падала на цёмную ваду канала, што струменіўся ўздоўж дарогі праз увесь Прыпяцкі запаведнік. Хацелася прабегчы праз кожны масток, забрацца ў палескія нетры, дзе, як здавалася нам, трубіць сярэбраны рог князя Тура... Юрый Фатнеў у сваёй аўтабіяграфічнай аповесці «Убегающий лось» маляўніча апісаў многія нашы вандроўкі па Палессі, а ў рамане «Брянские волки» – нашы блуканні па расійскіх прасторах...

Палессе – самая запаветная мая песня. Вельмі люблю гэты дзівосны край, дзе на магутных векавых дубах, у суцемках галін, быццам рэха мінулых стагоддзяў, чарнеюць старыя, патрэсканыя ад часу, дажджоў і сонца борці. Нідзе, напэўна, не захаваліся такія, як тут, старажытныя язычніцкія абрады і звычаі, а таксама даўнія, задумліва-пранізлівыя песні... Тут, у светлых дубровах, над чароўнай таямнічай Убарцю пад шум бусліных крылаў і сполашныя крыкі чапляў напісаліся, ці не лепшыя мае вершы: «Ліпляны», «Гарманіст», «Чмель», «Шэрая чапля», «Паромшчык», «*** Падкінь, шафёр, да Баравога...», «Дні мае залатыя» і інш. Менавіта тут, на Палессі, недзе за Лельчыцамі, у лясных і балотных нетрах, жыве, як мне здаецца, мой добры Бог, мой Дух, мой Лясун – з цёмнымі задумнымі вачыма і густой калматай барадой, які дапамагае мне тварыць. На многія гады Лельчыцкая зямля стала месцам прапіскі маёй вандроўнай душы. Я часта прыязджаў сюды. Асабліва цягнула на Палессе пасля доўгіх і ўтомных дарог. Экзотыка і прыгажосць многіх краёў неяк блякла перад някідкім хараством палескіх краявідаў. І я вельмі ўдзячны гэтай зямлі за яе незабыўныя шляхі-дарогі, чароўныя гукі, фарбы, песні...

Летам таго ж года адбылося маё першае знаёмства з Польшчай. Ва універсітэце мы вывучалі польскую мову, і кіраўніцтва нашага універсітэта мела дамоўленасць з кіраўніцтвам Ягелонскага універсітэта аб штогодніх абменах студэнтамі. Такім чынам, у скла-

дзе невялікай групы студэнтаў Гомельскага універсітэта я трапіў на моўную стажыроўку ў Кракаў. Кожны дзень пасля лекцый па паланістыцы, якіх у нас было не так і шмат, я любіў блукаць цеснымі брукаванымі вуліцамі і завулкамі Старога Горада. Звычайна з Ягелонскай, дзе мы слухалі лекцыі, я зварочваў на вуліцу Св. Ганны, адкуль трапляў на мнагалюдную і самую старажытную плошчу горада – Галоўны Рынак, якая ўзнікла яшчэ ў 13 ст. і доўгі час адпавядала сваёй назве і сапраўды была рынкам. Самы славуты касцёл не толькі Кракава, але і Польшчы – Марыяцкі – знаходзіцца менавіта на гэтай плошчы. Кожны дзень я прыходзіў сюды, з захапленнем глядзеў на яго высокія гатычныя вежы, слухаў сярэдневяковую мелодыю «хейнала» – спецыяльнага сігнала, што выконваў трубач на вежы касцёла ў выпадку небяспекі і якая штодзённа гучыць цяпер, раптоўна абрываючыся на той самай ноце, на якой абарвалася некалі ад татарскай стралы жыццё трубача. Я падоўгу прастойваў у касцёле, любуючыся алтаром, выразаным з ліпы вялікім нямецкім майстрам – скульптарам і мастаком Вітам Ствошам, які прысвяціў гэтай працы дванаццаць гадоў свайго жыцця. «O, Litva, Ojczyzna moja…», – з самотай шаптаў, паўтараючы ўслед за паэтам, каля помніка Адаму Міцкевічу. Мне падабалася тоўпіцца ў Сукенніцах – гандлёвых радах, дзе прадаваліся самыя незвычайныя сувеніры, а на другім паверсе якіх знаходзілася галерэя мастацтва. Ад Марыяцкага касцёла любіў павольна крочыць да Барбакана – круглай крэпасці-бастыёна – заглядваючы на Фларыянскай у сувенірныя лаўкі. І асабліва з шчымлівым пачуццём замілавання я любіў пасядзець каля вечаровай Віслы, над якой таямніча праступалі ў тумане сцены і вежы каралеўскага Вавеля. З хваляваннем пераступаў парог Ягелонскага універсітэта – аднаго з самых старэйшых універсітэтаў Еўропы, дзе некалі вучыліся славутыя Мікалай Капернік, Францыск Скарына, Ян Каханоўскі. У Кракаве жылі і тварылі мастак Ян Матэйка, паэт Канстанты Галчынскі, пісьменнік-фантаст Station Станіслаў Лем. Нібы светлалікая панна, запаланіла, зачаравала мяне Польшча. Перад ад'ездам у Варшаву ў Пянінах на беразе горнага Дунайца сумавала-плакала скрыпка старога гураля. І здавалася, што разам з ёй плача мая душа...

У 1987 годзе надарылася яшчэ адна цікавая паездка ў суседнюю краіну. Я прымаў удзел у Днях культуры Гомельской вобласці ў Ялене – Гурскім ваяводстве. Былі запамінальныя сустрэчы з творчай інтэлігенцыяй Яленей Гуры, Карпача, Львуўка, Пеньска, а таксама літаратурныя выступленні перад студэнтамі, школьнікамі, рабочымі... Сваю любоў да Кракава і Польшчы я выказаў у шчырых, эмацыянальных радках вершаў «***А над Кракавам дожджык крапае...» і «Пані Марыся».

У 1973 годзе я закончыў вучобу ў Гомельскім дзяржаўным універсітэце і паехаў па размеркаванні на працу ў першую сваю школу, што знаходзілася ў вёсцы Нісімкавічы Чачэрскага раёна. Вёска была даволі ладная. Мелася нават свая хлебапякарня, а з Гомеля ляталі туды АН-2. За агародамі, унізе, цякла рэчка Покаць. На другім баку, за мостам, на ўзвышшы стаяў аднапавярховы драўляны будынак сярэдняй школы, у якой я і выкладаў цэлы год нямецкую мову ў старэйшых класах, а ў дзесятых – яшчэ і рускую літаратуру. Жыў на кватэры ў Балыковай Праскоўі, або ў бабкі Парасkі, вельмі руплівай і надзіва акуратнай жанчыны. У яе невялікай хаце заўсёды было чыста. Загружаны я быў максімальна: урокі, планы, класнае кіраўніцтва ў выпускным 10 «Б», вечары, розныя іншыя школьныя мерапрыемствы, удзел у мастацкай самадзейнасці пры сельскім Доме культуры... Так што вольнага часу амаль не было. А калі і траплялiся гэтыя самыя вольныя хвіліны, з задавальненнем чытаў кнігі ці блукаў па нісімкавіцкіх ваколіцах. Пасёлкі Гаёк, Сычоўка, вёскі Рудня Нісімкавіцкая, Гацкое, Валосавічы... А яшчэ я любіў прыходзіць на старажытнае гарадзішча, што знаходзілася побач з вёскай, над Покаццю. Пазней, жывучы ў Мінску і працуючы ў цэнтры па выданні гісторыка-дакументальных хронік «Памяць», даведаўся, што Нісімкавіцкае гарадзішча адносіцца да мілаградскай культуры, якое яшчэ ў дарэвалюцыйныя гады абследаваў вядомы археолаг і фальклярыст Е.Р. Раманаў. Пры раскопках там знойдзены зерняцёрка, гліняныя прасліцы і грузікі, бронзавае скроневае кольца. Побач з гарадзішчам захаваліся 43 радзіміцкія пахавальныя курганы, якіх па звестках XIX ст. было ажно 225... Пры раскопках курганоў знойдзены ганчарны посуд, жалезныя нажы, сяміпрамянёвыя скроневыя кольцы, фібулы, паясныя спражкі, сярэбраны пярсцёнак, пазалочаныя і пасярэбраныя шкляныя, бурштынавыя і сердалікавыя пацеркі...

Прыняўшы першыя ў сваім жыцці экзамены ў дзесяцікласнікаў, я з лёгкай душой паехаў на Браншчыну, куды тым жа летам 1974 года пераехаў з Гомеля мой сябар Юрый Фатнеў. Неаглядныя задзяснянскія прасторы каля Свенскага манастыра настолькі ўразілі мяне і нават, можна сказаць, ашаламілі, што калі мне прапанавалі месца настаўніка нямецкай мовы ў сяле Цеменічы, недалёка ад Бранска, я з радасцю згадзіўся, тым болей, што ў Чачэрскім раённым аддзеле народнай адукацыі, уважліва выслухаўшы мяне, пайшлі насустрач і адпусцілі. З 1 верасня я пачаў працаваць на новым месцы. Жыў у пасёлку Успенскім, што побач з Цеменічамі, на кватэры ў вельмі шчырых і добрых людзей – дзеда Сашко і бабкі Нюры Ягоравых, якіх, на жаль, даўно няма на свеце. А вось ці жывы-здаровы ды-

рэктар Цеменіцкай сярэдняй школы Недастоеў Мікалай Герасімавіч, не ведаю?.. З сямі дырэктараў школы, з якімі давялося мне працаваць, Мікалай Герасімавіч – самы добразычлівы, шчыры, справядлівы і самы інтэлігентны...

За год працы ў школе і падчас летняга адпачынку я змог шмат дзе пабываць, і не толькі на Браншчыне. Звычайна ў суботу я прыязджаў да свайго сябра ў Бежыцу і мы планавалі нашы паходы. Часцей за ўсё мы выбіраліся да Свенскага манастыра: і адносна недалёка, і прыгажосць незвычайная. А калі наперадзе было некалькі вольных ад працы дзён, мы ехалі на элекрычцы ці аўтобусе ў тое ці іншае цікавае для нас месца. Асабліва мы любілі завітаць ва Ушчыж, некалі старажытны горад, цэнтр княства, дашчэнту разбураны і спалены татарамі, дзе не толькі прырода, але і цішыня здаюцца такімі першабытнымі. У Красны Рог і Оўстуг – радзіму А. К. Талстога і Ф. І. Цютчава – нам падабалася наведвацца тады, калі там ужо нічога не нагадвала пра шумныя святы паэзіі. Мы блукалі па гэтых дзівосных мясцінах. Стаяла залатая асенняя пара. Задуменнасцю і незвычайнай самотай дыхала ад прасветлена-празрыстых далячыняў. Лёгкі ветрык варушыў апалае лісце, нашэптваючы нам вершаваныя радкі вялікіх паэтаў. Потым не раз даводзілася прыязджаць сюды ў якасці госця і выступаць на святах паэзіі...

Летам 1975 года разам з паэтамі Мікалаем Дзянісавым і Юрыем Фатневым я ехаў у старажытны Трубчэўск. Паэзія «Слова аб палку Ігаравым» бударажыла маю душу, і мне даўно хацелася пабачыць стольны горад князя Буй Тур Усевалада, брата князя Ігара. Быў пачатак ліпеня. І, як пісаў у сваім апавяданні цудоўны рускі пісьменнік Яўген Носаў, «па Дзясне закіпалі сенакосы». Недзе, уздоўж ракі, ляжалі радамі пракосы толькі што скошанай травы. Недзе ўжо віднеліся першыя копны і стагі сена. А недзе яшчэ толькі пачыналі касіць – дружна і раўнамерна махалі косамі загарэлыя мужыкі, і на вастрыі росных кос адбіваліся-зіхацелі сонечныя промні.

У сваім прадчуванні я не памыліўся. Трубчэўск мне вельмі спадабаўся. Шчымела ў душы ад шырыні і неагляднасці далячыняў. У склепе Троіцкага сабора, што быў зачынены на рэстаўрацыю, нам паказалі распілаваны на дзве часткі вялізны човен, які быў знойдзены пры раскопках каля Чолнскага манастыра. І нам захацелася пабачыць манастыр ці, дакладней, тое, што ад яго засталося, а таксама славутыя Кветуньскія курганы. Назаўтра раніцай мы ехалі рэйсавым аўтобусам на Кветунь. Толькі што прайшоў дождж. Было мокра і туманна. Промні сонца ніяк не маглі прабіцца праз цёмныя і нізкія хмары. Мы выйшлі з аўтобуса і пакрочылі да Дзясны. І раптам у шызай смузе пабачылі курганы, дзесяткі курганоў,

якія, быццам шлемы старажытнарускіх воінаў, узняліся на нашым шляху. Дзясна. Туман. Курганы. І зараз, праз гады, мне бачыцца гэта незвычайная карціна...

Менавіта з Браншчыны пачалося маё знаёмства з Расіяй. Тым летам і ў наступным годзе я шмат вандраваў: Калуга, Мядынь, Таруса, Малаяраславец, Волагда, Яраслаўль, Карабіха, Тутаеў, Растоў Вялікі, Разань, Канстанцінава, Спас-Клепкі, Уладзімір, Багалюбава, Суздаль, Мурам... Чаму так падрабязна пералічваю ўсе гэтыя знакамітыя мясціны? Ды, відаць, таму, што менавіта дарогі фарміруюць паэта, пашыраюць яго кругагляд, насычаюць уражаннямі, абуджаюць пачуцці, нараджаюць інтанацыю, без якой проста немагчыма сапраўдная паэзія. Дарогі і ўражанні ўздымаюць душу паэта над мітуснёй і бытам – магільшчыкамі паэзіі. Паэту абавязкова патрэбна ездзіць, бачыць новае, нават калі і не пішацца. Паэт павінен назапашваць у душы ўражанні, вобразы і музыку краявідаў. Дарогі, як і кнігі – вечныя спадарожнікі творчасці...

Папрацаваўшы год у Цеменічах, я вярнуўся на Радзіму. Уладкаваўся ў родным Гомельскім раёне ў вёсцы Пракопаўка, дзе адразу пасля вайны жыў і працаваў Іван Пятровіч Шамякін. Тут ён напісаў свой першы раман «Глыбокая плынь», які прынёс яму вядомасць. У той жа хаце, дзе некалі ў адной яе палавіне размяшчаўся фельчарска-акушэрскі пункт і дзе працавала Марыя Філатаўна, а ў другой – жыў Іван Пятровіч са сваёй сям'ёй, роўна праз трыццаць гадоў пасяліўся і я. У Пракопаўцы прабыў тры гады. Усё гэтак жа выкладаў нямецкую мову, а ў апошні год быў яшчэ і намеснікам дырэктара. Мне падабалася працаваць у школе. Я любіў сваіх вучняў, і вучні плацілі мне тым жа. У час адпачынку працягваў свае вандроўкі па прасторах былога Саюза. Толькі цяпер акрамя яркіх запамінальных дарог па Расіі (Ноўгарад, Пскоў, Пушкінскія Горы, Міхайлаўскае, Трыгорскае, Пятроўскае, Святагорскі манастыр, Пячоры) былі не менш паэтычныя шляхі па Украіне: Чарнігаў, Ноўгарад-Северскі, Седнеў, Любеч, Пуціўль, Канатоп, Оўруч, Корасцень, Карпаты... Былі таксама паездкі па Беларусі.

У 1979 годзе выйшла з друку мая першая кніжачка вершаў «Касавіца». Не асобна, як меркавалася, а ў калектыўным зборніку «Нашчадкі». Але асаблівай радасці не было: вельмі ўжо доўга ішлі тыя 27 вершаў да чытача. Але каб і яны аказаліся надрукаванымі, спатрэбілася дапамога Петруся Броўкі, Навума Цыпіса і Рыгора Барадуліна... Дарэчы, такі ж незайздросны лёс амаль ва ўсіх маіх кніг. Наступны зборнік паэзіі «Начны паром» выйшаў ажно праз восем гадоў і, на вялікі жаль, не такі, як мне хацелася. Увогуле, мой шлях у літаратуру не просты. Недрукаванне і замоўчванне неадступна крочаць за мной...

У тым жа годзе я ажаніўся. Жонка мая Ігнацьева Галіна Леанідаўна родам са Смалявіч. Пазнаёміліся мы ў Гомелі, куды накіравалі яе на працу пасля заканчэння Беларускага дзяржаўнага інстытута народнай гаспадаркі. Яна стаяла на тралейбусным прыпынку ў паласата-тыгравай шубцы, і загадкавая ўсмешка Моны Лізы блукала на яе вуснах, аб чым я і сказаў ёй у той цудоўны зімовы вечар... У 1983 годзе ў нас з'явіўся на свет сын Андрэй. На літаратурных сустрэчах, калі я чытаю свае вершы пра каханне, часта пытаюцца, а ці ёсць у мяне вершы, прысвечаныя жонцы. Вядома ж, ёсць. І, здаецца, неблагія. Гэта перш за ўсё «Жнівень», «Коцікі», «Шапчу тваё імя», «Пракрычала сойка», «Не знікай з небасхілу майго» і інш.

Пасля Пракопаўкі я выкладаў беларускую мову і літаратуру ў гомельскіх школах, а вясной 1985 года перайшоў на працу ў Бюро прапаганды мастацкай літаратуры Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Калі ж вясной 1986 года здарылася вялікая трагедыя – аварыя на Чарнобыльскай АЭС – не раздумваючы, кінуўся ў гушчыню тых сумных падзей. Вельмі многа ездзіў, сустракаўся з людзьмі, бачыў гора і слёзы, як мог, суцяшаў, і, вядома ж, чытаў вершы. Як неабходна была людзям маральная падтрымка ў тых трагічных абставінах! Сустрэчы і выступленні адбываліся ўсюды: на палявых станах, зернетаках, сенажацях, фермах калгасаў і саўгасаў, будоўлях, у школах, вучылішчах, клубах, бібліятэках, бальніцах забруджанай зоны. Хаця, па сутнасці, забруджана была ўся Гомельшчына. Проста аб гэтым маўчалі. Гэта ўжо потым, праз некалькі гадоў, многія тыя вёскі, дзе давялося выступаць, былі поўнасцю адселены і перасталі існаваць. За чатыры гады было праведзена болей як дзве тысячы літаратурных выступленняў і сустрэч... Скажу шчыра, што няшмат ахвотнікаў знаходзілася тады, каб паехаць разам у камандзіроўку ў так званыя «чарнобыльскія» раёны. Згадаю, можа, тых, хто часцей за іншых прыязджаў на Гомельшчыну. Гэта перш за ўсё Юрый Фатнеў, які жыў тады ў Гатчыне, Уладзімір Федасеенка, Лідзія Вакулоўская, Іван Шальманаў, Васіль Якавенка, Алесь Ставер, Мікалай Кругавых, Віктар Шымук, Валянцін Мыслівец, Сяргей Красікаў з Масквы, Паўлюк Пранузa, Пятро Прыходзька, Эдуард Валасевіч, Валянціна Куляшова... Пералік можна доўжыць... З чатырнаццаці названых пісьменнікаў дзесяці ўжо, на вялікі жаль, няма на гэтым свеце. Дадам таксама, што тыя рызыкоўныя камандзіроўкі нямала здароўя каштавалі і мне...

Вось тады, падчас паездак, я і пачаў пісаць сваю чарнобыльскую паэму «Лілея на цёмнай вадзе». Суровая рэчаіснасць не давала мне спакою, і ў студзені 1987 года з мяне літаральна выдыхнулася «Хроніка аднаго перасялення», якая паклала пачатак маёй шматга-

довай працы над паэмай. Прыходзілі радкі, строфы, урыўкі, розныя па танальнасці і насычанасці энергіяй. Паэма пісалася і фарміравалася паступова. Яна мела некалькі варыянтаў і рэдакцый і выйшла асобным выданнем у 1994 годзе. Але тэма Чарнобыля і не меней горкіх паслячарнобыльскіх падзей ніяк не адпускала. І я працягваў працу. Апошняя кропка была пастаўлена восенню 2000 года, а канчатковая рэдакцыя паэмы выйшла ў кнізе «Пяро зязюлі падніму» ў 2001 годзе...

І каб закончыць тэму Чарнобыля, забягаючы наперад,прыгадаю яшчэ адну паездку на Палессе летам 1996 года: Мазыр, Брагін, Хойнікі, Нароўля, Лельчыцы, Тураў, Жыткавічы. Шчымлівае пачуццё страты не пакідала мяне ўвесь час. Асабліва ўразіла Нароўля. Я любіў гэты мілы палескі гарадок. Тут падабалася мне ўсё: і сам гарадок, ціхі і ўтульны, і смаловы пах распілаваных бярвенняў каля лясгаса, і асветленыя сонцам дубровы з буслянкамі на дрэвах, і заліўныя лугі з густым пчаліным гудам над кветкамі, і прыгажуня Прыпяць з бялюткімі пясчанымі берагамі і незлічонымі завадзямі. Я не раз прыязджаў у гэты горад і з Юрыем Фатневым, і сам. Памятаю, як блукалі цэлымі днямі каля Прыпяці і па нараўлянскіх ваколіцах. Аднойчы каля Славечны, недзе за вёскай Цешкаў, мы натрапілі на высокае старажытнае гарадзішча. Над ракой клекатаў бусел. Унізе, на цёмнай вадзе, каля паўзатопленага чоўна свяціліся серабрыстыя ліліі. А за дубамі з тонкім залівістым іржаннем насілася па лузе буланае жарабя. Няма ўжо, відаць, на свеце ні таго танканогага жарабяці, ні тых бабулек у святочных фартухах, што ехалі маліцца ў Чарнобыль і чакалі аўтобус на нараўлянскай аўтастанцыі. Няма ўжо і вёскі Цешкаў. Як многага, на жаль, няма. Чарнобыльская трагедыя, што злымі вятрамі пранеслася над любімым маім Палессем, руйнуючы хараство і непаўторнасць гэтага краю, пакінула толькі горкія ўспаміны... Я пазнаваў і не пазнаваў гэты некалі прыгожы гарадок. Забітыя накрыж вокны хат нагадвалі пра страшную бяду. І толькі язмін ўсё гэтак жа буйна цвіў каля двароў. Позна вечарам я зноў прыйшоў да Прыпяці. У небе і на вадзе калыхалася беспрытульная поўня. У лазняках над Прыпяццю заліваліся салаўі. Кацярок, сапучы і пыхкаючы дымам, натужна цягнуў уверх па рацэ пустую баржу. Як пустынна было навокал. Ні душы. Як самотна і балюча было на сэрцы...

У лістападзе 1990 года я пераехаў са сваёй сям'ёй у Мінск. Некалькі месяцаў працаваў у школе, а са жніўня 1991 года – у Дзяржаўным камітэце па друку, потым у Міністэрстве інфармацыі, дзе займаўся падрыхтоўкай і выданнем 145-томнай гісторыка-дакументальнай хронікі «Памяць» гарадоў і раёнаў Беларусі. Рабоце над хронікамі аддадзена чатырнаццаць гадоў жыцця. Тысячы

і тысячы старонак рукапісаў. Дзесяткі артыкулаў і матэрыялаў, падрыхтаваных для хронік. Укладанне кніг Памяці Гомельскага, Лельчыцкага і Салігорскага раёнаў... Створаны па рашэнні Савета Міністраў у 1991 годзе Арганізацыйна-метадычны цэнтр па падрыхтоўцы і выданні гісторыка-дакументальных хронік Памяці, дзе я працаваў спачатку вядучым рэдактарам, а потым галоўным метадыстам, у маі 2005 года завяршыў унікальнае выданне і быў ліквідаваны. Міністэрства інфармацыі, сціпла адзначыўшы нашу тытанічную працу нагруднымі знакамі «Выдатнік друку Беларусі», назаўтра ж забыла пра наша існаванне...

На гэтым шматкроп'і можна было б, здаецца, і паставіць кропку, бо ўсё роўна ўсяго не раскажаш. Хаця, каб не трэба было здаваць гэтыя нататкі заўтра раніцай у выдавецтва (я і так зацягнуў з тэрмінам здачы), то расказаў бы яшчэ, напэўна, пра многія цікавыя шляхі-дарогі па Беларусі, Расіі, Украіне, Латвіі, Літве, Германіі...

Ці расказаў бы пра тое, як амаль праз 30 гадоў я зноў прыехаў (ужо па запрашэнні главы адміністрацыі) у старажытны рускі горад Трубчэўск, дзе мне ў 2004 годзе ўручылі літаратурную прэмію Баяна...

Ці расказаў бы пра тое, як адбылося маё знаёмства з выдатным графікам Міхасём Барздыкам і як у выніку нашага творчага супрацоўніцтва выйшлі з друку знакавыя для беларускай культуры кнігі паэзіі і графікі «Нетры» і «Палын. Чарнобыль», якія былі высока ацэнены за мяжой. Так, на Міжнародным кніжным кірмашы ў Франкфурце-на-Майне ў 2005 годзе, дзе было прадстаўлена больш за 10 тысяч выдавецтваў са 135 краін свету, «Нетры» ўвайшлі у лік ста лепшых кніг свету, а на Міжнародным конкурсе выяўленчых мастацтваў ў Бельгіі ў 2006 годзе кнігі «Нетры» і «Палын. Чарнобыль» узнагароджаны элітным залатым медалём...

Ці расказаў бы пра тое, як чатыры разы мае кнігі паэзіі вылучалі на Дзяржаўную прэмію Беларусі і як у Падкамітэце па Дзяржпрэміях у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры ўсе чатыры разы «заразалі» мяне... Парадокс ці заканамернасць? Хутчэй за ўсё парадокс, узведзены ў ранг заканамернасці... І якасць твораў тут не мае ніякага значэння... Будзь ты хоць тройчы геній... А вось калі ты пры пасадзе, тады цябе па разнарадцы зверху, магчыма, і заўважаць?.. Так было, ёсць і, відаць, будзе... Такая ўжо наша рэчаіснасць...

Ці хутчэй за ўсё расказаў бы пра тое, як на маёй Радзіме, у вёсцы Грабаўка Гомельскага раёна, ужо ў трэці раз землякі наладзілі свята маёй паэзіі, і як я быў вельмі ўражаны і прыемна здзіўлены не столькі размахам свята (у сваім жыцці я пабачыў нямала розных свят, у тым

ліку і паэзіі), колькі шчырай, сардэчнай атмасферай і цеплынёй, што панавала на гэтым свяце... Там жа, на Радзіме, я зрабіў выснову раз і назаўсёды, што паэзія – катэгорыя вечнасці. Яе нельга ні адмяніць, ні забараніць. Як нельга нейкім рашэннем штучна павысіць ці панізіць яе статус. Паэзія альбо ёсць, альбо яе няма...

І напаследак успамін маленства. У наш пасёлак кіно прывозілі раз у тыдзень. У чырвоным кутку чыгуначнай казармы на прасценку паміж вокнамі замест экрана вешалі звычайную прасціну. Кінамеханік доўга вазіўся на двары з рухавічком, які ўсё чмыхаў, не заводзіўся, а потым да ўсеагульнай нашай радасці пачынаў гучна тарахцець. І мы, басаногая дзятва, з крыкам кідаліся ў казарму, з шумам рассаджваліся на доўгіх драўляных услонах і з нецярпеннем чакалі, калі нарэшце застракоча кінаапарат і на экране з'явяцца першыя кадры... Нехта не вытрымліваў і крычаў: «Давай, круці кіно...»

Той далёкі кінасеанс у маім пасёлку Станцыя Церуха нагадаў у нечым працу над гэтымі аўтабіяграфічнымі нататкамі. Толькі замест кінакадраў на экране перад вачыма паўставалі і кладліся на паперу найбольш яркія і запамінальныя эпізоды з майго жыцця...

«Давай, круці кіно...» – чуецца мне настойлівы крык з майго дзяцінства... І я кручу...

*г. Мінск,*
*7 снежня 2008 года*



***Бельскі***
***Алесь Іванавіч***

## ВЫТОКІ І ПРАСЦЯГІ МАЙГО ЖЫЦЦЯ

Прыйшоў я на гэты свет у часіну, калі сонца яшчэ стаіць у самым зеніце лета, навакол буяе зяляніна, а палі ўсцілаюць залатыя абрусы спелай збажыны. Мае народзіны прыпалі на 23 ліпеня 1963 года ў вёсцы Цімкавічы, што на Капыльшчыне. Дзень гэты быў чаканым і пакутным для маёй матулі: яна не збаялася і адважылася на познія роды, хоць здароўе ўжо тады сур'ёзна падводзіла і яе перасцерагалі ад магчымых наступстваў. Дзякую маёй любай і незабыўнай маме Жэні, што яна дала мне жыццё. Даравала святло і гэтае цёплае, шчодрае сонца, хоць і ведала: яе жаночая доля будзе яшчэ больш цяжкай. Я быў трэцім у сям'і. Брат Анатоль нарадзіўся на чатырнаццаць гадоў раней, калі мой бацька Іван Антонавіч яшчэ працягваў службу пасля вайны ў савецкім войску. Брацік Вова ў той год пад восень збіраўся ў школу.

Неўзабаве наша сям'я пераехала ў новы цагляны дом (мур, як называла яго мама), пабудаваны за вялікую пазыку ў дзяржавы і частку грошай, якія дала бабуля Фядора (яе я ніколі не бачыў,

яна памерла ў 1962 годзе). У хуткім часе пасля пярэбараў здарылася бяда. Прычынаю стала мая дзіцячая цікаўнасць, дапытлівасць: хацеў пабачыць смаленне кабана… Дактары зрабілі ўсё магчымае, але прысуд быў несуцяшальны. Выратавала мяне ад смерці ці – што было верагодна – пажыццёвага калецтва бабуля Ганна з мясцовымі знахаркамі. І я зноў пабачыў сонейка, вялізныя бардовыя вяргіні ў агародчыку, любімыя маміны кветкі, нанава вучыўся хадзіць. Бацькі не аддалі мяне ў дзіцячы садок, як Вову, бо бачылі маю кволасць пасля лячэння ў шпіталі, баяліся, што буду часта хварэць. Шкадавалі, аберагалі. Таму папрасілі прыглядаць за мною бабулю Ганну, і яна гадавала мяне, клапацілася, выхоўвала.

Ад бабулі я не адыходзіў ні на крок. Яна распавядала казкі і розныя гісторыі са свайго жыцця. Часта з ёй мы хадзілі гасцяваць да старых цімкаўцаў (на жаль, некаторых я памятаю толькі па вулічных мянушках), слухаў іх гутаркі пра жыццё-быццё.

Па нядзелях бабуля Ганна брала мяне за руку і вяла да царквы, якая ўзвышалася на гары побач з перакрыжаваннем дарог. У драўляным храме я падоўгу разглядаў выявы Хрыста і розных святых, роспісы сцен, калон, бэлек, столі. Запомнілася ўтульнасць у царкве, здавалася, быццам я апынуўся на лузе ці садзе і сузіраю кветкі, лісткі, сцяблíны. З прыемнасцю я ўдыхаў духмянасць ладану, які сыходзіў з папоўскага кадзіла. Пасля мы з бабуляй вярталіся ў цэнтр нашай вёскі (лепш казаць – мястэчка, бо так яе называлі старыя цімкаўцы), заходзілі ў краму, дзе яна набывала мне са сваёй мізэрнай пенсіі якую-небудзь дзіцячую кніжку і кулёк цукерак. Перш я разглядаў малюнкі ў гэтых кніжках, бо азбукі не ведаў, чытаць яшчэ не навучыўся. Бабуля Ганна была малапісьменнай, скончыла адзін клас царкоўнапрыходскай школы. Тую ці іншую дзіцячую кніжку яна чытала ўслых па складах, шлібізавала пальцам па старонках. Калі пайшоў у школу і авалодаў граматай, то тады і прачытаў ужо самастойна казкі Васіля Віткі і Уладзіміра Дубоўкі, дзіцячыя апавяданні Янкі Брыля… У спадчыну ад бабулі мне засталіся дзве кнігі Тургенева і Бальзака, якія яна чытала доўгімі восеньскімі і зімнімі вечарамі пры лямпе, не ашчаджаючы газы. Шкада, што не захавалася унікальнае выданне Бібліі дарэвалюцыйнага часу, якую бабуля хавала ў куфры і даставала адтуль на вялікія царкоўныя святы. Бабуля вельмі хацела, каб я стаў настаўнікам, і з самай глыбокай пашанаю ставілася да людзей гэтай прафесіі. Настаўніцай была яе сястра Настасся, якая заўчасна памерла.

Бабуліным прозвішчам Андруковіч я часта карыстаўся ў якасці творчага псеўданіма. Падпісваўся ў тым выпадку, калі ў часопісе адначасова змяшчаліся два матэрыялы або тады, калі маё прозвішча

часта пачынала з’яўляцца на старонках аднаго і таго ж выдання. Мне і самому цікавы момант містыфікацыі. Нехта лічыць, што Алесь Бельскі, Алесь Ветах і Алесь Андруковіч – гэта розныя людзі. Аднак я выступаю адзін у гэтых трох іпастасях. Мне не хацелася, каб часам ствараўся культ аднаго аўтара. Так атрымалася, што некалькі артыкулаў, надрукаваных пад псеўданімам, пазней увайшлі ў маю кнігу «Краса і смутак», выдадзеную пад уласным прозвішчам. Пільныя студэнты выявілі адрознасць у аўтарстве і сказалі пра гэта майму калегу-прафесару. Ён пацікавіўся пра тое, хто ж аўтар гэтых прац. Так я быў вымушаны раскрыць свой псеўданім Алесь Андруковіч.

А цяпер што тычыцца іншага псеўданіма – Алесь Ветах. Назву апошняй квадры месяца я пачуў у дзяцінстве ад бабулі, яна называла акраец месяца на небе ласкава – «веташок». Гэтае слова запала ў маю памяць і, як здаецца, найлепей адлюстроўвае драму юнацкіх гадоў, калі зніклі многія ружовыя мары, ілюзіі, пачала надзвычай балюча ўспрымацца «проза жыцця».

Мой бацькоўскі дом стаіць пры самым цэнтры Цімкавіч. Па яго даху ўвосень стукаюць жалуды магутнага дуба, адзінага на ўсю вёску. Гэтае магутнае дрэва – напамінак пра дзеда Антона, чалавека вельмі паважанага ў Цімкавічах. Па-над домам высяцца шаты разгалістага ясеня, пасаджанага калісьці дзядзькам Антонам, бацькавым братам, які ў 22 гады ў званні капітана загінуў на вайне з гітлераўскай Германіяй. «Маміна бяроза» засохла раптоўна, на наступны год пасля адыходу з жыцця маёй дарагой матулі. З думкаю-згадкаю найперш пра маму напісаны такія мае творы, як аповесць «Не памірай, надзея», раман у лістах «Хроніка смутку», шэраг апавяданняў. Шмат гадоў Яўгенія Ларывонаўна працавала ў Цімкавіцкім паштовым аддзяленні сувязі апаратарам, была да людзей чулай, спагадлівай, добразычлівай. Яна падоўгу хварэла, але ёй не было калі думаць пра сябе, дбала пра тое, як падняць на ногі нас, сваіх дзяцей. У сям’і не было сапраўднага дастатку. Штолета мае браты хадзілі ў заробкі на чыгуначную станцыю: разгружалі вагоны, збівалі скрынкі. Калі я быў жаўтаротым падлеткам, то ўжо пасабляў ім у працы. Спраўна стукаў малатком ці шуфляваў шаравата-белы даламіт, ачышчаў ад яго пад вагонамі чыгуначнае палатно.

Калі быў вучнем пятага класа, я застаўся без бацькі. Вялікая несправядлівасць стала прычынай яго доўгага расстання з сям’ёй. Іван Антонавіч быў чалавекам выключных здольнасцей, але спраўдзіць мары яму не дала вайна. Цімкавіцкую сямігодку бацька закончыў «на выдатна». У гады Вялікай Айчыннай вайны, як гэта можна даведацца з кнігі «Памяць. Капыльскі раён», ён з мясцовымі камсамольцамі, рызыкуючы жыццём, удзельнічаў у створанай мясцовай

«маладой гвардыі»: зладзіў лямпавы радыёпрыёмнік, расклейваў лістоўкі і інш. Пасля, у 1944 годзе, 18-гадовы юнак, нядаўні падпольшчык, адзін з нямногіх маладых хлопцаў добраахвотна папрасіўся ў шэрагі дзеючай арміі. Вайсковай службе бацька аддаў восем гадоў, яму прапаноўвалі зрабіць афіцэрскую кар'еру. Але лёс склаўся інакш. Пасля дэмабілізацыі бацька працаваў шафёрам, камбайнерам. Мясцовыя шафёры згадваюць і сёння, што ён мог разабраць і сабраць рухавік з закрытымі вачыма. Ён вельмі шмат чытаў кніг, у дзяцінстве браў мяне з сабой у вясковую бібліятэку; можна сказаць, прывучыў пастаянна хадзіць туды. Бацька па неабачлівасці трагічна загінуў пад коламі грузавой машыны (аўтапоезда) восеньскім вечарам 1981 года. Я часта з шчымлівым смуткам і тугой перачытваю яго апошні ліст да мяне, студэнта-першакурсніка. Мне да болю шкада, што ўжо не вернецца той час, калі былі жывыя мае бацькі. Як многа я хацеў бы ім сказаць, паспавядацца, папрасіць прабачэння за свае дзіцячыя грахі!

Старэйшыя мае браты ў хуткім часе раз'ехаліся, выйшлі ў дарослае жыццё. З маці мы доўга жылі адны. Гаравалі, як казала яна. У школьныя гады я дапамагаў ёй зарабіць хоць якую-небудзь лішнюю капейчыну. Прачынаўся досвіткам, ішоў на пошту паліць печы. Гудзела полымя ў грубках, а я чытаў кнігі, рыхтаваўся да ўрокаў. Пасля школы прыходзіў зноў на пошту і мыў тут падлогу. Часта па матчынай просьбе разносіў тэлеграмы. У паштовым аддзяленні заўсёды было шмат наведвальнікаў – і разам з маці я часта слухаў людскія споведзі і розныя жыццёвыя гісторыі.

У 1975 годзе ў Цімкавічах адбылося святкаванне 75-годдзя з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры Кузьмы Чорнага. У нашу школу прыехалі родныя і сваякі пісьменніка, шмат знакамітых гасцей. І мне захацелася, каб пра гэтую падзею даведалася як мага больш людзей у Беларусі. Так я склаў сваю першую нататку і даслаў у дзіцячую газету «Зорька», але яна не была надрукавана. Карэспандэнт гэтай газеты ў сваім лісце раіў пісаць пра школьнае жыццё. У тым жа годзе я надрукаваў першыя невялічкія допісы ў піянерскай газеце «Зорька» і раённай газеце «Слава працы». Замалёўкі пра прыроду дасылаў у часопіс «Бярозка» і газету «Піянер Беларусі». Пачаў складаць і вершыкі. Асабліва часта я друкаваўся на старонках райгазеты, якая тады была вельмі папулярнай: яе выпісвалі ледзь не ў кожнай цімкавіцкай хаце. Праз колькі часу я зрабіўся мясцовай «юнай славутасцю». У дзевятым класе стаў пераможцам Рэспубліканскага конкурсу сачыненняў школьнікаў і мяне прэміравалі пуцёўкай у піянерлагер на беразе Нарачы «Зубраня». Сустрэчы і гутаркі з таленавітымі раўналеткамі пакінулі глыбокае і незабыў-

нае ўражанне. З такімі людзьмі, якія маюць вялікую цікавасць да роднай літаратуры, мне хацелася быць побач заўсёды.

У школе я сабраў творчых вучняў і мы разам выпускалі школьную насценгазету. Вось дзе пачатак маёй «рэдактарскай кар'еры». З 2001 года я з'яўляюся галоўным рэдактарам рэспубліканскага навукова-метадычнага часопіса «Беларуская мова і літаратура», які карыстаецца вялікай папулярнасцю ў настаўнікаў. А тады, у школьныя гады, я быў незвычайна апантаны працай над рукапісным выданнем. «Школьную газету, якую рыхтуе Саша і яго аднадумцы, я чытаю з не меншай цікавасцю, чым "раёнку" ці нават рэспубліканскія газеты. І вось чаму – тут творчасць, думкі і пачуцці нашых выхаванцаў», – так казала Зінаіда Іосіфаўна Раманенка, былы дырэктар Цімкавіцкай сярэдняй школы імя Кузьмы Чорнага. Яна неаднойчы адзначала мае асаблівыя здольнасці да вывучэння беларускай і рускай літаратур (пра гэта, дарэчы, сведчыць і атрыманая мною па заканчэнні школы Пахвальная грамата).

Напярэдадні 80-годдзя з дня нараджэння знакамітага пісьменніка-земляка Кузьмы Чорнага я атрымаў «сацыяльны заказ» – напісаць паэтычны твор да гэтай юбілейнай даты. Так нарадзіўся верш «Скіп'ёўскі лес», які я прачытаў на прыступках школы ў прысутнасці вядомых беларускіх пісьменнікаў і сваіх землякоў. А неўзабаве мне даручылі выступіць на святочным пасяджэнні з нагоды 50-годдзя з дня заснавання нашай «раёнкі» «Слава працы». У Цімкавічах і Капылі я ўпершыню пабачыў Янку Брыля, Алеся Адамовіча, Івана Чыгрынава, Міколу Хведаровіча, Адама Русака, Сцяпана Александровіча, Макара Паслядовіча, Паўла Кавалёва, Івана Грамовіча, Міхася Тычыну і многіх іншых літаратараў, на якіх я глядзеў як на людзей асаблівых, незвычайных, з нейкага іншага, невядомага мне, свету.

Кожны з нас пачынаецца, як гэта банальна ні прагучала б, з сям'і і школы. Там нашы вытокі, нашы першыя радасці і засмучэнні, адтуль пачынаецца шлях у самастойнае жыццё. І многае добрае, што мы маем у душы і сэрцы, далі нам настаўнікі. Без іх не адбылося б наша сталенне і ўзмужненне, паўнавартаснае духоўнае развіццё. У мяне таксама былі і ёсць свае настаўнікі. За дзесяць гадоў вучобы ў Цімкавіцкай сярэдняй школе імя Кузьмы Чорнага іх было нямала, і кожны так ці інакш непасрэдна прычыніўся да майго дзіцячага лёсу, дапамог, як кажуць, стаць на ногі, выйсці ў свет вялікі. З настаўнікамі мы сустракаліся не толькі на школьных уроках. Большасць з цімкавіцкіх педагогаў былі акцёрамі народнага тэатра, і яны часта паўставалі перад намі ў яркіх сцэнічных вобразах. Пасля спектакля, які нязменна выклікаў буру эмоцый, мы глядзелі на іх з заміраннем сэрца. Здавалася часам, што ў клас завітаў учараш-

ні герой спектакля. З цягам часу прыйшло ўсведамленне, што ўсё лепшае і маральна трывалае ў душы – ад іх, нашых настаўнікаў, якія выхоўвалі нас, хацелі бачыць у будучым сапраўднымі людзьмі. Яны шчодра кідалі ў дзіцячыя сэрцы зярняткі. І тая сяўба была нямарнай. У памяць і нават падсвядомасць запалі важныя і глыбокія словы, паняцці, сэнсы, якія засталіся асновасутнаснымі на ўсё жыццё. Пра кожнага з настаўнікаў можна распавядаць доўга, нават бясконца, і згадак гэтых набярэцца на цэлую кнігу.

Славутасць Цімкавіч – Зінаіда Іосіфаўна Раманенка, якая некалькі дзесяцігоддзяў узначальвала настаўніцкі калектыў школы і рабіла ўсё для таго, каб наша вёска была сапраўдным цэнтрам культурнага жыцця. Зінаіда Іосіфаўна часта запрашала на сустрэчы са школьнікамі людзей мастацтва і культуры, чыё слова таксама нас вучыла і выхоўвала.

Я з удзячнасцю згадваю тых, хто абудзіў у маім сэрцы любоў да роднага слова, кнігі, мастацкай літаратуры. Навучыла чытаць і пісаць мяне першая настаўніца Алена Казіміраўна Мохарт. Чытанне я засвоіў няхутка, дужа незразумелыя былі мне тыя друкаваныя літары. Пэўны час я хітраваў: запамінаў усе тэксты, якія чыталіся ў класе. Але потым Алена Казіміраўна вывела мяне на чыстую ваду, калі пераканалася, што я «бэкаю» з вялікай цяжкасцю. Смаку ў вучобе я не адчуў, і мяне больш цягнула да гульняў, забаў, чым да кніжкі. Настаўніца паскардзілася маёй маці, што я не бяруся чытаць, праседжваю ў класе штаны. Тады за мяне ўзялася маці, яна правяла «выхаваўчы момант» без далікатнасцяў, задала як след дыхту. Вольніца мая скончылася. Цэлымі вечарамі мы з ёй чыталі буквар і дзіцячую чытанку. І мне адчыніўся свет! Чытанне захапіла мяне настолькі, што тыя творы, якія мне спадабаліся, я перачытваў шмат разоў. Першая настаўніца падахвочвала мяне: не шкадавала «пяцёрак» і нават камусьці ставіла ў прыклад. Неяк са школьнай бібліятэкі я прынёс кнігу беларускіх народных казак, і з той пары мастацкае чытанне мяне завабіла на ўсё жыццё. Маці на пошце (там, як ужо гаварылася, яна працавала) выпісала мне «Вясёлку», а затым і часопіс «Бярозка», з якім я пасябраваў на доўгія гады. Чытанне беларускіх дзіцячых кніжак і часопісаў зрабілася пастаяннай патрэбай. У трэцім класе я атрымаў з рук Алены Казіміраўны кніжку як адзін з лепшых чытальнікаў вершаў. Вельмі істотна ўплывала на мой чытацкі выбар і густ школьны бібліятэкар Ніна Канстанцінаўна Нікалаеня. Асобныя кнігі, якія яна мне давала ўсяго на некалькі дзён, я прачытваў за суткі. Да самай позняй ночы я не мог адарвацца ад цікавай кніжкі. Надаралася, што праз захопленасць чытаннем я прапускаў школу. Маці тады маніў, што мне нездаровіцца.

У пачатковай школе я хадзіў у групу падоўжанага дня. Займаўся з намі Іван Паўлавіч Александроў, які, апрача працы з намі, вы-

кладаў у школе маляванне. Вось як ён стымуляваў падрыхтоўку намі хатняга задання: «Калі дружна папрацуеце, хутка выканаеце ўсе задачы і практыкаванні, тады вас чакае вельмі цікавая кніжка». Памятаю, як я любіў слухаць тыя казкі і апавяданні, якія чытаў Іван Паўлавіч. Ён чытаў творы беларускіх і рускіх класікаў. А яшчэ часта ў класе на дошцы ён прымацоўваў рэпрадукцыі жывапісных палотнаў Рафаэля і Леанарда да Вінчы, Левітана і Айвазоўскага, Шышкіна і Бялыніцкага-Бірулі… Як я разумею цяпер, гэтыя рэпрадукцыі ён вывешваў для рэлаксацыі – псіхаэмацыянальнага адпачынку. Аднойчы настаўнік прынёс вялікую скрыню і прапанаваў нам адгадаць, што ў ёй. Намаганні даць правільны адказ былі марнымі. Высветлілася, што там былі самыя розныя лялькі, якія ўсім прыйшліся да спадобы. Настаўнік сказаў, што мы трымаем у руках незвычайныя цацкі, бо з імі можна не толькі бавіць час. Так Іван Паўлавіч зацікавіў нас лялечным тэатрам. Я з радасцю ўдзельнічаў у інсцэніроўцы казкі.

У сярэдніх класах першым маім настаўнікам беларускай мовы і літаратуры быў Іван Рыгоравіч Масакоўскі. Яму падабалася, як я выразна, натхнёна чытаў вершы. Гэта быў надзвычай інтэлігентны і сціплы чалавек. Бацька неяк мне сказаў, што Іван Рыгоравіч у гады вайны ваяваў на фронце. Памятаю, калі я пачаў друкавацца ў райгазеце, прыйшоў да настаўніка і сказаў, што хачу напісаць пра яго (тады Іван Рыгоравіч ужо быў на пенсіі). Але, на жаль, я так і не пачуў ні слова пра тое, што мяне цікавіла. З Масакоўскімі наша сям'я жыла ў блізкім суседстве. Іван Рыгоравіч быў чалавек нездараўчаты, цяжка хварэў, і таму па гаспадарцы яму нярэдка пасабляў мой бацька: касіў, араў, нарыхтоўваў дровы… Я дапамагаў настаўніку пераносіць брыкет, прывезены для апалу хаты. Разоў колькі па просьбе Івана Рыгоравіча баранаваў агарод, абганяў бульбу, а неяк, калі не было каму раскінуць колькі градусаў бульбы, упершыню даверыў мне стаць за плуг. Ён часта і падоўгу гаварыў са мною, цікавіўся, як мая вучоба ў школе, што я чытаю, пра што пішу. Заўсёды штосьці раіў, падказваў. Надаралася, запрашаў дахаты, каб падзяліцца ўражаннямі пра прачытаную новую беларускую кнігу. Алена Мітрафанаўна, жонка майго настаўніка, на гадавыя святы прыносіла «працаўнічку», як яна называла мяне, гасцінцы, а Іван Рыгоравіч неяк гукнуў да сябе і падараваў нават свой веласіпед. Ніколі не забуду, як ён суцяшаў мяне і падтрымліваў у горкія хвіліны жыцця.

Затым мне пашчасціла вучыцца ў заслужанай настаўніцы Беларусі Вольгі Ільінічны Марціновіч. Гэта быў першы чалавек, які адчуў мае творчыя здольнасці. Робячы агляд сачыненняў, яна амаль заўсёды зачытвала абзац ці некалькі сказаў з маёй пісьмовай работы. Наша настаўніца ўмела стварыць эмацыянальны настрой у класе. Па-

мятаю, як глыбока крануў маё сэрца барадулінскі верш пра бацьку ў чытанні настаўніцы, і я ледзь утрымаўся, каб, як той хлопчык-бязбацькавіч, не «заплакаць шчырымі слязамі». Вольгу Ільінічну я згадваю толькі ў школьных сценах, сярод нас, дзяцей. Я многае аддаў бы ў сваім жыцці за тое, каб хоць на міг вярнуцца ў дзяцінства і зноў трапіць на ўрок роднай літаратуры да маёй дарагой настаўніцы.

Леанід Мікалаевіч Шкуцька нядоўга выкладаў у нашым класе, а, раней надаралася, колькі разоў замяняў урокі. Ён ужо быў чалавек перадпенсійнага веку, сівагаловы, але вельмі рухавы, хадзіў паспешлівым крокам, хоць і абапёршыся на кульбу. Леанід Мікалаевіч прыйшоў да нас у дзевятым класе, і мы пачалі вывучаць беларускую савецкую літаратуру, зацікавіць якой, як я цяпер разумею, было няпроста. Запомніліся мне з урокаў пра Купалу хіба вершы «Лён» і «Беларускім партызанам». А вось разгляд баек Крапівы стаў святам смеху. Лепшыя яго ўрокі былі па творчасці Кузьмы Чорнага. Ён распавядаў пра цімкавіцкі перыяд жыцця пісьменніка, пра чорнаўскіх герояў, зачытваў апісанні Скіп'ёўскага лесу, вялікага скрыжавання, некалькі разоў прамаўляў любімы чорнаўскі афарызм: «Вялікі доктар усялякай хворасці ў чалавечай душы – час – мае вечнага свайго дапаможніка – працу». Па праграме мы праходзілі раман «Трэцяе пакаленне». Шмат гаварылі пра Міхала Тварыцкага, галоўнага героя твора. Гэты чалавек у бруднай, неахайнай вопратцы выклікаў у мяне сорам і разам з тым шкадаванне. У вобразе Тварыцкага я пазнаў нашых вяскоўцаў – у вышмальцаваных целагрэйках, змардаваных працай.

Лёс падараваў мне яшчэ аднаго настаўніка беларускай літаратуры. У нашу школу Генадзя Іосіфавіча Казака накіравалі на працу пасля заканчэння філфака БДУ. Малады настаўнік з кучаравай чупрынай і ў акулярах з залацістай аправай напачатку пачуваў сябе сярод старшакласнікаў не зусім упэўнена, але ў хуткім часе ён асвойтаўся і з класам ў яго быў, як кажуць, поўны кантакт. Ён даведаўся пра мае літаратурныя схільнасці і зацікаўленні і неўзабаве пачаў прыносіць свае кнігі ды часопісы. Так я прачытаў вельмі карысную на той час для сябе кнігу С. Антонава «Я читаю рассказ» (1973), у якой, апрача іншых, была выказана вось гэтая парада для маладых пісьменнікаў: «Очевидно, не следует навязывать насильно героям типичность, а доверять их живому, естественному поведению. Надо глубже изучать природу человека, его индивидуальные черты, особенности, привычки». Я пачаў больш пільна ўзірацца ў людзей, сачыць за іх жэстамі, манерай гаварыць. Настаўнік пастаянна цікавіўся сучасным літаратурным працэсам, па-за яго ўвагай не заставаліся таленавітыя творы беларускіх пісьменнікаў. Напачатку занятkаў Генадзь Іосіфавіч часам гаварыў пра яркія літаратурныя з'явы,

найбольш значныя публікацыі сучасных аўтараў. Мне здаецца, што ў першую чаргу ён найперш хацеў пазнаёміць з новымі творамі менавіта мяне, бо бачыў маю апантанасць роднай літаратурай. І вось я да паўночы чытаю «Пушчу» В. Карамазава, вельмі эмацыянальна рэагую на баладу У. Някляева «Дыктант»… У тым, што на рэспубліканскім конкурсе сачыненняў я заняў другое месца, ёсць значная заслуга і яго, Генадзя Іосіфавіча Казака. Гэтаму папярэднічалі яго гутаркі пра культуру мастацкай творчасці. Ён, рэдагуючы напісаны мною тэкст, гаварыў пра недахопы, вучыў, што не трэба пераймаць літаратурныя штампы, газетна-канцылярскую мову.

З настаўнікаў рускай мовы і літаратуры ў плане філалагічнай падрыхтоўкі найбольш дала мне Соф'я Барысаўна Нусенсон (Пакалевіч). Бог падараваў ёй выключны талент педагога-славесніка. Яна выкладала літаратурны матэрыял нетрывіяльна, нестандартна. Соф'я Барысаўна ўмела нас разгаварыць, разварушыць нават тады, калі ўжо сітуацыя, здавалася б, была безнадзейнай. Праблемныя пытанні, пастаўленыя ёй, прымушалі думаць, разважаць і спрачацца. Яна імкнулася, каб мы авалодалі культурай мыслення, культурай пачуццяў, займелі ў жыцці трывалыя маральныя перакананні. Слова яе выхоўвала, падказвала шукаць сапраўднае, прыгожае, непадманную мэту і сэнс жыцця. Да ўрокаў Соф'і Барысаўны асабіста я пачынаў рыхтавацца летам: начытваў тэксты і вёў пры гэтым літаратурны дзённік (на вядзенне дзённіка, праўда, надоўга імпэту не хапала). Вельмі шмат і досыць скрупулёзна з настаўніцай мы працавалі над конкурснымі сачыненнямі. Я ўдзячны ёй за тыя мае творчыя пакуты і пошукі, за ўрокі, на якіх віталася шчырае самавыяўленне, праца душы і думкі.

Больш дзесяці гадоў я атрымліваю лісты ад свайго былога настаўніка Васіля Паўлавіча Лобана, які цяпер жыве ў Капылі. У Цімкавіцкай школе ён выкладаў замежную мову, з вясны 1990 года колькі часу працаваў у музеі Кузьмы Чорнага. Творчая натура з юнацкіх гадоў, Васіль Паўлавіч у сталым веку пачаў пісаць па-беларуску. Сваёй апантанасцю, настойлівасцю, працавітасцю ён нагадвае лонданаўскага Марціна Ідэна. Васіль Паўлавіч дапамагаў мне рыхтавацца да экзамену па замежнай мове, калі я наважыўся паступаць на журфак БДУ. Пасля абароны маёй кандыдацкай дысертацыі ён пісаў: «Я верыў у твой поспех тады, як веру цяпер, што ты дойдзеш да доктара навук праз 5–6 год. У цябе ўсё наперадзе, а я сваё ўжо амаль пражыў. Я па-добраму табе зайздрошчу: ты не згубіў свае маладыя зімы і вёсны, як я…»

Калі я вырашыў падацца ў журналістыку, то ў гэтым выбары мяне падтрымлівала зямлячка, на той час галоўны рэдактар часопіса «Работніца і сялянка» Марыя Іосіфаўна Карпенка. Пры паступленні

на журфак БДУ пасля атрыманых трох выдатных адзнак напаткала няўдача: я цяжка захварэў, трапіў на шпітальны ложак. «Калі не ляжаце тэрмінова на лячэнне, то вучоба не спатрэбіцца ў жыцці больш ніколі», – такі суровы прысуд зрабіў сталічны доктар. Было крыўдна і балюча, бо вучобай на гэтым факультэце трызніў з таго часу, калі пачаў друкавацца ў дзіцячых выданнях і райгазеце. Зімою 1980 года рэдактар «раёнкі» Віктар Адамавіч Семянкевіч запрасіў мяне месяц папрацаваць у газеце. Гэтая своеасаблівая азнаямленчая праца ў асяродку творчых людзей яшчэ больш узмацніла маё жаданне быць журналістам. Штодня я сустракаўся з Іванам Іванавічам Пракарынам, паэтам і кіраўніком літаб'яднання. Ён зрабіў крытычны аналіз маіх першых апавяданняў, і тыя парады, як кажуць, прыдаліся. Іван Іванавіч у рэкамендацыі-накіраванні на вучобу адзначаў, што мае лепшыя публікацыі вызначаюцца «добрым літаратурным выкладаннем матэрыялу», выказваў спадзяванне, што ў будучым з мяне «атрымаецца сапраўдны творчы працаўнік». Гэтыя словы акрылялі, дадавалі ўпэўненасці…

Пасля таго як крыху акрыяў, пачаў працаваць піянерважатым у Руднянскай васьмігадовай школе, што за пяць кіламетраў ад Цімкавіч. Паспрабаваў свае педагагічныя здольнасці і на ўроках гісторыі, беларускай мовы і літаратуры. Увесь час фізічна загартоўваў сябе, зімою вельмі часта выпраўляўся на працу і вяртаўся назад на лыжах, за дзень праходзіў 10–12 кіламетраў. Вынік: па стане здароўя мяне намерваліся прызваць на службу ў ваенна-марскі флот. Улетку 1981 года трапіў працаваць у піянерскі лагер пры Старыцкай сярэдняй школе. Тут я сустрэўся з настаўнікам гісторыі і маладым літаратарам Анатолем Сідарэвічам, які па-сяброўску шчыра параіў паступаць на філалагічны факультэт і аргументаваў, чаму менавіта туды, а не ў іншае месца. Насуперак нечаканай прапанове ехаць вучыцца ў Вышэйшую камсамольскую школу ў Маскву я абраў беларускую філалогію, падаў дакументы ў Беларускі дзяржаўны універсітэт – і неўзабаве стаў студэнтам.

Філфак БДУ маёй студэнцкай пары – вялікае багацце і разнастайнасць выкладчыцкіх індывідуальнасцяў. Што ні педагог – то непаўторная і запамінальная на ўсё жыццё асоба. У нашу студэнцкую аўдыторыю прыходзілі таленавітыя літаратуразнаўцы і крытыкі, пісьменнікі, моваазнаўцы.

Творчых людзей з ліку першакурснікаў абвестка паклікала на пасяджэнне літаб'яднання «Узлёт». З намі сустрэўся універсітэцкі прафесар і паэт Алег Антонавіч Лойка. Неяк робячы літаратурны агляд, ён адзначыў мастацкія вартасці маіх твораў. Асобныя з вершаў Алег Антонавіч змясціў у газеце «Беларускі універсітэт». У гады

студэнцкай вучобы я наладзіў актыўнае супрацоўніцтва з рэспубліканскім друкам, мае творы змяшчалі «Чырвоная змена», «Сельская газета», «Знамя юности», «Работніца і сялянка», «Літаратура і мастацтва» і іншыя выданні. Часта падтрымліваў мяне з публікацыямі Аляксандр Рудніцкі, журналіст-зямляк з вёскі Доўгае, дзякуючы якому я меў прыварак да студэнцкай стыпендыі ў выглядзе ганарараў. Маё імя на старонках перыёдыкі заўважалі нашы выкладчыкі, якія пры нагодзе віншавалі з чарговай публікацыяй. Гэта і Любоў Канстанцінаўна Тарасюк, якая была куратарам нашай студэнцкай групы, і Мікалай Рыгоравіч Прыгодзіч, і Віктар Канстанцінавіч Каратай…

Яўген Міхайлавіч Камароўскі выкладаў сучасную беларускую мову. Нашай групе пашэнціла, бо лектар дацэнт Камароўскі сам праводзіў практычныя заняткі і меў магчымасць добра пазнаёміцца з кожным задоўга да экзаменацыйнай сесіі. Аднаго разу ён прапанаваў напісаць восеньскую замалёўку. Я быў незвычайна ўзрушаны яго пахвалой і высокай ацэнкай: «Алесь! Веру: быць табе пісьменнікам…» На практычных занятках Віктар Каратай, малады тады выкладчык, таксама даў нам творчую працу. Яму спадабаліся мае лірычныя абразкі, і ён адзначыў іх добры мастацкі ўзровень.

Маю літаратурна-філалагічную культуру фармавалі лекцыі літаратуразнаўцаў С. Х. Александровіча, А. А. Лойкі, Д. Я. Бугаёва, М. Б. Яфімавай, В. В. Казловай, К. Р. Хромчанкі, Т. І. Шамякінай, Л. К. Тарасюк, В. К. Каратая, П. П. Ткачова, А. А. Станюты, Н. В. Галаўко, Д. В. Фёдарава, С. Д. Малюковіч, А. С. Шаўчэнкі, В. М. Цімафеевай, І. В. Шаблоўскай і інш. Для пісьменніцкага досведу вельмі дарэчы прыйшліся лекцыйны курс і заняткі па культуры мовы Ніны Іванаўны Гілевіч, якая ставілася да мяне вельмі прыязна, з прыхільнасцю. «Алесь, чула, што ў вас здарылася бяда. Трымайцеся. Мужнасці вам!» – так паспачувала яна, калі мне давялося ісці праз нечаканыя выпрабаванні. Напоўніцу мы маглі выгаварыцца на практычных занятках Любові Аляксандраўны Ламекі. Вядома, гаварылі пра родную літаратуру. Наша выкладчыца дамагалася ад нас аналітычнага заглыблення ў мастацкі тэкст. Яна нязмушана выклікала да супольнага абдумвання і абмеркавання таго ці іншага пытання. Патрэбна была вялікая цярплівасць, каб выслухаць студэнцкія думкі-разважанні, і педагагічны такт, каб размаўляць з намі на роўных, з павагай і шчырасцю.

Амаль усе мы з хлопцаў-філфакаўцаў былі ў сваіх марах, імкненнях падобныя да коласаўскага Лабановіча. Да настаўніцкай працы нас з прафесійнай кампетэнтнасцю і вялікай душэўнай самааддачай рыхтавалі В. А. Лашкевіч і З. Б. Варановіч.

Аднак усё больш мяне заваблівала літаратура і навука. І ці не самую важную ролю ў маім студэнцкім і будучым творчым лёсе адыграла тое, што на трэцім курсе я выбраў навуковы спецсемінар Таццяны Іванаўны Шамякінай, дзе па яе парадзе я ўзяўся за даследаванне праблемы пейзажу ў літаратуры. Займацца ў семінары было надзвычай цікава, Шамякіна скіроўвала нас да першаасноў мастацкай свядомасці, да натурфіласофіі і міфалогіі. З навуковым кіраўніком мы дасягнулі пэўнага плёну. Мае даклады на студэнцкіх навуковых канферэнцыях заахвочваліся дыпломамі і граматамі. Таццяна Іванаўна часта дарыла (і не толькі мне!) цудоўныя навуковыя і мастацкія кнігі, асобныя з якіх у той час усеагульнага дэфіцыту адшукаць і набыць было досыць складана. У 1984 годзе яна вылучыла мяне, студэнта-трэцякурсніка, для ўдзелу ва Усесаюзнай навуковай канферэнцыі, якая праходзіла ў Сыктыўкары (Рэспубліка Комі) і была прысвечана праблеме ўзаемаадносін чалавека і прыроды ў літаратуры. Тое маё выступленне на прадстаўнічым навуковым форуме студэнцкай моладзі было адзначана Ганаровай граматай. Аповесць пра школу-інтэрнат і цяжкіх падлеткаў я паказаў сваёй першай настаўніцы ў навуцы і літаратурнаму крытыку Таццяне Шамякінай, якая пахваліла гэты «твор пра Юрку».

Па-бацькоўску да мяне ставіўся дэкан факультэта Аляксей Арсенавіч Волк. Ён часта вызваляў мяне ад заняткаў на лішні дзень ці нават два, каб я змог паехаць у свае Цімкавічы да маці, якая жыла адна, і дапамагчы ёй па гаспадарцы. Калі я ажаніўся, то Аляксей Арсенавіч з чуласцю і спагадай паставіўся да патрэб нашай маладой студэнцкай сям'і. З жонкай мы памятаем чалавечнасць і дабрыню нашага «бацькі філфака».

У пару студэнцтва шмат вершаў я пісаў пра каханне. Гэта вытлумачыць няцяжка, бо, як заўважыў паэт М. Багдановіч, «маладыя гады, маладыя жаданні». Адна з самых вялікіх і апошніх надрукаваных вершаваных нізак «Гарыць у душы святое пачуццё…» з'явілася на старонках газеты «Беларускі універсітэт» вясной 1986 года. Амаль усе любоўныя творы я прысвяціў сваёй будучай жонцы Алене. Мы пажаніліся, калі я перайшоў вучыцца на пяты курс. Нашай маладой сям'і давялося пакінуць студэнцкі інтэрнат і здымаць кватэру па вуліцы Янкі Маўра. Адчуўшы матэрыяльную нястачу, я ўладкаваўся на працу настаўнікам беларускай мовы і літаратуры сярэдняй школы № 55 г. Мінска. Але тых заробленых грошай пасля аплаты кватэры заставалася як кот наплакаў.

Ужо сам лёс, які прывёў у БДУ вучыцца на філолага, прадвызначыў майго самага вялікага і галоўнага настаўніка ў літаратуры – нацыянальную і сусветную класіку. Зрэшты, вучнямі яе знакамітых прадстаўнікоў – і гэта зусім натуральна – назавуць сябе многія пісь-

менніку. Класічныя творы – гэта не ўзоры для абавязковага перайманння, а той узровень майстэрства, які прымушае задумацца, наколькі ты здольны годна і натуральна тварыць свой мастацкі свет.

Яшчэ ў старшых класах, чытаючы апавяданні і раманы майго земляка Кузьмы Чорнага, я адчуў, што літаратура – рэч неймаверна складаная: гэта ж колькі таленту і ўмення патрэбна, каб зрасціся з думкамі-пачуццямі чалавека, выявіць яго характар, дакладна намаляваць жыццёвую сітуацыю ці стварыць яркі псіхалагічны пейзаж! Невыпадкова маёй настольнай кнігай надоўга стаў восьмы том Збору твораў пісьменніка (1975), у які, акрамя ўсяго, увайшлі артыкулы пра мастацкую творчасць і культуру пісьменніцкага слова: «Рэальнасць, фантазія, вымысел», «Маладыя празаікі», «Небеларуская мова ў беларускай літаратуры», «Замест паштовае скрынкі» і інш. Думкі Чорнага ўнутрана блізкія мне, таму працытую некаторыя з іх: «Біяграфія героя – гэта значыцца рух чалавека, а гэта ўжо само сабою мае на ўвазе рух падзей»; «Сваім героям – тым людзям, якія дзейнічаюць у творы, аўтар павінен стварыць такія сітуацыі, дзе б героі маглі сябе больш выявіць, самі паказаць сябе, без аўтарскіх тлумачэнняў»; «А павінен аўтар глядзець на тое, як ён выказвае, як паказвае. Мова твора павінна быць па-мастацку простаю, жывою – гэтакаю, якою яна жыве, а не прыдумліваецца»; «Мова – жывая істота. Яна жыве, а не існуе. Адным словам можна вельмі шмат выказаць або тым жа самым нічога не сказаць». Мяркую, што кожнаму пачатkoўцу, які настойліва бярэцца за пяро, пажадана ўдумліва прачытаць творы Чорнага, а яшчэ неабходна прыслухоўвацца да гэтага Майстра, вучыцца ў яго. Каб мець уяўленне пра шматгранны стылёвы і моўна-выяўленчы дыяпазон нашага мастацтва слова, неабходна прайсці ўрокі творчага майстэрства ў многіх. Замежны вопыт тут таксама вельмі дарэчы. Асабіста я знаходжуся ў кантэксце нацыянальна-беларускай літаратурнай школы, не ўяўляю сябе без Максіма Гарэцкага, Цішкі Гартнага, Максіма Зарэцкага, Лукаша Калюгі, Івана Мележа, Васіля Быкава, Янкі Брыля, Івана Пташнікава… Быкаўскі суровы рэалізм, трагедыйны па сваёй сутнасці, дапамог мне абраць крытычны падыход да рэчаіснасці, таму ў першай палове 80-х гадоў я змог напісаць творы на тэмы (жыццё ў школе-інтэрнаце, суіцыд, здзек з маленькага чалавека і некаторыя іншыя), якія ў савецкі час замоўчваліся ці абміналіся.

У студэнцкія гады я паступова пераключыўся на прозу. Невялікую аповесць пра жыццё цяжкіх падлеткаў я аднёс у часопіс «Маладосць» да Уладзіміра Дамашэвіча. Уладзімір Максімавіч, што і натуральна, патрабавальна паставіўся да твора маладога аўтара, зрабіў мне парады. Але аповесць пабачыла свет толькі праз дзесяць

гадоў у калектыўным зборніку «Карані» (1994). Дарэчы, У. Дамашэвіч адзін з першых звярнуў увагу ў друку на маю творчасць. Вось што ён пісаў у літаратурным аглядзе за 1990 год: «Калі на большасці апавяданняў, пра якія ішла гаворка, прыкметна пячатка пачаткоўства, то апавяданне Алеся Ветаха “Перакрыжаванне” робіць уражанне, што яго пісаў чалавек сталы, які ўмее валодаць матэрыялам, ведае законы кампазіцыі, святла і ценю». Пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Уладзімір Саламаха на старонках «Маладосці» выказаўся так: «Андрэй Федарэнка, Анатоль Казлоў, Алесь Наварыч, Барыс Пятровіч, Алесь Ветах – вельмі не падобныя празаікі, кожны па-свойму цікавы і таленавіты, кожны са сваёй тэмай, са сваім поглядам на жыццё, на чалавека. Асабіста я без усякіх сумненняў лічу іх сталымі літаратарамі. Але разам з тым шкадую, што наша прафесійная крытыка да цяперашняга часу па-сапраўднаму не ацаніла кожнага з іх» (артыкул «Мовы нашай вартавыя»). Першыя найбольш значныя апавяданні я надрукаваў у «Маладосці». У 1994 годзе «Бібліятэка часопіса “Маладосць”» прапанавала чытачам мой першы зборнік прозы «Ружовая знічка». Галоўны рэдактар часопіса Генрых Далідовіч так ацаніў мой літаратурны набытак на старонках «ЛіМа»: «А. Бельскі – крытык, але стварыў, як я лічу, вельмі прыстойную аповесць і арыгінальныя апавяданні…» Першы зборнік нечакана прынёс мне званне лаўрэата часопіса «Маладосць». Нягледзячы на зробленае ў прозе, я спадзяюся, што напішу яшчэ не адну адметную і цікавую рэч. Апошнім часам я пачаў звяртацца да прыёмаў іншасказальнасці, карнавалу, гратэску, тым самым пашыраючы стылёва-выяўленчыя абсягі сваёй творчасці. Асобныя мае творы мелі розгалас, нарабілі, як кажуць, шуму. Засмучае, што сёй-той безразважна шукае прататыпаў, аналогіі з рэальнымі падзеямі, прымітыўна вытлумачвае змест. Аднак я найперш імкнуўся да праблемнай завостранасці сюжэта, стварэння абагульненых вобразаў-тыпаў, хоць, безумоўна, адштурхоўваўся ад рэальных жыццёвых сітуацый. Нягледзячы на дэфіцыт вольнага часу, я падрыхтаваў новую кнігу прозы «Сны пра дзяцінства».

Літаратурнага настаўніка ў сэнсе пастаяннага дарадцы-апекуна я не сустрэў. Праўда, асобныя пісьменнікі ўважліва прачыталі мае творы, падтрымалі на літаратурнай сцежцы, і за гэта ім маё шанаванне і мая самая шчырая ўдзячнасць. Іхнія імёны заўсёды жывуць у маёй памяці і сэрцы: Уладзімір Дамашэвіч, Генрых Далідовіч, Уладзімір Саламаха, Георгій Марчук, Анатоль Казлоў, Барыс Пятровіч… Апраўдаць бы толькі давер, спадзяванні, прыхільныя ацэнкі, выдадзеныя часам авансам. Тонка, пранікліва адчуў мае душэўныя перажыванні Мікола Мішчанчук, які прааналізаваў кнігу

прозы «Хроніка смутку» («Полымя», 2000, № 10). Аповесць «Не памірай, надзея» грунтоўна разгледзеў Алесь Карлюкевіч. Пра мае творы пісала крытык Лада Алейнік. Так што Алесю Ветаху (пад такім псеўданімам я выступаю як празаік) грэх скардзіцца на няўвагу да празаічнай творчасці.

Яшчэ адна грань майго творчага самавыяўлення – літаратуразнаўцы і крытыка – вымагае сказаць пра такіх духоўных настаўнікаў, як Рыгор Бярозкін, Варлен Бечык, Рыгор Семашкевіч. З удзячнасцю думаю пра гэтых людзей, што самазабыўна любілі паэзію, дэманстравалі выдатныя ўзоры эстэтычнага аналізу, трымаліся ў сваёй літаратурнай дзейнасці аб'ектыўнасці і прынцыповасці, сумленнасці і праўдзівасці. Напэўна, нічога я не быў бы варты без Алега Лойкі, які на самым пачатку перабудовы запрасіў мяне, вясковага сына, вучыцца ў аспірантуру. Планка яго патрабаванняў як пісьменніка і даследчыка паэзіі была вельмі высокай, і гэта змушала працаваць старанна і адказна.

Ёсць і іншыя настаўнікі ў літаратуры. Гэта, як бы трывіяльна ні гучала, само жыццё, Бог, душа, сумленне. Жыццё вучыць і выпрабоўвае, Бог дае творчае натхненне, душа намаўляе і падказвае, сумленне не дае спаўзці ў маральную дрыгву.

Пасля заканчэння універсітэта я пачаў працаваць намеснікам дырэктара Слабадской васьмігадовай школы Мінскага раёна. Праўда, хацеў вярнуцца з жонкай на радзіму, у свае Цімкавічы, каб тут працаваць і даглядаць ужо састарэлую і хворую маці. «Круціць педалі ровара» штодня за дзесяць кіламетраў, каб трапіць на працу ў школу, не пажадаў, таму былы загадчык Капыльскага райана з лёгкім сэрцам адпусціў мяне працаўладкоўвацца самастойна. Рэцэнзент маёй дыпломнай працы па творчасці Кузьмы Чорнага вядомы літаратуразнаўца Павел Дзюбайла прапанаваў паступаць вучыцца ў завочную аспірантуру пры Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы. Прафесар Алег Лойка таксама не забыўся на мяне, бо як-ніяк, а я падаваў пэўныя надзеі ў навуцы, запомніўся яму сваімі выступленнямі ў Вязынцы, на навуковых студэнцкіх канферэнцыях. Падчас працы з настаўнікамі на зернясховішчы ў мясцовай гаспадарцы мяне знайшоў ліст аднакурсніка Паўла Навуменкі, у якім ён па даручэнні Алега Антонавіча запрашаў мяне прыехаць здаваць экзамены ў дзённую аспірантуру БДУ. І я зрабіў выбар на карысць навукі.

Аспірантуру закончыў паспяхова, паколькі датэрмінова падаў рукапіс дысертацыі на абмеркаванне. Крыху больш чым праз год у Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы АН Беларусі я абараніў кандыдацкую дысертацыю «Чалавек і прырода ў сучаснай беларускай паэзіі». Мяне пакінулі працаваць у БДУ. Тут я прайшоў шлях ад

выкладчыка да прафесара. Імкнуўся шмат і настойліва працаваць над сабой, над развіццём уласнага навуковага і педагагічнага патэнцыялу. Але бракавала часу, багата арганізацыйных высілкаў забірала загадванне кафедрай дауніверсітэцкай падрыхтоўкі (1992–1995 гг.). Раптоўна выбіла з жыццёвай каляіны смерць маці і брата Анатоля… Таму папрасіўся ў дактарантуру для завяршэння працы над доктарскай дысертацыяй. Праз тры гады абараніў дысертацыю на атрыманне вучонай ступені доктара філалагічных навук «Пейзаж у беларускай паэзіі (эвалюцыя, паэтыка, сістэма вобразаў)». У гэты ж дзень прыйшло паведамленне з ВАКа Беларусі, што мяне прызначылі вучоным сакратаром савета па абароне доктарскіх дысертацый у галіне літаратуразнаўства. А да таго ж, у той самы дзень, 14 красавіка 1998 года, Бельскага-Ветаха прынялі ў Саюз пісьменнікаў. Праз дзень-другі беларускія газеты, пачынаючы ад рэспубліканскай «Звязды» і да раённай газеты «Слава працы», разнеслі вестку па ўсёй Беларусі: «Дацэнт БДУ Алесь Бельскі адначасова з прыёмам у Саюз пісьменнікаў абараніў доктарскую дысертацыю». Назаўтра, як кажуць у такіх выпадках, я прачнуўся славутым. Хоць, шчыра кажучы, мне гэта прыйшлося не па душы, бо я апынуўся ў зоне павышанай увагі. Здавалася, што пра мяне рана гаварыць, трэба яшчэ шмат працаваць, прычым без ажыятажу і тлуму вакол уласнага «я». Мяне пачалі запрашаць на тэлебачанне, радыё, у бібліятэкі, і трэба было вытрымаць гэты націск. У адной з газет аўтар публікацыі пра маю сціплую асобу зрабіў наступныя падлікі: «А шэраг падзей і фактаў яго біяграфіі проста ўражвае: у 34 гады ён абараніў дысертацыю і стаў самым маладым доктарам філалогіі ў галіне беларускага літаратуразнаўства за ўсё XX стагоддзе, у 37 гадоў яму прысуджана Літаратурная прэмія імя Івана Мележа, у 38 гадоў атрымаў вучонае званне прафесара…» Пасля некалькі нядобразычліўцаў з навуковага асяродку, чаго я абсалютна не чакаў, гатовы былі мне прыпісаць ледзь не хваробу на «манію велічы».

Між тым, у сваім родзе я не першы прафесар. Мой дзядзька Фама Бельскі стаў прафесарам педагогікі яшчэ ў 1925 годзе. Стрыечны брат Георгій Яталь – вядомы ўкраінскі лінгвіст-паліглот, доктар філалагічных навук, прафесар, лаўрэат прэміі імя Яраслава Мудрага за створаныя падручнікі па замежных мовах. Я маю гонар належаць да роду Бельскіх, з якога выйшлі неардынарныя людзі. Так, мой прадзед Сільвестр быў выпускніком Віленскага універсітэта і Ганаровым грамадзянінам Расійскай імперыі (у 1853 годзе такіх Ганаровых грамадзян у гарадах Віленскай, Віцебскай, Гродзенскай, Магілёўскай, Мінскай губерняў налічвалася 550 чалавек – 0,1 % гараджан). Я цалкам усведамляю, што мне выпала несці адказнасць

за прадаўжэнне духоўных традыцый сваіх папярэднікаў, а таму на гэтым шляху нельга схібіць, трэба заставацца сумленным інтэлігентам, руплівым асветнікам і чалавекам, вартым памяці продкаў.

Сфера маіх навуковых інтарэсаў досыць шырокая: праблема літаратурнага пейзажу, гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя, дынаміка развіцця сучаснай беларускай паэзіі, пытанні сучаснага літаратурнага працэсу, пісьменніцкай творчай індывідуальнасці, нацыянальнай спецыфікі мастацтва слова, літаратурнай адукацыі. Выдаў кнігі «Пакуль баліць душа» (1995), «Жывая мова краявідаў» (1997), «Сучасная беларуская літаратура» (1997), «Свет ад травы да зор» (1998), «Краса і смутак» (2000), «Сучасная літаратура Беларусі» (2000), «Экалогія душы» (2003), «Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя: гісторыя і сучаснасць (2005)», «Класікі і сучаснікі ў школе» (2005), «Галасы і вобразы» (2008), «Літаратурацэнтрызм» (2008), змясціў каля 400 публікацый у друку. Адзін з аўтараў «Гісторыі беларускай літаратуры XX стагоддзя» (2003, т. 4, кн. 2), вучэбных дапаможнікаў «Беларуская літаратура: XI–XX стст.» (1999; 2-е выд. – 2001), «Беларуская літаратура, 5 клас» (2002, 2003), «Беларуская дзіцячая літаратура» (2008) і інш. Сааўтар праграм па беларускай літаратуры для сярэдняй агульнаадукацыйнай школы і філалагічных факультэтаў ВНУ. Выступіў з дакладамі больш чым на 50-ці міжнародных і рэспубліканскіх навуковых канферэнцыях. Нямала часу аддаў укладальніцкай працы. Назаву толькі асобныя найбольш значныя выданні: «Янка Журба. Творы», «Зорка Палын», «Бязмежжа зорнага сяйва», «Імёнаў светлае аблічча» і інш. Збіраў у бібліятэках, архівах і асэнсоўваў творчую спадчыну пісьменнікаў, якія загінулі ў гады Другой сусветнай вайны. Выйшаў складзены мною трохтомнік «Скрыжалі памяці» (2005).

Шмат часу забірае педагагічная і навукова-арганізацыйная дзейнасць. На філалагічным факультэце БДУ чытаю вядучыя вучэбныя курсы, кірую студэнцкім навуковым спецсемінарам. У 2000–2002 гадах узначальваў лабараторыю літаратурнай адукацыі Нацыянальнага інстытута адукацыі. Выступаў экспертам і афіцыйным апанентам па шматлікіх дысертацыях, узначальваў Навуковы савет па папярэдняй экспертызе дысертацый філалагічнага і педагагічнага профілю пры БДУ, працаваў вучоным сакратаром экспертнага савета ВАК Беларусі, не адзін год быў у складзе секцыі беларускай мовы і літаратуры НМЦэнтра вучэбнай кнігі, адрэцэнзаваў дзесяткі падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў. Цяпер з’яўляюся намеснікам старшыні савета па абароне дысертацый па педагагічных навуках, членам секцыі беларускай мовы і літаратуры РІВШ, інш. Даў пуцёўку ў навуку некальскім кандыдатам навук. Усё нават цяжка згадаць і пералічыць.

Студэнты-філфакаўцы часта дзеляцца са мною сваімі першымі літаратурнымі спробамі, і я стараюся знайсці час, каб прачытаць іх творы, даць парады. Сваю задачу як педагога бачу ў тым, каб падтрымаць творчую моладзь, дапамагчы з першай публікацыяй. Некаторыя з былых маіх выхаванцаў сталі пісьменнікамі, выдалі ўласныя кнігі паэзіі і прозы, друкаваліся ў рэспубліканскай перыёдыцы, калектыўных зборніках.

Нярэдка я спяшаю на сустрэчы да настаўнікаў. Чытаю лекцыі, удзельнічаю ў «круглых сталах», розных нарадах і семінарах. Выступаў у Акадэміі паслядыпломнай адукацыі, мінскім гарадскім і абласных інстытутах павышэння кваліфікацыі настаўнікаў, НМЦэнтры вучэбнай кнігі і інш. Усё, што я напісаў і над чым працую цяпер, робіцца ў першую чаргу з думкай пра настаўнікаў, студэнтаў, вучняў, дзеля школы, яе будучыні. Пад маім кіраўніцтвам былі распрацаваны канцэпцыя прадмета «Беларуская літаратура», адукацыйныя стандарты па беларускай літаратуры для сярэдняй школы, мадэрнізаваны вучэбныя праграмы і інш. На жаль, не так і часта выпадае вольная хвіліна для напісання мастацкіх твораў, аб чым вельмі шкадую.

Вялікая ўцеха ў жыцці, шчасце на гэтым свеце – мая сям'я. Мне прыемна і радасна, што сын Яўген стаў журналістам, творча працуе са словам. Дачка Ірына скончыла музычнае вучылішча імя Глінкі ў Мінску, цяпер працягвае адукацыю ва універсітэце культуры і мастацтваў. Жонка Алена напрыканцы лета 2007 года падаравала нам цуд: маленькага Антосіка. Алена – маё другое «я», чулая спадарожніца жыцця, з ёй разам мы прайшлі нямала складаных і цяжкіх выпрабаванняў. Дастаткова сказаць, што наша сям'я пражыла ў студэнцкім інтэрнаце БДУ семнаццаць гадоў; тут памерла мая маці, давялося спазнаць чыноўніцкую абыякавасць і чэрствасць, глумленне і многае іншае, не вартае чалавека. Спадзяюся і веру, што маіх дзяцей чакае спагадны і шчасны лёс. А як жа інакш: ім жа працягваць тое лепшае, чым жывём мы, іх бацькі, несці прыгожыя ідэалы духоўнасці і чалавечнасці, якімі кіраваліся нашы продкі.

Мне здаецца, што сёння я выйшаў на шырокія прасцягі жыцця. Мацнее хада, бо адчуваю ўпэўненасць у сваіх творчых сілах, апантаны новымі ідэямі і планамі. Ведаю і не сумняваюся: праца дае плён. Сонца спеліць маладое лета, а восень пакажа, які я працаўнік і чаго варты мае клопаты, высілкі, дбанне. Шкада, што чалавеку даецца адзін зямны век, а таму трэба спяшаць, каб пасля сказаць: маё жыццё адбылося.

*2008 год*



***Бутэвіч***
***Анатоль Іванавіч***

## «А Я Ў БАЯРЫ, ДАМОЎ ХАЧУ...»

Калі верыць пашпарту, то нарадзіўся я ў в. Баяры Нясвіжскага раёна, хоць на самай справе з’явіўся на свет 15 чэрвеня 1948 года на хутары Язавец, што кіламетры за 3–4 ад Баяраў. Тым не менш, праз усё маё жыццё ўвушшу нязводна гучыць: «А я ў Баяры, дамоў хачу, я так даўно не бачыў маму»...

Вядома ўсім і даўно, што ўсё ў чалавеку пачынаецца з дзяцінства. Я не выключэнне. А таму хачу яшчэ раз прайсціся па маіх басаногіх сцежках. Упершыню зрабіў гэта тады, калі працаваў паслом Беларусі ў Румыніі. Не прыцьміліся тыя згадкі і сёння, падсвечаныя і дапоўненыя новымі эмоцыямі. А таму – на радзіму маю, у той куток, дзе вязалі мой пупок: на Язавец.

І вось – ступаю па затравелай, што не ведае ўжо дотыку чалавечых ног, занавешанай фіранкамі яловых і бярозавых галін сцежцы Школьнага лесу, з якога я, падрослы, нанасіў бярозак, елачак і нават грыбоў і зладзіў «свой» лес каля плоту нашага агарода. Наяве

чую даўнейшы, з маленства салодкі бульбяны пах восеньскіх вогнішчаў-кастроў на ўзлеску, лаўлю сцішанае вітальнае шапаценне падрослых асінак. Як змянілася ўсё тут…

Праз гэтую хісткую намітку эмоцый пазіраю на знаёмыя і ўжо змененыя абрысы палёў, колішніх лугоў, паплавоў, лесу. Стараюся згледзець, але не заўсёды гэта ўдаецца, хоць якія адзнакі былых паселішчаў. Найбольш прыкметна котлішча Маршчэнкавай сядзібы, заможнага гаспадара, які ўмеў жыць так, што іншых завідкі бралі. Былі ў яго і дыхтоўныя пабудовы, і ладная гаспадарка, і найлепшы мо не толькі на хутары інвентар: ад коннай малацілкі да markерознага іншага сялянскага рыштунку. А ад згадкі пра смак мочаных антонавак, якімі частавалі нас толькі ў гэтай хаце, ажно слінкі пацяклі.

Выходжу на парослую белай дзяцелінай і агучаную несціханай зумклівай пчалінай песняй палявую дарогу, і мяне насцярожліва сустракае пахіленымі пікамі густая сцяна натапыраных калючых вусата-асцюкаватых ячменных каласоў – ажно вусцішная дрыготка прабягае па спіне і шэрхне скура на шчоках: няўжо не прызналі, не прынялі і па-донкіхоцку кінуцца ў бойку?

Маршчэнкавага лесу, што побач са Школьным, ужо няма. Не захавалася слядоў ад бліжэйшых Маршчэнкавых суседзяў. Няма Паўкі, якая адна з сямі вывезеных з хутара «ў Сібір» на першым жа годзе далучэння Заходняй Беларусі да Беларусі Савецкай шматдзетных бядацкіх сем'яў вярнулася пасля раскулачвання (тыя «кулакі» і штонікаў дзецям не маглі агараць – хадзілі хлапчукі, каб схаваць сваю мужчынскую адрознасць, падпаясаныя дзіравай матчынай хусткай). Няма Алесі і Веркі Касабуцкіх – на іхні выпуклы касагор, нягледзячы на ліпкую і густую гразь на сцежках, а то і цярэспаля, насуперак традыцыі сядзець на першы дзень свята дома, дапіналі мы на Вялікдзень па валачобнае. Часам так начастоўваліся булак і запечаных у ржаным цесце кумпякоў, што ажно расшпільвалі аплікі добра забрынданых святочных портак, ад чаго нашыя напханыя пафарбаванымі яйкамі кішэні апускаліся ледзь не на калені, а яйкі, вядома ж, не вытрымлівалі гэткай непавагі і ператвараліся ў суцэльнае жоўта-чырвонае месіва, якое нашыя маткі пры ўсёй павазе і пашаноўнасці да велікоднага свята вымушаны былі выкідваць.

Толькі з памяці можна вывудзіць месца былой сядзібы Тамашэўскіх – з вялікім і добра ўробленым садам, абсаджаным кустамі арэшніку. Арэхавыя гасцінцы спачатку прыносіў нам бацькаў бацька – дзед Ясь, які, ідучы міма, часта нагібаў гнуткія арэхавіны сваёй палкай-кульбакай, а пасля, падросшы, мы і самі былі не промахі не толькі арэхаў налаташыць, але і яблыню ці грушу патрасці.

Прастыў след нябеднай і ці не адзінай на хутары каталіцкай, як кажуць у нас і дагэтуль – польскай сям'і Корсакаў. Са старэйшым за мяне і ўвішным – на хаду падноскі адарве – Ендрусем Корсакам адольваў я пяцікіламетровую ў адзін бок дарогу ў школу-васьмігодку, што месцілася ў Вялікай Ліпе ў былым дыхтоўным недабураным маёнтку пана Абуховіча, які і дагэтуль павыдзіранымі вокнамі сумна пазірае на новачасны свет. Пра вяртанні са школы цёмначы раннімі восеньскімі вечарамі і зырка-марозным, ажно дыханне перацінае, зімовым прыцемкам па глыбокім – па пахі – сыпучым снежным цаліку на ўзлеску, пра факелы са змочаных газай ануч у якой-небудзь кансерваваай бляшанцы, з якімі вучыў мяне абыходзіцца ўжо іншы, вясковы мой школьны калега Франусь Валодзька, пра ягоную захопленасць рознага роду самапаламі, пра нашыя з ім тайныя стрэлы з сапраўднага паляўнічага ружжа, пра першую адрозную ад школьнай навуку рэальнаму жыццю, якую даваў мне Ендрусь, часам выкідваючы такіх конікаў, што я пачынаў біць у хамут і адмаўляўся разам з ім хадзіць у школу, чым дадаваў непатрэбнага клопату бацькам, можна напісаць цэлую прыгодніцкую аповесць…

Не засталося і звання ад блізкага Корсакавага суседа шматдзетнага і беднаватага Яраша, адзін з сыноў якога, Сяргей, ідучы на танцы або на спатканне ў Баяры, часта прасіў у майго бацькі пазычыць пацяшку – цёплую суконную фасоніста пашытую куртку. І заваду няма ад хат Хіневіча, Кандрацюкоў. Толькі абязводжаны Сержаноў луг, зарослы буйнымі купінамі сочнай асакі, сярод якой, быццам балерына сярод жабрачак, вылучаецца яркай валошкавай сінечай невядомая мне прыгожая кветка, акаймаваны неверагодна густымі і высокімі ладыгамі асоту з пахучымі (гэта праўда: сам адчуў – асот мае вельмі тонкі пах, пра што напісалася ў апавяданні «Расстайны пах асоту») і ўжо распушанымі кветкамі нагадвае, што наўзбоч жылі адзінокая Зіна Сержанова і маленькага расточку, але гэткая ўвішная ў працы, што раўні ёй не было, Зонька Пахвалёнікава, знакаміты не толькі на нашым хутары гарманісты Васіль Кулікоўскі. З адным Васілёвым хлопцам адбылася такая прыгода, што запомнілася нам надоўга. Падвучаны старэйшымі вісусамі: «Пакаштуй, якая салодкая», ён лізнуў марозным днём клямку ў дзвярах, пакінуўшы на ёй крывяністы пасак жывога языка.

А яшчэ тут жыў «лядачы» дзед Мацейка, які любіў падлавіць некага з нас на неўтаймоўнай цікавасці пытаннем: «А хочаш, чарачку дам? Калі панаравіцца, паўтару…» Мацейка ставіў каго-небудзь між каленяў і пальцамі задзіраў нос угору, часам так, што ажно іскры сыпаліся. (Трохі пра гэта сказаў я ў аповесці «Апошняе ігрышча».) Але мы цярпелі, бо – мужчыны, характар выхоўвалі. Праўда, у ад-

плату – дар за дар – за такую «чарачку» я аднойчы адпомсціў Мацейку. Падвучаны старэйшымі хлопцамі, я падпільнаваў нашага крыўдзіцеля на палявой дарозе і закідаў яго грудамі, за што атрымаў пякучай бацькавай папругі: не зацінайся са старэйшымі.

Толькі па спуску да зарослага аксамітнай муравой рова, які быў роўненькімі зігзагамі пракапаны на поплаве для адводу лішняй вады яшчэ за даўнімі палякамі і па якім мы з мамай хадзілі адведваць маю цётку Шуру Кандрацюкову, дзе яна так гасцявала мяне мёдам, што ажно на пупе выступаў, можна пазнаць котлішча майго дзеда Косціка Мазана. Свае гаспадарчыя пабудовы, а пасля і прасторную хату ён распасажыў – параздаваў на пасаг дзецям. У дзеда правёў я шмат памятных дзён і начэй. Ужо дарослаcorrect мне ён казаў, як вучыў мяне хадзіць: «Ручнік пад пахі і топ-топ па мяккай траве…» Тут упершыню я пачуў, як можа гаварыць чалавечым голасам звычайная чорная скрыначка, якую баба Воля загадкава называла «радзівам». Са слухавак не раз гучала, калі верыць майму хрэснаму – дзядзьку Янку, песня пра мяне. У ёй былі словы: «То ли луковица, то ли репка…», за што мяне часам пад’юшчвалі: «Толя, хочаш лукавіцу?» – пытаўся адзін, а другі адразу ж дадаваў: «А рэпкі часам не хочаш?» Чым больш, збіты з тропу, я злаваўся і сердаваў, тым часцейшымі былі крыўдлівыя пытанні. Тут жыла мая цётка Жэня, якая ўпершыню пачаставала мяне смакатлівым ласункам з нячутай хутаранскімі дзецьмі назвай – марожанае. Пра тое, як яна вучыла мяне танцавальнай грамаце, сказалася ў апавяданні «Я чую музыку». Пераселеная ў Баяры, праз усё жыццё не магла яна забыцца свайго хутарскога прастору і роднай хаты: «Каб прымела, каб была сіла, то папаўзла б на наш Язавец. Я тады паздаравела б, падужэла...»

Найбліжэй да нашае хаты, метраў за трыста, жыў мой дзед Ясь з бабай Гандзяй. Ваду з іхняга калодзезя, ажно восілка ад вядра так скурчвала пальцы, што не разагнуць, даводзілася насіць і мне: і гразкай вясной, і гарачым летам, і марасістай слотнай восенню. А зімой, кудасна-снежнай, з непралазнымі – вышэй чалавечага росту – гурбамі ля платоў і глыбокай барханістай беллю на бязмежных палях, вада ў вядры пакрывалася шархоткай скарынкай лёду, які смакталі мы замест марожанага. У дзедавай хаце найчасцей ратаваўся я ад галоднага буркатання ў жываце, цішком, каб не бачыў ашчадны дзед, атрымліваючы з рук спагадлівай і шкадаўлівай бабы Гандзі то акрайчык хлеба, то скрылік падсохлай паляндвіцы, ад смаку якой і дагэтуль ледзь не млею, то пахкі яблык. Тут упершыню ўбачыў я другі наш пасля дэтэктарнага прыёмніка хутарскі цуд – прывезены з арміі маім дзядзькам Міхасём «паціфон» і некалькі бліскучых кружэлак, з якіх гучалі такія цудоўныя песні, што ажно душа заходзілася ад замілаванасці.

Адгэтуль бацька мой Іван выцікаваў на далекаватым хутарскім надворку ўвішную Мазанянку Маню, з якой і пабраўся ў чэрвені 1944 года. Але не паспелі і каравай падзяліць, як на другі дзень вяселля бацьку разам з гарманістым Васілём Кулікоўскім і 86-гадовым Сергіевічам забралі немцы ў нясвіжскую турму – за сувязь з партызанамі. Як шукала яго і ў Баранавічах, і ў Нясвіжы мая маці, як хацела выкупіць за каравайныя грошы, як цудам выбавіўся ён з нямецкіх лап, мо напішацца, дасць Бог, прыгодніцкая аповесць…

Тут жа, хата да хаты, жыў мой дзядзька Мікалай са сваімі сынамі Мішкам і Колікам, маім найпершым заступнікам у выпадку чаго і найлепшым паверaным у маіх таямніцах. Тут гулялі мы ў хованкі, тут хто з дубцоў, а хто з цыбуроў высокай травы майстравалі «буды» – нашы першыя «хаткі» з нябачаных намі блакітных гарадоў… Няма ўжо ні нашых «будаў», ні нашых садоў, ні нашых хат, з якіх, калі верыць напісанаму, усе мы выйшлі, і ў якія, калі зноў жа верыць жартаўнікам-зласліўцам, не ведаем як вярнуцца. Няма і саміх гаспадароў, і многіх са старэйшых і маладзейшых за мяне маіх аднахутаран. Хай пухам будзе ім тая зямелька, у якой спачывае цялесная абалонка іхняга непаўторнага і неўтаймоўна-стваральнага няўрымслівага духу і добрай, спагадлівай душы.

Мае аднахутаране былі шчырымі працаўнікамі, клапатліўцамі, рупліўцамі з усімі ўласцівымі жывому чалавеку дадатнымі і адмоўнымі рысамі. А што мяне дагэтуль неспатольна дзівіць, дык гэта найвышэйшая іхняя нязмушаная і без прынукі самая што ні на ёсць натуральная цяга да калектыўнасці – мо водгукі язычніцтва, выкліканыя цеснай повяззю з прыродай? Танцы, ігрышчы, святкаванні – разам. Зажынкі, дажынкі (калгасныя) – разам. Дакопкі – таксама. Я ўжо не кажу пра непаўторныя па дасціпнасці і весялосці, па песеннасці і тэатралізаванасці вяселлі, радзіны. І дзе ўсё гэта дзелася з рассяленнем па вёсках? А тым больш па гарадах, у якіх ад людзей няма куды плюнуць, а такіх адзінокіх і адасобленых нідзе больш не стрэнеш.

Ціха і бязлюдна на маім Язаўцы сёння. Таму і буяе разнатраўем дарога, што няма ног, каб выгладзіць яе і выплескаць, няма калёс, якія вазілі па ёй снапы і бульбу. Таму курыцца яна пылам-пяском, сыпучым, як пытляваная мука, якую каштавалі мы толькі на Вялікдзень ці на Коляды, калі маці дазваляла сабе спячы белую булку...

Я падыходжу да той мясціны, дзе ў вішнёвай засені, якая летам кішмя кішэла пчоламі, стаяла наша хата – усцяж, пад адной страхой з каморкай і хлявом. Складзена яна была ў 1946 годзе, калі бацька праз два гады вярнуўся з Данбаса, куды забралі яго пасля вызвалення ад немцаў на шахту. З хваляваннем узіраюся ў бульбяны

палетак. Дзе ж яна, дзе тая мясцінка, тое котлішча, на якім мая пупавіна была схавана-закапана? Здаецца, вось тут. Тут і пакаты грудок вышэйшы. Відаць, трактарныя плугі і дагэтуль не расцягалі, не разраўнялі грудок-пупавіну і самой хаты, грудок, які некалі быў даволі вялікай і вельмі працяглы час цёплай глінабітнай печчу – нашай ратавальніцай ветравейнымі зімовымі вечарамі. І лебяда тут гусцейшая, і нават мята вунь расце. А дарожная нітка-прадзіва навівае ў клубок гэткую ж нітку-прадзіва асацыятыўных успамінаў і згадак.

Аддажджыў прыцемнены хмарамі кароткі восеньскі дзень. Блізенька гэткая ж слязлівая поўнач. Бацька даўно задзьмухаў вісячую на дроце газавую лямпу, і густая пудкая цемра ўшылася не толькі пад нашыя самаробны драўляны і магазінны панцырны ложкі, пад кудзельныя коўдры, а, здаецца, і ў вочы. Спаць чамусьці не хочацца, і ў галаў разам з цемрай лезуць розныя страхі, мроіцца нешта неверагоднае. Таму я не адразу цямлю, што грукат у дзверы – рэальны, а не прымроены мной. Відаць, гэтак жа лічаць і бацькі, бо ніхто з іх не вылазіць з-пад коўдры, каб адсунуць засаўку ў сенях. Але грукат мацнее, і бацька не вытрымлівае.

З-за дзвярэй чуецца чужы голас: «Дзепутат?» «Ну», – спалохана аднаслоўна адказвае бацька. «Адкрывай, упалнамочаныя». Бацька вагаецца, грукат мацнее, дзверы трымцяць, сцены дрыжаць, у вокнах пазвоньвае незакітаванае шкло. Я хаваю галаў пад коўдру, але грукат не сціхае. Мне страшна: не дай Бог не вытрымаюць дзверы, а хата разваліцца, раскоціцца па дзеравіне. І я ціхенька прашу Бозеньку, каб ён абараніў нас, не даў хаце рассыпацца. Нарэшце бацька здаецца і пад матчын плач рашуча адсоўвае дзверы: чаму быць, таго не мінаваць. У цемру сяней з цемры двара ўвальваюцца двое дзябёлых змоклых мужыкоў. Чарговыя ўпаўнаважаныя па бульбе, аказваецца. А начаваць вырашылі ў шматгадовага дэпутата сельсавета, спадзеючыся, што ён, як самы свядомы – бо інакай чаго ж выбіралі, і пакорміць, і напоіць. Нідзе не дзенешся, не ўцячэш ад свайго хутарскога лёсу. На стале і сапраўды з'яўляецца паўтарачка самагонкі. Бацька трохі агойтаўся – ці ж гэта першыня: «упалнамочаныя», і пачынаецца міравая…

Набіраю ў пакецік сухой, ажно сеецца між пальцаў, зямлі. Жменька яе і зараз са мной. Шчопці роднай і мо не надта ўраджайнай у параўнанні з чарназёмам зямліцы. Здаецца, яна праменіцца цяплом чалавечых рук, што па-гаспадарску дбайна ўраблялі яе і папраўдзе пальцамі перабіралі-разміналі кожную груду на кожнай сотцы. Мо такая пульхная яна ад пралітага ў яе поту, а мо трохі і саланаватая ад яго, бо вунь на бульбяных барознах бялеецца нейкі налёт – ці не выціскае набрынялая потам зямля яго лішкі?

Я стаю наўзбоч і праз адлегласць часу ўчэпістай дзіцячай памяццю чую ўвекавечанае ў душу, набліжанае вяртаннем у маленства грознае грукатанне грому, пад раптоўным зыркім, хоць голкі збірай, святлом маланкі бачу бясконцую, як зглядзець, няспынна-хвалістахісткую шырыню жытнёвага поля (у маленстве ўсё здаецца нашмат большым, уражлівым і аб'ёмістым), схіленыя дажджом, абцяжараныя буйным зернем каласы, якія горнуцца да прамытых дажджынкамі блакітных вочак васількоў-валошак, нібыта глядзяцца ў іх.

Чую саладкаваты пах важкіх жытнёвых снапоў, якія покатам ляжаць на густым іржышчы, і якія я, малалетак, спрабую аберучкі падцягваць у кучу, дзе бацька састаўляе іх у мыдлі. З прыемнай натруджанасцю зносіў я і нажатыя мамай жмені, складваючы іх на перавясла, якім туга звязвае яна сноп за снапом. Не баяўся і калючага, ажно лыткі мае ў чырвоных шнарах, іржышча – то высокага, дзе зелянеецца трава, бо яго трэба будзе скасіць на зіму карове (і як яна ела гэткую саламяную цвердзь?), то зусім нізенькага, калі прыходзіў брыгадзір з праверкай і хваліў маму за такую прылежнасць: не марнуе калгасную салому.

Мне зноў заманулася пахкага і яшчэ смачнейшага за цётчын Шурын асовага мёду, які смактаў я праз саломінку з клубочка сотаў, што знайшоў бацька ў зямлі, асадзіўшы злосных восаў вадой. А маці жне сабе і жне калгасны палетак – няма часу ні вочы падняць, ні пот выцерці – спяшайся, пакуль стаіць на пагодзе. Я прашу бацьку зрабіць агеньчык, каб напражыць на ім важкіх каласоў і хоць трохі замарыць чарвячка, бо ўжо добра смокча пад лыжачкай. Але ён пагрозліва ківае пальцам, не хочучы патураць маім капрызам: які агеньчык пасярод саломы?, але ўсё ж падсмальвае каласок запалкай, і я радасна залажу ў вусатую мыдлю, дзе пануе зачараванае царства пахаў і прамяністага сонечнага святла, што яркімі палосамі прабіваецца між снапоў. Гэтую таямнічасць падмацоўваюць песні, якія адна за адной, гэтак жа няспынна, як і шоргат сярпа па жыце, гучаць з маміных вуснаў. Я дзіўлюся, як пры такой працы можна яшчэ і песню выводзіць. Маці ж адказвае, што адно другому не замінае, а песня аблягчае цяжар напругі. Спявала ж яна заўсёды, шмат і заўзята, як першая пявуння на хутары, не толькі на вячорках і ігрышчах, а і пры любой працы, за прасніцай і за кроснамі. Пад небам гэтае песні, як і пад небам роднага мамінага слова, праходзіла і праходзіць усё маё жыццё, як і павінна, мусіць, быць у кожнага чалавека, які мае сваю Мову, сваю Радзіму і сваю Маму...

Я ажно сцепануўся, азіраючыся, адкуль чуецца песня, так выразна дапяў да душы мамін голас. Але навокал толькі бульба з купкамі зялёнай лебяды ды жаўцеючы дачасна нізкарослы вусаты ячмень, над якім ледзь ценькае – ад смагі? – адзінокі жаваранак.

А я ўслухоўваюся ўжо ў таемныя і чароўныя гукі ўрачыста светлай ночы. Гляджу на пуцяводную для беларусаў зорку Венеру і чую поклічны і засцерагальны голас любімага мной Максіма Кніжніка (адсюль і мой псеўданім – Максім Валошка):

Хто мы такія?
Толькі падарожныя, – папутнікі сярод нябёс.
Нашто ж на зямлі
Сваркі і звадкі, боль і горыч,
Калі ўсе мы разам ляцім
Да зор?

Ах, Максіме, Максіме! Каб жа спраўдзіліся словы твае! Каб не елі поедам людзі адно аднаго, каб меней крыві арашала гэтую неспатольную цярплівіцу зямлю, якая век-вяком не нап’ецца п’е яе, ажно дзіва дзіўнае, то прыгаршчамі, то ручаінамі. Каб не здарылася гэтага, хай Бог абносіць, на шматпакутнай маёй і тваёй Беларусі. Паслухайце, супляменнікі мае, як хрумстка рыпяць на небе зоркі ў дрыготкай начной цішыні, як чыркае аб нябесную сінечу мігатлівы след Леанідаў, што намагаюцца прыпасці да грудзей маці-зямлі. Падыміце вочы свае ў неба, бо не адным жа шарым колерам здавольвацца вам. Не толькі будзённым клопатам аб хлебе надзённым заняты думкі вашыя.

Я не адразу адчуваю, як адсырэлая начная цемра па-мацярынску агортвае мае плечы. І толькі напамінак-згадка, як смачна пахнуць волкай асенняй ноччу антонаўкі ў нашым садзе, абуджае мяне. І ўспамінаюцца блізкія мне, да шчымлівай чуллівасці зразумелыя радкі Васіля Зуёнка:

Ніхто не пачуў:
Яблык упаў дасвеццем –
Ля Халопеніч,
На Беларусі.
Ніхто не пачуў –
Ні людзі, ні травы, ні вецер…
А шар зямны
Здрыгануўся.

А тут новы смакатлівы пах так казыча ноздры, што аж кішкі пачынаюць марша граць. Быццам на яве, ажно рот стаў поўным сліны, адчуў я найлепшы ў свеце пах свежых хлебных боханаў, якія маці толькі што дастала з-за засланкі зыркай духам гліянае печы, вытрасла з вялікіх бляхаў, паклала на столак на покуці ля стала, перахрысціла, працерла халоднай вадой і накрыла таксама пахкім доўгім саматканым кужэльным ручніком.

Звычайны і святы мамін хлеб! Як мы з маладзейшай за мяне сястрой Лёляй пазіралі на яго, глытаючы слінкі і саромеючыся па-

прасіць, як стараліся ўмольна зазірнуць у маміны вочы, якія яна мо знарок хавала, прыгаворваючы: «Ад гарачага хлеба можа быць заварот кішок». Я ж часам баяўся, каб не здарылася гэтага ад галоднага вуркату ў жываце. Памятаю, як штырхаў-прасіў яе, калі ішла ўрабляць калгасныя дзялкі, каб адкроіла скарынкі, а не мякіша, бо скарынку можна доўга смактаць, адкусваючы па малюсенькім кавалачку, смакаваць, як найсмачнейшы ласунак. Ці не таму любіў я і скавароднікі, якія мама выпякала раней за ўсе астатнія боханы, каб праверыць, ці ўдасца хлеб, ці не стане ацеслівым, ці не будзе закальца, ці не ападзе ў бляхах старанна вымешанае рукамі ў ёмкай дзяжы цеста…

Самотна ўздыхнуўшы, нібыта чую  доннае шалясценне залацістых карасёў у глыбозным, што і дна не дастаць, Ткачовым лузе. Мы, хутарская малеча, спанатрылі лавіць іх на вуду, зробленую з валасні конскага хваста – бо дзе ты возьмеш той магазіннай жылкі. Валасню і то дабывалі з вялікімі турботамі, бо сваіх коней у новаспечаных калгаснікаў ужо не было – мой дзед Касцік стаўся апошнім хутаранінам, які, як ні сіліўся, не мог змаргнуць слязу (што мяне моцна ўзрушыла, бо быў ён зусім не сентыментальны), калі пад енкі бабы Волі і раптоўную зніякавеласць іхніх сыноў і дачок запрагаў гладкага буланага, грузіў на калёсы плуг і іншы інвентар, каб везці на далёкі ад нашага хутара калгасны двор. Да чужых калгасных коней мы баяліся падыходзіць, каб не абязвечылі. Нарваную дарослымі валасню сукалі ў некалькі столак, звязвалі ў адно і чаплялі да тоўстай, нібыта тыя карасі маглі яе зламаць, палкі. Аднак таўсматыя гаспадары луга часам перакусвалі нашыя вуды, і мы назаўсёды гублялі той адзіны магазінны кручок, які быў для нас бясцэннай каштоўнасцю. Бо не кожны раз на далекаватым ад нас Сноўскім базары можна было знайсці новы кручок, ды і набыць яго, па праўдзе кажучы, бацькам не было за што: купіў бы сяло, ды грошай гало. Не прадаваліся яны за калгасныя палачкі-«трудадні», што налічваліся за мусовыя, хоць і безаплатныя выхады на працу, якія бацька, старанна і доўга крэмзаючы, заносіў у згорнуты папалам сшытак і хаваў яго за ікону – запісваў для памяці: каб не скруцілі пры падрахунках у канторы і каб пахваліцца перад суседзямі: «Я ж не лежма ляжаў, ажні  дваццаць сем выхадаў маю за месяц!» І хоць па гэтых выхадах ды па «трудаднях» бацькі былі сапраўднымі стаханаўцамі, аднак ні грошай ні аграбалі, ні багатага стала не мелі, ні нават узнагарод не заслужылі...

Чамусьці само сабой уздыхнулася, і я, каб змяніць настрой, прыслухаўся да хутарской цішыні. Такой свежай і чыстай, такой густой цішы – хоць на хлеб намазвай замест масла, якога мы і так мала спажывалі, бо яно, жоўта-апетытнае, з кропелькамі халоднай

вады і маслянкі, якой – з дробненькімі кавалачкамі масла – нам толькі і выпадала напіцца, – нібыта арасілі яго слёзы шкадавання, што выбаўляюць за родны парог, адносілася на Сноўскі базар, каб купіць там цукру, алею ці яшчэ якой-небудзь крамніны – такой цішыні, здавалася, не спаткаеш нідзе і ніколі. Каб жа мы не памыліліся!..

А з той Снові, як называлі мы вёску, дзе быў загадкавы базар, прывозілі мне самы дарагі падарунак ад майго дзядзькі Петрыка, бацькавага малодшага брата – некалькі нумароў каляровага «Вожыка». Па ім я яшчэ задоўга да школы і чытаць навучыўся, чым здзіўляў маіх хутарскіх сяброў і дарослых гасцей, пераказваючы або нязгорш чытаючы па складах які-небудзь вожыкаўскі жарт…

Як на здзіўленне – неба сёння такое ж, як і тады, калі мы, да болю ў патыліцы задраўшы галовы альбо лежачы ў высокай пахкай траве поплава, пазіралі ў ягоную бяздоннасць – галава прыемна кружылася ад стромай вышыні і рухлівых невядомых нам звяроў, птушак ці раскошных пабудоў з пухкіх аблокаў. І дагэтуль мяне дзівіць, які віртуоза-архітэктар ці выкшталцоны майстра можа выштукаваць там, на Вышынях гэткія бязважкія, здаецца, напампаваныя незямным святлом, казачныя палацы з неверагоднымі карункамі-выцінанкамі, шыкоўнымі заламі, дыхтоўнымі палатамі і вянчальнымі вэлюмамі легкакрылых воблакаў над імі. Хіба што ў цэрквах бачыў намаляванымі такія ж прасветленыя бязважкія аблокі, па якіх па-незямному грацыёзна-лёгка ступалі святыя, несучы нам, зямлянам, вышэйшы сэнс Божага Слова і Боскае святло духоўнага прасвятлення. Здаецца, што і зараз з саміх Вышыняў, з тых казачных палацаў-палат спусціцца Бозенька, каб паглядзець на тварэнне сваё і праўдзіць, ці выконвае яно прызначэнне Яго – быць чалавекам па вобліку і падабенству Яго.

Так думаў, гэтага чакаў я, малы, прамаўляючы пра сябе бабуляй падказаныя словы просценькай малітвы або сцішана-насцярожана стоячы перад пацямнелымі ад полымя свечак загадкава-суровымі і рухлівымі ад святла непатухальных лампадак лікамі святых у за блізкім светам ад Язаўца ліпаўскай альбо трохі бліжэйшай сноўскай царкве. А ці спусціцца Бозенька? Як ні чакалі, як ні спадзяваліся на Яго і мае бацькі, і мае дзяды, якія кожнай раніцай распачыналі свой увярэдлівы працавіта-цягавіты дзень са шчырай малітвы і малітвай заканчвалі яго, стомленыя фізічна, але не падупалыя духам, – для іх гэтае чаканне так і засталося чаканнем. А тая шчырая малітва заставалася таемнай для нас, дзяцей, якія спадцішка, нібыта саромеліся сваім подслухам напалохаць шчырую набожнасць бацькоў і парушыць іхні зварот да таго, хто на Вышынях, назіралі, як хрысціліся яны, прыкладаючы да грудзей кулак, перад Святой Дзевай Марыяй на покуці. Бацькам здавалася, што мы не надта ўслухоўваемся ў іх-

няе ледзь чутнае шаптанне-маленне, выдыхнутае з усёй спавядальнай шчырасцю сваёй абнадзеенай лепшай будучыняй натуры.

Аднак я чуў усё. Зачароўвала гэтае даверліва-спавядальнае прадыханне незразумелых мне царкоўнаславянскіх на беларускі лад слоў, выклікала яшчэ большую павагу да маіх малапісьменных бацькоў. Малапісьменных, аднак жа з далёкага майго чырвоназменаўскага часу, калі ў сярэдзіне сямідзесятых я працаваў намеснікам рэдактара газеты «Чырвоная змена», і да апошняй пары выпісвалі яны маю «Чырвонку», каб з яе выцікаваць-вычытаць найперш, дзе носіццаблукае па свеце іхні сын, які, відаць, забыўся дарогу дадому...

А затым быў 1958 год. Вясновым будзённым днём, калі і не адсеяліся яшчэ, з'явіліся на нашым надворку калгасныя цеслі, прысланыя старшынёй калгаса Уладзімірам Галушкам, з якім бацька ў далёкім сорак чацвёртым быў мабілізаваны на данбаскія шахты. Порстка залезлі яны на схлябешчаную дажджамі, выпетраную пад ветрам і сонцам саламяную страху. І шаматліва-трывожна пакацілася долу не спарахнелая яшчэ, калісь дбайна і старанна падбітая, саломка да саломкі, бацькавай стрыхоўкай салома, агаляючы худыя рэбры-латы і кроквы. Хочаш не хочаш, а з дваіма дзецьмі пайшлі яны ў падсуседзі да майго дзядзькі Мікалая – пакуль агульнымі высілкамі будавалася хата ў Баярах. Язавец, як фізічная адзнака месца майго нараджэння, знік з карты свету. Але не знікла і не прыцьмілася мая пачуццёвая памяць пра яго. Бо там – пачатак маіх пачаткаў...

Гэта пасля будзе вучоба на філфаку Беларускага дзяржаўнага універсітэта ў гады хрушчоўскай адлігі, якія, безумоўна, паўплывалі і на нашу свядомасць. Будзе наш знаны «трэці беларускі» курс, прадстаўнікі якога, падахвочаныя тымі самымі гадамі адлігі, адважыліся выступіць за выкладанне ў беларускім універсітэце па-беларуску, за што арганізатары і паплаціліся пераводам з галоўнай вучэльні ў перыферыйныя. Маімі аднакурснікамі былі: Жэня Янішчыц, Алесь Разанаў, Віктар Ярац, Таццяна Шамякіна, Людміла Карпава, Таццяна Панчанка, Яўген Хвалей, Генадзь Пашкоў, Лена Руцкая. А на іншых курсах вучыліся: Генрых Далідовіч, Сяргей Законнікаў, Міхась Губернатараў, Мар'ян Дукса, Эдуард Зубрыцкі, Юрка Голуб, Казімір Камейша, Алесь Камароўскі, Уладзімір Дзюба. У наш знакаміты інтэрнат на тадышняй Паркавай магістралі заходзілі: Анатоль Сербантовіч, Хведар Чэрня, Рыгор Семашкевіч. Літаратурным дыскусіям, спрэчкам і цытаванню твораў не было канца. Дагэтуль помняцца лекцыі і адкрытыя дыспуты знакамітых выкладчыкаў: Алеся Адамовіча, Алега Лойкі, Ніла Гілевіча, Сцяпана Александровіча. А дзе вы, акрамя філфака, маглі бачыць, каб прафесар, прыходзячы на лекцыю, перш чым пачаць расказ пра гісторыю беларускай літа-

ратуры, хвілін дзесяць па памяці чытаў новенькія вершы беларускіх і расійскіх паэтаў? А ў нас быў такі – Міхась Рыгоравіч Ларчанка...

Гэта пасля будзе журналісцкая праца ў БелТА і газеце «Чырвоная змена», будзе дырэктарства ў галоўным выдавецтве «Мастацкая літаратура».

Гэта пасля будзе час зусім іншага занятку ў ЦК ЛКСМБ, у сектары мастацкай літаратуры аддзела культуры ЦК КПБ. Гэтыя гады шмат дададуць да ведання жыцця. А запомняцца незабыўнымі знаёмствамі, сустрэчамі, гаворкамі з пісьменнікамі, не толькі беларускімі, бо будзе ўдзел у многіх усесаюзных пленумах, з'ездах, канферэнцыях, днях літаратуры як у Маскве, так і ў іншых гарадах Савецкага Саюза. Той час стаў сапраўдным адкрыццём таго бачнага і нябачнага, што заўсёды спадарожнічае культурнаму і мастацкаму жыццю.

Пазней, у 90-ыя гады, гэта прыдасца мне падчас такой змястоўна-цікавай і часта першапраходчай працы – бо мы былі першым і адзіным у навейшай гісторыі незалежнай Беларусі ўрадам, які выбіраў Вярхоўны Савет, – у міністэрствах інфармацыі і культуры і друку. Я ўдзячны лёсу, які даў мне, як звыкла казалі ў савецкі час, простаму хутарскому хлопцу, шчаслівую магчымасць узняцца на міністэрскую прыступку, каб хоць што карыснае зрабіць для беларускай літаратуры і культуры, ён пакінуў таксама шчасце дагэтуль шчыра рукацца з многімі выбітнымі дзеячамі нашай культуры.

Гэта пасля дадуць мне рэкамендацыю ў творчы саюз літаратараў Янка Брыль, Алег Лойка і Адам Мальдзіс, перад якімі мой творчы доўг застаецца дагэтуль няспраўджаным.

Гэта пазней будуць незвычайна насычаныя новым зместам гады дыпламатычнай консульскай і пасольскай службы ў польскім Гданьску і румынскім Бухарэсце, дзе я сапраўды адчую неадольную настальгію па вялікай і малой Радзіме (гэта засведчана ў эсэ «У кожнага свае Баяры»), таму што, без перабольшання, вельмі часта і балючашчымліва «Беларусь мая снілася мне»...

Усё гэта будзе пасля. А пакуль што – пачатак пачаткаў: мой хутар Язавец, на якім, хоць і неіснуючым ужо, пабываў я з вялікім душэўным узрушэннем і незабыўным духоўна-эмацыянальным наталеннем.

Ціха вяртаюся ў таксама мае ўжо Баяры, дзе дзесяткі гадоў шчыравалі і мае прыгнутыя і выбеленыя гадамі, але не зламаныя лёсам бацькі: Іван з роду Бутэвічаў – на 88-ым годзе адышоў ён у лепшы свет, і Марыя з Мазаноў – маці перажыла яго на чатыры з паловай гады, а была маладзейшай на дзесяць. Трэцяга ліпеня 2005 года, без 10 хвілін тры пасля поўдня не стала маёй Мамы. Гора маё набыло горкую рэальнасць і пякельную балючасць. Я – асірацеў. Пакуль была

жывая Мама, клопат пра наш род быў на ёй. Цяпер гэтая ношка выпадала мне. Пакуль Мама называла мяне: «Сынок!», я ўсё яшчэ быў дзіцем. Цяпер жа я станавіўся дарослым. Да мяне пераходзіў статус старэйшага ў родзе і адказнага за яго. А гэта, мушу прызнацца, цяжкая ношка...

Зноў, асамотнены, стаю каля нашай баярскай хаты, якая, здаецца мне, ажно засвяцілася ўсімі сваімі запыленымі вокнамі, калі сустрэла свайго, роднага чалавека – мяне сустрэла, бо так не хочацца ёй быць сіратой. І таму вочы-шыбы яе слязяцца ранішнім туманам. І таму зноў і зноў туман ападае кроплямі і на мае вочы. І да самай бясконцасці думкі мае будуць мкнуцца туды, дзе мой пачатак пачаткаў. «А я ў Баяры, дамоў хачу...»

*22 кастрычніка 2008 года*



***Гальпяровіч***
***Навум Якаўлевіч***

## НА ШЛЯХУ ДА СЯБЕ

Наш прыгарадны пасёлак, які ў Полацку ўсе называлі па-руску «Пітомнік» – ад былой назвы гаспадаркі «Дзяржплодагадавальнік», дзе вырошчвалі і прадавалі арганізацыям і насельніцтву саджанцы пладовых дрэў, знаходзіўся непадалёк ад чыгункі. Па начах, калі я прачынаўся і чуў гук руху саставу, на сэрцы станавілася ўтульна і спакойна: значыць, я не адзінокі, значыць недзе ў вагонах едуць людзі, дзе іх чакаюць яркія, прыгожыя станцыі. На поездзе я ўпершыню ездзіў да цёткі ў Гродна, калі мне не было і сямі год, і назаўсёды запомніў радаснае ўзрушанне, калі сядзіш і глядзіш у вагоннае акно, а міма пралятаюць дрэвы, дамы, людзі... Наш пасёлак знаходзіўся ў самым канцы 6-га завулка Фрунзе і нагадваў хутчэй звычайную вёску: усе жылі натуральнай гаспадаркай, трымалі свойскую жывёлу, кароў, абраблялі гароды. Была нават канюшня, і мы, малыя, цікавалі за конюхам дзядзькам Буцелем, каб пракаціцца на калёсах па пыльнай вуліцы ці дапамагаць дарослым вазіць снапы

з поля. Непадалёк, напрасткі праз засеяныя гароднінай саўгасныя палі, можна было патрапіць проста да Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра. У гады майго дзяцінства манашак там ужо не было, але цэркаўка святой Еўфрасінні дзейнічала, і людзей у святочныя дні было досыць багата. Наша дзевятая школа была бліжэй да цэнтра, за пераездам і піўнушкай «Блакітны Дунай». Яна была новая, цагляная, двухпавярховая і ў параўнанні з другой, драўлянай, якая месцілася каля самага манастыра, выглядала сапраўдным палацам. У дадатак яна ў год, калі я пайшоў у першы клас, была аб'яўлена рускамоўнай, што надавала ёй у вачах нашых «пітомніцкіх» зусім іншы, «гарадскі» імідж. Суседка Юля пайшла ў школу на год раней, і я з цікавасцю глядзеў, як яна выводзіла ў сшытку беларускае «і» і «ў».

Маю першую настаўніцу звалі Тамара Фёдараўна, яна была маладая, прыгожая, толькі што пасля педвучылішча, і мы для яе былі таксама першыя вучні. З Тамарай Фёдараўнай лёс звязаў нас на доўгія гады: яна, студэнтка-завочніца, разам з намі «перайшла» ў пяты клас і была класным кіраўніком для большасці маіх аднакласнікаў аж да апошняга, адзінаццатага. Ды і потым была жаданай госцяй на вяселлях і хрэсьбінах, ды і так проста мы, ужо дарослыя, заходзілі на госці ў яе ўтульную кватэру, дзе разам з ёй радаваўся нашаму прыходу яе муж, дзядзя Вадзім, якога ўжо, на жаль, няма на гэтым свеце.

Чытаць я навучыўся яшчэ да школы. Навучыў бацька. Былы франтавік, без рукі, ён не быў надта адукаваны. Старэйшы са шматдзетнай рабочай сям'і, ён скончыў сем класаў і адзін курс Магілёўскага будаўнічага тэхнікума, да вайны быў печнікам, а пасля вяртання з фронту працаваў на самых розных работах, закончыўшы працоўную кар'еру вартаўніком. Мама ж пасля рабфака паступіла ў Ленінградскі педінстытут імя Герцэна. Там жа, у Ленінградзе, трапіла ў блакаду, ледзь выжыла. Пасля вяртання на родную Віцебшчыну ўвесь свой працоўны шлях звязала з нашай прыгараднай гаспадаркай. Па сутнасці, яна была галоўным кармільцам сям'і, у якой разам з бацькам і маёй малодшай сястрой жылі бабуля і мой стрыечны брат, сірата Сямён, які потым стаў марскім афіцэрам. Гэта дзякуючы ёй у нас была кватэра, гарод, штогод выдзялялі сорак сотак на бульбу. Мы трымалі карову, курэй і жылі па тых мерках не сказаць, каб заможна, але і не бедна.

Першыя свае радкі я напісаў у чацвёртым класе. Два так званыя вершы. Адзін на беларускай мове, другі – на рускай. Сказаць шчыра, вельмі хацелася надрукавацца, убачыць сваё прозвішча ў газеце. Адзін «верш» паслаў у газету «Зорька», другі – у «Піянер Беларусі». З беларускага нават першую страфу памятаю:

Куды ні глянеш навакол –
Савецкая зямля.
Плыве савецкі ледакол,
Яго вітаю я.

Адказы прыйшлі амаль адначасова. У іх літкансультанты Міхась Герчык і Яўген Курто раілі больш чытаць харошай літаратуры, уважліва ставіцца да слова. Так што першы блін выйшаў комам.

Пацiху прага мая да вершатворчасці спынілася. Праўда, была яшчэ перапіска з Маршаком, дакладней, не перапіска, а мой ліст з «вершам» і яго добразычлівы адказ, але пра гэта я напісаў у навеле «Ліст Маршаку». А так я быў захапіўся футболам, і хаця кніжак чытаў па-ранейшаму шмат, вершаскладаннем займаўся пацiху і толькі для сябе. Пісаў у асноўным пра каханне, балазе, аб’ектаў, каму ў думках прысвячаліся радкі, хапала.

Аднойчы, калі вучыўся ўжо ў адзінаццатым класе, ішлі мы пасля школы дахаты з сябрам і аднакласнікам Сашам Канавалавым, і раптам ён прызнаўся, што піша вершы. І нават даў пачытаць. Я таксама пазнаёміў яго са сваімі радкамі. Мы дамовіліся пайсці на пасяджэнне літаб’яднання «Наддзвінне» пры газеце «Сцяг камунізму». З гэтым літаб’яднаннем потым надоўга нас звяжа лёс. Як і з літаб’яднаннем «Крыніцы» пры наваполацкай гарадской газеце «Хімік». Менавіта ў «Хіміку» адбыўся мой дэбют. Памятаю, як хваляваўся, як трымцела ўсё ў душы, калі Алесь Шпыркоў, які быў тады намеснікам галоўнага рэдактара, чытаў уголас гэты верш на літаб’яднанні, як Валянцін Лукша, тадышні кіраўнік «Крыніц», вымавіў: «А што, нічога...»

І вось чытаю на літстаронцы:

Я приду на почтамт утром рано,
Сяду,тихо пером поскриплю.
И отправлю тебе телеграмму.
В ней три слова: «Тебя я люблю».
И пускай этим утром чистым
Сквозь туман голубых снегов
Перестуком телеграфиста
Понесется моя любовь.

Памятаю, Лукша тады ўпадабаў гэта «перестуком телеграфиста».

Першая вялікая падборка вершаў з’явілася ў тым жа «Хіміку», калі я працаваў грузчыкам на полацкім заводзе шкловалакна. Праца была пазменная, і аднойчы, калі трэба было ехаць на пасяджэнне літаб’яднання, мне выпала працаваць з шасці вечара. А пабываць на літаб’яднанні вельмі хацелася. Я нават дамовіўся, каб мяне замяніў новы наш грузчык, які павінен быў працаваць у іншую змену. Але начальнік цэха, дарэчы, бацька маёй аднакласніцы, не адпусціў.

Бачачы мой настрой, начальніца змены Зінаіда Ігнацьеўна Кузьменка, калі начальнік цэха пайшоў, сказала: «Едзь, Навум, на сваё літаб'яднанне. Станеш пісьменнікам, успомніш пра мяне». Так што яе пажаданне з радасцю выконваю. Праз хуткі час мне пашчасціла пабываць на семінары творчай моладзі Віцебшчыны. Адным з кіраўнікоў яго быў ужо вядомы паэт Давід Сімановіч. Сярод удзельнікаў былі Леанід Дайнека, Леанід Главацкі, Барыс Беліжэнка, Пятро Ламан, Анатоль Канапелька, Ала Красінская, Марыя Баравік, Алег Салтук, якія ўжо друкаваліся і на старонках «Віцебскага рабочага», і ў рэспубліканскім друку. Там я нечакана для сябе стаў лаўрэатам абласнога конкурсу маладой паэзіі, які аб'яўляў абкам камсамола, і атрымаў пуцёўку на рэспубліканскі семінар маладых літаратараў у Каралішчавічах. Ніколі не забуду тыя дзесяць снежаньскіх дзён!.. Знаёмства з Алесем Разанавым, Лёняй Якубовічам, Віктарам Ярацам, Яўгенам Хвалеем, Васілём Шырко, Алесем Крыгам, Нінай Шкляравай... Семінарскія заняткі вялі Уладзімір Адамчык, Васіль Зуёнак, Пятрусь Макаль, Раман Тармола... Кіраўніком семінара, нашым пастаянным «дзядзькам» быў Тарас Хадкевіч. А на завяршальны вечар прыехалі Іван Шамякін, Васіль Быкаў, Янка Брыль. Менавіта там, у Каралішчавічах, я зразумеў, што быць пісьменнікам няпроста, што трэба моцна любіць Радзіму, яе мову, што літаратура – гэта не толькі сур'ёзны занятак, гэта самаахвярнае служэнне, боль і радасць, трагедыя і шчасце.

Першыя вершы на беларускай мове я паслаў у часопіс «Маладосць», куды да таго часу перабраўся Леанід Мартынавіч Дайнека. Я і раней пісаў па-беларуску пад уздзеяннем сяброў-літаратараў Івана Стадольніка, Міхася Губернатарава, але друкаваць іх чамусьці саромеўся. Пра тое, як да мяне з такой жа парадай у рэдакцыі ленінградскага часопіса «Нева» звяртаўся адзін з класікаў рускай паэзіі Усевалад Раждзественскі, я падрабязна напісаў у адным з апавяданняў, дарэчы, перакладзеным і надрукаваным у санкт-пецярбургскім альманаху «Невский меридиан».

«Хросным бацькам» для мяне, як і для многіх, стаў Мікола Якаўлевіч Аўрамчык. Тая першая падборка ў «Маладосці» і зараз захоўваецца ў маім архіве. Жыццё ішло, я вучыўся, працаваў у полацкай газеце разам з будучымі пісьменнікамі Іванам Стадольнікам і Германам Кірылавым, друкаваўся ў «Маладосці», «ЛіМе», «Беларусі», ездзіў на семінары. Ды нешта не задавальняла мяне ва ўласнай творчасці, нейкай іскры не было. Аж пакуль не пераехаў у Наваполацк, не стаў актыўным сябрам літаб'яднання «Крыніцы». Сёння прозвішчы тадышніх «крынічан» добра вядомыя не толькі ў Беларусі. На жаль, па розных прычынах творчыя і жыццёвыя шляхі

нашы разышліся, але я ніколі не забуду на тую цудоўную атмасферу сяброўства, творчага гарэння, якая панавала тады ў «Крыніцах». Згадаю толькі хіба Міхася Барэйшу, які заўчасна пайшоў з жыцця больш як дзесятак год таму і з якім мяне звязвала шчырае сяброўства. Мы разам падавалі дакументы ў Саюз пісьменнікаў, адзін час разам працавалі ў аб'яднанні «Палімір», ён прыйшоў працаваць на маё месца ў полацкую газету... Талент яго не паспеў раскрыцца напоўніцу, але ён застаўся сваімі творамі ў нашай літаратуры. На літаб'яднанні хадзілі мастакі Сяргей і Рыта Цімохавы, рок-музыканты Алег Паўлёнак і Сяргей Анішчанка, загадчыца аддзела культуры Людміла Касьянава, студэнты Іна Снарская і Сяргей Красоўскі... Рады, што ўсе «крынічане» верна служаць роднаму беларускаму слову, раскрылі свой творчы патэнцыял і, дай Бог, яшчэ нямала зробяць добрага ў літаратуры. Першая кніжка выйшла ў мяне ў 1983 годзе, дакладней, гэта быў калектыўны зборнік «Сцяжына». Трапіў я туды, таму што згубіўся рукапіс самастойнай кнігі, і трэба было, як гаворыцца, трапляць у апошні вагон. Дарэчы, такі ж лёс напаткаў і зборнік для «Бібліятэчкі “Маладосці”», і справядлівасць аднавіў Уладзімір Саламаха ўжо калі я працаваў у Саюзе пісьменнікаў. Самастойнай кнігі давялося чакаць яшчэ сем гадоў. У 1990 годзе выйшла кніга «Брама». Вокладку для яе намаляваў Валодзя Сцяпан, за што я яму ўдзячны. На ёй выява Сафійскага сабора. У кнізе шмат вершаў, прысвечаных майму роднаму Полацку. Менавіта мой горад, усведамленне яго велічы, шматпакутнай гісторыі роднага краю і сталі для мяне асноўным матывам творчасці, як і роздум пра сённяшні дзень, высокія матывы любові і кахання. Затым былі кнігі «Востраў душы», «Струна».

А ў 1997 годзе я, ужо амаль у пяцідзесяцігадовым узросце, пераехаў у сталіцу. Працаваў спачатку ў «Вожыку», а затым, зусім для мяне неспадзявана, мяне абралі намеснікам старшыні Саюза пісьменнікаў. Гэта было вельмі адказна і хвалююча: штодня сустракацца з вядомымі нашымі творцамі, вырашаць штодзённыя пытанні пісьменніцкай арганізацыі. Часта сустракаўся з Іванам Пятровічам Шамякіным, які цікавіўся жыццём саюза, шмат дапамагаў у вырашэнні складаных пытанняў. На жаль, амбіцыі, супрацьстаянне, залішняя палітызацыя паступова вялі арганізацыю да таго расколу, які адбыўся. Але гэта здарылася ўжо пры іншым кіраўніцтве. У 2002 годзе я вярнуўся на роднае Беларускае радыё, і ў 2004 годзе ўзначаліў радыёстанцыю «Беларусь». У Мінску ў мяне выйшлі кнігі паэзіі і прозы «Святло ў акне», «Шляхі і вяртанні», «Голас і рэха», «Гэта ўсё для цябе», «Насцеж». У Мінску мне пашчасціла спазнаць

святло і цяпло сапраўднага вернага сяброўства з Алесем Пісьмянковым, страту якога да гэтага часу перажываю як найвялікшае ўласнае гора. І заўсёды са мой быў мой родны Полацк, які па-ранейшаму адзін з галоўных чыннікаў майго духонага жыцця:

Хваляваннем ад нематы
Я свой лёс назаўжды прыдумаў.
Беларускай душы матыў
Тут з біблейскім мяжуе сумам.
Бо адкуль даўні продак мой,
З Віфлеему ці Назарэту?..
Родны горад мой над Дзвіной,
Разгадаў ты загадку гэту.
Я адсюль назаўжды прынёс
Ціхі вечар і ранак сіні.
Палатоўскі пясчаны плёс
Каля цэркаўкі Еўфрасінні.
Мой пачатак і мой выток,
Дзе і шчасце маё, і гора.
Я ад дрэва твайго лісток,
Залаты мой, спрадвечны горад.
Мы з табою даўно на «ты».
І пачуў ты, як на прадвесні
Беларускай душы матыў
Стаў працягам адвечнай песні.

Спадзяюся, што шлях яшчэ працягваецца, што лепшага яшчэ не напісаў, што яшчэ шмат трэба зрабіць для роднага слова, для зямлі, што нам дадзена лёсам.

*2008 год*



***Гарадніцкі***
***Яўген Андрэевіч***

## ПРАСТОРА-ЧАСАВЫЯ ВЫМЯРЭННІ ПАМЯЦІ

У многіх сучасных літаратуразнаўчых і культуралагічных працах актыўна выкарыстоўваюцца сёння такія філасофскія паняцці, як прастора і час. Сапраўды, мастацкі свет і ўсёй нацыянальнай літаратуры, і пэўнага напрамку, жанра, і кожнага пісьменніка, і нават асобнага літаратурнага твора мае свае прастора-часавыя вымярэнні. І пры ўсёй шматстайнасці поглядаў на праявы жыцця, індывідуальнасці мастацкага светабачання аўтараў можна паспрабаваць у кожным адметным творы слоўнага мастацтва аналітычным шляхам вылучыць пэўныя агульныя заканамернасці светабудовы – у адных выпадках у большай ступені набліжаныя да гарманічнай упарадкаванасці, у іншых, магчыма, больш дысанансныя.

Прастора і час прадстаюць у нашым уяўленні як самыя маштабныя, усеабдымныя катэгорыі, у якіх абагульняецца вопыт успрымання чалавекам быцця, свайго становішча ў свеце.

Аднак у сваім гранічна абстрагаваным выглядзе гэтыя катэгорыі ўсё ж страчваюць сваю канкрэтна-пачуццёвую выразнасць, воб-

разна-пластычную характэрнасць. Філасофія, уздымаючы наш дух і розум у горныя вышыні, не можа даць таго, што дае мастацтва, у прыватнасці літаратура, – адчуванне дотыку босых ног да шорсткай сцяжыны або мяккай муравы сенажаці. Таму, мабыць, і ўзаемна прыцягваюцца яны, філасофія і літаратура, што маюць патрэбу ва ўзаемадапаўненні.

Калі ж спрабуеш вызначыць свае асабістыя жыццёвыя прастора-часавыя каардынаты, то тут найперш паўстаюць з усёй відавочнасцю перад духоўным паглядам абуджаныя памяццю канкрэтныя, вобразныя выявы. Гэта менавіта т в а е, асабістыя, табой сходжаныя і перажытыя прастора і час. Яны ўдакладненыя, вызнаныя, прачутыя тваім жыццёвым лёсам, усімі пачуццямі, трывогамі і сумненнямі, надзеямі і памкненнямі.

Але, мабыць, усё ж такі яны н е т о л ь к і т в а е. Бо дзяліў і дзеліш ты іх, прастору і час свайго жыцця, з іншымі.

Гэтае адчуванне духоўнай супольнасці, агульнага сужыцця ў прасторы і часе ў кожнага чалавека рознае. Хтосьці ў большай ступені інтравертны як асоба, гэта значыць больш засяроджаны на сваім уласным унутраным свеце; нехта, наадварот, больш схільны да экстравертнасці, да раскрыцця насустрач свету і людзям.

Вымушаны прызнацца, што, па ўсёй верагоднасці, адношуся хутчэй да інтравертаў. Ва ўсякім разе заўсёды няпростай рэччу для мяне было выносіць «на людзі» штосьці са свайго ўнутранага, у душы перажытага, стоенага дзесьці глыбока.

Гэта як быццам не стасуецца з тым, што мы звычайна адносім да абавязковай прыналежнасці паэта, лічым адной з яго вызначальных рыс. Лірыка, па ўсеагульным прызнанні, гэта якраз раскрыццё свайго запаветнага, а таму першаснай задачай паэта-лірыка лічыцца спавяданне перад людзьмі, усім светам. І гэта насамрэч так. Спавядальнасць – самая ўстойлівая і характэрная прыкмета лірыкі.

Толькі не трэба думаць, што паэтычная спавядальнасць павінна абавязкова выяўляцца ў форме непасрэднага выкладу выразна сфармуляваных думак. Згадаць тут можна і Ф. Цютчава з яго афарыстычным выслоўем «Мысль изреченная есть ложь». Як у жыцці, так і ў мастацтве ўсё значна складаней, чым мы гэта часам сабе ўяўляем, імкнучыся ісці ўздоўж мысленна накрэсленай прамой.

Часам важнейшым, больш істотным можа стацца не прамоўленае, а тое, што стоена, прыхавана за тэкстам, што застаецца ў падтэксце ды ў самой біяграфіі аўтара. Таму нязменна прыцягальным для даследчыкаў літаратуры, ды і для чытачоў, якія імкнуцца паўней спазнаць мастацкі свет таго або іншага аўтара, з'яўляецца жыццяпіс пісьменніка. Занатаваны ім самім або сабраны карпатліва з розных

крыніц па дробнай рысачцы біёграфамі, калі гаворка ідзе пра творцаў гістарычна аддаленых эпох.

Многія гады пашчасціла мне працаваць поруч, у адным інстытуце з вялікім рупліцам у справе аднаўлення страчанага, згубленага, забытага ў гісторыі нацыянальнай літаратуры і культуры Генадзем Васілевічам Кісялёвым, стваральнікам дакументальных жыццяпісаў К. Каліноўскага, Я. Купалы, Я. Коласа, адкрывальнікам аўтарства славутых паэм «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе». Перакanаўся ўвачавідкі, наколькі гэта карпатлівая праца – збіранне і звядзенне ў адно цэлае кожнага факта біяграфіі пісьменніка, каб затым перад чытачом узнікла панарама яго жыццёвага шляху, які ўмяшчае ў сябе і экзістэнцыйныя перажыванні, і творчыя азарэнні.

У інстытуце, дзе я працую (цяпер ён называецца Інстытутам мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі), па сутнасці, усе даследчыкі-літаратуразнаўцы так ці інакш выкарыстоўваюць біяграфічны (аўтабіяграфічны) матэрыял у якасці адной з важнейшых крыніц папаўнення ведаў пра літаратурны працэс. А ў такім фундаментальным падрыхтаваным нашым інстытутам даведачным выданні, як шасцітомны біябліяграфічны слоўнік «Беларускія пісьменнікі» пад рэдакцыяй прафесара Адама Мальдзіса, да працы над якім аўтар гэтых нататак таксама меў дачыненне, прыведзены сціслыя жыццяпісы каля тысячы літаратараў, лёс якіх быў звязаны з Беларуссю на працягу ўсёй гісторыі развіцця шматмоўнай беларускай літаратуры. Ва ўсякім разе пра большасць з іх, таму што пра некаторыя постаці ў шматвяковай літаратуры Беларусі, асабліва даўняга часу, біяграфічных звестак, на жаль, не захавалася. Такія прагалы ў нашай калектыўнай мастацкай памяці асабліва крыўдныя. Да нас дайшлі творы пісьменніка, у якіх увасобіліся яго мары і спадзяванні, роздумы і адчуванні, а пра яго самога мы наогул нічога не ведаем. Толькі зыходзячы з твораў і можна гадаць пра яго як асобу, як чалавека.

Таму сведчанні саміх пісьменнікаў, своечасова пакінутыя для сучаснікаў і для нашчадкаў, – гэта неацэнны скарб і для ўдумлівага чытача, і для будучага даследчыка.

Я асабіста больш прывык, як даследчык, да ўнікнення ў біяграфічныя і аўтабіяграфічныя звесткі іншых, чым да паглыблення ва ўласную біяграфію. Ды, зрэшты, я думаю, кожнаму чалавеку, у тым ліку і літаратару, цікавей спасцігаць жыццёвы шлях іншых людзей, бо гэта пэўным чынам пашырае і ўласны духоўны свет, і ўяўленні пра шматстайнасць жыццёвых праяў.

Тым не менш, бываюць, вядома, у кожнага моманты такой унутранай засяроджанасці, самапаглыбленасці, калі перад духоўным зро-

кам паўстаюць, як жывыя, малюнкі і вобразы мінулага, пражытага, самім спазнанага. Тады і набліжаешся ў памяці да тых мясцін і таго часу, якія ўяўляюцца найбольш дарагімі і значнымі ў тваім жыцці.

І тут зноў жа паўтару: гэтае ўласна пражытае і спазнанае немагчыма цалкам адлучыць ад агульнага, таго, чым жыў народ, што займала думкі і памкненні твайго пакалення, што характарызавала дух і настрой пэўнай гістарычнай эпохі. У раннія гады свайго жыццёвага і асабовага станаўлення, самыя ўразлівыя і запамінальныя на выявы, колеры і гукі, яшчэ, вядома, не даводзіцца карыстацца такімі паўнаважкімі і шматзначнымі паняццямі, як пакаленне і эпоха, прастора і час. Ты проста жывеш ва ўсім гэтым – найбольш непасрэдна і шчыра – у сваім часе і сярод людзей, пакрысе набіраючыся жыццёвага вопыту. Каб пазней, у час сталасці, пераканацца: там, у тваім маленстве, юнацтве – пачатак пачаткаў, штосьці надзвычай істотнае для твайго самапачування ў свеце, асабовай самаідэнтыфікацыі.

Нарадзіўся я на самым пачатку пяцідзесятых – у 1951 годзе. Таму для мяне пяцідзесятыя – гэта якраз мая эпоха, бясконцы, невымерны свет, які суседзіў з вечнасцю. Першае пасляваеннае пакаленне... Ужо адыходзіла ў гісторыю самая крывавая і жахлівая ў ХХ стагоддзі вайна, памалу зарасталі травою акопы, аднак подых яе яшчэ быў адчувальны – быццам нейкай пачвары-страшыдлы з вогненым подыхам з пашчы. Мы дыхалі гэтым паветрам. Мы былі сведкамі пасляваенных трывог і надзей. Сустракаючыся з тым, хто належыць да гэтага пакалення, адчуваеш пэўную душэўную роднаснасць, нібыта падзяляеш з ім штосьці супольнае, вядомае толькі блізкім.

Такое ж адчуванне душэўнай набліжанасці напаўняе душу і пры сустрэчы з землякамі, жыхарамі і ўраджэнцамі славутага беларускага мястэчка Ракаў, што недалёка ад Мінска. Слаўная гісторыя ў гэтага старажытнага паселішча, прыгожыя далягляды адкрываюцца з яго месцамі яшчэ пакрытых даўнім брукам вуліц і завулачкаў.

Два прыродныя фактары ўплываюць на адметнасць ракаўскіх краявідаў. Гэта – выгінастая, быстрацечная Ісλач, якая не губляецца, вынырвае з прапахлых жывіцай бароў. А таксама ўзгорысты характар мясцовасці, пагоркі, што як бы сыходзяцца да Ракава, каб даць магчымасць падарожніку падзівіцца са сваіх схілаў на гэтае хараство – мястэчка, якое перажыло стагоддзі, якое і сёння жыве будзённымі клопатамі і святочнымі настроямі сучаснасці.

Грыбныя мясціны пад Ракавам гучна называліся Горамі. Так і казалі ў нас: «Пойдзем у грыбы на Горы». Калісьці Максім Багдановіч убачыў у купалаўскім азначэнні Беларусі як гарыстай краіны фактаграфічную памылку. Насамрэч, ніякая гэта не памылка, са-

праўды – «гарыста яна». Кожная з’ява спазнаецца ва ўласцівай ёй сістэме каардынат, вымяраецца ў стасункавых да яе маштабах.

Якія буры і ветравеі часу пранесліся па-над табою, маё прытульнае мястэчка над спявучай вадой! Разам з усёй краінай прайшло ты праз нялёгкія выпрабаванні. Пра тое перахоўваюць памяць, перадаюць яе нашчадкам старэйшыя з ракаўскіх пакаленняў. У іх успамінах дасюль яшчэ палыхаюць ракаўскія хаты. Выпаліўшы адзін бок цэнтральнай вуліцы, немцы пры ўцёках з «мінскага катла» не паспелі зрабіць тое ж з другім.

Зазірніце пры нагодзе ў кнігу «Памяць», прысвечаную Валожыншчыне, дзе ёсць багата матэрыялаў і пра Ракаў, яго гісторыю, сучаснасць, выбітных людзей. У гэтым выданні змешчаны здымак ракаўскага наваколля ліпеньскага дня сорак чацвёртага. На шырокім прасцягу – нагрувашчанні патрушчанай вайсковай тэхнікі былой непераможнай армады. Вось і такі, задымлены ваенным пажарам, краявід захоўваецца ў памяці ракаўцаў. Побач з іншымі відарысамі, дзе велічна ўзносяцца ў незахмаранае неба стромкія сілуэты святынь.

Мы, дзеці першага пасляваеннага пакалення, знаходзілі яшчэ парассяваныя па ракаўскіх палетках адзнакі мінулай вайны. Саржавелыя патроны, штыхі. Аднаго разу мне пашчасціла адкапаць нават цэлую кулямётную ленту. Што ўжо казаць пра прабітыя кулямі і раз’едзеныя ржою каскі былых заваёўнікаў – іх можна было колькі заўгодна стрэць па завуголлі сядзіб. Неяк мы, аднакласнікі, у піянерскім запале спрабавалі адкапаць для здачы на металалом нават загрузлы ў рачным пяску і іле нямецкі грузавік. З цягам часу ракаўская зямля літасціва прыняла ў свае сховы гэтыя памяткі, што трывожаць сэрца, туды ж, дзе хаваюцца рэшткі іншых, больш аддаленых гістарычна эпох. Для знаходак будучым археолагам. Шмат чаго сышлося там, у спрасаваных часам падземных пластах. Таямніцы тыя сцеражэ старое гарадзішча, курган «на ўзбярэжжы ракі шумнацечнай», у народзе празваны Ва́ламі. Непадалёку ад тых Ва́лаў, дарэчы, знаходзіцца ракаўскае прадмесце Паморшчына, дзе жылі незадоўга перад народзінамі вялікага паэта Янкі Купалыягоныя бацькі.

Ракаў здаўна быў шматканфесійным і шматнацыянальным мястэчкам. Тут мірна і ў згодзе, па-суседску жылі беларусы і яўрэі, праваслаўныя і каталікі. Прафесар Вячаслаў Рагойша, вялікі патрыёт сваёй «малой радзімы», гуртавальнік і лідэр ракаўскага зямляцтва, стварыў у бацькоўскай хаце музей з красамоўнай назвай – поліэтнічнай культуры Ракаўшчыны.

Калісьці наша сям’я жыла на Радашкоўскай (цяпер – Чырвонаармейскай) вуліцы. Я сам не памятаю гэтага, але ведаю з раска-

заў маці, як з расчыненага ўлетку вакна суседняга дома даносіўся стукат друкарскай машынкі, за якой працаваў Уры Фінкель, вядомы яўрэйскі крытык і літаратуразнавец. А насупраць (гэта ўжо ўласныя ўспаміны) жыў ксёндз. Аднойчы ён паклікаў мяне з сябрам і падараваў па апельсіну – рэч на тыя часы не бачаную і не чутую намі...

Наша сям'я таксама інтэрнацыянальная. Мой бацька – украінец, былы жыхар станцыі Лазавая. Пасля ранення і службы ў тылавой часці так назаўжды і асеў у беларускім мястэчку. Сказаць па праўдзе, была адна важкая прычына, якая перабіла жаданне вяртацца ў родны край. У час бамбёжкі станцыі Лазавая загінула яго першая сям'я, жонка з малымі дзецьмі. Ад дома застаўся толькі катлаван. Бацька працаваў усё жыццё ў ракаўскім дзіцячым доме, аж да яго расфарміравання. Абеларусіўся. Украінскае паходжанне выдаваў толькі лёгкі акцэнт ды любімая песня, якую заўсёды спяваў у застоллі; з ёю, мабыць, было звязана штосьці даўняе, запаветнае.

Знявечаны вайной бацькоўскі лёс заўжды больш абвострана перажываю, калі гляджу стары фільм «Не забудь, станция Луговая». Уяўляецца, што за кінематаграфічным сюжэтам і дэкарацыямі праступае тая рэальная станцыя Лазавая, наплываюць аплаўленыя вогненнай віхурай абрысы таго рэальнага свету, якога ўжо ў сапраўднасці няма, які не вернеш.

Дзіўна ўладкаваны гэты свет! Выходзіць, я сваім нараджэннем абавязаны вайне. І жыву гэта Богам адпушчанае жыццё за іншых.

Ракаўскі дзіцячы дом, ці ў больш хадавой скарочанай форме – дзетдом... Гэта таксама цэлы свет з яго скалечанымі лёсамі, радасцямі, надзеямі, успамінамі, стоенымі слязамі, крыўдамі. Мы вучыліся з дзетдомаўцамі поруч, сядзелі за аднымі партамі. І як быццам нічым асаблівым яны не адрозніваліся ад нас, недзетдомаўцаў, хіба большай згуртаванасцю. І ўсё ж нейкая невідочная рыса падзяляла нас, адасабляла, рабіла іх жыццё загадкавым. Хоць мы і сябравалі з многімі з іх. Памятаю, ужо пасля сканчэння школы, выпадковую сустрэчу ў гарадскім тлуме з былым аднакласнікам-дзетдомаўцам, харошым, сціплым і шчырым хлопцам, і яго нечаканае спавяданне ў школьным, нераздзеленым і стоеным каханні да адной з нашых прыгажунь. Гэта мяне ўразіла, мабыць таму, што і сам спазнаў той жа трапяткі і горасны стан.

Няма дзіцячага дома. Спачываюць на ракаўскіх могілках бацькі. Многае змянілася ў абліччы таго, з дзіцячых і юнацкіх гадоў, Ракава. Цяжка, а мабыць, і немагчыма адшукаць свае даўнія сляды, пачуць шум тых сосен, пад якімі крэсліў чарцёжык перпетуум мобіле, вечнага рухавіка, і ўсё ўяўлялася такім простым. Або, гледзячы ўслед жураўлінаму кліну, што адплываў у задуменную сінечу

раскрытага насцеж восеньскага небасхілу, усур'ёз карпеў над гучна названай ферментатыўнай тэорыяй, уяўляючы сябе адкрывальнікам і ні больш, ні менш, як выратавальнікам роду чалавечага, ягоным збаўцам ад жорсткай прадвызначанасці непазбежнага заканчэння індывідуальнага існавання.

Пазней прыйшло разуменне, што вечнасць, невымерныя прастора і час, бясконцая разнастайнасць чалавечых лёсаў і жыццяў – усё гэта ў Слове. З таго часу і служу яму, у меру малых сваіх сіл, больш радуючыся здзейсненаму для яго ўвасаблення іншымі.

*2008 год*



***Гіруць-Русакевіч***
***Валянціна Францаўна***

# МОЙ ЛЁС, МАЯ ДАРОГА

На самым памежжы Ашмянскага раёна з Іўеўскім і Валожынскім прытулілася багатая на добрых людзей вёска з прыгожай і такой роднай мне назвай – Міхайлоўшчына. Месцамі за некалькі сот метраў, а дзе і за некалькі крокаў падступае да яе шчодры ягаднагрыбны лес. Срэбна-сіняватай стужкай уплятаецца ў лугавыя травы, перавівае вёсачку рэчка Клява, якая цераз Гаўю нясе свае воды да Нёмана.

Гэта мая маленькая радзіма. Тут 18 кастрычніка 1953 года ў сям'і калгаснага бухгалтара Франца Антонавіча і простай калгасніцы-паляводкі Веры Паўлаўны Гіруцёў трэцім дзіцем нарадзілася дзяўчынка – я.

Мой тата родам са збяднелай шляхты. Яго прадзеда, у якога быў фальварак у Каральках на Крэўшчыне (Смаргонскі раён), засеклі пад час паўстання 1831 года казакі за тое, што ў яго спыняліся ашмянскія паўстанцы. Татава прабабка засталася адна з паўтарага-

довым сынком Тамашом. Зямлю ў яе аднялі – перайшла да пана Ластоўскага з маёнтка Казароўшчына. Удаву з дзіцем ён таксама ўзяў у двор працаваць.

Калі стаў дарослым, Тамаш Гіруць пачаў браць у арэнду зямлю, апрацоўваў яе, засяваў – з таго і жыў, сям'ю карміў. Цяжкая праца забрала сілы – памёр у 50 гадоў, пакінуўшы ці ні пяцёра дзяцей...

Адзін з яго сыноў – мой дзядуля Антон Тамашавіч – быў удзельнікам руска-японскай вайны 1904 года. Прайшоў Кітай, Маньчжурыю. Як удзельніку гэтай вайны яму пасля далі дзяржаўную работу – працаваў на чыгунцы. Сям'і нярэдка даводзілася пераязджаць з месца на месца. Калі жылі ў вёсцы Вайганы на Валожыншчыне, 7 кастрычніка 1921 года нарадзіўся мой тата. Усяго ж у сям'і дзеда Антона і бабулі Анелі гадавалася сямёра дзяцей.

Дзядуля быў практычна непісьменным, таму з часам яго звольнілі з чыгункі. Сваёй жа зямлі ў іх не было (бабуля працавала там жа). Давялося наймацца батрачыць да паноў. Тата, будучы хлапчанём, дапамагаў свайму бацьку пасвіць панскіх кароў у Багданаве. Адначасова і вучыўся ў Багданаўскай школе. Як ні цяжка было матэрыяльна (не раз і галадаць даводзілася), але паспяхова скончыў шэсць класаў польскай школы. На той час гэта была ўжо вялікая грамата. Дарэчы, у таты засталіся добрыя дзіцячыя ўспаміны пра пана – Фердынанда Рушчыца (знакамітага на ўвесь свет мастака), які, праўда, рэдка наведваўся ў Багданава. Але тое, як збіраў у канцы года сваіх работнікаў, частаваў і расказваў, што робіцца ў свеце, а для дзяцей ладзіў салодкія сталы – назаўсёды засталося ў памяці...

У Міхайлоўшчыне (Ашмянскі раён) працавалі ў двары пані Скіндаравай. Але прыйшоў 1939 год: Ашмяншчына, як і ўся Заходняя Беларусь, была вызвалена з-пад улады панскай Польшчы. І ўжо ў маі 1940-га ў гэтай вёсцы быў створаны калгас (першы ў раёне). Тату, як практычна самага пісьменнага і талковага юнака, абралі рахункаводам калгаса. 37 гадоў аддаў ён роднай гаспадарцы, 30 з іх – на пасадзе галоўнага бухгалтара.

Тут жа, у Міхайлоўшчыне, сустрэў дзяўчыну-віцяблянку Верачку Драздову – маю матулю. Яна прыехала з бацькамі і малодшай сястрой Валяй пасля вайны з Віцебшчыны. Да гэтага жылі ў вёсачцы Іванькова (цяпер Віцебскі раён), над якой, як і над усім віцебскім краем, асабліва жорстка пранеслася вайна. Мой дзядуля Павел вярнуўся з фронту без нагі, хату спалілі фашысты... Ведаючы, што Заходнюю Беларусь не так страшна спустошыла вайна, паехаў ён неяк да сваёй сястры ў Ашмяны, каб па магчымасці абмяняць там на хлеб апошнія залатыя завушнічкі бабулі Тані (у дзявоцтве Родчанка). Тут і даведаўся, што ёсць на Ашмяншчыне калгас «1 Мая».

Разведаў-распытаў і вырашыў: пакуль падужэюць крыху, прыбіцца да гэтай «прыстані».

Сам стаў вартаўніком, бабуля Таня – свінаркаю. Ды не абы-якой – перадавой. Не адно парася атрымала пасля ў прэмію за стараннную працу. Пакрысе разжываліся. Дзядулю Паўла (Паўла Авяр'янавіча), нягледзечы на тое, што «васточны», паважалі за развагу, жыццёвую мудрасць, гаспадарлівасць.

Так і сустрэліся мае мама з татам, а ў 1947 годзе – пажаніліся. Маміны бацькі з малодшай, Валяю, вярнуліся на Віцебшчыну, у сваю вёску. Паклікала не толькі старэйшая, замужняя ўжо, дачка Марыя, але, напэўна, больш настальгія па родных мясцінах, сваяках, суседзях.

Мама засталася адна сярод, здавалася б, чужых людзей, якія паступова станавіліся сваімі, блізкімі. Цяжка працавала ў калгасе, вяла сваю гаспадарку, гадавала траіх дзетак...

З дапамогай старэйшых – брата Пеці і сястры Марыйкі – я, падрастаючы, пазнавала навакольны свет, знаёмілася з цудоўнымі куточкамі родных мясцін. Бацькам, занятым працаю ў калгасе і дома, не было калі асабліва няньчыцца з дзецьмі. Маёй галоўнаю нянькай была старэйшая ўсяго на тры з паловай гады сястра... Толькі ўзімку, калі хлебаробам можна было зрабіць хоць маленькі перадых, я радавалася, што мама больш бывае дома, са мной. Як любіла я, калі матуля, управіўшыся па гаспадарцы, расказвала мне на цёплай печцы казкі, розныя цікавыя гісторыі ці чытала кніжкі. Тата таксама ведаў і расказваў нам рэдкімі вольнымі вечарамі польскія, беларускія, рускія вершы і казкі, добра спяваў, нават вучыў нас танчыць. А яшчэ тата ў маладосці пісаў нядрэнныя вершы, праўда, нікому іх не паказваў...

Мне вельмі падабалася, калі брат ці сястра вучылі ўрокі, асабліва вершы на памяць. Тады, запамінаючы ўслед, падказвала ім забыты радок. А ў верасні 1959-га з вялікай радасцю сама пайшла ў першы клас. Да сямі гадоў не хапала яшчэ паўтара месяца, але вельмі ж хацелася стаць школьніцай, і мама ўпрасіла дырэктара прыняць мяне, каб не было слёз. Залічылі ў школу з умоваю, што буду добра вучыцца.

Родная Міхайлоўшчынская школа... Мая маленькая, мая старэнькая, мая калыска і крыніца ведаў. Дарагія мае настаўнікі: Аляксандра Мікалаеўна, Вера Герасімаўна, Валянціна Сяргееўна, Ніна Тарасаўна, Зінаіда Аляксандраўна... Мой шаноўны першы і апошні школьны дырэктар Міхаіл Мікалаевіч Пузіноўскі... Даруйце, што не ўсіх назвала, але ўсіх вас я светла і ўдзячна помню.

Калі вучылася ў 8-м класе, мае вершы (для сябе пісала з васьмі гадоў) упершыню былі надрукаваны ў ашмянскай раённай газеце

«Красное Знамя» (цяпер – «Ашмянскі веснік»). Атрымалася гэта, можна сказаць, па шчаслівай выпадковасці. Сама я нікуды не дасылала свае спробы пяра, саромелася, што недасканалыя. Але аднойчы ў раёнцы, якую тады і да нядаўняга часу рэдагаваў Юрый Іванавіч Нікалаеў, надрукавалі радкі з конкурснага сачынення, якое я напісала ў вершаванай форме. Вось па тых радках і «адкапаў» мяне, ужо дзевяцікласніцу, малады літсупрацоўнік газеты Яўген Сямашка, які кіраваў літаб’яднаннем пры рэдакцыі. Цяпер Яўген Іванавіч – галоўны рэдактар газеты «Беларуская ніва».

У тым жа 1969-м годзе была ўдзельніцай абласнога злёту маладых паэтаў Гродзеншчыны, на ўспамін пра які засталася кніга Васіля Быкава з аўтографам знакамітага пісьменніка. Назаўсёды ў памяці святкаванне 130-годдзя Францішка Багушэвіча ў Жупранах і Кушлянах, дзе я ўпершыню пазнаёмілася з вядомым ужо тады паэтам, выкладчыкам філфака БДУ Алегам Антонавічам Лойкам. Дарэчы, гэта, відаць, гены Багушэвіча і «прымушаюць» мяне пісаць вершы. Ф. Багушэвіч, як расказала мне бабуля Анеля (Анеля Францаўна Багушэвіч), даводзіўся стрыечным братам яе бацьку...

Пасля сустрэчы з Алегам Антонавічам у мяне, выпускніцы Міхайлоўшчынскай дзесяцігодкі, намеціліся два будучыя шляхі: філалагічны факультэт БДУ і журфак. І хаця Алег Антонавіч (тады ўжо доктар філалагічных навук), разгледзеўшы ў сціплых радках вясковай дзяўчынкі «іскрынку», што называецца «боскім дарам», пераконваў, што мая дарога толькі на філфак, і абяцаў сваю дапамогу, я ўсё ж абрала факультэт журналістыкі. Калі па шчырасці, не без уплыву некаторых настаўнікаў...

Відаць, і сапраўды ў кожнага свой лёс, свая жыццёвая дарога. Я пайшла па такой. І ў 1970 годзе, скончыўшы школу, упершыню паехала ў сталіцу, дзе, яшчэ не верачы ў гэта, стала студэнткай факультэта журналістыкі Белдзяржуніверсітэта.

А вершы пісаліся пакрысе. Калі агортвала туга па родных мясцінах – вылівала яе на аркуш паперы паэтычным радком, і станавілася лягчэй на душы. Дзіця жывой прыроды, вольных вясковых прастораў, я задыхалася ў вялікім і тлумным, хоць і прыгожым, горадзе. Так і не змагла прывыкнуць да яго... Калі займалася на другім курсе, выкладчык сучаснай рускай мовы Сцяпан Мітрафанавіч Грабчыкаў (хай лёгка будзе яго душы) папрасіў прынесці сшытак з маімі вершамі. А праз некаторы час адзін з іх з’явіўся ў калектыўным зборніку «Універсітэт паэтычны».

Пасля першага курса праходзіла практыку ў роднай ашмянскай раёнцы. Але выдавалася яна тады толькі на рускай мове. Мне ж вельмі хацелася пісаць па-беларуску. Таму на наступны год, а пасля і яшчэ раз, абрала валожынскую «Працоўную славу»: і да дому не-

далёка, і змагу пісаць на роднай мове. Пэўна, зноў гэтак вяла мяне рука лёсу. Акурат у Валожыне, у рэдакцыі, летам 1973 года сустрэла ўпершыню Рыгора Русакевіча – свайго будучага мужа. А праз два гады, калі ўжо атрымала дымлом і па заяўцы рэдактара «Працоўнай славы» Сямёна Уладзіміравіча Ломаця размеркавалася на працу ў Валожын, мы з Рыгорам пажаніліся. Дзякуючы мужу, яго родным і аднавяскоўцам, я блізка пазнаёмілася са слаўным Лоскам, прыняла яго да сэрца, шчыра палюбіла гэтую зямлю. Вольнымі часінамі з хваляваннем уздымаюся на Замкавую гару, успамінаю пачутыя тут легенды і паданні; хаджу сцяжынамі, дзе калісьці хадзіў слаўны беларускі асветнік Сымон Будны...

Як гаварыла ўжо, з 1 жніўня 1975 года я ўжо сама пачала працаваць у валожынскай раёнцы: карэспандэнтам аддзела пісьмаў і масавай работы, сельгасаддзела, карэспандэнтам-арганізатарам раённага радыё... На жаль, цяжкая хвароба на сем гадоў адлучыла мяне ад працы. Дзякуй Соф'і Ігнацьеўне Кавязе, якая ўзначаліла ў 1989 годзе рэдакцыю. Па-мацярынску клапатліва аднеслася яна да мяне. Калі мне стала крыху лягчэй, угаварыла зноў ісці ў свой калектыў, «да людзей». Давялося пачынаць, як кажуць, спачатку, спрабуючы паступова, нібы тое немаўля, свае сілы. Машыністка, карэктар, карэспандэнт, загадчык аддзела сельскай гаспадаркі – такім быў мой шлях са студзеня 1990-га да 11 лістапада 1997 года, калі прыняла прапанову ўзначаліць аддзел інфармацыі Валожынскага райвыканкама, дзе працавала амаль пяць гадоў. Цяпер жа цалкам аддаю сябе культурна-літаратурнай дзейнасці – кірую народным літаратурна-мастацкім аб'яднаннем «Рунь» Валожынскага раённага Цэнтра культуры.

Нямала прыемных змен адбылося і на паэтычнай ніве. У 1996 годзе ў серыі «Бібліятэка часопіса «Маладосць» пад рэдакцыяй намесніка галоўнага рэдактара і адказнага сакратара часопіса Алеся Камароўскага выйшла першая кніжка пад назвай «Я адкрываю вам душу». У 1997-м літаратурнаму аб'яднанню «Рунь», якім я тады кіравала ў цесным супрацоўніцтве з метадыстам (цяпер дырэктар) РЦК Алінай Генрыхаўнай Барадака, прысвоена званне «народнае». У наступным годзе прынялі ў Союз пісьменнікаў Беларусі, а 1999-м у выдавецтве «Беларускі кнігазбор» выйшла мая другая кніга – «Пад зоркаю лёсу». 2005-ы: калектыўная радасць – у выдавецтве «Чатыры чвэрці» пабачыў свет зборнік паэтаў Валожыншчыны «Зямлі маёй і землякам», выданне якога фінансаваў раённы выканаўчы камітэт. Шчыра дапамагаю, як магу, каб даходзіла ўжо і кнігамі да чытача творчасць таленавітых удзельнікаў нашай валожынскай творчай суполкі, і гэтак жа шчыра радуюся, ладзячы іх прэзентацыі. Падрыхтаваны да друку зборнік пераможцаў (за апошнія пяць

гадоў) раённага літаратурнага конкурсу «Маладыя галасы» з аднайменнай назвай, а таксама другі зборнік удзельнікаў нашага Народнага літаратурна-мастацкага аб'яднання «Рунь». Застаецца знайсці мецэнатаў для выдання гэтых кніг. Сёлета з хваляваннем прычакала выхаду ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» яшчэ аднаго ўласнага паэтычнага зборніка – «Мовай сэрца»...

А час, нібы пялёсткі з маіх любімых рамонкаў, упарта абрывае лісты з жыццёвага календара. На галіне майго радаводнага дрэва, карані якога ў Віцебскай, Смаргонскай, Ашмянскай землях, выраслі ўжо маладзенькія галінкі з лісточкамі – у абодвух сыноў свае сем'і. Цешуся нявестачкамі-дачушкамі. На Валожынскай зямлі, якая прытуліла мяне, нібы родная маці, ахінула цяплом сваіх добрых людзей, падрастаюць ужо мае ўнукі: Алесік, Лідачка, Рыгорка, маленькія Любачка і Настачка.

Дай, Божа, дабра і шчасця ім, зямельцы гэтай і яе людзям! І, вядома ж, – дарагім маім землякам-аднавяскоўцам, любай матулі-Ашмяншчыне. Няхай квітнее і багацее родная Беларусь, якую люблю самай адданай даччынай любоўю, за якую хвалююся і малюся, якой шчыра ганаруся.

Дзякуй, Божухна, Табе за тое,
Што і я – дачка старонкі роднай...
……………………………………..
Дзякую, і словам роднай мовы
Гавару, спяваю і малюся
За жыцця выток мой і аснову –
За людзей, зямельку Беларусі!

*2008 год*



## *Гніламёдаў*
***Уладзімір Васільевіч***

# З ТАГО, ШТО ПОМНІЦЦА І ШТО ДУМАЕЦЦА

У жыццёвым вопыце – карэнні духоўнай біяграфіі чалавека, якая пачынаецца з няўтольнай прагі дазнацца, адкуль ты сам, адкуль твой род і народ, чым жывуць людзі, куды ідзе свет…

Прызнацца, я ўжо нейкім чынам прывык, што прозвішча маё – Гніламёдаў – крыху здзіўляе, асабліва тых, хто сустракаецца з ім упершыню. «Відаць, не тутэйшае», – мяркуюць некаторыя. Нарадзіўся я «тут», як спяваецца ў песні, на заходняй перыферыі Палесся – у вёсцы Кругель Камянецкага раёна Брэсцкай вобласці. Аднак прозвішча маё – калі пра яго пайшла гаворка – сапраўды не тутэйшае. Завезена яно з Расіі, з былой Самарскай губерні, з сяла Заплаўнае, што ў Борскім раёне. Адтуль мой бацька – Васіль Аляксандравіч. Я не раз, рыхтуючыся да працы над раманам «Расія», наведваў бацькаву радзіму – сяло Заплаўнае. Яно старажытнае і вялікае, дзевяцьсот двароў. «Мы з хазараў», – казалі мне там.

Як мой бацька апынуўся на Брэстчыне – пра гэта я расказаў у памянёным творы. Падзеі Першай сусветнай вайны, наступленне

германскіх войск, набліжэнне фронту, загад падавацца на ўсход прымусілі маіх будучых аднавяскоўцаў – кругельцаў (кругельцы – так яны называюць сябе і цяпер) пакінуць радзінныя гнёзды і рушыць у вырай – на ўсход, у бежанства. Было гэта ў 1915 годзе. Выязджалі вёскамі, дабіраліся да Волгі і за Волгу, асядалі там – хто дзе – у волжскіх сёлах і гарадах, на чыгуначных станцыях і г. д.

З бежанства вярнуліся толькі ў 1922 годзе. Да новых мясцін так і не прывыклі, а тут яшчэ і голад пачаўся – Паволжа аказалася без хлеба. І туды, і назад шлях цяжкі, пакутлівы. Сярод тых, хто вяртаўся, быў і мой будучы бацька. Было яму тады гадоў пяць, не болей. Ехаў з маці і айчымам, які вяртаўся ў родную вёску з жонкай і пасынкам. Пакінутыя хаты па вокны зараслі бур'янам і лебядою. І без таго нізкія, касабокія, з забітымі дошкамі вокнамі, яны выглядалі надта бедна і паныла. Уяўляю, што перажывала мая бабуля, тады яшчэ маладая жанчына, трапіўшы ў незнаёмы край, ды яшчэ такі бедны.

Пачалі так-сяк абжывацца. Дарэчы, аказалася, што не ўсе з тых мясцін выехалі ў бежанства – некаторыя засталіся і цяпер пасаблялі (не без уласнай выгады, праўда) тым, хто вярнуўся…

Пісаць пра тагачаснае заходнебеларускае жыццё-быццё не буду – яго сацыяльны, мясцовы каларыт праўдзіва, на мой погляд, і з розных пунктаў погляду перадаюць творы П. Пестрака, М. Танка, Я. Брыля, У. Калесніка, В. Адамчыка… (Хаця, з другога боку, як сказаў паэт, «тваё за цябе не напіша ніхто».)

Нарадзіўся я ў 1937 годзе, у дзедавай хаце (калі бацькі яшчэ не аддзяліліся) – пад саламянай страхой, з маленькімі вокнамі без аканіц. З цягам часу бацькі пабудавалі сваю хату і перасяліліся ў яе – пайшлі яшчэ дзеці, а я так і застаўся жыць у дзеда з бабай. Стаў іх гадаванцам (гадованікам – як у нас кажуць). Дзед Лявонцій Міхайлавіч і баба Фёкла Цімафееўна – мае духоўныя бацькі, яны мяне выхоўвалі, і я ім за гэта бясконца ўдзячны. Усім, што маю, я абавязаны ім. Калі ўспамінаю іх, дык часам і слязу змахну – дужа нялёгкім і клопатным было іх жыццё. Дзед і баба любілі сваю працу, сваю гаспадарку, вёску, і гэта іх трымала на свеце. Я, калі бываю ў сваім Кругелі, дык абавязкова наведваю іх магілы, як і магілы іншых родзічаў і аднавяскоўцаў. Мінула шмат часу, як яны пайшлі ў лепшы свет, але пачысціш, пратрэш травою надмагільныя помнікі, і становяцца выразнымі надпісы, а за імі – дарагія абліччы…

Продкі мае па матчынай лініі – дулебы (быў такі народ, які яшчэ называюць бужане, валыняне). У пашпарце маці Кацярыны Мікалаеўны стаяла: украінка. Я нарадзіўся на каталіцкае Ражство, але метрыка згарэла, калі ў царкве па чыйсьці неахайнасці здарыўся пажар. Добра, што ацалела сама царква (яна была ў нас вельмі пры-

гожая), а метрыка – справа набытная. Калі яна спатрэбілася – пасля вайны, гэта калі я ўжо вучыўся ў школе, мяне, як і маіх дружбакоў-аднапасельцаў, якія апынуліся ў такім жа становішчы, ставілі на камісію. Камісія ў Камянцы, у раёне, вызначала год і дату нараджэння. Я дзівіўся, як гэта яны ўмеюць! Аказваецца, усё проста. Выклікаюць па адным, старшыня пытае: «Калі нарадзіўся, у якім годзе, якога чысла?» Падлетак адказвае. Можна было сябе «падмаладзіць» ці, наадварот, зрабіць старэйшым. Тады, помню, у нас надта ўхіляліся ад прызыву ў армію. Некаторыя на год ці два змяншалі свой узрост, а дату нараджэння прымяркоўвалі да вялікіх свят – 1 мая і 7 лістапада. Таму, калі сёння сустракаю чалавека, які адзначае свой дзень нараджэння на гэтую дату, дык думаю: «А ці не быў ты на камісіі?»

Я назваў год і дату нараджэння, як успомніла мама: «У 1937 годзе на каталіцкае Ражство». Старшынёй камісіі быў мясцовы чалавек, ён зарыентаваўся адразу: «Ага! Дык гэта 25 снежня па новаму стылю!» Хацелі ўжо так і запісаць, але адзін з членаў камісіі, у міліцэйскай форме, сказаў:

– Ці варта нам, таварышы, падтрымліваць падобныя супадзенні? Ці правільна гэта? – Усе змоўклі. – Давайце паставім яму 26-га! Гэта будзе палітычна больш надзейна і зразумела.

Я набраў поўныя лёгкія паветра, каб запярэчыць, аднак толькі ўздыхнуў. Надта аўтарытэтнай выглядала камісія, каб можна было ўсумніцца ў яе дзеяннях. З таго часу, падобна багушэвічскаму герою Аліндарку (у яго была, праўда, іншая недакладнасць), вяду свой жыццёвы адлік з гэтай даты.

У 1944 годзе адкрылася школа, якая знаходзілася ў нашай жа вёсцы. Пайшоў у першы клас, хаця не споўнілася яшчэ сямі. Пасляваенныя гады – час нястач. Ён праўдзіва паказаны ў многіх творах пісьменнікаў майго пакалення. На пачатку не было ні паперы, ні алоўка, ні падручнікаў… Затое была прага да ведаў, да вучобы. Першая мая настаўніца – Валянціна Захараўна Садоўская. Выкладала яна яшчэ ў польскай пачатковай школе. Без цяжкасцей (мне так здавалася) пачала працаваць у новай. Строгая была да нас, вучняў, надзвычай. А як інакш? У класе сабраліся і малыя (як я – шасцігадоўцы), і падлеткі, і юнакі, якія не мелі магчымасці вучыцца «пры Польшчы», а ў вайну ніякай школы ўвогуле не было.

Настаўнічаў у нашай школе таксама Васіль Іванавіч Клюка – у мінулым царскі афіцэр, удзельнік Першай сусветнай вайны, чалавек немалога жыццёвага досведу. Вучыў ён нас рускай мове і літаратуры ў 5–7 класах. Вельмі строгі, але яго паважалі за шырокія веды, і не толькі ў сваім прадмеце, але і ў іншых раздзелах школьнай праграмы. Быў такі прадмет у школе – «Асновы дарвінізма», дык

Васіль Іванавіч тыя «асновы» нам і выкладаў, хаця, як я цяпер разумею, не ва ўсім падзяляў палажэнне аб натуральным адборы, тэорыі народанасельніцтва і дэмаграфіі, выказваў свае агранамічныя рэкамендацыі. Нешта было ў ім ад пісьменніка Прышвіна. Таксама, як і Прышвін, любіў прыроду і быў да яе блізкі. Быў ужо немалады, але вельмі захапляўся спортам, гімнастыкай і плаваннем. У вёсцы яго ўспрымалі як вялікага арыгінала.

Першага жывога пісьменніка пашанцавала ўбачыць у 1947 годзе. Да нас, у Кругельскую сямігодку, прыехаў Мікола Засім, які жыў і працаваў у той час у Брэсце. Знакаміты паэт! Высокі, важны, у жоўтым скураным паліто і ў рудым капелюшы (на той час – рэдкасць), ён выглядаў надта самавіта і незвычайна. А грамавы, магутны голас, які не месціўся пад школьнаю столлю, усіх здзівіў. Нейкі пан – гаварылі сяляне, але калі той пачаў:

Гэй, паэты вёскі й поля,
Я ваш сябар – Засім Коля…

– усе зразумелі: свой, нават родам непадалёк – з-пад Пружанаў.

Тады я не ведаў, што і мне судзіла доля стаць пісьменнікам. Адказаць, як гэта адбылося, няпроста. Прыгадваюцца радкі незабыўнага Петруся Броўкі:

Не пытайся пра гэта,
Бо адказу не дам.
Як зрабіўся паэтам,
Я не ведаю сам.

З паэтам, вядома, не паспрачаешся, але калі можна знайсці адказ на гэтае пытанне, дык толькі ў жыццёвым досведзе, у пражытым.

Мой Кругель – невялічкая вёсачка (двароў дваццаць пяць), цяпер яна абязлюдзела, – знаходзіцца на адлегласці дзесяці кіламетраў ад райцэнтра – горада Камянца. У даўнія часы ён з'яўляўся мястэчкам (карыстаўся магдэбургскім правам), таксама як і Высокае, куды ад нас дваццаць кіламетраў. Да Брэста – сорак.

Мясціны гістарычныя. Шырока вядомы помнік старажытнай архітэктуры Камянецкі стоўп (яго называюць часам «Белая вежа», але па-мясцоваму – «стоўп»). XIII стагоддзе. Камянецкі стоўп бачны здалёк. Разам з царквой, якая таксама стаіць на высокім месцы, і будынкам школы з востраверхім, крытым чырвонай чарапіцай дахам ён фарміруе непаўторны профіль горада, яго гістарычнае аблічча. Упершыню я ўбачыў яго ў далёкім дзяцінстве. Дзед Лявонцій Міхайлавіч ехаў «да Камянца» (так у нас кажуць) малоць збожжа і ўзяў з сабой мяне. Выехалі мы за ваколіцу, праехалі кіламетр-другі, падняліся на Бабіцкую гару (недалёка ад вёскі Бабічы) – і адкрылася

хвалюючая панарама старажытнага Камянца (потым я ўбачыў яе на малюнку Н. Орды). Якраз з таго боку, з усходу, узнімалася сонца. Прыгажосць – не перадаць, тварылася нейкая прыродная містэрыя, я ўсё гэта бачыў у першы раз і быў назаўсёды ўражаны чароўным хараством гэтай летняй раніцы.

Такое ж глыбокае – на ўсё жыццё – уражанне пакінула Белавежская пушча. Паданні сцвярджаюць, што тут некалі жылі яцвягі – народ трагічнага лёсу… Пра пушчу і яе гісторыю можна расказваць бясконца.

У верасні 1939 года мае аднавяскоўцы, землякі з радасцю віталі прыход Чырвонай Арміі. Брэстчына, разам з усёй Заходняй Беларуссю, уз'ядналася ў адзінай Беларускай Савецкай Сацыялістычнай рэспубліцы. Колькі было радасці! Помню тых «Саветаў», што вызваленчым паходам прыйшлі на Брэстчыну восенню 1939-га. Іх добра сустракалі, і яны праяўлялі, хай сабе і прапагандысцкія, знакі ўвагі да мясцовага насельніцтва. Да нас у вёску прывезлі на аўтамашыне бочку газы. Раздавалі людзям па літру на чалавека. Разам з суседзьмі пайшла за газай і мама. Мяне, малога, узяла на рукі, апроч мяне трымала яшчэ шкляную бутлю. Кіраваў гэтай гуманітарнай акцыяй палітрук. Да яго так і звярталіся: «Таварыш палітрук!» Нам нацадзілі два літры – на маму і на мяне. Вечарам запалілі лямпу.

У памяці адбілася многае з той далёкай пары, асабліва добра я запамінаў новыя песні: «Катюша», «Три танкиста», «Дайте в руки мне гармонь», «Ой, Лявоніху Лявон палюбіў», «Бывайце здаровы» і інш. Я вельмі любіў спяваць, а дарослыя да таго ж яшчэ і падахвочвалі, прасілі паспяваць. Я пачуваў сябе артыстам, і ў вайну, у час нямецка-фашысцкай акупацыі (мне было гады чатыры), я па неасцярожнасці заспяваў «Кацюшу» перад паліцаямі. Яны прыехалі з гміны, з Ратайчыцаў, спаганяць з сялянаў кантыгент (падаткі). Песню даслухалі да канца, а потым адзін, Арлоў (акружэнец), зняў з мяне кепку-васьміклінку і так усмаліў мне казырком па твары, што з носа пайшла кроў. Больш я не спяваў. Заспяваў пасля вызвалення, калі быў ужо пастушком.

Дзяцінства сваё прыгадваю з вялікай прыемнасцю. Прайшло яно на вясковым улонні – у полі і ў лесе, на лузе і на рацэ. Цікава было бываць у навакольных вёсках, бачыць, як жывуць людзі, слухаць казкі, песні, незвычайныя гісторыі, іграць у карты, у падкіднога, зімой катацца на санках, на лыжах з Маркавай гары (так называлася ўзвышанае месца каля вёскі), пасвіць кароў, вадзіць на начлег коней. Успамінаюцца нашы гульні і забавы, аблічы сяброў, клопаты і праблемы. Я вам скажу, гэта такая пазітыўная, дабратворная энергетыка, якая сілкуе жыццё ў старасці, нездарма пісьменнікі

вельмі часта звяртаюцца да дзяцінства, да яго адчуванняў і перажыванняў. Бліжэй да старасці ахвотна пісалі пра дзяцінства многія беларускія, рускія, польскія і іншыя аўтары.

Паміж пастухамі розных вёсак здараліся спрэчкі і бойкі. Для гэтых боек мы спецыяльна рыхтавалі такія замашныя бярозавыя кіі. Я быў маладзейшы за сваіх сяброў-перарасткаў і не мог далёка і дакладна кінуць кій, каб трапіць ім у праціўніка (ды неяк і пабойваўся гэтага), дык мне не давяралі кідаць, адвёўшы ролю своеасаблівага падносчыка. У старажытналітоўскім войску кожны воін меў сваё, трывала замацаванае месца ў страі, кожны з іх ведаў, чым ён павінен займацца пад час небяспекі і бою. Хто быў стралком, лучнікам, хто мечнікам, і г.д. Нешта падобнае назіралася і ў нас.

Потым шмат дзе давялося пабываць – на казахстанскай цаліне і ў Прыбалтыцы, на Украіне і ў Польшчы, Балгарыі, Германіі, у Сярэдняй Азіі і на Каўказе, купаўся ў Індыйскім акіяне і на озеры Балхаш… Ды ці мала дзе быў, але ніштo так не хвалявала і не хвалюе, як сустрэча з роднымі мясцінамі – маленькай вёскай Кругель і яе ваколіцамі. Цяпер, праўда, у многім яны змянілі ранейшы свой выгляд – асабліва ад таго, што лясы, на вялікі жаль, парадзелі. Навакольныя вёскі сталі праглядацца ва ўсе бакі, чаго раней не было. І сама вёска амаль што апусцела.

Цяжкія ў нашага пакалення (ды ці толькі ў нашага!) ваенныя ўспаміны. Вайна пачалася для нас 22 чэрвеня 1941 года, раніцай. Мы, дзеці, прачнуліся ад шуму і грукату: праз вёску рухаліся варожыя часці – пяхота, кавалерыя. Так працягвалася некалькі дзён. Помню, як адзін здаравенны рыжы немец забег у двор да майго дзеда – «матка, куры, яйкі!..». Ля склепа стаяла прыгожая высокая вішня – ягады на ёй ужо паспелі пачырванець. Ён пачаў іх рваць у каску. Другія салдаты, што спыніліся на вуліцы, седзячы ў сёдлах, прыспешвалі – «шнэль, шнэль!..». Той пачаў ламаць галіны з гронкамі спелых ягад, а потым, кінуўшы поглядам у бакі і заўважыўшы пад паветкаю, у калодзе, сякеру, вырваў яе з калоды і стаў секчы вішню пад корань. Некалькі салдат саскочылі з коней, падбеглі, схапілі бедную вішню, што, здавалася, дрыжала ўсім сваім лісцем, і са смехам, гергечучы, павалаклі на павозку. Дзіцячыя ўражанні, але і яны перадаюць твар ворага, твар вайны…

Наступіў змрочны час акупацыі, час крывавага прыгону. Гарэлі вёскі. З суседніх, самых бліжніх вёсак згарэлі Зянькі, Ліпна. Людзям за вайну давялося паспытаць усяго – і гора, і здзекаў, і страху, і голаду, і холаду… Чаго толькі не прыйшлося перажыць чалавеку! І які ён усё ж такі трывалы. Калі падумаеш пра тое, што давялося

адолець чалавеку, зразумелай становіцца неаслабная цікавасць літаратуры да гэтага часу. Колькі яшчэ не сказанага!

Вайна – цяжкі перыяд для ўсіх, асабліва для мірнага насельніцтва. На гэтым бедным селяніне трымалася ўсё, у тым ліку і партызанка, партызанскі рух і ў нашым краі. Днём немцы, а ўночы партызаны завітаюць ці якія-небудзь грабежнікі пад маркай партызан. Ачысцяць камору і ад прадуктаў, і ад адзення. Усё забяруць падчыстую. Асабліва ім былі патрэбныя гадзіннікі. Дай гадзіннік! Нарадзі, а дай!

Помню рэйд партызан – праз нашу вёску праходзіла шматлікае партызанскае злучэнне пад камандаваннем генерала-каўпакаўца Пятра Вяршыгары. Гэта было ў сакавіку 1944 года. З вуліцы зрабілі балота. Смелыя, спрактыкаваныя ваякі! Каб немцы іх не дагналі, паставілі на Камянецкім гасцінцы міны. Але немцы іх і не даганялі, рыхтаваліся сустрэць паперадзе, паміж Відамлем і Брэстам. Словам, злучэнне прайшло, а міны засталіся. Падрываліся сялянскія фурманкі. А аднойчы падарвалася нямецкая аўтамашына. Нікога з немцаў не забіла, магчыма, пагэтаму ацалела і наша вёска. Замест таго каб прыслаць сапёраў, немцы загадалі сялянам абясшкодзіць тыя міны. Якім чынам? Баранаваць гасцінец. Супраць міны – конь, барана і чалавек…

Вызваленне прыйшло ў ліпені 1944-га. Тая летняя раніца запомнілася, відаць, таксама назаўсёды. Ніколі не забыць стомленыя, але ўсмешлівыя твары чырвонаармейцаў на вясковай вуліцы. З хат, зямлянак, «схронаў» павыходзілі радасна ўзбуджаныя людзі, жанчыны частавалі вызваліцеляў свежай вадой, малаком, варанай бульбай. Помню, як з бабкай Фёклай хадзілі аж за раку (мне – шэсць год) шукаць карову, што прапала ў нас. Селянін застаецца селянінам, нават у самыя цяжкія часы. Паміраеш – а жыта сей.

З бабкай Фёклай мы дружылі, яна заўсёды брала мяне з сабой, калі куды ішла. Бабулю сваю Фёклу ўспамінаю з асаблівай любоўю. Гэта была ва ўсіх адносінах выдатная жанчына – па нараджэнні руская, сялянка, вялікая працаўніца. І заспяваць умела, і станцаваць, і казку расказаць. Да мяне, унучка свайго, адносілася з вялікай пяшчотай, як да крывінкі сваёй, шкадавала, вучыла, апекавалася, хоць і самой было нялёгка. Час быў такі – вайна, акупацыя, пасляваенныя складанасці… Хацела наведаць радзіму – сваё Заплаўнае і Аляксееўку (у тагачаснай Куйбышаўскай вобласці) і мне казала:

– Паедзем разам. У Маскве перасадка, давядзецца ехаць у метро, баюся, заблуджуся. Ты ж ведаеш – нягpаматная я, а ты ў школу ходзіш.

Зрэшты, паглядзіце на нашых пісьменнікаў – гэта ўсё бабчыны ўнукі. Я таксама ўспамінаю сваю бабулю Фёклу Цімафееўну, да якой звяртаўся з пяшчотным «бабо!». Да бабулі ў нас звяртаюцца – «баба».

У дашкольным дзяцінстве я зблізіўся з евангельскімі хрысціянамі-баптыстамі – у нашай вёсцы было некалькі такіх сем'яў. У іх было сваё жыццё – сходы, малітвы, спевы, святы. Па вечарах – чытанне Бібліі ўслых, завучванне вершаў. Усё гэта мне падабалася, я ахвотна вучыў на памяць вершы духоўнага, павучальнага зместу і выступаў з імі ў навагоднія вечары, ля ёлкі. Кожны раз атрымліваў пернік. Стаў сярод маіх сяброў-пратэстантаў сваім. Чыталі, помню, не толькі Біблію (як Майсей у маленькай карзіне плыў па Нілу), але і свецкую «Хаціну дзядзькі Тома», і я, помню, горка плакаў, спачуваў і Майсею, і гаротнаму дзядзьку Тому, на долю якога выпала столькі ліха. Настаў час, і прэсвітэр (святар, звалі яго па-мясцоваму Натолій) звярнуўся да маёй бабулі Фёклы Цімафееўны – яна з'яўлялася духоўным аўтарытэтам у нашай сям'і – з прапановай даць згоду на пераход унука да баптыстаў. Але бабуля як чалавек артадаксальнай веры (праваслаўная) гэта не ўхваліла, пасля чаго евангелісты да мяне ахаладзелі, але досвед стасункаў з імі не прайшоў для мяне безвынікова. Да гэтага часу памятаю маральныя асновы іх вучэння і веры: «Бог ёсць любоў», «Забудзьце пра ўчорашняе, не дбайце пра будучае, палымнейце сягоння» і да т. п., – што месціліся на сценах у выглядзе прыгожа аформленых пропісаў і выказванняў.

Малым я шчыра і безразважна верыў у Бога. Вера амаль забылася ў школе і ў наступныя часы. Сёння імкнуся вярнуць ранейшую веру ў Бога.

Дзесяцігодку я скончыў у 1954 годзе. Куды ісці вучыцца? На пачатку меў намер паступаць у Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна на геолага-геаграфічны факультэт. Мяне хвалявала прафесія геолага, якая здавалася вельмі незвычайнай, рамантычнай. Тады такі факультэт у БДУ быў, але гэтая мая мара не спраўдзілася. Папрацаваць геолагам-рабочым у геалагічнай партыі – усё ж такі аднойчы мне давялося: капаў шурфы, свідраваў на дзесяткі метраў зямныя пласты, даставаў «маналіты», якія аблівалі парафінам і адсылалі ў лабараторыю.

Замест БДУ паступіў у Брэсцкі педінстытут імя А. С. Пушкіна. Інстытут, здавалася б, перыферыйны, аднак у якой сталіцы знойдзеш такіх выкладчыкаў, як Уладзімір Андрэевіч Калеснік, Лілія Пятроўна Смальянава, Антон Антонавіч Ус, Аляксандр Сцяпанавіч Барысавец, Іван Клімавіч Германовіч, Павел Фёдаравіч Шляхтуноў, Леанід Антонавіч Царанкоў, Іван Кірылавіч Казека. Можна было б прыгадаць і іншыя прозвішчы – людзей, якім многія абавязаны. Тут, у правінцыяльнай ВНУ, на мяжы 40–50-х гадоў, пасля сталінскіх ідэалагічных кампаній знайшлі прытулак многія сталічныя прафесары – гуманітарыі, біёлагі, псіхолагі, матэматыкі і інш. Так што было каго паслухаць.

У студэнцкія гады немалы ўплыў на мяне меў мой выкладчык Іван Клімавіч Германовіч, аўтар шматлікіх прац па мовазнаўству. Ён вельмі любіў літаратуру, асабліва Кузьму Чорнага, вылучаўся назіральнасцю і гумарам, валодаў фенаменальнай памяццю.

Свет пашыраўся паступова. Помню, якое ўражанне зрабіла на мяне першая паездка на Палессе – у Столінскі раён. Я тады вучыўся, здаецца, на трэцім курсе, збіралі мясцовыя дыялекты.

Яшчэ больш запамінальна – дзве летнія паездкі на казахстанскую цаліну. І не так сама праца (хаця, не хвалячыся, скажу, што маю медаль «За асваенне цаліны»), як тое, што палавіну краіны ўбачыў, па-новаму, глыбей і паўней адчуўшы сябе яе грамадзянінам. Калі ехалі назад – на цэлы тыдзень спыняліся ў Маскве, наведвалі тэатры.

Пасля заканчэння інстытута – з ліпеня 1959 года па кастрычнік – працаваў завучам Тамашоўскага дзіцячага дома. Адначасова выкладаў мову і літаратуру ў Тамашоўскай васьмігодцы. «Скрозь жывуць людзі» – у гэтым я пераконваўся на кожным кроку жыцця.

Добрай школай з’явілася для мяне (як, відаць, і для кожнага) служба ў Савецкай Арміі, якая многаму навучыла, загартавала целам і духам. Пасля дэмабілізацыі ізноў трапіў у школу – Камароўскую, Брэсцкага раёна. Гэта было ў 1962 годзе. Годам раней яе скончыў касманаўт Пётр Клімук (родам з Камароўкі). І тут сустрэў добрых людзей. Асабліва запомнілася арыгінальная постаць дырэктара Мікалая Іосіфавіча Панасюка.

Мой навуковы кіраўнік па аспірантуры – вядомы ўкраінскі крытык і літаратуразнаўца Леанід Мікалаевіч Навічэнка.

Чалавек павінен быць удзячны ўсім, хто рабіў яму дабро. Гэта ўзбагачае яго духоўна, робіць шчырым, сумленным і высакародным. Нашы людзі разумеюць дадзеную акалічнасць, чаму не ў малой ступені дапамагае і рэлігія, царква, касцёл. Сёння мы значна глыбей успрымаем усё, чым пры савецкай уладзе. Тады мы мыслілі аднолінейна, імкнуліся да канкрэтных каштоўнасцей.

Я добра памятаю тых людзей, якія ў розныя часы падтрымалі мяне і маральна, парадамі, і практычна. Найперш хачу назваць Уладзіміра Андрэевіча Калесніка. Ён не толькі выдатна выкладаў літаратуру, але і быў здольны на блізкую, шчырую, адкрытую гутарку. Мне зараз прыгадваецца аповесць Горкага «Мае універсітэты», дзе ён апісвае сваё дзяцінства, падлеткавы ўзрост, юнацтва. Там ён выказвае ўдзячнасць людзям, настаўнікам, якія вучылі яго жыццю, раілі, як паводзіць сябе ў тых ці іншых абставінах і сітуацыях. Я ўжо не помню, хто казаў яму: «Горек будешь – расплюют, сладок будешь – расклюют…» Горкі гэта і многае іншае запомніў. Нешта падобнае даводзілася чуць мне ад Калесніка: «Калі ты гаворыш з кім-небудзь

адным, то можаш быць шчырым да канца, а калі ўжо вас трое, то асцерагайся, бо пасля да цябе могуць быць розныя прэтэнзіі і прыдзіркі». Дужа каштоўная парада чалавека, які прайшоў партызанку, не раз быў на валасок ад смерці, пра што мы даведаліся ў тым ліку і з яго кнігі «Доўг памяці», вельмі глыбокай, змястоўнай, вынашанай кнігі мемуараў, якая ўздымаецца да «Былога і думаў» Герцэна.

Я вельмі ўдзячны Рыгору Саламонавічу Бярозкіну – глыбокаму, мудраму беларускаму крытыку і літаратуразнаўцу. У яго быў свой метад, сваё патрабаванне, якое заключалася ў тым, што ў паэзіі нельга хлусіць, сцвярджаць, прапагандаваць тыя ісціны, у якія ты, аўтар, сам не верыш. А гэта ж было тады вялікай праблемай. Паэты натхнёна пісалі пра партыю, Сталіна, камунізм, але калі пагаворыш з імі, то высвятлялася, што не кожны з іх верыў у тое, пра што пісаў. Бярозкін лічыў, што пісаць трэба пра тое, што ты ведаеш, што з’яўляецца табе блізкім, у чым ты ўпэўнены. Я намагаўся вывучаць асновы яго метаду і выкарыстоўваць у сваіх працах.

У першай палове 70-х гадоў я працаваў у ЦК КПБ, і было мне там часам вельмі нялёгка. Разам з тым я не мог, як у звычайнай установе, падаць заяву, звольніцца і перайсці ў іншае месца. Работнік ЦК, партыйная наменклатура, абавязаны выконваць распараджэнні партыйнага кіраўніцтва. Сёння ты з’яўляешся дырэктарам лазні, а заўтра цябе могуць прызначыць дырэктарам тэатра. Бярозкін бачыў мае цяжкасці і аднойчы кажа: «Валодзя, чаго ты баішся, а калі і без работы будзеш. У цябе на руках ёсць «фах», ты заўсёды сябе пяром пракорміш. Ты можаш пісаць артыкулы, рэцэнзіі, умееш аналізаваць мастацкі твор, літаратурны працэс. Газет шмат, часопісаў даволі – чаго ты баішся?..»

Бярозкін працаваў тады ў «ЛіМе», галоўным рэдактарам якога быў Нічыпар Пашкевіч. Пашкевіч пакідаў сваю пасаду, а той, хто ішоў на яе, папрасіў яго звольніць людзей, якіх ён некалі браў на працу. Сярод звольненых аказаўся і Рыгор Саламонавіч. Я спрабаваў дапамагчы яму знайсці новую працу, але нічога не атрымлівалася, пакуль у гэтую сітуацыю не ўмяшаўся Аркадзь Куляшоў. Ён пагаварыў з самім Машэравым, і неўзабаве Бярозкіна ўладкавалі адказным сакратаром толькі што ўтворанага бюлетэня «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі».

Бярозкін шмат мне расказваў пра сваё жыццё, свой лёс, сваю долю. Ён быў вельмі цікавым, глыбокім чалавекам, зведаў рэпрэсіі, многае перажыў. У 1940 годзе яго, студэнта педінстытута, забралі прама з цягніка, на якім ён вяртаўся, здаецца, з Беластока. Бярозкін прайшоў вайну ад Сталінграда да Берліна, узнагароджаны баявымі ордэнамі і медалямі. Ну, але яго жыццёвая доля была спалучана з місіяй крытыка. А пісьменнікі нас, крытыкаў, не вельмі шануюць.

Калі яшчэ хваліш яго, дык нічога, і то хвалі яго, а другога не, а калі робіш нейкія, нават бяскрыўдныя, заўвагі…

Я вельмі ўдзячны Саюзу пісьменнікаў, таму саюзу, які існаваў пры савецкай уладзе. Да мяне добра ставіліся і старшыня Максім Танк, і першы сакратар Іван Шамякін, і сакратары Барыс Сачанка, Іван Чыгрынаў, Анатоль Грачанікаў, Віктар Рабкоў, Анатоль Вярцінскі, Васіль Зуёнак. Усіх іх я ўспамінаю з вялікай цеплынёй і павагаю.

У ЦК КП Беларусі на пасадзе загадчыка сектарам мастацкай літаратуры я працаваў працяглы час. Думаю, што маё знаходжанне на гэтай пасадзе не нанесла страты мастацкай літаратуры. І Аркадзь Куляшоў, і Пятрусь Броўка, і Максім Танк, і Пімен Панчанка, і Васіль Быкаў, і іншыя, не кажучы ўжо пра Івана Шамякіна, змаглі сказаць у сваіх творах тое, што хацелі, хаця агульныя партыйныя ўстаноўкі сацрэалізму, безумоўна, рэгламентавалі пісьменніцкую творчасць, абмяжоўвалі яе і ў сэнсе зместа, і ў сэнсе формы. І не толькі творчасць пісьменнікаў, але і дзейнасць вучоных-гуманітарыяў, што я адчуў на самім сабе. Зрэшты, рэчы гэтыя агульнавядомыя, і пра іх можна было б не казаць, калі б крызіс у галіне тэорыі і метадалогіі гуманітарных навук тычыўся толькі нас, былых савецкіх, «ідэалагічна зашораных» вучоных-гуманітарыяў. На жаль, не. Светапоглядную, духоўную «недастатковасць» адчувае сёння гуманітарная навука па ўсёй Еўропе і ў Амерыцы. Зноў устаюць спрадвечныя пытанні: як пісаць, як жыць, як разумець свет? З’явіўся наогул недавер да тэарэтычных пабудоў, сёння больш увагі надаецца эсэістычнай інтэрпрэтацыі розных з’яў літаратуры і культуры, пісьменніцкім практыкам і падыходу.

Што датычыць майго індывідуальнага метаду, дык я заўсёды імкнуўся спалучаць гістарычнае з тэарэтычным, пранікнуць у абсягі эстэтычнага аналізу, паказаць адметнасць вобразнасці, вабнасць, прыгажосць, рэльеф мастацкага твора, каб можна было палюбавацца той духоўна-эстэтычнай рэальнасцю, якая складае яго змест. Мне здаецца, што літаратурная крытыка каштоўная якраз гэтым, хоць, зразумела, важнымі з’яўляюцца і сацыялагічны, і філасофскі, і маральны ракурсы даследавання. Яна найперш павінна даць глыбокі эстэтычны аналіз твора, раскрыць усё індывідуальна-аўтарскае ў ім. Я, напрыклад, вельмі рады, што і сёння чытаюць маю кнігу пра Янку Купалу, якая выйшла гадоў дваццаць таму, цікавяцца некаторымі іншымі працамі, асабліва манаграфіяй «Ад даўніны да сучаснасці». Праўда, крыху ўстарэла кніга пра Мележа, хоць многае захавала сваю актуальнасць, і асабліва тое, што датычыць пачатку XX стагоддзя, нашай класікі. А захавала актуальнасць таму, што я звяртаў увагу на духоўны, эстэтычны вектар мастацкага твора, пошукаў пісьменніка.

Працяглы час працаваў дырэктарам Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. У перыяд майго кіраўніцтва было створана некалькі абагульняючых прац па гісторыі беларускай літаратуры ад старажытных часоў (XI ст.) да нашых дзён, гісторыі яе сувязей і ўзаемадзеяння з іншымі, суседнімі, літаратурамі, шмат увагі ўдзялялася асобным пісьменнікам і творам. Уся гэта работа праведзена на абноўленай метадалагічнай аснове, з арыентацыяй на, так сказаць, «здаровы сэнс» і больш поўнае выкарыстанне мажлівасцей гістарычнага і параўнальна-тыпалагічнага падыходаў, у меншай ступені – структуралісцкага.

Канечне, літаратуразнаўства павінна ўмешвацца ў бягучыя сацыякультурныя працэсы ў плане сцвярджэння сістэмы сучасных жыццёвых каштоўнасцей. Яно мусіць клапаціцца аб тым, каб чалавек імкнуўся глыбей пазнаць сябе, сваю духоўную сутнасць, мусіць вучыць яго цнатлівасці, культуры, дабрыні, уменню цярпець і чакаць. Літаратуразнаўства – гэта своеасаблівы провад, які ідзе ад мастацкай літаратуры, яе пошукаў і здабыткаў да шырокага чытача, іх спажыўца. Чытач пазнаёміцца з творам і нічога не ўбачыць, часам нават самага галоўнага. А крытык яму давядзе: вось гэта паглядзі, на тое звярні ўвагу, пісьменнік па-новаму раскрывае наступную праблему, сцвярджае цікавыя і арыгінальныя ідэі. Павінна быць шчырая, зычлівая гутарка, адкрыты дыялог, без якога мы дарэшты замкнёмся ў сваім індывідуалізме. Індывідуалізм добры толькі да пэўнай мяжы, а калі ён ператварае чалавека ў нейкага анахарэта, адзіночку, то становіцца шкодным. Чалавек павінен гарнуцца да людзей, суседзяў, грамады, калектыву – такая дыялектыка жыцця на зямлі. Тут я згадваю думку сярэдневяковага мысліцеля, які адзначыў: «Калі я не за сябе, дык хто за мяне? Але калі я толькі за сябе, дык навошта я…» Сказана правільна.

Літаратуразнаўства павінна ствараць базу дадзеных па сваім навуковым профілі, рыхтаваць для дзяржавы звесткі пра тое, што чытаецца, карыстаецца попытам, а што не зусім, хто з пісьменнікаў і чаму запатрабаваны, праводзіць, вызначаць пэўныя сацыяльныя рэйтынгі і інш. Такія матэрыялы шырока публікуюцца ў замежным друку. Напрыклад, з маскоўскага часопіса «Новое литературное обозрение» мы можам даведацца пра тое, што найбольшым попытам у сучасным чытацкім свеце карыстаецца Біблія, на другім месцы «Уладар пярсцёнкаў» і г. д. Трэба вывучаць мастацкія творы, часопісы, чытача, грамадскую запатрабаванасць пісьменніка і літаратуры, а мы ўсё займаемся абстрактнымі разумовымі разважаннямі, ганім постмадэрнізм, як быццам ён прынёс нам найвялікшую шкоду ці несусветнае гора. Наяўнасць постмадэрнізму – аб’ектыўная закана-

мернасць. Дарэчы, ёсць светлы і ёсць цёмны ці чорны постмадэрнізм – усё на свеце мае два бакі ці два канцы, і на гэта трэба глядзець у плане нармальнай, здаровай жыццёвай дыялектыкі.

Мне хацелася б, каб мы, літаратуразнаўцы, былі бліжэй да жыцця, да сацыяльнай рэчаіснасці. Калі ў некага ёсць смак да сацыялагічнага даследавання – чаму б ім не заняцца? Чаму б, скажам, не паехаць на раён, у пэўнае мястэчка, не раздаць там нейкія апытальнікі, не правесці анкетаванне? Няхай людзі раскажуць, як яны разумеюць мастацкую літаратуру, якімі творамі цікавяцца, чаму чытаюць гэтага і гэтага пісьменніка, а таго забылі.

Я не таму стаў займацца прозай, што мне так захацелася. Тут пазітыўна адбілася пашырэнне ў нашым грамадстве сектара свабоды, калі ў гістарычным пазнанні выявілася мноства белых плям і раней не вядомых літаратурных імёнаў. Столькі ўсяго мы не ведалі і, зразумела, не маглі пра яго расказаць, і раптам такая магчымасць з’явілася.

Я, помню, аднаго разу паехаў у сваю вёску Кругель – гляджу і думаю: хто раскажа пра ўсё тое, што адбывалася на гэтай вуліцы, у гэтых мясцінах? Чаго тут толькі не было, якая тут толькі ўлада ні панавала. Толькі адзін я помню, як у верасні 1939 года ішла чырвоная кавалерыя, як прыехала аўтамашына з вялікай бочкай газы – налівала людзям у розны посуд, каб можна было асвятляць лямпамі хаты. Помню нямецкія абозы і танкі, стомленых каўпакаўцаў, вызваленне. Дык гэта – эпахальныя падзеі, а штодзённае жыццё, побыт… У кожнай хаце, на кожным падворку адбывалася нешта сваё, для кожнага канкрэтнага чалавека важнае і непаўторнае. Думаю, вось гэта энтрапія, як кажуць фізікі, усё праглыне і ніхто нічога не будзе ведаць. З аднакласнікаў адзін я звязаў сябе з філалогіяй, мовай і літаратурай. І мне ад пачуцця ўдзячнасці да сваіх продкаў, бабы і дзеда, бацькоў захацелася расказаць пра іх, пра тое, як яны жылі на гэтай старажытнай зямлі, працавалі, любілі, радаваліся і пакутавалі.

Я нешта ўспомню – занатую на паперы, пасля – яшчэ і яшчэ. Усё гэта паступова знаходзіла сваё месца, набывала пэўны парадак, выстройвалася ў суцэльную лінію. Я падкрэсліў, што мой раман напісаны ў духу барока. Што гэта азначае? Гэта азначае, што мая пісаніна – мазаічная, фрагментарная. Але я заўсёды помніў Льва Талстога, які казаў, што, каб падобныя старонкі звязаць, адпаведным чынам сфакусіраваць, патрэбны адзіны маральны погляд на з’явы і рэчы. Погляд з адной кропкі – патрабавальны, адказны, прынцыповы.

Паступова гэта авалодвала мною ўсё больш і больш. Я рабіў на асобных аркушыках паперы занатоўкі і не заўважыў, як трапіў у залежнасць ад гэтай сваёй пісаніны. Адбылося тое, што адбываецца з наркаманамі, алкаголікамі ці закаханымі. Жартаваў, жартаваў,

а потым – закахаўся… Шукалі Індыю, а знайшлі Амерыку… Такое здараецца з людзьмі. Стала так, што я ўжо павінен ці пачаць дзень з нейкага запісу, ці закончыць. Пры гэтым, ведаеце, навучыўся ўважліва слухаць. Нехта мне расказвае нешта, а я ці вузельчык на хусцінцы завяжу, ці непрыкметна запішу на паперыне. У гэтым плане я адчуваю шчырую ўдзячнасць да сваіх калег па Інстытуце літаратуры – Васіля Жураўлёва, Сцяпана Лаўшука, Тэрэсы Голуб, некаторых іншых, якія рабілі мне прыемныя падарункі. Напрыклад, ад Сцяпана Лаўшука ўпершыню давялося пачуць слова «зняверыць». Ён мне расказаў, які яго змест, што яно азначае, і гэта слова знайшло сваё месца ў маім тэксце.

Я не столькі пісьменнік, колькі расказчык, апавядальнік. Ёсць у нас новае слова – «наратыў», у перакладзе з французскай мовы яно азначае расказ, апавяданне ці, як цяпер кажуць, аповед. Дык вось я хутчэй наратыўшчык: нешта згадваю, расказваю, бармачу. Я зрабіў для сябе адкрыццё, што не ўсе думкі павінны быць істотныя, змястоўныя, важныя, афарыстычныя. Чалавек у натуральных, разняволеных паводзінах мае права і на нешта аблегчанае, нават абсурд. Якраз гэтым ён адметны і цікавы. Чалавек не заўсёды адчувае сутнасць моманту, ён часам гаворыць і робіць нешта зусім не адпаведнае пэўнай сітуацыі. А гэта і ёсць праўда пра яго, тая праўда, якая з'яўляецца і аб'ектыўнай і каштоўнай. У нашым жыцці шмат нечаканасцей, дзівосаў, парадоксаў, і да іх трэба быць падрыхтаваным.

Дык вось гэтыя два пачаткі, пра якія вы кажаце, у мяне дапамагаюць адзін аднаму. Справа ў тым, што я гісторык літаратуры, начытаны чалавек. Я ўсё ці амаль усё прачытаў – ад Гамера і Апулея да Казлова і Малахоўскага. Канечне, усю літаратуру не прачытаеш, але класічныя творы, знакавыя рэчы… Я чытаў Дантэ, Сервантэса, Мальера, Шэкспіра, Гётэ, Байрана, Гюго, Бальзака, Флабэра, Заля і, натуральна, не хачу паўтараць тое, што было да мяне. У той жа час мне добра вядома: груба кажучы, уся літаратура пра адно і тое ж. У яе аснове ляжаць пэўныя архетыпы, міфы, якія некалі хвалявалі Гамера, Шэкспіра, Талстога, Купалу, Кафку і Джойса і хвалююць сучасных пісьменнікаў. Гэта тое, што мы называем сэнсам жыцця, адносінамі да мінулага, бацькоў, Радзімы, чалавек і іншы чалавек, улада, вера, доўг, ідэал і інш. Кожны час дае на згаданыя пытанні свае адказы. І гэтага не трэба пазбягаць. Калі пра яго напісаць шчыра, вядома, чымсьці рызыкуючы, то будзе цікава і карысна.

Мастацкая літаратура павінна «ўкладваць» у жыццё духоўныя інвестыцыі. Яна з'яўляецца своеасаблівым інвестыцыйным праектам у адносінах да жыцця, які садзейнічае яго развіццю, абнаўленню і ўзбагачэнню.

Раней мне было лягчэй чытаць мастацкія творы, а не навуковыя, літаратуразнаўчыя, а цяпер наадварот. Праўда, розныя ёсць літаратуразнаўцы і іх працы. Часам з цікавасцю чытаеш кнігу ці артыкул, бо ў іх аўтара адметнае мысленне, свой стыль, арыгінальная лексіка, новыя словы, характэрная мяккасць, пластычнасць. Усё гэта прываблівае.

Так што празаічны і літаратуразнаўчы пачаткі ў маіх адчуваннях і мысленні паміж сабой не спрачаюцца. Я часам і ў літаратуразнаўчай рабоце магу ўжыць нейкі вобразны, мастацкі выраз, бо заўсёды імкнуся пісаць не суха, жыва, даходліва, проста, выкарыстоўваючы розныя новыя павароты і магчымасці. Мая проза цёплая, паэтычная, мяне цікавяць дэталі, падрабязнасці нашага штодзённага існавання, якія павінны грэць душу, выклікаць спагадлівую ўсмешку. Зрэшты, «паэзія» і «проза» як нейкія грані нашага светаўспрымання ўзаемадзейнічаюць паміж сабой, пашыраюць свае сферы адна за кошт другой і наадварот. Была б любоў і цікавасць да жыцця, астатняе прыкладзецца. А колькі паміж людзей «паэтаў» і «празаікаў», якія не пішуць ні вершаў, ні прозы?!.. Няпростае пытанне.

Што сказаць у заключэнне?

Лічу, што ўва мне, як і ў кожным чалавеку, закладзена нейкая матрыца, яна мною і кіруе, вядзе мяне па жыцці. Ад нараджэння да смерці. Ніколі не думаў над тым, як ашчасліваць чалавецтва, – на гэты конт у мяне няма ні ідэй, ні перакананняў, ні спакусы. Літаратурную творчасць я разглядаю як з'яву культуры, феномен агульначалавечага і нацыянальнага духоўнага жыцця, які павінен дапамагчы чалавеку глыбей зразумець самога сябе і больш цярпіма, са спагадай ставіцца да навакольнага. Літаратура закранае цяжкія для разумення аспекты чалавечай асобы, дзе мала прыдатныя іншыя спосабы. Літаратура вучыць любіць жыццё.

Як і кожны чалавек, люблю жыццё, люблю жыць. Мае паводзіны і ўчынкі кантралюе думка аб тым, што жыць даводзіцца толькі адзін раз – другой магчымасці не будзе. А калі так, то ты павінен увесь час шукаць нейкія стымулы, цікавае ўспрыманне жыцця, імкнуцца да радасці ад сустрэчы з людзьмі, з пэўнай парой года, прыродай, сонцам, ветрам, дажджом. За ўсё сваё некароткае жыццё я выпрацаваў у сабе якраз такі характар светаўспрымання, такія адносіны да людзей, з'яў і прадметаў, калі хочаце, такую філасофію. Давялося зразумець, што з узростам многае змяняецца, беззваротна адыходзіць у мінулае, але і з'яўляюцца новыя жыццёвыя стымулы, якія нясуць задавальненне, падымаюць настрой, абуджаюць душэўныя і творчыя сілы, як бы мацуюць цябе духоўна. Калі я быў малады, натуральна, сённяшні ўзрост мне быў незнаёмы і незразумелы.

Маладому чалавеку – нават самаму ўдумліваму і пранікліваму – цяжка ўявіць і прадбачыць, што такое старасць, якія яе адчуванні, беды і радасці. А калі сутыкаешся з ёю насамрэч, то ўсведамляеш, што адно можа ўстрывожыць і засмуціць, а другое, наадварот, узрадаваць і абнадзеіць.

Калісьці я гартаў альбом знакамітага мастака Рэмбрандта, які пакінуў пасля сябе шмат аўтапартрэтаў. Яго спадчына вельмі багатая, мы знойдзем у ёй і біблейскія сюжэты, і побытавыя, і карціны прыроды, але, па-мойму, больш за ўсё ён працаваў у гэтым жанры. Жанр аўтапартрэта Рэмбрандт вёў з маладосці да старасці, уважліва назіраючы за сабой, за тымі зменамі, якія адбываліся ў яго знешнім і ўнутраным абліччы. На твары становіцца ўсё больш і больш маршчын, неяк вузеюць, меншаюць вочы.

Мяне здзівіў і ўразіў адзін з самых апошніх аўтапартрэтаў Рэмбрандта, на якім ён – стары, шчарбаты і ўсміхаецца. Якраз скрозь усмешку і відаць, што ён шчарбаты. Рэмбрандт смяецца сваім шчарбатым ротам… Гэта такая загадкавая ўсмешка. Можа, такой жа самай загадкавасці і значнасці, як усмешка Моны Лізы Леанарда да Вінчы.

Гэтая ўсмешка шчарбатага Рэмбрандта мяне аж скаланула…

Таму не трэба крыўдаваць на ўзрост, на старасць – дай Бог кожнаму да яе дажыць. Дзякуй Богу, што Ён абярог цябе, абараніў, даў магчымасць дайсці да гэтага перыяду, дацягнуць да старасці. Усміхайся, як Рэмбрандт, сустракай маладое пакаленне, як пісаў, памятаеце, Пушкін: «Здравствуй, племя младое, незнакомое…» У гэтым пакаленні ў чымсьці і сябе маладога пазнаеш, а штосьці бачыш і новае, незнаёмае. Словам, жыццё застаецца цікавым і пасля сямідзесяцігоддзя.

Літаратура – гэта шлях да ісціны, імкненне яе спасцігнуць. Але праўда, ісціна, як і ўсё на свеце, – з'явы плынныя, цякучыя. Тое, што ўчора было праўдаю, сёння застаецца ёю не ў такой меры ці ступені, не ў такім разуменні ці плане. Вядома, фактычнае напаўненне рэчаў з'яўляецца пастаянным, але адносіны чалавека да пэўных падзей і працэсаў, яго меркаванні і ацэнкі змяняюца. Мяняецца змест паняццяў, сэнс слоў, узнікаюць новыя паняцці і словы, пра якія раней мы нават не чулі. Ну, што мы чулі, скажам, гадоў дзесяць-пятнаццаць таму назад пра такое паняцце, як «віртуальная рэчаіснасць»?

Адчуванне часу – добрае адчуванне, але варта памятаць, што не мы выбіраем час, а ён выбірае нас. Час – ці назавіце гэта – эпоха, лёс, неяк яшчэ – выбірае нас і будуе лінію нашага жыцця, жыцця грамадства, цэлых краін і кантынентаў. Паглядзіце, сёння сярод нас жывуць магутныя, аўтарытэтныя палітыкі, грамадскія і дзяржаўныя дзеячы,

дужыя, уплывовыя людзі, але законы дыктуюць не яны, іх усталёўвае час. Ён распараджаецца, каму, як і колькі жыць, якому быць чалавеку і свету, куды заўтра павярнуць сацыяльныя працэсы – улева, управа ці некуды яшчэ. Ва ўсякім выпадку, я лаўлю сябе на такой містычнай думцы. Можа, яна не ва ўсім абгрунтаваная, але часам падпільноўвае мяне.

Нас выбірае час, і ён нас ужо аднойчы выбраў – калі мы былі маладыя. Наша пакаленне называюць пасляваенным, сярэднім, філалагічным. Думаю, галоўнае мы ўжо зрабілі і сёння з'яўляемся людзьмі з мінулага. І не трэба засмучацца ад такой дэфініцыі. Катэгорыя «чалавек з мінулага» з'яўляецца ў пэўным сэнсе катэгорыяй імперфект, але яна не страціла сваёй актуальнасці і значэння. Гэта цікавая катэгорыя, якая напоўнена ёмістым зместам, валодае багатым гістарычным вопытам і здольна перадаць яго наступным пакаленням – нашчадкам, моладзі. Як бы некаторым з нас ні хацелася зноў ступіць у раку часу – не атрымаецца, гэта ўжо не наш час. Наша рака недзе дасягае акіяну і раствараецца ў водах, якія атуляюць увесь зямны шар. Няхай у кожнага будзе свая роля, сваё месца ў жыцці і свой час. Трэба цаніць і паважаць сённяшняе маладое пакаленне, не ісці з ім у рожкі, а імкнуцца падтрымаць яго на добрых пачатках. Тады і яно лепш зразумее нас.

*2008 год*



***Давідовіч***
***Сяргей Фёдаравіч***

## «УВЕСЬ Я ТУТ»

Мне пашчасціла нарадзіцца ў вёсцы Карпілаўка Лагойскага раёна Мінскай вобласці 20 ліпеня 1942 года. Вёска прыгожая і слынная. Праўда, прыгажосць яе засталася ў мінулым, бо ў гады вайны яна была спалена немцамі і адрадзіцца ў поўную сілу не здолела, а сёння маю вёсачку і яе пасляваенную ўтульнасць і натуральнасць знявечылі нязграбныя сучасныя пабудовы дачнікаў, якіх не цікавіць гісторыя гэтай зямлі.

Дзякуй Богу, слыннасць Карпілаўкі – на вякі!

Якая яшчэ вёска ў Беларусі можа ганарыцца тым, што ў розныя часы яе наведвалі Янка Купала, Максім Багдановіч, Зоська Верас, Уладзімір Галубок, Язэп Лёсік і іншыя вядомыя постаці таго часу!

Усё гэта сузор’е знакамітасцяў дапаўняе волат беларускай літаратуры Антон Іванавіч Лявіцкі (Ядвігін Ш.), які доўгія гады жыў у Карпілаўцы, дзе сярод іншых сваіх літаратурных твораў напісаў знакамітыя «Лісты з дарогі».

Значна пазней сюды наведваліся і завітвалі да мяне ў бацькоўскую хату Ніл Гілевіч, Генадзь Бураўкін, Алесь Пісьмянкоў, Уладзімір Содаль і многія іншыя сучасныя пісьменнікі і мастакі.

Куток гэтай зямлі на Лагойшчыне дарагі майму сэрцу і таму, што тут жылі і пахаваны мае бацькі.

З удзячнасцю і настальгічным душэўным болем успамінаю ўсіх сваіх аднавяскоўцаў, на прыстойнасці і годнасці якіх я выхоўваўся.

Тут сэрца грэе з году ў год
Мне кожны кут.
Адсюль я сам, адсюль мой род –
Увесь я тут.

Не ведаю, як хто, а я больш за ўсё на свеце не люблю пісаць сваю біяграфію. Мне здаецца, што гэта наўрад ці каму цікава, таму, прабачце, буду «галопам па Еўропам».

Скончыў 10 класаў, працаваў у калгасе, пасля тры гады служыў у арміі. Дэмабілізаваўшыся, застаўся ў Мінску, дзе ўладкаваўся на працу шафёрам у УМ-12. Нечакана працоўны калектыў накіраваў мяне (тады гэта было модна) на службу ў міліцыю, дзе працягваў «круціць баранку», але ў званні сяржанта міліцыі.

Паступіў на завочны факультэт вышэйшай школы МУС СССР, які скончыў праз пяць гадоў з чырвоным дыпломам. Прайшоў службовы шлях ад сяржанта да палкоўніка міліцыі. (Адчуваеце, наколькі гэта нецікава?)

У 1990 годзе быў абраны ў Вярхоўны Савет БССР XII склікання, дзе ў 1994–95 гадах узначальваў пастаянную Камісію Вярхоўнага Савета па пытаннях галоснасці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека, з’яўляўся членам Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

У 1994 годзе быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў Беларусі, а ў 1995 годзе – у Саюз беларускіх мастакоў.

Выдадзены наступныя літаратурныя творы:

«Спасцігнуў я тайну» (вершы). Мн.: МУС, 1991.

«Люстэрка лёсу» (паэма). Мн.: МУС, 1992.

«Люстэрка лёсу» (шэсць паэм). Мн.: Мастацкая літаратура, 1993.

«Нясу свой крыж» (вершы, паэмы, проза). Мн.: Мастацкая літаратура, 1995.

«Горкая кропля» (вершы, паэмы). Мн.: Мастацкая літаратура, 1997.

«Душы маёй бяссонніца» (проза). Мн.: Мастацкая літаратура, 1999.

«Святло сярод ночы» (паэма). Мн.: Бел. Экзархат, 1999.

«Гумарынку пад язык» (вершы, паэма, проза). Мн.: Харвест, 2002.

«Развод па-славянску» (проза). Мн.: Мастацкая літаратура, 2005.

Падрыхтаваў да друку зборнік выбранай лірыкі «Зямлі святая памяць», які, я думаю, неўзабаве ўбачыць свет у РВУ «Літаратура і Мастацтва».

У розныя гады напісаны песні з беларускімі кампазітарамі: І. Лучанком, Я. Глебавым, Э. Зарыцкім, Л. Захлеўным, В. Івановым, У. Буднікам і інш.

Як мастак працую ў жанры краявіду, рэлігійна-філасофскай, вяскова-бытавой, спартыўна-гумарыстычнай тэматыкі. Асаблівае месца ў творчасці займае Чарнобыльская трагедыя.

Правёў больш за сорак персанальных выстаў у Беларусі, Германіі (Берлін, Бон, Магдэбург, Гезіке), Польшчы (Варшава, Беласток, Гайнаўка, Ласк), Латвіі, Літве, ЗША.

У 2006 годзе, з благаслаўлення Мітрапаліта Філарэта, бясплатна распісаў купал храма святых першавярхоўных апосталаў Пятра і Паўла, пабудаванага ў 1706 годзе ў в. Жукаўка Мінскага раёна, за што быў узнагароджаны Беларускай Праваслаўнай царквой медалём свяціцеля Кірылы Тураўскага.

Выдадзены два мастацкія каталогі: выдавецтвам «Беларусь» – 1995 год, Мінскай фабрыкай каляровага друку – 2003 год.

Маё імя ўключана ў сусветную 80-томную энцыклапедыю «Мастакі ўсіх часоў і народаў», выдадзеную ў Мюнхене ў 1997 годзе (том 18).

У 2004 годзе Лагойскі райвыканкам прысвоіў мне званне «Ганаровы грамадзянін г. Лагойска».

Зараз – на пенсіі.

Жыву: зімой – у Мінску, летам – у Карпілаўцы.

Запрашаю ў госці.

*Кастрычнік, 2008 год*



# *Далідовіч*
***Генрых Вацлавіч***

## РАДАСЦЬ І БОЛЬ,
## АБО СПРОБА АЎТАБІЯГРАФІІ

Жыццёвы, творчы лёс кожнага пісьменніка складваецца ў сілу пэўных абставін. Я з’явіўся на свет 1 чэрвеня 1946 года ў былой Заходняй Беларусі.

На першы погляд, у маёй геаграфічнай прапісцы мала незвычайнага, але ўсё ж свая адметнасць ёсць: я, з аднаго боку, ужо не жыў пры капіталізме ці, як у нас казалі, «за польскім, панскім часам», а з другога – рос і пад яго ўплывам, і заадно пад націскам ужо новай, савецкай, рэчаіснасці менавіта ў нашых, пушчанскіх, мясцінах.

Ён, мой родны кут, пасля перамоў у сакавіку 1921-га ў Рызе дэлегацый Расіі, Украіны (беларускую не дапусцілі, яе паўнамоцтвы ўзяла на сябе Масква) і Польшчы, страціў самастойнасць (БНР, БССР). Як напісана ў энцыклапедычным даведніку «Беларусь» (1995, с. 639), «Расія выходзіла з вайны за кошт перадачы Польшчы Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны», праўда, з узаемнымі абяцанкамі

«даць усе правы для свабоднага развіцця нацыянальнай культуры, выканання рэлігійных абрадаў».

Ёсць думка, што «начэльнік паньства», Пілсудскі, жадаў абаўтаноміць заходніх беларусаў, але яго польскае шавіністычнае акружэнне не дало яму зрабіць такі высакародны жэст, наш край, як і маю малую радзіму, звяла да ролі «крэсаў усходніх».

Па польскай аграрнай рэформе 1919-га і па законе 1925-га і ў Заходняй Беларусі пачала праводзіцца камасацыя – г. зн. хутарызацыя. 90 працэнтаў лепшых зямель аддалі мясцовым багацеям і асаднікам – 4,5 тысячы ваенным і некалькім тысячам цывільным каланістам, якіх за заслугі польскі ўрад перасяліў сюды з цэнтральнай Польшчы, даючы ім надзелы па льготах, а то і задарма, каб яны і абагацелі, і заадно акаталічвалі ды паланізавалі «крэсавякаў». У лік астатніх 10 працэнтаў, каму дасталіся горшыя дзялкі, трапілі і мае дзяды: Уладзіслаў і Аршуля (да замужжа Емельяновіч) Далідовічы са старэйшым сынам Вацлавам (мой бацька) пакінулі в. Янковічы і пасяліліся за вярсты дзве ў Амшарку, Юзік і Зося (у дзявоцтве Шабуня) Чапроўскія з сынам і Дачкой Янінай (мая маці) аселі яшчэ далей на вярсты тры, у міжлессі, у Ляйтарках (тады Стаўбцоўскі павет Навагрудскага ваяводства, мясціны непадалёку Кроманя, нашых Налібак, навагрудскай Любчы і іўеўскіх Бакштаў).

У Далідовічаў было пяцёра дзяцей, у Чапроўскіх трое. Паколькі сем'і былі беднаватыя, то не ўсім з маладых маглі даць сваю зямлю. Маці, скончыўшы чатыры класы польскай школы (беларускія школы улады пазакрывалі, як і ў 1934-м старажытную, з 1539 г., блізкую ад нас Навагрудскую беларускую гімназію), пачала налоўчвацца на швачку, бацька, з поспехам узяўшы і сямігодку, таксама не меў сродкаў вучыцца далей, змоладу асвоіў кавальскую прафесію, стаў майстрам у гэтай справе, якой займаўся ў сваёй кузенцы ажно да 77 гадоў, памёр у 2004 годзе.

1939-ы, лепш сказаць тагачасныя чэкісцкія чысткі, абмінулі маіх родных, хоць усе былі запісаныя не толькі каталікамі, але і палякамі; ахвяры былі ў больш далёкай радні па матчынай лініі. Як вядома, у 1939–41-м і ў 1944–53-м з Заходняй Беларусі выслалі ў Сібір альбо расстралялі не толькі польскіх асаднікаў, але і больш за 100 тысяч не проста тутэйшага, але лепшага люду. Дык вось без дай прычыны вывезлі ў Сібір матчынага дзядзьку-ляснічага з сям'ёй (ох, і нагараваліся ж яны), а адзін з яе стрыечных братоў, настаўнік, падзяліў лёс польскіх афіцэраў у Катыні. У наш край хлынулі новыя прагныя да ўлады і заможнага жыцця асаднікі – на гэты раз з усходніх абласцей і з Расіі – ва ўсе партыйныя і дзяржаўныя структуры (не дарэмна ж напярэдадні забаранілі КПЗБ, каб не дапусціць

тысячы яе сяброў да ўлады. Новыя пасланцы пачалі выцясняць усё карэннае, уводзіць свае норавы, сімвалы, святы ды атрыбуты і русіфікаваць. 1930-я гады – калі не генацыд, то гвалт над беларусамі нашымі, здавалася б, братнімі суседзямі. Горка пра гэта гаварыць, але трэба: слова з песні не выкінеш.

Ды маіх дзядоў не абышла бяда: маладыя, не маючы яшчэ і пяцідзесяці, яны амаль адначасова памерлі на пачатку вайны. Матчын бацька ад раку, бацькаў – недарэчна, ад хворага зуба, што сапсаваў кроў. Адпаведна, я не меў шчасця знацца хоць з адным дзедам. Як не ведаю і былых нашых хутароў, вёскі: іх у 1943-м спалілі немцы і іхнія памагатыя, а люд вывезлі ў Германію. Матчыная радня паспела схавацца ў пушчы, а бацька здолеў уцячы па дарозе ў Стаўбцы і ўсю вайну туліўся бежанцам у чужых гаспадароў.

Пасля вайны Вацлаў Далідовіч і Яніна Чапроўская сышліся і зладзілі на хутары Амшарку зямлянку, пачалі будаваць хатку, аднымі з першых прадоўжылі наш, янкоўскі, род далей, калі ў іх заявіўся я, першынец (усіх нас, дзяцей, у іх шасцёра: Ганна, Рычард, Янка, Яніна, Ірына – бухгалтар, шафёр, рабочы, настаўніцы беларускай мовы і літаратуры). Я не ведаю вайны, але яна і мне сніцца жахамі – ад бацькоў, ад іхніх небяспечных варункаў з немцамі, паліцэйскімі, польскімі і з савецкімі партызанамі, беларускімі вайсковымі сіламі, ад таго, што сам ужо неўсвядомлена адчуваў, калі пасля вайны на хутары заяўляліся ўзброеныя чэкісты, лесавікі (ці наадварот: лесавікі-чэкісты), калі маці, дрыжучы перад далёка не ветлівымі «гасцямі», туліла мяне, немаўля, да сябе і прасіла-маліла Бога, каб усё абышлося добра... Была ў яе вялікая навука ўмець, што, як і каму гаварыць. Цаной за словы часамі было жыццё...

У Амшарку мы жылі да 1961-а, да ссялення хутароў, затым перабраліся ў Янковічы, на нашу дзедаўшчыну. Пра наш, мой Амшарок з усімі яго вясенне-летнімі і асенне-зімовымі фарбамі, морам жыта і загонаў бульбы, мноствам пчол і розных кузюрак, перыпетыямі жыцця я паспрабаваў напісаць у дыпціху «Спечаныя яблыкі на галінах» і «Саладуха», у трыпціху «Цяпло на першацвет», у апавяданнях «Хутар Амшарок», «Стась і Аксана», «Гэлька», «Маня», «Аплявуха», у аповесці «Жывы покліч», рамане «Заходнікі», хоць, канечне ж, гэтая тэма яшчэ не вычарпаная.

Сёння ні аднаго з нашых былых хутароў няма, але Амшарок усё роўна ёсць, яго «чую» і «бачу», хоць зараз там толькі астравочак сярод поля са здзічэлым лужком, урослымі ў зямлю камянямі з падмуроўкі, з бітай і размытай дажджамі цэглай, са струхлелымі пнямі ад былых дрэў – гэтае сіроцтва абуджае памяць, радасць і боль ад

запакінутага табой жа... Тым больш, калі тое, хутарское, выводзіць і на наш дзень, і на даўнюю гісторыю, на наша жыццё і выжыванне ў розных умовах і, урэшце, на нашу нацыянальную ідэю, на асэнсаванне і ўвасабленне мастацкімі сродкамі характару, стылю жыцця нашага люду.

Нельга не задаць пытанне хоць самому сабе: хто мы і дзеля чаго? Толькі для ролі «крэсавякаў» ці «населенія северо-западной губернии?» Ва ўсёй Еўропе мы, бадай, толькі адны такія небаракі альбо недарэкі!

Грэшны, я таксама не адразу зразумеў многія простыя рэчы наконт вышэйсказанага. Пэўны час жыў у каталіцкім асяроддзі, дзе амаль кожны не хацеў быць – «хлопам», «хамам», засвоіўшы, што гэта – найперш бедныя прыгнечаныя, а то і самаўніжаныя, г. зн. беларусы, а пэўны перыяд, нават ва універсітэце, саромеўся, што «хуторянін», «деревенщіна», але Бог (дзякуй яму за гэта) не; пакараў галоўным: я, бадай, ніколі не бянтэжыўся за бабуліную і матчыную мову (яны, як самі казалі, гаварылі «папросту», але іхняя «прастата» была з беларускамоўных залацінак) і заўсёды паважаў і паважаю сваіх землякоў. Амаль усе яны, старэйшыя, – бывалыя людзі (служылі ў царскай, затым польскай і савецкай арміях, зведалі не адну акупацыю, пабылі ў Польшчы, Расіі, у Германіі, сербанулі ліха, але заадно і яшчэ таму навучыліся, аб’еўрапеіліся), у ліхалецці падтрымлівалі адзін аднаго, без чужых вачэй і вушэй гаварылі праўду, скажам, яшчэ пры жыцці не ва ўсім ухвалялі Сталіна і ягоную сістэму за хлусню, страх, зладзейства і забойствы людзей. Яны добра працавалі ў калгасе, але лічылі яго прыгонам, а з-за таго, што ў многіх адабралі зямлю, пакінулі толькі па трыццаць–сорак сотак, моладзь пачала дружна сыходзіць з вёскі: хто падаўся ў гарады, хто – на паўночныя лесанарыхтоўкі, у Данбас, на цаліну, а пасля 1956-га адбылася другая хваля выезду ў Польшчу, каб там завесці сваю ладную гаспадарку.

На хутары, зразумела, не было электрычнасці, тэлевізара, ды не ўсе рана кладліся спаць, многія нават з далекаватых хутароў любілі прыходзіць да нас, у каго было радыё і каму прыходзіла раённая газета «Ивенецкая правда», а мой бацька ўмеў складаць розныя петыцыі і афармляць усякія дакументы, тыя бяседы (амаль заўсёды без гарэлкі, а калі выпівалі, дык зусім мала), як і гутаркі мужчын на лузе ў цяньку, калі яны прысядалі адпачыць і абмяркоўвалі падзеі ад нашай вёскі да «Амэрыкі», асцерагаючыся ўжо новай, атамнай, вайны, гаманіна, песні, слёзы жанок і дзяўчат, хлапечыя штукарствы пад той час, калі ў нас па вечарах дралі пер’е ці ткалі, – усё гэта паволі ўводзіла мяне ў дарослы свет, было адмысловым жыццёвым

універсітэтам. Скажам, мой стрыечны дзед, Стэфусь Шабуня, да 1939 г. адзін з самых заможных сялян і які цудам ацалеў ад Сібіры, быў непісьменны, але любіў слухаць навіны з Варшавы, Масквы і «Лондона», мог спрачацца «па палітыцы» і з настаўнікамі, тым больш, што меў фенаменальную памяць на розныя падзеі, прозвішчы палітычных дзеячаў і нават з далёкіх невялікіх краін. Дарэчы, яго як добрага гаспадара абралі першым старшынёй нашага калгаса, і я, вучань, памагаў яму пісаць справаздачы, вучыў яго распісвацца, да апошніх дзён жыцця яго карыстаўся ягонай павагай. Ён нават падказваў: «А ты во пра тое напішы». Быў выдатны і справядлівы паляўнічы, любіў тонкі гумар. Адным словам, ён для мяне адмысловы вясковы акадэмік. З ім раіўся нават новы старшыня калгаса, бранскі ўраджэнец і былы партызан, які лічыў місіяй укараняць тут сацыялізм, калгасную сістэму і, маючы энергію, спрыт, спажываючы гаспадарскую жылку маіх землякоў, вывеў калгас у перадавыя. Не лішне будзе сказаць, што мае невялікія Янковічы не раз станавіліся лепшай брыгадай раёна.

Як толькі помню сябе, помню і тое, што заўсёды працаваў: пасвіў гусей, свіней (катаўся на іх, як і на баранах), кароў, рваў і жаў траву, касіў, рэзаў і калоў дровы, араў і, урэшце, гадоў пад дзесяць дарос ужо да кавальскага памочніка – раздзімаў горн, круціў тачыла і зубіў з бацькам сярпы. Адзін з бацькавых урокаў запомніўся на ўсё жыццё і цяпер для мяне вялікая навука: гатовыя сярпы я насіў на поле, дзе маці жала імі і правярала наша ўмельства. Калі аднойчы забракавала адзін, дык бацька зноў шухнуў яго ў агонь. Бачачы, што я засмуціўся ад паўтору работы, бацька сказаў мне: «Запомні на ўвесь свой век: рабі ўсё так, каб ніхто ніколі цябе не папікнуў за неахайнасць. Вось тады і будуць паважаць цябе людзі». А мае сябры, нашы гульні і прыгоды, дружбацтва і бойкі, першае каханне! На маіх кнігах пазначана маё імя, але ў некалькіх як невялікіх, так і буйных творах зусім рэальны жыццяпіс тых, з кім знаўся, не было б іх – не было б і маіх многіх апавяданняў, аповесцей і раманаў. А бабуля Зося з яе багатым веданнем назваў траў і птушак, з яе доўгімі расказамі пра сваю маладосць! А наша красуня, працавітая і добрая, ад вайны і вечных турбот рана пасівелая, у 50 гадоў памерлая маці! Колькі радасці, шчасця ад яе, але і колькі маёй рознай віны перад ёю!

Менавіта маці змалку навучыла чытаць па-польску і па-беларуску, арыфметыкаваць да тысячы, таму ў першым класе Янковіцкай пачаткоўкі (1953) мне магло б быць нецікава пераазнаёмлівацца з тым жа «Букваром», складаць і адымаць адзінкі, ды паспрыяла тое, што нас вучыла маладая, абаяльная і адукаваная Вольга Кірылаўна Ігнацьева, яна цікава расказвала, хораша спявала, умела далучаць

да кніг, а мяне, даючы розныя дадатковыя заданні (сачыненні, ізлажэнні), лічу, натхніла на творчую працу. У пятым-сёмым класах вучыўся ў Налібаках, што ад нас за вёрст шэсць, дзе касцёл, цэнтр нашай парафіі, магілкі; дзесяцігодку скончыў у таксама няблізкай, за вёрст сем, Дзераўной – самай вялікай вёсцы нашага раёна, што мноствам вуліц, магазінаў, касцёлам з 1590 года ў дзяцінстве здавалася мне горадам. Вясной і ўвосень ездзіў туды на веласіпедзе, зімой хадзіў пешкі (з дому выбіраўся яшчэ ў гадзін шэсць, бывала, літаральна поўз па снезе, а каб было смялей ісці праз прылесак Налібацкай пушчы, нёс жароўню – прадзяўбаную, з-пад фарбы, пасудзіну, дзе гарэла карчажка ці гума). Аўтобусаў не было; машыны зімой хадзілі вельмі рэдка, толькі вельмі рана шыбавалі ў пушчу, на Шубін, гусенічныя трактары, цягнучы за сабой цяжкія, з бярвенняў, трохкутнія сані – расчышчалі дарогу, каб услед рушылі іншыя, нармальныя сані, запрэжаныя коньмі. Трактары, спяшаючыся, не запыняліся і лапаталі досыць шпарка, дык вось мы станавіліся паабапал замеценай дарогі і намагаліся ўскочыць на сані, на дашчаны насціл, каб даехаць да тых жа Налібак. Аднойчы для мяне такая спроба ледзь не скончылася пагібеллю: ускочыў на сані, а там няма насцілу, ды на сваё шчасце імгненна здолеў уплішчыцца на перагародку з тоўстых бярвёнаў, якая і выратавала, хоць хвілю раней магла зраўняць блінам з умерзлым долам (гэтаму майму выпадку Казімір Камейша, з якім заканчвалі адну школу, прысвяціў верш «Сані», бо і ён пад'язджаў вось такім чынам). Калі вярталіся дахаты, спрабавалі падчапіцца на іншыя сані, і не раз возчыкі, што сумавалі за доўгую дарогу і ў вёсках весела жартавалі з сустрэчнымі маладзіцамі, тым не менш жорстка адганялі нас і, было, хлісталі пугай, каб пашанаваць зморанага каня.

Першую заметку ў «Ивенецкой правде» надрукаваў недзе ў сёмым класе, крыху пазней стаў няштатным карэспандэнтам новай нашай раённай газеты, стаўбцоўскага «Праменя», а затым – і «Сельской газеты». Пісаў зразумела, на мясцовыя тэмы і, натхняючыся ўхвалой землякоў ды іхнімі падказкамі, часамі не так, як хацелася старшыні калгаса, які хацеў толькі ўхвалы. Ён і страшыў, і ўгаворваў не пісаць, нават падкупліваў. Бацькі не натхнялі, і не забаранялі брацца за пяро. Адпаведна, намерыўся паступаць на журналісцкае аддзяленне і ўлетку 1963-а заявіўся ў Мінску. Але «выбіцца» ў журналісты не ўдалося: паколькі не было працоўнага стажу, проста не ўзялі дакументы. Падаў іх на філфак, на беларускае аддзяленне. І там – амаль той жа закон: туды бралі 75 працэнтаў стажнікаў і 25 нас, сёлетніх выпускнікоў – карацей, не хапіла нейкага паўбала, каб паступіць. З сорамам і слязьмі вярнуўся дамоў. Бацькі засмучаныя,

той-сёй ухмыляецца, старшыня ўсцешаны. Праўда, ён і першы падаў руку: прыладзіў памочнікам камбайнёра з той умовай, што затым стану брыгадзірам, а пазней буду паступаць вучыцца на агранома. Не ведаю, які быў бы з мяне аграном альбо кім бы стаў у Польшчы, каб мы туды выехалі, але праз месяц я з лёгкай рукі Ніла Гілевіча і Алега Лойкі трапіў у студэнты, «пачаў грызці граніт навукі», пісаць прозу. Самае-самае першае апавяданне, здаецца, з назваю «Дзічка» надрукавала філфакаўская насценная газета. Твор той згубіўся, але я ім адкрыўся, што пішу на нецікавых лекцыях. Дэбют як празаіка ў друку адбыўся ў 1966-м, калі стаўбцоўскі «Прамень» змясціў маё апавяданне «Дзе ты, мая Гражына?». З літаратурных часопісаў першым мяне падтрымаў часопіс «Маладосць», дзе Міхась Стральцоў і Алесь Асіпенка паспрыялі ў 1968-м апублікаваць апавяданне «Ліст да Олі».

У 1968–1973 гадах служыў у арміі, настаўнічаў на Барысаўшчыне (вёска Шабынькі, у чатырох настаўніцкіх аповесцях «Усё яшчэ наперадзе», «Міланькі», «Завуч» і «Дырэктар» Шабынькі пазначыў на літкарце Міланькамі). У 1973-м Барыс Сачанка і Іван Пташнікаў параілі перабірацца ў Мінск, пачалі хадатайнічаць, каб мяне ўзялі на працу ў часопіс «Полымя», дзе я ўжо таксама надрукаваўся і дзе цёпла ўхвалілі, адзначыўшы прэміяй года, мой трыпціх «Цяпло на першацвет» – адну з маіх першых спроб расказаць пра тое-сёе маё, амшароўскае і з ім пайсці «у свет вялікі» (цёпла падтрымаў незабыўны Іван Мележ). Алесь Пальчэўскі і Тамара Цулукідзе па просьбе Уладзіміра Дамашэвіча прапісалі ў сваёй кватэры, Кастусь Кірэенка залічыў на працу ў аддзел прозы «Полымя», Алесь Жук і Анатоль Кудравец падсобілі хутчэй выйсці маёй першай кнізе «Дажджы над вёскай» (1974), Іван Мележ парэкамендаваў афармляць дакументы на прыём у Саюз пісьменнікаў, куды я аднагалосна і трапіў у тым годзе. Іван Шамякін дапамог атрымаць кватэру, пазней Алесь Петрашкевіч хацеў узяць на працу ў ЦК КПБ, але туды я не патрапіў з-за таго, што Генрых ды яшчэ Вацлававіч, са згоды галоўнага «Маладосці» Васіля Зуёнка ў 1979-м стаў яго намеснікам, а з 1991 – па прапанове калектыву рэдакцыі і галоўным.

Я не выпадкова назваў шмат прозвішчаў нашых пісьменнікаў (магу і яшчэ называць, скажам, Аляксея Кулакоўскага, Пімена Панчанку, Анатоля Грачанікава, Міколу Ермаловіча, Вячаслава Адамчыка, Алеся Марціновіча і г. д.), бо адчуваў ад іх неабходную рознабаковую падтрымку. Праўда, гэта не значыць, што ўсё ў мяне зусім бясхмарнае, бо зведваў і нашэпты, і абразы, і помсту – нават за тое, што з кімсьці не згаджаўся і адстойваў сваю думку наконт пэўных літаратурных з'яў. Я гэта не забыў, але ні з кім не хачу паквітацца:

як вядома, нават насуперак сабе воўк, падпільноўваючы і ганяючы аленя, не заўсёды дасягае свайго, а вось аленя гэта строга вучыць і развівае ягоныя развагу і бег... Не ведаю, хто з маладых што скажа пра мяне, але шчыра намагаўся падтрымаць у «Маладосці» і яе «Бібліятэцы» усё здольнае, як і ў творчасці равеснікаў і старэйшых калег. Пакінуў працу ў «Маладосці» ў 2002 годзе.

Першыя кнігі «Дажджы над вёскай» (1974), «Цяпло на першацвет» (1976), «Маладыя гады» (1979), «Міланькі» (1980), «На новы парог» (1982), «Станаўленне» (1985) – апавяданні і аповесці – пра маё дзяцінства, настаўніцкую працу, пра лёс так званых неперспектыўных вёсак (а да іх маглі залічыць і мае Янковічы, паколькі там крыху за шэсцьдзесят двароў), пра асобныя рэаліі гарадскога жыцця. З узростам глыбей асэнсоўваючы лёс землякоў, увогуле ўсіхнага нашага люду, яго карані, задумаўся: а, уласна, якая наша гісторыя, нацыянальная ідэя, будучыня? Адсюль спроба сродкамі прозы на тым дакументальным матэрыяле, што ўдалося здабыць у часы КПСС–КПБ у спецсховах, выказаць думкі пра ўтварэнне нашай дзяржаўнасці на пачатку гэтага стагоддзя, у 1917–1919 гады: раманы «Гаспадар-камень» (1986), «Пабуджаныя» (1988) і «Свой дом» (1992), дзе намагаўся расказаць пра пакутніцкія шляхі БНР і БССР. Першы твор уводны, з дарэвалюцыйнай рэчаіснасці, з улікам таго, што і як пра той час пісаў Якуб Колас («Новая зямля», «У палескай глушы», «У глыбі Палесся») і асабліва з асэнсаваннем нацыянальнага элементу ў прозе Максіма Гарэцкага. Любоўны трохкутнік (Зося, Янка, Віця) – з расказаў бабулі Зосі пра асабіста-інтымныя варункі яе равеснікаў, а лёс настаўніка Алеся Нямкевіча – у пэўным сэнсе трагедыя матчынага дзядзькі-настаўніка. Другі раман непасрэдна пра бурны і спрэчны 1917 год, пра беларускую справу ў Мінску і па-за ім. Тады я, зразумела, яшчэ не мог усіх сваіх герояў назваць сапраўднымі імёнамі (трылогію пачаў пісаць у 1980-м), асабліва тых, хто быў ашальмаваны як «буржуазный националист», лічыўся ворагам з ворагаў, дык прыбёг да таго, каб схаваць іх за псеўданімы і ўжо не ачарняць іх, лепшых сыноў народа, а сказаць пра іх нарэшце належнае слова. «Свой дом» прысвечаны працэсу ўтварэняя БССР, вялікай ролі ў гэтай справе Зміцера Жылуновіча (Цішкі Гартнага).

«Гаспадар-камень» з аднайменнай трылогіі найбольш шчаслівы: ён адзначаны прэміяй Саюза пісьменнікаў Беларусі імя Івана Мележа, пазакласна вывучаецца ў школе, па ім пастаўлены радыёспектакль, двойчы перавыдаваўся, па ім абараняюцца дыпломныя і дысертацыі, яго хацелі экранізаваць, але... маўляў,

няма сродкаў, хоць на небеларускія творы і сцэнарыі грошы знаходзяцца... «Пабуджаныя» і «Свой дом», дзе, на маю думку, столькі пра такія важныя рэчы, як наша дзяржаўнасць, нібы ў цяні. Можа, і таму, што там аслаблены любоўныя лініі, даволі шмат ужыта неабходнага дакументальнага матэрыялу, а апошняе, як заўважана, не ўсімі чытаецца з ахвотаю (ёсць такія, хто апускае пры чытанні апісанні прыроды, філасофскія разважанні і інш). Хоць, можа, каб у двух апошніх творах былі сапраўдныя імёны, тых жа Луцкевічаў, Іваноўскіх, Ластоўскага, Лёсіка, Гаруна, Серады, Варонкі і г. д., то яны маглі б больш зацікавіць. Што ж, прыязна жадаю камусьці іншаму ўзяцца за гэтую справу і ўсё зрабіць так, як трэба, а мае напрацоўкі няхай будуць падмогаю.

У канцы 1980-х і на самым пачатку 1990-х, у «Гарбачоўскую адлігу», калі слабелі пазіцыі markup рознага роду цэнзуры, я спажыў свой шанец, каб яшчэ раз «вярнуцца» у Амшарок і Янковічы, у былы раённы цэнтр Івенец, у іншыя мясціны і напісаць пра тое, што чуў ад людзей і што ведаў сам, але да чаго яшчэ мала дакранаўся. Вось у вялікім натхненні і з’явіўся раман «Заходнікі» (1994), як бачна, даволі з наўмысна задзірыстай назваю. Асабіста для мяне гэты твор важны яшчэ і дзвюма рэчамі: тут кніга ў кнізе (дзённік галоўнага героя), і тут я, бадай, упершыню паспрабаваў ужыць элементы гумару і сатыры, а то і парадыйнасці, улічваючы, што і як у гэтым сэнсе рабілі, скажам, Янка Брыль у «Ніжніх Байдунах» і рускі пісьменнік Барыс Мажаеў у многіх сваіх творах. Невялікі па аб’ёме раман «Заходнікі» нават нечакана для мяне самога вылучыўся – прэміямі часопіса «Полымя», бібліятэк і выдавецтва «Юнацтва», Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь, перакладам на рускую мову, перавыданнем у серыі «Школьная бібліятэка», дзе ўхвальныя прадмова Алеся Марціновіча і пасляслоўе Івана Шамякіна, што ўсё разам узятае радуе, але і змушае да яшчэ большай адказнасці за кожнае сваё слова.

Думка пра яшчэ даўнейшую, чым 1917–1919 гады, гісторыю ды яшчэ пад магутным уздзеяннем даследчай кнігі Міколы Ермаловіча «Старажытная Беларусь», якую я першы з маладосцеўцаў прачытаў у рукапісе, паклікала збіраць па кроплі матэрыял пра XIII стагоддзе на нашых землях – г. зн. пра той для адных страшны, для іншых спрыяльны час, калі сённяшнія расійскія і ўкраінскія, а затым многія заходнееўрапейскія абшары літаральна стапталі сотнямі тысяч коней татара-манголы, а наш край толькі зачапілі па акраінах (можа, і не спадабаліся стэпавікам нашы балоты і лясы, што не давалі прастору полчышчам), дык вось ацалелы наш люд пачаў множыцца, багацець, дужэць і не пакутаваць ад пытання, каму ж падпарадкавацца, а пачаў ствараць сваю дзяржаву вакол расквітнелага

Навагрудка (Навагародка ці Ноўгарадка). Шэсць гадоў асэнсоўваў летапісы, хронікі, кнігі на розных мовах, як кажуць, «расшчапляў» факты, даты, падзеі, людскія ўчынкі, выстройваў сваю лінію, каб урэшце стварыць раман-хроніку «Кліч роднага звона», першая частка яго друкавалася ў «Полымі» ў 1995-м (кнігай асобна выходзіла ў «Юнацтве» ў 1997-м), другая – у «Полымі» ў 1999-м у № 8, 9, 10.

Амаль 20 апошніх гадоў лепшых сваіх сіл аддаў раманам і на сабе пераканаўся: наколькі гэта цяжкая справа. Ды яшчэ не раз і не два апускаліся рукі, назіраючы за тым, як наш люд аддаляе сваю будучыню. Тачыла душу згрызота: а ці трэба ўсё гэта каму?

Ды вёў сваё далей, бо рукі могуць апусціцца і ў іншых, дык многія з нас будуць вінаватыя, калі нешта патрэбнае недагледзелі ці ўпусцілі: прыйдзе новы наш наступнік і запытае строга: а дзе вы былі, чаму таго і таго не зрабілі? У перапынках паміж раманамі, часткамі, нават раздзеламі, каб супакоіцца, але не расслабіцца і не зняверыцца, пісаў кнігу пра лепшыя чалавечыя пачуцці, пра тое, што молада, парывіста, часам апантана хвалюе наша сэрца, высакародзіць душу, робіць яго і яе блізкімі і дарагімі адно аднаму і што спрыяе чалавеку стаць Чалавекам. У 1996-м гэтая кніга выйшла пад назваю «Жар кахання. Апавяданні пра жанчын», але, паколькі на яе ёсць цёплыя водгукі, некаторыя чытачы нават шукаюць яе праз аб’явы, то цыкл гэтых твораў працягваю, бо працягваецца мая вера ў чалавека, у яго лепшыя, у тым ліку і святыя пачуцці. Мару стварыць том прозы, у якім было б чатыры раздзелы: узбуджэнне першага, дзіцячага пачуцця, зараджэнне юнацкага кахання, паводка пачуццяў і ў сапраўдным сэнсе жар кахання, а заключыць кнігу хваласпевам сям’і, хоць у ёй, сям’і, бываюць розныя нюансы і перыпетыі.

Хачу напісаць раман пра Грунвальдскую бітву, у якой нашы продкі ўзялі чынны ўдзел і нямала пралілі сваёй крыві дзеля перамогі над крыжакамі, дзеля сваёй Радзімы, гэта была эпоха Вялікага Вітаўта – аднаго з самых слаўных сыноў зямлі нашай і аднаго з самых буйных дзяржаўцаў свайго часу. А таксама вабіць напісаць некалькі аповесцей пра лёс заходнебеларускай моладзі адразу пасля вайны, калі яна замест інстытутаў, школ, бібліятэк не па сваёй волі гібела на сібірскіх лесапавалах і ў рудніках, на тэму сённяшняга горада. А гэта значыць, што наперадзе зноў праца – пошукі, творчая радасць і сумненні.

Жанаты. Жонка Марыя, Нічыпарава дачка, – гісторык, даследуе і прапагандуе творчасць Якуба Коласа ў яго музеі, сын Віталь і нявестка Ганна – журналісты, іхні сын, мой унук,Уладзіслаў (імя ў гонар прадзеда), збіраецца ісці ў першы клас. Дачка Людміла – філолаг. Усе працуем найперш з беларускім словам, хоць некаторыя з маіх сямейнікаў ведаюць па некалькі моў.

У вольны час люблю дачнічаць на некалькіх выдзеленых нам, літаратарам, сотках, сам выводжу насенне агуркоў, кабачкоў, памідораў, прышчапляю дрэвы і як бы зноў адчуваю сябе на хутары Амшарку, стамляючыся ад горада.

На пачатку 2000 года ў выдавецтве «Юнацтва» маецца выйсці раман-хроніка «Кліч роднага звона» асобнай кнігаю і ў поўным аб’ёме. З гэтым і будзе мой уваход у новую эпоху.

Снежань 1999 года

P. S. «Кліч», прысвечаны Міколу Ермаловічу, сапраўды, тады пабачыў свет. Але… Я пазваніў Міколу Іванавічу, пахваліўся, што маю сігнальны экзэмпляр, што падару яго яму (у свой час ён першаму мне падараваў сігнальны экзэмпляр сваёй «Старажытнай Беларусі» ў знак падзякі за падтрымку), меліся сустрэцца ў панядзелак. Ды напярэдні яго не стала.

З красавіка 2003 года шмат сіл аддаю «Краязнаўчай газеце» як і чорнарабочы журналіст, і намеснік галоўнага, каб патрэбнае выданне было на ўзроўні.

*2008 год*



***Дудзюк***
***Зінаіда Іосіфаўна***

## З ПАЧУЦЦЁМ ЛЮБОВІ

У мяне шмат любімых мясцін на Беларусі, Украіне і ў Расіі з-за таго, што мае бацькі некалькі разоў мянялі месца жыхарства. І калі я азіраюся назад, дык разумею, што ўсё гэта не выпадкова. Без тых дзіцячых уражанняў я была б зусім іншым чалавекам, з інакшым жыццёвым досведам і разуменнем з'яў, якія адбываліся ў грамадстве і свеце.

Нарадзілася я 3 сакавіка (у пасведчанні аб нараджэнні запісалі 29 сакавіка) 1950 года ў вёсцы Слабодка на Браслаўшчыне, але пражыла там усяго тры месяцы. Тую дзівосную азёрную старонку я разгледзела ўжо ў сталым узросце, калі была ў камандзіроўцы ад Бюро прапаганды мастацкай літаратуры з пісьменніцкаю брыгадаю.

У раннім маленстве мяне часта вазілі да дзеда на Гомельшчыну, у вёску Чаплін, якая стаіць на стромым беразе Дняпра. Дагледала мяне цётка Каця, старэйшая маміна сястра. Помню сябе з гадоў трох, тады маімі цацкамі былі падручнікі, па якіх вучыўся цётчын

сын, мой дваюрадны брат Толя. Пасля заняткаў ён закідваў сваю школьную торбу на печ, абедаў і бег да хлопцаў, а я гартала кніжкі, разглядвала малюнкі і спяліла вялікую прагу хутчэй навучыцца чытаць. Пры ўсялякай зручнай нагодзе прасіла дарослых, каб паказалі мне літары. Першую сваю вялікую мару здзейсніла, калі ў мяне з'явіўся буквар.

Дняпро, любімая рака майго маленства, застаўся ў памяці велічны і спакойны, з чысцюткай вадой, з вялізнымі ямамі, якія прасвечваліся на дне пад лодкай. Засталіся яны тут з часу вайны ад узрываў бомбаў і снарадаў. На вялікі жаль, цяпер Дняпро вузкі і брудны. Спалохана точыцца ён пад стромы бераг, быццам хоча схавацца ад людзей.

Продкі мае былі пераважна сялянамі. У спадчыну засталося мне мала сямейных паданняў. Прадзед Рыгор працаваў вясковым настаўнікам. Ён павучаў сваіх вучняў так: «Розныя птушкі жывуць на свеце. Адны самі гнёзды ўюць, а другія шукаюць гатовыя дуплы». З-за гэтых «дуплаў» ён атрымаў мянушку Дуплей, якая перайшла на ўвесь род. Прабабуля Марфа таксама засведчыла сваё існаванне ў вясковым асяродку розумам, разважлівасцю і справядлівасцю. Толькі ёй давяралі аднавяскоўцы дзяліць грошы, якія атрымлівалі ад купца за разгрузку дроў з баржы. Яе нашчадкаў называлі Марфечкамі.

Прадзед Мацвей быў магутным чалавекам. Да мяне дайшла такая показка. Гутараць суседкі:

– Паглядзі, нехта з-пад гары канём едзе? – пытала адна маладзіца.

– Ды гэта ж Мацвей лазу нясе.

Іншым разам:

– Слухай, здаецца, Пярун ляснуў...

– Гэта ж Мацвей на каня крыкнуў.

Дзед Міхалка ўзяў ад свайго бацькі Мацвея сілу і майстэрства цесляра, сам капаў калодзежы, ставіў хаты, ладзіў усё калгаснае начынне ад вазоў да бочак. На духмяных сасновых стружках каля яго варштата я памалу падрастала.

Калі мне было чатыры гады, мяне прывезлі ў глухую вёсачку на Брэстчыне. Тут застала я незвычайны лад жыцця жанчын, якія пралі і ткалі. Для мяне таксама знайшліся на вышках верацёны, маленькая потась і кудзеля. Я ўпарта вучылася мусоліць і скручваць нітку. Мне падабалася хадзіць да суседзяў і па магчымасці далучацца да нейкай агульнай справы, напрыклад, навіваць цэўкі або змотваць клубкі. Асабліва ўпадабала наведваць дарослых дзяўчат, слухаць іхнія размовы. Яны ўспрымалі мяне як малое і неразумнае дзіця, а мне адкрываўся тэатр дарослага жыцця, у якім я была гледачом і ўдзель-

нікам. Па вечарах жанчыны збіраліся ў якой-небудзь адной хаце, пралі, вышывалі, вязалі, спявалі, расказвалі розныя гісторыі, іншы раз хто-небудзь з падлеткаў чытаў кніжкі, узятыя ў бібліятэцы. Казку «Канёк-гарбунок» Яршова, пачутую на тых вячорках, праз шмат гадоў я пераклала на беларускую мову.

Аднойчы жанчыны спявалі пра раку Дунай:

Сем раз ваду прыносіла
З сіняга Дунаю.
Сем раз ваду прыносіла,
Восьмы напілася.
Каб я мела родну маму,
Я й не журылася б.

Я спытала ў мамы, дзе той Дунай, ці такі вялікі, як наш Дняпро? Яна адказала, што Дунай далёка, у іншых краінах, мы яго пабачыць не можам. З маленства насіла я ў душы здзіўленне, адкуль гэтыя пераважна непісьменныя вясковыя жанчыны ведаюць пра Дунай ды яшчэ і песні пра яго спяваюць? На гэтае пытанне адказала я сабе праз паўсотні гадоў аповесцю «Славянскія князі» і эсэ «Вандроўкі ў вырай», змешчаныя ў кнізе «Кола Сварога»(2006). Дарэчы, мая цікавасць да міфалогіі таксама бярэ пачатак з гэтага перыяду жыцця, бо тутэйшыя людзі захавалі шмат язычніцкіх абрадаў, ім былі ўласцівы розныя прымхі і забабоны, якія рабілі жыццё таямнічым і казачным.

Мне вельмі хацелася вучыцца ў школе. Аднойчы я дазналася, што суседская дзяўчынка, трохі старэйшая за мяне, збіраецца ў першы клас, і пайшла з ёю. Мне было шэсць гадоў, але настаўнік ацаніў маю настойлівасць і дазволіў наведваць заняткі, хоць тады набіралі толькі сямігодак.

Вясной наша сям'я пераехала ў Днепрапятроўскую вобласць, і я пайшла вучыцца ў украінскую школу. Няведанне мовы адмоўна адбілася на маіх адзнаках. Аднак менавіта тут, на Украіне, адбылося маё першае далучэнне да высокай паэзіі. Суседкі ў святочныя дні запрашалі мяне ўслых пачытаць ім «Кабзара» Тараса Шаўчэнкі. Большасць маладзіц былі салдацкімі ўдовамі, якія ў пасляваенны час самастойна гадавалі дзяцей, зведалі голад і нястачу. Слухаючы шчымлівыя паэмы пра жаночую долю, яны плакалі, а я назірала, якое вялікае ўражанне робіць на жанчын сапраўдная паэзія.

Недзе праз Днепрапятроўск працякаў мой любімы Дняпро, але мне яго ўбачыць не давялося. У нашай вёсцы быў ставок і таемная мясцінка, зарослая чаротам, праз якую бегла ручаінка, перацiснутая двума валунамі. Аднойчы там я рукамі ледзь не злавіла вялізную рыбіну, яна пасля выплыла ў маім апавяданні «Ворагі народа».

Маме не падышоў украінскі клімат. І хоць у вёсцы Мар'янаўка нашай сям'і прапаноўвалі без выкупу хату, мы вырашылі вяртацца ў Беларусь. Прыехалі на будоўлю ў Белаазёрск, дзе я пайшла ў чацвёрты клас. Вучоба мая сама сабою наладзілася, а яшчэ ў мяне з'явіўся любімы пісьменнік – Якуб Колас. Я чытала ўсё, што знаходзіла: вершы і прозу. Колас быццам вяртаў мне час, страчаны на Украіне, і нават той, калі мяне яшчэ не было на свеце. У пятым класе я напісала свае першыя вершы, але яны згубіліся. Пазней усё, што рыфмавалася, я пачала запісваць у агульны сшытак, які нікому не паказвала. Мне здавалася, што вершы могуць пісаць усе. Падлеткам я захаплялася паэзіяй Лермантава, чытала сучасных паэтаў, шмат вершаў ведала на памяць.

Пасля заканчэння дзесяцігодкі ў 1966 годзе пайшла працаваць на будоўлю. Мяне накіравалі на курсы тынкоўшчыц у Мінск, а потым на практыку – у Смаленск. Хіба я магла тады ведаць, што праз сорак гадоў буду працаваць над раманам пра вайну 1812 года, што мне давядзецца апісваць бой пад Смаленскам і спатрэбяцца ўражанні ад сустрэчы з горадам, які таксама стаіць на Дняпры.

Вясной 1967 года я нарэшце адважылася паслаць свае вершы ў раённую газету «Маяк камунізму», іх надрукавалі, а мяне запрасілі на пасяджэнне ў Бярозу. Па дарозе ў райцэнтр я ўпершыню сустрэлася і пазнаёмілася з Нінай Мацяш, якая таксама ехала ў рэдакцыю.

З 1968 года жыву ў Брэсце, дзе спачатку набыла прафесію чарцёжніка-канструктара і паступіла на працу ў праектны інстытут, а потым скончыла вячэрні факультэт Брэсцкага інжынерна-будаўнічага інстытута. У гэты час я пачала друкаваць вершы ў рэспубліканскіх выданнях. У 1976 годзе мяне запрасілі на семінар маладых літаратараў у Каралішчавічы, на былую дачу Якуба Коласа. Я хадзіла па сцежках, дзе бываў мой любімы пісьменнік, і мне ўвесь час здавалася, што я ўсё гэта ўжо некалі бачыла.

У Брэсце я далучылася да літаратурнага аб'яднання пры абласной газеце «Заря», якім кіраваў У. А. Калеснік. Пазней некаторы час нашу літсуполку ўзначальваў Мікола Пракаповіч, у канцы 80-х гэтыя абавязкі выпалі на маю долю. У Саюз пісьменнікаў уступіла ў красавіку 1986 года.

Мой першы зборнік вершаў «Праводзіны птушак» (выдавецтва «Мастацкая літаратура») быў выдадзены ў 1983 годзе, наступны – «Абрысы лета» – праз пяць гадоў. У гэты час я перайшла на працу ў Бюро прапаганды мастацкай літаратуры Саюза пісьменнікаў, у мяне з'явілася трохі больш вольнага часу, пачала пісаць драматычныя творы і прозу. Асобныя п'есы друкаваліся ў калектыўных зборніках. Гэтаму вельмі спрыяла пісьменніца Ніна Загорская, якая тады пра-

цавала ў Міністэрстве культуры. Казка «Сінязорка» была пастаўлена ў Брэсцкім драматычным тэатры, «Дудка-самагудка» – на радыё. Выкарыстоўвалі мае драматычныя творы і самадзейныя тэатры, асабліва плённае супрацоўніцтва ў мяне склалася з тэатрам «Летуценнікі» з Любанскага раёна (рэжысеры Ала і Васіль Каткаўцы).

У 1991 годзе, нарэшце, змагла паехаць вучыцца на Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскву. Якраз у той год сын скончыў дзесяцігодку, мы сталі студэнтамі, праўда, розных навучальных устаноў. У пачатку 90-х гадоў былі напісаны п’есы-казкі «Жывая вада», «Канікулы на астэроідзе», драматычная паэма «Падданыя кахання», трагікамедыя «Бамбавозы», выйшаў зборнік вершаў «Так і не», трохі пазней – першая кніга прозы «Палоннікі жыцця», у якую былі ўключаны тры аповесці і дзесятак апавяданняў.

Пасля заканчэння Вышэйшых літаратурных курсаў адначасова працавала аглядальнікам у абласной газеце «Народная трыбуна» і загадчыкам літаратурнай часткі Брэсцкага тэатра драмы і музыкі. Дзве гэтыя працы забіралі шмат часу і занявольвалі мой дух, таму ў 1998 годзе я звольнілася. За апошнія дзесяць гадоў напісала гістарычныя раманы «Год 1812» (часопісны варыянт «Архірэевы скарбы»), «Велясіты», раман-рэканструкцыю славянскай міфалогіі «Кола Сварога», некалькі кніг дакументальных нарысаў («Лясы і Лесаводы Брэстчыны», «Людзі і гады» і інш.), зборнік вершаў «Табе», пісала аповесці, драматычныя творы, пераклала на беларускую мову камедыю Яна Ходзькі «Вызваленая Літва, або Пераход цераз Нёман», уклала кнігу «Песні Белабежы» з серыі «Беларусь літаратурная», выдала два дапаможнікі, адрасаваныя настаўнікам, кіраўнікам драматычных гурткоў і тэатральных студый, – «Чароўнае слова» і «Зачараванасць тэатрам», якія выйшлі пад грыфам Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь.

Актыўна брала ўдзел у рэспубліканскіх конкурсах, мае п’есы «Гадзіннік Лікбога» (2001), «Лятавіцы» (2003, пастаўлена Мінскім абласным тэатрам), «Кароль смаўжоў» (2006), кінасцэнарый «На парозе раю» (2002), апавяданне «Бельмандо» (1995, конкурс газеты «Звязда») былі адзначаны дыпломамі і прэміямі.

Пра тое, што напісана, але яшчэ нідзе не надрукавана, казаць не варта. Ёсць задумы, якія, калі пашчасціць, мару некалі здзейсніць, а працаваць я люблю.

*30.11.2008 года*



***Жук***
***Алесь Аляксандравіч***

## КОЖНАМУ СВАЁ ПОЛЕ

Можа таму, што пішу гэтыя радкі зімой, з дзяцінства найперш наплываюць у памяць зімовыя малюнкі. Болей поле – з нізкім замглёным снегавым небам. Белая далечыня, якая пераходзіць у шэрань і якой, здаецца, няма канца. І яшчэ – мяцеліцы. Посвіст ветру ў кусце бэзу пад акном, шорханне снегавых узвеяў па саламянай страсе, па сценах. А пасля гэтых доўгіх мяцеліц, якія дробненькім мякенькім снегавым пылам убіраліся і ў сенцы праз шчыліны пад дзвярыма, – сонечныя раніцы, іскрыстыя гурбы амаль нараўне са стрэхамі ўпоперак вуліц. І яшчэ – расказы пра тое, як блудзілі людзі і прападалі ў снегавых палях… Шырокія, неабдымныя палі – палеткі, як гаварылі старыя людзі, – быццам прыціскалі да ракі Лакнеі доўгую ў адну вуліцу вёску Клешаў, што на Случчыне, якая дзялілася, адпаведна, на «той» і на «гэты» канец, а пасярэдзіне была «гара».

Рэчку, няхай і невялікую, але ўтульную пятлянку, багатую на рыбу, на ракаў, амаль не памятаю. У дзіцячай памяці астаўся зялё-

ны, на ўсе ночвы шчупак, цэлыя кашы рыбы, якую дарослыя насілі з ускаламучанай экскаватарам канавы. Помніцца і сама яна, чорная і вадой, і берагамі. Тады я не ведаў яшчэ, што гэта быў самы багаты прыток Случы ў яе вярхоўі. Случ ацалела, збяднелая і змізарнелая, і мне чамусьці здаецца, што і не большая яна за тую даўно зруйнаваную Лакнею, пасля якой доўга яшчэ дажывалі ў зялёным надброўі аеру, сітніку, разгону, старыцы ў чорных, пераараных балотным плугам паплавах. Першыя гады плугі выварочвалі чорныя магутныя карчы, якія ляжалі ў былым багавінні. Людзі хадзілі, паднімалі іх, ставілі, каб высахлі. І тады поле было падобна на страшны чорны лес. Карчы звозілі да хат, пілавалі і калолі на дровы, бо лес быў ад вёскі за дзесяткі кіламетраў. Потым на гэтых асушаных тарфяніках сеялі как-сагыз, каноплі, якія раслі высокія, што лес, і ў іх хаваліся ваўчыныя вывадкі.

Рэчка не здавалася гадоў некалькі – залівала былую сваю пойму ад Грывеня да Мусіч, ад Клешава да Леткаўшчыны і далей уніз па плыні. Гнала, ламала крыгі, узрывала і зносіла масты. Яны плавалі да канца паводкі, як забытыя паромы з парэнчамі. Масты потым вярталі на свае месцы, а на пойме раставалі тоўстыя, вялікія, з пачарнелым снегам крыгі, быццам нетутэйшыя караблі, якія пацярпелі крушэнне…

Зіму згадваю можа і таму, што нарадзіўся зімой, 23 лютага 1947 года, у самую пару мяцеліц. Маці праз гады жартам папракала бацьку, што выкуліў яе ў гурбу, пакуль вёз да Грэскай бальніцы. Відаць, тыя мяцеліцы былі вінаваты і ў тым, што ў метрыцы дата майго нараджэння стаіць 1 красавіка, а месца нараджэння – вёска Грэск. Ці не той дзень, калі радасны бацька ўсё ж дабраўся да ЗАГСа былога Грэскага раёна былой Бабруйскай вобласці, каб дакументальна ўзаконіць сынава з'яўленне на свет. Галоўнае было не ў паперцы. Пачынала жыццё новая сям'я і ў бацькі, і ў маці. Першая бацькава сям'я – жонка і дачка – была расстраляна фашыстамі за бацькаву сувязь з падполлем. Яму выпала прайсці засценкі СД, цудам уратавацца і ваяваць у партызанах. Першы муж маці загінуў на фронце, дачка памерла ў партызанскіх балотах ад тыфу ў час блакады.

Ад Грэска да Клешава больш за дзесяць кіламетраў. Маці з бацькам працавалі ў Грэскай бальніцы, і гадавала мяне больш баба Яніха, як звалі яе ў Клешаве. Удава з трыццаці трох год, яна выгадавала чатырох дачок. З-за зяця-камуніста яе біў наганам пад бараду грэскі начальнік паліцыі Купа, пасадзіўшы на покуці. Яна сумела ўцячы ў партызанскія Старыцкія лясы.

Бабуля пражыла жыццё, дажыла да дзевяноста шасці гадоў. І калі развітваўся з ёй назаўсёды, высахлай, маленькай і лёгкай, як душа,

на падбародку ўбачыў і той круглы шрам ад дула нагана, якім у сорак першым біў яе фашыст.

З халодных завейных дзён, калі вымушаны сядзець у хаце, самае светлае – збор «сясцёр Фёдаравых», як жартам называў гэтыя пасядзелкі бацька. Да бабулі прыходзілі яе сёстры: цётка Марыля, цётка Тэкля і цётка Ганька. Тады пачыналася самае цікавае. Успаміны, былі, небыліцы. І пра чорта, і пра п'янага дзядзьку, які вяртаўся ноччу з базара. І пра вайну, яе будныя дні, якія перажылі жанчыны і памяталі…

Часам мірная ідылія перапынялася нейкай нязгодай, часцей за ўсё з-за дробязі. Завязвалася спрэчка, потым сварка. А гэта ўжо быў сапраўдны спектакль з прыказваннямі, з праклёнамі, страшней якіх не выдумаеш і не прыдумаеш…

Аднак крыўда была нядоўгая, і праз дзён некалькі яны зноў сыходзіліся, як нічога і не здарылася. І зноў былі казкі, народныя і пушкінскія, якія цётка Ганька ведала на памяць, вершы рускіх паэтаў. Ад яе я ўпершыню пачуў «Панскае ігрышча». Яна адзіная з сясцёр была «вучоная» – дзве зімы вучылася ў дарэктара. І яшчэ цёткі-сёстры ўмелі і любілі спяваць. Потым ужо, студэнтам, я запісаў крыху іхніх песень, да крыўднага мала і няўмела. Зачараванасць песняй, паэзіяй – адтуль, і сэрца заўсёды адгукаецца, калі чую песню, асабліва народную. Пачынае здавацца, што вось-вось быццам успомніш тое, галоўнае, чаго не можаш ніяк спасцігнуць у жыцці…

Можа тыя казкі і песні, можа з-за таго, што малым шмат хварэў, прывучыўся да кніг. Падлеткам чытаў іх запойна, ночы напралёт. Сёння ў вачах, як жывыя, чарнільнага колеру томікі Чэхава, «аганькоўскія» – Тургенева, у мяккай вокладцы, з «Народнай бібліятэкі», «Хаджы-Мурат» Талстога, і Маўр, і Вальтар Скот…

Сёння гляджу на кнігі на сваіх кніжных паліцах, з болем шкадую, што ў дзяцінстве мы не мелі гэтага багацця. Сумна думаецца, што не стае часу перачытаць іх, горка ад думкі, што кніга ўсё больш і больш купляецца-прадаецца і меней чытаецца.

А так – звычайная біяграфія чалавека, які нарадзіўся пасля вайны, у год, калі адмянілі хлебныя картачкі. Летам работа ў калгасе і дома, бо палі вакол вёскі агромністыя, іх трэба было абрабляць. Мы навучыліся рабіць сялянскую работу поруч з мужчынамі, лепшымі нашымі сябрамі былі коні, аб цёплыя бакі якіх мы грэлі ўстылыя ад расы ногі і на якіх грэліся самі. Ужо ў старшых класах нас застаў трактарны і машынны век, які пачаў прыходзіць у калгасы.

У цэлым, вучоба мне давалася лёгка, пасля сямігодкі, якую скончыў з адзнакай, збіраўся ехаць нават паступаць у геолагараз-

ведачны тэхнікум. Ці з-за таго, што начытаўся Арсеньева, Федасеева, Біянкі, Сокалава-Мікітава, ці пачало свярбець жаданне быць самастойным, ці дастала рэха непрывычных раней песень пра людзей, якія ідуць па свеце…

Але паступаць не паехаў. Ужо тады пісаў заметкі ў слуцкую раённую газету «Шлях Ільіча», вядома ж пісаў вершы, вучыўся ў школе рабселькораў. Паступаць вучыцца паехаў у БДУ, на беларускае аддзяленне філфака, хоць у маім школьным атэстаце медаліста адзіная «чацвёрка» была па беларускай мове.

Нам пашанцавала. Я маю на ўвазе студэнтаў філфака шасцідзесятых гадоў. Амаль усе з нашага нешматлікага хлапцоўскага філфакаўскага гурту спрабавалі пісаць. І мелі падтрымку ад Міхася Ларчанкі, Алега Лойкі з ягоным «Узлётам», Івана Навуменкі, Дзмітрыя Бугаёва, Ніла Гілевіча і іншых выкладчыкаў.

Многім з нас удалося прысутнічаць на V з’ездзе пісьменнікаў, куды запрашалі і праводзілі старэйшыя таварышы.

Наогул, вятры абнаўлення, якія веялі тады ў грамадскім жыцці, якія фарміравалі і расцілі пакаленне цяперашніх гэтак званых пяцідзесяцігадовых, не праляцелі і міма нас. Мы, вядома ж, былі за Быкава, за Караткевіча, за новае ў літаратуры… Часам і нам перападала ад розных там жычкаўска-матузаўскіх матузоў, герцовічаўскай аглабельшчыны, але час яе ўжо мінаў. У супрацьстаянні ўсяму гэтаму ўставала асоба пісьменніка-грамадзяніна, які дбаў пра будучыню роднай культуры і змагаўся за яе, Івана Мележа. Наперадзе былі і сустрэчы з ім, і яго добрая ўсмешка. Каму магло падумацца тады, што яго гэтак хутка не стане. І што пасля ягонай смерці «многое многим станет не стыдно», у тым ліку і тым, хто рэкламна запісваўся ў ягоныя вучні і прадаўжальнікі, а потым лёгка і часам бессаромна карміўся пры літаратуры, дбаючы толькі пра сябе.

З трагічнага вобраза Івана Паўлавіча Мележа і нарадзілася задума найбольш дарагой мне аповесці «Паляванне на Апошняга Жураўля». Для мяне ў ёй жыве не толькі яго любімая песня, там і ён, крыху сумны, як адлётная асенняя птаха з перабітым, балючым крылом. Пісалася аповесць як спроба запозненага ўслед яму нізкага паклону.

З удзячнасцю астаўся ў памяці інтэрнат на былой Паркавай магістралі. Цяпер ён і малы, і няўклюдны побач са шклянымі вышыннікамі на праспекце Пераможцаў. Юрка Голуб, Жэня Янішчыц, Алесь Разанаў, Сяргей Законнікаў – гэта далёка не поўны пералік тых, хто жыў там, пачынаў пісаць… І наш будынак на Чырвонаармейскай. Там на лекцыі ў блакнотах пісаліся тыя вершы, якія потым з’яўляліся на старонках газет і часопісаў, сталі першымі кнігамі…

Мудрыя і добрыя нашы выкладчыкі даравалі нам няўвагу да іхніх лекцый. Я і па сённяшні дзень не магу пісаць у цішыні, павінен быць уключаны хаця б радыёпрыёмнік, каб згадваць той пастаянны, ціхі гул студэнцкай аўдыторыі.

Першыя мае кароткія апавяданні, а хутчэй замалёўкі, былі надрукаваны ў 1965 годзе ў трэцім нумары часопіса «Нёман». Гэта былі запісаныя амаль цалкам расказы маёй бабулі з перажытага ёй у час вайны. Ці трэба казаць, што публікацыя стала падзеяй і ў школе, і дома, таму мне нельга было не паверыць, што я пісьменнік. Я засеў за работу і спісаў апавяданнямі некалькі вучнёўскіх сшыткаў, разаслаў іх у часопісы – «Нёман» і «Маладосць».

З тае пісаніны, вядома ж, толку не было. Але мне пашанцавала, што рэдактарам аддзела прозы ў «Маладосці» працаваў Міхась Стральцоў. Першае маё апавяданне было надрукавана ў часопісе ў 1967 годзе.

Шкода, што цяпер ужо практычна не існуе інстытута рэдактуры, а ён патрэбен у літаратуры не толькі пачаткоўцам, але і сталым пісьменнікам. Ды і пераемнасць пакаленняў парушылася, не стае літаратурнай атмасферы, ёсць нейкая купкаўшчына, а то і хутаршчына…

Увогуле, на пісьменніцкі лёс мне наракаць не выпадае. Пасля першай кнігі «Асеннія халады» ў 1973 годзе быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў. Пісаў запойна, ночы напралёт. Практычна ўсё напісанае перакладалася і выдавалася кнігамі на рускай мове за мяжой, што не абмінала ўвагай не толькі свая, але і маскоўская крытыка, як гаварылася тады, – у цэнтральных выданнях.

Лепшае з напісанага склала выбраныя творы ў 2-х тамах, выдадзеныя ў 1993–94 гадах.

На два тамы сабралася б і перакладаў на беларускую мову: «Майстар і Маргарыта», «Сабачае сэрца» М. Булгакава, «Белы Бім Чорнае вуха» Г. Траяпольскага, «Папярэднія вынікі» Ю. Трыфанава, «Зося» У. Багамолава, «Fata morgana» М. Кацюбінскага, апавяданні А. Твардоўскага, В. Астаф’ева, У. Цендракова, Ю. Казакова, У. Салаухіна і многіх іншых пісьменнікаў.

Па аповесцях «Зоркі над палігонам», «Паляванне на Апошняга Жураўля» зняты двухсерыйныя тэлевізійныя фільмы. Напісанае адзначана прэміяй Ленінскага камсамола Беларусі, Літаратурнай прэміяй імя Івана Мележа, Дзяржаўнай прэміяй Беларусі. Узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны».

Акрамя літаратуры было і проста жыццё: служба ў Савецкай Арміі камандзірам мотастралковага ўзвода, праца рэдактарам у выдавецтве «Мастацкая літаратура», намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Маладосць», інструктарам ЦК КПБ, галоўным рэдактарам газеты «Літаратура і Мастацтва», сакратаром Саюза пісьмен-

нікаў БССР, намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Полымя», галоўным рэдактарам часопісаў «Нёман», «Беларусь». Гэта калі пра паслужны спіс, за якім стаіць і многа падзей, і людзей…

Знаёмства з Віктарам Астаф'евым звязваецца з гасцініцамі «Масква» і «Расія», у якіх мы жылі, бо праходзіў з'езд Саюза пісьменнікаў СССР у Крамлі. У тым «вялікім» Саюзе пісьменнікаў мне давялося быць намеснікам старшыні Цэнтральнай Рэвізійнай Камісіі, адтуль і ведаю, што на тое, каб перафарбаваць плот у Перадзелкіне, патрэбны былі грошы роўныя тым, якія Літфонд СССР выдзяляў на год пісьменніцкай арганізацыі Беларусі. Калі закіраваць у агульнажыццёвыя мемуары, то можна было б шмат згадаць з працы ў Цэнтрвыбаркаме Беларусі ад радавога да выконваючага абавязкі старшыні… Але думаю, што пра гэты недалёкі шматпадзейны час нашай гісторыі будуць напісаны і цікавейшыя, і больш дасведчаныя старонкі і тамы. А ў пісьменніка ёсць тое, што можа напісаць толькі ён – пра спрадвечнае шчасце і трагізм чалавечага жыцця на зямлі з усёй радасцю, горыччу, адчаем. Пра ўсё тое, што ніяк не ўкладзецца ні ў якія паслужныя і нават ваколпаслужныя спісы. Што можа больш шчаслівіць чалавека чым тое, што ён бачыць яшчэ маладых, у самай сіле сваіх дзяцей, радуецца ўнукам? Вырашчаны сады, выгадаваны дзеці, напісаны кнігі. А мне яшчэ, дзякуй Богу, пашанцавала застацца жывым пасля аперацыі на сэрцы, калі можна было і не застацца…

Кожная чалавечая душа на зямлі перажывае час свайго ўзлёту і горыч адыходу, і толькі мастаку дадзена расказаць пра гэта свету. Антон Чэхаў, Іван Бунін, Юрый Казакоў, Міхась Стральцоў – пералік можна доўжыць і доўжыць імёнамі айчынных, сусветных класікаў, чыё напісанае прасякнута паўнатой, плоцкай радасцю жыцця, любоўю да яго і адначасна працята пранізлівым смуткам няўмольнага адыходу ў нябыт.

У Бібліі чорным па беламу напісана – усё будзе забыта. І сапраўды, што значыць пылінка чалавечага жыцця ў космасе чалавецтва, як і чалавечы космас – у Сусвеце? Ведаю гэта, але кожнаму сваё поле, і таму пішу кнігу прозы, не абмежаваную ніякімі рамкамі, кнігу проста прозы з сумнаю біблейскаю назваю «Усё будзе забыта».



***Зэкаў***
***Анатоль Мікалаевіч***

# ПАТАПАЎКА – МАЯ БУСЛЯНКА

## 1. У мяне такое прозвішча

Няхай у прозвішчы маім
і корань «зэк» усё ж,
аднак
яно не звязана зусім
з тым,
хто асуджаны,
ніяк.

Адзін пісьменнік напярэдадні выступлення перад чытачамі сказаў мне: «Калі хочаш, каб цябе запомнілі, трэба назваць сваё прозвішча тры разы», на што я адпарыраваў: «Гэта ваша трэба называць тройчы, маё запамінаецца з першага разу».

…Падчас вучобы ў Гомельскім дзяржаўным універсітэце, калі мы праходзілі курс этымалогіі і якраз разбіралі паходжанне прозвішчаў, нехта з маіх аднагрупнікаў пацікавіўся:

– А ад чаго ўтварылася прозвішча Зэкаў?

– Не ад таго, ад чаго вы думаеце, – зразумеўшы, куды хіліць «запытальнік», усміхнулася выкладчыца. – Прозвішча Зэкаў узнікла нашмат раней, чым слова «зэк», у якога, між іншым, савецкія карані. А паходзіць яно, як мне думаецца, хутчэй за ўсё ад Заікі. Тым больш, што носьбітаў апошняга прозвішча на Беларусі нямала. Магчыма, у асобных з іх дыфтонг «аі» (памятаеце, філолагі, стараславянскую мову?) і перайшоў у «э»...

Дарэчы, у маёй роднай вёсцы Патапаўка, што ў сямі кіламетрах ад Буда-Кашалёва, прозвішча Зэкаў даволі-такі распаўсюджанае. Не менш, чым Гарэлікаў, Кірыленка, Шутаў, Янчанка. Калі я вучыўся ў школе, то ў класе адзін вучань меў нават аднолькавае са мной імя. Так што, выклікаючы да дошкі, нас называлі няйнакш як па бацьку: Мікалаевіч, Кузьміч. Многія, скажу, зайздросцілі. А Кузьміч дык яшчэ і выгоду меў: вучыўся ён не дужа, то новы настаўнік, пакуль раскумекае, нярэдка мае адзнакі ставіў у графу з прозвішчам цёзкі. Здаралася, праўда, і наадварот, што мяне, вядома ж, не радавала.

Між іншым, калі я друкаваў нешта ў газетах «Піянер Беларусі» ці «Зорька», то атрымліваў шмат лістоў ад равеснікаў (пераважна – равесніц). На канвертах не было імя па бацьку, і асобныя лісты траплялі да Кузьміча. Некаторым дзяўчаткам ён, як сам прызнаўся, нават адказваў. Уяўляю, як здзіўляліся тыя, чытаючы абсалютна непісьменныя прызнанні майго цёзкі. Бадай, думалі, што вершы, аказваецца, можна складаць і зусім не ведаючы мовы...

Калі я прыехаў у Мінск, вядомы беларускі пісьменнік пры нашай першай сустрэчы кальнуў:

– Навошта ты сабе такі псеўданім узяў? – і тут жа дадаў: – Ці не лепш было б проста – Зэк?

Ён тады яшчэ не ведаў, што Зэкаў – гэта маё сапраўднае прозвішча.

А вось узяць псеўданім, дарэчы, мне прапаноўвалі неаднойчы: маўляў, ахвотней друкаваць будуць, бо таму ў многім перашкаджае «зэкаўскае прозвішча».

У апошняе я не дужа верыў. Пакуль не пачуў ад Міколы Чарняўскага згадку пра даўняе: калі я, будучы яшчэ вучнем Патапаўскай сярэдняй школы, дасылаў свае вершы ў «Бярозку», дзе тады працаваў мой зямляк, то тагачасны рэдактар часопіса Кастусь Кірэенка на прапанаваныя Міколам да друку мае патрыятычныя творы нярэдка казаў накшталт гэтага: «Што, Зэкава ў ленінскі нумар? Не, давай лепш у наступны. А то могуць не зразумець. Прозвішча не зусім стасуецца з тэматыкай».

А ў 1996 годзе ў Дзень Незалежнасці ў «Народнай газеце» быў апублікаваны мой верш «Воля». Сябры-калегі потым жартавалі:

«Анатоль Зэкаў і «Воля»? Цікава-цікава…»

Кастусь Кірэенка, мусіць, такога б не дапусціў.

## 2. Сямейны альбом

Вярні, жыццё, мяне ў пачатак,
дзе крок зрабіў свой першы самы,
дзе шчэ зусім не лысы тата
і без маршчынак твар у мамы.

Мае бацькі – Мікалай Абрамавіч і Наталля Цімафееўна – аднагодкі: абое нарадзіліся ў 1928 годзе. Маці, праўда, пішацца з 1930-га; доўгі час гэты год лічыўся і бацькавым, і толькі перад самым выхадам на пенсію ў яго пашпарце прапісалася пацверджаная архіўнымі запісамі сапраўдная дата нараджэння.

Дзядоў сваіх, Абрама і Цімоха, я не памятаю, ды і адкуль: першы памёр напачатку 30-х гадоў, другі – у 1941-м, калі прыйшлі немцы. Так маці засталася круглай сіратой (бабуля Аўдуля пакінула гэты свет яшчэ раней). У 1943 годзе, прачуўшы пра дзяўчынку-сіротку з пасёлка Вольны Губіцкага сельсавета, яе прытулілі бяздзетныя Рыгор і Марыя Ільёвы з Патапаўкі. У іх дзяўчынка выхоўвалася, адсюль пайшла замуж за аднавяскоўца, а для мяне яе прыёмныя бацькі сталі дзедам Грышкам і бабай Маняй. Хоць у мяне была і свая бабуля Марфа, бацькава маці, якая жыла з намі ў доме па вуліцы Крывічы, я нямала часу праводзіў у хаце па вуліцы Гавельскі шлях. Маю сястру Галю і брата Пецю яны так не пеставалі, як мяне, і гэта не дзіва: у дзеда Грышкі і бабы Мані я быў першым унукам, хай сабе і ад прыёмнай дачкі.

Дзед працаваў у саўгасе конюхам і зрэдку браў на стайню з сабой мяне, малога. Бывала, гонячы коней у начное, уссаджваў на гнядога, бадай, самага рахманага коніка з усяго ягонага табуна. І я, учапіўшыся абедзвюма рукамі – аж пальцы ўспатнелі! – у конскую грыву, ціха пыліў ззаду ўсёй гэтай грывастай чарады, – здаецца, ад шчасця месца сабе не знаходзіў. Гэта ж з якой зайздрасцю пазіралі на мяне знізу хлапчукі-равеснікі! Ад таго яшчэ больш распрамлялася спіна, а нос так задзіраўся ўгору – аглобляй не дастаць, жартаваў дзед.

Зрэшты, калі мне не давялося пабачыць сваіх родных дзядоў, то ў прадзеда Яўсея, бацькі бабулі Марфы, які жыў з дачкой Ганнай у Іванаўцы і куды мы выбіраліся на прастольнае свята – Прачыстую (у Патапаўцы такім святам быў Мікола), мне пашанцавала яшчэ і пасядзець на каленях.

## 3. Як я «Буквар» чытаў

Правяраю сябе на ўспаміны,
забыццё рву,

нібыта траву,
бо як толькі ўспаміны
пакінуць –
то, лічы, што я ўжо не жыву.

Сорам і прызнацца, але я правучыўся па «Буквары», не ўмеючы чытаць. Літары ведаў, а складаць з іх словы – ніяк. А вось пайсці на ўрокі непадрыхтаваным не мог. І таму рабіў так: маці некалькі разоў чытала тэкст, а я завучваў яго на памяць. Нават калі настаўніца Марыя Паўлаўна Грышкова прасіла прачытаць нешта не з пачатку, я ўсё адно ў думках праганяў папярэднія словы-сказы, а далей ужо ўключаў голас. Нямала часу прайшло, пакуль настаўніца раскусіла мяне. Затое як я потым, навучыўшыся чытаць, накінуўся на кнігі! Браў іх і ў школьнай бібліятэцы, і ў сельскай.

Маці, якая была хатняй гаспадыняй і займалася гаспадаркай ды выхаваннем дзяцей, сама закончыла ўсяго чатыры класы. З намі яна прайшла іх яшчэ па разу. Сядзела побач, дапамагала рабіць урокі, наведвала бацькоўскія сходы. Бацька ж не ведаў нават, у якім класе дзеці вучацца. Пазней маці расказвала мне, ужо даросламу:

– То ж запыталі неяк мужчыны ў сталярцы: «Коля, у які гэта клас твае ходзяць?» Бацька, ведаючы, што паміж табой і сястрой год розніцы, падумаў і кажа: «Значыць, так. Большы, Толік, – у адзін, а меншая, Галя, – у наступны».

А што, праўду сказаў. Падумаеш, дакладнай лічбы не назваў.

Дарэчы, бацька, які таксама меў за спінай чатыры класы, адным часам пайшоў у вячэрнюю школу (быў такі масавы прызыў), але, наведаўшы яе два-тры разы, кінуў. «Не маё гэта, – сказаў. – Дошкі, брускі ды пілкі-гэблікі – маё, а навука няхай дзецям застаецца».

І бацькі рабілі ўсё, каб мы вучыліся. Брат Пеця скончыў кааператыўны інстытут, я – філфак Гомельскага дзяржаўнага універсітэта, потым – Вышэйшую камсамольскую школу ў Маскве, завочна – Інстытут паліталогіі і сацыяльнага кіравання ў Мінску. Адзін са сваіх трох дыпломаў аб вышэйшай адукацыі я мог бы пазычыць сястры Галі, якой вучоба чамусьці давалася няпроста, і, скончыўшы дзесяцігодку, яна пайшла працаваць: спачатку – на гомельскую фабрыку «8 Сакавіка», а потым – на Жлобінскую фабрыку штучнага футра, дзе шчыруе і цяпер. Затое, у адрозненне ад нас з братам, сястрычка кожныя выхадныя наведвае бацькоў. Вось і думай, што лепш.

## 4. Услед за Дзюбам і Гарэлікавай

Нечым родным павее з ракі –
і падумаю я ў гэты момант:

жывяце як, мае землякі,
і ці ўсё у вас ладзіцца дома?

У школьным літаратурным гуртку, які вяла выкладчыца роднай мовы і літаратуры Ульяна Фёдараўна Лазавенка, нас не вучылі пісаць вершаў і апавяданняў: для гэтага, казала настаўніца, павінна быць боская іскрынка. І зазвычай прыводзіла ў прыклад былых выпускнікоў школы – Уладзіміра Дзюбу і Таццяну Гарэлікаву, якія тым часам друкаваліся ўжо не толькі ў раённай газеце, а і ў сталічных выданнях, у тым ліку і ў тоўстых літаратурных часопісах. Як мы, гурткоўцы, зайздросцілі сваім землякам-пісьменнікам! Пэўна, не адзін з нас тады марыў стаць у іх шэрагі.

…Памятаю, як у сёмым класе асмеліўся адправіць свае першыя спробы пяра ў раённую газету «Авангард» (вядома ж, цішком ад настаўніцы). І вось у нумары за 25 студзеня 1969 года ў аглядзе літаратурнай пошты пад назвай «Паэтычна – значыць вобразна» чытаю: «У малым артыкуле нельга падрабязна спыніцца на вершах вучня з Патапаўкі Анатоля Зэкава. Але хочацца параіць Анатолю больш назіраць за жыццём. Не прыдумляць сабе позу, як ён зрабіў у вершы «Всё можно сделать в жизни», а больш працаваць над рытмам, бо кожная страфа ў яго вершы «Зімой» напісана рознымі памерамі. Рыфма то парная, то сумежная. Анатолю трэба заняцца тэорыяй літаратуры і чытаць творы класікаў больш удумліва. Вучыцца ў іх вобразнасці, пявучасці твораў».

Нягледзячы на такую знішчальную крытыку, я быў усё ж шчаслівы, бо ўпершыню ўбачыў сваё прозвішча ў газеце друкаванымі літарамі. А вось Ульяна Фёдараўна надзвычай засмуцілася, прыняўшы, пэўна, мае агрэхі як уласную недапрацоўку. Таму і папрасіла мяне ў даволі далікатнай форме, каб, перш чым некуды дасылаць свае вершы, паказваў ёй. Так і сказала: «Глядзіш, нешта падкажу, а сёе-тое, можа, разам і паправім нават». А яшчэ параіла пісаць па-беларуску.

Не прайшло і года, як мой першы верш «Беларусь» апублікавала газета «Піянер Беларусі». А потым яны пачалі з’яўляцца і ў раённай газеце, і ў часопісе «Бярозка», у рэдакцыі якога на той час, як я ўжо згадваў, працаваў мой зямляк з вёскі Буда-Люшаўская Мікола Чарняўскі (яго маці, між іншым, таксама родам з Патапаўкі).

Мне прыемна ўсведамляць, што, акрамя вышэй згаданых, на нашай буда-кашалёўскай зямлі нарадзіліся пісьменнікі Аляксей Кейзараў, Міхась Стрыгалёў, Іван Шальманаў; тут, у Ліпінічах, у свой час настаўнічаў Міхась Лынькоў; адсюль родам, з Забаб’я, народны казачнік Піліп Гаспадароў, ад якога фалькларыст М. Новікаў запісаў мноства казак, прыказак і загадак. Натхнялі родныя краявіды паміж Сожам і Дняпром і будучых жывапісцаў – народнага мастака СССР Яўсея Майсеенку і народнага ма-

стака БССР Віталя Цвірку. Ёсць у нас і свае майстры сцэны: народны артыст СССР Павел Малчанаў і народны артыст БССР Яраслаў Пятроў, заслужаныя артысты рэспублікі Валянціна Крыловіч і Віктар Чэпелеў, саліст ансамбля «Бяседа» Валянцін Кірыленка.

А колькі цікавых звычайных людзей, не ўганараваных ніякімі дзяржаўнымі ўзнагародамі і званнямі! Яны росцяць дзяцей, працуюць на зямлі, і кожны пакідае на ёй свой след. Землякі – героі многіх маіх твораў: і вершаў, і апавяданняў. Невыпадкова апошнія я называю пераважна былямі. Так і пішу, нічога не выдумляючы, хіба што прозвішчы змяняючы ды пры тым шкадуючы, што па шэрагу абставін не магу вывесці сваіх патапаўчан пад іх уласнымі імёнамі, бо так хочацца, каб яны засталіся ў гісторыі. Менавіта так здарылася з быллю «Самагонная арыфметыка», у якой сусед пазнаў сябе. Пакрыўдзіўся, раззлаваўся. А калі памёр, то яго сын неяк пры сустрэчы запытаў: «Ты будзеш перавыдаваць аповед пра бацьку?» і дадаў: «Калі будзеш, то вярні яму сапраўднае імя. Хай унукі і праўнукі ведаюць, што гэта пра іхняга дзеда-прадзеда».

## 5. Мой родны кут

І па сёння ў сталіцы,
з якой звязаны лёсам,
мне Патапаўка сніцца,
мая родная вёска.

Пры ўездзе ў маю родную вёску, у нейкай сотні метраў ад чыгуначнага пераезда, над асфальтавым шляхам правісаюць нацягнутыя на зробленыя ў выглядзе стылізаваных жытнёвых каласкоў слупкі дзевяць выпілаваных драўляных літар, якія складаюць слова ПАТАПАЎКА. Неяк, праводзячы мяне з дому на цягнік на Мінск, бацька кіўнуў: «Мая работа, – і не без гонару дадаў: – Па тры рублі за кожную заплацілі...» На той час, калі ён атрымліваў у саўгаснай сталярцы 60 рублёў, а бохан хлеба каштаваў 14 капеек, гэта і сапраўды былі немалыя грошы. Хоць наўрад ці імі вымяраецца бацькаў гонар?!

Адкуль паходзіць назва Патапаўка, я, на жаль, не ведаю. Кажуць, даўно, калі на месцы сённяшняй вёскі былі адно што зацямрэчаныя лясы ды непраходныя балоты, сюды ўцяклі, ратуючыся ад жорсткага пана, браты Яўсей і Патап. Шукаючы месца пад будучае паселішча, разышліся. Колькі яны так блукалі паасобку, невядома, аднак калі Яўсей урэшце ўзбіўся на больш-менш прыгодны пагорачак, то адразу ж, як і дамаўляліся, пачаў клікаць брата: «Патапка-а-а, Патапка-а-а...» І хоць рэха далёка разносіла Яўсееў голас, брат так і не адгукнуўся. Згінуў, пэўна, недзе ў пражорлівай багне. І пасяліўся Яўсей сярод лясоў і балот адзін. А неўзабаве і яшчэ сёй-той прыбіўся да ягонага будана. Так і з'явілася людское паселішча, названае ў гонар Яўсеевага брата Патапкі, якое стала потым Патапаўкай.

Быль гэта ці легенда, не ведаю. Можа, калі хто з маіх больш настырных землякоў і дакапаецца да існых каранёў назвы? Хацелася б, калі ў самога рукі не даходзяць...

А так мая вёска нічым адметным не вылучаецца, хіба што вялікая. Яе вуліцы і завулкі разбягаюцца ад цэнтра, дзе могілкі, нібыта галіны і галінкі ад ствала вялікага дрэва. Мусіць, каб узняцца ўгару на верталёце – менавіта так бы яно і ўбачылася. «Ствол» жа гэтага «дрэва» лёг узбоч чыгункі (ці, хутчэй, яна каля яго). Далёка расцягнулася мая Патапаўка – то ж цягнік-дызель аж два прыпынкі робіць у вёсцы! Спачатку яны так і называліся: Патапаўка-1 і Патапаўка-2. Для сваіх, безумоўна, усё зразумела, а прыезджыя зазвычай блыталіся, з якога боку лічыць: ад Гомеля ці ад Жлобіна. Вось і перайменавалі «другую» Патапаўку ў Качанава.

Гісторыя вёскі, вядома ж, сягае ў пазарэвалюцыйны час: у 1880 годзе яна налічвала 82 двары і мела 689 жыхароў, аднак большасцю сваёй усё ж часцей згадваюцца падзеі пасля 1917 года. Шмат перажыла мая Патапаўка: прайшла і праз раскулачванне, і праз сталіншчыну, і праз Айчынную вайну. Бацькавы ўспаміны пра апошнюю вайну (а калі тая пачалася, яму ішоў трынаццаты год) у памяці заселі найбольш учэпіста. Пра яе нагадвае і помнік воінувызваліцелю каля былога сельскага клуба. Дарэчы, калі ішло наступленне, у баі, што разгарнуўся тут, палегла 634 воіны. Ды і сама Патапаўка ахвяравала на алтар агульнай Перамогі 470 жыхароў. Уяўляеце: калі б памяць кожнага з гэтых 1104 загінуўшых воінаў ушанаваць хвілінай маўчання, мы б замоўклі на васемнаццаць з паловай гадзін!..

## 6. «Гэта трэба нам...»

На радзіму!
На радзіму!
Гэты кліч, як з даўніны,
кліча да яе, адзінай,
думкі,
        мары,
                згадкі,
                        сны.

Памятаю, як яшчэ школьнікам быў запрошаны на пасяджэнне літаратурнага аб'яднання, што існавала пры рэдакцыі раённай газеты «Авангард». Тагачасны намеснік рэдактара Уладзімір Сцяпанавіч Хмяльніцкі, ківаючы ў бок нас, вучняў, паскардзіўся: вось закончыце школу, паступіце вучыцца ў вялікія гарады і забудзеце на сваю раёнку. Маўляў, ні Дзюба ўжо вершаў не дасылае, ні Стрыгалёў...

Гэтыя словы тады мне настолькі ўрэзаліся ў памяць, што і дагэтуль не выходзяць з галавы. Даўно ўжо няма Уладзіміра Сцяпанавіча, а я і сягоння памятаю яго балючы папрок. І раённая газета па-ранейшаму застаецца маёй паэтычнай трыбунай. Хоць ужо і ў салідных літаратурных выданнях друкуюся, і дванаццаць кніг, слава Богу, выйшла, але не лянуюся ўкласці колькі новых вершаў у канверт і адправіць у Буда-Кашалёва – на суд землякоў. Глядзіш, прачытаўшы іх, можа, і нехта з вясковых падлеткаў натхніцца на паэтычнае слова. Сам жа некалі прайшоў праз гэта.

Ці не з падобных высноў сыходзіў і старшыня райвыканкама Мікалай Чарныш, калі ў раённым Доме культуры вырашылі правесці святкаванне майго 50-гадовага юбілею? Я напачатку аднекваўся: навошта ўся гэтая шуміха? «Табе, можа, і не трэба, – парыраваў ён. – Але гэта трэба нам, тым, хто ўступае ў самастойнае жыццё. Няхай пабачаць, што і наша буда-кашалёўская зямля не бясплодная».

Зрэшты, я ніколі не цураюся запрашэнняў на мерапрыемствы, якія ладзяцца ў раёне, адгукаюся на просьбы дапамагчы ў нечым. На мае словы напісаны гімн мясцовага аграрна-тэхнічнага каледжа, чатыры вершаваныя радочкі высечаны на помніку воінам-інтэрнацыяналістам, якія загінулі ў Афганістане. Бываючы ў роднай вёсцы, абавязкова завітваю ў раённую бібліятэку, дзе сустракаюся з чытачамі, зазіраю ў рэдакцыю раённай газеты, не мінаю і школы, якая дала мне пуцёўку ў літаратуру. І ўсё ж я яшчэ ў вялікім даўгу перад сваёй радзімай, перад сваімі землякамі.

А мая Патапаўка – як буслянка, якую я некалі пакінуў, каб штораз вяртацца сюды калі-нікалі на выхадныя ці падчас штогадовага адпачынку. Вяртацца і чэрпаць жыццядайную сілу і спаконвечнае натхненне для будучых твораў.

*2008 год*



***Казлоў***
***Анатоль Сяргеевіч***

## НЕ ЛЮБЛЮ ГРЫБОЎ ДЫ ЯГАД

Нарадзіўся я 28 ліпеня 1962 года ў невялікай (на трыццаць хацін) вёсачцы Асінаўка Краснапольскага раёна Магілёўскай вобласці. Наша вёсачка месцілася сярод шыкоўных і багатых на грыбы ды ягады лясоў, непадалёк меліся і дзве рачулкі: Галуба ды Крывяліцкая, а яшчэ – добрае возера былых князёў Крапоткіных. Асінаўка, здаецца, хавалася ад цывілізаванага свету ў першародным і недасягальным кутку беларускай прыроды. Мо таму, па словах нашых старажылаў, і «немцы абышлі бокам» вёску. Фактычна, мясцовыя і не бачылі захопнікаў, хоць, праўда, у лясах знаходзіліся партызанскія атрады. Зноў жа – па словах дзядуляў і бабуль.

Да раённага цэнтра Краснаполле ад вёскі было больш як дваццаць кіламетраў, прыблізна столькі ж і да Слаўгарада (Прапойска), але да яго трэба было перабірацца цераз паўнаводны Сож, на пароме. Дзятвою мы, асінаўская малеча, далей гэтых двух гарадкоўпасёлкаў і не выбіраліся. Ды і куды было ехаць у летнюю пару, калі

ў вакольных лясах процьма ягад, а грыбоў – хоць касою касі. Мы, дзеці, і шчыравалі. З рання да вечара то з вядзерцамі ў чарніцах, суніцах, брусніцах ды журавінах, а калі не, то з кошыкамі па баравых лясах збіралі белыя, падасінавікі, лісічкі... Надараліся гады, што прыходзілася выпальваць штодзень лазні, каб толькі паспець сушыць баравікі, якія зімою нашы бацькі мяхамі вазілі на кірмашы ў далёкія Гомель, Магілёў, а то і ў Мінск. Для кожнай сям'і то была адчувальная капейчына, прыбаўка да невялікага калгаснага заробку. Магчыма, з-за той дзіцячай раскошы на ягады ды грыбы я цяпер, у сталым узросце, не люблю аніводную лясную ягадзіну, асабліва чарніцы, не цешаць мяне і паходы ў грыбы. Як гаварылі ў нас у вёсцы, уеліся яны мне ў пячонку ў тыя, маладыя, дзіцяча-юначыя леты. Але гэта так, між іншым.

Мае бацькі Сяргей Гардзеевіч і Марыя Сямёнаўна Казловы, як мне здаецца, вызначаліся асаблівай працавітасцю і ўвішнасцю, ды і астатнія аднавяскоўцы не адставалі. Не прыгадаю сярод асінаўцаў гультаёў і выпівох. Як ні дзіўна, але то быў час, калі на вёсцы яшчэ моцна трымаліся спаконвечныя традыцыі маралі і культуры беларусаў. У дзяцінстве я зусім не чуў лаянкі. Ні ад мужчын, ні ад жанчын. Што ўжо гаварыць пра нашых дзядуляў і бабуль. Калі б з вуснаў жанчыны, не дай Бог, вылецела дрэннае слова на людзях, яе старэйшыя кабеты выгналі б з вёскі. Такое я чуў неаднойчы ад маёй любай бабулі Акуліны Ануфрыеўны, бацькавай маці, якая жыла з намі. Менавіта на яе паданнях і легендах, прыпавесцях і казках, узгадках і небыліцах гадаваўся і сталеў не толькі я, але і мае сёстры Валянціна ды Ніна. Зараз упэўнены, што дзякуючы дарагой Акуліне Ануфрыеўне я прыдбаў усе тыя лепшыя чалавечыя якасці, з якімі і крочу па жыцці. Так бы мовіць, вывяраю сябе па ейным светлым вобразе...

Скончыў Асінаўскую пачатковую школу, а затым пайшоў за тры кіламетры ў Кармапайкаўскую васьмігодку. Дзякуй Богу, школа была беларускамоўнай, усе прадметы выкладаліся родным словам. Пашчасціла мне і на настаўнікаў. Да сённяшняга дня з удзячнасцю памятаю Церашонка, Вярковіча, Хадуньку, Лабаноўскую...

У дзевяты і дзесяты класы прыйшлося хадзіць за сем кіламетраў у Наваельненскую СШ. Дарэчы, у яе хадзіла і мая маці, якая вучылася ў адным класе з Міхасём Стральцовым з Сычана. З маіх аднакласнікаў-асінаўцаў пасля васьмігодкі ніхто не схацеў «цягацца за сем км», а параз'ехаліся па вучылішчах. Дзяўчаты – у Гомель на кветкаводаў, а хлопцы – у Мсціслаў на трактарыстаў. Я ж паспяхова скончыў дзесяцігодку ў 1979 годзе, папрацаваў абдзіршчыкам алмазаў у дыяменты на Гомельскім заводзе, а ў 1980-м паступіў на гісторыка-філалагічны факультэт ГДУ. Тут мне пашчасціла пазна-

ёміцца і вучыцца з Анатолем Сысам, Алесем Бяляцкім, Вольгай Куртаніч, Людмілай Багданавай, Эдзікам Акуліным, Ванечкам Афанасьевым, Аленай Шамятковай, Ліляй Плыгаўкай. Выкладалі ў нас Іван Штэйнер, Віктар Ярац, Вера Генаш, Вольга Шынкарэнка, Валянціна Смыкоўская (кафедра беларускай літаратуры). Шмат выдатных выкладчыкаў было з іншых кафедраў. Мне, вясковаму хлопцу, многае прыйшлося спасцігаць самастойна, вечарамі праседжваць ва універсітэцкай і абласной бібліятэках.

Пісаць жа пачаў яшчэ са школы. Першая замалёўка «Завітаў чорны бусел» была змешчана ў краснапольскай раённай газеце «Чырвоны сцяг», калі вучыўся ў дзевятым класе. Пад час навучання ва універсітэце не пакідаў гэты занятак, пісаў і друкаваўся ў шматтыражцы «Гомельскі універсітэт», гомельскай абласной газеце, наведваў літаратурнае аб’яднанне «Крыніцы», якім кіраваў Віктар Ярац, а рэй на пасяджэннях вёў Анатоль Сыс, зухаваты і востры на язык. Многія з літаб’яднанцаў пабойваліся патрапіць пад яго пільнае вока: паэзію некаторых Анатоль разбіваў ушчэнт.

На чацвёртым курсе ўдзельнічаў разам з Алесем Бяляцкім у семінары маладых пісьменнікаў у Каралішчавічах. Менавіта тут заўважыў маю прозу шаноўны Генрых Далідовіч, што было для мяне поўнай нечаканасцю. А ў хуткім часе некалькі абразкоў з прадмовай Генрыха Вацлававіча змясціў «ЛіМ», затым апавяданне надрукавала «Чырвоная змена», невялікую падборку – часопіс «Маладосць».

Пасля заканчэння ВНУ ў 1985 годзе патрапіў на працу ў буда-кашалёўскую раённую газету «Авангард», адкуль восенню таго ж года прызваўся ў рады СА. Служыў у Сібірскай ваеннай акрузе (г. Новасібірск).

Вярнуўшыся пасля службы ў войску, папрацаваў у краснапольскай райгазеце, а затым пастуліў у аспірантуру Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы пры АН БССР. Навуковым кіраўніком маёй дысертацыі па тэме «Сатыра і гумар у беларускай літаратуры 20-х – пачатку 30-х гадоў» быў прызначаны Іван Якаўлевіч Навуменка, на той час віцэ-прэзідэнт АН БССР. Пра гэтага чалавека і творцу ў маёй душы засталіся самыя цёплыя ўспаміны і ўзгадкі.

Яшчэ да заканчэння аспірантуры ў бібліятэцы часопіса «Маладосць» выйшла мая першая кніжачка апавяданняў «Міражы ценяў». А ў красавіку 1990 года мяне ўзялі на працу ў часопіс «Полымя». Тагачасны галоўны рэдактар С. Законнікаў прапанаваў пасаду загадчыка аддзела нарыса і публіцыстыкі. Аддзел, трэба зазначыць, быў не з лёгкіх, але пры падтрымцы старэйшых таварышаў – Алеся Жука, Віктара Ракава – спраўляўся. І, здаецца, нядрэнна. Пачаў пісаць сам нарысы па балючай для мяне тэме перасяленцаў з Чар-

нобыльскай зоны. Тым больш што і мая родная вёсачка Асінаўка, закранутая Чарнобылем, была ўжо назаўсёды пахавана ў зямлі. У той зямлі, на якой стаяла, дзе мы радаваліся і сумавалі, спраўлялі радзіны і праводзілі сваіх блізкіх на вечны спачын. Засталіся на Асінаўскіх могілках сярод прадзедаў і мой бацька Сяргей Гардзеевіч ды бабуля Акуліна Ануфрыеўна...

Пасля «Полымя» была рэдакцыя «Маладосці», дзе пашчасціла працаваць загадчыкам аддзела прозы больш як дзесяць гадоў. За гэты час пабачылі свет мае кнігі прозы – «...І тады я памёр», «Незламаная свечка».

Ніколі не думаў, што прыйдзецца некалі працаваць зноў у газеце. Але ў 2003 годзе па настойлівай і нават прымусовай, калі можна так сказаць, «просьбе» тагачаснага дырэктара РВУ «Літаратура і Мастацтва» Таісы Мікалаеўны Бондар ды першага намесніка Уладзіміра Пятровіча Саламахі давялося мне пагадзіцца стаць галоўным рэдактарам штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва», таго выдання, якое адкрывала мне ў свой час дарогу ў родную літаратуру...

У 2006 годзе ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшла чарговая мая кніга прозы – «Юргон», а ў 2009 годзе ў РВУ «Літаратура і Мастацтва» наступная – «Горад у нябёсах».

*Сакавік 2009 года*



***Калінковіч***
***Мікалай Іванавіч***

## КАРОТКІ ПОГЛЯД НА ПРАЖЫТАЕ*

З гадамі ўсё больш пераконваешся ў мудрасці Аляксандра Блока, што сярэдзіна жыцця – самая цяжкая. Відавочна, так яно і ёсць, было і будзе. Таму што пачатак – заўсёды прасцей (заход, мабыць, таксама), рамантычна-клапатлівей, рызыкоўна-раўней, ці што. Без адмысловых глыбінных разважанняў. А калі з разважаннямі – дык аб тым, што цябе наперадзе чакае несумнеўная радасць, надзея, ажыццяўленне тваёй мары. Ты супакойваеш сябе, калі не зрабіў яшчэ выбар, што гэты выбар абавязкова адбудзецца. Многае табе прыйдзецца спасцігнуць, а спасцігнуўшы, зацвердзіцца ва ўласных вачах і, зразумела, у вачах тых, хто цябе акружае.

А калі да сярэдзіны жыцця нічога гэтага няма? Калі гады дарма прайшлі ў сумненнях, у безвыніковым пошуку, у барацьбе з жыццёвымі бурамі і г. д.? Калі ты дасягнуў толькі маленькую частачку таго, да чаго імкнуўся і, можа, нічога не дасягнуў – у адпаведнасці са сваімі душэўнымі памкненнямі, схільнасцямі, здольнасцямі?

Калі ты ўграз у чымсьці драбнаватым, бытавым, штучным, штогадзінным, павярхоўна-прыгожым? І паправіць ужо нічога нельга; час, гады згублены беззваротна – што тады?

Які ж падрахунак у мяне? Відавочна, як ва ўсіх. Са сваімі радасцямі і цяжкасцямі. Нарадзіўся ў вёсачцы Цна, якая раскідала свае хаты ўздоўж правага берага цудоўнай, ласкавай, панадна-серабрыстай рачушкі з аднайменнай назвай у 15 км на ўсход ад Лунінца. Нарадзіўся ў завею і траскучы мароз – 18 снежня 1950 года. Запісалі ў метрыку 15 студзеня 1951 года. І зусім не ад таго, што хацелі «падмаладзіць», а з той простай прычыны, што сельсавет знаходзіўся ў суседняй вёсцы – за добрыя тры вярсты. Паспрабуй у разгул зімовай сцюжы па шматпавярховых гурбах дабярыся. Да таго ж – цяжкія роды. Страта зроку на адно вока ў маці – назаўжды, заражэнне. Роды праходзілі без удзелу медыка, дзе яго тады было ўзяць? Для медыцыны цяперашняга часу і ў іншых умовах зыход усяго гэтага быў бы адным – суцяшальным. Тады ж... Гавораць, выжывалі з дапамогай вёскі, бо ў Кажан-Гарадоцкай амбулаторыі і Лунінецкай райбальніцы на маці і нованароджанага амаль махнулі рукой. Праз некаторы час адужэлі, зацвердзіліся, учапіліся за жыццё.

Са службы з Балтыйскага флоту вярнуўся бацька. Яго энергія і жыццёвыя інтарэсы патрабавалі прасторы. А яе вёска не магла даць, у той час. Падаўся ён у г. Усць-Каменагорск Казахскай ССР. Забраў і нас з маці. Балазе, там былі сваякі, у чымсьці дапамаглі. Сваякі затым таксама вярнуліся, на шчасце, на роднае Палессе. Жылі ў Усць-Каменагорску, здаецца, 4–5 гадоў. Памятаю перыяд гэты нядрэнна. Асабліва моцныя паводкі бурлівай рэчкі Ульбы, двор, школу, суседзяў. У Усць-Каменагорску нарадзілася сястра Валянціна, у лютым 1958 года. У тым жа годзе пайшоў у першы клас. Правучыўся ў гарадской школе ўсяго пару тыдняў. Затужылі мае бацькі па родным палескім краі, па срэбраводнай Цне і яе прыволлі. Вярнуліся ўвосень 1958 года. Выйшлі ўначы на станцыі Лахва. Да Цны – восем кіламетраў. Маці застаецца з васьмімесячнай сястрой у цесненькім будынку лахвенскай станцыі. Мы з бацькам – пешкі – у Цну, за канём. Мужчыны ж! Памятаю гэты шлях. Доўга-стомна-цікавы!

Вучоба ў Цнянскай – адразу пачатковай, а потым васьмігадовай школе. Сельскае дзяцінства са штодзённай працай – ці то на ўласным участку, ці то на калгасных палях. Асабліва любілі абганяць бульбачку, скакаць на конях. Жыццё было няпростае, але цікавае, карыснае. Вёска ў той час слаба стаяла на нагах. Становішча яе пагоршылася з-за розных бяздумных дырэктыўных ўказанняў зверху: вёску пазбаўлялі ўласнай жывёлы, канфіскоўвалі канёў у сялян, кароў, паабразалі соткі, навязвалі сеяць кукурузу, збяднялі не толькі

матэрыяльна, але і духоўна, маральна, знішчалі той уклад жыцця, што ўсталяваўся стагоддзямі. Тыя наступствы дагэтуль адбіваюцца. І вельмі доўга яшчэ будуць адбівацца.

Але радасць дзяцінства – яна нязменная, яна заўсёды ёсць, была і будзе, у любых умовах. Першая настаўніца – Аляксандра Рыгораўна Мойсак. Першы дырэктар школы – Мікалай Васільевіч Ачапоўскі. Любоў да літаратуры (Лермантаў, Някрасаў, Пушкін, Цютчаў, Багдановіч, Купала, пазней – Твардоўскі, Маякоўскі, Блок, Ясенін, Смелякоў...), гісторыі, моў, спорту. Нешта пісаў, прымаў удзел у школьным жыцці. Напісаў нават п'еску «Самагонка – сябра дружыны». Паставілі яе ў сельскім клубе, іграў галоўную ролю. Былі моцныя апладысменты: вёска ацаніла. Настаўнікі лаялі – нешта перайграў. А што – не памятаю.

У Цне скончыў сем класаў. А ў 1965 г., улетку, – пераезд у Лунінец. У сям'і нас ужо трое: у ліпені 1964 г. нарадзілася другая сястра – Любка. Тры класы (восьмы, дзевяты і дзесяты) – у лунінецкай СШ № 2. Вельмі чулы, добры класны кіраўнік у 8 «А» класе Валянціна Іванаўна Міхалеўская. Урокі літаратуры Нэлі Майсееўны Рэзнік (рускай) і Марыі Емяльянаўны Каліва (беларускай), гісторыі – Любові Іосіфаўны Сіманавай. Так, у шостым класе ў Цне – сачыненне: «Кім я хачу быць?» Напісаў, не забыць, «вайскоўцам-журналістам». Час паказаў, што выбар можна рабіць і ў трынаццаць гадоў. Дзеці, падлеткі не заўсёды памыляюцца ў гэтых пытаннях. Калі, скажыце, як не ў гэты перыяд шчырасць ёсць шчырасць, а прадчуванне – прадчуванне? А ўяўная нерэальная рэальнасць потым становіцца і рэальнай.

Усе гады вучыўся без троек за чвэрць. Асаблівы «націск» рабіў на любімыя прадметы, шмат чытаў, у адмысловых нататнічках запісваў прачытанае – героі, аўтары, памятнае... З дзесятага класа стаў актыўна супрацоўнічаць з лунінецкай раённай газетай «Ленінскі шлях». Благаславіў малады супрацоўнік Уладзімір Бацкалевіч, падтрымаў, даў дарогу на газетную паласу. У лютым 1968 года была апублікавана першая нататка ў «раёнцы» аб нейкім мерапрыемстве ў лунінецкай СШ № 2. Прозвішча сваё ставіць пасаромеўся, падпісаўся «М. Мікалаеў». У тым жа годзе скончыў школу з нядрэнным атэстатам. Куды ж? Журфак Белдзяржуніверсітэта імя У. І. Леніна. Нездарма ж пісаў у шостым класе аб прызначэнні! Вялізны конкурс там. Здаю, на першы погляд, нядрэнна: дзве чацвёркі (сачыненне, гісторыя) і дзве пяцёркі (літаратура, замежная мова). 18 балаў! Мала аказалася. Яшчэ б адзін, сказалі. Крыўдна да чорцікаў, асабліва калі даведаўся, што залічылі і з 17-ю баламі некаторых. Разваротлівыя таты і маці, іншыя «тонкасці», аказваецца, адыгрываюць таксама

не апошнюю ролю ў тым або іншым лёсе. «Бог не роўна дзеле» (Ф. Багушэвіч).

Што рабіць, чым заняцца? Звяртаюся ў Мінску ў адно з будаўнічых вучылішчаў; спецыяльнасць плітачніка-абліцоўшчыка паказалася мне даволі прывабнай, тым больш што навыкі ўжо меў: у час школьных канікулаў разам з бацькам працаваў у Лунінецкім БМУ над вырабам плітак для каналаў. Аказваецца, спазніўся: прыём дакументаў закончаны. Вяртаюся ў Лунінец, войска чакае амаль праз год – толькі ў 1969 годзе. Гутарка з Л.І. Сіманавай. Рэкамендуе ісці ў настаўнікі. І смешнавата, і страшнавата. Усё ж іду – да загадчыка райана П.Т. Баравіка. Цэлую гадзіну пхаюся ў калідоры, чакаю, калі запросяць. Запрашаюць. Канстатуюць, што ўсе «прыдатныя» пасады занятыя – асабліва ў населеных пунктах, найбліжэйшых да Лунінца.

– Што можаш?

– Нядрэнна ведаю літаратуру, гісторыю, мову...

– У Гаўрыльчыцах ёсць вакансія настаўніка нямецкай. Паедзеш?

Пацiскаю плячыма.

– Едзь, не пашкадуеш.

Згаджаюся.

Лёгка сказаць – «едзь». А на чым, як? Гаўрыльчыцы – лясная, бездарожная глыбінка Лунінецкага раёна, у 60–80 вярстах ад Лунінца. (Гэта зараз яна «сталічная» – адышла да Салігорскага раёна Мінскай вобласці, пакрылася асфальтам і дабірацца да яе – адно задавальненне, гадзіна язды).

Дабіраюся з поштай, у адкрытым кузаве грузавіка. Неймавернае трасенне, пяць гадзін. «Паштар» Дзіма з пісталетам – у кабіне з шафёрам. Не нудзяцца. Ім не ўпершыню. Дарога – непралазныя твань, глейкі грунт. Дзіўна, але забуксавалі ўсяго некалькі разоў. Гацілі галінкамі, прыхопленымі спецыяльна для гэтага дошкамі. Выехалі ў абед, а дабраліся толькі к вечару.

Гаўрыльчыцкая школа. Стаў пастаяльцам любасных, ласкавых людзей – дзеда Мікалая і бабкі Алены. «Кватэра са сталом» – 30 руб. у месяц. Верасень. «Такі малады настаўнік». Асвоіўся хутка. Усё – па душы. Як быццам так і трэба. Выкладаю нямецкую мову ў 5–8 класах. Дырэктар і асобныя настаўнікі – адразу з недаверам. Некалькі адкрытых урокаў. Інфармацыя П.Т. Баравіку ў Лунінец аб «маладым настаўніку»: «Ведае прадмет добра, няхай працуе».

Пішу ў раённую. Аб людзях сяла, аб Гаўрыльчыцах, аб клопатах вёскі. Арганізаваў секцыю валейбола. У дзяцей – вялікая цікавасць, і да нямецкага, і да спорту.

Амаль праз месяц з паштовай машынай і тым жа «паштаром» Дзімай выбіраюся ў Лунінец «на пабыўку». Сустрэча на вуліцы

Чырвонай з адказным сакратарам раённай газеты Эдуардам Уладзіміравічам Мацкевічам. Ён спыніў свой сіні матацыкл «К-750», згледзеўшы мяне:

– Зайдзі, Мікалай, да рэдактара.

Рэдактар – Васіль Андрыянавіч Ліцвінчук. Гутарка, заданні. Сапраўды, змяняць «прафесію» ўжо не хацелася. Вяртанне ў Гаўрыльчыцы. Заданні газеты выконваю, пішу. Запрашаюць у штат з месячным выпрабавальным тэрмінам. Праводзіць амаль уся школа, дзеці бягуць за паштовай машынай. Ім сумна, мне таксама. Шкада, але – добрыя, ласкавыя Гаўрыльчыцы і дзівосны іх народ – бывайце! Літаратурны супрацоўнік газеты. І вось я зноў у Лунінцы – амаль год займальнай, няпростай карэспандэнцкай працы. Спачатку вучылі мяне шмат, моцна, выхайвалі «лірыку», неардынарнасць, падганялі пад газетны штамп, сумняваліся – «а ці будзе з яго журналіст». Але я не здаваўся. Пісаў так, як мне падабалася, а не так, як хтосьці хацеў. 12 траўня 1969 года – двор РДК, маршрут на Брэст, войска. Трапіў у Ленінградскую ваенную акругу. У войску першапачаткова – вучэбка, шэсць месяцаў, скончыў яе з адзнакай. Суровая школа, скажу вам. Па заканчэнні – сяржанцкія нашыўкі і вайсковая спецыяльнасць – механік. Камандзір аддзялення, затым старшына роты. Старшы сяржант запасу. Увесь тэрмін службы – супрацоўніцтва з акруговай газетай «На страже Родины». Заахвочванне ад газеты – электрабрытва, уручылі ў Ленінградзе, у рэдакцыі, куды выклікалі – у маі 1971 года. Дэмабілізаваўся летам таго ж года. Думкі аб журфаку Ленінградскага дзяржуніверсітэта... І усё ж – Мінск. Але да паступлення – яшчэ два месяцы: праца ў «раёнцы» адказным сакратаром. Жнівень 1971 г. – паступленне на журфак Белдзяржуніверсітэта. Тыя ж адзнакі, што і тры гады назад, па тых жа прадметах. Але зараз – іншая справа, «са стажам», ды яшчэ кандыдат у члены партыі, маса публікацый.

Быў цікавым, дапытлівым, няўрымслівым студэнтам. Па рэкамендацыі цудоўнага чалавека, доктара навук, прафесара, пісьменніка і журналіста, загадчыка кафедры тэорыі і практыкі савецкай журналістыкі Барыса Васільевіча Стральцова актыўна супрацоўнічаў з «Сельскай газетай», залічылі ў штат – аддзел навін, малодшым літаратурным супрацоўнікам. Вучоба і праца. Першы – па сур’ёзным рахунку – настаўнік у журналістыцы, добры, душэўны чалавек Сцяпан Васільевіч Барадоўскі, загадчык аддзела. Наспела пытанне ў канцы 1973 года пераводзіцца на завочнае і працягваць працу ў газеце. Дэканат – ні ў якую. З штату газеты сышоў – працягваў супрацоўнічаць пазаштатна. Горкі асадак. І ўсё ж – выдатныя, незабыўныя студэнцкія гады. 1976 г. – размеркаванне. Па паспяховасці ўвайшоў «у дзесятку найлепшых». Зноў жа, як і ў школе, вучыўся без

троек, хоць шмат ездзіў па рэспубліцы (камандзіроўкі), працаваў у архівах. З трэцяга курса сур'ёзна ўзяўся за даследаванне «палескага перыяду» Аляксандра Блока. Па гэтай жа тэме абараніў дыпломную. Атрымаў запыт – пасля практыкі ў Брэсце – з абласной газеты «Заря». Паехаў у Брэст. Аддзел ідэалогіі, працую некалькі тыдняў, усё ў ажуры. Рэдактар – выдатны чалавек і журналіст – Пётр Пятровіч Суцько. Але ўсё ж «цягнуць» у Лунінец. Вырашаю. Намеснік рэдактара раённай газеты. Да жніўня 1978 года. Затым – запрашэнне ў органы дзяржбяспекі. Пэўная ў душы барацьба матываў. Зноў вучоба.

Як снег на галаву – Туркменістан, камітэт рэспублікі, верасень 1979 года. Ашхабад. Цяжка? А калі, скажыце, чалавеку бывае лёгка, асабліва калі ідзеш непракладзеным шляхам? Служу, не здаюся. Працую шмат, нават вельмі. На два франты – чэкісцкі і літаратурны, архіўна-даследчы. Службоўцы парэкамендавалі паступленне ў аспірантуру, кандыдацкія экзамены здаў паспяхова. 1984 г. – Масква. У гэтым жа годзе – член Саюза пісьменнікаў СССР, а ў 1977 г. – член Саюза журналістаў СССР.

Выйшлі кнігі: «Лунинец» (1981), «Не обрывается земная связь» (1982), «Имя мое – Свобода» (1984), «На рубежах тайной войны» (1985). Першая і чацвёртая – сааўтар і ў сааўтарстве. Выходзяць: «Палескія дні Аляксандра Блока», «Возвращение рассветной рани». Здаў у выдавецтва гістарычнае апавяданне «Оставь свой след». Ажыццявіць бы задуманае. Працую над дысертацыяй.

Колькі слоў адносна напісання прозвішча. У дакументах яно значыцца ў мяне «Каленковіч» (пашпарт). У літаратурных дакументах – Калінковіч. Спрабаваў разабрацца ў Мінскім дзяржаўным гістарычным архіве. Падняў кнігі Кажан-Гарадоцкай царквы XIX стагоддзя. Устанавіў, што прозвішча маіх продкаў пісалася «Калиникович», як у легендзе: «Нарадзіўся калісьці на Ніколу чалавек – Калініковіч». Ішоў час, змяняліся пісарчукі, пісалі па-рознаму. Хіба зараз устаноўіш – як было, як правільна. Мне падабаецца – Калінковіч, вось так і пішу. Хай будзе «калісьці на Ніколу». Нарадзіўся я і сапраўды па- рэлігійнаму «на зімовага Ніколу». Адгэтуль – і імя.

*21 кастрычніка 1985 года*

---

* Напісана на рускай мове. Пераклад зроблены ўкладальнікам.



# *Капыловіч*
***Іван Іванавіч***

## У ЧАСЕ БАЛЮЧАГА РОЗДУМУ

У кожнага, хто прыйшоў у літаратуру, свая непаўторная дарога. З удачамі і няўдачамі, з крутымі паваротамі, з першаю кнігай, з публікацыямі ў часопісах, перадачах на радыё, сустрэчамі з чытачамі, з роздумам аб новай кнізе, аб творы, які выспявае ў душы.

Азіраючыся назад, на свой літаратурны шлях, бачу многае, што стала маім асабістым і творчым жыццёвым лёсам.

Усё пачалося, пэўна, з першых нарысаў, якія я публікаваў яшчэ студэнтам аддзялення журналістыкі БДУ, а потым калі служыў у арміі і дасылаў свае нататкі ў акружную вайсковую газету.

Першыя абразкі, першыя апавяданні… Мабыць, іх ніколі б не было, не з'явілася на свет, не з'явілася ў друку. Усяму першапрычынай мой трагічны лёс. Працуючы ў штаце «Чырвонай змены», у адной са службовых камандзіровак я трапіў у аўтакатастрофу, на вельмі доўгі час быў прыкуты да бальнічнага ложка. Было многа балючых роздумаў, быў час балючай цішыні, адзіноцтва, калі непаз-

бежна паўстала пытанне: а што ж далей? Я атрымаў у час аўтакатастрофы такую траўму, што аб вяртанні на ранейшую журналісцкую работу нельга было і думаць. Няўжо заставацца сузіральнікам, міжвольным сведкам падзей, якія адбываліся вакол? Так, я амаль абязножыў, страціў здольнасць працаваць у калектыве, бываць усюды, дзе хацелася, куды мяне цягнула і дзе стваралася само жыццё. Але ж у мяне маладая галава, маладыя памкненні, дужыя рукі, мяне апаноўвалі думкі і мроі, якія пазбаўлялі спакою, падказвалі і тлумачылі, што трэба рабіць, падказвалі – з любой безвыходнай сітуацыі можна знайсці выйсце. На гэта трэба зусім нямнога – жаданне і сіла волі.

У маіх журналісцкіх блакнотах, у маёй памяці заставалася шмат нявыкарыстанага творчага матэрыялу ад камандзіровак, ад сустрэч і размоў з людзьмі, ад назіранняў за тым, з чым бачыўся, размаўляў сам-насам і што ўразіла, пакінула след у душы. І я сеў за свой рабочы пісьмовы стол. Сеў за гэты стол надоўга – на дзесяцігоддзі. І вынікам гэтага сталася паўтара дзесятка кніг прозы, шматлікіх апавяданняў, аповесцяў, раманаў.

Рэчаіснасць вымагала пісаць сур'ёзна, удумліва, па-свойму, разумеючы, што канкурэнцыя ў творчым цэху празаікаў не слабая, што беларуская літаратура – адна з лепшых літаратур не толькі краіны, а і свету. Не ўсё, вядома, удавалася, не ўсё з задуманага ажыццяўлялася. Але вучыцца было ў каго. Іван Пташнікаў, Іван Шамякін, Іван Чыгрынаў… Я з імі сустракаўся, размаўляў на семінары маладых у дамах творчасці «Каралішчавічы», «Іслач». Сустрэчы і размовы са слыннымі майстрамі слова западалі ў душу, вучылі любіць і шанаваць роднае слова, родную зямлю, вучылі з усёй адказнасцю ставіцца да справы, якой вырашыў прысвяціць сябе.

Вядома, кожны, хто стаў літаратарам, у сваёй вучобе абапіраўся і на вялікую рускую літаратуру. Прачытанне твораў рускай класічнай і сучаснай літаратуры давала ўрокі таго, як трэба беражліва, з асэнсаваннем ставіцца да сваіх герояў, да таго, што яны гавораць і робяць. Проза В. Распуціна, В. Бялова, Ю. Бондарава вельмі шмат чаму навучыла мяне ў сэнсе будовы твора, надання яму дынамікі, рэалізму.

Кожная выдадзеная кніга – гэта вынік карпатлівай, удумлівай, нялёгкай, гадамі, працы. Пішацца добра і па-сапраўднаму глыбока пра тое, што перажыў асабіста, што ўзрушыла, не пакінула раўнадушным, засталося ў памяці радасцю, болем, роздумам.

Удзячны таму, што на працягу доўгага часу давялося сустракацца з Іванам Пташнікавым, які з'яўляўся загадчыкам аддзела прозы часопіса «Полымя». Ён – празаік арыгінальны, непаўторны, патрабавальны як да сябе, так і да нас, аўтараў. Друкавацца ў «Полымі» ў той час, калі там працаваў І. Пташнікаў, было няпроста, але

кожны, каго І. Пташнікаў друкаваў, мог ганарыцца тым, што і ён на нешта здатны, нечага дасягнуў у сваёй рабоце і ім напісанае застанецца, увойдзе ў актыў беларускай літаратуры.

Удзячны я і Уладзіміру Дамашэвічу – чалавеку шчыраму, добразычліваму, які нямала паспрыяў, каб далучыць мяне да таго мацерыка, імя якому Літаратура. Ён першы прызнаў мяне як празаіка і, з'яўляючыся загадчыкам аддзела прозы часопіса «Маладосць», даў сваё рэдактарскае дабро на публікацыю маіх першых апавяданняў.

Так, напісана мною нямала. І апублікавана, выдадзена кніг таксама нямала. З настальгіяй згадваецца час, калі мае кнігі доўга не залежваліся на паліцах кнігарань. Быў такі залаты час. Ці вернецца ён? Бо сёння, цяпер, на жаль, роднае слова ў загоне, творчасць пісьменніка абясцэнена, а кнігі калі і выдаюцца выпадкова, то такімі смехатворнымі тыражамі, што плакаць хочацца. І апускаюцца рукі, хоць пісаць ёсць аб чым. Адно суцяшае, што гэты духоўны крызіс часовы. Бездухоўнае грамадства – гэта нонсэнс. Такое грамадства будучыні не мае.

*Лістапад 2008 года*



***Карызна***
***Уладзімір Іванавіч***

## НЕКАЛЬКІ АБЗАЦАЎ ПРА СЯБЕ

Нарадзіўся 25 мая 1938 года ў вёсцы Закружка Мінскага раёна пад салаўіную песню. Рос каля бацькавага чырвонага патэфона, побач з якім ляжала добрая сотня пласцінак з такімі галасамі і песнямі, што, слухаючы іх, заходзілася радасцю сэрца.

У тры гады я ведаў, дзе мая любімая ў стосе песня «Пасею гурочкі». Напяваючы па-свойму гэтую мелодыю, я, не разумеючы сэнсу тых слоў, прыдумваў свае, толькі мне і зразумелыя. Думаецца, тады і загарэлася ўва мне іскра творчасці ...

Я не ведаў сваіх дзядоў: яны рана памерлі, але іхнія гены не загінулі. Дзед мой па маме Канстанцін Іосіфавіч Захарэвіч быў славутым на ўсю акругу кавалём. Але ж не менш любімы ён быў у людзей і скрыпач. Каваль і скрыпка! Здавалася б, гэта зусім не сумяшчаецца. Скрыпка разумела і любіла яго рукі і адклікалася ім дзівоснай музыкай! Людзі ішлі да яе. Яна была часцінкай іх душы, яна была ім патрэбна, як праўда і сіла. Скрыпка – царыца настрою...

Родны мой дзядзька Антон Канстанцінавіч Захарэвіч праз усё жыццё прайшоў з гармонікам так, як са сваёй паштовай сумкай, дорачы людзям радасць!

Па бацькавай лініі дзед зачароўваў ваколіцу балалайкай. Яна перайшла і да майго бацькі. Я ж пацягнуўся не толькі да музыкі, але і да паэтычнага слова.

У тры гады на мяне навалілася вайна… Мы, трое дзяцей і мама, у сорак трэцім ледзь не сталі заложнікамі за бацьку-партызана. Цудам былі вывезены ў глухі партызанскі лес і там сярод ваўкоў у балоце хаваліся ў блакаду, ратаваліся журавінамі і горкімі сухарамі.

Жытнёвае поле, лясы і азёры,
Крынічанька ў лузе і ў небе жаўрук, –
Услухайся толькі – усё тут гаворыць:
Люблю цябе, Белая, Белая Русь.

Такіх радкоў і вершаў у мяне шмат, парыванняў шчырага прызнання ў любові да роднай зямлі, мілай майму сэрцу бацькаўшчыны, светламу слову і песні ...

Вёску нашу спалілі фашысты ў канцы вайны, і давялося бацькам будавацца. Пра гэта ў мяне паэма «Родны дом». У 1946 годзе я пайшоў у першы клас. За мяне ўзялася самая лепшая ў свеце настаўніца Соф'я Іосіфаўна Івашкевіч! Яна мне ўпрыгожвала жыццё, а яшчэ бацькава песня, і маміна таксама. Хацелася самому сачыняць, але я не ведаў, з чаго пачаць ...

Давала мне добрыя веды і масціла дарогу ў будучае Крупіцкая сярэдняя школа, дзе быў таленавіцейшы дырэктар Аляксандр Майсеевіч Бардовіч. Пражытае мною хінула сэрца да літаратуры, да песні. У 1956 годзе я паступіў у Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна на філалагічны факультэт. З першага курса пачаў друкавацца. Запісаўся ва універсітэцкі хор, якім кіраваў маэстра Ілья Яфімавіч Кліёнскі. А пазней па прапанове слыннага кампазітара Уладзіміра Уладзіміравіча Алоўнікава некалькі гадоў актыўна займаўся ў творчым семінары для самадзейных кампазітараў. Яго вялі нашы класікі Рыгор Канстанцінавіч Пукст і Генрых Матусавіч Вагнер. Тады ж была напісана песня, словы і музыка, «Беларусь мая сінявокая», якая і сёння ў рэпертуары Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору імя Генадзя Цітовіча разам з маімі пазнейшымі песнямі «Даўно ў той хаце не была» і «Гады маладыя».

Пасля заканчэння вучобы ва універсітэце мяне завабілі чароўныя браслаўскія азёры, школа. Нямала там пражыта і зроблена. Там і ажаніўся, там нарадзіўся сын – сёння вядомы беларускі кампазітар У. У. Карызна.

Працаваў на Беларускім радыё старшым рэдактарам, загадчыкам аддзела беларускай музыкі. Актыўна супрацоўнічаў са знакаміты-

мі кампазітарамі. Назаву некаторыя свае песні: «Люблю цябе, Белая Русь», «Журавінка», «Паверце, дзеванькі», «Белы караблік», «Песня аб роднай зямлі», «Пацалунак», «Салавей спявае», «Хаджу сунічнымі барамі», «Дом, дзе мы радзіліся», «Азёры дабрыні», «Зорачка мая», «На азёрах сініх», «Маміна вішня», «Салаўіная калыска», «Дні прыгожыя».

Працаваў больш за дваццаць гадоў у выдавецтве «Юнацтва». У гэты росквітны час шмат напісаў кніг для дзяцей: вершы, загадкі, казкі, паэмы, паэтычныя ўражанні ад паездак у В’етнам і Злучаныя Штаты Амерыкі.

Лічу, што творчасць – гэта перажытыя з прыемнасцю або з болем і расчараваннем калізіі жыцця. І Вялікая Айчынная вайна, і пасляваенны час, які хмяліў смалой і шчасцем новых зрубаў, і гарбачоўская здрада, трагічнае знікненне вялікай і гордай маёй Радзімы – усё гэта я не мог спакойна абысці. Пра ўсё, што востра перажыў, я шчыра і ўсхвалявана расказаў у сваіх вершах, паэмах, казках, песнях. Чытач можа са мной пагаджацца, або не пагаджацца, – гэта яго права.

Песня – мая асаблівая любоў. Без добрай песні шчасце не збудуеш. Песня – гэта калыска нацыі. У яе, як і ў чалавека, ёсць душа. Я пра гэта не забываў, калі садзіўся за стол, браў чысты ліст паперы. Слухаў сваё сэрца – і адчуваў, што у ім трапечацца новая песня.

Многія песні ў мяне ад мамы. Шмат іх прысвечана і маме. Яна разам з бацькам навучыла мяне шанаваць слова, памяць народа, яна адкрыла мне белы свет, які стаў для мяне прыгожым і родным. У працы і за сталом яна была Багіняй. Яе ўжо няма. Яна ў маім сэрцы і ў песні. Як сляза і любоў!

Дзе была мая калыска
Песнямі заманена,
Засталася толькі вішня –
Вішня маміна.
Я вясной туды прыеду,
Там – святла праталіна.
Усміхаешся мне цветам,
Вішня маміна.

Вялікі ўплыў на мяне зрабілі Максім Багдановіч і Максім Танк…

Гады ідуць – старэем, а ў сэрцы радок паэтычны разам з песняй балюча трапечацца незабытай крынічкай, дзе я ўпершыню на руках у бацькі ўбачыў на лузе ля свежага пракоса цёплае гняздзечка з птушанятамі, – і мне захацелася паляцець у неба.

*24 верасня 2008 года*



***Касцючэнка***
***Наталля Мікалаеўна***

## МАРА ЗДЗЕЙСНІЛАСЯ

Я нарадзілася 5 кастрычніка 1963 года ў вёсцы Старая Іолча Брагінскага раёна Гомельскай вобласці. Празаік, публіцыст. Пішу на беларускай і рускай мовах.

Мой бацька, Касцючэнка Мікалай Гаўрылавіч, 1939 года нараджэння, фізік, працаваў у абароннай прамысловасці, мае званне вынаходніка СССР. Маці, Касцючэнка Вольга Іванаўна, 1941 года нараджэння, матэматык. Працавала ў інстытуце тэхнічнай кібернетыкі АН Беларусі. З 1964 года бацькі жывуць у Мінску.

Родам бацькі з суседніх вёсак (Брагінскага раёна Гомельскай вобласці). Вучыліся ў адным класе. Маці была выдатніцай, таму бацька, які ўпотай закахаўся ў яе ў чацвёртым класе (дагэтуль не хацеў вучыцца, адмовіўся хадзіць у школу і застаўся на другі год), таксама стаў моцным вучнем, асабліва па такіх прадметах, як матэматыка і фізіка. Пазней, калі яны пачалі сябраваць, адзінае, што складала іх адносіны, гэта рашэнне матэматычных задач. Яшчэ пазней, у студэнцкія гады,

маці жартавала: «Той не мужчына, хто не ведае матэматыкі». Тата хацеў быць для яе сапраўдным мужчынам. Ведаў матэматыку, але ў якасці прафесіі абраў фізіку.

Сур'ёзныя ў мяне бацькі. Гэтай жа сур'ёзнасці патрабавалі і ад мяне.

Першай кнігай, якую бацькі далі мне ў рукі, калі я была яшчэ зусім маленькая і не ўмела чытаць, стаў падручнік па фізіцы. Падручнік быў з малюнкамі, і я яго падоўгу ціхенька гартала. І калі ў мяне з усмешкай пыталіся: «Што ты чытаеш, Наташа?», я кожны раз з сур'ёзнасцю адказвала, дакладней ледзь выгаворвала, бо толькі-толькі навучылася нешта гаварыць: «Фі-зі-ку».

Пісаць пачала ў школьным узросце. Спачатку – вершы. Вяла дзённік, які хавала і з якім дзялілася падзеямі, пачуццямі, разважаннямі. Гэты дзённік быў маім сябрам і маёй таямніцай.

Спачатку, калі была малой, марыла стаць свінаркай альбо даяркай, бо вельмі любіла родную вёску, у якой жылі мае бабуля і дзядуля; потым урачом, і абавязкова ездзіць на матацыкле па вёсках, каб лячыць старых і нямоглых людзей. А яшчэ пазней, перад заканчэннем школы, адчула, што вельмі хачу стаць пісьменнікам альбо журналістам, што менавіта ў гэтым – маё прызначэнне.

Але бацькі не падтрымалі такога майго выбару. «Пісаць пра тое-сёе – гэта несур'ёзна. А журналісты і наогул – балбатуны. Выбірай любую, але толькі тэхнічную навучальную ўстанову», – цвёрда загадаў мне бацька.

І я выбрала: Беларускі тэхналагічны інстытут імя С. М. Кірава, лесагаспадарчы факультэт, які скончыла ў 1987 годзе. Прырода, як і літаратура, мяне таксама хвалявала, таму і вырашыла стаць інжынерам лясной гаспадаркі. Але толькі не матэматыкам і не фізікам, хаця і ў матэматыцы, і ў фізіцы, дзякуй бацькам, была здольнай.

Студэнткай пачала друкаваць свае апавяданні (палічыла, што выказваць светапогляд у прозе больш сур'ёзная справа, чым у вершах). Ад напісання вершаў рэзка адмовілася, хаця ў шаснаццацігадовым узросце была пераможцай у юнацкім конкурсе паэзіі. Першыя апавяданні друкаваліся ў студэнцкай газеце «Тэхнолаг», часопісах «Родная прырода» і «Маладосць», у калектыўным зборніку «Карані» (выдавецтва «Юнацтва»).

Па заканчэнні інстытута збіралася працаваць на малой радзіме, у Камарынскім лясгасе Брагінскага раёна. Але аварыя на Чарнобыльскай АЭС, што знаходзілася ў 28 кіламетрах ад гарадскога пасёлка Камарын, змяніла жыццёвыя планы.

Я засталася ў Мінску, дзе столькі год ужо жылі мае бацькі, дзе я скончыла школу і атрымала вышэйшую адукацыю, няхай сабе і тэхнічную.

Працавала інжынерам-азеляняльнікам у Мінскзелянбудзе, аглядальнікам у газеце «Набат», дырэктарам прадпрыемства па фітадызайну і народных промыслах «Белы комін», дырэктарам фітастудыі «Белая квецень». Пад маім кіраўніцтвам аформлена больш за 400 аб’ектаў у рэспубліцы, у тым ліку дзяржаўных, напрыклад, Палац Рэспублікі, будынак выканаўчага камітэта СНД, міністэрствы, пасольствы, банкі, бальніцы, дзіцячыя дамы і садкі. Як спецыяліст па фітадызайну супрацоўнічала з тэатрамі і тэлебачаннем.

А замест матацыкла вывучылася вадзіць аўтамабіль.

Усё на першы погляд здавалася цудоўным. Але ўсё ж у кожным чалавеку ёсць прызначэнне, якое рана альбо позна дае аб сабе знаць. Яно стукае ў душу, ірвецца да жыцця, патрабуе рэалізацыі. Калі гэта не атрымліваецца, чалавек застаецца незадаволеным сваім лёсам.

Тое ж здарылася і са мной. Я, саракагадовы кіраўнік даволі вядомай у рэспубліцы фітастудыі, пасля бяссонных начэй, пакутлівых і балючых роздумаў і сумненняў, адмовілася ад таго, што на той дзень з’яўлялася асновай майго жыцця – ад сваёй спецыяльнасці. Пры тым, спецыяльнасці, у якой мела поспех. Адмовілася, каб здзейсніць дзіцячую мару – пісаць. Хаця рызыкавала зрабіць самую вялікую ў сваім жыцці памылку. Але інтуітыўна адчуванне свайго прызначэння аказалася больш моцным.

І вось я пішу. Друкуюся. Выдала некалькі кніг. Працую над раманам.

Маці – мой сур’ёзны матэматык, – калі пайшла на пенсію, напісала дзве аповесці на беларускай мове (таксама ведае рускую і ўкраінскую, бо скончыла Чарнігаўскі педагагічны інстытут), якія прысвяціла мне. Аповесці атрымаліся даволі ўдалыя. Я іх выдала разам са сваімі апавяданнямі асобнай кнігай «Сугучнасць», за што маці мяне вельмі лаяла: «Гэта нясціпла. Я пісала не дзеля друку. А каб хоць трохі пазбавіцца пачуцця віны, што калісьці з бацькам перашкодзілі табе».

Не. Не перашкодзілі. Бо я аб тым не шкадую.

З 2005 года працую рэдактарам аддзела прозы – членам рэдкалегіі часопіса «Нёман», з 2006 года – выконваю грамадскія абавязкі намесніка старшыні Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, член секцыі прозы СПБ.

Родныя мясціны, людзі, чый лёс закрануў Чарнобыль, займаюць істотнае месца ў маёй творчасці. Пішу пра боль, які спазналі мае землякі і якога нельга пазбавіцца, боль, калі губляеш самае дарагое і, на першы погляд, надзейнае, што ў цябе ёсць, – радзіму, сваю зямлю.

А галоўная тэма маёй творчасці – дабро і зло, супярэчлівыя якасці, якія ўжываюцца ў кожным чалавеку.

Таксама спрабую расказаць і пра ўласныя ўчынкі і пачуцці, якія, на жаль, не заўсёды былі добрымі, каб прааналізаваць прыроду такіх чалавечых якасцяў, як эгаізм, крыўдлівасць, слабахарактарнасць, зайздрасць, баязлівасць, здрадніцтва.

Свае творы друкую не толькі ў Беларусі, але і за межамі: у Расіі, Літве (у часопісах «Наш современник», «Союзное государство», «Литературный Каунас»). Часта выступаю перад чытачамі, як намеснік старшыні МГА СПБ арганізоўваю творчыя вечары іншых пісьменнікаў.

У нейкай ступені лічу, што мая мара здзейснілася.

*2008 год*



***Краснова-Гусачэнка***
***Тамара Іванаўна***

## «Я В ХРАМЕ ВЫРОСЛА БЕРЕЗОВО-РЖАНОМ...»*

У газеце «Советская Белоруссия» за 27 студзеня 2006 года, якую я выпісваю вось ужо трыццаць гадоў, у адным з матэрыялаў прачытала аб сваёй малой радзіме:

«На ўсім сваім працягу расійская гісторыя, як, зрэшты, і сусветная, не абыходзіцца без парадоксаў, быццам знарок падстроеных кантрастаў і фатальных супадзенняў. У пачатку XX стагоддзя Локаць (у Бранскай вобласці) быў не простым пасёлкам, а асабістым маёнткам вялікага князя Міхаіла Раманава. І быў вядомы заведзенымі найвышэйшымі асобамі славутасцямі: раскошнай ліпавай алеяй, дзівосным яблыневым садам, разбітым у выглядзе двухгаловага арла…»

Локаць – сягоння невялікі горад, цэнтр Брасаўскага раёна Бранскай вобласці. У сарака кіламетрах ад яго на паўднёвы ўсход, на мяжы трох абласцей: Бранскай, Курскай і Арлоўскай, – якія сыхо-

дзяцца трохперсцем вёскамі Клімава, Юрава і дарагой майму сэрцу, незабыўнай сваёй казачнай прыгажосцю, роўнай якой няма ў гэтым свеце, вёскай Шчапяціна, 1 красавіка 1948 года я і з'явілася на свет.

Вёска Шчапяціна раскінулася каля падножжа Сакаловай горкі, названай так па імені памешчыка Сакалова, маёнтак якога спалілі і разбурылі ў 1917 годзе. Я яшчэ памятаю, як мы збіралі на папялішчы «цацкі» – прыгожыя аскепкі парцэлянавых кубкаў, з імі пасля вайны і гулялі, іншых цацак не было ў нас, калі не лічыць лялек з анучак. Праўда, у нашай хаце быў, я запомніла адзін такі – чароўнай прыгажосці кубак, беласнежна-блакітнага колеру, з вензелямі і мудрагелістым залаціста-фіялетавым малюнкам… Бабуля Алёна захоўвала яе чамусьці, як каштоўнасць, у адмысловай скрыначцы з сакрэтам, якая належала майму дзядулю Антону (гэта мае продкі па бацьку). У гэтай жа скрыначцы захоўвалася і яшчэ адна каштоўнасць – Евангелле выдання 1801 года, па якім пад мяккім, але настойлівым кіраўніцтвам майго мудрага і самага цярплівага дзеда Антона я потым вучылася чытаць, думаць, мысліць, бачыць свет…

Імя невядомага мне Сакалова ўвекавечыў дзівосны сад. Ён бушуе і па гэты дзень больш чым дваццаццю сартамі бэзу, які пераўтварыўся з часам у гіганцкія валы, разросся і ператварыў усю горку ў вялізнае, на цэлы гектар, бэзава-фіялетава-блакітнае воблака, што пышнай шапкай прыгажосцей і п'янлівых водараў накрыла ўсю акругу. Гэты бэз унутрывенна, падсвядома ўвайшоў у мяне на ўсё жыццё бязмернасцю прыгажосці свету, найтанчэйшы яго фарбаў, тонаў, паўтонаў, чвэрцьтонаў, гукаў, мелодый, вечнай невымернай радасці і ўрачыстасці жыцця…

Мой дзед па маці Даніла Фёдаравіч насіў прозвішча Локанаў, як, зрэшты, і палова пасёлка Лунькі, дзе ён жыў, і гаварылі, што ўсе Локанавы рассяліліся ў свой час з Локця… Дзед быў вядомым пчаляром, рымаром, валюшнікам і печнікам на ўсю акругу. Сад дзіўных гатункаў яблыкаў, груш, вішань, сліў і ягаднікаў, руж і шыпшыннікаў выгадаваў дзед на грудзе, які так потым і назвалі – Данілін. Мёдам і яблыкамі з гэтага саду кармілася потым уся акруга, дзед Даніла быў незвычайна шчодры, бо паходзіў ён з прыгоннага найбяднейшага роду і, стаўшы гаспадаром дзякуючы сваёй працавітасці і таленту, нажываў сабе горб і мноства сялянскага дабра, заўсёды спяшаўся ўсім, што меў, падзяліцца. Рабіў ён гэта надзіва таленавіта, хораша, яму так жадалася хутчэй раздаць сваю радасць «валодання» чымсьці, што, падавалася, ён гатовы быў бегчы хутчэй насустрач кожнаму, каб надзяліць яго гасцінцам!

Бабуля Вера Дзмітрыеўна, хоць таксама была з прыгонных, якія жылі толькі падзёншчынай, наадварот, стаўшы гаспадыняй, ула-

дальніцай садоў і скляпоў, свірнаў, напоўненых працавітымі рукамі ўсялякім дабром, і страціўшы ад цяжкай працы здароўе (адняліся ногі), была вельмі скнарлівай, і ёй вельмі не падабаліся шчодрыя ўчынкі дзеда Данілы.

Мая маці Аляксандра Данілаўна Локанава, малодшае дзіця ў сям'і Данілы Фёдаравіча і Веры Дзмітрыеўны, скончыўшы Локацкі тэхнікум меліярацыі, была накіравана ў 1941 годзе на практыку ў Брэсцкую вобласць, у Беларусь, дзе яна жыла на кватэры ў вельмі добрай і клапатлівай беларускай сям'і да раніцы 22 чэрвеня 1941 года.

Калі пачалася страшная на ўсе часы Вялікая Айчынная вайна, маці са ўсімі бежанцамі пайшла на ўсход, марачы хутчэй вярнуцца да маці з бацькам, на свой пасёлак Лунькі, да якога ёй, семнаццацігадовай дзяўчынцы, давялося, як высветлілася потым, цэлых два гады дабірацца праз тыф і раненні, голад і абдымкі смерці, прайсці каля тысячы кіламетраў па вогненных дарогах вайны, засланяючыся адзіным сваім шчытом – маленькім вучнёўскім партфельчыкам (гэта ўсё, што ў яе было, а потым і ён знік дзесьці ў дарозе), да свайго дому. А прыйшоўшы дахаты, убачыць, што ў любімым і жаданым доме, да якога яна так імкнулася, ідучы праз вайну, жывуць… немцы. Усе родныя, хто застаўся жывы (многіх пагналі ў Германію, забілі…), хаваліся ў свірне без вокнаў і печкі. Праўда, дзед Даніла зрабіў жалезную «буржуйку». Ёю і грэліся, на ёй і ежу варылі. А маці хавалася, суткамі лежучы ў снягах лесу Він-да-Віна, што за пасёлкам, пад час наездаў-аблаў паліцаяў, шукаючых маладую працоўную сілу для Германіі. Прыйшлося і халадаць і галадаць, але ратаваць, выходжваць чацвярых дзяцей загінуўшага ў першыя дні вайны пад Гомелем у сяле Юркавічы брата Івана…

Пасля вайны маці накіравалі працаваць загадчыцай пачатковай школы ў вёску Шчапяціна. Школы, праўда, ніякай не было. Яе мелася пабудаваць самой жа загадчыцы. Лесу не было таксама. Спачатку трэба было вырабіць саманныя кубы – гэта такая вялікая цэгла з сумесі нарэзанай саломы і гліны. Потым з іх скласці сцены. Абмазаць іх. Прынесці з пасёлка Локаць, што за сорак кіламетраў, на гарбу ўсё, што для школы трэба: глобус, кнігі, сшыткі…

Мой бацька, Іван Антонавіч Рудакоў (таксама малодшы сын у сям'і), які прайшоў усю вайну ад званка да званка, вызваляў Берлін, прыйшоў з вайны інвалідам (пасля кантузіі ў яго не працавала правая рука, і ён навучыўся пісаць левай з-за крайняй неабходнасці весці дакументацыю), быў абраны старшынёй калгаса імя Тэльмана. Калгаса таксама, па сутнасці, не было. Яго трэба было ствараць з нуля. Спаленыя датла вёскі, аднак, жылі! Выкапаўшы зямлянкі, накрыўшы іх бярвеннем з пакінутых бліндажоў, сцен акопаў, яны

жылі такой надзеяй і радасцю, якую толькі могуць адчуваць людзі, пацярпеўшыя жудасныя, нечалавечыя страты, перажыўшыя страшную, нябачаную дагэтуль па сваёй жорсткасці і маштабам вайну.

Мае бацька і маці пакахалі адзін аднаго з першага погляду, якім яны сустрэліся на будаўніцтве школы, і ўвосень 1945 года сталі мужам і жонкай. А першага красавіка 1948 года, у пару небывалага разводдзя (снежнай, вельмі халоднай была мінулая зіма), у зямлянцы, па сценах якой цякла няспынна вада, нарадзілася дзяўчынка – Тамара Рудакова. Святло было толькі ад газавай лямпы, роды прымала вясковая бабка-павітуха Фрося, і ў гэтай паўцемры, завязаўшы наспех пупавіну ільняной ніткай, яна чамусьці абвясціла, што нарадзіўся хлопчык. Маці ж чакала дзяўчынку, прадказаную ёй…

Уначы ці то ад натужлівага крыку, ці то ад нетрываласці сваёй вузельчык развязаўся, і я, сыходзячы крывёй, ледзь не загінула, не паспеўшы ўбачыць белы свет.

Але нездарма ж маці маёй, задоўга да майго нараджэння, яшчэ калі і аб самой цяжарнасці яна, маладая, і не падазравала, прысніўся Мікалай Угоднік, усімі любімы на Русі святы. Ішоў ён па вуліцы, міма маці, у срэбнай белай кашулі з палатнянай торбай на плячы, і маці, вырасшая ў бязбожным свеце, якая не бачыла ніколі ні аднаго абраза, прыняўшы яго за жабрака, якіх шмат тады хадзіла па галодных пасляваенных сёлах, сказала яму ў сваім сне:

– Дзядуля, пачакай трошкі, я зайду ў зямлянку, прынясу табе міласцінку!

На што стары адказаў на ўсё жыццё незабыўным ёю потым голасам:

– Ты нічога не можаш мне даць. Гэта я дам табе вестку. Ты народзіш дзяўчынку, у пятніцу, у дзевяць гадзін вечара…

І па паводцы, цераз разводдзе і вясновую бездараж ішла за дзевяць вёрст з Лунькоў, спяшалася, трывогай падганяемая, каб прыйсці ў Шчапяціна досвіткам суботняй раніцы, мая бабуля Вера, у клуначку несучы загадзя прызапашаную для такога выпадку шаўковую трафейную нітку… Так і выратавала яна мяне ад немінучай гібелі, перавязаўшы пупок нямецкай ніткай, заадно і ўдакладніўшы, што нарадзілася доўгачаканая, абяцаная Мікалаем Цудатворцам дзяўчынка. А з'явілася я на свет зусім дакладна – у пятніцу, у дзевяць вечара, вось і не вер пасля гэтага ў цуд!

Я в храме выросла березово-ржаном,
А родилась – под куполом апреля,
Предсказанным Николой вешним днем,
Когда ручьи так весело звенели!

Когда грома на небе стали зреть!
И – Слава Богу! – бабушка сказала,
– Такое половодье на дворе,
И мы с прибавкой! – Ведра расставляла

Вдоль стен землянки… А вода текла
Слезами счастья: кончились морозы…
Кувшин стоял на краешке стола,
И в нем светились вербы, как мимозы.

І вось зараз я пішу гэтыя радкі:

Дабрыдзень, любоў мая, чытач мой! Той, для каго пішу, наросхрыст адчыняючы сваё палаючае сэрца, яму ёсць чым гарэць, у яго, як Ты ўжо паспеў адчуць, багатая спадчына – гэта Радзіма і дзяцінства! І яно, маё сэрца, без астатку гатова згарэць (і гарыць!), толькі бы ў свеце стала менш холаду і болю, крыўд і пакут… І я пішу і спяваю Табе з дзяцінства і майго, і Твайго, незабыўнага, якое непазбыўна напаўняе наша жыццё цяплом, святлом, каханнем, памяццю…

Ды што ж ёсць і можа быць больш цудоўнае за яго?! Дзяцінства – гэта чысты ліст паперы, які полымем гарыць, заклікаючы пакласці хутчэй радкі ў яго ачышчальны вечны агонь, асвятляючы шлях праз час… Праз усё жыццё, ад першага крыку да апошняга ўздыху, мы ўсе нясём у сабе гэтае святло, непазбыўна-салодкае….

Ясна памятаю раніцу ў маім родным Шчапяціне або ў хаце дзеда Данілы і бабулі Веры – на Луньках! Яна абуджала мяне, уваходзячы з водарам квітнеючай за вакном ліпы, потым – мёду, воску, яблыкаў, потым – снегу, завей, казак…

Яшчэ – суніцы на стале… Вось яны, у драўлянай місцы, на досвітку… А побач – скібка жытняга, духмянага, на капусным лісце выпечанага хлеба і кубак халоднага, толькі што са склепа, малака….

І – слёзы… Памятаю – слёзы – наўзрыд – з нагоды і без.

І адкрыццё першых «укусаў» крапівы, потым – калючак… Не ўсё так мядова ў гэтым свеце.

І – вясковая вуліца за акном – на золку, залітая сонцам і цішынёй: пыл падаецца залатым, трава – шоўкам, а цішыня – толькі крані, зазвініць, такой крыштальнай вазай вісячая над сялом…

Прага ведаў была такая вялікая з першых усвядомленых імгненняў, а характар такі адчайна-бясстрашны (бо страх прыходзіць з гадамі, з досведам…), што трапляла я пастаянна ў экстрым, чым прыносіла бацькам сваім немалыя клопаты.

Бацька і маці сыходзілі на працу раніцай і прыходзілі зацемна. Пасляваенныя гады, трэба было ствараць матэрыяльную базу калгаса, паднімаць запушчаныя землі. Якія сілы чалавечыя былі пасля вайны: удовы ды калекі… Ні тэхнікі, ні ежы ўдосталь.

Маці з аднавяскоўцамі сама будавала школу, у ледзяной вадзе мясілі нагамі гліну з саломай, спяшаліся паспець… Застудзіла рукі і ногі, доўга хварэла на найцяжэйшую форму дэфарміруючага поліартрыту і ўжо ў сарок пяць гадоў стала нерухомая, сеўшы ў каляску інваліда першай групы. Аднак працавала ў школе да самай пенсіі і была ўзнагароджаная значком «Выдатнік народнай асветы». Маці была заслужаным і вельмі таленавітым настаўнікам. Многія гады прыязджалі і прылятаі са ўсіх канцоў нашай вялізнай тады краіны да яе былыя вучні.

Мы з сястрычкамі Алай і Зінай былі часта пакінутыя на саміх сябе, рана пастаўленыя на гаспадарку. З сямі гадоў я ўжо ўмела касіць траву – дзядуля зрабіў для мяне маленькую касу, даіць карову, разам з бабуляй паліць у печы, палоць, рыхліць, паліваць, нанасіць вады са студні на ўсю гаспадарку… Спраў было заўсёды так шмат, адвільваць ад іх лічылася ганебным… Але дзед Антон, бачачы маю прагную цягу да чытання (а бібліятэка дома была вялікая, шмат кніг прыносіла з раёна маці, і бацька прывозіў іх, да таго ж бібліятэка ўжо была і ў школе, і ў калгасным клубе – хата-чытальня), усяляк дапамагаў мне выкраіць гадзінку-другую для чытання… Ды і ці магло быць інакш, бо гэта дзед Антон першы адкрыў перада мной свет, чытаючы доўгімі зімовымі вечарамі на печцы старое Евангелле… «У пачатку было Слова. І Слова было ў Бога. І слова было Бог…» І далей – пра стварэнне свету, пра дабро і зло, пра барацьбу невынішчальную паміж імі… На ўсё маё жыццё – запаветам сталі залатыя словы Евангелля, якія ўвайшлі ў свядомасць з ціхім і добрым голасам майго мудрага дзеда Антона: «Палюбі блізкага свайго, як самога сябе…»

Сёння я думаю, што менавіта яны – мае дзяды Антон і Даніла, бабулі – Алёна і Вера, бацька – Іван і маці – Аляксандра, мае прадзеды і прабабулі, пражыўшыя неймаверна цяжкае жыццё, якія ўмелі пры гэтым радавацца яму і быць шчаслівымі (!!!), менавіта яны – былі сапраўднымі паэтамі.

Вышивала бабушка
Розовый закат:
На зеленой травушке
Яблоки лежат…

Катит тихой речкою
Шелковая гладь,
И стежочки – свечками,
Свечками горят.

Положила в ноженьки
Дедушке рушник,

Чтобы дал им Боженька
Доли на двоих.

На роду натруженном,
Кротки и тихи,
Ткала, шила кружевом
Бабушка стихи…

А ў маёй бабулі Алёны было шаснаццаць дзяцей… Жывымі засталіся толькі трое. Малодшы – кучаравы і вельмі прыгожы – мой бацька – Іван. У бабулі Веры дзяцей было дванаццаць. Памерлі ўсе, акрамя маёй маці і загінуўшага на фронце сына Івана.

Не было ні дзіцячых садкоў, ні ўрачоў-педыятраў, ні цяпла ўволю, ні ежы. Затое працавалі з раніцы да ночы. Накарміць, апрануць, абуць сябе, выжыць – усё самі…

Першыя рыфмаваныя радкі былі напісаныя мною ў шэсць гадоў друкаванымі літарамі на кавалках шпалер. Першыя апублікаваныя адносяцца да 1962 года, мне тады было 14 гадоў. Вершы былі заўважаныя ў школьнай насценгазеце інспектарам РАНА, які прыязджаў у школу, і знайшлі свой далейшы шлях у раённай газеце «Брасовский коммунар».

Скончыўшы сярэднюю школу № 9 Бранска, куды я пераехала разам з бацькамі ў 1964 годзе, паступіла ў Маскоўскі аўтатранспартны тэхнікум (Бранскі філіял), рана атрымала вадзіцельскія правы, і ўжо з 1968 года асвоіла ваджэнне. Затым паступіла ў Навазыбкаўскі, які праз два гады перавялі ў Бранск, і ён стаў Бранскім дзяржаўным педагагічным інстытутам, філалагічны факультэт якога я скончыла ў 1974 годзе. Пасля гэтага вучылася ў Мінскім дзяржаўным педагагічным інстытуце імя М. Танка, які скончыла ў 1986 годзе па спецыяльнасці лагапедыя і дэфекталогія.

Са жніўня 1974 года жыву і працую ў Віцебску, куды мы пераехалі разам з мужам-вайскоўцам. Тады быў Савецкі Саюз, які здаваўся непарушным на стагоддзі, Беларусь была яго часткай, і, вядома, ніхто і падумаць не мог, што з часам адбудзецца развал, распад вялізнай краіны… Беларусь, як і ўсе рэспублікі, стане незалежнай дзяржавай… Але я па-ранейшаму адчуваю сябе на той Радзіме, яна так і засталася для мяне ўся – родная, каханая, адзіная. І калі я гавару або пішу, што Беларусь – мая другая Радзіма, усё-ткі гэта не зусім праўда, таму што яна ж для мяне і першая, і, як я ўжо сказала, адзіная, тая ж… Бо я не з’язджала за межы Радзімы нікуды. Усю сваю энергію неўтаймоўную аддавала і аддаю, працуючы на ніве асветы: і ў РАНА, і ў дзіцячым садзе – пятнаццаць гадоў загадчыцай выдатнага, таленавітага педагагічнага калектыву дзіцячага сада для дзяцей з цяжкімі парушэннямі мовы № 18 горада Віцебска. Потым пайшла на творчую працу: сабрала літаратурнае аб’яднанне «Ратуша» на базе Віцебскай гарадской цэнт-

ральнай дзіцячай бібліятэкі ім. А. Гайдара, члены якога амаль у поўным складзе былі прыняты ў Саюз пісьменнікаў Беларусі, створаны ў лістападзе 2005 года. З першых дзён стварэння нашай абласной пісьменніцкай арганізацыі я, руская, якая піша на рускай мове, была аднагалосна абраная яе старшынёй! Хіба магла я, ці магу – не апраўдаць такога высокага даверу, аказанага мне пісьменнікамі?! А іх у нас у Віцебскім абласным аддзяленні – сорак чалавек! І ўсе яны – мне дарагія, за творчы лёс кожнага я хварэю і імкнуся падтрымаць, дапамагчы, чым толькі магу! Перакладзеныя мною вершы маіх таварышаў сёння апублікаваныя ў літаратурных часопісах Расіі і Латвіі.

Я люблю маю Беларусь! Бязмерна люблю мой Віцебск, і заўсёды, калі прыходзіцца бываць за яго межамі, з палкасцю хвалюся сваім домам, горадам, Радзімай!

Бо менавіта тут, у Віцебску, разам з маім мужам Уладзімірам, які родам з Сумскай вобласці, з Украіны, мы пабудавалі вялікі і ўтульны дом, вырасцілі сад. Тут радзіма траіх маіх дзяцей і ўнукаў.

Адсюль пайшоў служыць і вучыцца ў Чарапавецкае вышэйшае (тады яшчэ наша, савецкае) ваеннае вучылішча мой старэйшы сын, першынец Мікалай. Менавіта яго лёс першым крануў распад і развал краіны, калі ён выпускніком вучылішча замест меркаванай службы ў Германіі патрапіў у кацёл Сцепанакерта…

Потым – у землятрус, які здарыўся ў Арменіі, дзе ён тады служыў. І апынуўся з маладой жонкай і двухмесячнай дачкой Насцяй, маёй унучкай, у яго эпіцэнтры. Яны цудам ацалелі, паспеўшы выбегчы з дому, які праз імгненне разваліўся…

А ў мяне ў Віцебску ў гэты час раздзіралася ад болю за іх сэрца. І я не магла нічога зрабіць. Нават паехаць у Бранск да маці, прыкаванай да інваліднай каляскі, ужо стала праблемай, таму што на мяжы былі вялікія чэргі, а ў нас нарадзілася маленькая дачка Аленка, ды і сярэдні сын Павел быў яшчэ малодшым школьнікам, і не было на каго іх пакінуць надоўга. Але мы ездзілі, ездзілі на сваіх старэнькіх «Жыгулях» у Бранск кожныя два тыдні, і ў галалёд, і ў слоту, і ў завею, і снегапад, і везлі маці і сёстрам прывітанне з Беларусі ў выглядзе беларускіх сувеніраў, гасцінцаў разнастайных, у нас у той час было значна лепш з прадуктамі. І многія нашы суайчыннікі ехалі ў Рудню і Смаленск, Ленінград і Маскву з тым жа прадуктовым наборам… Многія гэтым і на жыццё зараблялі… Таму што зноў наступіла пара распаду, цяжкасцей….

Потым я забрала да сябе сваіх бацькоў. У Віцебску памёр бацька Іван, у Віцебску ён і пахаваны.

А вось сын мой Мікалай, вырваўшыся з пекла Паўночна-Каўказскага рэгіёну, патрапіўшы ўжо на службу ў Чарапавец, дзе некалі вучыўся,

жыўшы ўжо там са сваёй сям'ёй, летняй белай ноччу 23 чэрвеня, вяртаючыся з камандзіроўкі з Санкт-Пецярбурга ў Чарапавец ля мястэчка Чагода загінуў… Удар прыйшоўся ў шкло, да якога ён, заснуўшы, прыхінуў галаву сваю… А ў аўтамабілі цалюткімі засталіся яшчэ тры пасажыры і кіроўца, задрамаўшы за рулём і стаўшы вінаватым у смяротнай, страшнай аварыі, якая перакрэсліла, нават якая спрабавала зусім закрэсліць усё маё жыццё, заадно і жыццё ўсяго майго дрэўца родавага, са ўсімі яго галінкамі і лісточкамі… Трэба сказаць, што кіроўцу таго не асудзілі, нават правоў не пазбавілі, паколькі ён быў сваяком «новага рускага» алігарха. Я яго не праклінала, па судах не хадзіла. І нявестцы забараніла.

Хозяин дома – муж, отец –
Родился в Украине.
А в Беларуси – сердцу свет –
Дочушка и два сына!
Я – россиянка! Так цвели
Сады и пели соловьи,
Когда на тройке русской
Меня невестой увезли,
Я стала белорусской.

Три родины во мне живут,
Да как же им не жить!
Моя любовь и там, и тут,
Ее не разделить.
Как свое сердце разорвать?
Россия – детство там и мать.
Люблю… О, Русь святая!
На Украине – мужа мать,
Свекровь моя родная!

А белорусская земля
По крови – Родина моя,
Судьбы моей соцветье,
Ведь здесь родились дети!
И внуки! Здесь – любовь моя!
Здесь испытанье дал мне Бог.
И жизни здесь моей итог.
И свой последний в жизни вдох
Я здесь готовлюсь встретить.

Адкуль растуць вершы? Не ведаю. Ды і ніхто не ведае.

Мой досвед і ўсё маё жыццё гавораць, што з болю, з кахання непазбыўнага. У іншых – не ведаю, можа быць, і па-іншаму… Дай Бог!

Дзесяць кніг выйшла ў мяне з 1998 па 2008 год. Амаль кожны год па кнізе. Але напісаны ўвесь уключаны ў іх матэрыял – ва ўсё маё жыццё.

Зараз – даводжу, чышчу, праўлю, перапісваю часам не па сем, а па семнаццаць разоў. Патрэбнае і дакладнае слова гадамі не дае супакою, круціцца ў «мазгавым камп'ютэры», б'ецца, як неабчасаны камень-

чык у хвалях бушуючага, неспакойнага і нядрэмнага працэсу мыслення і пошуку, пакуль – о, цуд! – не ўспыхне адзіным дакладным словам-знаходкай… Бывае, што верш яшчэ не апублікаваны, тады – добра, а бывае, што ён ужо выйшаў у свет… Тады, панаракаўшы на сваю паспешлівасць і нямала паперажываўшы, уношу новую рэдакцыю, уключаю яго ў новае выданне ўжо ўдакладненым і абноўленым…

«Когда вы начали писать стихи?» –
Записка мне из зала поступила.
Стихи в ночи… О, как они тихи!
Чтоб не спугнуть, на цыпочках ходила
По половицам детства, при свече,
Чуть переступишь – тишь под небесами,
И ни следа, ни звука, и ничем
Их не вернуть… Пока вернутся сами.

Явлением измученной душе
От нестерпимых мук освобожденье
Они дают… И вот их нет уже…
Что это? Ангел? Или – наважденье?

Чтоб разобрать бегущие штрихи,
Их выплавить в строку – всей жизни мало…
Когда я начала писать стихи?!!!
Мне кажется, еще не начинала.

*Лістапад 2008 года*

---

* Напісана на рускай мове. Пераклад зроблены ўкладальнікам.



***Крупенька***
***Яўген Міхайлавіч***

## З МАЙГО ЖЫЦЦЯПІСУ

Калі я сустракаюся з чытачамі, людзьмі самых розных узростаў і прафесій, даволі часта даводзіцца адказваць на адно і тое пытанне: калі зрабіўся паэтам? І на яго я адказваю вельмі проста: «Спачатку нараджаецца чалавек, а потым паэт».

Дзень свайго нараджэння – 20 жніўня 1936 года – я, вядома, не памятаю. Але маці мая, Браніслава Пятроўна, з асаблівай любасцю расказвала:

– Ты, сынок, нарадзіўся якраз тады, калі я не паспела дажаць жыта. Але бацька сказаў: «Жыта няхай і асыплецца – не бяда. Затое ў мяне ў сям'і ёсць мужчына. Сын! І цяпер ты за ім глядзі як вока».

Бацька вельмі хацеў дзяцей, вельмі перажываў, калі памерлі першынцы, і на маё з'яўленне на свет ён глядзеў як на самую вялікую надзею ў сваім жыцці. Вядома, ён не менш радаваўся, калі маці нарадзіла яшчэ і дзвюх сясцёр – Таісу і Паліну, але ўсё ж мяне, як

я памятаю, ён любіў асабліва моцна. І калі ў грозным сорак першым з аднавяскоўцамі пакідаў парог роднай хаты, ён доўга трымаў мяне на руках, туліў да сябе, гладзіў па галаве, цалаваў і даў апошні наказ маці: «Глядзі дзяцей, беражы Жэню».

Даўно не вярнуўся ён з вайны; тонкая, гонкая бярэзінка, якую мы з ім прынеслі з лесу і пасадзілі пад акном нашай хаты, даўно ўжо стала высокай бярозай, шуміць сваім веццем ля акна новай хаты, дый я ўжо, як кажуць, уступіў у поўдзень жыцця. І кожны раз, калі я прыязджаю ў сваю родную вёску Саськаўка, што на Шклоўшчыне, яшчэ здалёку, з узгорка, бачу нашу бярозку, згадваю апошнія словы бацькі.

У хвіліны роздуму перад маімі вачыма незабыўнымі кадрамі кінастужкі паўстае маленства.

Суровая зіма. У нашай вялікай хаце паліцца жалезная печачка. На лаўках за сталом сядзяць мужчыны: адны, ідучы па ваду (калодзеж каля нашай хаты), прыйшлі пагрэцца, перакурыць, другія – пабавіць час. Сярод іх і настаўнік Азараў. Ён ставіць мяне на крэсла і аб’яўляе: «Ну, а цяпер расказвай верш». І я, маленькі карапуз, дэкламую «Хлопчыка і лётчыка», мяне хваляць, даюць цукеркі-падушачкі, – і бацька ганарыцца: сын будзе лётчыкам! І яшчэ я вельмі любіў дэкламаваць верш «Вот моя деревня, вот мой дом родной», пераказваць казкі, што расказвала мама.

У нашай хаце мужчыны шмат гаварылі пра вайну, і я яе ўяўляў гульнёй, у якую гулялі старэйшыя за мяне хлапчукі, бегалі, хаваліся, крычалі «ўра!». І таму мне дужа карцела паглядзець, а як будуць гуляць у вайну дарослыя. І я з нецярпеннем яе чакаў. Але чакаць доўга не давялося. Ехалі і ішлі бежанцы, прасіліся начаваць. У небе кружылі самалёты. Праз нашую вёску адступалі чырвонаармейцы. Я глядзеў на іх, стоячы з мамкай каля калодзежа, і ўсё хацеў угледзець свайго тату, падаваў кварту запыленым байцам, бачыў, як прагна яны пілі. А над Магілёвам гарэла неба, дрыжэла, хадзіла ходырам зямля.

І вось у нашай вёсцы з’явіліся немцы, яны ігралі на губных гармоніках, пелі, весяліліся, нешта незразумелае гергеталі.

За вайну давялося перажыць і голад і холад, не раз глядзець смерці ў вочы.

І ўсё ж мне давялося выжыць, перамагчы смерць.

Нялёгкім было і пасляваеннае жыццё. Вясной, каб пракарміцца, мы, дзеці, разам з дарослымі збіралі гнілую бульбу, з якой, гаварыла маці, пяклі «пірагі», варылі казялец, заечае шчаўе, а ў нас быў яшчэ і свой промысел: у лесе шукалі птушыныя гнёзды, а ў іх – яечкі.

У школу я пайшоў адразу ў трэці клас – чытаць умеў добра, а вось пісаць і рашаць задачы не навучыўся, і таму арыфметыку

трэба было пачынаць з першага класа. Настаўнікі былі выпадковыя людзі. Адзін з іх, Іван Ігнатавіч, вярнуўся з фронту кантужаным, а ўжо, здаецца, у трэцім ці чацвёртым класе былі вучнямі сапраўдныя хлопцы. І сярод іх – Стась Мікалуцкі. Вось ён і быў першым дарадчыкам нашага настаўніка: рашыць той задачу няправільна, а мы, меншыя, правільна, настаўнік наш усё роўна скажа: «Вучыцеся ў Стася, а вы нічога не разумееце». Так было ў пачатковай школе.

У сярэднюю школу даводзілася хадзіць за добрых пяць кіламетраў. Па марозе і бездаражы. У школе была невялічкая бібліятэка, і я за час вучобы перачытаў усе кнігі, што былі ў ёй. І, вядома, сам пачаў пісаць у рыфму. Але друкавацца пачаў не з вершаў, а з баек. Першую байку «Два працадні» надрукаваў у раённай газеце. Я нічога ў ёй не выдумляў. Проста ўзяў канкрэтны факт: жонка нашага калгаснага рахункавода ніводнага дня не выходзіла на працу, а яе муж ёй прыпісваў нароўні з іншымі ўдовамі-салдаткамі працадні. Я толькі замяніў імя той «працаўніцы», але яна адразу пазнала сябе ў маім «творы». Яна ж была і маім першым крытыкам: атрымаў ад яе па плячах чапялой – за баявы жанр і крытыка баявая!

З таго часу я яшчэ мацней палюбіў гумар і сатыру і крытыкі пасля такога «хрышчэння» не баюся. Больш сур'ёзна заглыбіўся ў паэзію пасля заканчэння дзесяцігодкі, калі стаў супрацоўнікам раённай газеты, пайшоў на свой хлеб. Паступіць ва універсітэт не давялося, не прайшоў па конкурсу. Такі лёс напаткаў і майго друга Янку Сіпакова. І вось мы, два раённыя паэты, здымаем невялічкі пакойчык, пехатой бываем ва ўсіх калгасах Шклоўшчыны, пішам нататкі, рэпартажы, нарысы, па чарзе носім адзін плашч. А самае галоўнае – пішам і друкуем у сваёй раёнцы вершы. Былі мы ўдзельнікамі нарады маладых пісьменнікаў рэспублікі 1955 года. Мне пашчасціла не толькі бачыць і слухаць Якуба Коласа, а нават сфатаграфавацца з ім. У тым жа годзе ў Магілёве я сустрэў свайго земляка (яго вёска кіламетры за чатыры, праз лес, ад нашай), цудоўнага паэта і чалавека Сцяпана Гаўрусёва, які, прачытаўшы мае вершы, сказаў, што яны варты друкавання ў рэспубліканскай прэсе, узяў іх, і неўзабаве яны былі змешчаны ў «Чырвонай змене». З таго часу я пачаў друкавацца ў рэспубліканскіх газетах і часопісах.

Вельмі многае дала мне служба ў радах Савецкай Арміі. Гэта – сапраўдная школа, якую абавязкова павінен прайсці кожны пачынаючы літаратар.

Пасля дэмабілізацыі працаваў у рэспубліканскіх газетах і часопісах, па рэкамендацыі незабыўнага Петруся Усцінавіча Броўкі паступіў у Літаратурны інстытут імя Максіма Горкага, які скончыў з адзнакай. За час сваёй літаратурнай дзейнасці выдаў шэраг кніг

для дарослых і дзяцей, па-ранейшаму сябрую з гумарам і сатырай. Але ўсё тое, што я напісаў, гэта толькі яшчэ прадмова да таго галоўнага, што хочацца зрабіць. А зрабіць хочацца многае – паспрабаваць свае сілы не толькі ў паэзіі, перакладах і крытыцы (у рэспубліканскім друку я змясціў шэраг творчых партрэтаў пра паэтаў майго пакалення), але і ў прозе, і ў драматургіі.

І ўсё ж на першым плане ў мяне – паэзія. Я добра ўсведамляю, што сапраўдны паэт ніколі не існуе сам па сабе, у яго творчасці заўсёды адбываецца шчаслівая сустрэча сталасці таленту і сталасці часу. Гэтыя творы я пісаў на працягу ўсяго майго свядомага творчага жыцця. Яны – мая біяграфія, мая споведзь перад народам і Радзімай, перад сваім пакаленнем. Час ад часу я звяртаюся да мінулага роднага краю, праз сівыя стагоддзі мне чуюцца і сёння плач Яраслаўны, мудрае слова, змешанае са слязою, Святаслава...



***Купрэеў***
***Мікола Сямёнавіч***

## АБРЫСЫ ТВОРЧАЙ ПОСТАЦІ ПІСЬМЕННІКА

*Інтэрв'ю М. Купрэева Л. Галубовічу*
*(замест аўтабіяграфіі)*

*Г.: Мікола, даволі пагаманілі мы з табою сам-насам, а вось зараз давай рызыкнём вынесці нашу размову на публіку. Усё вельмі проста, прынамсі, як для мяне, журналіста, які звык варушыць чалавечыя душы. Вось цыгарэты, вось кава... Кавы не п'еш?.. Пачакай, гляну ў буфет... Павінна недзе гарбата быць…*

*Ну што, цяпер можна пачынаць? А з чаго ж нам пачаць? Давай з каламбура: з чаго і з каго пачаўся паэт Мікола Купрэеў?*

К.: Упэўнены, ніхто з Паэтаў (сябе я, канечне, не адношу да гэтай шаноўнай касты з вялікай літары) не помніць, з чаго і з каго пачаўся. Як ніхто з людзей не помніць сваіх першых крокаў па зямлі, сваіх першых вымаўленых словаў. Толькі версіфікатар, графаман можа сказаць: з таго і таго, тады і там. А юны чалавек са шчымлівай,

трапяткой душою не скажа, нават не шапне, а проста няўцямна падумае: можа – у лесе, можа – ля ракі, можа – ля вакна, расчыненага насцеж у сонечна-зялёны ранішні свет роднага падворка, а можа, і хутчэй за ўсё, крыху пазней – ля слядоў дзяўчынкі, калі цікаваў за ёю з-за дрэва, з-за куста, ці ля яе блізкага дыхання за пярэдняй партай; а можа – калі вучыў і ніяк не мог вывучыць на памяць «Мой родны кут! Як ты мне мілы!..» Не мог вывучыць на памяць таму, што побач з коласаўскім словам раптам страпянулася апантанымі крылцамі і сваё слова... Але ён нічога гэтага ўжо не помніць – бо то быў проста працяг жыцця, але жыцця ўжо нейкага нетутэйшага...

Настаўнік прыходзіць да творцы-пачаткоўца сам. Дакладней: патэнцыяльны настаўнік-паэт і патэнцыяльны вучань-паэт ідуць, імкнуцца адзін да аднаго на сустрэчу і, сустрэўшыся, злучаюцца ў адну душу. Той настаўнік можа быць жывым сучаснікам, а можа быць ужо даўно па-за сваёй фізіялагічнай існасцю, але – не па-за паэзіяй. І неабходна, каб вучань хоць зрэдку паказваў-чытаў яму свае творы; яны ж злучыліся ў адну душу, і таму таленавітаму пачаткоўцу неабходна гэта – павяраць свой радок (!) духоўнай і эстэтычнай сутнасцю паэзіі куміра. Паўтаруся: павяраць сутнасцю, а не радком яго, не слоўнікам яго...

Такое адбываецца, калі пачатковец жадае мець настаўніка-паэта (дарэчы, настаўнікамі-натхняльнікамі могуць аказацца і празаікі, напрыклад: І. Бунін, М. Гарэцкі, Я. Брыль).

Але ж былі, і ёсць, і будуць пачаткоўцы-адзіночкі, пры тым – зацятыя, якія ад усіх адмахваюцца рукамі, упарта ўцякаюць ад усякіх уплываў, хоць нехта ж некалі і даў ім паэтычны штуршок, узрушыў чуйнае сэрца.

Але мы тут гаворым пра тое, як бывае – пра настаўніцтва і вучнёўства.

У маім сціплым выпадку ўсё, здаецца, пачалося з «Кургана» Янкі Купалы. «Курган» я ўпершыню прачытаў (ці пачуў – не помню) у другім ці трэцім класе, і паэма мяне так уразіла, што я доўга маўчаў у сваім кутку ў хаце, – уразіла нейкай дзівоснай, незразумелай тады, і прыгожай, і страшнай музыкай, сваімі не ўсюды зразумелымі і, зноў жа, страшнымі словамі. Гэта было насланнё, начараванне, штуршок на задуменнасць у сваім самотніцкім кутку...

Настаўнікам маім Янка Купала не стаў. У юнацтве растрывожылі мяне, падштурхнулі сесці перад чыстым аркушам паперы і нешта (нешта!) напісаць на ім Максім Багдановіч і Аляксандр Блок. Доўга пакутаваў музыкай і раскаванасцю іх паэтычнага радка (у «Страцім-лебедзі», у «Вольных мыслях»). А крыху пазней, але ўсё яшчэ ў юнацтве добра-такі патрывожылі палякі Галчынскі

і Тувім, іспанец Лорка, француз Прэвер, летувіс Марцінкявічус. Але і яны настаўнікамі, у вузкім значэнні гэтага слова, не сталі, як не маглі імі стаць ні для кога. Ага!.. Усе згаданыя мною паэты, пачынаючы ад Купалы, зліліся з часам у адну Асобу, асобу Паэта, да якое хацела далучыцца і мая перыферыйная душа.

Калі мы павялі ўжо гаворку пра настаўнікаў і вучняў, дык хачу тут успомніць...

У 50-я гады я вучыўся ў Івацэвіцкай сярэдняй школе. Там працаваў завучам Якаў Дзмітравіч Янчанка, выкладчык рускай літаратуры, інвалід вайны. У яго быў прыгожы адухоўлены твар. На школьных вечарынах ён чытаў са сцэны паэмы Пушкіна. Да вайны Якаў Дзмітравіч вучыўся ў мастацкім інстытуце. Пасля вайны давялося, замест мастацкага, закончыць філалагічны факультэт універсітэта. Але ён не кінуў жывапіс: навучыўся маляваць левай рукой. У калідорах, кабінетах школы віселі яго карціны. Ён «заразіў» школу: шмат хто з вучняў, асабліва хлопцы, сталі маляваць – дома, у школе, нават на ўроках матэматыкі. Прафесійных мастакоў з нас не выйшла, але, ведаю, некаторыя і цяпер, пад старасць, працягваюць маляваць, і нават няблага. (Дарэчы, некалькі гадоў таму ў «Нёмане» былі апублікаваны вершы таго ж Янчанкі.)

А цяпер пра сябе ў падобнай сітуацыі. Хоць твар мой і не прыгожы, і не адухоўлены, як у таго нашага завуча. У шасцідзесятыя гады я працаваў завучам Чудзінскай сярэдняй школы Ганцавіцкага раёна, на маляўнічым беразе былой ракі Лані. Я ўжо лічыўся маладым паэтам, друкаваўся ў «Маладосці» і мясцовых газетах. Мае вучні ведалі пра гэта. Адзін з іх – Алесь Каско – усур’ёз заняўся паэзіяй і з цягам часу стаў вядомым паэтам, выдаў некалькі зборнікаў і цяпер нават узначальвае Брэсцкае абласное аддзяленне СП Беларусі.

Потым я працаваў у Сташанах Пінскага раёна, таксама ў школе. Тут мае вучні ведалі, што ў мяне ўжо ёсць кніжачка вершаў. Гэта некаторых з іх інтрыгавала і «падбівала» на свае вершы. Сярод гэтых некаторых былі Мікола Антаноўскі і Анатоль Шушко. Нядаўна і той, і другі выдалі пад эгідай «Маладосці» свае паэтычныя зборнікі. Дык вось, усе трое, калі былі вучнямі, вершаў мне сваіх не паказвалі. Як прызнаваліся пасля Каско і Шушко,– яны саромеліся іх паказваць, а былі, паўтаруся, проста заінтрыгаваны: «Як так? Наш настаўнік піша вершы. А мы што – не можам?» Толя Шушко прызнаўся нават у тым, што цікаваў за мною з-за дрэва, з-за куста, калі я летам прыходзіў да сажалкі, і ён глядзеў, ці пішу я там што. А потым ён прыбягаў дахаты і пісаў сам. Тым летам, калі Толя заканчваў сярэднюю школу, яго першыя (!) вершы былі надрукаваны ў газеце

«Літаратура і мастацтва». І цяпер я рады, што гэтыя тры хлопцы працуюць у паэзіі больш апантана, чым іх былы школьны настаўнік. От як бывае!..

Вось і ты, прабач, Лёня, нагадваеш зараз вучня, якому не абрыдзела слухаць настаўніка. У старасці ўсе мы любім пагаварыць-паўспамінаць. Але ты, відаць, яшчэ ў тым узросце, калі ёсць патрэба слухаць...

*Г.: Ведаеш, цябе люба слухаць... мова ж вельмі народная, не літаратурная. Вось пра мову і добра было б працягнуць нашу гаворку...*

К.: ...Усё пачынаецца з роднага слова, схаванага глыбока ўнутры, удыхнутага ў сябе, а потым лёгка выдыхнутага разам з родным паветрам. Мне на гэты конт, асабліва напачатку, не надта пашанцавала. Глядзі: мая Рагачоўшчына, бацькава і матчына вёскі, ля Дняпра. Зямля радзімічаў, зямля, якая была калыскай найшчырэйшых беларусаў Ядвігіна Ш., Андрэя Макаёнка, Міколы Сурначова, Алеся Жаўрука, была дзяцінствам і маладосцю Міхася Лынькова, «запасным» прытулкам (па найбліжэйшай радні) і творчым жнівом для Уладзіміра Караткевіча. І ад такой беларушчыны я быў адарваны (пераезд сям'і) у дзесяцігадовым узросце. На Старапескаўскіх вуліцах у Бярозаўскім раёне я акунуўся ў заходнепаляшуцкую моўную стыхію. Але мова далёкай радзімы яшчэ дыхала ўва мне, да таго ж яна сілкавалася беларускімі ўрокамі ў школе. І таму, калі я, вучань сямігодкі, напісаў там свой першы, па-дзіцячы наіўны, верш пра Першамай, – напісаны ён быў па-беларуску.

Дарэчы, прыкладна ў той час у суседняй вёсцы Нівы падрастала Ніна Мацяш, а па той бок чыгункі Масква–Брэст, у Сяльцы, магчыма, лазіў у чужы сад па яблыкі вясковы хлопчык Алесь Разанаў,– можа тады ўжо Алесь задумаўся пра яблык Ньютана?

*Г.: Ну, наўрад ці ў такім узросце Алесь Сцяпанавіч пачаў прылучацца ў час шкоды да вялікай мудрасці... Ранавата.*

К.: Прабач, відаць, загаварыўся. Аднак, вярнуся да думкі... Недзе тады ж маленькая Райка Баравікова паехала з Бярозы на Магілёўшчыну...

І пасля гэтай «паляшуцкай» Бярозаўшчыны я стаў вучнем-старшакласнікам рускамоўнай івацэвіцкай школы, а затым – студэнтам-філфакаўцам моцна зрусіфікаванага тады, у другой палове 50-х гадоў, педінстытута імя Пушкіна ў Брэсце – горадзе з вуліцамі Гогаля, Лермантава, Талстога, Тургенева, Маякоўскага, Шолахава, Міцкевіча, Шаўчэнкі, але без вуліцы Купалы (цяпер такая, нават з рэстаранам «Паўлінка», у адным з мікраараёнаў ёсць)... Да ўсяго, гэтая – хатняя, у сям'і, «вучыцельская» – моўная трасянка. Але ж паехалі мы на Брэстчыну, калі мне было ўжо дзесяць гадоў, і таму

жывое роднае слова колькі часу яшчэ стаяла ў дзіцячай памятлівай душы («А мая ж ты, таячка, а хадзі ж ты сюды! Можа, кулагі пасёрбаеш? Акы-ыш, пранцаватыя!» – так казала мая баба Марфа ля варотаў дзяўчынцы-сіраціне і праганяла курэй з гародчыка. Дарэчы, у хатах маіх абодвух дзядоў я не чуў паганых, «мацюжных» словаў, занесеных на Беларусь вятрамі з усходу. «Пранцаватыя», «пранцы» (ад францы) – гэта адзіная, лічы, лаянка, якая засталася ў народзе пасля вайны з французамі 1812 года.

Генная памяць матчынай мовы жывучая... У маім выпадку – дзедавай, бабулінай мовы я не ведаю і не помню, як не помню, і што гаварыла мая маці: яе забілі ў вайну, калі мне было пяць гадоў.

От гэткія мае стасункі з роднай мовай, таму пачаў я пісаць «вершыкі» па-беларуску, а крыху пазней прозу – па-расейску. Я быў радасна здзіўлены, калі мяне, дзевяцікласніка, паклікалі на абласную нараду маладых пісьменнікаў. Там я, заікаючыся яшчэ больш, чым цяпер, чытаў свае мініяцюры перад Янкам Брылём, і ён ухваліў іх – тым самым велікадушна заахвоціў мяне да далейшай творчасці. Потым мініяцюры мае былі надрукаваны ў альманаху «Советская Отчизна» (цяпер часопіс «Нёман»), а потым, ужо будучы студэнтам, я напісаў аповесць з такой рамантычнай назвай: «Бродят на рассвете юные». Рукапіс чыталі Янка Брыль і Барыс Бур’ян (апошні – ужо ў «Нёмане»). Яны зрабілі мноства крытычных заўваг, але ў цэлым ухвалілі, параілі, як давесці пісаніну да ладу. Ды на той час я ўжо працаваў у Ляхавіцкім раёне (вёска Пранчакі, адкуль родам паэт-песеннік Леанід Пранчак), жыў-гасцяваў у цешчы ў Клецкім раёне, на беразе колішняй рамантычна-прыгожай рэчкі Начы. А мова ў гэтым краі чысцюткая, незасмечаная ні з захаду, ні з усходу (ты, браце, ведаеш гэта так добра, як ніхто іншы).

Вось тут лёгка і назаўжды вярнуўся толькі ў роднае – пісаў толькі вершы і толькі на сваёй мове. А тую аповесць падчас адной сваёй вандроўкі па Палессі я закінуў на гарышча ў аднаго знаёмага мужыка – а ён рукапісам аповесці распальваў дровы ў печы. Усё ж карысць ад яе нейкая была... Мне сорамна перад самім сабой за сваю прозу не на роднай мове. Ад таго сарамоцця я нават не асмеліўся падзякаваць Янку Брылю за страчаны час... Ніякаватасць перад ім нашу па сёння. А сваё тое, даўняе ўжо, «рэнегацтва» неяк вытлумачваю сам сабе творчым лёсам такіх нашых літаратараў, як Казько, Тарас, Ждан, Някляеў...

А калі адкінуць усю гэтую маю гаварыльню і коратка адказаць на пытанне: з чаго пачаўся паэт Мікола Купрэеў? Я адказаў бы так: захацелася сказаць нешта такое самому сабе, што мяне ж самога і здзівіла. А сказаў я так: «Сонца ўзышло і пабег ручаёк». І здзівіўся:

ног жа ў сонца няма і ў ручайка няма. Толькі потым дацяміў: я проста паўтарыў тое, што казалі мае продкі сотні гадоў. Так што пачаў я з найгрубейшага плагіяту.

*Г.: Ты ўжо вопытны чалавек і не менш вопытны літаратар. Панюхаў удосталь, як гавораць, і потнага хлеба, і застольнага чарніла... І ў чым усё-ткі больш сэнсу – у жыцці-быцці ці ў паэзіі?*

К.: А што гэта такое, дарэчы, – сэнс жыцця? Можа, проста – жыць па-чалавечы, па-Боску. Да гэтага і просіць людзей ісці паэзія, песня, асабліва беларуская народная лірычная жаночая песня. У ідэальным грамадстве (а ці было калі такое і ці будзе?) сэнс жыцця і сэнс паэзіі (увогуле сэнс мастацтва) – і гэта натуральна – павінны быць як адзінае цэлае.

*Г.: Само па сабе напрошваецца пытанне: паэт і грамадства. «Поэтом можешь ты не быть, но гражданином быть обязан»...*

К.: ...І ў дружбе, і нават ва ўзаемнай любові клянуцца, і – варагуюць, а грамадства ў абліччы дзяржавы нават на шыбеніцы валакло сваіх лепшых паэтаў, а потым велікадушна, яшчэ пры жыцці паэта ці пасля яго пагібелі, зыходзіла да літасці... Франсуа Віён быў асуджаны на смерць. Але перад шыбеніцай яму пашанцавала: ён прыняў удзел у турніры паэтаў Францыі і быў прызнаны каралём паэтаў. І грамадства дазволіла яму жыць. Разумнае грамадства. Яно спасцігла тую ісціну, што сапраўдны паэт, як і дзіця, не можа быць злачынцам. Хоць дзіця і можа ўзяць дарагую, прыгожую вазу і кінуць яе на падлогу.

Добра, калі паэт і грамадства папікаюць, ушчуваюць адно аднаго ад любові адно да аднаго. Нагадаю Багдановіча: «Народ, Беларускі Народ! Ты цёмны, сляпы, быццам крот... І душу тваю абакралі, – у ёй нават мовы няма». І «Народ» у Багдановіча з вялікай літары. А ўспомнім нядаўнія вершы Пімена Панчанкі пра мову – з папрокамі да народа...

*Г.: Папахвае хрысціянствам... Дарэчы, як у цябе з веравызнаннем? Я заўважыў, што ты і сёння пішаш слова Бог з малой літары?*

К.: Але Ісус Хрыстос я пішу з вялікай... Рэлігія з’явілася на зямлі, каб ратаваць чалавека. І кожная з яе галін (хрысціянская, мусульманская, іудзейская...) ратуе вернікаў па-свойму, хоць, зрэшты, кажа ім адно: узлюбі чалавека. А ці ж не гэта вяшчуе праз тысячагоддзі паэзія? Ці ведаем мы хоць аднаго вялікага (!) паэта-чалавеканенавісніка?! Давай канкрэтызуем так: паэзія і царква (касцёл, сінагога, мячэць...). Вернік уваходзіць у свой храм на ачышчэнне душы сваёй. Перад святынямі ён моліцца, узносіць рукі да Бога са слязамі на вачах... А ці з гэткім жа ўзрушаннем душэўным чалавек ідзе ў той храм, які мы называем паэзіяй? Зачараваны, шэпча радкі

любімага паэта... Шэпча, як малітву... Прычашчаецца – і ачышчаецца, і хочацца жыць яму прасветлена, з любоўю. Так, кожная вера робіць сваю святую справу па-свойму, толькі фармальна па-свойму, хоць у тых фармальнасцях шмат падобнага. Біблія адрозніваецца ад Карана, але ў іх многа агульнага. Сэнс, па вялікім рахунку,– адзін...

*Г.: У тваёй паэзіі міфалогія фармальна як бы адсутнічае, але па-за словам чуецца. Якая роля міфалогіі ў тваёй творчасці?*

К.: На жаль, міфы даўно-даўно ўжо нідзе на зямлі не ствараюцца. Мастацкая літаратура, прынамсі – паэзія, як, дарэчы, і жывапіс, толькі час ад часу сілкуюцца міфамі (у нас – паданнямі, легендамі, казкамі) для вырашэння сваіх сэнсавых і фармальных задач. У нашай паэзіі, напрыклад, з такою мэтай звяртаўся да міфічных вобразаў Максім Багдановіч («Калі зваліў дужы Геракл у пыл Антэя...», «Страцім-лебедзь»), былі спробы ў Анатоля Вялюгіна («След мастака»), ну і, вядома, шырока выкарыстоўваў міфалогію Уладзімір Караткевіч (асабліва ў прозе – «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», «Ладдзя роспачы»).

З’явай грамадскага жыцця, а не толькі літаратуры, суджана было стаць напачатку 60-х гадоў баладзе ўкраінца Івана Драча «Крылы». Дзед Мароз раздаваў людзям навагоднія падарункі, дык мужыку Кірылу дасталіся ў падарунак крылы. Мужык прыладзіў іх на сабе, крылы праараслі праз сцены яго хаты і мужыка разам з хатай узнеслі над зямлёй; далейшы змест балады – што адчуваў і што бачыў мужык з-пад неба на зямлі... Верш – як паданне. Магчымасці для паэта падсілкоўвацца міфамі не абмежаваныя. І я на гэта зважаю.

*Г.: Цікава было б пачуць тваё меркаванне наконт паэтычнай метрыкі, паколькі яна ў цябе, як бы гэта дакладней сказаць,– гіпертанічная... Душэўны ўздым – высокі ціск радка, самотны стан – нізкі... Нерв верша «гуляе»... Вечная арытмія.*

К.: Верш – гэта дыханне яго творцы на той час, калі ён, верш, «выліваецца». На той час... А з гэтым дыханнем, сапраўды, надараецца ўсякае. Роўнае, спакойнае дыханне – меладычны верш... А характар жа дыхання – ад гармоніі ці дысгармоніі ў паэтавай душы, якая, у сваю чаргу, такая чуйная на гармонію ці дысгармонію ў прыродзе, у грамадстве, нават у надвор’і за акном.

У дзяцінстве і ў раннім юнацтве я надта (пасля нейкага ў вайну ўзрушэння ці перапуду) заікаўся...У апошнія прыкладна трыццаць гадоў на Палессі, дзе я жыву, сатаной парушана гармонія, музыка-рытм у прыродзе. Бязглуздая асушка знявечыла векавечны рытм зямлі, напеўнасць яе рэк і рачулак, дарог і сцежак. А сацыяльна-палітычныя стрэсы ўжо даўно разарвалі рыфму «дарога – да Бога». І я не магу пісаць без спатыканняў-паўз, без «заікання» пра вайну ці якое іншае гора...

*Г.: ...А можа, гэта і на карысць нашай паэзіі, бо гладкапісу прыпевачнага тыпу ў ёй цераз край... Адны іх (вершы) «адстрэльваюць» па сваіх франтавых успамінах, другія – «косяць», як незабыўны вясковы луг, трэція – «адбіваюць» пад дыскатэчныя рытмы, чацвёртыя – знемагаюць ад слоўнай «вольнасці» (я спадзяюся, ты разумееш, што азначае гэтае народнае слова, акрамя сэнсу свабоды)... Ці не зашмат у нас трафарэтнай і «другаснай паэзіі», версіфікатарства?*

К.: Перад тым, як пачаць верш на чыстым аркушы паперы, трэба паглядзець на сябе ў люстэрка – каб яшчэ раз пераканацца, што ты з твару не падобны ні на кога ў свеце. Потым трэба ўспомніць, што і думаеш ты так, як ніхто ў свеце. І бачыш ты вунь тую травінку, той каменьчык за акном не так, як бачыць іх нават найбліжэйшы табе па духу і па крыві чалавек. Дык чаму ж тады твой верш павінен быць падобны на верш Багдановіча ці Жычкі, Пушкіна ці Бадака?!

*Г.: А што для цябе найбольш блізкае і адметнае ў беларускай літаратуры?*

К.: Люблю апрадмечаную, сатканую з дэталяў побыту, прозу Вячаслава Адамчыка і Анатоля Кудраўца, густую на думкі біяграфічную прозу Уладзіміра Арлова... Запомніліся лімаўскія апавяданні Алеся Чобата, а таксама апавяданне «Маёр» Уладзіміра Сцяпана... Упэўнены: В. Адамчык здольны на вялікі эпічны твор пра Беларусь. І – забываюся пра ўсё на свеце, пра свае нягоды, калі ў сваім кутку, у сваёй мансардзе бяру ў рукі «Полымя» ці «ЛіМ» з мініяцюрамі Янкі Брыля. Лічу, што «Споведзь» Ларысы Геніюш – найадметнейшая з’ява ў нашай літаратуры. Сапраўдная споведзь перад людзьмі, перад родным кутом, перад сабой...

Заўжды рады сустрэцца з простымі знешне і мудрымі ўнутры вершамі Леаніда Галубовіча (прабач, што нагадваю табе пра цябе, толькі не крыўдуй – лепш палічы за камплімент), зачараваны паганскай паэзіяй Анатоля Сыса. У вершаказах Алеся Разанава, асабліва апошніх, бачу паэзію ўсеславянскага маштабу, хацеў сказаць – еўрапейскага маштабу... Але на раманскія мовы паэзія Разанава не перакладальная, бо яна – у беларускай (а значыць – і ў славянскай) моўнай стыхіі. Гэтаксама і Рыгор Барадулін не будзе гучаць на іншай мове, як ён гучыць на роднай.

*Г.: А ці ведаеш ты свайго патэнцыяльнага чытача, ці зважаеш ты на яго, пішучы той ці іншы верш? Для каго пішам, Мікола? Самае сумнае, відаць, пытанне...*

К.: Закаханы падлетак ведаў, для каго ён пісаў «Алесю». І Пушкін ведаў, для каго ён пісаў сваё «Послание в Сибирь». І санеты Пятраркі мелі свайго адрасата – Лауру. І Багдановіч ведаў, каму пяе душа ў «Зорцы Венеры». А Якуб Колас «Новую зямлю» пісаў для

беларускага народа. Але людзі зрабілі «Алесю» адной са сваіх любімых песняў. На покліч Пушкіна адклікнуліся не толькі сасланыя дзекабрысты. Мільёны юных жанчын бачылі, а мо яшчэ і бачаць сябе Лаурамі...

Увогуле ж, паэт не думае, для каго ён піша. Проста вылівае сваю душу на паперу, а потым, збоку, глядзіць са здзіўленнем на гэтую душу. Быццам незнарок адашле ці аднясе верш у рэдакцыю. Але ж знаходзіцца недзе ў нейкім кутку яшчэ душа, і не адна, якая схіліцца над тым вершам. Дык для каго ж пішуцца вершы? А для – некага...

Ах, не будзем самі сабе хлусіць: вершы мы пішам для людзей і хочам, каб яны іх чыталі.

*Г.: Будзем спадзявацца, што нейкі ўсё ж чытач у нас яшчэ пакуль ёсць. Як казаў Чэхаў: калі гэтая маленечкая кніжачка пабачыла свет, то, пэўна ж, недзе ў нейкім закутку свету жыве і яе маленечкі чытач... Ці выжыве паэзія наогул у наш час?*

К.: А што – наш час самы трагічны з усіх часоў? У сярэднявечнай Еўропе вялікая паэзія (у тым ліку італьянская) выжыла ў час «вялікай» чумы. І ніякія «гулагі» не змаглі яе ўсмерціць. Наш час, наадварот, балюча пабіўшы ёй бакі, узнясе нашу паэзію вышэй. Праўда, гэта будзе каштаваць нямала паэтычных нерваў, і самі вершы часта будуць нервовымі ці, як казала мая клецкая цешча, «нарванымі». Але гэта будзе толькі адной з прыкмет паэзіі нашага часу.

*Г.: Папраўдзе кажучы, не думаў, што ты такі аптыміст...*

К.: Гэта парадаксальна: паэзія, як і мастацтва ўвогуле,– самая кансерватыўная галіна чалавечай дзейнасці. Глянь, як развіваюцца навука і тэхніка ў апошнія сто гадоў! А мастацтва і літаратура, прынамсі – паэзія? Што – сучасныя жывапісцы па майстэрстве вышэй за Леанарда да Вінчы, Мікеланджэла, Босха, Брэйгеля-мужыцкага?.. Што – сучасныя кампазітары пераўзышлі вялікіх кампазітараў XVIII–XIX стагоддзяў? А ў архітэктуры – старажытныя храмы?.. І, нарэшце, у паэзіі. Хто-небудзь з сучасных расейскіх паэтаў стварыў што-небудзь лепшае за лермантаўскія радкі «Выхожу один я на дорогу...»? Санеты якога сучаснага аўтара глыбейшыя, мудрэйшыя за санеты Шэкспіра? А старажытная егіпецкая, кітайская, японская паэзія? А, бліжэй па часе і бліжэй да нас, «Пагоня» Багдановіча... А нерукатворная песенная паэзія беларускіх жанчын, якая ўсё ж часткова захавалася да нашага часу... (Гаворым пра дакладную рыфму, а яна, найдакладнейшая, вось тут:

– Не хачу, матулечка, без кубла.

– Ты ж мне кудзелечку не скубла.

Гаворым пра асацыятыўнасць як пра адметнасць сучаснай паэзіі, а яна ж, асацыятыўнасць, і вось тут і даўно:

«Замуцілі гусі воду на Дунаі...»,

«У полі вярба нахілёная...»)

Так, на фармальныя (!) адкрыцці сучасныя творцы надта здатныя (і ў жывапісе, і ў тэатры, і ў паэзіі). Але сучасны паэтычны андэрграўнд у шмат чым паўтарае італьянскі і расейскі футурызм і нават сімвалізм канца XIX – пачатку XX стагоддзя. Сучасная суполка рускамоўных верлібрыстаў, здаецца, у Данецку на Украіне толькі тужыцца на адкрыцці... даўно знаёмых прыёмаў версіфікацыі. А Іосіф Бродскі, які толькі змястоўна паглыбіў і фармальна пашырыў традыцыйныя магчымасці класічнай расейскай і англамоўнай паэзіі, стаў лаўрэатам Нобелеўскай прэміі...

Наш даволі-такі незакамплексаваны паэт Алег Мінкін упарта перакладае вялікага польскага паэта-наватара Цыпрыяна Норвіда і... што-нішто пераймае ў яго...

Што мне бачыцца ў вышэй прыгаданай кансерватыўнасці? Кансерватыўнасць способу мыслення чалавецтва ў апошнія стагоддзі. І гэта – добра. Гэта – наша шчасце. Гэта сведчыць пра тое, што якіх-небудзь найтрагічнейшых катаклізмаў на Зямлі даўно-даўно, ці не з часу Ноева Каўчэга, не было. Новы, непрадказальны способ мыслення чалавецтва, а значыць – і новая ПАЭЗІЯ змогуць (калі, дай Божа, змогуць) быць толькі пасля нейкага найвялікшага ўзрушэння на Зямлі. І не дай Бог, каб гэтае ўзрушэнне сталася найтрагічнейшым.

Дай Бог, каб свяціла Сонца і зелянела Трава на Зямлі, а заадно – свяціла і зелянела ПАЭЗІЯ.

*Г.: Дзякуй, Мікола. Здаецца, няблага пагаманілі... Кава ў мяне, вунь, злездзянела... Праўда, тваму кубку гэта не пагражае. У тваім кубку заўжды цёпла і хмельна, як і ў тваёй душы, як і ў тваіх вершах... Будзь здаровы, Мікола! Поспехаў табе!*

*1994 год*



***Курыла***
***Міхась Аляксеевіч***

## ЯК ВАРТА ЛЮБІЦЬ ЖЫЦЦЁ

Незадоўга да круглай даты – свайго 50-гадовага юбілею, які я адзначаў 2 студзеня 2006 г., неяк само сабой атрымалася занатаваць вось такія вершаваныя радкі пра родную вёску:

Ізноў прысніліся Зафільцы,
Мясціны – таямнічыя:
Там мае мары-навальніцы
І раніцы сунічныя...
І помню ўсё я да драбніцы:
Парэчак пах...
І касачы...
Хачу даўно ў свае Зафільцы
Ад тлуму горада ўцячы.

Але ад горада нікуды не ўцячэш, як не ўцячэш ад жыццёвых абставін. Тым больш што ў горадзе Валожыне з 1986 года пастаянна жыве мая сям'я – лепшая палавіна мая: жонка і надзейны сябар мой Таццяна Аляксееўна і сын наш Максім, які зараз заканчвае пяты

курс Мінскага вышэйшага авіяцыйнага каледжа, асвойвае «ваенныя» маршы, але пра родны дом не забываецца ніколі.

Два гады назад Максім – ажаніўся, і цяпер у нас з Таццянай Аляксееўнай агульная радасць: дапамагаем дзецям гадаваць маленькага Кірыла – адзінага пакуль што дарагога ўнука (не хапае Мяфодзія) – «асветніка» нашай дружнай славянскай сям'і...

Жыццё, такім чынам, не стаіць на месцы. Слаўны род мой папаўняецца, а лёс дорыць «такія-сякія» радасці... Мая сям'я – гэта тое, чым я заўжды ганаруся, што дае мне жыццёвыя сілы, акрыляе мяне, натхняе на творчасць. Менавіта ад іх, ад блізкіх і дарагіх мне людзей, – і ідуць «імпульсы» першаадкрыцця:

Ўсё, як бачыш, ад Бога,
Калі нават грашу.
Не судзі мяне строга,
Што не часта пішу.
Ў моры слоў, параўнnняў –
Немалы іх улоў,
Але верш – пра каханне
Самы лепшы – без слоў.
А цунамі накрые –
Уратую
радком...
Ці фрамужку адкрыем –
Прабярэ скразняком.

Так я звяртаюся ў вершы да любай Таццяны Аляксееўны, жадаючы паняць – адкуль што бярэцца, як яно ўсё пачынаецца?..

Мая лірыка – мой настрой – пачынаецца, як і ўсё на зямлі, з любові: крыніцай творчасці для аўтара служыць перш за ўсё аб'ектыўнае (чытай – духоўнае) асяроддзе, што ўздзейнічае на яго суб'ектыўнае «Я».

Вытокі маёй творчасці – вясковыя краявіды дарагіх майму сэрцу мясцін Валожыншчыны, нашы лясы і пушча – «...край валошак, спелай мяты, край легендамі багаты, дзе за гаем новы гай...» – і лёс беларускай вёскі ў цэлым. Прыгажосць валожынскай зямлі, яе руплівыя, добрыя людзі – мой неспакой і маё прасвятленне, мой роздум пра чалавечае існаванне і пра некаторыя заканамернасці таго, што адбываецца ў свеце насамрэч ці ў аўтарскай «інтэрпрэтацыі».

А гадаваўся я кемлівым, цікаўным хлапчуком, даверлівым да наіўнасці і вельмі ўжо шкадлівым да ўсяго жывога. Шкада было дамашніх жывёлін, асабліва чамусьці – любіў я коней. Мой родны дзед на той час пасвіў іх, быў калгасным конюхам і вельмі самааддана служыў гэтай справе: я ніколі не бачыў, каб ён паганяў пугай, сцябаў спацелага ў дарозе каня, а калі чынілі здзек над жывёлінай іншыя, – вельмі злаваўся на такіх людзей.

Я хадзіў у дзеда ў «падпасках», асабліва на летніх канікулах, – ганялі коней «у начное», аралі з дзедам і касілі траву, рыхтавалі сена. У час сенакоса вазілі з ім – вялікія, як воблакі, – духмяныя вазы, дапамагалі іншым людзям сенаваць на зіму. І няхай памочнік з мяне быў слабы, але пачэсная фізічная сялянская праца, якой старанна абучаў мяне дзед, яе няпісаныя нормы маралі — праляглі глыбокай баразной праз усю маю творчасць:

Вясна. Сцяжынай палявою
Нацянькі дамоў шыбую.
Высока ў небе над зямлёю
Жаўрук пра лецейка шчыруе.
Жыву. Крывіць душой не ўмею.
І сею хлеб, гадую дзетак...
Не ўсё магу, ды ўсё сумею,
Бо гэтак жыў калісьці й дзед мой.

Паўтаруся: на мой светапогляд аказвала вялікае ўражанне родная прырода, яе каларыт і фарбы. Любая жывая істота, нават прыдарожны куст, будзілі ў душы спачуванне, а дзіцячае ўяўленне ад сустрэчы з нечым незвычайным вырастала ў замілаванасць.

Не скажу, што ў дзяцінстве я быў абдзелены ўвагай і цяплом з боку дарослых. Проста быў пакінуты на самога сябе, абыходзіўся без лішняй апекі, бо бацька і маці ўвесь час прападалі ў полі: шчыравалі на калгасным палетку, каб зарабіць нейкі рубель.

Мне, падлетку, было прыемна бачыць, на якой аснове будаваліся іх узаемаадносіны ў сям'і. Бацькі ўсё жыццё кахалі адно аднаго, а каханне, давер, спагада – такія патрэбныя рэчы ў жыцці!..

На адкрытых, даверлівых пачуццях чалавечых узаемаадносін грунтавалася маё юнацкае ўяўленне пра любоў і каханне ўвогуле (таксама «вечная» тэма паэзіі). Плюс – кнігі: вершы Янкі Купалы і Максіма Багдановіча, Марыны Цвятаевай і Яраслава Смелякова, многіх іншых лірычных аўтараў – чытаў для душы... Паэзія не толькі ўзор для пераймання, яна, можа, і ёсць самы лепшы настаўнік і дарадца ў жыцці... Так паступова нараджалася мая творчая асоба, а затым пачалі праяўляцца, прабівацца, як парасткі на свет, і літаратурныя здольнасці: душа выпраменьвала «іскаркі таленту», што мусілі разгарэцца...

Да таго часу я ўжо вучыўся ў Сёмкава-Гарадоцкай сярэдняй школе-інтэрнаце Мінскага раёна, калі галоўны неўрапатолаг абласной дзіцячай бальніцы вынес вердыкт: «Ты хутка зусім перастанеш хадзіць. Думай, як жыць далей».

Атрымаўшы такі прысуд урачоў і інваліднае крэсла ў 18 гадоў, я, тым не менш, не разгубіўся, а, працуючы над самаадукацыяй, асмеліўся паступаць на завочнае аддзяленне філалагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта. Гэта быў памятны 1976 год. У 1982 годзе атрымаў-такі

дыплом прэстыжнай сталічнай установы. Я слухаў і запісваў лекцыі паэта Ніла Гілевіча (раздзел літаратуры «Беларускі фальклор»), паэта Алега Лойкі (раздзел «Паэтыка»), літаратуразнаўцу, доктара філалогіі С. Х. Александровіча (раздзел беларускай літаратуры па творчасці пісьменнікаў той пары, калі рэдактарам «Нашай Нівы» быў сам Янка Купала), і іншых вядомых людзей Беларусі, – вучыўся ў іх, чым вельмі ганаруся сёння.

Адразу пасля вучобы ва універсітэце раённыя ўлады рэкамендавалі мяне Валожынскаму аддзелу культуры загадчыкам Лужанскай сельскай бібліятэкі. Гэта было даволі рызыкоўнае мерапрыемства – прыняць на сябе такую матэрыяльную адказнасць (недзе на 10 тысяч савецкіх рублёў было толькі кніжак ў бібліятэцы), але я пагадзіўся і, праявіўшы характар, даказаў сабе і некаторым чыноўнікам, што і пры маіх фізічных магчымасцях можна працаваць, прыносіць карысць людзям. Асабліва паважалі мяне вяскоўцы: я не толькі падбіраў ім кнігі для чытання, я быў для іх і лектарам, і лекарам, і юрыдычным кансультантам, і шмат яшчэ кім. Святло ў вокнах бібліятэкі не гасла да поўначы: людзі шукалі нейкай «адтуліны» ад будзённых праблем – ішлі да мяне за парадай. Моладзь ладзіла ў бібліятэцы дыскатэкі, арганізоўваліся цікавыя сустрэчы з заслужанымі людзьмі – ветэранамі вайны і працы, мясцовымі самадзейнымі артыстамі, – людзі цягнулася да культуры і ведаў, што, адкрыта скажу, мяне вельмі радавала.

Галоўнае, што дала мне праца ў Лужанах, – упэўненасць у сабе. Былі знойдзены мэта і сэнс жыцця – тая жыццёвая сцяжынка, на якой мне сустракалася шмат добрых людзей, з кім я не парываю сувязей і сяброўскіх адносін да гэтага часу. Тут напаткаў сваё каханне, тут завязалася сям’я. Кніжкі з той пары сталі спадарожнікамі маіх клапатлівых будняў, а творчая праца прыносіць нямала задавальнення. З кнігай і вершамі не разлучаюся і сёння, працуючы спачатку ў Валожынскім цэнтры дзіцячай творчасці (кіраўнік гуртка «Мастацкае Слова» (1989–2001 гг.), а зараз – метадыстам Народнага літаратурна-мастацкага аб’яднання «Рунь» пры РЦК.

Мой першы верш быў надрукаваны ў 1975 годзе ў райгазеце «Працоўная слава». Скажу, што і зараз працягваецца творчае супрацоўніцтва з гэтай газетай, куды я часта дасылаю свае допісы і вершаваныя радкі.

Недзе ў 1980 годзе ў рэдакцыю раёнкі (рэдактарам быў С. У. Ломаць) прыйшоў працаваць тады малавядомы паэт, наш зямляк – Віктар Анатольевіч Шніп, ці проста Віктар, як яго называлі ў рэдакцыі. Ён пачаў весці «Літстаронку», не абмінаючы ўвагай нікога, хто спрабаваў сябе як творца. Прыхільна ставілася да самадзейных мясцовых «паэтаў» і журналістка Галіна Шаблінская, голас якой чуем зараз на рэспубліканскім радыё, а тады – супрацоўніца райгазеты.

Па ініцыятыве Віктара і Галіны было неўзабаве створана літаб’яднанне «Рунь», членамі якога сталі вядомыя сёння людзі: П. І. Бітэль, Г. Рубацкая, А. Гедройць, В. Гіруць-Русакевіч, В. Шніп і інш. Я таксама прымаў пасільны ўдзел у працы гэтай суполкі. Нас аб’ядноўвала цяга да творчасці, любоў да роднага слова, гарачае жаданне быць пачутым. Як вынік агульных намаганняў – пасяджэнні сталі праводзіцца рэгулярна, у цёплай сяброўскай атмасферы, нас сталі друкаваць, а ў самых адораных – выйшлі першыя зборнікі: у В. Шніпа, П. Бітэля, напрыклад.

Мае ўласныя творы ў «ЛіМе» з’явіліся ажно ў 1986 годзе, – да гэтага, праўда, была «Чырвоная змена». Прачытаў іх і даў дабро да друку слаўны беларускі пісьменнік Юрась Свірка. Ён напісаў мне тады літаральна наступнае: «...тое-сёе выбраў да друку. Патрэбны Ваш фотаздымак. Астатнія вершы хай застаюцца для будучага зборніка». Як жа я быў удзячны паважанаму літкансультанту за такія словы!..

Словы аказаліся прарочымі. Хай не адразу, але ў 1996 годзе пабачыў свет мой крылаты «Белы птах» – мая першая кніжка, выдадзеная ў прыватным выдавецтве на спонсарскія грошы Барысаўскага шпалапрапітачнага завода. Кніжка зроблена неяк наспех, без належнага падыходу да справы, слаба адрэдагавана, затое – першая!..

Памятаю, колькі радасці было ад здзейсненага. Гэтая кніжка дала мне пуцёўку ў Саюз пісьменнікаў Беларусі (1998 г.).

І толькі праз пяць гадоў у выдавецтве пры часопісе «Нёман» дзякуючы майму даўняму рэдактару, крытыку і сябру В. Шніпу мне ўдалося выдаць яшчэ адзін зборнік вершаў пад паэтычнай назвай – «Асенні рэнесанс». Зборнік, прыхільна сустрэты аматарамі паэзіі, разышоўся імгненна, карыстаецца попытам у чытача. А гэта для аўтара – немалаважна...

Такім чынам, як мог, я заявіў пра сваё існаванне ў свеце. Плён маёй працы – мая творчасць – мой лёс!.. Гэта і ёсць адказ на пытанне – як варта жыць, як неабходна любіць жыццё, якое ніколі не канчаецца.

*Снежань 2008 года*



*Левановіч*
***Леанід Кірэевіч***

## ЖЫЦЬ У СУЛАДДЗІ З ПРЫРОДАЙ

Нарадзіўся я 14 верасня 1938 года ў вёсцы Клеявічы Касцюковіцкага раёна Магілёўскай вобласці. Сярэдзіна верасня – гэта пачатак залатога бабінага лета. Мая маці, Ганна Рывонаўна, не памятала даты майго нараджэння, яна казала: «Ты нарадзіўся, калі бульбу капалі». Дакументы ў вайну згарэлі, таму мяне падмаладзілі, запісалі з 1939 г.

Калі скончыў Беладуброўскую сямігодку – у роднай вёсцы была пачатковая школа, – пачаў афармляць дакументы, з Магілёва прыслалі копію метрыкі, дзе была дакладная дата нараджэння.

Бацькі мае – звычайныя сяляне. Бацька скончыў тры класы, а маці зусім непісьменная, ні разу ў жыцці не распісалася. Сям'я была вялікая: я – дзевяты. Да вайны памерлі дзве старэйшыя сястрычкі, таму я аказаўся сёмым жывым дзіцем, і калі з'явіўся на свет, бацькам прызначылі сем тысяч рублёў дапамогі. Паспелі атрымаць тры тысячы – плацілі па адной у год, астатнія спісала ваеннае ліхалецце.

Вайну помню слаба, як праз туман. А вось вызваленне вёскі – канец верасня 1943 – урэзалася ў памяць на ўсё жыццё. Некалькі дзён мы сядзелі ў лесе пад старым разгалістым дубам. Памятаю, як бухалі бомбы, вылі снарады, як савецкі салдат накарміў смачным гарачым супам з вялікай зялёнай бочкі. Памятаю, як матка вяла за руку, а я плакаў, бо не пазнаваў вёску: вакол абгарэлыя коміны, трупы немцаў – у аднаго ў роце тырчаў бурак. Нашай хаты не было. Высілася чорная печ, абгарэлая чорная бяроза. Плакаў і малодшы брацік Толік, якога матка несла. Ён захварэў у лесе і праз некалькі дзён памёр.

Спалілі немцы палову вёскі – Шамаўскі бок, а Канчанскі бок паспелі абтушыць, бо немцаў ужо выбілі. Зімаваць нам давялося ў зямлянцы.

Брат Міколка, на два гады старэйшы за мяне, хадзіў у першы клас, выдатна вучыўся, меў выключную памяць. Зімой захварэў на менінгіт, выратаваць яго не ўдалося. Смерць Міколкі апісана ў рамане «Шчыглы». Неаднойчы мог загінуць і я: атруціўся мясам старога калгаснага вала, якога прырэзалі, разам з бацькам я апынуўся ў бальніцы. Тапіўся ў Бесядзі, выратаваў стрыечны брат Якаў Лявонаў. У трэцім класе захварэў на пляўрыт, таксама ледзьве выжыў. Мабыць, анёл-ахоўнік спрыяў – я застаўся жыць.

У 1953 годзе скончыў з пахвальнай граматай Беладуброўскую сямігодку. Бацька хацеў, каб я стаў аграномам ці ляснічым, а я наважыўся паступаць у Магілёўскае культасветвучылішча. Бацька мусіў пагадзіцца з маім выбарам. І вось я першы раз паехаў цягніком, першы раз сфатаграваўся, упершыню трапіў у горад. У вучылішчы было шмат прадметаў, але галоўнымі лічыліся партыйна-палітычная работа ў вёсцы і гісторыя партыі. Затое гісторыю Беларусі, родную мову, народную творчасць ігнаравалі. Я зусім нядаўна даведаўся, што да рэвалюцыі ў будынку быў шыкоўны гатэль «Брыстоль», што ў Англіі ёсць порт і затока з такой назвай.

Першага жніўня 1956 года пачаў я працаваць інструктарам Дзяржынскага раённага Дома культуры. Пры размеркаванні я свядома выбраў Мінскую вобласць, бліжэй да сталіцы, каб паступіць на журфак БДУ. Пачалося самастойнае жыццё, хоць мне яшчэ не было і 18. Паездкі па раёне з агітбрыгадай. Пра гэта пісаў у раёнку. Рэдактар Пёкла Аўціхаўна Гук ставілася да мяне прыязна. Параіла ўзяць даведку, што я актыўны селькор. Каб не гэтая даведка, то дакументы на журфак у мяне не ўзялі б. І так узялі толькі з дазволу адказнага сакратара. «Ідзіце ў Інстытут культуры», – адказвала фармалістка-рэгістратарка.

Першы допіс надрукаваў у Касцюковіцкай раённай газеце «Сталінскі прызыў» летам 1954-га. Прыехаў на канікулы дамоў, неяк іду на Бесядзь пакупацца – свінні рыюцца ў кукурузе. Якую пасеялі на

разараным поплаве.Бачу гэта другі раз, трэці… Як жа так? Сапсавалі прыгожы, квяцісты поплаў, змарнавалі гэтулькі сродкаў. Сэрца шчырага камсамольца не вытрывала: накатаў ліст у раёнку. Надрукавалі. Якое гэта было незвычайнае адчуванне – бачыць сваё прозвішча ў газеце! А які быў рэзананс! Старшыню калгаса выклікалі на бюро райкома, уляпілі суровую вымову. Аднавяскоўцы пачалі мяне зваць карэспандэнтам «Праўды». Яшчэ мацнейшы рэзананс мела мая другая публікацыя – фельетон «Расольнік з пячэннем», надрукаваны ў абласной газеце «Магілёўская праўда» ў студзені 1955. Гэты фельетон лічыцца пачаткам маёй творчай дзейнасці. Вынік публікацыі: за час летніх канікулаў у сталоўцы культасветвучылішчы зрабілі капітальны рамонт, яе было не пазнаць, і асартымент страў павялічыўся. Пасля гэтага я пераканаўся, што друкаванае слова мае вялікую сілу.

У Дзяржынску – так і карціць напісаць – Койданаве, адпрацаваў год. Выконваў ролю вядучага канцэртаў, чытаў байкі Кандрата Крапівы, Сяргея Міхалкова. Адна мая прыхільніца падарыла кашулю-вышыванку, якую сама пашыла. Берагу яе і зараз. У 2000 годзе на сустрэчу з беларусамі Бостана апрануў вышыванку. Амерыканскія беларусы пазіралі на мяне затуманенымі вачыма – іх засцілаў туман настальгіі.

Калі стаў студэнтам-завочнікам БДУ, пацягнула дамоў, да бацькоў, якія засталіся адны: старэйшая сястра і брат паехалі з сем'ямі ў Казахстан, дзве сястры працавалі ў Касцюковічах.

У сваім раёне ўладкаваўся загадчыкам сельскага клуба ў аддаленай вёсцы Гаўрыленка, на самай мяжы з Браншчынай. І адтуль пісаў у раёнку пра ўсе вясковыя справы. Вясною 1958-га мяне прызначылі дырэктарам Касцюковіцкага раённага Дома культуры. І было мне тады 19 з паловай. Усе супрацоўнікі ўдвая стрэйшыя. Давялося адгадаваць вусы, каб выглядаць самавіта.

У кастрычніку 1958-га прызвалі ў армію. Служыў на Балтыцы і завочна нелегальна вучыўся: даў клятву, што буду вучыцца – не ведаў, небарака, што гэтак забаронена законам. Неймавернымі высілкамі, спрыяннем добрых камандзіраў я скончыў тры курсы універсітэта за час тэрміновай службы.

Пасля звальненя ў запас перавёўся на стацыянар БДУ. У 1963 г. скончыў універсітэт. Запрасілі на працу ў газету «Знамя юности», у якой праходзіў практыку, потым быў спецкарэспандэнтам «Сельской газеты». У 1969 годзе перайшоў у штотыднёвік «Літаратура і мастацтва», пачаў пісаць на роднай мове. Першае ж апавяданне было надрукавана ў газеце «Советская Белоруссия» ў красавіку 1963.

Першая кніжка «Гаспадар зямлі» ўбачыла свет у 1971 г. яшчэ пад «дзявочым» прозвішчам – Л. Лявонаў. Доўга шукаў псеўданім.

Дапамог Іван Мележ. Былі разам у Доме творчасці «Каралішчавічы». Ён параіў узяць псеўданім Леанід Левановіч. Я сказаў, што быў пісьменнік Павел Левановіч. «Ён загінуў на фронце. Да вайны выдаў адну кніжку. Працягвайце яго справу». Так я і стаў Левановічам у 1971 г., нібы другі раз на свет нарадзіўся. У тым жа годзе ў «ЛіМе», у часопісах «Беларусь», «Полымя» з'явіліся мае апавяданні на роднай мове. А ў 1973 – кніга нарысаў «Зялёны трохкутнік» – пра бульбу, яблыкі і мёд. Гэта былі праблемныя нарысы-даследаванні.

Усё перажытае так ці інакш знаходзіць адлюстраванне ў творах. Калі б не служыў на фронце, не напісаў бы аповесць «Якар надзеі». Чатыры разы з'ездзіў у Казахстан – вынік аповесць «Зямля і людзі», пра беларусаў-цаліннікаў. Каб не прайшоў добрую журналісцкую школу ў «Сельской газете», не аб'ездзіў усю Беларусь, то й кніга нарысаў не паявілася б.

Галоўны мой набытак у творчасці – шэсць раманаў, з'яднаных аднымі героямі і месцамі дзеяння. А менавіта: «Шчыглы», «Паводка сярод зімы», «Дзікая ружа», «Бесядзь цячэ ў акіян», «Палыновы вецер», які надрукаваны ў часопісе «Полымя» ў 2005 годзе.

За кнігу «Ларыса, альбо Прыгоды аўтамабіліста» атрымаў Літаратурную прэмію імя Івана Мележа (1999), за раман «Бесядзь цячэ ў акіян» – прэмію Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі (2005).

Больш за дваццаць гадоў я набыў хату ў вёсцы Пятрылава, што на Вілейшчыны. Мае родныя Клеявічы знішчыў Чарнобыль, а на Вілейшчыне нарадзілася мая жонка Рагнеда, іхні хутар стаяў каля рэчкі Канатопка. Калі хутар знеслі, сям'я жыла ў вёсцы Кліманты Маладзечанскага раёна. У першыя гады хата ў Пятрылаве служыла лецішчам, а з 1992 года перабраўся ў вёску на сталае жыццё. Мы купілі курэй, завялі пчол, ката, сабаку, а гэта ўжо гаспадарка, без дагляду не пакінеш.

Пра пчол пачаў пісаць даўно. У 1968 годзе «Сельская газета» надрукавала мой вялікі нарыс «Беларускі мёд». У той жа год яго перадрукаваў маскоўскі часопіс «Пчеловодство». Прыахвоцілі даглядаць пчол цесць і цешча. Калі завёў сваіх пчол, кансультавала цешча, бо цесць пайшоў з жыцця раней. Цяпер ужо я даю парады маладым пчалярам у газеце «Рэспубліка», у часопісе «Гаспадыня».

Пчалярства – надзвычай цікавы занятак. Вядома, яно забірае шмат часу, і ўвогуле гаспадарчыя клопаты, асабліва ўлетку, не спрыяюць творчасці, затое спрыяюць здароўю, узбагачаюць новымі сюжэтамі.

Чалавек – дзіця прыроды, і жыць ён павінен у суладдзі з ёй.

*2008 год*



***Ліпскі***
***Уладзімір Сцяпанавіч***

## ХАЧУ ЗАСТАВАЦЦА ЧАЛАВЕКАМ

Я, Ліпскі Уладзімір Сцяпанавіч, у мінулым жыцці ўжо нараджаўся. Было гэта ў 925 годзе, у панядзелак. Як сцвярджае гараскоп, я ўбачыў свет на поўначы Новай Зеландыі.

У цяперашнім маім жыцці я нарадзіўся 6 мая 1940 года, у маленькай балотнай вёсачцы Шоўкавічы, што на Палессі, у Гомельскай вобласці, Рэчыцкім раёне.

Нарадзіўся, як і першы раз, у панядзелак. Стаяў сонечны вясновы дзень. Пяцёра дзяцей да мяне – трох сясцёр і двух братоў – мама раджала дома, у сваёй хаце. Мяне не рызыкнула. Ёй тады было ўжо 42 гады. Бацьку – 49.

Так што я адзіны з сям'і карыстаўся дапамогай акушэркі, паслугамі бальніцы. І адбылося гэта ў мястэчку Горваль, пад Рэчыцай, за 14 кіламетраў ад Шоўкавічаў. Сястра Клава, якой тады споўнілася 18 гадоў, прыгадвае:

– Я страшна гневалася на маму, нават сарамаціла яе, калі яна хадзіла цяжарнай: «Што надумаліся, мама, я ж барышня ўжо...» А як трэба было забіраць з бальніцы, папрасілася ехаць з бацькам. Запрэглі коніка, пакацілі. У палаце мне падалі беленькі скрутачак. Гляджу, а там кругленькі тварык дзіцяткі, нос бульбінкай. Зірнуў на свет мой брацік і ўсміхнуўся... У Шоўкавічах амаль усе вясковыя жанчыны прыйшлі ў водведы. Згулялі хрэсьбіны. Цётка Раіна Ліпская і старшыня калгаса Раман Маркаў сталі хроснымі бацькамі.

Шостага мая 1940 года сонца ўзышло ў 5 гадзін 35 хвілін. Дзень доўжыўся 15 гадзін 45 хвілін. На неба ўзышоў малады месяц.

Буяла ў прыродзе вясна. Яе люблю пажыццёва. І лічу сваёй самай натхнёнай парой года. Вясной бачыцца светла і далёка, дыхаецца лёгка, хочацца спяваць і кахаць.

Тым далёкім маем, калі я смактаў маміна малачко і адсыпаўся пасля цяжкіх родаў, на Беларусі і ў свеце адбываліся падзеі, якія засведчаны ў гісторыі і памяці людской.

Газеты паведамлялі, што 6 мая 1940 года калоны студэнтаў і рабочых выйшлі на будаўніцтва Мінскага мора. У гарадскім Палацы піянераў пачаўся чарговы агляд дзіцячай творчасці. Мае землякі, гамяльчане, святкавалі дзесяцігадовы юбілей «Гомсельмаша». У кінатэатрах паказвалі фільмы «Волга-Волга», «Чароўная Васіліса».

А на першамайскім парадзе ў Маскве маршал Клімент Варашылаў заявіў: «У дадзены час міжнародная абстаноўка заблытана да крайнасці. Другая імперыялістычная бойня разгараецца ўсё мацней. Трэба падвоіць нашу пільнасць...»

Я ж па тым часе пільнаваўся толькі мамінай цыцкі і рэгулярна тушыў, чым мог, пажар сусветнай бойні, якая разгаралася. Мой цягавіты, як вол, бацька разам са старэйшымі дзецьмі Лідай, Клавай, Пецем шчыраваў на палетках калгаса імя Молатава. А меншыя, сястра Люба і брат Коля, дапамагалі маме па гаспадарцы. Глядзелі мяне. Так вось распачалося жыццё новага Лапташа.

Да нашай сям'і здаўна была прышчэплена мянушка Лапташы. Відаць, таму, што жылі бедна. Бацька плёў лапці ўсім дзецям. І сам не здымаў гэты танны і просты абутак. Лапці з новай лазовай кары лічыліся будзённымі, для працы. За тыдзень зношваліся дзве пары. А лапці, сплеценыя з кары маладзенькіх ліпак, абуваліся па святах, нават на вечарынкі.

Адкуль жа з'явіліся ліпавыя, лапцюжныя Ліпскія ў вёсцы Шоўкавічы? Хто яны? Якога роду-племені?

Гэтыя пытанні задаў сабе вельмі запознена, калі ўжо амаль не было нікога з жывых сведак мінулага стагоддзя. Памерлі мама і бацька, усе дзядзькі і цёткі, адышлі ў вечнасць старажылы Шоў-

кавічаў. Усе тайны яны забралі з сабой у дамавіны. Бездапаможна плакаў на вясковых могілках ля здзірванелых земляных пагорчыкаў і прыгадваў усіх і ўсё, што асела ў памяці. Так нарадзілася кніга пра шоўкаўцаў «Адпяванне жывых».

Далей пайшлі бяссонныя ночы і клопатныя дні ў пошуку радаводу. Пачаў шукаць Ліпскіх у жыцці, у архівах, у перыёдыцы і кнігах. У муках нараджаліся гэтыя старонкі. Як дзіця, радаваўся нават маленькаму адкрыццю. У кожным Ліпскім шукаў радню. Пра ўсё гэта ў кнізе «Я. Праўдзівы аповяд пра твой і мой радавод».

Адкуль жа і калі прыйшлі Ліпскія ў Шоўкавічы?

Выявіў: мае Шоўкавічы ў XIX стагоддзі лічыліся засценкам, хутарам Горвальскай воласці, Рэчыцкага павета. Паводле звестак за 1870 год, там жылі чатырнаццаць аднадворцаў. А па перапісе 1909 года – ужо трыццаць адна душа «обоего пола». Больш чым удвая павялічыліся Шоўкавічы пад канец стагоддзя. Чым гэта выклікана, што памагло хутару стаць вёскай?

Адказ атрымаў, калі пачаў вывучаць гісторыю Горвальскага маёнтка, у межах якога знаходзіўся і хутар Шоўкавічы з яго ўрадлівымі землямі, сенакоснымі лугамі, грыбнымі дубровамі ды травяністымі лясамі, узлескамі.

Свае мясціны вакол Шоўкавіч добра ведаю. Лясы выхадзіў, вытаптаў, пасвячы ў дзяцінстве кароў, збіраючы грыбы ды ягады. Абышоў і ўсе вёскі наўкол. У Вузнажы вучыўся ў сярэдняй школе. У Чарнейкі, Заходы, Дуброву бегаў на танцы. У Дабужу выйшла замуж сястра Люба. У Баравікі і Селішчы хадзіў у магазін па соль і запалкі. У Святым, Свецкім і Задзірэеўцы жылі мае аднакласнікі.

У 1888 годзе пасяліўся ў Шоўкавічах мой дзед Янка – Ліпскі Іван Іванавіч. Яго жонкай, а маёй бабкай стала Праксэда Васільеўна Старжынская. Іх беззямельныя бацькі, як сведчаць дакументы, арандатары, відаць, прачулі пра Горвальскі маёнтак, які з лёгкай рукі Лейна кавалкамі здаваўся ў арэнду, і набылі для сваіх дзяцей надзел.

А пераехалі Янка і Праксэда ў Шоўкавічы з хутара Куннае. Гэта напрасткі – кіламетраў дваццаць. З цяперашніх Шоўкавіч бачны дымныя трубы г. Светлагорска (раней гэта было мястэчка Шацілкі). І з процілеглага боку горада, з Куннага, Медзведава, Печышчаў, бачны такія ж трубы. Маладыя, выходзіць, не так далёка ад’ехаліся ад бацькоў. Але ў іх была ўжо свая зямля, свая хата. І з радасці яны займелі аж дванаццаць дзяцей.

Што ведаю пра дзядзькоў і цётак па бацькавай лініі? Вельмі мала, той загадкавы мізэр, які пастаянна мучыць мяне. Былі-жылі людзі і зніклі, як сон, як ранішні туман. І ўжо ніхто ніколі не пачуе іх галасы, не прачытае іх кнігу душы. А тыя нямногія іх аднагодкі,

якія летам грэюць спіны на печы, упарта адмоўчваюцца. Адны не помняць. Іншыя ўзялі рот на замок яшчэ ў часы берыеўшчыны, і вітае над імі дух чорнага нячысціка да апошняга ўздыху. Горкая ява.

У Гомельскім абласным архіве знайшоў «Акладны ліст № 52 падаткаў на лён і каноплі па вёсцы Шоўкавічы за 1921 год». Сельсаветчыкі склалі дакумент, па якім «засвяціліся» мае аднавяскоўцы. Усяго сем'яў – 32, у іх едакоў – 169. Для падтрымкі рэвалюцыі яны абавязаны былі здаць дзяржаве 167 фунтаў ільнянога і 257 фунтаў канаплянага семя. Па іншых «цвёрдых накладных» павінны былі плаціць падаткі за жыўнасць і нерухомасць, за яблыні і грушы, за дым коміна і за месца пад сонцам.

Па тым часе мой дзядзька Тодар Ліпскі меў шэсць едакоў і пяць дзесяцін ворнай зямлі, сенакосу. Пры хадзьбе накульгваў, насіў вусы. Быў у прымах у Анюты Корзун. Лічыўся актывістам у сельсаветчыкаў. А як пачалі людзей зганяць у калгас, не захацеў абагульваць сваю зямлю, не павёў у агульны статак сваіх двух валоў і дзвюх кароў. Кажуць, на сход, дзе начальства прымусова запісвала жадаючых, прыйшоў Тодар з вяроўчынай і сказаў: «Вядзіце мяне на гэтай вяроўчыне ў калгас. Калі не парвецца, запішуся ў арцель. А парвецца – выбачайце!..»

Праз некалькі дзён да хаты крывога Тодара пад'ехаў чорны варанок. І павезлі шоўкавіцкага селяніна аж у Архангельск. Адтуль і не вярнуўся. А дочкі яго Марылька, Саша, Раіна пражылі жыццё пад гнётам падвоеных падаткаў і вечнага кляйма, што бацька – вораг народа.

Дзядзька Мікалай пражыў мала, усяго трыццаць сем гадоў. Прастудзіўся, займеў туберкулёз. Сваёй жонцы Ганне пакінуў хату з саламяным дахам ды двое дзяцей – Валю і Ваціка. Яны ўжо пенсіянеры. Жывуць у Рэчыцы.

Дзядзька Іван выбіўся ў старшыні шоўкавіцкага калгаса імя Молатава. Яго ўсе клікалі – Думка. Дзе трэба, дзе не вельмі, ён казаў: «У мяне ёсць думка. Трэба падумаць...» Ажаніўся з Марыяй Трацэўскай з багатай Якубавай сям'і. Меў тры з паловай дзесяціны зямлі і пяць едакоў. Памёр ад ліхога янота.

Як было? Ішоў дзядзька Іван па Шоўкавічах, а з лесу выскачыў звярок. Нашы Шоўкавічы акружаны непаўторным лесам. У бок Вузнажы – дубняк, дрэвы з небам гамоняць. Як ісці ў Свецкае і Святое – сасоннік, грыбныя ды ягадныя баравіны. Па накірунку да Селішчаў – балота, алёс. У бок Заходаў, Восава – бярозавыя гаі. Звяр'я ў лесе заўсёды кішэла, а пасля вайны яно ніяк не магло змірыцца, што людзі вярнуліся на папялішчы і выстукваюць, ладзяць сабе новае жытло. Вось і той шалёны янот, які перад дзядзькам перабягаў вуліцу, узяў ды пакусаў Думку, самога старшыню калгаса.

Тады ж не было моды бегаць па дактарах. Не дадумаўся схадзіць да фельчара і дзядзька Іван. А праз некалькі дзён зачыніўся ў хаце. Пачаў выкрыкваць бальшавіцкія лозунгі. Не прызнаваў жонку, дзяцей. Вось тады ў Шоўкавічы ўпершыню прыехала з раёна машына «хуткай дапамогі».

У пяцярых маіх цётак не было шчасця. Анэта выйшла замуж за Самуся Мажэйку з Куннага, адкуль Ліпскія і Старжынскія. Нажыла бядовая цётка трох дзетак дый адразу ж згубіла мужа. Сын Жэня вучыўся на лётчыка, але вельмі хутка згарэў ад туберкулёзу. Дачку Таню пагналі на лесанарыхтоўкі. Там яе прыбіла дрэвам. І цётка Анэта да сваёй смерці гадавала асірацелых унукаў – Надзьку і Шурыка.

Цётка Марыля, кажуць, жыла з Чэчатам няўлюбкі. Ён часта прыходзіў з вузнажскай карчмы ў адных падштаніках. Грошы прапіваў, вопратку аддаваў у заклад. Двое дзяцей займелі. Холька, дачка, у сваім замужжы нарадзіла багата сыноў. Памірала цяжка: параліч не памілаваў яе рук, ног, мовы, зроку.

Цётка Жэня выйшла за Лазоўскага ў Загуменне, памерла, як насіла пад сэрцам першынца.

Дзве цёткі, Раіна і Каця, памерлі з голаду. Здарылася гэта ў 1947 годзе. Бясхлебіца панавала наўкол. Пуста і гола ў засеках вясной. А цёткі аб'явілі пост перад Вялікаднём. Шчыравалі ў працы, дома і ў калгасе, галодныя і аслабленыя. Святочным днём, як Хрыстос уваскрэс, яны разгавеліся, паелі першы раз скаромнага пасля посту. Іх і вынеслі адну за адной у сасоннік, на вясковыя могілкі, дзе ўжо спачывалі іх бацькі...

Цяпер раскажу пра маму, святую жанчыну Марылю. Яна – мая Багіня. Маё сумленне. І цяпер ужо дакладна ведаю: яна натхніла мяне стаць тым, кім я ёсць у жыцці. У свае сорак два гады мама беражліва вынасіла мяне пад сэрцам і з радасцю нарадзіла. Подзвіг мамы, яе светлы вобраз помню кажнюткі дзень, хаця адышла яна ў вечнасць даўно.

Мама мая Марыля з дваранскага роду Янушэўскіх, герба «Дамброва». Заснавальнік дрэва Казімір набыў маёнтак Заблаўшчызну ў Ашмянскім павеце 2 лютага 1741 года, з шасцю сялянскімі хатамі, у землеўласніка Станіслава Вайцяхоўскага. Адсюль і пачаўся радаводны ланцужок Янушэўскіх. Ён знітаваў Мазырскі, Рэчыцкі, Бабруйскі паветы, Магілёўскую, Чарнігаўскую, Курскую губерні. Сярод Янушэўскіх сустракаем калежскага рэгістратара, губернскага сакратара, унтэр-афіцэра, паручніка Літоўскіх войск, пісара, свяшчэнніка Мінскага Свята-Духава манастыра. Мая мама з сям'і арандатара Адама Фларыянава Янушэўскага. Кажуць, разумны вельмі быў. Умеў чытаць газету. Людзей любіў. Пойдзе па вуліцы, прывядзе ў хату на начлег цыгана ці яўрэя.

Хату збудаваў у вёсцы Вялікі Лес, каля Стрэшына. З жонкай Пелагеяй Караткевіч нарадзілі шасцёра дзяцей: Анюту, Агату, Марылю (маю маму), Паўла, Юзіка, Любу (памерла маленькай).

Паўла забралі берыеўцы ў той жа дзень, як яго жонка Арыша нарадзіла дзіцё. Яна не змагла нават падняцца з ложка, каб развітацца. Павезлі і расстралялі ў Гомелі як шпіёна буржуазнай Польшчы. А ён жа ствараў калгас і ладзіў моцную сям'ю.

Юзік памёр маладым. Быў сакратаром камсамольскім. Хавалі з аркестрам і «Інтэрнацыяналам».

Цётка Анюта, Бабічыха, жыла ў Шоўкавічах. Вучылася ў школе ўсяго сем месяцаў. А розуму і этыкету ні ў кога не пазычала. Гжэчная ўдалася цётка. Уважлівая да ўсіх, шчодрая. Любіў бегаць да яе на гулянкі, бо заўсёды чым-небудзь смачным частавала.

Цётка Агата жыла ў Мінску. Яна мяне прытуліла, калі пасля заканчэння школы прыехаў да іх у Сцяпянку. Вельмі дзівавалася, што я з цяжкім чамаданам ішоў поначы і распытваў у цыганоў дарогу. А калі раскрыў абшарпаны чамадан, яшчэ больш здзівілася. Там ляжалі адны падручнікі і брусок сала. Мы тады прагаварылі з ёй да раніцы. Яе цікавіла ўсё: у каго штаны пазычыў, каб ехаць у сталіцу вучыцца на журналіста, як здароўе маёй мамы, ці нясуцца куры, што расце ў агародзе?..

Са мной цётка Агата гаварыла як з роўным, і за гэта яе паважаў усё жыццё. Пасля пераканаўся: больш гасціннай і хлебасольнай цёткі няма ва ўсім свеце. Яна замяніла мне маму, калі тая памерла. А калі пахавалі і цётку Агату, я адчуў сябе круглым сіратою.

Мае бацькі пражылі ў любасці 52 гады. Нажылі нас, дзяцей, шасцёра. І перадалі нам у спадчыну ўсё лепшае, што атрымалі ад сваіх бацькоў: чыстае сумленне, любоў да жыцця і прыроды, душэўную дабрыню. Іх запавет – будзь Чалавекам!

Мама спявала нам калыханкі. Кожнага ўволю напаіла сваім малачком. Умела гатаваць і частаваць. Як прыгадаю яе мачанку, бліны, сырніцу, крывянку, каўбасу, дык аж слінкі цякуць. Зімою прала і ткала. З вясны і да восені – у полі і агародзе. Адзіную ўзнагароду мела – медаль «Мацярынства» другой ступені.

У архіўных дакументах Вузнажскага сельсавета за 1925 год сустрэў спіс шоўкаўцаў, якія праходзілі курсы па вывучэнні азбукі. «Курсанткай» запісана і мая мама Ліпская Марыя Адамаўна. Па тым часе ёй было ўжо трыццаць гадоў. А на руках – трое дзяцей: Лідзе – шэсць, Клаве – тры, Пецю – адзін год.

Тады мама і навучылася распісвацца. А перад смерцю прыслала мне ў Мінск пісьмо. Літарка за літаркай складвала словы. Іх вывучыў, як малітву: «Мае дарагія сынок Валодзя, нявестка Ніна,

унучак Ігарок, хачу вас сустрэць гэтым пісьмом у добрым здароўі і вясёлым настроі. Жыццё наша ідзе па-стараму. Здароўе дрэннае. То я хварэю, то бацька ваш. Залезем на печ удваіх, а кот трэці – грэемся. Чакаем, каб хутчэй вясна. Да спаткання. Моцна цалую вас усіх. Ваша мама Марыя Ліпская».

Следам прыляцела пісьмо ад сястры Любы: «Я толькі ад мамы. Яна вельмі слабая. Папрасіла мяне напісаць вам, каб не перажывалі і не палохаліся. Хацела пабываць у вас, але, сказала, ужо не давядзецца, моцна стукае ў грудзях. Прасіла, каб не плакалі...»

15 чэрвеня 1972 года пад поўнач я атрымаў тэлеграму ад брата Пеці: «Прыязджай тэрмінова. Мама памерла».

У чэрвені – самыя кароткія ночы. А тая доўжылася вечнасць. Яна была самай балючай за ўсё жыццё. Цягнулася так марудна, так цяжка ціснула на мяне, думаў, не дажыву да рання. Не верыў тэлеграме. Не мог змірыцца, што мама не загаворыць больш са мной, што не напячэ мне пульхных аладак. Няпраўда, што ў чэрвені самыя кароткія ночы.

З узыходам сонца паляцеў на вакзал. Ехаў да мамы на апошняе спатканне...

Пракацілася пасля той трагедыі багата гадоў, а я штодня прыгадваю маму, перад яе партрэтам малюся і спавядаюся.

Пра яе, святую, мая кніга «Мама. Малітва сына». Бацька перажыў маму на пяць гадоў.

Не мог паверыць вачам сваім, што ў труне ляжаў нястомны працаўнік. На грудзях – пабялелыя рукі. Яны ўмелі рабіць усё: бочкі, цэбры, рамы, санкі, калёсы, верацёны, самапрадкі. Умелі касіць і араць, збіраць грыбы і няньчыць дзягай дзяцей. Бацька курыў, выпіваў і мацюкаўся, а дзецям гэтага ўсяго не дазваляў. Быў стаханаўцам у калгасе і аднойчы атрымаў прэмію – картовы касцюм.

У свае восемдзесят чатыры гады ён стаў слязлівым, чуллівым. З пенсіі сабраў кожнаму з нас, дзяцей, па пяцьсот рублёў. А мне ў спадчыну перапалі яго сшыткі, у якіх ён штогод і штодня старанна запісваў, што рабіў у калгасе. Тыя сшыткі натхнілі мяне напісаць аповесць «Лаўрэнавы працадні».

Маё жыццё, як і лёс усёй нашай сям'і, маіх братоў і сясцёр, вымяраецца, ацэньваецца вайной. Яна – адлік усіх бед, слёз і пакут.

Бацьку па старасці на фронт не ўзялі. Дапамагаў, як мог, партызанам. Служыў у іх сувязным. І, як медалі, усё жыццё беражліва хаваў паперкі ад камандзіраў партызанскіх атрадаў, у якіх яны дзякавалі шоўкавіцкаму памагатаму за сабраны хлеб, за начлег, за сухія парцянкі. У Нацыянальным архіве ляжыць даведка: «Ліпскі Сцяпан Іванавіч, 1891 года нараджэння, лічыцца сувязным партызанскага

атрада № 108 імя Катоўскага 1-й Буда-Кашалёўскай брыгады Гомельскай вобласці». Рады, што ў маёй творчай спадчыне ёсць кніга «Бацька. Пісьмы на неба».

Брат Пеця вярнуўся з вайны паранены, з інвалідскім дакументам. Бывала, падап'е, усім паказваў сваю прабітую галаву і мацюкаў Гітлера: «Гэта Адоля мяне пачаставаў». Брата ўзялі на фронт у чым стаяў – у фуфайцы і лапцях. Далі вінтоўку і павялі ў бой. Праз пару месяцаў мы атрымалі паперу, што ён забіты і пахаваны. Мама ездзіла пад Парычы на Пятрову магілку. А яшчэ праз некалькі месяцаў атрымалі ад яго пісьмо з Уфы, са шпіталя. На яго, аказваецца, рана выпісалі пахавальную...

Да вайны мой брат закончыў сем класаў і курсы бухгалтараў у Калінкавічах. У той дзень, калі яму трэба было ехаць у Шацілкі прымаць бухгалтэрыю на суднаверфі, пачалася вайна. Яна і скалечыла яму жыццё. Інваліду другой групы Пятру Ліпскаму даверылі ў калгасе быць упраўляючым над коньмі. З імі ён і даслужыўся да пенсіі.

Ажаніўся Пятрусь з прыгажуняй Дзінай Браткоўскай з вёскі Вялікі Лес, з-за ракі Бярэзіны, з радзімы маёй мамы.

Яны нажылі тры дачкі – Лену, Маню, Любу, а тыя падарылі ім шасцёра ўнукаў. Быў адзіны спадкаемец, сын Шура, але яго жыццёвая свечка гарэла толькі васемнаццаць гадкоў. Загінуў выпадкова і недарэчна – упаў з трактара, якім газаваў сусед.

Шурыка пахавалі побач з маімі бацькамі, з яго дзедам Сцяпанам і бабай Маняй. Там ужо і магілкі майго брата Пятра, сястры Ліды.

Сясцёр Клаву і Любу вайна загнала ажно ў польскі горад Пулавы. З франтавым шпіталем № 3650 яны прайшлі цяжкімі дарогамі вайны, падбіраючы і ратуючы байцоў. Адрас аднаго з іх санітарка Клава прывезла дамоў, у Шоўкавічы. А следам прыехаў у вёску і пярмяк Угліцкіх Аляксандр Сцяпанавіч. Бацька зарэзаў козліка, згулялі вяселле. Было гэта 14 лютага 1946 года, у зямлянцы.

Сваё франтавое каханне маладыя загартавалі пяцідзесяццю гадамі сумеснага жыцця. Займелі чатырох дачок – Таню, Любу і блізнят – Валю, Алу, а таксама шасцёра ўнукаў. Блізняты былі і ў бабкі Праксэды. Так што нічога выпадковага ў прыродзе не бывае.

Сястра Люба пра сваё маленства:

«У школу бегала ў лапцях. Задачкі добра рашала, а пра цароў нічога не лезла ў галаву. Помню, бегалі ў Восаў, ад нашых Шоўкавічаў мо кіламетраў сем, сустракаць Алісея і Піліпа Зайцавых, якія вярнуліся ад Сталіна. У Алісея было васемнаццаць дзяцей, а Піліпу далі ордэн Леніна за парасят. Для сустрэчы пабудавалі трыбуну пасярод вёскі. Алісей узышоў і сказаў: «Я даў абяцанне Сталіну, што будзе дваццаць дзяцей». Гэта было ў маі сорак першага. Праз месяц

над нашай хатай праляцеў чорны самалёт са свастыкай. Вельмі ж страшна гудзеў...»

Як гудзеў варожы самалёт, здаецца, помню і я, хаця мне тады было толькі год з невялікім «хвосцікам». А сястру Любу, як і сястру Клаву, запомніў, як вярнуліся дамоў з фронту. Прывезлі цукерак, якіх я ў вочы не бачыў, ды магазінныя штонікі. Першыя ў жыцці!

Люба выйшла замуж у Дабужу за Івана Корбута. У гэту невялічкую вёсачку ля Бярэзіны ў першае і вельмі кароткае замужжа выходзіла і наша мама.

Любіна вяселле помню. Мне ўжо было восем гадоў. Танцаваў барыню і спяваў прыпеўку:

Не глядзіце на мяне,<br>
Што я абадраўся.<br>
Мой і бацька такі быў,<br>
Я ў яго ўдаўся...

А калі маладыя збіраліся ад’язджаць з двара, мяне падвучылі залезці на падушкі, на Любін пасаг, і патрабаваць выкуп. Так я зарабіў першыя ў жыцці грошы...

У Дабужы – некалькі хат. Божы куточак. Тут – неба высокае, травы мурожныя, лясы лекавыя. Тут жыве мая сястра Люба, якая нечакана праславілася на ўсю Беларусь. Рэспубліканская «Народная газета» надрукавала 15 кастрычніка 1992 года артыкул «Исцеление» пра тое, як наша Люба вылечыла ад рака свайго сына Валодзю. Дактары «выпісалі» яму смяротны прыгавор, выклікалі маці, каб развіталася з ім. А яна завезла яго ў Дабужу, пачала збіраць па лугах, лясах лекавыя травы і грыбы. Два гады мацярынскага подзвігу паставілі Валодзю на ногі.

Мой брат Коля старэйшы за мяне на восем гадоў.

Колю, як і Пятру, Клаве, Любе, вайна пераблытала вучобу. Закончыў нейкіх шэсць класаў, курсы трактарыстаў. Доўгія гады працаваў у эмтээсе, на падсочцы, у геадэзістаў. Ён купіў некалі мне першы ў жыцці касцюмчык, і я ўдзячны яму за гэта заўжды.

Працавіты, з умелымі рукамі, сялянскі хлопец Мікола Ліпскі дапусціў у жыцці адну памылку. Паехаў жыць у Гомель. Жонка Ніна заманіла туды. А вясковы прышчэп не прырос да гарадскога. Разышоўся з жонкай. Сыны Косця, Віця, Юрась разбрыліся па свеце. І застаўся мой брацік адзінокай былінкай у старасці. Да таго яшчэ з хворымі нагамі, якія давялося ампутаваць... І ён ужо ўлёгся на вечны спачын на шоўкаўскім пагосце.

Калі ўзяць толькі адну нашу сям’ю, то ў яе радаводны клубок уплецены прозвішчы: Ліпскі, Угліцкіх, Корбут, Сыцька, Караткевіч, Янушэўскі, Старжынскі, Яленскі, Мажэйка, Шумілкін, Бабіч, Чаплінскі, Паўловіч, Пракаповіч, Пракапенка, Чэчат, Лазоўскі, Браткоў-

скі, Радзюкевіч, Ханеўскі, Гвоздзь, Бурмялёў, Шафарэнка, Паташка, Старажэнка, Юркевіч, Дудар, Захарэнка, Міцін, Камароў, Лось, Савошка, Мікіценка, Мурашка, Сушко, Яновіч, Пылінскі, Жарын, Кашавар, Трацэўскі, Каламіец, Рэўтовіч...

Гэты невад прозвішчаў прымушае пільна ўгледзецца наўкол: ці не з родзічам ходзім па адной вуліцы і не здароўкаемся, ці не радні топчам ногі ў трамваі, ці не з блізкімі людзьмі жывём чужакамі?..

Нашы Шоўкавічы немцы спалілі на першы дзень Сёмухі. Разгар лета. Гарачыня. Касавіца. А ў вёску ўскочыў на кані пасыльны з партызанскага атрада «Бальшавік»:

– Уцякайце!.. Ратуйцеся!.. Немцы будуць вас паліць... Бяжыце ў бок Хаўруснага...

Нечаканая навіна абляцела вёску. Уяўляю разгубленасць людзей: як кінуць нажытае, што ўхапіць з сабой?

Мама ўхапіла іконку, загарнула мяне, гадавалага, у саматканую посцілку. Бацька ўзяў чыгунок з бульбай, даёнку і вяроўчыну. Спадзяваўся на лузе залыгаць сваю карову.

Так для маіх шоўкаўцаў пачалося лясное быццё. Вёску спалілі датла. З хатамі згарэла пяць чалавек. Старых і нямоглых, хто не здолеў дабегчы да лесу, забілі. Сяргея Маркава карнік дагнаў у жыце, выстраліў у спіну. Ваяку гітлераўскаму нечым замінаў наш дзед Сяргей.

Пачалі жыць у куранях, зямлянках. Харчаваліся, як звяркі, усім лясным: грыбамі, ягадамі, травой, карой. Нельга было крычаць, плакаць, спяваць. Маёй любімай цацкай стаў самаробны аўтамат: палка сукаватая з кансервавай бляшанкай.

Так вайна адабрала ў мяне дзяцінства.

З таго часу страшна перажываю, калі крыўдзяць дзяцей. Сэрца разрываецца на друзачкі, калі бачу слёзы на бязвінных тварыках. Душа баліць за нашых дзяцей – заложнікаў Чарнобыля.

І ўсё-такі я шчаслівы, бо ўсё сваё свядомае жыццё прысвяціў дзецям.

Як галоўны рэдактар рэспубліканскага часопіса «Вясёлка» ўсё раблю, каб часопіс быў патрэбны і карысны нашым дзецям. Тут шчырую ўжо больш за трыццаць гадоў.

Як старшыня праўлення Беларускага дзіцячага фонду ссівеў, абараняючы правы дзяцей, дапамагаючы сіротам, інвалідам, хворым.

Як бацька разам з жонкай Нінай Іосіфаўнай выгадаваў двое дзяцей – сына Ігара і дачку Марыну. Сын – архітэктар, мастак, афармляе мае кніжкі. Дачка – біёлаг. Растуць унукі Антон, Маша, Толік. Пра дзяцей мае кнігі – «Рыгоркавы прыгоды», «Марынчына казка». «Саспелі» мае новыя кнігі пра ўнукаў «Антонік-Понік» і «Наша Маша». Пішу пісьмы ўнуку Толіку.

Галоўны прынцып майго жыцця: што аддаў – тое і тваё!

Раптам здарыцца, што калі-небудзь нараджуся ў нейкім новым стагоддзі, а мо на іншай планеце, то хацеў бы і ў тым вымярэнні застацца Чалавекам.

За пражытыя гады адкрыў для сябе дзве мудрасці.

Першая: трэба глыбока зразумець і сардэчна палюбіць дзяцей, асэнсаваць свой род. Цяпер як запавет дэкларую ўсім: дзеці-спадкаемцы павінны ад бацькоў, як з чыстай крыніцы, наталіць багаццем свой розум, сэрца, душу і цела. Калі гэтага не здараецца, дзеці трапляюць у бяду.

Другую мудрасць адкрыў, калі пабываў у Злучаных Штатах Амерыкі, Мексіцы, Даніі, Бельгіі, Германіі, Францыі, Швейцарыі, Фінляндыі, Югаславіі, Польшчы, Венгрыі, Балгарыі, В’етнаме, Карэі. Лепшай мясціны, чым мае Шоўкавічы, няма ва ўсім свеце. Тут самае зорнае неба. Самыя чыстыя росы. Самыя галасістыя салаўі, самыя шчырыя людзі. Тут мае карані, якія надаюць сілы, натхненне і аптымізм.

Вучоныя адкрылі: сэрца чалавека штогод расходуе столькі энергіі, колькі патрэбна для таго, каб падняць груз вагой каля 900 кг на вышыню 14 сантыметраў. За пражытыя гады маё сэрца падняло гэты груз амаль на 10 метраў. Вышэй за мяне ў некалькі разоў. З гэтай вышыні прамаўляю сваю штодзённую малітву:

Дай, Божа, даваць, а не прасіць;
Дай, Божа, заўсёды смяяцца і ніколі не плакаць;
Дай, Божа, каб было гожа;
Дай, Божа, з радасцю працаваць і дома начаваць;
Дай, Божа, разам двое: і шчасце, і здароўе;
Дай, Божа, усё ўмець, а не ўсё рабіць;
Дай, Божа, чутае бачыць;
Дай, Божа, на жыццё, на быццё і на доўгі век.
У імя Айца, і Сына, і Святога Духа. Амінь.



***Лукша***
***Валянцін Антонавіч***

## З БЕРАГОЎ ДЗВІНЫ-МАТУХНЫ

Толькі з гадамі чалавек здольны зразумець патаемны і глыбокі сэнс сказанага некалі выдатным французскім лётчыкам і славутым пісьменнікам Антуанам дэ Сэнт-Экзюперы: усе мы родам з дзяцінства.

Па сабе ведаю, якім шчымлівым болем сціскаецца сэрца, калі з прадоння часу, як лёгкія залацістыя аблачынкі, як упартыя парашуцікі прыдзвінскіх дзьмухаўцоў, вывяслоўваюць згадкі той непаўторнай пары.

Кожнае вяртанне на зямлю маленства, у кут свой родны – святло светлай памяці, ачышчэнне, нарэшце, і, не перабольшу, сведчанне здароўя душы.

Кожнае вяртанне на зямлю бацькоў – гэта вяртанне да старонак даўно прычытаннай кнігі, да радкоў, мудрасць прастаты якіх спасцігаеш праз доўгія гады і дзесяцігоддзі.

Пэўна ж, не сябе аднаму, а ўсім, чыё дзяцінства было апалена подыхам той нядаўняй праклятай бяды, часта сніцца вайна. Тая,

Вялікая Айчынная. Да мяне яна настойліва грукаецца, не зманю, амаль штоночы…

З чатырохгадовай садаўскай сяброўкай-аднагодкам Рымай мы крочылі па Чырвоным мосце (так называўся драўляны мост цераз Палату з часоў даўняй бітвы з напалеонаўскімі ордамі). Я цягнуў на матузу блішчасты трамвайчык з рознакаляровымі агеньчыкамі-вокнамі, які дзяўчынка дала мне пагуляць «да заўтла». Рыма несла кудлатага мішку з адарваным вухам – ад мяне і таксама «да заўтла».

А сонца над намі яснае-яснае…
А неба над намі сіняе-сіняе…

А вада ў Палаце, якая смеючыся бяжыць у абдымкі да разважлівай Дзвіны, чыстая-чыстая.

Мы крочым і весела шчабечам пра штосьці сваё дзіцячае, раднае і шчаслівае.

Толькі раптам не стала ні сонца яснага, ні неба сіняга, ні струменнай вады чыстай-чыстай. З-за Вала Івана Грознага, з-за белакаменнай Сафійкі, робячы круг за кругам над Спаса-Еўфрасіннеўскім манастыром, на Полацк наляцелі крыжастыя жалезныя птушкі смерці. Блішчасты трамвайчык з ронакаляровымі агеньчыкамі-вокнамі пакаціўся са стромы ў раку, а на кудлатым мішку засмылела поўсць. І не стала маёй садаўскай сяброўкі-аднагодкі Рымы.

У маё дзяцінства прыйшла вайна. Незабыўная і бязлітасная. Але і мы – падшыванцы і абадранцы – разумелі, што вайна гэта вельмі дрэнна. І што трэба, як можаш, шкодзіць ворагу. І мы кралі ўхналі ў нямецкай ветэрынарнай лячэбніцы сабе на прабоі для рагатак, кралі падшыпнікі сабе на самакаты. Так праз гады пакут і чакання набліжалі жаданую Пе-ра-мо-гу!

Колькі слёз пралілося ў той дзень!
Слёз радасці.
Колькі песень прагучала ў той дзень!
Песень шчасця.
І болю.

Той жа восенню я пайшоў у першы клас 59-й рускай сярэдняй школы Смаленскай чыгункі (так называлася наша чырвонацагляная будыніна на станцыі Грамы). Згаладалыя за вайну па сапраўдных дзіцячых гульнях, аднагодкі лёгка пераўвасабляліся ў робінгудаў і салаўёў-разбойнікаў. Яны пераймалі нас, «ноўцаў» (быў такі мікрараён на ўездзе ў Полацк з боку Віцебска), ля «трубачкі», – бетанаванага вадасцёку пад чыгункай на Рыгу, і, узброеныя, патрабавалі выкуп за права праходу ў школу.

Выкупам былі гранаты-лімонкі, пачкі патронаў, нават міны, якія мы збіралі ў прыдзвінскіх лясах, ці «рэквізавалі» ў сваіх адна-

класнікаў з прыгараднай вёскі Струнь, дзе некалі размяшчаліся так званыя парахавыя склады.

Маімі любімымі прадметамі былі літаратура і мова, гісторыя і геаграфія, цягнула і да батанікі. Употай пісаў байкі і эпіграмы на сяброў і выкладчыкаў нялюбых прадметаў – матэматыкі і французскай мовы. Шлях у насценны друк быў адкрыты.

Полацк цярпліва і настойліва далучаў да літаратуры.

Прымаў актыўны ўдзел у мастацкай самадзейнасці. Першай буйнай роляй у драмгуртку была роля негра Сняжка ў аднайменнай п'есе Валянціны Любімавай. Менавіта гэтае захапленне дазволіла мне крыху пазней атрымаць у народным тэатры пры гарадскім Доме культуры ролі ў спектаклях «Таня» па п'есе Аляксея Арбузава і «Выбачайце, калі ласка» па п'есе Андрэя Макаёнка.

Полацк цярпліва і настойліва далучаў да мастацтва.

А потым былі гады вучобы ў Полацкім лясным тэхнікуме – адной са старэйшых навучальных устаноў рэспублікі. І новыя літаратурныя спробы. І колькі радасці было, калі на старонках гарадской газеты «Сцяг камунізма» быў у красавіку 56-га надрукаваны мой першы верш «Вясна».

Празрысты дзень… Зямля, як под, угрэтая.
На голым голлі – кропкамі – шпакі.
Вясна ідзе!.. Вясна ідзе!.. Пра гэта
Заўзята гарлапаняць раўчукі.

Вясна ідзе!.. Вясна ідзе!.. Прачнулася ваколле.
Зяленіва кіпіць – у добры шлях.
Дзвіна іскрыцца рыжаю лускою,
Дыхнула свежай рошчынай ралля.

І гэты просценькі верш, і шэраг іншых твораў, як і іх аўтара блаславіла старэйшае ў Беларусі літаратурнае аб'яднанне «Надзвінне». Тое самае, якое адкрыла шлях у вялікую літаратуру Петрусю Броўку, Тарасу Хадкевічу, Алесю Савіцкаму. Яны і сталі маімі літаратурнымі бацькамі, пільна сачылі за пошукамі на творчай ніве, дапамагалі ў пісьменніцкіх і жыцейскіх справах. Цяпер бы маладзейшым такіх настаўнікаў!

Што ж тычыцца мяне, то пасля сканчэння вучобы, два наступныя гады давялося папрацаваць памочнікам таксатара Пензенскай аэрафоталесаўпарадачнай экспедыцыі. Спачатку на Урале – ад Магнітагорска да Ямантау, потым у балатах на рагу Цюменскай, Омскай і Томскай абласцей. Адтуль у выцвілай кайстры прывёз нізку вершаў «Мая блакітная тайга» і дзве аповесці: «Зялёнае золата» і «Мая стэпавая Джаконда». У час кароткатэрміновага водпуску ў родным горадзе, прыняў удзел у першым Віцебскім абласным фестывалі моладзі, дзе за выкананне сваіх баек атрымаў званне лаўрэата. Гэта папяровы сціплы дыплом – адна з маіх першых і дарагіх узнагарод.

Наступны прыезд у адпачынак стаў паваротным у маім лёсе і назаўсёды разлучыў з лясной справай.

Спачатку мне прапанавалі работу ў мясцовай газеце, дзе, дарэчы, я і ўзначаліў літаб’яднанне «Наддзвіне», а праз некалькі месяцаў вылучылі ў Полацкі гарадскі камітэт камсамола. У гэты ж час на левабярэжжы Заходняй Дзвіны набірала разбег будаўніцтва буйнейшага ў Еўропе нафтаперапрацоўчага завода. І вось у верасні 58-га мяне абралі першым (не ў сэнсе рангу, а па ліку) сакратаром камітэта камсамола цяпер славутага трэста «Нафтабуд».

Гарачыя працоўныя будні, успаміны маленства, нараджалі новыя вершы. Так паявіўся нафтаградскі цыкл, які разам з маімі таёжнымі творамі склалі першы зборнік «Гарады нараджаюцца сёння». Потым была амаль на дзесяцігоддзе работа над ёмістай паэмай-хронікай «Белыя берагі».

А над намі муры. А над намі муры залатыя.
А пад намі – рака. Быццам чыстая песня яна.
Гэта значыць, над намі – улюбёнка стагоддзяў – Сафія.
Гэта значыць, пад намі бяжыць і смяецца Дзвіна.
Бачыш? Вунь, быццам пена, бялее пагорак.
Бачыш? Гмахі нагадваюць стрэлы дзіцячых ракет.
Гэта – рупны завод,
Гэта – новы наш ранішні горад,
Дзе твой бацька быў першы рабочы
І першы рабочы паэт.

Але не толькі мяне акрыліла гіганцкая будоўля. Сюды літаральна накінуліся прадстаўнікі ўсіх сфер літаратуры і мастацтва. Не было таго дня, каб не сустрэў новага чалавека, новага дзеяча. Тарас Хадкевіч напісаў буйнапланавы раман «Песня Дзвіны». Алесь Савіцкі аповесць «Самы высокі паверх», якая разам з іншымі яго творамі пра моладзь была адзначана прэміяй Ленінскага камсамола Беларусі. Шмат цікавых вершаў прысвяцілі будоўлі Рыгор Барадулін і Сяргей Грахоўскі. Тут бывалі Пятрусь Броўка, Іван Шамякін, Пімен Панчанка, Іван Навуменка, Уладзімір Караткевіч…

Багата песень  (у тым ліку і на мае словы) напісаў тут Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі кампазітар Дзмітрый Лукас, які на грамадскіх пачатках кіраваў мастацкай самадзейнасцю.

Запамінальныя жывапісныя палотны зрабіў на прыдзвінскіх берагах Уладзімір Стальмашонак.

Удосталь наеўшыся камсамольскага хлеба, яшчэ пяць гадоў працаваў на роднай зямлі ўласным карэспандэнтам Беларускага радыё. Гэта была добрая школа жыцця, невычэрпная крыніца для творчасці. Яна не перасохла і тады, калі лёс паклікаў у Мінск. Спачатку загадчыкам аддзела літаратуры і мастацтва рэспубліканскай

газеты «Чырвоная змена», а потым галоўным рэдактарам Галоўнай рэдакцыі Беларускага радыё, і, нарэшце, дырэктарам спецыялізаванага выдавецтва «Юнацтва», дзе адтрубіў амаль два дзесяцігоддзі, аж да выхаду на заслужаны адпачынак.

Не так даўно зноў давялося пабываць у горадзе на Дзвіне. Разам з Алесем Савіцкім – цяпер ужо ганаровым грамадзянінам горада, лаўрэатам Дзяржпрэміі – аббегалі шмат знаёмых з даўняй пары вулак і завулкаў, і згадвалі, згадвалі, згадвалі…

У маёй кніжнай шкафе цэлы рад дарагіх мне кніжак. Амаль пяць дзесяткаў. Гэта паэтычныя зборнікі для дарослага чытача, выдадзеныя ў розныя гады: «Атава», «Споведзь», «Сляды памяці», «Агні далёкіх гарадоў», «Батлейка», «Агонь і попел», «Покліч лёсу», «І родны дом і цэлы свет», кніжкі вершаў і казак для дзяцей: «Аркестр», «Зялёная больніца», «Лета круглы год», «Крылаты цэх», «Чароўны камень», «Як ліса вучылася лётаць», «Лебядзіная вернасць», «Адзіны ў свеце край», «Жаўрукова песня». І на роднай мове, і на мовах больш чым дваццаці краін. Тыраж перавысіў мільён экзэмпляраў.

Значыць, жыватворнымі былі згадкі дзяцінства, юнацтва, якія падпітвалі і падпітваюць творчае жыццё.

Значыць, быць новай песні. Бо чалавек без песні – птушка без крылаў. І душа, і крылы мае – край мой беларускі, край прыдзвінскі. З прыполу яго хуткаплыннай ракі вочы мае на свет белы зірнулі.

Каб несці людзям радасць.
Каб несці людзям песню.

*2008 год*



## *Мазго*
### *Уладзімір Мінавіч*

# АБРЫСЫ ЛЁСУ

У кожнага чалавека, як і ў кожнай ракі, ёсць свае вытокі. Гэта – яго бацькі, малая радзіма, дзе ён з’явіўся на свет, зрабіў свае першыя крокі.

Мой бацька, Мазго Міна Дзмітрыевіч (усе звалі яго Міша), родам з Лепельскага раёна Віцебскай вобласці. Маці, Прахарэнкава Ганна Рыгораўна, – са Смаленшчыны. А я нарадзіўся 5 сакавіка 1959 года ў невялікім зялёным горадку, які мае адпаведную паэтычную назву: Зэльва, што на Гродзеншчыне. Менавіта тут вымавіў першае слова, а пазней, зачараваны і натхнёны навакольнай прыродай, загаварыў... вершамі.

У Зэльве наша сям’я жыла ў старым бараку каля чыгуначнага моста праз Зальвянку. Потым – атрымала кватэру ў двухпавярховым доме № 5 па вуліцы Савецкай. Бацькі працавалі на будоўлі.

Калі ў 1962 годзе Зэльвенскі раён быў ліквідаваны, Зэльва страціла статус райцэнтра, мы пераехалі ў горад Топкі Кемераўскай

вобласці, дзе бацька ўладкаваўся на працу на Заходне-Сібірскай чыгунцы. Гэта давала магчымасць нам адзін раз на год бясплатна праехаць на цягніку ў любы куток Савецкага Саюза, што мы і скарысталі. Самае яркае ўражанне ад тых паездак, калі цягнік, праязджаючы Уральскія горы, ныраў у тунэль у Азіі, а вынырваў з яго ў Еўропе.

У Сібіры я пайшоў у першы клас. Зімою стаялі такія маразы, што мама захутвала мяне ў сваю пуховую хустку і адводзіла ў школу. Жылі мы на ўскраіне горада, трымалі ў гаспадарцы коз, таму я рос на казіным малацэ.

Калі закончыў два класы Топкінскай чыгуначнай сярэдняй школы № 216, сям'я вырашыла вярнуцца ў Беларусь, бо ў Зэльве ў гэты час быў адноўлены раённы цэнтр. Адміністрацыя школы ўручыла бацькам пісьмовую «Падзяку» за добрую вучобу і прыкладныя паводзіны іх сына.

Пасля вяртання ў Зэльву свайго жылля ў нас не было. Бацькі купілі хату ў вёсцы Бярэжкі, што раскінулася на беразе Зальвянкі, ля сасновага бору, праз які я хадзіў тры кіламетры ў Зэльвенскую сярэднюю школу. Вельмі любіў паблукаць віхлястымі ляснымі сцяжынкамі альбо пасядзець з вудаю на ўтравелым беразе ракі. І калі разам з грыбамі і ягадамі прыносіў дадому вершы, то замест рыбы на мой кручок часцей трапляліся метафары і вобразы.

Беларуская мова спачатку давалася цяжкавата, бо ў Сібіры давялося вучыцца толькі па-руску. Але, дзякуючы беларускамоўнаму асяроддзю і старанням настаўнікаў, вельмі хутка адчуў сябе беларусам. Шмат чытаў кніг і перыядычных выданняў.

У сёмым класе адбыўся мой паэтычны дэбют у зэльвенскай раённай газеце «Праца». Потым стаў юнкорам газеты «Піянер Беларусі», часопіса «Бярозка», радыёклуба «Жывое слова», дзе выступаў з вершамі, заметкамі, замалёўкамі, удзельнічаў і перамагаў у розных конкурсах. Як рэліквіі, захоўваю з той пары граматы і кнігі з аўтографамі беларускіх пісьменнікаў.

А юнацкія крылы ўздымалі ўсё вышэй. У школьныя гады друкаваўся ў «Чырвонай змене», «Знамени юности», «Маладосці», «Літаратуры і мастацтве». Мяне запрашалі на Рэспубліканскую нараду кіраўнікоў літаратурных аб'яднанняў у Мінску, двойчы ўдзельнічаў у рабоце Рэспубліканскіх нарадаў маладых пісьменнікаў у Каралішчавічах.

Першыя песні на мае вершы прагучалі ў школе, дзе быў свой вакальна-інструментальны ансамбль. І нават большая частка першай кнігі паэзіі «Пад спеў крыніц» была напісана да заканчэння школы. Асноўнымі маімі літкансультантамі ў гэты час былі паэты-землякі Ларыса Геніюш, Юрка Голуб, пісьменнік Уладзімір Юрэвіч, якім я бязмежна ўдзячны.

У перыяд вучобы на філалагічным факультэце БДУ быў удзельнікам літаратурнага аб'яднання «Узлёт», якім кіраваў прафесар Алег Лойка. Тут мы ўдасканальвалі свае веды па тэорыі літаратуры, шліфавалі ўласную практыку. Глыбокаму асэнсаванню нашай творчасці дапамагаў і літаратурна-крытычны гурток Вячаслава Рагойшы.

Два гады армейскай службы прайшлі ў Прыбалтыцы: у Латвіі і ў Калінінградзе. Пасля выхаду першай кнігі «Пад спеў крыніц» мяне прынялі ў Саюз пісьменнікаў СССР. Гэта акрыліла. У далейшым выдаў дзесяць кніг паэзіі для дарослых і для дзяцей. Дарэчы, дзіцячая літаратура займае значнае месца ў маёй біяграфіі, як і песенная творчасць таксама.

Што датычыцца песень, то гэта вялікая асалода: адчуваць гармонію слова і музыкі. Я ўдзячны лёсу, што да маіх вершаў звярталіся такія мэтры песеннага жанру, як Эдуард Ханок і Леанід Захлеўны, Валерый Іваноў і Эдуард Зарыцкі, Уладзімір Буднік і Мікалай Сацура, Ядвіга Паплаўская і Алег Елісеенкаў, Зміцер Яўтуховіч і Дзмітрый Даўгалёў... А выканаўцы песень – ад пачынаючых да народных артыстаў. Радуе і той факт, што «Дачнікаў» і «Вечарынку» падхапіў народ. А некаторыя песні гучалі на міжнародных фестывалях у Віцебску, Вільнюсе, Беластоку і нават прыносілі перамогу беларускім спевакам.

Вельмі люблю пісаць для дзяцей, бо яны – самыя шчырыя і ўдзячныя чытачы. У гэтым пераканаўся не раз, працуючы ў выдавецтвах «Юнацтва» і «Мастацкая літаратура», у часопісе «Вясёлка», выступаючы ў дзіцячых садках, школах, бібліятэках...

Усё гэта прыгадаў нядаўна, едучы ў родныя мясціны на прэзентацыю сваёй новай кнігі. Рэйсавы аўтобус «Мінск – Гродна», мінаючы вёску Бярэжкі, праімчаў каля сосен і бяроз, якія я падлеткам садзіў ля шашы разам з бацькам. З той пары праляцела шмат гадоў. Няма ўжо на свеце маіх бацькоў. І толькі сосны і бярозы з далёкага маленства прыветна ківаюць галінамі, абуджаючы памяць.

*Ліпень 2008 года*



***Макарэвіч***
***Васіль Сцяпанавіч***

## ДАРОГАЙ ВЕКУ

Варта на імгненне азірнуцца назад, як у памяці, нібы ў калейдаскопе, замільгаюць прывідныя абрыўкі і лахманы даўніх падзей і здарэнняў, пачнуць прыпамінацца асобныя выпадкі з дзяцінства і юнацтва, згадвацца эпізоды са сталых гадоў ды складвацца ў адпаведную карціну. Паглядзіш на яе, даволі аб'ёмную і разнастайную, дзе ўмясцілася каля сямі дзесяткаў, як сказаў адзін паэт, «спакаваных зім» жыцця, не надта стройна скроеных і сшытых суровай ніткай шаўцом-самавучкай дадзенага табе лёсу, і не можаш не сцепануць плячыма – якая ж пярэстая і хуцаватая  яна выйшла і атрымалася! Пачнеш перабіраць жыццёвыя драбніцы і драбнічкі (Божа, як іх многа!), хоць яны былі даўным-даўно, і на першы план выплыве родная вёска Купленка, дзе нарадзіўся і вырас, што лепіцца на пагорку, наводдаль ад рачулкі Мясрэды, цераз якую перакінуты вузенькі, як праехаць з калясьмі, масток, засланы сасновымі кругглякамі і плашкамі (вясной іх нярэдка зносіла паводка, а ў вайну

спальвалі партызаны, хаця летам у рацэ вады было па забарсні нават курам); процілеглы ад вёскі бераг густа зарос лазняком, вербамі, алешнікам і рознай іншай непатрэбшчынай. За ракой ішла дарога, над ёй навісала гара, засланая пластамі пяску, дзе не хацела расці нішто, ні жыта, ні авёс. А на гары ляжала тлустая і ўрадлівая лагчына чарназёму, на якой буялі і шалелі ўлетку ячмяні, рыліся і, здавалася, рохкалі клубні бульбы і настолькі напіралі знутры, што трэскаліся гронкі. Далей ішоў лес, стройныя выносістыя сосны гаманілі з небам, дол усцілалі густыя верасы. Пасля летніх грыбных дажджоў над ім вісела густая і душная пара, баравікі, махавікі, свінухі і розная іншая драбяза свідравалі і прабівалі галовамі дол, засланы шыгаллём, вылазілі наверх, і з раніцы лес поўніўся людскімі галасамі і воклічамі, а ў поўдзень грыбнікі, сагнуўшыся пад карзінамі і кашамі, неслі лясны набытак дамоў. На выгане дыміла грыбаварня, у катлах грыбавар варыў сыраежкі, свінухі ды лісічкі. Што да баравікоў і махавікоў, іх сушылі на чарэні печы, хаты поўніліся смачным грыбным пахам і водарам, ад якога часам кружылася галава.

З процілеглага боку вёскі рассцілалася калгаснае поле, дзе сеялі жыта, лён і грэчку. Тут меліся і лагі, яны кожнае лета зарасталі сіўцом, калянай і надта шорсткай травой. Каб укасіць сіўцу, трэба было добра-такі паднатужыцца і ў дадатак мець вострую і ўмела адкляпаную касу. Касілі сівец звычайна для сваіх кароў, лугавое сена ішло для калгаснага статка. Там, дзе ішла дарога, ляжалі глыбокія каляіны, па іх, відно, нашы ездзілі дзяды і прадзеды, а можа, і больш далёкія пращчуры. Калі гружоная снапамі ці сенам падвода трапляла коламі ў гэтыя каляіны, з іх нельга было ўжо звярнуць у бок. Такім чынам вазы і падводы яны вялі аж да самай вёскі. За лагамі ішоў лес, дзе меліся букавіны, даволі глыбокія ўпадзіны, залітыя з вясны талай вадой, якія ўлетку падсыхалі, але не поўнасцю. Каля іх, заглушаных густой дзікарослай травой і розным бадыллем, днём пасвіліся каровы, а вечарам сюды прыводзілі на начлег коней. Удзень над галавой цвіркала, спявала несціханае птаства, ноччу крумкалі і стагналі жабы, крычалі вірлавокія совы і пугачы, палохаючы начлежнікаў і ўсё жывое, што мелася навокал. Туманы паўзлі і падпаўзалі да самай вёскі, заплывалі ў двары ды страхавіта прыўзнімаліся ўверх, каб зазірнуць у вакно і пабачыць, што робіцца ў сялянскай хаце.

Па адзін канец вёскі вуліца выходзіла на дарогу, што ныряла ў стагадовы сасновы лес і, рассоўваючы яго на бакі, бегла да мястэчка, дзе былі крамы, сталовая, розныя нарыхтоўчыя ларкі, школа, сельсавет і калгасная кантора. Местачкоўцы ганарылася сваёй культурай, тут мелася свая так званая інтэлегенцыя: педагогі,

старшыня сельсавета і старшыня калгаса, канторшчыкі і прадаўцы магазінаў, за імі ішлі, цягнуліся брыгадзіры, рахункаводы і нават шорнікі. Яны больш дбайна апраналіся і стараліся размаўляць па-гарадскому, вымаўляючы тутэйшыя архаізмы з чужым акцэнтам, і траплялі часам у надта камічнае становішча. З мястэчка дарога вяла ў раён, які здаваўся для многіх  вялікім горадам – якніяк там знаходзіліся высокія раённыя ўлады, адкуль прыходзілі важныя дзяржаўныя распараджэнні і куды можна было паскардзіцца на асобных калгасных кіраўнікоў і іх самаўпраўства.

Другі канец вуліцы ледзь не ўпіраўся ў вялізную гару, густа зарослую маладняком-сасоннікам, на якую лезла, караскалася, выгінаючыся дугой, дарога. Недзе на макаўцы яе слаўся лазняк уперамешку з алешынамі і бярозамі. Збегшы ўніз, дарога шыбавала, круцілася ды выкручвалася ў бок Гібайлавіч. Пасля вайны ў вёску завітаў з раённа высокі кіраўнік, пачуў назву і скрывіўся, як ад зубнога болю. У думках памянуў нядобрым слова былых гора-кіраўнікоў, якія, маўляў, нават добрага наймення для вёскі не маглі прыдумаць, не тое што павесці людзей у светлае заўтра! Гэта не спадабалася. Яму падалося, што сваім гучаннем яно гаварыла пра гарапашнае мінулае і ні ў якім разе не адпавядала аптымізму кіраўніка раёна, хаця, па сведчанні старажылаў, назва гэта пайшла ад слова агібаць, бо вёска славілася майстрамі гнуць дугі. Высокаму начальніку ці то не было часу, ці зусім не хацелася ўнікаць у сутнасць тапанімікі, і па яго ініцыятыве і прапанове вёсцы далі сучаснае найменне – Знаменка. Але ад перайменавання жыццё ў ёй нікольні не змянілася, ішло і кацілася ранейшай каляінай.

Вось тут, у гэтай лясной і непралазнай глушы, дзе сыходзяцца тры раёны: Крупскі, Бярэзінскі і Круглянскі, – упершыню пабачыў я неба, пачуў птушыныя галасы і перазвон вясенніх ручаёў. Помніцца, як бацька, лесаруб-стаханавец, прыносіў пасля добрай палучкі смакотныя цукеркі і дзівосныя цацкі, браў на рукі і падкідваў у хаце пад самую столь. Зазіраў і дзед Нупрэй, якому было недзе за восемдзесят, але быў ён яшчэ лёгкі на нагу, з дубальтоўкай за плячамі з ранку да ночы прападаў у лесе, пільнаваў яго ад парубшчыкаў ды іншых зламыснікаў. А калі знаходзіў свежы пень, ад яго не мог схавацца і ліхадзей парубшчык. Дзед быў прамыслы чалавек і мог разблытаць любы вузел, завязаны нават самім чортам. Ён адшукваў след ад калёс, па ім, я па нітцы, ішоў у любую вёску, калі да яе па лесе было і пятнаццаць вёрст, а там ужо кіраваў прама ў двор хітруна-гаспадара і звальваўся як снег на галаву. Дзед Нупрэй сядаў на завалінку, даставаў кісет і закурваў, гаспадар сядаў побач і дагодліва зазіраў яму ў вочы, маўляў, ты ж не так прыйшоў у двор, нешта ж

прывяло цябе? Дзед нейкі час моўчкі смактаў піпку, а потым казаў: «Ну не хітры, Кузьма, прызнавайся, што ты спілаваў ў маім абходзе хвойку?» – «Ды што ты, Нупрэйка, каб я так жыў на свеце, во магу пабажыцца, што не браў тваёй хвойкі, нават і ў вочы не бачыў.» – «Што ў цябе за круглякі каля хлява ляжаць?» – «А, братачка, дык гэта ж круглякі з мінулага года. Паглядзі, вунь і зрэзы пацямнелі ад часу.» – «Хітрун ты, Кузьма. Бачу, пашараваў іх зямлёй, вось яны і пацямнелі. А зараз я дакажу табе, што ўчора ты прывёз хвойку з майго абходу». Дзед дастаў з кішэні вывернуты са ствала хвойкі сучок, ішоў да бёрнаў і, знайшоўшы бярно, прыкладваў яго да таго месца, у якім сядзеў. Кузьма нейкі час стаяў разгублены і з такой мінай на твары, нібы праглынуў аршын, а потым зрываўся з месца, тупацеў нагамі і крычаў жонцы, якая стаяла на ганку, выцірала аб фартук рукі і чакала, чым усё гэта скончыцца: «Ганна, чаго стаіш рот разінуўшы ды варон ловячы! Хіба не бачыш, што дзед Нупрэй прыйшоў? Лезь на гарышча па сала ды яечню пячы такую, як на восем чалавек! Трэба ж пачаставаць чалавека. Во ўжо паўдня, а ў яго можа і расінкі яшчэ ў роце не было». Ганна як усё роўна толькі і чакала загаду і з усіх ног кідалася ў хату, і праз якую мінуту-другую чулася патрэскванне скварак і духмяны пах плыў на падворак, прыемна казытаў ноздры. А яшчэ праз які час, памыўшы рукі і прычасаўшыся перад аскялепкам ад люстэрка, дзед Нупрэй і Кузьма сядзелі за сталом. Адторкнуўшы знарок прыхаваную для вось такіх нечаканых выпадкаў пляшку, гаспадар наліваў чаркі і, ускінуўшы вочы на абраз: «Дай Бог, каб не апошнюю», – куляў, як закідваў за каўнер. Тое самае рабіў і дзед Нупрэй. Ён не меў прывычкі лаяцца, абыходзіўся гаворкай і ўшчуваннем, чаму гаспадар не прыйшоў да яго са сваёй патрэбай загадзя, ён паказаў бы сасну, якая аджыла сваё і яе можна было зваліць. Дзед Нупрэй ведаў меру чарцы і колькі часу трэба было пасядзець за сталом, каб не надакучыць гаспадарам. Таму ляснік і парубшчык расставаліся, як родныя браты. Дзед Нупрэй не любіў і не хацеў апастыляцца з людзьмі, лічыў за лепшае жыць з імі ў дружбе і згодзе.

Па-бацькоўску адносіўся ён і да сваёй нявесткі, нашай маці, і, вядома, да сына. Гэта пры яго клопаце за месяц-другі вясковыя дзецюкі спілавалі і прывезлі ў вёску адборныя бёрны, з якіх цесляры ўмомант адгрукалі зруб, да яго прыляпілі трохсцен, і выйшла выдатная, як казалі, хата-пяцісценка. У дзедавай хаце, якая стаяла глухой сцяной да вуліцы, часта збіраліся леснікі і аб’ездчыкі. На стале з’яўлялася красуня-чакушка, чарачкі-жалуды, і бяседа ішла да самага вечара з перапынкам для паядынку, хто больш удала страляе са свае дубальтоўкі. Леснікі ішлі за дзедаў двор, дзе была ўдзірванелая аб-

лога, па чарзе падкідвалі ўгору шапку-аблавушку, а стралкі па чарзе бабахалі з дубальтовак, стараючыся папасці і збіць. Можа, картуз надта імкліва ўзлятаў ўгору, бо ніхто з леснікоў не хацеў, каб ад яго шапкі засталіся адны мэтлахі, а таму многія білі міма мішэні. Дзед Нупрэй моўчкі стаяў збоку і назіраў за паядынкам. А калі даходзіла чарга, ён браў у рукі свой «вінчэсцер» і казаў: «Дайце, сынкі, і мне паспрабаваць пальнуць!» Чыясьці шапка птушкай узлятала ўгору, грымеў выстрал, і ад яе ў бакі ляцелі адны толькі матузы ды ашмёткі. «Бач ты, – круціў дзед галавой і дзівіўся са свайго трапнага выстрала, – яшчэ не крыўлю баразны!» Мужчыны вярталіся ў хату, давалі рады чакушцы, якой хапала, каб ўсе былі на падпітку, вясёлыя і шчаслівыя, як заўсёды, больш ад гамонкі і сустрэчы, чым ад выпітага. Гаварылі пра свае абходы і лес, тады-сяды пра вайну і рознае ліха, якое падпільноўвае людзей ды здзекуецца з іх. Трывога і неспакой чуліся ў іх галасах.

А на другі дзень пасля адной з такіх бясед леснікоў у чыстым летнім небе з’явіліся самалёты, і крыжасты пачаў ганяцца за ясназорым ястрабком. Ястрабок бездапаможна кідаўся ў бакі, ратаваўся ад крыжастага ругана, які паляваў за ім, паводзіў сябе самаўпэўнена і нахабна, мерачыся растрыбушыць яго на нашых вачах. У нас, хлапчукоў, якія назіралі за гэтым няроўным паядынкам, шчымелі, заходзіліся ад болю сэрцы. Нам хацелася, каб ястрабок не толькі ацалеў, але і выйшаў пераможцам, ва ўсякім разе неяк бы змог перахітрыць крыжастага сцярвятніка. Можа, лётчык адчуў наша жаданне і перажыванне, ястрабок нечакана ўзвіўся ў неба, перакуліўся цераз галаву і, як лыжнік з гары, слізгануў уніз і знік за небакраем. А мы адчулі палёгку і адначасова гаркоту на душы, ніякавата адводзілі адзін ад аднаго вочы, нібы мы былі вінаваты, што чужы самалёт узяў верх над нашым, хаця ён і застаўся цэлым. А праз нейкі не надта доўгі час за ракой і за лесам, прыкладна кіламетры за два ад нашай вёскі, загуло, застагнала і загрымела. Там, па шляху, адступалі нашы войскі. Білі з гармат і з мінамётаў, нямецкія бамбавозы раўлі над самымі верхавінамі дрэў, скідвалі на шлях бомбы, рэзалі яго кулямётнымі чэргамі. Як пасля стала вядома, адступала знакамітая сотая дывізія, якой камандаваў генерал Русіянаў, што потым праславіцца ў баях. Адыход байцоў прыкрываў невялічкі, але шустры і хуткі браневічок. Як чаўнок, ён снаваў туды-сюды па шляху, стрымліваў прасоўванне наперад нямецкай пяхоты і не даваў варожым гарматчыкам весці па ім прыцэльны агонь. Немцы пайшлі на хітрасць, вузкай калёснай дарогай, якая давала круга, падкацілі гармату да шляху, зрыхтаваліся і, калі браневічок, не ведаючы нічога пра небяспеку, параўняўся з тым месцам, дзе яна стаяла, грымнуў

выстрал, і браневічок абняло полымя. Танкісты нейкім цудам вырваліся з яго чэрава, адпаўзлі ў лес, але іх дагналі аўтаматчыкі і, абгарэлых і бездапаможных, бязлітасна расстралялі ва ўпор. Пасля вайны следапыты даведаліся пра подзвіг герояў-танкістаў, у ваенных архівах былі знойдзены іх імёны і камандзір браневічка быў пасмяротна ўзнагароджаны Залатой Зоркай.

Пасля адступлення нашых войск на шляху засталося шмат кінутай зброі: вінтовак, кулямётаў, наганаў, а таксама патронаў, гранат і іншага ваеннага начыння. Дзед Нупрэй кінуўся на шлях, пачаў збіраць гэта багацце і хаваць у патайныя мясціны, якія ён ведаў раней. Такім чынам, у яго меўся цэлы арсенал зброі, якую ён потым, калі ў лясах аб’явіліся першыя партызаны, перадаваў ім. Не ўтрымаўся дзед Нупрэй ад спакусы мець зброю і ў сябе пад рукамі. Ён прынёс і схаваў пад масніцамі ў лазні скрынкі з патронамі, а ў пуні засунуў пад сена больш за дзесятак баявых вінтовак. І сталася так, што восенню сорак другога ў вёску ўпаўзло доўгае вужышча падвод, ехаў карны атрад па вынішчэнні партызан і тых, хто ім памагаў ці спачуваў. Пад напорам дужых дзецюкоў, якіх немцы ўзялі падводчыкамі ў Выдрыцы, на дол абрынуўся замёт з дзябёлых круглякоў, што стаяў паміж вугламі дзедавай хаты і нашай. І ў двор пасунуліся фурманкі. Маці нашай не было дома, яшчэ раніцай яна падалася ў раён. Нешта месяцы два таму немцы забралі і пагналі статак кароў, паабяцаўшы на замену ім прывезці з Германні больш удойных і рахманых бельгійскіх рагуль. Міналі тыдні, пра абяцаных кароў не было і почуту, і маці пабегла ў проведы, калі нарэшце ёй вернуць хоць якую карову, бо малым дзецям вунь як трэба малако. Мы, хлапчукі, засталіся ў хаце адны пад прыглядам бабкі. Нямецкі афіцэр, як толькі пераступіў парог, уталопіўся ў мяне, малога карапуза, потым схапіў на рукі і пачаў цалаваць, выгукваючы незразумелыя словы. Бабка спалохана пазірала на цыбатага немца і не ведала, што рабіць: выхапіць мяне з яго рук ці чакаць, чым скончыцца гэта мітрэнга. На шчасце, зайшоў перакладчык і растлумачыў, што я вельмі падобны да сына пана афіцэра, які застаўся недзе далёка ў фатэрляндзе. Пан афіцэр, падкідваючы мяне пад столь, ледзь не ўраніў долу, і бабцы хапіла вытрымкі, каб не накінуцца на жалосніка з качаргой. Неўзабаве ў маіх руках апынуліся цукеркі і нейкія цацкі, з якімі мы пачалі забаўляцца са старэйшым братам. Тое маё падабенства на хлапчука з фатэрлянда, магчыма, выратавала нас ад гібелі. Справа ў тым, што, пераначаваўшы ў вёсцы, на другі дзень раніцай, выпраўляючыся ў дарогу, карнікі загадалі падводчыкам выграбсці з пуні дзеда Нупрэя сена і заслаць ім драбіну, каб мякка было ехаць. Беручы яго ахапкамі, падводчыкі

апаролі пад нізам дванаццаць баявых вінтовак. Яны кінуліся дакладваць начальству. Дзеда Нупрэя схапілі карнікі, вадзілі па двары і па розных закутках, зазіралі ў завуголле. Свісталі шомпалы, рэзалі дзедаву спіну: немцы хацелі дазнацца, у якім яшчэ месцы дзед хавае зброю і для якога партызанскага атрада ён збіраў яе і прыпасаў. Дзед Нупрэй маўчаў, не прараніў ні слова. Апоўдні дзеда і яго сямейнікаў карнікі пад канвоем павялі з двара. Мне стала крыўдна, што яны выправіліся кудысьці адны, не ўзяўшы мяне, я дагнаў іх і ўчапіўся ў спадніцу бабулі. Цётка Хадосця, якая несла на руках дваіх дзяцей, гукнула канваіру, што я не з іх сям'і. Але мне не хацелася заставацца аднаму і трымаўся, бы клешч, за бабулю. Невядома адкуль з'явіўся і пан афіцэр, на сына якога я быў падобны. Ён зрабіў нейкі знак канваіру, і карнік, раўнуўшы «Авэк!», падчапіў штыком і, як мешкавіну, кінуў мяне пад плот. Здаецца, галавой я выцяўся аб жардзіну, бо, калі ачуняў, на выгане ўжо чулася «та-та-та», немцы расстрэльвалі дзеда Нупрэя, бабку, цётку Хадосцю з двума немаўлятамі. У той жудасны дзень у яму паклалі Ляксеіху і пяцёра яе дзетак (нехта данёс карнікам, што яе муж Ляксей Макарэвіч знаходзіўся ў партызанскім атрадзе) і сорак восем мірных жыхароў. Стараючыся выслужыцца перад сваімі новымі гаспадарамі, надта завіхаліся тутэйшыя бобікі, якія агіналіся ва Ухвальскім гарнізоне і былі родам з суседніх вёсак Пышачы і Гумнаў. Відаць, асаблівай узнагароды і пахвалы дамагаўся нелюдзь Рыскі, бацькі якога, мяркуючы па прозвішчы, выхадцы з Рыгі, неяк прыбіліся і атабарыліся ў Пышачах. Яшчэ да вайны гэты Рыскі з бацькам ноччу кралі ў лесе хвойкі і везлі дамоў. Дзед Нупрэй, які быў лесніком, кожны раз знаходзіў крадзеныя бёрны, і злодзеі-парубшчыкі плацілі штраф. Ах як адпомсціў дзеду Нупрэю паліцай Рыскі. Насмактаўшыся сівухі і закасаўшы рукі па локці, якія сапраўды былі ў крыві, махаў і махаў доўбняй, арудаваў ёю, клаў людзей, якіх выгналі пад канвоем з гумна, што стаяла непадалёку. Пасля ўсяго нябожчыкаў збольшага прысыпалі зверху пяском. Ноччу магіла хадзіла хадуном, пад зямлёй, пэўна, варушыліся напаўжывыя людзі. Жанчыны і дзяды, якія выпадкова ацалелі, не адважыліся іх адкапаць, немцы прыгразілі расстрэлам. Толькі праз тыдзень нябожчыкаў перавезлі на могілкі. На іх знайшоў апошні прыстанак і дзед Нупрэй з усёй расстралянай сям'ёй. Пахавала іх наша маці неглыбока, не хапіла сілы капаць зямлю. Пазней, калі мы на Радаўніцу прыходзілі на могілкі, яна рукой выграбала пад грудком пясок і казала: «Во я трымаю рукой Хадосцін валёнак. Я ж яе ў валёнках пахавала. У тых самых, у якіх дастала з ямы, на выгане». Маці глядзела на нас нейкімі па-свойму загадкавымі вачамі, і мне з братамі чамусьці рабілася надта жудасна.

Перад адступленнем немцы і іх памагатыя бабахнулі з гарнізоннай гарматы ў бок Купленкі, два снарады слізганулі над дахам нашай хаты і, перакуліўшыся цераз гароды, выбухнулі на тваністым беразе Мясрэды і развярнулі глыбокія яміны. Наша бабка, якая была на двары, бажылася і клялася, што на свае вочы бачыла, як снарады прайшлі пад дахам хаты. І ён як быццам прыўзняўся над сценамі на паўметра, павісеў нейкі момант, а ўслед за гэтым апусціўся з крокамі на ранейшае месца. А на другі дзень над шляхам, па якім у сорак першым адступалі нашы, зноў стаяў грукат і перуновыя грымоты. Цяпер ужо чырваназорыя бамбардзіроўшчыкі ішлі ў піке, таўклі нямецкія калоны з крыжастымі танкамі, гаўбіцамі, штабнымі машынамі і жывой сілай ворага, што, як смяротна паранены звер, кідаўся ў розныя бакі, спрабаваў вырвацца з акружэння. А яшчэ праз дзень повар з зоркай на пілотцы чэрпаў вялізным салдацкім апалонікам з пузатага паходнага катла кашу і частаваў нас, малых падшыванцаў.

З вайны вярнуліся тры ці чатыры чалавекі, якія з войскам дайшлі да Германіі, іншыя неяк выграбліся з палону. Іх, дзякуй Богу, не зачапілі, не саслалі ў Сібір. Усе ад старога да малога радаваліся, што скончылася страхоцце і калатнеча. За ракой, у густым лазняку і алешніку, дыміў і пыхкаў парай самагонны апарат барадатага Пімена, з тоненькай трубачкі цурчэў у конаўку незвычайнай моцы чэмергес, поўніў насаткі і біклагі. Прыходзіў гаспадар гэтага хітрага прыстасавання і апрача платы, пляшкі самагонкі, прасіў дазволу зрабіць з біклагі адзін глыток. Паднімаў яе высока над сабой, і, задраўшы галаву ўгору, так ёмка прыкладваўся да наска, што вага біклагі меншала ўдвая. А вечарам кабеты, франтавікі і падлеткі збіраліся ў якой-небудзь хаце, на сталах уставалі пляшкі з пітвом, побач клаліся карчы цыбулі, хлеб і такая-сякая скаромніна. Шклянкі кулялі без аглядкі, неўзабаве абзываўся гармонік, і мы, дзятва, глядзелі, як старэйшыя выраблялі такія выкрутасы, ад якіх ажно рабілася цёмна ў вачах. У выхадныя гулянку пачыналі з самай раніцы. Глынуўшы як след, жанчыны з плачам і галашэннем, роспачнымі крыкамі, пагрозамі і лаянкай падаваліся да могілак. Там разыходзіліся ў бакі, кідаліся грудзямі на пясчаныя грудкі тых, каго расстралялі карнікі, галасілі, біліся, як у ліхаманцы, а потым, крыху ачомаўшыся ад самагону і прадраўшы вочы, пачыналі прыпамінаць, хто вінаваты ў іх горы і ў тым, што яны, жанчыны, засталіся ўдовамі? Вядома, дзед Нупрэй! Гэта ў яго пуні карнікі знайшлі вінтоўкі і з-за іх паклалі ў зямлю мужчын. А калі б не тыя злашчасныя вінтоўкі, мужчыны засталіся б жывыя. З распушчанымі валасамі, апухлымі, заплыўшымі ад гарэліцы тварамі і заплаканымі вачамі жанчыны паўзлі, грабліся да магілы дзеда Нупрэя, чапляліся рукамі за крыж, валілі яго на дол,

таптали нагамі. На другі дзень наша маці ішла на могілкі і ставіла апаганены крыж на ранейшае месца. У вёсцы баялася слова сказаць, папікнуць каго-небудзь за самадурства, маўляў, грэх здзеквацца з памяці нябожчыка. Гэта магло выклікаць ва ўдоў новы прыступ гневу і непатрэбную лаянку.

Вясной з мястэчка Ухвалы прыбег цыбаты Юргульскі, якога купленцы бачылі ў сплаўной канторы, дзе ён чымсьці, відно, займаўся і за нешта адказваў. Ён сабраў сярод вёскі нас, дзяцей і падлеткаў, і аб'явіў, што нам падваліла ўдача, пра якую, мабыць, і не снілі. На руме ляжыць у штабялях рудстойка, яе трэба скаціць і скінуць у раку Можу. За работу сплаўная гарантуе аплату грашамі і ў дадатак – яечны парашок, які прыходзіў з Амерыкі, ды іншыя прысмакі і далікатэсы. Хто мог адмовіцца ад такога выгаднага заробку? Назаўтра з раніцы гурт хлапчукоў і дзяўчат, якім было ад дзевяці да пятнаццаці гадоў, плітаваў на рум, які раскінуўся на высокім беразе ладнай ракі Можы. Рум быў застаўлены штабялямі рудстойкі. Двухмятровыя не надта тоўстыя сасновыя круглякі былі акораны, за зіму і вясну яны добра высахлі і выпетралі на сонцы і, жаўтлявыя, звонкія і лёгкія, як перыны, здаецца, прасвечваліся наскрозь. Штабялі стаялі над самым абрывам, варта было вывернуць калкі, якімі яны былі адгароджаны ад ракі, і злёгку крануць кругляк, як яны самі каціліся і сыпаліся з берагу, давалі нырца ў ваду і, вынырнуўшы, плылі ўніз па цячэнні. Мы з братам Толем таксама завіхаліся на руме, стараліся трымацца разам, каб пры любым нязручным выпадку прыйсці адзін аднаму на выручку.

З тымі штабялямі, якія стаялі каля ракі, наша талака ўправілася лёгка. А далей давялося паднатужыцца, узяць, што называецца, на пуп. Танклявая рудстойка не надта хацела каціцца па легарах. Круглякі трэба было браць на рукі і несці да ракі. Звычайна насілі па два чалавекі, а калі трапляліся тоўстыя і цяжкія, ля іх увіхаліся па трох і па чатырох хлапчукоў і дзяўчат. Напакуваліся з дзябёлымі бёрнамі, так званымі траякамі, па шэсць-сем метраў удоўжкі. Ляжалі яны наводдалек, каля самага лесу, у лагчынцы. Роўным і гладкім, якія можна было каціць, давалі рады без асаблівай напругі. А каля тых, што былі крывыя, нам даводзілася станавіцца адзін каля аднаго на ўсю даўжыню бярна і з крэктам валачы да ракі. Вечарам пасля такога высілку наша талака ледзь плялася да вёскі. Па начах мы з братам не маглі заснуць, балелі надарваныя жываты. Маці божкала, ледзь не плакала, што мы надта выжыльваемся, раіла асцерагацца, не браць цераз сілу. Але на руме не надта пахітруеш, кожны бачыць, як шчыруе сусед, трымаецца за бярно для прыліку ці нясе, высалапіўшы язык. Вялізныя штабялі лесу скацілі за тыдзень, і яны па Можы

і Бабры паплылі ў Бярэзіну, а там іх дарога ішла на Данбас. Якая была радасць, калі аднойчы маці прыйшла з мястэчка і прынесла наш з братам заробак. У канторы сплаўной яна атрымала па сем рублёў на кожнага з нас, некалькі банак з яечным парашком і яшчэ нейкімі прысмакамі, якіх я, здаецца, не спрабаваў апасля ніколі ў жыцці. Гордасць і радасць свяцілася ў нашых з братам вачах: як-ніяк мы былі для маці памочнікамі, не тое што малодшы брат, які ўмеў толькі ганяць дубцом вераб'ёў ды бегаць за катом, які, сігануўшы з-пад рук і апынуўшыся дзе-небудзь на плоце, жмурыўся, чамусьці аблізваўся і абыякава пазіраў на малога карапуза.

Вярнуўшыся з руму, мы, падлеткі, разам з жанчынамі ўпрагаліся ў пастронкі і цягнулі, аж раўлі, плуг, садзілі бульбу. Вазілі ў двор дровы, касілі калгасныя пожні, сушылі і стагавалі сена, звозілі спякотнымі летнімі днямі з поля снапы, зярэдзілі іх у азярод, а калі на гумне з'яўлялася малатарня, кідалі іх у барабан, складвалі ў сцірты салому, рабілі тое, што было пад сілу і не пад сілу. Што да вучобы ў школе, яна займала меншае месца ў параўнанні з асноўным нашым клопатам. Вучоба хутчэй за ўсё нагадавала нешта накшталт другараднага і прыкладнога занятку. Першы і другі класы я з равеснікамі закончыў у Купленцы. У трэці і чацверты хадзіў ў восеньскую халепу і дождж, а ўзімку марознымі і завейнымі днямі за тры кіламетры ў Гібайлавічы, несучы кніжкі ў палатняных торбачках. Недзе ў трэцім класе дзякуючы настаўніку Васілю Віктаравічу Трусу я адчуў прыгажосць, вабнасць мастацкага слова, чароўную сілу фантазіі. Ён набыў недзе часопіс «Бярозка» і гадзінамі чытаў на занятках прыгодніцкую аповесць Янкі Маўра «Амок», а мы слухалі, стараліся не прапусціць ніводнага слова. Божа, якія дзівосныя карціны малявaліся і паўставалі перад нашымі вачыма і ў нашым уяўленні! Цёмныя і густыя, як каламазь, трапічныя ночы, дзівоснае мора і цёплыя хвалі, што плёскаліся ў борт судна, цёмнаскурыя тубыльцы, якія паднялі зброю супраць белых прыгнятальнікаў! Душой і сэрцам мы былі з імі, гатовы ў любую мінуту дапамагчы, падзяліцца чым маглі, як дзяліліся з дзяржавай апошнімі капцамі бульбы, па якую прыязджалі на грузавіках і забіралі падчыстую, як і збожжа, што намалачвалі на схіле лета і з песнямі ды гармонікамі везлі на элеватар.

Мабыць, наслухаўшыся неверагодных прыгод, нам, хлапчукам, аднойчы сярод лета прыйшло ў галаву – стаць суворaўцамі. Параіўшыся паміж сабой, мы прыйшлі да высновы, што ва ўсіх нас меліся падставы, і – не абы якія! Мы ўсе, лічы, без выключэння былі сынамі бацькоў, якія загінулі пад час вайны ці расстраляны карнікамі. Назаўтра мы сабраліся ў рове, падалей ад вачэй нашых матуль і сваякоў, агледзелі і перабралі ў руках начынне і харч, з якім

выпраўляліся ў раён, і, прыйшоўшы да згоды, што неабходнае для дарогі ва ўсіх нас маецца, рушылі ў шлях. Да раёна сорак з добрым гакам мераных-перамераных нагамі нашых бацькоў і дзядоў вёрст. Да Крупак мы дайшлі, калі звярнула з паўдня. Мы ведалі, што з нашай просьбай трэба ісці ў райком камсамола і што будучым сувораўцам трэба быць смелымі і адважнымі, а таму гуртам уваліліся ў кабінет інструктара і, перабіваючы адзін аднаго, выклалі тое, што прывяло нас у раён. Ён выслухаў просьбу і нейкі час сядзеў, збіраўся, відаць, з думкамі, не ведаючы, што казаць і гаварыць. Гэта быў для яго, пэўна, першы выпадак, калі блізка ля тузіна вясковых хлапчукоў гарэлі жаданнем пайсці вучыцца ў суворaўскае вучылішча. Ён папрасіў нас пачакаць і выйшаў з кабінета, відаць, яму трэба было параіцца з больш высокім начальствам. Вярнуўся ён з таямнічым выразам на твары. Перш пахваліў нас за такі патрыятычны душэўны парыў стаць суворaўцамі, а ўслед за гэтым ахаладзіў, маўляў, набор у суворaўскае вучылішча пачынаецца восенню, таму давядзецца пачакаць. А цяпер маецца шчаслівая магчымасць паехаць у піянерскі лагер, што размясціўся ў Бабры, і адпачыць. Мы заслужылі гэтага адпачынку. Зараз туды ідзе аўтобус і падкіне нас да самага лагера. Згодны? Мы пераглянуліся паміж сабой і кіўнулі галовамі. А праз які час аўтобус імчаў па шашы ў бок Бабра, сядзелі мы прыціхлыя і крыху разгубленыя, настолькі імклівa і хутка адбываліся змены, што мы не паспявалі іх як след усвядоміць і асэнсаваць. Да Бабра было ўсяго восем кіламетраў, і мы не паспелі агледзіцца, як апынуліся ў піянерскім лагеры. Відаць, сюды ўжо пазванілі з райкома камсамола, нас адразу, без лішніх роспытаў павялі ў вялізны і прасторны будынак, паказалі ложкі, дзе будзем спаць, і сказалі, што неўзабаве падаспее вячэра і мы падмацуемся стравамі і тым смакоццем, што гатуюць тутэйшыя повары.

Сталовая сустрэла нас бразгатам лыжак, місак і падносаў, сотнямі галасоў. Дзеці мітусіліся, цягнуліся рукамі да талерак з макаронным супам, якія разносілі афіцыянткі, ставілі іх перад сабой і пачыналі арудаваць лыжкамі, сярбаць напоўніцу з такім смакам, нібы цэлы тыдзень у роце не было аніводнае мачыны. Ніхто не азіраўся па баках, не саромеўся папрасіць дабаўкі, паводзіў сябе як у сябе дома. Мы таксама не адставалі адзін ад аднаго. Каб хто толькі ведаў, якая гэта была для нас навіна і смакоцце – макаронны суп! Нам здавалася, што мы трапілі ў рай, нашы лыжкі адно толькі і ведалі, што снавалі ад рота да талеркі. А калі яны былі парожнія, мы, чамусьці хаваючы адзін ад аднаго вочы, пацягнуліся за дабаўкай, хаця нашы суседзі рабілі гэта проста, нават усчыналі паміж сабой штурханіну, каб быць першым. Як пасля высветлілася, былі яны ў піянерскім

лагеры не першы раз, прывыклі да тутэйшых парадкаў і паводзілі сябе раскавана і незалежна. Тут мы пазнаёміліся з Антонікам, які быў з Ухвалы, самым задзірыстым і неўгамонным свавольнікам і верхаводам-зачыншчыкам розных забаў і гульняў, вынаходніцтваў і выдумак. Мы, здаецца, забыліся на ўсё на свеце, нават на сваю вёску, хаця прайшоў толькі дзень, як мы пакінулі яе. Вось бы паглядзелі нашы аднагодкі, дзе мы знаходзімся, як бы яны пазайздросцілі нам! Мы адчувалі сябе на сёмым небе. Заснулі ў чыстых і мяккіх, на пружынах ложках. А назаўтра пасля снядання мы не паверылі вачам: па двары да нашага гурту кіравала маці нашага дружбака Ільі, як яе звалі ў вёсцы, Прэдзіха. Яна адразу ўзяла сына за руку, быццам баялася, што ён збяжыць, і як усё роўна з дакорам сказала: «Вось дзе яны раскашуюць, а пра тое, што ў сяле касьба, ім і не ў галаве. А нам, адным жанчынам, хоць парвіся! І ты, Пятрок, збірайся. Маці папрасіла, каб і цябе даставіла дамоў. А вы, астатнія, як хочаце! У кожнага ёсць свая маці». Прэдзіха пабыла ўжо ў дырэктара піянерскага лагера, аб усім дамовілася, і, трымаючы Ілью за руку, пакіравала да варот. За імі следам паплёўся Пятрок. А пасля абеду, параіўшыся паміж сабой, з лагера падаліся і яшчэ трое маіх сяброў. Я пераначаваў у белых простынях і на мяккай падушцы. Яны ўжо не здаліся мне казачнымі, як учора. У галаве стаяла адно: як там наша маці, як яна ўправіцца з сенакосам? Вядома, у яе надзейны памочнік Толя. Але што яна скажа, калі я вярнуся дахаты з гэтых курортаў? Пасля снядання я падаўся на бераг Бабра, прысеў пад алешынай, і такі сум агарнуў душу, хоць заплач. Хіба я мог раскашаваць, есці да адвалу, калі недзе мае аднагодкі і ўсе, каго я ведаў, шчыравалі на пожнях, слалі долу траву, а днём варушылі пракосы, сушылі сена, складвалі ў копы і, абліваючыся потам, насілі на жэрдках да адоння, складвалі ў стагі? Я закасаў вышэй кален штаны, спусціўся да рачной плыні і, ведаючы, што тут брод, ступіў у ваду, адчуўшы падэшвамі дробны жвір і мыты-перамыты пясок.

Можа, гэта было адразу пасля майго звароту з Бабра? А можа, крыху пазней ці раней? Але ж тое дзіўнае і незразумелае здарылася. Стаяў сонечны святлісты дзень, млява варушылася на бярозах лісце, лянотна рохкалі на вуліцы, закапаўшыся ў пясок, парсюкі, капашыліся куры, далёка над полем трымцела, тузалася зіхатлівае мроіва і цвіло жыта, адліваючы сінім кветам. Адчувалася сцішанасць і ўрачыстасць, якая бывае недзе на пераломе вясны і лета і нараджае ў душы задуменне і прадчуванне нечага незвычайнага і таямнічага. На небе, здаецца, не было ні хмурынкі. Ды нечакана долу пацягнуліся залацістыя ніткі дажджу, свецячыся і ззяючы на сонцы. Наш падворак акрыла святлістая сетка, сатканая з тонкіх празрыстых ні-

так, праз якую выразна бачылася суседняя хата з пашчапанымі і выпетрынымі на сонцы дошкамі даху і нейкім заравам, падобным на ззянне, і над ім незвычайнай прыгажосці дзявочае аблічча, агорнутае вясёлкавым німбам. У гэтай хаце жыла мая стрыечная сястра Каця з трыма такімі ж, як і сама, братамі-сіратамі. Яна хварэла на сухоты, пастаянна кашляла і апошнім часам не выходзіла на вуліцу. Не было чым лячыцца, і дзяўчына-красуня гасла на вачах. І цяпер нешта грознае і страхавітае было ва ўсім тым, што дзеялася ў наваколлі. Я не разумеў, што рабілася ў мяне ў душы. Здавалася, што перад маімі вачамі спала нейкая заслона, і невядомыя далечы падступілі настолькі блізка, што я мог разгледзець кожную драбніцу і макулінку. А ў душы, здавалася, узышла сяміколерная вясёлка і была падобна на тую, што стаяла за акном, над пожняй і ракой, асыпаючы долу дзівосныя самацветы. І адначасова ў душы з'явілася жаданне перадаць гэта дзіва прачулым, трапяткім і ўрачыстым словам. Колькі працягвалася гэта відовішча, усяго імгненне ці вечнасць, цяжка сказаць. А назаўтра здейснілася тое, што прадказвала неба: памерла стрыечная сястра Каця. А ў маёй душы праклюнулася неадольная прага і жаданне сказаць нешта ў рыфму. Праз нейкі час з'явілася і адчуванне сораму, боязь, каб хто-небудзь не даведаўся пра маю таямніцу, маё захапленне вершамі. Я запоем чытаў часопіс «Полымя», які прыносіў старэйшы брат Анатоль з Ухвалы, куды ён хадзіў у пяты клас і дзе мелася добрая школьная бібліятэка. Там ён браў і кнігі, любіў чытаць сам і адначасова прывучыў да чытання і мяне. Хаця для гэтага занятку не мелася вольнага часу. Калі гаварыць шчыра, то якое яно было, тагачаснае навучанне ў школе! Да Ухвалы, дзе знаходзілася сярэдняя школа, куды ўжо хадзіў і я, трэба было на сваіх дваіх адмерыць шэсць кіламетраў раніцай у адзін бок і гэтулькі пасля заняткаў назад. Восенню, нават не заходзячы ў хату, мы адразу праставалі на гарод, капалі бульбу, а вечарам саматугам тралявалі яе не менш як за паўтара кіламетра на калёсках дамоў, каб пасля перабраць, аддзяліўшы буйную ад драбязы, і шухнуць у ямку. Чытаць даводзілася пры святле смаркачкі ці, самае лепшае, лямпы-трохлінейкі. Пра хатнія заданні і гаварыць няма чаго! Падручнікі чыталі па дарозе ў школу. Адгорнеш патрэбную старонку і, гледзячы то ў кніжку, то сабе пад ногі, ідзеш лясной дарогай, пакуль не ўваходзіш у мястэчка. Дачытвалі хатняе заданне ужо седзячы ў класе, трымаючы падручнік пад партай і хуценька прабягаючы апошнія радкі. Настаўнікі бачылі, але не звярталі на гэта аніякай увагі. Яны разумелі, што іншага выйсця ў нас не было!

Недзе ў сёмым класе мы пісалі сачыненне, здаецца, пра Паўлінку ў аднайменным творы Янкі Купалы. Я ўбіўся ў добрую яго палову, як нечакана ў галаву цюкнула крамольная думка – напісаць

сачыненне вершам. Радкі і строфы кладаліся надзвычай лёгка і вынаходліва. Да канца ўрока я справіўся з вершаваным сачыненнем і адным з першых здаў яго настаўніцы. З хваляваннем чакаў наступнага ўрока па роднай літаратуры. Валянціна Адамаўна Юбко, ўвайшоўшы ў клас, паклала на стол сшыткі, узяла той, што ляжаў зверху, і пачала чытаць, а ўслед і хваліць маю вершаваную імправізацыю. Яна заслужыла выдатную адзнаку і пахвалу, і ў дадатак настаўніца параіла даслаць вершы ў рэдакцыю раённай газеты. Яна, канечне, не ведала, што я даўно і рэгулярна бамбардзіраваў лістамі рэдакцыю рэспубліканскай газеты «Піянер Беларусі» і не з меншай рэгулярнасцю атрымліваў адказы з парадай чытаць вершы беларускіх класікаў і вучыцца ў іх паэтычнаму майстэрству.

Летам басанож і ў нейкіх трантах я выправіўся ў Мінск, ледзь адшукаў рэдакцыю газеты «Піянер Беларусі», якая месцілася на той час у будынку ЦК камсамола рэспублікі па вуліцы Карла Маркса, і паклаў на стол літкансультанту П. Міклашэўскаму капу вершаў. Асабліва я спадзяваўся на невялічкую паэму, прысвечаную заўчаснаму адыходу з жыцця бацькі ўсіх народаў і карыфея усіх навук. На маю думку, радкі павінны былі не толькі зрабіць на субяседніка ўражанне, але і прывесці яго ў пэўнае замяшанне і нават ступар, настолькі, здавалася мне, яны былі дасканалымі і ў іх мелася даволі высокая канцэнтрацыя пачуцця болю і думкі ў сувязі з неверагоднай стратай. На маё здзіўленне, Міклашэўскі аднёсся да гэтай рэчы больш чым стрымана і сказаў, нібы чохнуў за каўнер конаўку халоднай вады, што такія творы аджылі сваё. А што тычыцца смерці правадыра, то пра яго наўрад ці варта пісаць, і ледзь не шэптам падзяліўся сакрэтам, што во-во выйдзе пастанова, у якой будзе дадзена нейкае важнае тлумачэнне. Таму мне не трэба забягаць наперад, лезці раней бацькі ў пекла. Пад канец ён параіў пабольш чытаць і паўтарыў чутае-перачутае – вучыцца ў Янкі Купалы і Якуба Коласа. Такім чынам я пачынаў набірацца творчага і жыццёвага вопыту.

Калі я вучыўся ў сёмым класе, у нашу школу прыслалі новую выкладчыцу роднай літаратуры – Алену Іванаўну Гарбатоўскую. Даведаўшыся, што я пішу вершы, яна сказала, што вучылася на адным факультэце з Нілам Гілевічам і дапаможа наладзіць з ім ліставанне, і з цягам часу ён пазнаёміцца з маімі вершамі і дасць ім кваліфікаваную ацэнку. Я адаслаў больш дзясятка самых лепшых сваіх твораў і з нецярпеннем чакаў адказу. Ледзь не кожны дзень перастрачаў сельскага паштальёна з надзеяй, што ён спыніцца і дастане са сваёй бяздоннай сумкі доўгачаканы канверт. Але паштальён моўчкі абмінаў мяне, нават не зірнуўшы ў мой бок. Я ўжо думаў, ці дайшлі мае вершы да паэта. Але аднойчы паштальён, якога звалі Іванам Адна-

вочкам, перагарадзіў мне дарогу і таямніча намякнуў, што з мяне «прычытаецца», гэта значыць, я павінен быў яго пачаставаць божай кропляй, да якой ён быў ахвотнік, і махнуў перад маім тварам сінім канвертам. Неяк атрымалася так, што я ў той жа момант злаўчыўся, выхапіў яго з рук паштальёна, ускочыў на веласіпед і – памінай як звалі, кінуўшы на хаду разгубленаму Аднавочку, што ў даўгу не застануся. Канверт быў даволі аб'ёмісты і тоўсты. З ім я залез на гарышча хаты, каб ніхто не ўбачыў і не даведаўся, пра што ў ім напісана, надарваў канверт, і мяне здзівілі складзеныя пяць ці шэсць ладных аркушоў паперы, якія былі без лінеек, але роўна запоўнены радкамі выразным каліграфічным почыркам. За якое імгненне я прабег вачамі напісанае і да сёння ўдзячны Нілу Сымонавічу за яго ліст, што нагадваў своеасаблівую ўдумлівую і разумную лекцыю пра паэзію. Ён патлумачыў мне, што паэзія – гэта перш-наперш думанне вобразамі, бачанне навакольнага свету ў праламленні праз сваё асабістае ўспрыманне і г. д. Мяне ўразілі прыведзеныя яркія прыклады з вершаў П. Панчанкі, А. Вялюгіна і іншых паэтаў. Трэба сказаць, што ён адкрыў мне вочы на сутнасць паэзіі, падказаў, каго з паэтаў трэба чытаць і ў каго вучыцца. Словам, ліст Н. Гілевіча стаўся для мяне тым архімедавым рычагом, які перавярнуў маё ўяўленне пра паэзію. Да ўсяго Алена Іванаўна атрымала ад універсітэцкіх сябровак томік вершаў С. Ясеніна і праз нейкі час я меў магчымасць наталіць смагу чарадзейнай магіяй паэтычнага заклёну і набытку гэтага ведуна і чараўніка слова. Мяне ашаламіла, як казаў А. Вялюгін, густое метафарычнае сіло яго вершаў, душэўная цеплыня і лірычная плынь, у якой тануў чытач, захлынаўся яе чысцінёй і перадсвітальнай ядранасцю.

Скончыўшы дзесяцігодку, мы, шэсць вясковых юнакоў, завербаваліся на лесараспрацоўкі ў Архангельскую вобласць. Ехалі па чыгунцы, плылі ноччу па Дзвіне, а на досвітку, калі сышлі з парахода і правялі астатак ночы ў нейкай звэдзганай вартоўні ці канторы, зямля плыла ў мяне пад нагамі і кружылася галава. Я зразумеў, што матроса з мяне не выйшла б. Пасля паўдня нас пасадзілі на тралёвачны трактар, і ён пайшоў куляцца з намі па ямах-калдоб'і, у якія магла праваліцца хата. Балота было не горшае, чым каля нашай вёскі, дзе ў вайну адседжваліся партызаны. Кіламетраў за пятнаццаць, дабраліся ў такую лясную глуш, дзе, як казалі, быў «закон – тайга, мядзведзь – начальнік». Там мы ўкалвалі ўсю восень, зіму і зачапілі яшчэ хвосцік вясны. Дамоў прывезлі па сотні рублёў і, самае галоўнае, кожны з нас меў у кішэні пашпарт, які дазваляў паехаць у горад і ўладкавацца на работу. Я заставаўся ў калгасе, рыхтаваўся паступіць у Беларускі дзяржаўны універсітэт, пісаў вершы і дасылаў ужо

ў рэдакцыі сталых газет. Адказы атрымліваў, напісаныя на адзін капыл, маўляў, маюцца неблагія радкі, пішыце, вучыцеся ў класікаў. Я ўважліва чытаў творы, якія друкаваліся на старонках нашых тоўстых часопісаў, і мне здалося, што мае радкі як быццам не горшыя за надрукаваныя. Набраўшыся смеласці, паслаў свае вершы ў часопіс «Маладосць». І неўзабаве з Крупскай раённай газеты пазваніў дзіцячы пісьменнік Іван Шуцько і наказаў, каб я неадкладна ехаў у Мінск, са мной хацелі пазнаёміцца супрацоўнікі «Маладосці». Маці ледзь не заламіла над галавой рукі: дапісаўся, трэба браць з сабой торбу сухароў! Што да мяне, то я быў настроены аптымістычна. Пасля я зразумеў, чаму так атрымалася. Менавіта на той час з Калымы і Сібіры вярталіся беларускія паэты і празаікі, якія яшчэ да вайны былі незаконна асуджаны і сасланы. А ў маіх вершах гаварылася пра тайгу, лесарубаў і снежныя паўночныя зімы. На думку Міколы Аўрамчыка і Пімена Панчанкі, радкі мае былі напісаны на даволі прыстойным літаратурна-мастацкім узроўні, і ім падалося, што я адзін з тых, хто вярнуўся з турэмнага зняволення і выгнання. Але як ні стараліся ўспомніць даваенных аўтараў, ніводнага з такім прозвішчам не маглі згадаць. Пасля майго наведвання рэдакцыі ўсе зразумелі, хто я і адкуль у мяне ўзяліся вершы пра Поўнач.

У сталіцы я пабываў вясной, летам на старонках часопіса «Маладосць» пабачыла свет мая падборка вершаў, а восенню вытрымаў уступныя экзамены, і мяне залічылі на аддзяленне журналістыкі ў Беларускі дзяржаўны універсітэт. На другі год, калі ішлі прыёмныя экзамены і я «хварэў» за брата, які паступаў на філалагічны факультэт, да мяне ва ўніверсітэцкім скверыку падышлі два абітурыенты. Завязалася гаворка, і мы пазнаёміліся. Гэта былі пачынаючыя паэты Анатоль Сербантовіч і Ізяслаў Катляроў. Яны сказалі, што пішуць вершы. У іх меўся працоўны стаж, здавалі яны уступныя экзамены на выдатна, і ўжо ў пачатку навучальнага года я сустрэў іх спачатку ў інтэрнаце на вуліцы Свярдлова, а потым і ў аўдыторыях на Чырвонаармейскай, дзе чыталіся лекцыі. З А. Сербантовічам у нас завязалася творчая дружба, якая працягвалася і пасля універсітэцкай вучобы, пакуль трагічна не абарвалася жыццё гэтага арыгінальнага чалавека і таленавітага, самабытнага паэта.

На пятым курсе ў якасці дыпломнай работы я прапанаваў нашай куратарцы, далёкай ад навукі, але надта практычнай жанчыне, тэарэтычны артыкул і пяць нарысаў, надрукаваных на старонках рэспубліканскай газеты «Чырвоная змена», яна зірнула на мяне, але з непадробным інтарэсам, як на вартага ўвагі калегу-дзялка, у якога можна таму-сяму павучыцца. Яе надта зацікавіла, як гэта мне «ўдалося надрукаваць нарысы ў такой паважанай і прэстыжнай газеце»?

Хацелася кінуць нешта калючае і дзёрзкае, але ў мяне хапіла вытрымкі выцягнуцца ў струнку, як мы рабілі на ваенных занятках, калі чулі каманду «смірна». Услед за гэтым па-блазенску акругліў вочы, многазначна зірнуў угору, усёй сваёй паставай паказваючы трапятанне і пачцівасць да таго, каго меў на ўвазе. Жанчына палагаднела, саладжава-елейная ўсмешка прабегла па яе твары, яна зрабіла нейкі рух плячыма, маўляў, яе не здзівіш гэтым, бо стрэляная птушка і ўсё разумее з першага намёку. Кіраўніком маёй дыпломнай быў рэдактар «Чырвонкі» Міхаіл Андрэевіч Суша, апанентам – рэдактар «Настаўніцкай газеты» Дастанка. Дыпломная заслужыла выдатнай ацэнкі. Разам з гэтым на руках я меў ужо афіцыйную паперу з просьбай да камісіі па размеркаванні студэнтаў накіраваць мяне на работу ў рэдакцыю «Чырвонай змены». Калі падышла мая чарга і я паклаў на стол перад інструктарам ЦК па ідэалагічнай рабоце рэдакцыйную паперу, аддрукаваную на афіцыйным бланку, куратарка замітусілася, зноў у сваёй манеры і такім тонам спытала, як гэта мне ўдалося атрымаць запрашэнне, нібы яго мне далі, самае меней, па блату. Інструктар са здзіўленнем глядзеў на жанчыну, не разумеў, чаму яна так хвалюецца і мітусіцца. Але яна хуценька знайшлася, успомніла, што на другім курсе ў мяне мелася камсамольскае спагнанне. Гэта быў ужо сур'ёзны агрэх у маёй універсітэцкай біяграфіі. Інструктар спытаў, ці ведае пра гэта спагнанне рэдактар «Чырвонкі»? Я сказаў, што, канечне, не ведае. Маўляў, я сам забыўся на яго, настолькі даўно была тая мітрэнга. Ён параіў пазваніць рэдактару  і давесці да яго ведама, з якім «хвастом»  бярэ мяне ў штат. Ах, як шчасліва заўсміхалася куратарка. Яна была ўпэўнена, што мне каюк! Выйшаўшы ў калідор, дзе вісеў тэлефонны апарат, я набраў патрэбны нумар і сказаў рэдактару пра становішча, у якім знаходзіўся. «Дык што ты хочаш?» – спытаў ён у мяне. «А тое, каб ведалі, што вы бераце ў рэдакцыю чалавека, які меў тры гады таму камсамольскае спагнанне», – адказаў я. «Ну добра, цяпер я ведаю. Ідзі і скажы пра гэта камісіі па размеркаванні!» – рэдактар паклаў трубку. Я вярнуўся ў аўдыторыю, інструктар запытальна зірнуў на мяне. Я сказаў, што даўняе спагнанне не зрабіла на рэдактара ніякага ўражання. «Што ж будзем рабіць?» – ускочыла са стула куратарка. «А нічога не будзем рабіць! Накіруем студэнта-выпускніка туды, адкуль прыйшло запрашэнне!» – сказаў, як адсек, інструктар.

Яму, відаць, надакучыла таўчы ваду ў ступе. Такім чынам, я быў накіраваны ў рэдакцыю газеты «Чырвоная змена» і залічаны ў штат рэдакцыйных супрацоўнікаў у якасці спецкарэспандэнта.

У першыя месяцы пачаліся для мяне гісторыі, якія нагадваюць дэтэктыўныя прыгоды і здарэнні. Рэдактар хацеў ажывіць газету цікавымі артыкуламі і матэрыяламі, зрабіць яе больш чытабельнай

і папулярнай. А на лаўца, як кажуць, і звер бяжыць. Мне таксама імпанавалі здарэнні і жыццёвыя калізіі, што былі напоўнены вострымі сутыкненнямі і нават канфліктамі, якія ўзнікалі ў камсамольскім асяроддзі. Менавіта з такімі фактамі сустрэўся я ў Светлагорску, дзе члены «Камсамольскага «Пражэктара» пасправаліся паміж сабой, і мастак, які адказваў за афармленне насценнай газеты, адмовіўся ўдзельнічаць у далейшым яе выпуску. Чым не матэрыял для «Чырвонкі»? Я напісаў артыкул пра канфлікт, які узнік паміж сакратаром гаркома камсамола і мастаком-пражэктарыстам. Спадабаўся ён і рэдактару. Але ён меў такую натуру, калі справа выходзіла добра, трэба было зрабіць яшчэ лепш. Яму хацелася знайсці нешта такое, каб артыкул кінуўся ў вочы, зачапіў за жывое, гарэў, свяціўся на старонках газеты, прыцягваў увагу чытачоў. Жаданне, безумоўна, пахвальнае. Але як яго ажыццявіць на справе? І яму прыйшла ў голаў думка даць падзагаловак «Гісторыя адной несумленнай кар'еры». Праўда, для прыліку ён спытаўся ў мяне, маўляў, ці згодны я з такім падзагалоўкам? У мяне на той час не было належнага вопыту газетчыка, і прапанову рэдактара я палічыў за мудрую падказку. Гэта нават нейкім чынам цешыла маё самалюбства, маўляў, сам рэдактар звярнуў увагу на артыкул і хоча як найлепш аформіць і падаць яго на старонках газеты. Хіба я мог прадбачыць, што гэты падзагаловак стане тым чырвоным касніком, які прывядзе ў гнеў сакратара Светлагорскага гаркома камсамола. Пасля званкоў ды скаргаў са Светлагорска і размовы з рэдактарам мяне выклікалі ў ЦК камсамола і інструктар сказаў, што артыкул яму падабаецца юнацкай задзірыстасцю і ўзнятымі ў ім пытаннямі пра маральнае аблічча камсамольскага кіраўніка. На вялікі жаль, добрае ўражанне псуе злашчасны падзагаловак, які абвінавачвае сакратара, што ён робіць несумленную кар'еру. А гаворка ідзе ўсяго пра адзін факт, калі паміж сабой пасправаліся два чалавекі: камсамольскі важак і радавы камсамолец. Безумоўна, сакратар гаркома вінаваты, што дазволіў разгарэцца спрэчцы, якая перарасла ў канфлікт. Але ж гэта не дае падставы абвінавачваць яго ў несумленнасці кар'еры. Я вымушаны быў прызнацца, што падзагаловак пастаўлены памылкова. Але інструктара больш за ўсё цікавіла тое, які ўсё-такі разумнік дадумаўся падкласці такую «бомбачку» пад цікавы і прынцыповы артыкул? Па тону гаворкі я бачыў, што ён здагадваўся: «бомбачка» – справа не маіх рук. Але для інструктара цікава было даведацца ад мяне, каму з кіраўнікоў рэдакцыі прыйшло ў голаў «завастрыць» артыкул падзагалоўкам з крымінальным намёкам і, па сутнасці, падвесці аўтара пад удар. Я разумеў усю адказнасць, якую бяру на сябе, але сказаў, што ва ўсім вінаваты аўтар артыкула. Інструктар, відавочна, не паверыў мне, і тым не менш за-

стаўся задаволены, што я не выгароджваў сябе, не валіў віну на кагосьці і за тое, што здарылася, гатоў быў несці поўную адказнасць. Не ведаю, што гаварыў, як выкручваўся рэдактар М. Суша, які сабаку з'еў у такіх справах, але мітрэнгу, як мне здаецца, пастараліся спусціць на тармазах. На гэты раз перуны з навальніцай прайшлі міма маёй галавы. У другі раз выйшла горш.

У рэдакцыю прыйшла паэтэса, якая пад вершамі падпісвалася псеўданімам Лясная, і пасля знаёмства з яе неблагімі радкамі яна расказала, што днямі была на вяселлі, якое, па сутнасці, стала фарсам. Жаніўся камсамольскі функцыянер, які займаў даволі высокую ступеньку ў камсамольскай іерархіі, і меў сур'ёзны намер злучыць свой лёс са звычайнай студэнткай з медыцынскага вучылішча. Сабралася радня як з боку жаніха, так і з боку нявесты. Прысутнічалі і высокія госці. Жаніх аж ззяў ад радасці і шчасця. Ды не ведаў, які сюрпрыз чакае яго, што за коніка выкіне яго нявеста, у якой, відаць, вецер хадзіў у галаве. Калі паднялі тост, выпілі па чарцы і застолле гукнула «Горка»! – нявеста раптам кінулася ў плач, крыкнула, што яна кахае іншага чалавека, а не гэтага, за якога хочуць выдаць замуж, падабрала пад сабой падвянечнае плацце і збегла з вяселля. Жаніх застаўся, як кажуць, з носам. Каго не зацікавіла б такая сітуацыя і такі жыццёвы матэрыял.

Праз дзень ці два артыкул быў гатовы і з'явіўся на старонках газеты. І зноў мяне чакала, мала сказаць, непрыемнасць. Пачыналася яна проста і будзённа. Туркнуў тэлефон, рэдактар кінуў у слухаўку: «Зайдзі», – і ў яго кабінеце я пабачыў цыбатага юнака, які аказаўся інструктарам ЦК камсамола. Аказалася, што гэта і ёсць нешчаслівы жаніх, ад якога збегла нявеста. Ён пачаў даводзіць, што ў артыкуле факты не адпавядаюць праўдзе, і патрабаваў ад газеты выступіць з абвяржэннем. Міхаіл Андрэевіч сядзеў успацелы і яршысты, відаць, нешчаслівы жаніх добра даняў яго сваімі довадамі. Ён зірнуў на мяне, маўляў, ґавары, твая чарга абараняцца! Я зірнуў на высокага госця і папрасіў назваць сваё прозвішча. Ён адрэкамендаваўся. І я спытаўся, на аснове чаго даваць абвяржэнне, калі ў артыкуле названа ўсяго толькі імя героя, а замест прозвішча стаіць імярэк. Такім чынам, у рэдакцыю можа прыйсці любы дзяцюк і прад'явіць прэтэнзіі, што артыкул напісаны пра яго і ён будзе патрабаваць абвяржэння. Не сказаць, каб гэта збянтэжыла дзецюка, але на нейкую долю секунды ён задумаўся, а потым зноў кінуўся даводзіць, што артыкул напісаны пра яго вяселле, але факты перакручаны, яго абылгалі і ён патрабуе прынесці прабачэнне на старонках газеты. Я прапанаваў рэдактару змясціць у газеце невялічкую заметку, што ў рэдакцыю звярнуўся інструктар ЦК камсамола і заявіў, што менавіта на яго

вяселлі нявеста збегла з застолля, але ўсё адбылося іначай, чым пададзена ў артыкуле. Рэдакцыя тлумачыць, што ў артыкуле быў выкарыстаны іншы выпадак, і паважаны супрацоўнік ЦК камсамола не мае да гэтага ніякага дачынення. Але тут ужо не пагадзіліся ні рэдактар, ні інструктар. Спрачацца далей не мела сэнсу, і нешчаслівы жаніх, пагражаючы і пераконваючы, што ён знойдзе ўправу на газету, пакінуў кабінет рэдактара.

Так склаліся абставіны, што тры месяцы я вымушаны быў знаходзіцца на Каўказе, а перад Новым годам адпрасіўся ў свайго начальства з'ездзіць да сям'і ў Мінск на кароткую пабыўку. Самалёт шчасліва прызямліўся ў сталічным аэрапорце, і я трапіў у перадсвяточны Мінск. У вольны час патэлефанаваў рэдактару Міхаілу Андрэевічу, і пасля кароткай гаворкі ён сказаў, што не дае спакою знаёмы наш інструктар, і калі я не супраць пагаварыць з ім, то варта б прызначыць сустрэчу. Я згадзіўся. Нічога новага ў яго довадах не было, ґаварыў ён пра неадпаведнасць фактаў і патрабаваў абвяржэння. Не прыйшоўшы да згоды, мы, здаецца, памяркоўна рассталіся з ім. Але мне гэта толькі здавалася. На справе выйшла інакш.

Вечарам мы сустрэліся з братам, які вучыўся ў БДУ на філалагічным факультэце, зайшлі у кафэ, што было на рагу Дома друку, якое журналісты называлі паміж сабой «тэлевізарам», за сталом убачылі знаёмых газетчыкаў, якія запрасілі да сябе. Заказалі сухога віна, выпілі за пераднавагоднюю сустрэчу, пагаварылі, пасмяяліся. Час быў ісці дахаты, і мы расталіся на ганку кафэ. Нам з братам трэба было ісці да прыпынку, і ледзь толькі мы параўняліся з вуглом дома, як твар у твар сустрэліся з паважаным інструктарам. Не паспеў я працягнуць яму руку, як ён накінуўся на мяне з мацюкамі і такой лаянкай, якой я не чуў на лесарасрацоўках сярод былых зэкаў. Як ён толькі не абражаў, як не здзекваўся з мяне. Брат не вытрымаў і гыркнуў, прыгразіў, што зараз зламае яму, як пеўню, шыю. Я, канечне, астудзіў брата, і, пакрывіўшы душой, сказаў, што інструктар – мой самы лепшы сябар, а што ён не знаходзіць добрых і памяркоўных слоў, віною таму, відаць, дрэннае надвор'е ці хатняя няскладзіца. Я разумеў, што абраза і мацюкі з яго боку былі правакацыяй. Камсамольскі работнік рабіў усё для таго, каб я кінуўся на яго з кулакамі. За ліпкамі, якія атульваюць праспект, стаялі два міліцэйскія «газікі». Трэба быць апошнім дзіваком ці ёлупнем, каб не здагадацца, што яны стаялі тут па загаду ці просьбе цэкоўскага фельдфебеля, які хацеў выклікаць мяне на бойку ці нейкі эксцэс абразай жывёльнага крою, каб тут жа на маіх руках зашчоўкнуліся кайданкі, з якіх наўрад ці ўдалося б вырвацца па дабру-здарову. Можна смела сказаць, што мне пашчасціла нарадзіцца ў кашулі. Жаніх, якому

дала адстаўку капрызная дурнічка, пасля ўсяго вымушаны быў паплесціся, як пабіты сабака, падтуліўшы хвост.

Пастаянныя стрэсы, душэўнае напружанне і розныя мітрэнгі, напэўна, не лепшым чынам паўздзейнічалі на здароўе. І я апынуўся на Паўночным Каўказе, у былым ваенным шпіталі, які знаходзіўся ў маляўнічых горных мясцінах, на вышыні больш за кіламетр над узроўнем мора, якраз на паўдарозе, што вядзе са знакамітага раённага гарадка Баржомі да вядомага высакагорнага лыжнага лагера Бакурыяні.

Вярнуўшыся з Каўказа, па стану здароўя і з-за іншых важкіх прычын вымушаны быў паехаць у сваю родную вёску Купленку, дзе касіў пожню, садзіў вясной бульбу на матчыным агародзе, восенню капаў яе, вазіў дахаты, а зімою са старэйшым братам траляваў у лесе бёрны, зрубіў і паставіў у матчыным двары хлевушок для парсюкоў, – дзякуй Богу, сякеру трымаць у руках не развучыўся, не трэба было і прывыкаць да вясковага клопату. Падружыўся з ляснічым Шастаковічам, якога ў вочы і за вочы называлі пачціва Мікалаевічам. Жыў ён у прасторным доме ў мястэчку Ухвала, над ракой. Можа, дзе днём і ноччу шумела і раўла вада ў застаўках, праз якія плытагоны сплаўлялі лес, перагукваючыся і мацюкаючыся, калі ірваліся гужавіны і бёрны разыходзіліся па ўсёй затоцы, якая ў гэтым месцы была асабліва шырокая і плыткая. А местачковыя падшыванцы і проста разявакі, якім не было чаго рабіць, стаялі на масту і на беразе ракі і глядзелі, што робяць плытагоны, як яны стараюцца даць рады плытам і раз’юшанай вадзе, што, здавалася, разрые берагі і знясе мост. Мы з ляснічым таксама глядзелі на гэта рачное і вадзяное вар’яцтва, а вечарам, каб неяк ураўнаважыць пачуццё, што поўніла ўсю істоту, ён з трактарыстам садзіўся ў кабіну, а я куляўся ў прычэп, і наш усюдыход зрываўся з месца, імчаў дзе полем, дзе цераз лес у самую аддаленую вёску Гібайлавічы, перайменаваную на Знаменку. На шалёнай хуткасці трактар каціўся паўзагароддзю, улятаў у вёску, а пасля браў крута ўправа, дзе пачыналася Качарга, дзе жыў ляснік, якога ўсе звалі Коля. Ляснік, здаецца, толькі тое і ведаў, што сядзеў і чакаў Шастаковіча. Ён даваў каманду жонцы, на стале з’яўляліся прысмакі, якія толькі могуць быць у людзей, што вечна прападаюць у лесе і жывуць з лесу. Зрабіўшы таямнічую міну на твары, Коля выцягваў з-пад маснічыны ладную пасудзіну, якую ў тутэйшых мясцінах завуць насадкай, і пачыналася мужчынская гамана і частаванне. Колькі было згадана розных лясных прыгод, казак і легенд, пажараў і пажарышчаў, выдуманых і невыдуманых гісторый! Тое-сёе я матаў сабе на вус, каб пасля заснаваць і выткаць з іх такую-сякую палатніну.

Аднойчы ад рэдакцыі часопіса «Полымя» зрабіў месячны круіз па гарадах і гарадках Палесся, адмастачыў некалькі нарысаў пра Герояў Сацыялістычнай працы. Яны былі змешчаны на старонках гэтага часопіса, а пасля выйшлі асобнай кніжкай. Паправіўшы ў вёсцы здароўе, вярнуўся ў Мінск, стаў працаваць на беларускім радыё ў якасці спецыяльнага карэспандэнта. Давялося пабываць амаль ва ўсіх кутках Беларусі, дзе сустракаўся з рознымі, па-свойму цікавымі людзьмі, рабіў пра іх радыйныя перадачы, пісаў мастацкія рэчы. Адначасова ствараліся вершы, невялічкія паэмы, выходзілі ў свет паэтычныя зборнікі.

Зараз знаходжуся на так званым заслужаным адпачынку, пішу вершы, артыкулы, думаю, аналізую падзеі сягонняшніх і мінулых дзён, імкнуся ў меру сваіх сіл здзейсніць і ўвасобіць у мастацкую форму пражытае і перажытае.

*Лістапад 2008 года*



***Мароз***
***Уладзімір Вікенцьевіч***

# ЗНАКІ ГІСТОРЫІ

*Аўтабіяграфічнае эсэ*

Чамусьці мне, пасталеламу, пэўны час здавалася, што я памятаю жалобны дзень смерці Сталіна. Я на руках у мамы, наўкола мноства людзей. У сапраўднасці «бацька народаў» сканаў у сакавіку, а я нарадзіўся 11 чэрвеня таго ж 1953 года. Хутчэй мая дзіцячая карцінка з людствам – гэта з нейкага пазнейшага першамайскага ці кастрычніцкага збору. Але сам год – сёння знак гісторыі. У гарадок Косава бацькі мае Вікенцій Іванавіч і Дзіна Канстанцінаўна трапілі пасля Нясвіжскай педагагічнай вучэльні, якую скончылі ў 1948 годзе. Настаўнічалі яны спачатку ў недалёкай вёсачцы Скураты, дзе пабраліся шлюбам. Неўзабаве перабраліся ў самое мястэчка. Маці выкладала беларускую мову і літаратуру ў Косаўскай школе, а бацька працаваў у дзетдоме завучам, пэўны час нават дырэктарам.

Дык вось гэты самы дзетдом – ці не першы мой косаўскі ўспамін. Была ўжо ў нас палова хаты побач з ім, былі ў нас са старэйшым на два гады братам Алегам нават нянькі і, натуральна, – ніякіх цяжкасцяў у жыцці. Культ асобы выкрываўся пакуль для нашых бацькоў і дзядоў, а нашае маленства цякло нязмушана, як яно і павінна быць. Сапраўды маленства, бо пражыў я ў Косаве ад нараджэння роўна сем гадоў. У памяці засталося не так і шмат ад таго часу, толькі самае яркае і адметнае. Памятаю, як з братам і дзетдомаўскімі хлопцамі гулялі на пляцы перад будынкам у лапту, а, хаваючыся, – у карты. Але самым цікавым было глядзець дыяфільмы ў дзетдоме. Зараз думаецца, ці не адтуль у мяне нечакана потым спраўджаная ў жыцці любоў да светлага экрана ў цёмнай залі?

Маленькая рачулка Мальвінка, што цякла ўнізе за агародамі. Праз яе па кладцы мы хадзілі на горку, дзе быў дзетдомаўскі інтэрнат, каб памыцца ў лазні. Аднойчы, гуляючы, я скінуўся ў гэтую рэчачку, праплыў у бязважкасці пад вадою некаторы час, яшчэ не паспеўшы спалохацца. Галоўнае – з расплюшчанымі вачыма. Дзякаваць Богу, там было неглыбока, так што ўратаваўся сам.

Косаўскі паваенны дзетдом, якога даўно ўжо няма, сёння таксама знак гісторыі. Яшчэ адзін знак такі стаяў праз брукаваную вуліцу насупраць дзетдома. Касцёл. Ён мне здаваўся высокім, змрочным, непадступным. Мы вельмі любілі лазіць па цвінтары, абыходзіць будыніну з усіх бакоў. Я быў упэўнены, што касцёл увесь час зачынены. Па словах бацькі, гэта было не так, зрэдчас ён працаваў, але памяць не захавала мяне малога ўнутры храма, напэўна, каб не парушыць стан містычнага рамантызму, у якім трымаў касцёл хлапчука сваёй закінутасцю. А недалёка, на ўездзе ў горад, ля брукаванкі стаяла каплічка з абразам Маці Божай, зусім дзіўнае для дзіцяці збудаванне.

Была ў Косаве і царква, уверх па вуліцы, у цэнтры горада. Памятаю, што па нядзелях там было людна, кірмашовы дзень, а вось самой царквы не памятаю. Потым ужо разабраўся, што гэта далёка не лепшы ўзор мураўёўскай архітэктуры, але добра і тое, што яна была.

Што тут, каля Косава, у Марачоўшчыне нарадзіўся Тадэвуш Касцюшка, як і тое, што яго хрысцілі ў тым загадкавым касцёле, уведаў значна пазней. Месца сядзібы пазначаў невысокі пагорак, радок камянёў ад былога падмурку, невялічкае дрэўца глог з чырвонымі ягадамі, ужо напалову паабсыпанымі на зямлю. Ляжаць, нібыта кропелькі крыві. Асоба ўсясветнага маштабу – і твой зямляк.

А вось палац на горцы побач з Марачоўшчынай – казка дзяцінства. Ён зачароўваў сваім нязвыклым выглядам, таямнічасцю, закінутасцю, напаўразбуранасцю. Пабудаваў яго ў 1838 годзе беларускі шляхціч граф Войцэх Пуслоўскі. Дасталося палацу пад час першай

сусветнай, а ў другую справу давяршылі савецкія партызаны – засталіся адны сцены. І чаго ён так ужо замінаў ім? Сядзібу Касцюшкі таксама спалілі. Пазней даведаўся, што ў партызанскіх атрадаў 26-м пунктам справаздачы аб іх дзейнасці якраз і стаяла – колькі знішчана панскіх маёнткаў. Сёння, дзякаваць Богу, дом Касцюшкі выбудаваны наноў, ёсць куды прыехаць і згадаць аб слынным сыне зямлі беларускай.

Яшчэ больш маляўнічыя руіны ўяўляў сабою палац Сапегаў у Ружанах, не такіх далёкіх ад Косава. Там працавалі знаёмыя бацькоў. Лёс палаца аналагічны косаўскаму, дабіты дашчэнту быў у апошнюю вайну. І усё ж нават гэтыя руіны трымалі даўнюю веліч палаца, асабліва паўкруглыя аркады, што ўводзілі ў рытм нейкага ўрачыстага бальнага танца. З асобаю заснавальніка палаца, нашага знакамітага Льва Іванавіча Сапегі, я пазнаёмлюся значна пазней, нават зраблю пра канцлера Вялікага княства Літоўскага дакументальны фільм.

Наогул з месцамі нараджэння мне пашанцавала. Кажу «месцамі», таму што з груднога ўзросту мы з братам кожнае лета, а то і ў іншы час, гадаваліся то ў адной бабы, то ў другой. Бацькі вучыліся завочна ва універсітэце і, прыкладам, на сесію ну аніяк не маглі ўзяць нас у Мінск. Мама мая родам з Мікалаеўшчыны, а тата – з вёскі Цякалаўшчына, што кіламетраў за чатырнаццаць ад Нясвіжа.

Так і атрымалася: Касцюшка – зямляк, найбліжэйшы зямляк і Якуб Колас. Мікалаеўцы патрыятычна лічаць, што нарадзіўся наш вялікі пясняр якраз тут, а не ў недалёкіх Акінчыцах, як прынята лічыць афіцыйна. Хаця гэта ўжо зусім не прынцыпова. Да таго ж і дзявочае прозвішча маці – Міцкевіч. Мама згадвала, што на вяселлі ў іх сям’ю запрашалі і «альбуцкіх» – так называлі коласаўскую радзіму. Так што мы з Якубам Коласам сапраўды ў нейкім калене сваякі. Да таго ж і знешняе падабенства, аб якім мне казалі неаднойчы самыя розныя людзі.

У Мікалаеўшчыне на самым высокім пагорку над Нёманам, як тое і павінна быць, стаяла прыгожая драўляная царква. Ажно сем купалаў узлятала ў неба, царковішча было з мяккай зялёнай муравою і высокімі дрэвамі. Мая баба Маня, Марыя Антонаўна, спявала ў царкоўным хоры, брала мяне на набажэнствы. З таго засталося адчуванне спакою, цеплыні, дабрыні, лагоды. І гэта якраз ураджанне маленства да сямі гадоў, бо недзе напрыканцы 60-ых камуністы царкву разбурылі. Ужо студэнтам-архітэктарам па просьбе бабы Мані я зрабіў малюнак царквы з фотаздымка, пяром і тушшу на даволі вялікім аркушы ватмана. Добрая памяць засталася, але малюнак знік у пажары, калі бабіна хата гарэла.

Хрысціў нас з братам малых святар той мікалаеўскай царквы. Баба клікала яго, адбывалася гэта дома, да таго ж і ў адсутнасць нашых бацькоў. Каб ніхто не ведаў. Думаю, што тата і мама сапраўды да пары не ведалі, а потым не гаварылі. Такі час. А мне баба Маня сказала, што я хрышчаны, бадай, ужо ў студэнцкія гады.

Мікалаеўшчыну я лічу сваёй другой малой радзімай. Ад дзеда з бабаю нам, унукам, застаўся хутар, куды кожную вольную хвіліну вырываюся з тлумнага Мінска, каб дыхнуць гаючага хваёвага наднёманскага паветра, супакоіцца душою і набрацца моцы на працоўныя будні. Калі дзед будаваў хату ў канцы 30-х гадоў мінулага стагоддзя, купіўшы зямлю ў Радзівілаў, гэта сапраўды быў хутар, да вёскі тупаць ды тупаць. Пазней і вёска пасунулася ў наш бок, і суседзі з'явіліся побач, і дзедаву хату мы разбудавалі і надбудавалі. Але для мяне гэтая мясціна заўсёды псіхалагічна застаецца хутарам. А як іначай – выйдзеш з хаты, перад табою толькі лес, а грыбы растуць нават у межах сялібы.

Зрэшты, коласаўскім земляком я прызнаны, можна сказаць, афіцыйна – у стаўбцоўскай серыі «Мне свеціць сонцам Наднямонне» пабачыла свет кніга вершаў «Дабрадаць». Невялічкая, але вельмі дарагая мне кніжка, дзе вершы натхнёны гэтай паэтычнай зямлёй, дзе ёсць стары фотаздымак дзедаўскага хутара, дзе ёсць мой праект царквы ў Мікалаеўшчыне.

А Нясвіж! Суцэльныя знакі гісторыі, нібы трапляеш у іншы свет. Гандлёвыя рады з ратушай на плошчы, Слуцкая брама, фарны касцёл, нарэшце, сам замак Радзівілаў на выспе, абведзенай рукатворным непераходным ровам. Мост да уязной брамы быў калісьці пад'ёмным. Старадаўні парк, які так і веяў рамантызмам, паэзіяй. Велізарныя штучныя вадаёмы наўкола парка і палаца. Усё гэта, праўда, было ў даволі дагледжаным стане.

А вось Мірскі замак стаяў напаўразбураным. Але затое веліч якая, магутнасць, грунтоўнасць. Адчувалася, што тут сапраўды можна схавацца ад ворагаў, абараніцца. Як хацелася лазіць па гэтых мурах, вежах! Зразумела, гісторыі сваёй айчыны мы ад дзяцінства не ведалі, але такімі вось знакамі сваімі ўваходзіла яна ў свядомасць і падсвядомасць, выклікала неакрэсленыя пачуцці, што людзі жылі на гэтай зямлі спрадвеку.

Але вернемся ў Косава. Там яшчэ паспеў нарадзіцца трэці сын у сям'і Марозаў, мой малодшы брат Коля. Летам 60-га мы пераехалі ў вёску Даманава таго ж Івацэвіцкага раёна. Тут я пайшоў у першы клас, тут жа правучыўся ўсе дзесяць гадоў. Бацька працаваў завучам у школе, мама настаўніцай. Жылі мы гадоў восем проста ў будынку школы, мелі два пакойчыкі і кухню. Таму можна сказаць, што я не толькі вучыўся, але і вырас у школе.

У Даманаве ў маё жыццё ўвайшла чыгунка, якая праходзіла метраў за сто ад школы. Пасля ціхага Косава, які месціўся крыху наўзбоч магістральных шляхоў, тыдні са два, а то і месяц заснуць на новым месцы было вельмі цяжка. Здавалася, што літаральна каля вуха грукочуць начныя цягнікі, якія імчаць з усходу на захад, у неспазнаную пакуль Еўропу, і з захаду на ўсход, галоўнаю кропкаю якога была Масква. Станцыя была крыху воддаль, а каля школы ўздоўж чыгункі ішла рампа, дзе разгружалі розныя грузы. Былі моманты разгрузкі нечага незразумелага і ноччу. Салдаты ачаплялі прылеглую тэрыторыю, людзей не прапускалі. Стаяў грукат, раўлі маторы магутных венных машын. А ўсё было проста – разгружалі ядравыя ракеты, а найчасцей паліва для іх, везлі потым па Дражэнскай дарозе ў лес, у Воўчыя Норы, дзе была адна са шматлікіх на Беларусі ядравых базаў. Радыяцыя з-за ўсяго гэтага ў Даманаве і ў бліжэйшых Каханове, Гнойным і Дабрынёве была павышаная. Але хто калі яе мераў? Вядома аб павышаным фоне стала толькі пасля Чарнобыля, тут знайшлі пляму. Нават і тады не сказалі, што катастрофа на атамнай станцыі да гэтай плямы адносінаў не мае.

Дзякаваць Богу, сёння гэтай ядравай базы няма. Як няма іх і наогул у Беларусі, павывозілі ўсе ракеты ў Расію, ачысцілі нарэшце самую нашпігаваную ядравай зброяй рэспубліку. Пры тым маецца на ўвазе, што не толькі ў былым Саюзе, але і нідзе ў Еўропе такой колькасці ракет, як у Беларусі, не было. Няхай гэтыя закінутыя цяпер базы назаўсёды застануцца знакамі былога.

З часам сталення чыгунка ўсё больш клікала ў шлях, вабіла абяцаннем новых краёў і земляў, новых уражанняў. Пасля ў жыцці хапіла дарог і вандровак, а зараз была проста вучоба ў школе, гульні, догляд самага малодшага брата Ігара, які нарадзіўся ў Даманаве.

Апроч чыгункі і ядравай базы, іншых фармальных знакаў гісторыі ў вёсцы не было. Ды і саму гісторыю Беларусі ў школе практычна не вучылі. Аднак усё роўна яна не пакідала ў спакоі, нагадвала пра сябе часам незвычайным чынам. Школьнікамі ці не кожны год мы хадзілі на буракі, моркву ці бульбу на Пагоню. Чаму так называлася гэтае асушанае тарфяное балота, я тады не ведаў, не ведаў, што Пагоня – старажытны беларускі герб, але слова прыцягвала сваёй прыхаванай эмацыянальнай сілай, заварожвала. Пагоня!..

Пазней, ужо ў перабудовачныя часы, калі пачалі прадаваць дробнамаштабныя дакладныя ваенныя карты, я убачыў (карта «Слонім»), што балота Пагоня – вялізны абшар, які ідзе ад Даманава на паўднёвы ўсход да Выганаўскага возера. У другі бок, на паўночны захад і на захад ад Даманава – лес Літва. Так і напісана: «лес Літва». Стала ўсё зразумелым – гэта і ёсць паўднёвай мяжою той летапіс-

най Літвы, што была на нашай зямлі і якую акрэсліў слынны гісторык Мікола Ермаловіч. Толькі яшчэ больш на поўдзень ад Слоніма. Што тычыцца ўласна майго Івацэвіцкага раёна, то яго ўмоўна дзеліць уяўная мяжа: тут – ліцьвіны, а тут – палешукі, пачатак Палесся. Прыслухайцеся – і сёння ёсць адбітак у гаворках.

Уся гэтая гісторыя з геаграфіяй яшчэ раз асабіста і мяне ўпэўніла, што старажытная Літва была тут, практычна ў цэнтры беларускіх земляў, адсюль, ад ліцьвінаў, пачыналася Вялікае княства Літоўскае, наша старабеларуская дзяржава.

Апошнім, ужо свядомым штуршком да выбару прафесійнага шляху пасля школы быў набор паштовак з выявамі помнікаў дойлідства. Нешта, як відаць з папярэдняга аповеду, я бачыў на свае вочы, астатняе толькі на гэтых картачках. Рамантызм занядбання, але разам з тым прыгажосці і велічы нараджаў жаданне самому пабудаваць хоць калі такое ж прыгожае і каб на вякі. Я вырашыў стаць архітэктарам. Напэўна, перадумовы для гэтага былі – я нядрэнна маляваў. З другога боку, з дзевятага класа я стаў весці дзённік, вольны запіс сваіх думак даваў мне вялікае задавальненне.

На жаль, тыя тры тоўстыя агульныя сшыткі школьных запісаў згарэлі з хатай у Мікалаеўшчыне, студэнтам я іх хаваў там. А як цікава было б сёння сустрэцца з сабою 16 – 17-ці гадовым!

Спрабаваў я пісаць і вершы. Для поўнай карціны засталося дадаць, што скончыў яшчэ і музычную школу ў Івацэвічах па класу баяна. А Даманаўскую дзесяцігодку закончыў з залатым медалём.

Зрэшты, планы мае так і спраўдзіліся – скончыў архітэктурны факультэт БПІ і стаў архітэктарам, амаль пяць гадоў працаваў у праектным інстытуце. Праўда, праз два гады пасля першага ВУЗа паступіў на завочнае аддзяленне Літаратурнага інстытута ў Маскве, літаратура пакрысе перамагала. Таму на заканчэнне вучобы я ўжо працаваў рэдактарам Дзяржкіно БССР. Паваротак на вуліцу кіно бачыўся на той час выпадковым, але сёння ўсё выглядае інакш, думаецца, што мая праца рэдактарам дакументальнага кіно студыі «Летапіс» Нацыянальнай кінастудыі «Беларусьфільм» (пасля Дзяржкіно) – заканамернае ўвасабленне ў кінавобразах тых знакаў гісторыі, што ўвайшлі ў свядомасць з дзяцінства. Перадусім маю тут на ўвазе аўтарскую работу – шмат якія мае сцэнарыі дакументальных фільмаў звернуты да гісторыі Беларусі, пачынаючы ад постаці Кірылы Тураўскага (першая мая значная стужка як аўтара сцэнарыя, знятая ў 1990 годзе) да слынных нашых сучаснікаў.

Калі глянуць статыстычна, то на сённяшні дзень ў маёй кайстры сцэнарыста-дакументаліста звыш пяцідзесяці фільмаў, у кожны з якіх укладзена часцінка душы. Карціна «Успамін пра Міко-

лу Равенскага» у ліку трох стужак рэжысёра Міхаіла Жданоўскага ў 1994 годзе адзначана Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь. Асабліва я ўдзячны дакументальнаму кіно за тое, што дзякуючы яму мне пашчасціла пабываць на Святой Зямлі у Іерусаліме, ды якраз на праваслаўны Вялікдзень, калі сыходзіць на храм Дамавіны Гасподняй Святы дабрадатны агонь. Уражанні аб той пілігрымцы назаўсёды ў душы і ў маіх творах.

Праца ў дакументальным кіно не перарывалася і ў той амаль пяцігадовы перыяд, калі я працаваў ў рэдакцыі часопіса «Бярозка» намеснікам галоўнага рэдактара. І там дзяліўся сваім адчуваннем мінуўшчыны з юнымі і дарослымі чытачамі. А пасля здарылася насуперак вядомаму выслоўю, што ў адну раку двойчы не ўступаюць, – я зноў вярнуўся на кінастудыю рэдактарам дакументальнага кіно. Акром сцэнарыяў, ужо як рэжысёр зняў стужку «Лазер Алфёрава».

У жыцці нічога не бывае выпадковым. Здаецца, шмат вады сплыло, як збочыў з архітэктурнай сцяжыны. Але дойлідства засталося са мною знакамі гісторыі ў дакументальных фільмах, падчас працы ў «Бярозцы» напісаў гісторыка-архітэктурнае эсэ «Мінск старадаўні і малады», якое ўвасобілася ў шыкоўную кнігу на трох мовах, багата ілюстраваную, вытрымаўшую чатыры выданні з агульным вялікім для нашага часу накладам у дванадцать тысячаў. Прыемна, калі твая кніга карыстаецца попытам.

З паэзіяй сённячы больш складана, часам здаецца, што вершы нікому не патрэбныя. Але згадаеш «Апокрыф» Максіма Багдановіча аб васільках у жыце, убачыш вочы дзяцей падчас творчых сустрэч – і сумненні адпадаюць. Бо заўсёды ёсць надзея, што паэтычнае, як і гістарычнае зерне прарасце ў душах маладых, і яны стануць сапраўднымі сынамі роднай зямлі.

Паглядзіце наўкола – і вы самі знойдзеце шмат знакаў гісторыі, толькі трэба ўспомніць, што мы беларусы і адкрыць душу. І тады адчуеце непарыўную повязь падзей, часоў і людзей, тады адчуеце сапраўдную адказнасць за нашу дзяржаву, за мінулае і будучыню цудоўнага куточка зямлі, які завецца Беларуссю.



***Марціновіч***
***Алесь Андрэевіч***

## ІНШАГА ЖЫЦЦЯ НЕ ЎЯЎЛЯЮ

Як у той песні: «А мне казалось, весна будет вечной...» Праўда, выбіраючыся са сталіцы аўтобусам да прыпынку Філіпавічы, а гэта на самай мяжы Капыльскага і Клецкага раёнаў, а да ўз'яднання Усходняй і Заходняй Беларусі акурат тут праходзіла дзяржаўная мяжа, і далей ідучы пехам кіламетры тры да вёскі Навасёлкі, дзе жылі мае бацькі, апошні часам усё больш лавіў сябе на думцы, што нядоўга ўжо мераць мне гэтыя кіламетры: пастарэлі мама, а яшчэ больш тата (пішу «тата», як, зразумела, і трэба па-беларуску, хоць тату бацькам ніколі не называў, увогуле, гэтае слова мне чымсьці не падабаецца, куды лепш, мілагучней гучыць «папа»).

Разумеў, што хутка настане часіна, калі трэба будзе іх забіраць у Мінск. А яшчэ думаў, што абавязкова з Навасёлкамі развітаюся па-людску. І не тады нават, калі павязём іх у сталіцу, а значна пазней – мо калі які год мінецца. Зазірну ў вёску і цішком, каб ніхто не ведаў, завітаю да хаты, у якой яшчэ нядаўна яны жылі (хата школьная, бо

бацькі працавалі настаўнікамі, параязджалі з месца на месца, а таму сваёй так і не прыдбалі, а гэтую – не прыватызавалі: навошта, калі гатова разваліцца, дый з Мінску прыязджаць няблізка, больш за паўтары сотні кіламетраў).

Адразу ж пайду ў сад. Ён вялікі, бо таксама школьны, і ў гады майго вучнёўства пераважная большасць яблынь яшчэ пладаносіла, хоць пакрысе сад пачаў прыходзіць у заняпад. Прыеду абавязкова летам, а яшчэ лепш – вясной, у пачатку мая, калі так прыгожа цвітуць яблыні, а трава пакрываецца суцэльным дыванам дзьмухаўцоў. І паветра, як і заўсёды ў такі час, будзе нейкае церпка-саладжавае, настоенае, здаецца, на пахах усёй гэтай квецені.

Дастану з кішэні бутэльку віна. Вып'ю шклянку, другую... Лёгкі хмель спачатку выкліча светлыя пачуцці, а пасля – настальгічныя, і я, адчуваючы, што няпрошаная сляза гатова ўпасці на шчаку, дап'ю тыя кроплі, што засталіся яшчэ ў бутэльцы, і хутка, ці не подбегам, заспяшаюся назад. Зваротным шляхам выберу іншую дарогу, таксама да Філіпавіч і таксама добра знаёмую мне, каб прайсціся так, як крочыў неаднойчы студэнтам, а затым, прыязджаючы з Драгічына, дзе працаваў пасля заканчэння універсітэта па размеркаванні. І тым самым развітаюся з Навасёлкамі назаўсёды, бо родзічаў у нас у гэтай вёсцы няма...

Развітанне, аднак, аказалася зусім не такім, як мне гэта ўяўлялася. Ды і, па сутнасці, былі два развітанні. А што гэта развітанні, я зразумеў пазней, як кажуць, на адлегласці часу. Першае з іх адбылося недзе ў сярэдзіне сакавіка 1997 года. Прыехаў да бацькоў, як звычайна, у пятніцу, а ў нядзелю пачаў збірацца назад у Філіпавічы. Як заўсёды, сказаў: «Да пабачэння!» – і, ступіўшы з ганку, заспяшаўся. Як жа здзівіўся, калі, азірнуўшыся, убачыў, што тата стаіць на ганку і глядзіць мне ўслед. Стаяў ён і тады, калі я адышоў ад хаты на колькі дзесяткаў метраў. Падобнае за ім ніколі раней не назіралася, асаблівай сентыментальнасці ён сабе не дазваляў.

Чарговы раз завітаў я да бацькоў толькі ў пачатку верасня 1997 года. Прыехаў, перанёсшы перад гэтым, 20 красавіка цяжкі інфаркт, па сутнасці, нарадзіўшыся нанава. Ні мама, ні тата пра гэта нічога не ведалі. Мая старэйшая сястра Тамара, каб супакоіць іх з-за маёй доўгай адсутнасці, наведваючыся да іх, прыдумвала самыя розныя прычыны.

Дабірацца рэйсавым аўтобусам, а пасля ісці пехам баяўся. Дый сіл не ставала. Балазе, працаваў у Капыльскім райвыканкаме цудоўны чалавек, намеснік старшыні Станіслаў Канстанцінавіч Чарнушэвіч. Ён не толькі даў мне «Волгу», а і сам вырашыў мяне суправаджаць. Якраз над Беларуссю пранёсся вялізны ўраган, многія дрэвы

былі павалены і ў Навасёлках. Але не гэта ўразіла. Здзівіла, што тэлевізійная антэна ля бацькоўскай хаты была сагнута ветрам папалам ледзь не пад прамым вуглом. Адразу ўспомнілася, што, калі ставілі яе, тата ўсё непакоіўся, каб хоць бы доўга прастаяла, на што я тады адказаў: «Было б здароўе, антэну яшчэ не адну паставім».

Чаго-чаго, а здароўя ў таты ўжо не было. Ён паздароўкаўся са мной неяк... не ведаю нават, якое слова ў дадзеным выпадку лепш падыходзіць. Пазней толькі мама казала, што ўсё ж пачуў, як я прызнаўся ёй, чаму так доўга не наведваўся. Перапытаў у яе: «У Сашы інфаркт?» – і дадаў нешта наконт таго, што гэта небяспечна. Тады ж мама расказала, што ён адчувае сябе зусім слаба. Нават некалькі разоў падаў у садзе і не мог сам падняцца.

Для мяне не ўзнікала сумненняў, што бацькоў трэба як мага хутчэй забіраць у Мінск. Асабліва пасля таго, як мама прызналася, што Тамара дамовілася зняць аднапакаёўку, якая – лепш і не прыдумаеш! – знаходзіцца на той жа лесвічнай пляцоўцы, дзе і яна жыве са сваёй сям'ёй. Толькі і адказаў: «Хай яна і вырашае, калі гэта лепей зрабіць». Ідучы ў Філіпавічы, не сумняваўся, што з пераездам чакаць не давядзецца. Але і падумаць не мог, што іду гэтай дарогай апошні раз.

Бацькоў сястра мая са сваім мужам забрала, не папярэдзіўшы мяне, каб не хваляваць, у сярэдзіне кастрычніка. Даведаўся аб гэтым, калі пачуў у трубцы мамін голас. Ужо з мінскай кватэры. А з бацькам пасля таго нашага развітання ў сакавіку 1997 года я, па сутнасці, па-сапраўднаму і не пагаварыў. Ён здаваў літаральна на вачах. Амаль не размаўляў і слаба рэагаваў на тое, што яму гаварылі. А 29 красавіка 1998-га яго не стала. Пражыў нямала (нарадзіўся 16 кастрычніка 1914-га, а калі прыняць пад увагу, што ў 1978 годзе ўрачы, робячы аперацыю, замест язвы знайшлі рак страўніка, прытым у запушчаным стане, тым больш). Пахавалі яго ў Мінску, на Кальварыйскіх могілках. І раней размовы не ішло, каб шукаць яму вечны спачын у Навасёлках, а цяпер тым больш. А тут акурат муж Тамары даведаўся, што за прымальную цану на Кальварыі пачалі даваць месцы для пахавання.

Так і пакінуў я Навасёлкі восенню 1997 года, не ведаючы, што больш і не вярнуся сюды. Пасля інфаркту ад такой «рамантыкі» развітання, што малявалася мне ў думках, нешта станавілася не па сабе: беражонага Бог беражэ. А Навасёлкі ўспамінаю часта. Асабліва калі часам загучыць па радыё песня ў выкананні братоў Радчанкаў «Домик окнами в сад!».

Тая хата, у якой пражыў я нямала гадоў, таксама была вокнамі ў сад, няхай і не калыхала мяне мама ў ёй. Люляла яна мяне ў вёсцы

Казловічы Слуцкага раёна, дзе я нарадзіўся 18 жніўня 1946 года і стаў у сям'і першынцам. Пасля з'явіліся на свет сёстры: Тамара і Людміла. Але яны нарадзіліся ўжо не ў Казловічах, а ў вёсцы Вялікая Сліва, што таксама ў Слуцкім раёне, куды пераехалі бацькі.

У мамы да вайны быў ужо муж. Гадаваўся і маленькі сынок Ігарок. Загінулі яны страшна, жудасна. Мамін муж, які працаваў дырэктарам школы, атрымаў на ўсіх настаўнікаў зарплату, а раздаць своечасова не паспеў. Пра гэта даведаўся адзін нягоднік. Уварваўся ў хату з нажом. Кінуўся да мужа яе, дзіцяці... Маму ўратавала толькі тое, што мая бабуля ўзняла крык, выскачыла на вуліцу. Але мама была цяжка паранена. На правай руцэ ёй паралізавала некалькі пальцаў.

Таго нягодніка судзілі, а калі пачалася вайна, ён вярнуўся. Ды пражыў, аднак, нядоўга: свой прысуд здзейснілі гітлераўцы. Сумнення няма: расстрэльваючы яго, выкарыстоўвалі магчымасць даказаць, наколькі яны справядлівыя. Сёй-той сёння думае інакш: інтэрпрэтацыя гэтага факта паспела ўжо з'явіцца ў адной «незалежнай» газеце. Зразумела, з адпаведнай «падсветкай». Якія «бальшавікі», маўляў, нягоднікі і якімі справядлівымі пры гэтым былі немцы. І гэта пры тым, што толькі ў адным Слуцкім раёне загінула не адна тысяча мірных жыхароў.

Але не хочацца пісаць пра палітыку. І зусім не таму, што палітыка – справа брудная. Проста ёсць у мяне магчымасць пагаварыць пра больш прыемнае. Толькі не пра тое, якая цудоўная была на Случчыне шляхта, а ёсць жадаючыя пераканаць мяне менавіта ў гэтым. Аднак для мяне на ўсё жыццё засталося класічнае аблічча яе, пададзенае неўміручым Вінцэнтам Дунінам-Марцінкевічам. Усёй розніцы, што ў яго шляхта была пінская, а на маёй радзіме – слуцкая.

Памятаецца: бабуля мая, светлая памяць ёй, шмат чаго расказвала пра ўсё гэтае «панства», і ўсе гісторыі толькі найлепшым чынам падмацоўвалі класічны марцінкевічаўскі прыклад. Дарэчы, пра бабулю. Сцепаніда Канстанцінаўна, па маці Чайкоўская, пражыла доўгае жыццё, без малога дзевяноста гадоў. І гэта пры тым, што яшчэ ў юнацтве ўрачы знайшлі ў яе парок сэрца. А мо таму так шмат і пражыла, што яна вельмі любіла працу. Калі і адпачывала, дык хіба толькі ў вялікія святы. А наконт веры ў Бога, то, не адмаўляючы яго цалкам, магла столькі расказаць гісторый, у якіх папы паўставалі ў непрыглядным выглядзе, што ў выкрыцці гэтым смела магла паспрачацца з «ваяўнічым атэістам» Антонам Дзеркачом, хоць, зразумела, пра яго нічога не чула, дый я ў той час таксама. Працуючы шмат, працуючы ў асалоду, бабуля з аднолькавай пагардай ставілася

як да тых, хто працы не любіў, так і да тых, хто звысоку глядзеў на іншых, не маючы для гэтага аніякіх падстаў.

Падставы якраз былі ў яе самой, калі выйшла замуж за намнога старэйшага за сябе ўдаўца, двараніна Аляксандра Вішнеўскага. Што наконт дваранства, дык я ў свае школьныя гады пра гэта ведаў ад мамы, а тая ад маёй бабулі. Дзед жа памёр яшчэ ў 1932 годзе. Нядаўна ж, у 1993-м, Тамарын сын, мой пляменнік Аляксей Сярко атрымаў аб дваранстве свайго прадзеда і дакументальныя сведчанні, звярнуўшыся ў Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь. У гэтым архіве захоўваюцца шмат якія цікавыя матэрыялы, што тычацца роду Вішнеўскіх. Ці не самы даўні з іх – прывілей караля Жыгімонта III ад 1630 года аб падараванні ў пажыццёвае валоданне Івану Вішнеўскаму і яго жонцы Ганне вёсак Войшвілы, Стаўляка, Боркі і Бердзейкі ў Пунскім лясніцтве. Захаваліся і матэрыялы па радаслоўнай Вішнеўскіх за 1894 год, у радаводзе названы 32 чалавекі, якія належалі да 8 пакаленняў.

Калі працягваць гаворку пра Вішнеўскіх, дык сын майго дзеда ад яго першай жонкі Міхал быў вялікім аматарам кнігі. Яшчэ ў 30-ыя гады мінулага стагоддзя ў бабулінай хаце ў вёсцы Малая Сліўка Слуцкага раёна, дзе і нарадзілася 25 снежня 1919 года мая мама, можна было знайсці кнігі збораў твораў многіх вядомых рускіх пісьменнікаў, разрозненыя нумары часопіса «Нива», іншых перыядычных выданняў. Міхал воляй лёсу пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі апынуўся ў Яраслаўлі і хутчэй за ўсё загінуў у час вядомага мяцяжу. Любіла чытаць і Міхалава сястра, мая цётка Фрасыня. Яе я добра памятаю, бо пасля смерці мужа (была бяздзетнай) некаторы час жыла ў нас. Цётка Фрасыня, нягледзячы на тое, што граматай надта не валодала, гадзіны праводзіла за кнігай.

Бацька ж мой быў родам з вёскі Селішча, якая, як і Казловічы, знаходзіцца непадалёку ад Слуцка, толькі з іншага боку. Казловічы – у бок Асіповіч, а Селішча – у некалькіх дзесяткаў метраў ад шашы на Брэст. Татавы бацькі памерлі ў сярэдзіне 30-х. Сям'я ў іх была вялікая – 12 дзяцей, але трое з іх памерлі малалеткамі. Старэйшая сястра майго бацькі ў Грамадзянскую вайну выйшла замуж за казака. Дзе пасля гэтага загубіліся яе сляды – невядома. Калі я ўжо быў студэнтам, спрабавалі шукаць, ды безвынікова. А два браты таты прапалі без вестак на франтах Вялікай Айчыннай вайны, сам ён па стану здароўя на фронт не трапіў.

Спачатку мае бацькі настаўнічалі ў Казловічах. Мама выкладала ў малодшых класах, тата ў старэйшых – гісторыю. Пасля яны перабраліся ў Вялікую Сліву. З Вялікай Слівай звязаны і першыя згадкі, што захавала мая памяць. Як цяпер памятаю: мы крочым

з мамай па дарозе, нас абганяе машына, гружаная бярвеннямі. Дарога няроўная, у калдобінах. Адно бервяно звальваецца з яе, другое, а шафёр не заўважае. Калі машына прайшла, з мамай коцім іх на ўзбочыну, каб вечарам тата прыехаў і забраў іх. Мама кажа, што мне тады было шэсць гадоў. Запомніў, што дом, у якім мы жылі, стаяў на беразе ракі. Запомніў і дзе ў Вялікай Сліве знаходзіўся магазін. А што памяць мяне не падвяла, упэўніўся ў 1972 годзе, калі, працуючы карэспандэнтам слуцкай аб'яднанай газеты «Шлях Ільіча», давялося праязджаць праз гэтую вёску. Пазнаў і магазін, і той дом.

Настаўніцкія шляхі-дарогі спачатку прывялі маіх бацькоў у вёску Комсічы Капыльскага раёна, дзе на той час знаходзілася сямігодка, а пасля ў суседнія Навасёлкі, у якіх працавала сярэдняя школа. Тады, праўда, гэтая вёска называлася Крывасёлкі, а школа адпаведна была Крывасёлкаўскай. У 1953 годзе я пайшоў у першы клас Комсіцкай сямігодкі, а праз некалькі месяцаў хадзіў ужо ў Крывасёлкаўскую. Бацькі перабраліся ў Крывасёлкі, бо там ужо працаваў мой тата. У Комсічах не аказалася патрэбных яму гадзін. Не стала месца і маме. І яна цэлы навучальны год хадзіла з Крывасёлак у вёску Савічы – тыя самыя Савічы, якія некалі належалі Эдварду Вайніловічу і які ў памяць сваіх заўчасна памерлых дзяцей у Мінску пабудаваў касцёл св. Сымона і Алены (Чырвоны касцёл), што цяпер знаходзіцца непадалёку ад Дома ўрада. У Савічах была пачатковая школа. А гэта ад Навасёлак больш за дзесяць кіламетраў. У адзін канец. І дажджлівай восенню, і ў вясновае разводдзе дабіралася пехам. І, канешне ж, зімой. Выходзіла з дому вельмі рана, за пасёлкам Славінка, а гэта недзе на паўдарозе, трэба было праходзіць лесам. Мама расказвае, што тата зрабіў ёй факел. Яго і хавала там, каб раніцой запаліць. Факел цёмнай раніцай не быў лішнім. Аднойчы яна напаткала ваўкоў. Што перажыла пры гэтым, словамі перадаць немагчыма.

Паглядзець бы ў вочы таму загадчыку райана, які так «працаўладкаваў» жанчыну з трыма дзецьмі, старэйшаму з якіх было сем гадоў. Не змог бы паглядзець, нават калі б гэтага чалавека не напаткала цяжкая, невылечная хвароба. Усё адно не дажыў да той часіны, калі б я мог стаць для яго маральным суддзёй. І за маіх бацькоў быў старэй. Але і памёр ён даволі рана, жывучы ўжо ў Цімкавічах. Паміраў пакутліва. Каб аблегчыць яго пакуты, некалькі дзён усе машыны не ехалі галоўнай вуліцай, бо дарога праходзіла каля самага ягонага дома. Я разумеў тых, хто так паклапаціўся аб хворым. Але я разумею і сваіх бацькоў, што яны адмовіліся ехаць на яго пахаванне. А пахаванне было з размахам, за дзяржаўны кошт. Развіталіся з нябожчыкам дэлегацыі з усіх навакольных вёсак.

Магчыма, і не трэба было б пра ўсё гэта пісаць. Жанр жа аўтабіяграфіі вымагае таго, што аўтар больш павінен гаварыць пра сябе. Яно, канешне, так. Але калі я згадваю ўсё гэта, хіба і не пра сябе пішу?! Хоць, па логіцы сённяшніх самых-самых «дэмакратычных», я павінен пісаць, як «таталітарная сістэма» мяне з маленства нішчыла. Хопіць, «дабрадзеі». Не сістэма ва ўсім вінавата, а канкрэтныя людзі. І гэты самы бесчалавечны загадчык райана – таксама. Яго б ніякі час не перавыхаваў бы. Як і таго, з дазволу сказаць чалавека, прозвішча якога я ніколі так і не даведаюся, хто некалі «накапаў» на майго дзеда, быццам ён – кулак. Мала таго, што заможна жыве, дык яшчэ і столькі кніг мае. Дзеда, праўда, не раскулачылі. Дапамог ягоны зяць, муж мамінай сястры, маёй цёткі Настассі. Самому ж яму ніхто не дапамог: ваеннага ўрача Івана Кунцэвіча расстралялі ў 1937 годзе.

І ў нацыянальным бяспамяцтве таксама віна канкрэтных людзей. Гэта яны спяшаліся паведаміць «наверх», што выконваюць своечасова адпаведныя дырэктывы. А паколькі самі з'яўляліся ўсяго «вінцікамі», дык стараліся асабліва ахвотна. З-за гэтых старанняў і атрымалася, што многія з нас забыліся, якога мы роду-племені. Як і адзін з маіх настаўнікаў (таксама даўно нябожчык), які пераканаў раённае начальства, што «Грамадазнаўства» (быў такі прадмет у школе) трэба выкладаць нам па-руску. Аргументы правамернасці гэтага былі здзіўляльна пераканаўчыя: асобныя тэрміны, звязаныя з марксізмам-ленінізмам, па-беларуску гучаць не так, як трэба. І гэта пры тым, што пры жаданні падручнік па згаданым прадмеце можна было набыць і беларускамоўны, і рускамоўны. Уся ж наша школа, дарэчы, працавала па-беларуску. І ніхто больш з настаўнікаў не адмовіўся ад сваёй роднай мовы. Вось вам і «таталітарызм».

Гэта, аднак, не значыць, што гадаваліся мы, вучні, гэткімі ўжо нацыянальна свядомымі. Проста атрымлівалі веды ў межах праграмы сярэдняй школы, а тое, што знаходзілася па-за межамі яе, і самім настаўнікам было невядома. Ні для каго не сакрэт, што, напрыклад, рэдка можна было напаткаць цікавыя факты з беларускай даўніны ў газетах і часопісах. Вось і атрымлівалася, што і выкладчыкі лепш разбіраліся ў адметнасці культуры Старажытнага Рыму альбо Грэцыі, чым сваёй.

...Кожны раз, калі даводзілася ездзіць да бацькоў рэйсавым аўтобусам Мінск – Навасёлкі, які хадзіў да «перабудовы», з хваляваннем чакаў гэты паварот. Тут, на старых могілках у Цімкавічах, стаяў касцёл Святога Міхаіла, адзін з самых выдатных архітэктурных помнікаў не толькі на Беларусі, а і ўсяго славянства. Польскія даследчыкі, уражаныя аздабленнем яго, параўноўвалі Цімкавіцкі

храм з францысканскім касцёлам у Кракаве, аформленым сусветна вядомым жывапісцам Станіславам Васняньскім. Над мастацкім аздабленнем унікальнага помніка беларускага драўлянага дойлідства таксама працаваў чалавек знакаміты – Францішак Бруздовіч. Аднак францысканскаму касцёлу стаяць ды стаяць, радуючы ўсё новыя пакаленні сваёй архітэктурнай дасканаласцю. А вось Цімкавіцкі храм не быў узяты пад належную ахову дзяржавы. Увесь гэты цуд згарэў у 1985 годзе. Лічу, што прысак касцёла Святога Міхаіла – маўклівы дакор і мне, і ўсім капыльскім краязнаўцам. Па сутнасці, недаацанілі значэнне гэтага помніка. А трэба было біць у званы, стукацца ў розныя інстанцыі, каб звярнулі нарэшце на яго ўвагу, зразумелі, які цуд знаходзіцца не дзе-небудзь ў заморскіх краінах, а поруч. Ды што зробіш, калі так доўга наша выхаванне – у самым шырокім значэнні гэтага слова, у тым ліку і выхаванне гістарычнае, культурнае адбывалася неяк аднабакова. Таму і не маглі мы, выпускнікі Крывасёлкаўскай школы 1964 года, ведаць пра значнасць гэтага храма, калі не ведалі і нашы настаўнікі. Памятаю, колькі разоў даводзілася праязджаць міма на веласіпедзе (Цімкавічы знаходзяцца кіламетрах у дзесяці ад Навасёлак), але каб паспрабаваць зайсці туды... камсамольцу?

Пра камсамольства... Не веру тым, хто сёння клянецца, што яго прымусова прымалі ў піянеры, камсамол. Як у піянеры ўступаў, праўда, не помню, а ў камсамол паспрабаваў уступіць, калі для гэтага, паводле статута, яшчэ не ставала года. У школе на падобную акалічнасць не звярнулі ўвагі, а ў у райкаме камсамола ў Капылі ўсё заўважылі. Давялося з нецярпеннем чакаць яшчэ год. Уступіў я ў камсамол у 1961 годзе, напярэдані памятнага з’езда партыі. І вельмі радаваўся. Як і радаваліся ў падобных выпадках многія мае аднакласнікі. Не трэба сёння гэтага саромецца. Гэта было наша юнацтва, а юнацтва заўсёды – адна з самых прыгожых часін чалавечага жыцця. У кожнага ж пакалення сваё юнацтва. І не абавязкова, каб яно праходзіла пад назойлівую рэкламу памперсаў і розных пракладак.

Аднак не магу сказаць, што з’яўляўся актыўным камсамольцам. Не любіў розных сходаў, іншых мерапрыемстваў – такі характар у мяне. Дарэчы, сходаў не люблю па сённяшні дзень. А тады асабліва перажываў, калі выбралі мяне піянерважатым у адзін з класаў, здаецца, у пяты. Нельга ж было без «нагрузкі», калі вучыўся на «выдатна» і «добра». А вось рэдактарам школьнай насценнай газеты мяне так і не прызначылі, хоць, па логіцы, ніхто іншы, а менавіта я павінен быў стаць: друкаваўся ў раёнцы «Слава працы», стаў юнкорам (пасведчанне нават прыслалі) усесаюзнага часопіса «Пионер», супрацоўнічаў з газетай «Піянер Беларусі», рэдакцыя якой падарыла мне як пераможцу конкурса «Самае смешнае, самае вясёлае» двухтомнік выбраных твораў Янкі Маўра.

Не стаў, бо, як ужо казаў, з'яўляўся сынам настаўнікаў, а ў педагагічным калектыве настаўнікі часта высвятлялі свае ўзаемаадносіны. Калі ж я трапляў у поле зроку тых, хто ў чымсьці не ладзіў з маімі бацькамі, то і стаўленне да мяне было адпаведнае. Гэта асабліва адчуў у час школьных выпускных экзаменаў, калі пры здачы некаторых прадметаў у адносінах да мяне пачаліся звычайныя прыдзіркі.

Найбольш пастараўся той настаўнік, які ніяк не мог пагадзіцца, каб «Обществоведение» было «Грамадазнаўствам», а ён выкладаў яшчэ і нямецкую мову. Як ні стараўся я, але на экзамене атрымаў чацвёрку. Як быццам і няблага, але крыўдна было за тое, што чацвёркі атрымалі літаральна ўсе, за выключэннем аднаго «троечніка». Чацвёрка была ў мяне і па сачыненні. Зразумела, па рускай мове. «Пастаралася» ўжо жонка гэтага настаўніка. Прычына была не ў памылках, а ў тым, што, як яна лічыла, «не умеет литературно излагать свои мысли».

Затое меў пяцёркі па іншых прадметах. У тым ліку і па прафесіянальнай арыентацыі. Забыўся сказаць: мы заканчвалі не дзесяць класаў, а адзінаццаць, і рыхтавалі з нас... трактарыстаў-машыністаў шырокага профілю. А ўсё таму, што незадоўга да гэтага першы сакратар ЦК КПСС Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў звярнуў увагу на рэформу агульнаадукацыйнай школы. Добра памятаю, што на экзамене па жывёлагадоўлі я тлумачыў будову... вымя каровы. І так падрыхтаваўся, што па сённяшні дзень не забыўся, чаму, калі вымя перапоўнена, з яго не выцякае малако.

У цэлым жа пра школьныя гады ўспаміны ў мяне, як, бадай, і ў кожнага, самыя светлыя. Пашчаціла пабываць на экскурсіі на возеры Нарач, дзе мы сустрэліся з Міхасём Лыньковым і Максімам Танкам. Хадзілі ў паход у Мікалаеўшчыну і наведалі Альбуць. Пазнаёміліся з Салігорскам, які на той час яшчэ толькі будаваўся. Ездзілі ў Нясвіж, а на веласіпедах – у недалёкую ад Навасёлак Чырвоную Зорку – колішнія Радзівілімонты.

Заканчэнне ж школы – жаданне адчуць рамантыку далёкіх дарог. Не ведаю, хто стаў ініцыятарам – відаць, усё ж нехта з тых, хто не надта вучыўся, таму і вырашыў праверыць, як павядуць сябе ахвочыя паступаць у ВНУ. А ў выніку з'явілася прапанова ўсім класам паехаць на якую-небудзь камсамольскую будоўлю. Бацькі мае, даведаўшыся пра гэта, адгаворвалі як толькі маглі. Я ж цвёрда стаяў на сваім: «Як усе, так і я!» Заяву падпісаў увесь клас, за выключэннем адной выдатніцы.

Няцяжка ўявіць сябе, якія «рамантычныя» далягляды чакалі нас, калі б да гэтай прапановы не паставіліся цвяроза ў райкаме камсамола. Там, відаць, не захацелі сабе лішніх турбот. А можа знай-

шоўся нейкі добры чалавек, які зразумеў, што такая рамантыка, калі яна будзе ажыццёўлена, нічым добрым для нас не скончыцца. І мы атрымалі адказ, у якім гучала падзяка за такі патрыятычны ўчынак і шкадаванне, што просьбу задаволіць немагчыма, паколькі жадаючых паехаць на камсамольскія будоўлі шмат. Таму давялося нам думаць аб менш рамантычнай жыццёвай дарозе.

Мяне даўно вабілі тры прафесіі. Паколькі недзе з класа сёмага актыўна супрацоўнічаў у друку, само сабой зразумела, прыцягвала журналістыка. Не супраць я быў і таго, каб стаць юрыстам. А яшчэ чамусьці хацелася быць кінаінжынерам. Ад такой спакусы адмовіўся, калі даведаўся, што гэтую прафесію можна атрымаць толькі ў Ленінградзе ці Харкаве. Значыць, жадаючых з усяго Савецкага Саюза набярэцца шмат. Ведаў і пра вялікія конкурсы на юрыдычны факультэт. Заставалася журналістыка. З загадзя напісанай заявай і падаўся ў Мінск.

У прыёмнай камісіі Беларускага дзяржаўнага універсітэта, прачытаўшы яе, рассмяяліся, бо я прасіў «прыняць мяне на аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта», а не проста «дапусціць да экзаменаў». Але не толькі рассмяяліся, а і расчаравалі. Як высветлілася, на аддзяленне журналістыкі прымалі толькі тых, хто меў двухгадовы стаж. Тут жа, аднак, параілі мне: чаму б не паступаць на аддзяленне беларускай мовы і літаратуры. Факультэт жа адзін, а пасля можна і перавесціся. З такой прапановай я пагадзіўся і напісаў адпаведную заяву.

Даведаўшыся пра ўсё, бацькі не знаходзілі сабе месца. Іх можна было зразумець. Што давялося перажыць маме, працуючы настаўніцай, я гаварыў ужо. Не лягчэй даводзілася і тату. І з-за яго прынцыповасці, і з-за таго, што гаварыў начальству праўду, а яшчэ таму, што з гэтым начальствам ніколі за чаркай не сядзеў. А тут адзіны сын збіраецца таксама настаўнікам стаць. У рэшце рэшт вырашылі, што ўсё ж трэба паступаць.

Уступныя экзамены ва універсітэт я здаў паспяхова, атрымаў толькі адну чацвёрку. Па сачыненні. І здагадваюся чаму. Няправільна напісаў сваё імя па бацьку. Замест «Андрэевіча» з’явілася «Андрэявіча». Такія выпадковыя памылкі часта бываюць у многіх пры нервовым напружанні. Але настаўнікам я ўсё раўно станавіцца не збіраўся. І нават калі на другім курсе пісалі сачыненне аб сваёй будучай прафесіі, вырашыў прызнацца, што, нягледзячы ні на што, мару стаць журналістам. Выкладчыца не раскрыла майго сакрэту, толькі пры ўсіх пажадала, каб мая мара абавязкова збылася.

І я пачаў абіваць парогі перад універсітэцкім начальствам. Спачатку, як і трэба было, звярнуўся да дэкана філалагічнага факультэ-

та Р. Булацкага. На здзіўленне, Рыгор Васільевіч да ўсяго паставіўся з паразуменнем, хоць я яму ў якасці доказу сваёй «журналісцкай» дзейнасці прапанаваў у асноўным усяго толькі выразкі інфармацый. Далей трэба было ісці да прарэктара універсітэта па навучальнай частцы. На жаль, там атрымаў адмоўны адказ.

Паспрабаваў перавесціся на завочнае аддзяленне, уладкаваўся ў рэдакцыю слуцкай раёнкі, але працаваў там усяго нейкія два летнія месяцы. Стала сумна, захацелася да сяброў-студэнтаў. Вярнуўся назад ва універсітэт. І, на шчасце, праз некалькі тыдняў, у пачатку трэцяга курса ажыццявіў сваю мару. Дапамог родны брат адной нашай настаўніцы, які працаваў ва універсітэце.

Перавесці дык перавялі. Але не адлічылі з завочнага аддзялення, дзе я таксама лічыўся студэнтам. Таму мяне выклікалі на экзамены, дасылаючы ліст на адрас маіх бацькоў. Я, зразумела, ігнараваў падобныя запрашэнні. Мяне папярэджвалі, што за нездачу экзаменаў могуць пакараць. І, нарэшце, зразумеўшы, што я не збіраюся рабіць аніякіх вывадаў, адлічылі з завочнага аддзялення, чым вельмі напалохалі маіх бацькоў.

На гэты час аддзяленне журналістыкі стала самастойным факультэтам. Вучылася мне нялёгка. На беларускім аддзяленні на працягу трох семестраў з'яўляўся выдатнікам. Маё фота вісела на дошцы гонару (і гэта ў той час, калі я, у адрозненне ад іншых выдатнікаў, ніякай грамадскай работай па-ранейшаму не цікавіўся). Цяпер жа нават стыпендыі не атрымліваў, бо ніяк не змог здаць запазычанасць.

Справа ў тым, што тады тэрмін навучання на беларускім аддзяленні быў пяць гадоў, а журналістаў рыхтавалі ўсяго за чатыры. Таму, нягледзячы на падобнасць праграм, мне давялося тэрмінова здаваць шмат экзаменаў і залікаў, каб нагнаць упушчанае. Круціўся, як тая вавёрка ў коле, і здавалася гэтаму не будзе канца. Нарэшце ўздыхнуў з палёгкай. Але за дзень да дзяржаўнага экзамена па гісторыі КПСС высветлілася, што засталася нездадзенай яшчэ тэхніка афармлення газеты. Ажно за першы курс!

Яна таксама магла б быць здадзенай, калі б я ў апошні момант... не спалохаўся. А было гэта на самым завяршэнні вучобы ва універсітэце. Давяраючы нам, у дэканаце прапанавалі кожнаму самому запоўніць бланк, пазначыўшы як здадзены той ці іншы прадмет. Я зразумеў, што ў мяне няма залікаў па фотасправе і яшчэ па нейкім прадмеце, цяпер забыў, па якім. Нядоўга думаючы, я пазначыў, што ўсё ў парадку. Заставалася яшчэ тэхніка афармлення газеты. Пайсці б мне ранейшым шляхам, але гэта быў экзамен. Калі заўважаць... Заўважылі, што не здадзены.

Аб тым, каб падрыхтавацца да яго за дзень-другі, і гаворкі не магло ісці. Дапамагла сакратарка Р. Булацкага. Яна папрасіла выкладчыка А. Балаша гэты экзамен усё ж прыняць у мяне. І ён згадзіўся, бо дзяўчына была вельмі прыгожая. Праўда, ставячы тройку мне, зазначыў нешта накшталт таго, што раўнуе, але ў просьбе адмовіць не можа.

Экзамены здадзены, пачалося размеркаванне... Як і заўсёды ў падобных выпадках, ці не ўсе марылі застацца ў Мінску. Вядома, не супраць гэтага быў і я, тым больш што друкаваўся ў многіх выданнях, практыку праходзіў у рэдакцыях газет «Знамя юности» і «Чырвоная змена». Але якраз з’явілася пастанова ЦК КПСС аб узмацненні ролі раённых газет, а таму ўсіх нас у спешным парадку накіроўвалі ў раёнкі. Я выбраў драгічынскую газету, пераблытаўшы са столінскай. А ў Століне, як даведаўся перад гэтым, якраз адкрылі новы кінатэатр, таму меркаваў, што ў гэтым горадзе будзе не так сумна.

Папрацаваўшы ў рэдакцыі драгічынскай раённай газеты «Запаветы Леніна» адзінаццаць месяцаў загадчыкам аддзела пісем і масавай работы, паехаў у адпачынак да бацькоў. Аднак свой  водпуск не дабыў некалькі дзён, прыйшла тэлеграма з ваенкамата – прызывалі ў армію. Я ўжо ведаў, што давядзецца ісці ў войска. Праўда, не здагадваўся, што гэта адбудзецца так хутка. А прыспешыў, па сутнасці, сам.

Калі мяне папярэдне выклікалі ў Драгічынскі ваенкамат, сказалі, што мае дакументы перададуць у Брэсцкі абласны. Праз некаторы час прыйшла позва і з абласнога. Гутарыў са мной сам ваенкам. Цікавіўся працай, спытаў, ці ўступіў у партыю. Даведаўшыся, што камуністам не з’яўляюся, параіў уступіць і зазначыў: «А праз год я цябе накірую ў рэдакцыю газеты Ленінградскай ці Уральскай ваеннай агругі, а яна размяшчаецца ў Свярдлоўску». Такая перспектыва, канешне, была заманлівай, але каб гэта адбылося адразу, не чакаючы года... «Нічога не магу зрабіць, – адказаў ваенкам, – каб стаць ваенным журналістам, трэба быць камуністам». На яго словы я адрэагаваў прыкладна так: «Раней сядзеш, раней выйдзеш! Прызывайце адразу!» – чым яго здзівіў.

Калі пасля шумных провадаў у рэдакцыі завітаў да раённага ваенкама, той, паглядзеўшы на мяне, адказаў: «Баюся, што так ты да Чыты не даедзеш». Баяцца яму было чаго. Не ведаю, як і дзе гэта атрымалася, але правае вока ў мяне было падбіта.

Эх, гэтае маё правае вока! Каб я ведаў усё, з-за яго ў войска не трапіў бы. А сутнасць у тым, што правым вокам я слаба бачу ад нараджэння. Акуляры не дапамагаюць, бо ўсё па-ранейшаму паўстае як у тумане. І нават першыя, самыя вялікія літары «Ш» і «Б» на табліцы, па якой звычайна правяраюць зрок, падказваюць мне

акулісты. Я іх называў проста па памяці. А трэба было не называць. Урачы ўсё ведалі, але маўчалі, бо для раёна быў «спушчаны» план прызыву афіцэраў запасу, а кандыдатаў не ставала.

Нездарма кажуць: як пачнеш, так і скончыш. Гаворка зусім не пра падбітае вока. Па прыездзе ў Чыту, дзе знаходзіўся штаб Забайкальскай ваеннай акругі (кожны афіцэр запасу дабіраўся самастойна), я не ведаў, дзе пераначаваць. Месца ў гасцініцах знайсці не ўдалося, таму вырашыў перачакаць ноч на чыгуначным вакзале. Падышоў да буфета, папрасіў шклянку кавы з малаком, некалькі бутэрбродаў.

Не паспеў адысці да свабоднай стойкі, як жахнуўся. Мужчына, які стаяў непадалёку ад прылаўка, нечакана схапіў нож – той самы, якім буфетчыца толькі што рэзала хлеб і каўбасу, і паласнуў ім сабе па жываце. Выкліканая «хуткая» яго ўратаваць не змагла. Я ж падумаў: благі гэта для мяне знак.

Раніцой быў у штабе акругі, дзе сабраліся гэткія ж толькі што прызваныя афіцэры з многіх куткоў Савецкага Саюза. Мог быць са мной і мой аднакласнік Лёня Бохан, які працаваў у Наваполацку, а сустрэліся мы з ім у цягніку «Россия». Лёню таксама прызвалі ў армію, і ён, як і я, ехаў у Чыту. Як чалавек, які адслужыў тэрміновую службу салдатам, добра ведаў армейскія парадкі: «Куды спяшаешся? Ты ж прыбудзеш на некалькі дзён раней?» – і прапанаваў мне: «Давай са мной сыдзем, тут у мяне дзядзька жыве...» Не памятаю, які горад з тых, праз які праходзіў цягнік, ён назваў. Я адмовіўся і далей паехаў адзін.

У штабе з многімі з тых, хто прыехаў сюды гэтаксама, як і я, хутка паспеў пазнаёміцца. Часу ставала, бо да начальства выклікалі па аднаму, дзе і паведамлялі аб далейшым лёсе кожнага. Большасць ехалі ў Даурыю, на самай мяжы з мангольскай граніцай. Трапіўшы ў кабінет, у Даурыю папрасіўся і я. Члены камісіі паглядзелі на маё падбітае вока. Мабыць, усё ж я ім нечым спадабаўся, бо адзін падпалкоўнік – ён, відаць, быў галоўным – усміхнуўся:

– Какая еще Даурия? Ты был там? Поезжай в Улан-Удэ! Потом мне ещё спасибо скажешь...

Трапіў я, праўда, не ў самую сталіцу Бурацііі, а ў часць, якая знаходзілася ад Улан-Удэ ў трыццаці кіламетрах. І сапраўды, неаднойчы добрым словам прыгадваў таго невядомага мне падпалкоўніка. У Даурыі, як даведаўся ад афіцэраў, якія раней служылі там, часам зусім не было вады. Нават каб памыць раніцой твар, карысталіся запасамі мінералкі. А ў Улан-Удэ я бываў у тэатрах, наведваўся ў музеі, друкаваўся ў газетах «Правда Бурятии» і «Молодежь Бурятии», а таксама ў некаторых раённых.

Вольнага часу ставала, бо службай сябе асабліва не абцяжарваў. І хутка пераканаўся, што і многія кадравыя афіцэры да яе ставіліся адпаведным чынам. Асабліва тыя, у каго сем'і засталіся ў Маскве, Ленінградзе. Самі яны апынуліся тут пасля таго, як кітайцы паабяцалі зрабіць Савецкаму Саюзу «падарункі» да 50-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі. Тады ў Бураціі і былі спешна разгорнуты новыя вайсковыя часці. Дзве з іх апынуліся ў 30 кіламетрах ад Улан-Удэ. У іх прыслалі многіх афіцэраў з прэстыжных ваенных акруг. Далейшае ўмацаванне гарнізонаў адбывалася пасля вядомых падзей на востраве Даманскім і пад Семіпалацінскам. Нямала трапіла сюды і такіх афіцэраў, якія за нейкую правіннасць мусілі пакінуць месца сваёй папярэдняй службы ў Германіі. Таму ў часцях і панавала адпаведная атмасфера.

За што ўдзячны арміі, дык за тое, што ў камандзіроўцы пабываў у Якуціі, правёўшы там некалькі месяцаў улетку. Чаго шкадую, дык таго, што не з'ездзіў у Пятроўск-Забайкальскі – усяго 70 кіламетраў ад нашай часці. А там жа некалі жылі многія дзекабрысты, там пахаваны і наш зямляк Іван Гарбачэўскі, адзін з самых сумленных у гэтай кагорце барацьбітоў з царызмам. І да свяшчэннага мора – Байкала – было ўсяго 200 кіламетраў, толькі ў зваротным накірунку.

Калі ж прыйшоў загад аб звальненні ў запас, выпісаў праязныя дакументы да Ленінграда, дзе на той час жыла мая старэйшая сястра з мужам, які два гады пасля заканчэння політэхнічнага інстытута служыў у Ленінградскай ваеннай акрузе. Знаходжанне ў Паўночнай Пальміры прынесла шмат радасных хвілін. А дома без справы доўга не сядзеў. У Драгічын і не думаў вяртацца, хацелася працаваць бліжэй да Мінска. Ды і тадышні галоўны рэдактар капыльскай раённай газеты «Слава працы» В. Семянкевіч, даведаўшыся, што я звольніўся ў запас, быў не супраць, каб прыйшоў на працу менавіта да іх. І я ўладкаваўся ў «Слава працы», але папрацаваў усяго некалькі месяцаў, перавёўся ў Слуцк.

Летам 1972 года патэлефанаваў мне Алесь Масарэнка, з якім пазнаёміўся, калі праходзіў практыку ў «Чырвонай змене». Ён паведаміў, што цяпер з'яўляецца адказным сакратаром часопіса «Полымя», прапанаваў пераходзіць да іх. Я паехаў у Мінск, меў гутарку з галоўным рэдактарам Кастусём Кірэенкам. Паабяцаў напісаць заяву і перадумаў. У Мінск, канешне, хацелася вельмі, але ж часопіс – не газета, давядзецца «садзіцца», па сутнасці, на адну зарплату. Дый кватэру шукаць, а ў Слуцку меў месца ў інтэрнаце.

Праз нейкі месяц – чарговы званок з Мінска. Гэтым разам ад галоўнага рэдактара штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» Хведара Жычкі. З аналагічнай прапановай. Як даведаўся па прыездзе

ў Мінск, таксама пастараўся А. Масарэнка. Гэтым разам згадзіўся. Аддаў працы ў «ЛіМе» 27 з паловай гадоў: рэдактар аддзела літаратурнага жыцця, перад гэтым быў рэдактарам аддзела інфармацыі, яшчэ раней – супрацоўнікам аддзела літаратуры.

Я, не пабаюся гэтага сказаць, з тых людзей, якія менш за ўсё думаюць пра славу, але што люблю, дык справядлівасць. Крыўда за тое, што за гэты час я так і не стаў рэдактарам аддзела крытыкі і бібліяграфіі ў газеце, якую даўно лічу сваёй і люблю, засталася па-сённяшні дзень. І гэта пры тым, што загадвалі ім у розныя гады тыя, хто за сваё жыццё напісаў толькі некалькі рэцэнзій і, што самае прыкрае, нават не ведае, якія кнігі выходзяць у тым ці іншым выдавецтве.

Хоць чаго крыўдаваць?! Сёння ж яны самыя заўзятыя «дэмакраты». Як і «дэмакраты» некаторыя з тых колішніх галоўных рэдактараў «ЛіМа», якія ніколі не любілі праўды. Цяпер яны клянуцца, што іх прымушалі ўступаць у партыю, а вось мяне ў яе чамусьці не прымалі. Не прымалі, бо заўсёды рабіў так, як лічыў патрэбным, не ішоў на кампрамісы з сумленнем. Камуністам я стаў толькі тады, калі «пацукі» разбягаліся ва ўсе бакі. І не пабаяўся. Нават «Звязда» ў справаздачы з таго партыйнага сходу паведаміла, што іншыя выходзяць з партыі, а Алесь Марціновіч уступіў у яе. Уступіў, каб хоць гэтым даказаць, што не такі, як яны. А мо і не трэба было ўступаць. Партыя ж пасля майго ўступлення праіснавала толькі некалькі месяцаў. Калі б раней уступіў, яе, магчыма, і раней не стала б.

Не трэба ўсміхацца з падобнага майго сцверджання. Не ведаю, чаму так атрымліваецца, але магу прывесці нямала прыкладаў са свайго жыцця, якія сведчаць на карысць таго, што вакол мяне нібы нейкае зачараванае кола. Мяркуйце самі...

Трэба заканчваць школу – навучанне працягваюць на адзін год, замест дзесяцігодкі становіцца адзінаццацігодка.

Збіраюся паступаць на аддзяленне журналістыкі – уводзяць абавязковы працоўны стаж.

Заканчваю універсітэт – усіх размяркоўваюць у раённыя газеты.

Без прапіскі працую ў Мінску не адзін год, вырашаюць будаваць метро, а таму, каб у горадзе афіцыйна налічвалася больш за мільён насельніцтва, прапісваюць усіх. І трэба ж так здарыцца, што менавіта ў гэты час я згубіў пашпарт.

Нарэшце, уступленне няўдалае ў партыю.

І падобных прыкладаў яшчэ мог бы прывесці шмат.

Ды ўсё ж, што ні адбываецца, да лепшага. Прапісаўся я 3 сакавіка 1979 года. Ніколі не забуду гэты дзень. Не забуду, бо, пачынаючы з яго, для мяне ў «ЛіМе» пайшло новае жыццё. Усе тыя, хто сустрэў маё з'яўленне ў штотыднёвіку ў штыкі, бо не любілі

галоўнага рэдактара Хв. Жычку, а таму і тых, каго ён узяў на работу, нарэшце адчулі, што магу на планёрках даваць належны адпор. Дагэтуль жа мусіў увесь час, як пераступіў «лімаўскі» парог, маўчаць. А яны гэтым карысталіся.

Не было ніводнай планёркі, каб той ці іншы мой матэрыял не раскрытыкавалі. І хто? Тыя, хто, апроч «ЛіМа», больш нідзе надрукавацца не мог. Тыя, хто браў гатовыя тэмы з «Литературной газеты» і проста аздабляў іх мясцовымі фактамі. Адзін з тых «вялікіх публіцыстаў» нават абяцаў мне звальненне ў сувязі з прыходам новага галоўнага рэдактара Алеся Асіпенкі. Распусціў па рэдакцыі чуткі, што Алесь Харытонавіч, маўляў, з Марціновічам цырымоніцца не будзе: няма мінскай прапіскі – будзь здароў.

Пробны камень, аднак, быў кінуты зусім не ў «ЛіМе, а ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук Беларусі. Адна навуковая супрацоўніца не стрымалася. Калі туды завітаў А. Асіпенка дзеля наладжвання творчага супрацоўніцтва, яна заявіла, што Марціновіч і сякі і такі. А што адказаў на гэта Алесь Харытонавіч? Ды прыкладна так: «Каб мне яшчэ толькі некалькі такіх супрацоўнікаў, як Алесь, іх дастаткова было б, каб выпускаць газету». Расказвалі тыя, хто на гэтай сустрэчы прысутнічаў.

Магчыма, мае «дабрадзеі» спадзяваліся і на тое, што А. Асіпенка прыгадае мой «грашок», а з пункту гледжання тагачаснай ідэалогіі – і немалую правіннасць. Адбылося ж усё ў тым жа 1972 годзе, неўзабаве пасля таго, як я прыйшоў на працу ў «ЛіМ». Якраз спаўнялася 50 гадоў з дня выхаду першага нумара часопіса «Полымя». Юбілейныя матэрыялы даручылі падрыхтаваць мне. Параіўшыся з Хв. Жычкам, сышліся на тым, што няблага расказаць пра першы нумар гэтага выдання, апошні перадваенны і першы пасляваенны.

Я адразу заспяшаўся ў тагачасную «Ленінку», дзе заказаў адпаведныя нумары. Пра іх змест і расказаў на старонках «ЛіМа», а пасля... Напаткаў неяк мяне Варлен Бечык і папярэдзіў: быць непрыемнасцям. А ўся справа ў тым, што я, пералічваючы публікацыі ў апошнім перадваенным нумары «Полымя», згадаў прозвішчы трох пісьменнікаў, якія тады замоўчваліся. Праўда, Варлен Леанідавіч паспяшаўся мяне супакоіць: «Пра гэта я нікому не скажу, аднак...» Ён назваў прозвішча вядомага пісьменніка: «Гэты абавязкова паведаміць «наверх»...» Што ён паведаміць, для мяне сумненняў не заставалася, бо згаданы празаік даўно знаходзіўся ў непрыязных адносінах з Хв. Жычкам.

Так і адбылося. Хутка я даваў тлумачэнні ў ЦК КПБ, а пасля спецыяльная камісія, якую ўзначалілі загадчыкі двух аддзелаў ЦК Станіслаў Марцалеў і Савелій Паўлаў, працавала ў «ЛіМе». Усё да-

пытваліся ў мяне, ці зрабіў я гэта па няведанню, ці падказаў зрабіць так... Алесь Масарэнка. А той «дабрадзей» якраз працаваў з А. Масарэнкам у «Полымі». Ён і ведаў, што, калі збіраліся адзначаць 50-годдзе часопіса, я і з А. Масарэнкам раіўся. Пасля праверкі мяне, праўда, толькі папярэдзілі, каб нічога падобнага больш не было.

У «ЛіМе» мне даводзілася працаваць пры розных галоўных рэдактарах. Акрамя згаданых Хв. Жычкі і А. Асіпенкі гэта былі Алесь Жук, Анатоль Вярцінскі, Мікола Гіль, Уладзімір Някляеў, Алесь Пісьмянкоў. Пры адных было прасцей, пры другіх – у чымсьці цяжэй. І ўсё ж менавіта А. Асіпенка вылучаўся сярод іншых. Адрозніваўся ён тым, што з'яўляўся менавіта галоўным рэдактарам, і калі ўзнікалі ў калектыве нейкія канфлікты, стараўся іх як мага хутчэй «патушыць». Найперш, дарэчы, адчувалі ягоную патрабавальнасць і сумленнасць тыя, хто прывык да групаўшчыны і спрабаваў працягваць на планёрках напады на мяне і на некаторых іншых супрацоўнікаў, хто не жадаў рабіць так, як рабілі яны. А ў цэлым я толькі ўдзячны лёсу, што, трапіўшы на працу ў штотыднёвік, змог пазнаёміцца з многімі выдатнымі пісьменнікамі, а з некаторымі і пасябраваць. І, несумненна, дзякуючы «ЛіМу» я ўступіў у Саюз пісьменнікаў БССР, выдаў свае кнігі, колькасць якіх ужо наблізілася да дваццаці.

Жывучы і працуючы ў тым жа Слуцку, не зрабіў бы гэтага. І не таму, што не пісаў рэцэнзій, артыкулаў. Пісаў, і шмат пісаў, але прабіцца на старонкі рэспубліканскіх газет і часопісаў паступова станавілася цяжэй, чым у гады майго студэнцтва. Адна справа, калі прыязджаеш у рэдакцыю з раёна, і зусім іншая, калі жывеш у самім Мінску.

Тым больш не з'явіліся б мае кнігі гістарычных эсэ, нарысаў «Зерне да зерня», за якую ў 1998 годзе атрымаў Дзяржаўную прэмію Рэспублікі Беларусь (кніга літаратурна-крытычных артыкулаў «Сувязь» адзначана Літаратурнай прэміяй імя Максіма Багдановіча, «Дзе ж ты, храм праўды» – Літаратурнай прэміяй імя Уладзіміра Калесніка), «Хто мы, адкуль мы» (у двух тамах), «У часе прасветленыя твары», прысвечаныя знакамітым людзям, якія нарадзіліся на Беларусі, і некаторым з тых, хто звязаў свой лёс з нашай зямлёй. Калі б не жыў у Мінску, не напісалася б і кніга «Ля Каменкі бруістай», у якой прасочваецца гісторыя Капыльшчыны.

Каб напісаць усё гэта, неабходна мець пад рукой шмат матэрыялаў, а знайсці іх можна толькі ў найбуйнейшых бібліятэках, архівах. З раённага ж цэнтра шмат не наездзішся. Праўда, можна згадаць Міколу Ермаловіча, але ж з Маладзечна ў сталіцу прасцей дабірацца дый танней – рэгулярна ходзяць электрычкі. Шкадую толькі, што позна ўзяўся за такую працу.

Магчыма, знойдуцца жадаючыя мне запярэчыць, што ў так званыя «застойныя часы» наўрад ці можна было б падобныя кнігі выдаць. Як сказаць. Для прыкладу, у маёй кнізе «У часе прасветленыя твары» расказваецца пра людзей, якія ўвайшлі ў гісторыю не толькі Беларусі, а і Расіі, а тады такія творы з задавальненнем друкаваліся. Іншая справа, што насцярожана ставіліся да Еўфрасінні Полацкай» («Святая Еўфрасіння» – адна з маіх кніг для дзяцей, што вытрымала два выданні), Кірылы Тураўскага (і пра яго напісаў кнігу для дзяцей)... Але лепш позна, чым ніколі. Працягваю працу над новымі гістарычнымі эсэ, нарысамі. У творчых планах – задумкі чарговых кніг. Адно непакоіць: з кожным годам становіцца ўсё цяжэй выдавацца, дый здароўе – не ранейшае. Але праца, не крыўлю душой, прыносіць задавальненне. І хочацца працаваць далей.

...Мне часта сніцца адзін і той жа сон. Калі ён упершыню прыйшоў, прыгадаць не магу. Відаць, усё ж пасля перанесенага інфаркту. Але кожны раз бачу, быццам наяву, вялікі дом у некалькі пакояў. Даўно ведаю размяшчэнне і прызначэнне кожнага з іх. Магчыма, гэта частка майго колішняга існавання. Нездарма ж кажуць, што чалавек жыве не аднойчы, а некалькі разоў. І кожны раз з'яўляецца на свет іншым. Значыць, адышоўшы ў вечнасць, я, як і ўсе мы, грэшныя, калі-небудзь зноў вярнуся на зямлю.

Нічога не скажаш: заманлівая перспектыва! Ды толькі б хацелася, каб і новае маё жыццё, калі яно і сапраўды магчыма, заставалася б у агульных рысах менавіта такім, якое яно сёння. Я цалкам падзяляю радкі вядомай песні: «Если б снова начать, я бы выбрал опять...» І таму, што яна прысвечана прафесіі журналіста – маёй асноўнай прафесіі. Дый таму яшчэ, што яна, як мне падаецца, вельмі дакладна выказвае сутнасць таго, што адпавядае памкненням чалавека, які любіць сваю справу, любіць сваё жыццё.

Не магу сказаць, што яно мяне песціла: тое, чаго я дасягнуў, далося няпроста. Можа нават завельмі няпроста. Не хачу, каб хтосьці іншы з такой цяжкасцю самасцвярджаўся. Усё ж лепей, калі многае даецца без асобай напругі, без падобных высілкаў, перажыванняў. Але гэта – МАЁ ЖЫЦЦЁ. І калі б на нейкім павароце, нават на самым маленькім паўстанку, штосьці адбылося інакш, далейшыя падзеі разгортваліся б у іншым накірунку. А я гэтага не хачу.

3–5 студзеня 2000 г.

P. S.

Пісаліся гэтыя старонкі яшчэ па замове Навума Гальпяровіча (ён тады быў сакратаром праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі), калі рыхтавалася чарговая кніга аўтабіяграфій беларускіх пісьменнікаў, складальнікам якой ён збіраўся быць. Ды кніга гэтая так і не

пабачыла свет. Я ж, перачытаўшы напісанае мною некалькі гадоў назад, вырашыў пакінуць усё, як і было. Хіба толькі зраблю некаторыя ўдакладненні.

Для дзяцей у мяне яшчэ выйшлі кнігі «Сімяон, сын Полацка», «Як Гурка ворагаў граміў». Асабліва прыемна, што з'явіліся чарговыя з цыклу «Хто мы, адкуль мы» – «Элегіі забытых дарог», «Сполахі далёкіх зарніц» (ёю выдавецтва «Мастацкая літаратура» пачало новую серыю «Гісторыя ў асобах»), вось-вось на падыходзе «Свечка на золкім ветры». Парадавала мяне і выдавецтва «Народная асвета», даўшы зялёнае святло кнігам «Святло чароўнага ліхтарыка» ў двух частках (пра дзіцячую літаратуру), «Іван Чыгрынаў».

P. S.

У Навасёлкі ж я зазірнуў толькі ў 2007 годзе.

Дагэтуль некалькі разоў пляменнік вазіў туды маю маму (маме ўжо ідзе 89 год), а таму яна неаднойчы расказвала мне, што вакол хаты, у якой мы некалі жылі, усё вельмі зарасло, на што я спакойна адказваў: «А чаму асабліва здзіўляцца? Прырода бярэ сваё». Калі ж завітаў у вёску, дзе пайшло маленства і юнацтва, не тое што здзівіўся – жахнуўся.

Ехалі на рэдакцыйнай машыне. З правага боку, дзе стаяла наша хата, а гэта крыху на водшыбе ад цэнтра Навасёлак, пры пад'ездзе ўзбоч вуліцы невядома адкуль з'явілася столькі кустоў, што я, як ні прыглядаўся, не ўбачыў варотаў, якія вялі ў двор. Толькі калі злева паўстаў будынак лазні, сказаў шафёру: «Разварочвайся, праехалі». А далей было тое, ад чаго стала не па сабе. Я рушыў туды, дзе павінны былі стаяць вароты, і апынуўся ў самых што ні ёсць... джунглях. Пераадольваў іх, памятаючы, што злева знаходзіцца паваротак да калодзежа, адкуль да хаты ўсяго нейкі метр-два. Але кусты, маладыя дрэўцы перашкаджалі яго ўбачыць. Уражаны, паклікаў шафёра. І мы ўжо разам з цяжкасцю пачалі прабірацца ўперад, пакуль я нарэшце не ўздыхнуў: «Здаецца, тут».

Калі б хто сказаў мне, што за дзевяць гадоў гадоў можа такое адбыцца, ні за што не паверыў бы. Кусты, парасткі асін (гэтыя атожылкі тата заўсёды вясной і восенню старанна скошваў) сталі суцэльнай сцяной. Толькі старанна прыгледзеўшыся, я наперадзе ўбачыў вугал хаты, якую акружаў гэтаксама зараслы сад... Ад пабачанага мне стала настолькі не па сабе, што пра даўнюю мару развітацца па-людску і думаць не хацелася. Я развярнуўся і рушыў назад.

Цяпер ужо і хаты няма. Што яе знеслі, сказала мне начальнік планавага аддзела РВУ «Литература и Искусство» З. Калоднік. Зінаіда Мікалаеўна – родам з Навасёлак, часта наведваецца туды. Што рана ці позна хату знясуць, я зразумеў, калі мне патэлефанаваў сам

старшыня Браткаўскага сельсавета, на тэрыторыі якога і знаходзяцца Навасёлкі. Было гэта акурат пасля таго, калі паўстала пытанне аб добраўпарадкаванні зямельных участкаў. Ён вельмі здзівіўся, калі даведаўся, што я не гаспадар гэтай пабудовы, а яна належыць школе. «Значыць, будзем зносіць», – прагучала ў трубцы.

Я таксама ўжо працую ў РВУ «Литература и Искусство», з'яўляюся намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Нёман». Час, што прайшоў з дня папярэдняга ўдакладнення ў аўтабіяграфіі, стаў для мяне ў творчых адносінах вельмі плённым. Выйшлі кнігі «Свечка на золкім ветры», «Птушкі з пакінутых гнёздаў», «Маладзік над заснежаным шляхам» ва ўжо названай серыі «Гісторыя ў асобах», а таксама трэцяя кніга «Хто мы, адкуль мы...». Сёлета выдавецтва «Беларусь» усе тры выпусціла трохтомнікам. Для дзяцей прыйшлі яшчэ дзве мае кнігі: «Святая Еўфрасіння, альбо Дакуль ёсць, пайшла Полацкая зямля» (у параўнанні з папярэднімі выданнямі яна ці не ў два разы пашырана, вялікая ўвага, як і відаць з назвы, удзелена гісторыі Полацкай зямлі) і «Горадна, Горадзен, Гродна», апошняя ў серыі «Твае гарады, Беларусь». У «Бібліятэцы Саюза пісьменнікаў Беларусі» пабачыў свет аднатомнік «Зерне да зерня». Разам з Уладзімірам Вялічкам і Васілём Шырком выдалі двухтомнік «Зямля любові нашай», змест якога склалі лепшыя матэрыялы, што публікаваліся ў часопісе «Беларуская думка».

З рук Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі я атрымаў медаль Францыска Скарыны. Узнагароджаны медалём імя Мусы Джаліля. Мая кніга «Птушкі з пакінутых гнёздаў» адзначана прэстыжнай літаратурнай прэміяй «Залаты Купідон». Яшчэ адну падобную прэмію мне прысудзілі разам з У. Вялічкам і В. Шырком за кнігу «Зямля любові нашай». Другі раз стаў заслужаным журналістам Беларускага Саюза журналістаў, маю прэмію БСЖ «Залатое пяро», з'яўляюся заслужаным членам Саюза пісьменнікаў Беларусі.

І, канечне ж, пішу новыя кнігі. Калі яны выйдуць, каб не сурочыць, не скажу. А хацелася б, каб выйшлі. А яшчэ хацелася б, каб хораша склалася жыццё маіх сыноў Дзяніса і Ягора, якім і прысвечаны кнігі «Хто мы, адкуль мы...». Дарэчы, старэйшы ўжо перайшоў на пяты курс гістарычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта, а малодшы, Ягор – трэцякурснік Інстытута журналістыкі БДУ. Абодва выступаюць у друку. Дзяніс у асноўным цікавіцца гістарычнай праблематыкай. Значыць, у чымсьці ідуць і маім шляхам. А мне заўтра ўжо 62 гады!

*17 жніўня 2008 года*



***Мушынская***
***Тацяна Міхайлаўна***

## У САМЫХ РОЗНЫХ ЖАНРАХ…

Ці можна на дзесяці або пятнаццаці старонках камп’ютэрнага тэксту адлюстраваць уласнае жыццё? Распавесці пра самае адметнае ў ім, самае ўзрушальнае, радаснае і драматычнае? Пра вызначальныя сустрэчы і падзеі, пра людзей, якія істотна і моцна паўплывалі на творчы лёс? Думаю, не. Таму кожная аўтабіяграфія – заўжды толькі фрагменты, нататкі, штрыхі.

У сэнсе фактаў і падзей мая выглядае даволі сціпла. Нарадзілася ў Мінску 26 чэрвеня 1958 года. У 1965-м пайшла ў сярэднюю школу № 93, якую скончыла ў 1975-м з залатым медалём. У той жа год паступіла на факультэт журналістыкі БДУ. Пасля яго заканчэння працавала ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва». З 1991-а перайшла ў часопіс «Мастацтва», дзе і сёння з’яўляюся рэдактарам аддзела музыкі. У сэнсе ўражанняў і творчых набыткаў біяграфія, думаю, непараўнальна больш цікавая.

Заўсёды была глыбока перакананая ў тым, што лёс кожнага, і чалавечы, і асабліва творчы, прадвызначаюць дзве акалічнасці – гены

і асяроддзе, атмасфера бацькоўскага дома. Ад таго часу, як зафіксаваліся ў памяці першыя ўражанні дзяцінства, мой бацька, Міхась Іосіфавіч Мушынскі, працаваў у Інстытуце літаратуры Акадэміі навук. Спачатку малодшым навуковым супрацоўнікам, пасля абараніў кандыдацкую, у другой палове 70-х – доктарскую дысертацыю. Зрабіўся вядомым беларускім вучоным, аўтарытэтным даследчыкам нацыянальнай літаратуры. Цяпер многія ягоныя навуковыя працы лічацца класікай айчыннага літаратуразнаўства. У дзяцінстве я, вядома, не магла менавіта так сфармуляваць, але тое, што бацькі абсалютна незвычайныя людзі, – такое адчуванне, а пазней усведамленне, было заўсёды.

Маці, Тамара Фёдараўна, больш за 25 гадоў выкладала ў школе рускую мову і літаратуру. Прафесіянал надзвычай высокага ўзроўню, яна ў дастаткова сталым узросце абараніла кандыдацкую дысертацыю. І на працягу апошніх дзесяці гадоў займалася складаннем праграм і хрэстаматый, напісаннем вучэбнікаў і дапаможнікаў па рускай літаратуры для сярэдняй школы. Шчыра кажучы, ганаруся тым, што па падручніках маёй мамы (няхай сабе напісаных і ў сааўтарстве) вучыцца ўся краіна! Мама таксама незвычайны чалавек. Напэўна, нездарма ўсе вучні, з якімі яна працавала, на каго паўплывала, а яны належаць нават да розных пакаленняў, памятаюць яе да сённяшняга часу, а пры сустрэчы цікавяцца: «Як там Тамара Фёдараўна?»

Што было і ёсць галоўнае ў характары бацькоў? Думаю, найвышэйшы прафесіяналізм і найвышэйшая інтэлігентнасць. Проста неверагодная, рэдкая па сённяшнім часе ўнутраная культура! Шчырая павага да іншага чалавека і высакароднае жаданне дапамагчы... Добры чараўнік – гэта, кажучы сучаснай тэрміналогіяй, энергетычны донар, які можа і згодзен дзяліцца жыццёвай энергіяй. Прычым, энергіяй вытанчанай, дасканалай, дабратворнай. Энергіяй, якая можа перамагчы разбуральную агрэсіўнасць. Добры чараўнік – гэта чалавек, побач з якім робіцца светла, душэўна цёпла, утульна і надзейна.

Атмасфера бацькоўскага дома сапраўды была дзівоснай творчай, радасна-ўсмешлівай, акрыленай. Такіх узаемаадносін у сям'і я больш не сустракала – нідзе і ніколі. Не памятаю ніякіх канфліктаў, раздражнення, звадак і сварак – па прычынах дробязных ці значных. Увесь лад жыцця ў бацькоўскай сям'і пераконваў: самае захапляльнае на свеце – свет прыроды, свет прыгожага пісьменства і свет мастацтва – музыкі, тэатра, кіно. Існуе агромністая, бязмежная, сапраўды касмічная прастора творчасці. За межамі яе, або паралельна, або побач існуе ўсё астатняе... І найгалоўнейшая мэта таго, хто хоча, каб яго жыццё было яркім, цікавым і захап-

ляльным, арганізаваць свой час так, каб месца для творчасці было як мага больш. А для дробных побытавых клопатаў, бессэнсоўных спраў і размоў – як мага менш.

Маленькі прыклад. У 1964-м мы пераехалі ў новую кватэру на вуліцы Якуба Коласа. У наступным годзе я пайшла ў школу, і тады ж бацькі купілі піяніна «Беларусь», каб дачка магла займацца музыкай. Купілі ў крэдыт, выплочвалі неабходную суму, пэўна, год. Кватэра здавалася агромністай і напаўпустой, нават патрэбнай мэблі не было.

Магчыма, не хапала многіх неабходных рэчаў, але бацька купіў кінакамеру і праекцыйны апарат, каб зафіксаваць на кінастужцы (няхай сабе і аматарскай, 8-міліметровай) самыя каштоўныя імгненні жыцця ўласнай сям'і, тады яшчэ малых дзяцей. А таксама падзеі жыцця літаратурнага, пісьменніцкіх з'ездаў і сходаў. Памятаю, як у нас дома ішоў мантаж і агучванне аматарскага фільма, прысвечанага школе, дзе мама працавала.

У 60–70-я гады, а потым і ў наступныя дзесяцігоддзі велізарнае месца ў жыцці – і маім, і ўсёй сям'і – займалі кнігі. Тэлевізары, у той час яшчэ чорна-белыя, былі рэдкасцю і мелі толькі адну праграму. Багатая бібліятэка пастулова фарміравалася дома, дзе кнігі ўспрымаліся як галоўны набытак і скарб. Але звычайна я была адначасова запісаная яшчэ ў некалькі бібліятэк. У школьную, і бібліятэку домакіраўніцтва, якая размяшчалася ў двухпакаёвай кватэры звычайнага жылога дома. Там працавала бібліятэкарам мама майго аднакласніка.

Школьныя гады прайшлі пад знакам чытання. Засваення літаратуры – і рускай, і беларускай, і замежнай. Надзвычай любіла пісаць сачыненні. Атрымліваліся яны ці не самыя грунтоўныя ў класе. Можна, вядома, і на пяць старонак у сшытку. Але чаму не на пятнаццаць? Асабліва, калі размова пра «Вайну і мір»...

Школьныя гады сталі часам адкрыцця свету музыкі, тэатра, кіно. Збірала і песеннікі з нотамі, якія можна было самой прайграць на піяніна, і пласцінкі, якія можна слухаць безліч разоў. Падзея, калі бацькі куплялі – уявіце, якое шчасце! – камплект пласцінак, дзе цалкам запісаны оперы «Яўгеній Анегін», «Травіята», «Аіда», балеты «Лебядзінае возера», «Спячая красуня», «Жызэль». Іх выпускала тагачасная фірма «Мелодыя». Усё слухалася – ды не аднойчы, пакуль сцэны з опер і аперэт на запаміналіся цалкам. А пра знакамітыя арыі і дуэты і казаць не трэба…

Споўнілася мне гадоў 11 ці 12, калі аднойчы бацька прынёс з акадэмічнай бібліятэкі манаграфію, прысвечаную Чайкоўскаму, вялізны том музыказнаўца Альшванга. Спачатку прачытала, а потым, седзячы за фартэпіяна, прайгравала найбольш вядомыя эпізоды

опер, балетаў, галоўныя музычныя тэмы. (Згадвала той эпізод летась, калі працавала над п’есай «Чайкоўскі. Версія»для драматычнага тэатра.) Дзіцячыя ўспаміны – яны вызначальныя. І – на ўсё жыццё...

У школьныя і студэнцкія гады час спрасаваны неверагодна. Паралельна з засваеннем музыкі ішлі заняткі ў студыі класічнага танца Рэспубліканскага Палаца культуры прафсаюзаў. Кіравала студыяй былая зорка айчыннага балета, народная артыстка Беларусі Аляксандра Нікалаева. Ці «баба Шура», як мы называлі яе за вочы. Праз два месяцы пасля пачатку рэпетыцый мы выйшлі на сцэну. Няхай сабе і ў масавым танцы... Але ўражанне ад сцэны, асветленай агнямі рампы і «юпіцераў», адчуванне чорнай агромністай прасторы залы, з’яднаныя і пераплеценыя неверагоднае хваляванне, страх, узбуджанасць – засталіся ў душы на ўсё жыццё. Сцэна – наогул зачараванае месца. І хто туды трапіў, асабліва ў юнацтве, ніколі болей са сцэнай не развітаецца.

Рэпертуар студыі аказаўся багаты – урыўкі з класічных балетаў, характарныя і народныя танцы. Студыйкам шылі сапраўдныя балерынскія пачкі ў вытворчым камбінаце опернага, куды мы выпраўляліся на прымеркі. На нас ставіліся новыя нумары Нікалаевай. Да гэтага часу ганаруся, што разам з іншымі ўдзельнікамі студыі паспела выступіць ці не на ўсіх канцэртных пляцоўках Мінска – Палац прафсаюзаў, Дом афіцэраў, Палац спорту, Палацы культуры трактарнага, аўтазавода, чыгуначнікаў, камвольнага камбіната, аднойчы нават – оперны тэатр. Шмат мы ездзілі і па Беларусі.

Паралельна са студыяй прападалі вечарамі ў тэатрах. Найперш глядзелі балетныя і оперныя спектаклі.  Але, акрамя іх, часта хадзілі ў купалаўскі і рускі тэатр, у музкамедыю.

Веданне мовы класічнага танца, яго тэхнікі і тэхналогіі вельмі дапамагло, калі захацелася пісаць артыкулы і нататкі пра балет. Друкавацца пачала ў 1975-м, у маладзёжных газетах «Знамя юности», і «Чырвоная змена». У 1976-м «ЛіМ» надрукаваў маю першую балетную рэцэнзію. Тэмы культуры і мастацтва ў брэжнеўскія часы з’яўляліся надзвычай жаданымі для журналістаў – тут ты не вымушаны ўвесь час хлусіць, займацца палітычным славаблуддзем і пісаць пра тое, што табе па сутнасці глыбока не падабаецца.

У сферы харэаграфічнага мастацтва ўсё здавалася цікавым яшчэ і таму, што тут адчувалася вялікая прастора для самастойнасці. Каб напісаць і апублікаваць літаратурную ці тэатральную рэцэнзію, трэба было доўга чакаць  і стаяць у чарзе. У дадатак пасля публікацыі, прысвечанай танцу, ніхто не мог іранічна заўважыць: «Гэта за цябе тата ці мама піша!» Балетнае мастацтва ўсё-такі знаходзіцца не надта блізка ад літаратуры, у яго свае законы і правілы.

У 1975-м паступіла на журфак. З першага курса спецыялізавалася па мастацтве і пра яго пісала – артыкулы, рэцэнзіі, творчыя партрэты. Было цікава засвойваць прастору не толькі маладзёжных выданняў, але і «ЛіМа», часопіса «Маладосць». У студэнцкія гады друкавалася шмат. Супрацоўнічала з рознымі выданнямі. Гэта заўжды захапляла, давала адчуванне часу і ягонага руху, стварала ўражанне, што ты знаходзішся ўнутры працэсу. Сочыш, але і ў нечым уплываеш...

Выкладчыкаў, якія ўражвалі прафесійнасцю, дасведчанасцю, веданнем прадмета, выклікалі найбольшую павагу і мелі бясспрэчны аўтарытэт, варта згадаць. Гэта Ларыса Нічыпараўна Гусева, што выкладала старажытную рускую літаратуру; Аляксандр Аляксандравіч Станюта, які чытаў рускую літаратуру XIX ст.; Ірына Вікенцьеўна Шаблоўская – яна чытала курс замежнай літаратуры XX ст. І, зразумела, Таццяна Дзмітрыеўна Арлова, вядомы крытык, якая заўжды мела ў тэатральных колах вельмі добрую рэпутацыю. Яна курыравала мае вытворчыя практыкі, а потым была кіраўніком дыплома. Апошні быў прысвечаны беларускаму балету і яго адлюстраванню ў айчынным друку. Дыплом – творчы, а значыць, напалову складзены з уласных публікацый па балетнаму тэатру.

Пасля журфака мяне ўзялі працаваць у «ЛіМ», з якім таксама супрацоўнічала. Гэта аказалася вялікай удачай, а можа, і шчасцем, якое можна зразумець толькі на часавай адлегласці. Бо тады, на пачатку 80-х, творчая атмасфера галоўнага пісьменніцкага выдання моцна паспрыяла набліжэнню многіх, у тым ліку і мяне, да беларускай літаратуры. Ступень русіфікаванасці тагачаснага грамадства цяжка сабе ўявіць. Напрыклад, «Палескую хроніку» І. Мележа многія мае аднакласнікі, а потым і аднакурснікі чыталі ў перакладзе на рускую. Чаму? Ды таму, што прачытаць па-беларуску не маглі.

А ў «ЛіМе», «Беларусі» і «Полымі» па калідорах хадзілі, у пакоях працавалі або ў іх зазіралі жывыя класікі, чые творы вывучаліся ў школьнай праграме. Павазе да мовы вучылі не лозунгі, а тое, напрыклад, як Алесь Пісьмянкоў з Валодзем Маруком або Валодзем Ягоўдзікам доўга абмяркоўвалі дакладнасць ужытага слова – у вершы ці апавяданні. Гэта ўражвала і здавалася дзіўным! На журфаку добра выкладалі жанры журналістыкі, літаратурна-мастацкую крытыку, літаратуру. А мова?.. Усе ведалі, што журналісты дастаткова часта пішуць на канцылярыце, хто больш здольны – той лепшай і больш натуральнай мовай. Памылішся – карэктар паправіць! Вось і ўся навука... Журфак навучыў іншаму – дзяржаўнаму, а не побытаваму падыходу да рэчаіснасці, творчай актыўнасці, настырнасці – у добрым сэнсе, уменню даказваць – вусна і

пісьмова – сваю думку, уменню кантактаваць з людзьмі, імкненню шукаць і знаходзіць таленты.

Жыццё аднаго чалавека такое бязмежнае – няхай не па часе, а па колькасці ўбачанага і перажытага, што немагчыма ахапіць неабдымнае. Таму раскажу толькі пра некаторыя з тых 15 кніг, якія выдала ў наступныя гады. Кнігі – як дзеці... Кожная мае ўласны лёс, кожная – дарагая. Бо той, хто выдаваў уласныя кнігі, ведае, колькі клопатаў стаіць за яе напісаннем і падрыхтоўкай.

Плёнам студэнцкіх гадоў і актыўнага наведвання тэатраў сталі два рукапісы, якія былі гатовыя праз некалькі гадоў пасля заканчэння журфака. Адзін з іх паўстаў як манаграфія, прысвечаная творчасці Людмілы Бржазоўскай і Юрыя Траяна, вядомага беларускага балетнага дуэта. Кніга мела назву «Гармонія дуэта». Удасканалены і перапрацаваны, рукапіс выйшаў з друку ў 1987-м годзе.

Другі рукапіс, кніга творчых партрэтаў дзесяці знакамітых беларускіх балерын і танцоўшчыкаў, праляжаў у мяне на паліцы нікому не патрэбны… ажно 10 гадоў. «Гаркавы смак ісціны» выйшаў толькі ў 1993-м. Убачыў свет дзякуючы «Бібліятэцы часопіса «Маладосць». Маладыя паэты і празаікі, крытыкі і навукоўцы дружна панеслі туды свае рукапісы. Памятаю, калі «Гаркавы смак»ужо выйшаў і на адным з міжнародных фестываляў «Я люблю балет», што ладзіліся ў Мінску, адбылася прэзентацыя кнігі, дык госці, тэатральныя крытыкі з Масквы і Піцера, жахнуліся: няўжо рукапісы могуць столькі ляжаць?! Пад час падрыхтоўкі кнігі да друку давялося асобныя раздзелы выкідваць, замест іх дапісваць новыя, бо артысты, якія на пачатку 80-х лічыліся зусім маладымі, праз дзесяцігоддзе перайшлі ў катэгорыю майстроў.

У 1993-м кнігу адзначылі прэміяй часопіса «Маладосць». Прайшло колькі часу пасля яе выхаду, і пісьменнік і перакладчык Алесь Асташонак, якому падаравала «Гаркавы смак», заўважыў: «Балет увогуле не люблю, больш адной дзеі вытрымаць не магу, збягаю ў буфет ці дадому, але тваю кнігу прачытаў з задавальненнем!» Цікавую думку, прачытаўшы зборнік, выказала тэатральны крытык Жана Лашкевіч: «Разумееш, у цябе на старонках адчуваецца вытанчанасць і ўзнёсласць гэтага мастацтва, але не адчуваецца поту…»

Шмат уражанняў, думак, назіранняў было ўкладзена ў тую кнігу. Магчыма, рэзананс ад яе атрымаўся меншы, чым таго хацелася. Але праз некалькі гадоў яна стала грунтам, асновай для майго шыкоўнага альбома «Валянцін Елізар'еў». Выданне было прысвечана беларускаму балету і досыць падрабязна разглядала спектаклі знакамітага харэографа. Каляровы альбом фармату А4, на трох мовах (тэксты беларускі і рускі – мае, а вось ужо англійскі – вытворны ад

майго), памерам у 140 старонак стварaўся сапраўды ў рэкордны тэрмін – літаральна за 3–4 месяцы, бо трэба было паспець да 50-годдзя пастаноўшчыка. Потым альбом атрымаў II дыплом на рэспубліканскім конкурсе кнігі ў 1998-м, а ў 2003-м выйшла яго другое, дапоўненае выданне.

Абодва варыянты альбома трапілі ў многія краіны свету. У Францыю, Вялікабрытанію, Японію, Кітай і іншыя краіны, чые пасольствы існуюць у Беларусі. Трапіў у бібліятэку Кангрэса ЗША і вядучыя амерыканскія балетныя часопісы. Кіраўніцтва нашага балета дорыць яго пад час шматлікіх гастроляў калектыву ў розных краінах.

Усё, пра што ішла размовы раней, тычылася тэатральнай крытыкі. Але крытычная дзейнасць – адно, а ўласна літаратура – іншае. Зусім інакшы ракурс успрымання рэчаіснасці. Лічу, што пісьменніцай зрабілася нечакана для сябе. І ў гэтым дапамаглі… уласныя дзеці, Дзяніс, які з'явіўся на свет у 1986-м, і Ягор, які нарадзіўся праз два гады.

Уявіце, сядзіш у дэкрэтным адпачынку. Спачатку з адным дзіцем, потым з двума. Тэлефона ў кватэры няма, як няма і тэлевізара. Пра мабільнікі, камп'ютэры, інтэрнет ніхто тады не чуў і не здагадваўся. Уражанне, што ты адасоблены ад усяго свету. Існуеш у далёкай Серабранцы – як на ненаселеным востраве. І каб не звар'яцець ад колькасці штодзённых, побытава-хатніх клопатаў, каб не атупець ад аднастайнасці жыцця і няхай часовай, але адлучанасці ад грамадскіх падзей, ад музычна-тэатральных уражанняў, мы з дзецьмі пачалі сачыняць казкі. А дакладней – я для іх... Казкі, у якіх яны з'яўляліся галоўнымі героямі. Форма невялікага апавядання або казкі для дзяцей – падманліва простая. На адной-двух старонках тэксту павінен разгортвацца сюжэт, які трымае ўвагу чытача. А значыць, пачатак, інтрыга, кульмінацыя і развязка. Павінен быць блізкі і пазнавальны герой, акрэслена абстаноўка, а найперш – характар…

Сачыняла я тыя гісторыі часам з практычнымі мэтамі, часам для ўласнага і дзіцячага задавальнення. Але мае маленькія наіўныя слухачы ўспрымалі гісторыі з такой цікавасцю і так горача патрабавалі працягу, што ў пэўны момант прыйшла думка: а чаму не прапанаваць тыя невялічкія аповеды і казкі выданням для дзяцей?

Рэакцыя была зусім нечаканай! Высветлілася, што яны патрэбныя, больш за тое – яны падабаюцца! Што не толькі ўласныя дзеці, але і Беларускае радыё, часопісы «Вясёлка», «Бярозка», «Работніца і сялянка», газета «Дзеці і мы» цікавяцца: а калі будуць наступныя? Так былі напісаны апавяданні і казкі, што потым увайшлі ў зборнікі «Віця Неслух у краіне мурашоў», «Свята печанай бульбы», а па-

зней – у зборнік «Вожыкі ў футбол гуляюць». Гучалі яны і на Беларускім радыё ў інтэрпрэтацыі вядомых выканаўцаў – народнага артыста СССР Віктара Тарасава, народных артыстак Беларусі Ліліі Давідовіч і Марыі Захарэвіч, артыстаў Наталлі Качатковай, Алены Пастрэвіч, Валерыя Мароза. Хіба не гонар для аўтара?!

Калі дастаткова доўгі час практыкуешся ў малых формах, раней ці пазней узнікае патрэба засвоіць жанры буйнейшыя. Звярнуцца да іншай, больш дарослай аўдыторыі. Тым больш, што пад час гутарак артысты (і асабліва артысткі) расказвалі – пэўна, маючы давер да субяседніка, – шмат асабістага, таго, што па этычных матывах немагчыма было надрукаваць побач з іх рэальным прозвішчам, менавіта як іх аповед. І было шкада, што жыццёвыя гісторыі, часам драматычныя, часам інтрыгуючыя або камічныя, так і застануцца нікому не вядомыя. Так я прыйшла да сваіх аповесцей, прысвечаных жыццю сучаснай творчай інтэлігенцыі.

З першай – «Доўгае развітанне», якая ўзнаўляе музыканцкае асяроддзе, моцна пашанцавала. Яна не ляжала ў часопісе і не чакала гадамі сваёй чаргі. Прынесла аповесць у часопіс «Маладосць» вясной 1997-а. З надзеяй, што, магчыма, калі-небудзь, калі спадабаецца, будзе надрукавана.  Як ні дзіўна, але спадабалася! Выйшла ў «Бібліятэцы часопіса «Маладосць» у тым жа годзе, у апошнім, 12 нумары. З плеч – і адразу ў печ! Назва аповесці вызначыла назву кнігі. Ухвальную прадмову да яе напісаў тагачасны галоўны рэдактар выдання Генрых Далідовіч.

Вядома, калі дэбютуеш у пэўным жанры, надзвычай хвалюешся: ці спадабаецца, ці будзе чытацца, як успрымуць? Рэакцыя чытачоў і крытыкі мяне здзівіла. Цешыла і ўздымала душу шчырае здзіўленне асоб, якія цябе даўно ведаюць. Бач ты, аказваецца, яна і гэта можа! Захопленая рэцэнзія Уладзіміра Саламахі з’явілася ў «Чырвонай змене» – ледзь не на цэлы газетны «падвал». Галіна Багданава, калега і даўняя прыяцелька, заўважыла: «Малайчына, доўгія дыстанцыі лёгка бегаеш!» Даўняя сяброўка, музыказнаўца Людміла Ляшчэвіч, калі прачытала рукапіс, прыкмеціла: «У мяне ўражанне, што вы проста спісалі гэтую гісторыю з жыцця маёй даўняй знаёмай. Як тыпова!»

Праз шмат гадоў, у 2007-м, аповесць надрукавала «Мастацкая літаратура», у зборніку «Вера. Надзея. Любоў». На Беларускім радыё «Доўгае развітанне» на працягу тыдня чытала вядомая артыстка Галіна Кухальская.

Думаю, што змены жанру ўнутры аднаго лёсу маюць свае глыбокія прычыны. Аналітычныя, крытычныя жанры ўсё-такі, як ты ні круці, «сушаць» галаву. У дадатак крытык надта залежны ад таго,

што і як пастаўлена, хто паставіў, хто і як станцаваў ці праспяваў. Акрамя таго, крытычная прадукцыя ўсё-такі мае дастаткова абмежаваную чытацкую аўдыторыю. Уласна літаратура звяртаецца да непараўнальна большай колькасці чытачоў. Бо скіравана да сферы пачуццяў, эмоцый, памяці, а крытыка – найперш да розуму і аналітычных схільнасцяў.

Услед за першай я надрукавала яшчэ дзве аповесці ў «Полымі» – «Апошняе каханне Дон-Жуана», дзе ўзнаўляецца мастакоўскае асяроддзе, «Джульета і экстрасэнс», прысвечаную драматычнаму тэатру, – у «Маладосці».

Скажу шчыра, рэдка калі атрымлівала такую асалоду, як пад час працы над дастаткова разгорнутымі, разгалінаванымі аповесцямі. Сто, тады яшчэ друкаваных, старонак – някепскі аб’ём, немалая прастора. Мала што ў жыцці можа параўнацца з эмоцыямі і перажываннямі аўтара, калі падзеі пачынаюць развівацца шмат у чым незалежна ад яго. Калі героі пачынаюць разбірацца ў сваіх адчуваннях і ўзаемаадносінах незалежна ад цябе. Калі закрыць ім рот часам фізічна немагчыма! І яны прымушаюць цябе ісці за імі ўслед, і нават пакутаваць, пакуль не выкажуцца як след...

Напісаць – адна справа, але лёс кожнага твора, малога ці разгорнутага, залежыць ад таго, як да яго паставіцца супрацоўнік рэдакцыі, якія старонкі пакіне, а якія бязлітасна выкрасліць. Здзівілася, калі ў часопісах амаль нічога не скарачалі, а правілі вельмі мала. Добразычлівасць да аўтараў, думаю, была стылем і тагачаснай «Маладосці», і тагачаснага «Полымя». «Дон-Жуан» з’явіўся дзякуючы падтрымцы Адольфа Варановіча, «Джульета» – дзякуючы Уладзіміру Саламаху і Анатолю Казлову.

У цэнтры кожнай маёй аповесці – вобраз жанчыны. Лічу, што жаночага погляду на жыццё ў беларускай літаратуры надта не хапае. Сучасная літаратура адлюстроўвае пераважна мужчынскі погляд. На маю думку, не хапае ў літаратуры і вобразаў сучаснай жанчыны, пададзеных буйным планам. Бо мы далёка не заўсёды ведаем або не здагадваемся, што яна думае, што адчувае, пра што марыць, якія пачуцці віруюць у яе душы. Як яна спалучае творчасць і каханне, творчасць і сям’ю (для многіх творчых жанчын тыя з’явы і не сумяшчаюцца).

Спачатку былі надрукаваны аповесці, пазней – апавяданні. У часопісах «Полымя», «Нёман», «Беларусь», «Беларуская думка», «Ave Maria», у «ЛіМе». Некалькі гадоў захаплялі такія жанры, як мініяцюры і абразкі. Іх з задавальненнем друкавалі «ЛіМ» і «Маладосць». Некаторыя знаёмыя, ведаючы, што збіраю сціслыя жыццёвыя гісторыі, расказвалі свае або чутыя недзе: «Можа, вам спатрэбіцца?»

У 2000-м годзе па рэкамендацыі секцыі прозы мяне прынялі ў Саюз беларускіх пісьменнікаў. На той час з'ўлялася аўтарам ужо дзесяці выдадзеных кніг. У пяці былі надрукаваныя проза і вершы.

Калі з часопіснымі публікацыямі прозы дужа шанцавала, дык з грунтоўнай кнігай прозы не шанцавала зусім. Сабраная, яна праляжала ў «Мастацкай літаратуры» ажно дзесяць гадоў. Так і не выйшла... Але што здавацца? Калі тут не прызнаюць, магчыма, прызнаюць у іншым месцы і іншых жанрах?

Нечаканы рэзананс, які займелі аповесці, прывёў да думкі надрукаваць у прыватным выдавецтве зборнік вершаў. У 1998-м выйшла кніга «Я вандрую ў стагоддзях», а ў наступным годзе – «Рабро Адама». Прыватнае выдавецтва – значыць, тыраж невялікі: 200–300 экзэмпляраў. Ну, нічога! Не будзем сумаваць. Цвятаева і Ахматава таксама спачатку выдаваліся невялікімі тыражамі. Асабліва пры жыцці...

На самых розных сустрэчах з чытачамі, на прэзентацыях кніг у бібліятэках і музычных школах, дастаткова часта задаюць пытанне: «А з якога ўзросту вы пачалі пісаць вершы?» Пісала іх і ў школе, і ў студэнцкі час, і ў час працы ў «ЛіМе». Але не лічыла патрэбным друкаваць. Па-першае, тое быў варыянт дзённіка, які пішацца для сябе, а не для іншых. Па-другое, мне не падабаўся вынік. Ён не адлюстроўваў таго, што хацелася сказаць, і таго, што адчувала. А па-трэцяе, жывыя паэты, а дакладней, паэтэсы, якіх даводзілася назіраць у рэальным жыцці, не заўсёды падабаліся. Ці то яны былі занадта нервовыя, ці то экзальтаваныя, але ў любым выпадку неяк не супадалі з рэчаіснасцю. Гэта бянтэжыла і пужала. Мне зусім не хацелася быць на іх падобнай. Вось празаікі – зусім іншая справа! Сур'ёзныя, няспешныя, паглыбленыя ў сябе, яны ўнушалі давер...

Пасля выхаду двух першых зборнікаў вершаў чакала яшчэ адна неспадзяванка. Паступова, за некалькі гадоў яны ці не цалкам «разышліся» на музычныя творы – рамансы, песні, хары. Гэтаксама, як і зборнік вершаў для дзяцей «Калі тата – Дзед Мароз», выдадзены «Юнацтвам» у 2000-м годзе.

У 1998-м кампазітар Алена Атрашкевіч напісала першую песню на мае словы. Яна называлася «Мама – наша сонца». Праз пэўны час яе выканаў у вялікай зале філармоніі Нацыянальны канцэртны аркестр пад кіраўніцтвам М.Фінберга. У тым жа годзе кампазітар Марына Марозава напісала першы вакальны цыкл для мецца-сапрана на мае вершы. Ён называўся «Споведзь жанчыны».

Калі шчыра, дык ганаруся, што неяк нечакана і незапланавана за апошнія дзесяць гадоў на мае вершы напісана больш за 200 музычных твораў. Прычым, толькі прафесійнымі кампазітарамі. Акрамя

згаданых, гэта Эла Андрэенка, Аліна Безенсон, Дзмітрый Даўгалёў, Эдуард Зарыцкі, Ганна Кароткіна, Віктар Кажухар, Валерый Карэтнікаў, Андрэй Мдывані, Уладзімір Саўчык, Алег Хадоска.

Нашы сумесныя творы належаць да розных жанраў. Рамансы і вакальныя цыклы, песні для дзяцей і дарослых, хары і харавыя цыклы... Нечакана выявілася, што творы тыя могуць гучаць не толькі ў Беларусі, на «Славянскім базары ў Віцебску» або ў Маладзечна, на фэсце «Маладзічок», але і могуць трапіць на міжнародныя музычныя фестывалі ў Расіі, Польшчы, Украіне.

Мая першая аўтарская паэтычна-музычная вечарына прайшла ў зале філармоніі восенню 2003-а. Рэзананс і розгалас, які яна займела, падштурхнуў да думкі штогод рабіць аналагічны «сольнік», які дасць магчымасць паказаць найперш новыя, свежыя, нядаўна напісаныя творы. Кампазітары рады, што хтосьці займаецца арганізацыйнымі пытаннямі, што ёсць канцэртная пляцоўка, дата, таленавітыя спевакі. Артысты рады, што для іх ствараецца адмысловы рэпертуар. Слухачы рады, што прыходзяць на прэм’ерныя праграмы. Думаю, кожны паэт ганарыўся б тым, што ў філармоніі – галоўнай канцэртнай зале краіны, куды трапіць са сваімі творамі няпроста, дзе працуе шмат прафесійных калектываў, адбылося ўжо сем вечарын. І ў кожны праект уваходзіла шмат новых твораў, што выконваліся ўпершыню.

Вечарына 2003 года мела назву «Твой самы кароткі шлях – да мяне...» Праект-2004 атрымаў свой назоў – «Кахаю...» – ад назвы вакальна-сімфанічнай паэмы Алены Атрашкевіч. Вечарына наступнага, 2005-а – «Святло невымоўнае», а музычная імпрэза 2007-а – «Калі пачуцці – як полымя…». Ці не самым маштабным атрымаўся вечар «Сны кахання», які ладзіўся восенню 2006-а ў вялікай зале філармоніі, у ім удзельнічалі салісты і хор Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы. (Праект аказаўся адначасова прэзентацыяй аднайменнага зборніка, які выйшаў у той жа год. У 2006-м быў апублікаваны зборнік «Души ожиданье», дзе сабраліся вершы, напісаныя па-руску. Абедзве кніжкі не танюткія, амаль па 100 старонак.) Восенню 2008 года адбылася вечарына «Споведзь жанчыны», у лютым 2009-а – «Я вандрую ў стагоддзях...»

Калі напярэдадні вечарыны «Сны кахання» я завітала ў Міністэрства культуры, каб запрасіць на яе першага намесніка міністра Уладзіміра Пятровіча Рылатку, дык, уважліва разглядаючы афішу, ён здзіўлена сказаў:

– Паслухайце, дык у вас заняты увесь тэатр оперы!

– Не, Уладзімір Пятровіч! – запярэчыла я. – Яшчэ не ўвесь! Можа, увесь і будзе, але крыху пазней…

Салісты оперы абы што спяваць не будуць! І таму што, выконваючы сусветную класіку, маюць магчымасць выбіраць. І таму, што традыцыі высокага і высакароднага жанру рамансa не дазваляюць прыстасоўвацца да танных тэкстаў і непатрабавальнага слухача.

Спіс маіх любімых і дарагіх артыстаў сёння сапраўды велізарны. Гэта народная артыстка Беларусі Наталля Руднева, заслужаныя артысты Тамара Глаголева і Віктар Скорабагатаў, лаўрэаты і дыпламанты міжнародных і нацыянальных конкурсаў Наталля Акініна і Таццяна Гаўрылава, Уладзімір Громаў і Аляксандр Жукаў, Ірэна Журко і Сяргей Лазарэвіч, Эдуард Мартынюк і Васіль Мінгалёў, Анастасія Масквіна і Эльвіра Рыжановіч, Іна Русіноўская і Алена Сіняўская, Таццяна Цівунова і Таццяна Трацяк. А яшчэ трэба згадаць салістаў філармоніі Алега Мельнікава, Святлану Старадзетку, Галіну Сакольнік, Нэлі Душчынскую.

Паралельна з рамансавай плынню паступова пісаліся і збіраліся харавыя творы, сёння іх больш за паўсотні. Іх выконвае і хор Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы, і Акадэмічны хор Белтэлерадыёкампаніі, і шматлікія камерныя хары краіны, і хары навучальных устаноў, аматарскія і прафесійныя калектывы. Адначасова з набыткамі ў акадэмічных жанрах ёсць дасягненні і ў больш дэмакратычным жанры песні. Песні спяваюць народныя артысты Беларусі Ядзвіга Паплаўская і Аляксандр Ціхановіч, салісткі Нацыянальнага канцэртнага аркестра Галіна Грамовіч і Таццяна Глазунова, лаўрэаты міжнародных конкурсаў Марына Філіпава, Алеся Кульша, Вікторыя Падвербная, Валерыя Дасюкевіч, Таццяна Філон.

Не перабольшваю ўласных дасягненняў. Бо глыбока перакананая, што поспех музычнага сачынення на дзве трэці залежыць ад таленту кампазітара. Але, з другога боку, класны твор немагчыма стварыць на прахадны, «ніякі»тэкст.

Цікава ад камерных і лакальных жанраў паступова пераходзіць да больш буйных і значных. Спачатку Алена Атрашкевіч напісала на мае словы вакальна-сімфанічную паэму «Кахаю...» (у 9 частках) – для хору, сапрана і барытона. Цалкам твор быў паказаны ў Мінску і Магілёве, а асобныя часткі з яго выконваюць многія калектывы. Разам з кампазітарам Ганнай Кароткінай быў створаны музычны перформанс, а па сутнасці, музычна-паэтычны спектакль «Мора», які выклікаў непадробнае здзіўленне публікі і шмат рэцэнзій. «На прыступках Калізея» – музычную сцэну для барытона, змешанага хору, аргана, ударных і фартэпіяна стварыла кампазітар Аліна Безенсон. Пачуўшы першы раз твор у 2005-м годзе, кампазітар Сяргей Картэс – ці то з усмешкай, ці то незадаволена – заўважыў: «Таня, чаму ты мне не аддала гэты тэкст?» Камічную кантату «Рэпетыцыя хору» напісаў кампазі-

тар Алег Хадоска, яна выконвалася восенню 2008-а ў вялікай зале філармоніі. Некаторыя музычныя сачыненні, якія былі напісаны на мае тэксты для голасу і фартэпіяна, пачынаюць аркестравацца і перакладвацца на камерны або сімфанічны склад інструментаў.

Але думаю, цікавасць да вялікіх сцэнічных жанраў у мяне не з'явілася б, калі б пасля прозы пэўны час не займалася п'есамі. Калі ў маладосці ты трапіў у тэатр і ягонае закуліссе, дык сысці адтуль немагчыма! Яшчэ ў 2001-м з'явілася п'еса «На крыжавых пуцінах» («Паўліна Мядзёлка»), прысвечаная гісторыі кахання Янкі Купалы і Паўліны Мядзёлкі. Потым з'явілася інсцэніроўка адной з уласных аповесцей – пад назвай «Мая дарагая Джульета». Найбольш арыгінальнай сваёй п'есай лічу фантасмагарычную камедыю «Чалавек, які купляе час». У перакладзе на рускую мову яна была надрукавана ў часопісе «Няміга літаратурная» ў 2004-м. А па-беларуску – пад назвай «Купляю час!» – у дадатку да газеты «Культура» ў сакавіку 2007-а. Драматургія – напэўна, самы складаны жанр літаратуры. Не трэба думаць, што сёння напісаў – а заўтра ўжо паставяць! Тэатр часам не хоча, а часам баіцца сучаснага аўтара. Іншым разам складваецца ўражанне, што і рэжысёры могуць быць досыць інертнымі людзьмі. Іх трэба доўга ўгаворваць пазнаёміцца з 50 старонкамі тэксту, якія можна прачытаць за гадзіну альбо дзве.

Але спрабаваць свае сілы і магчымасці ў драматургіі цікава. Так узніклі п'есы для дзіцячага тэатра – «Калі прыляцелі іншапланецяне», фантастычная казка ў 2-х дзеях; «Падарожжа ў краіну мурашоў», экалагічная казка ў 1-й дзеі; казка-мюзікл «Прыгоды парсючка Лычыка». Пэўныя надзеі ўскладаю на новую п'есу «Чайкоўскі. Версія», яна была распачата даўно, яшчэ ў 2000-м, а скончана праз сем гадоў.

Пад час сустрэч з чытачамі або ў інтэрв'ю, здараецца, пытаюць: ці не замнога жанраў у маім жыцці? Пацікавіўся аднойчы і вядомы тэатральны крытык, іранічна-ўсмешлівы Барыс Бур'ян: «Вы часам не раскідваецеся?» Думаю, што не. Як казаў некалі Фёдар Іванавіч Цютчаў: «Нам не дано предугадать, как наше слово отзовется…» Усе жанры не могуць існаваць у творчасці адначасова. Ад адных прыходзіш да іншых. Да адных губляеш цікавасць – надоўга ці назаўсёды, іншыя адкрываеш, толькі маючы пэўны досвед. У маім жыцці жанры заўжды пэўным чынам ядналіся і спалучаліся. Балетная крытыка – і творчасць для дзяцей. Проза – і музычная журналістыка.

Адзін з жанраў, якім занята ў апошнім час, спалучае ў сабе літаратуру і музыку, літаратуру і тэатр. Гэта балетныя і оперныя лібрэта. Імі зацікавілася даўно. Яшчэ ў 1997 годзе па стыпендыі Інстытута польскай культуры ў Парыжы стажыравалася ў Польшчы (у Варшаве і Кракаве) як балетны крытык і лібрэтыст.

Першым узнікла лібрэта гістарычнага балета «Барбара Радзівіл», яго апублікаваў часопіс «Тэатральная творчасць» яшчэ ў 1998-м. Частка музыкі была напісана адным з беларускіх кампазітараў. Але паколькі мы не знайшлі харэографа, які захапіўся б тэмай, то партытура, на жаль, засталася няскончанай. Наступным было напісана лібрэта балета «Апошні кароль», прысвечанага падзеям XVIII ст. Яго героямі сталіся гістарычныя асобы – польскі кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, руская царыца Кацярына II, кіраўнік паўстання Тадэвуш Касцюшка. Гістарычны балет – заўсёды маштабны спектакль, ён патрабуе размаху, багатай сцэнаграфіі і касцюмаў, вялікіх фінансавых укладанняў. Таму лібрэта засталося пакуль толькі ідэяй і старонкамі тэксту.

А вось над музыкай «Дзюймовачкі», балета для дзяцей, ужо некалькі гадоў працуе кампазітар Валерый Карэтнікаў. Лібрэта, напісанае паводле казкі Андэрсена, дастаткова доўга ляжала не запатрабаваным і раптам спатрэбілася. Ёсць у шуфлядзе пісьмовага стала і гатовае лібрэта гістарычнага балета «Саламея», у якім адлюстроўваюцца прыгоды навагрудскай лекаркі Саламеі Пільштыновай. У цяперашні час два беларускія кампазітары працуюць над двума маштабнымі праектамі. Партытуру аднаактовага «Дырэктара тэатра» на маё лібрэта піша Андрэй Мдывані, а гістарычную оперу «Янка Купала» – Уладзімір Саўчык.

І нарэшце апошні жанр, пра які не магу не згадаць. Хоць жанрам яго можна назваць умоўна. Гэта ўласны сайт, які існуе з мая 2004-а. Сайт, на якім ёсць і беларускія, і рускія, і англійскія старонкі, старонкі прозы, вершаў, артыкулаў; тут можна паслухаць музыку рамансаў і песень, – увогуле гэта выдатная магчымасць для сучаснага пісьменніка быць пачутым.

Хтосьці шукае на сайце верш пра маму, хтосьці – навіны беларускага балета, некаму патрэбны тэксты песень. Часам прыходзяць надзвычай цікавыя лісты. Аднойчы напісала дзяўчына з Масквы. Спытала, дзе ў сталіцы Расіі можна купіць дыск з маімі рамансамі і зборнік вершаў. Самым смешным і нечаканым аказалася апошняе пытанне: ці будзе калі-небудзь ладзіцца ў Маскве мой творчы вечар? Міжволі задумаешся над такім маштабным пытаннем… Аднойчы дзякуючы сайту адбылося знаёмства з жанчынай-іспанкай, прафесарам адной з мадрыдскіх ВНУ, якая – уявіце сабе! – займаецца перакладамі прозы і вершаў на іспанскую. Мы доўга перапісваліся, і ў рэшце рэшт мае вершы былі перакладзены на яе родную мову.

Сучасныя тэхналогіі даюць магчымасць сачыць, колькі карыстальнікаў інтэрнета наведвае тыя і іншыя сайты. На працягу дня, тыдня, месяца... Быў пэўны час, калі сярод сайтаў беларускіх

пісьменнікаў мой займаў – па наведвальнасці – чацвёртае месца. Толькі не пужайцеся… пасля сайтаў класікаў – Васіля Быкава, Уладзіміра Караткевіча, а таксама сайта сучаснага празаіка-постмадэрніста Георгія Станкевіча. І нават абганяў па наведвальнасці сайт Уладзіміра Някляева.

А напрыканцы аўтабіяграфіі – дастаткова доўгі спіс. Але мяркую, што яго прывёў бы на маім месцы кожны. Тут пералік краін, чые прадстаўнікі наведалі за гэтыя чатыры з паловай гады мае інтэрнетаўскія старонкі. Акрамя Беларусі і ўсіх рэспублік былога Савецкага Саюза, гэта Аўстрыя, Аўстралія, Бельгія, Балгарыя, Бразілія, Вялікабрытанія, Германія, Грэцыя, Данія, Ізраіль, Інданезія, Ірландыя, Іспанія, Італія. А таксама Канада, Кіпр, Кітай, Карэя, Мексіка, Манголія, Нідэрланды, Нарвегія, Аб'яднаныя Арабскія Эміраты, Польшча, Партугалія, Румынія, Сербія, Сінгапур, Славакія, ЗША. А яшчэ Тайвань, Турцыя, Украіна, Францыя, Фінляндыя, Харватыя, Чэхія, Чылі, Швейцарыя, Швецыя, Паўднёва-Афрыканская рэспубліка, Японія. Ці не праўда, спіс унушальны?

…Здаецца, аўтабіяграфія атрымліваецца занадта доўгай. Ці не час спыніцца? Раней ці пазней чалавек абавязкова задае сабе пытанне: ці здолеў ён, хоць бы часткова, рэалізаваць свае здольнасці, ці адбылася па вялікім рахунку ягоная творчая біяграфія? Мала хто з паэтаў майго пакалення так запатрабаваны сучаснымі кампазітарамі. Магу сказаць, вялікае шчасце для аўтара, калі ягонае слова гучыць. Падчас творчых вечарын, па радыё. А самае галоўнае – гучыць у музыцы... Самых розных яе жанрах. Вялікае шчасце пачуць узнёслую музыку, самае высокае і магутнае з усіх мастацтваў, якая нарадзілася дзякуючы і тваім радкам...

*Лістапад 2008 года*



## *Мятліцкі*
### *Мікола Міхайлавіч*

# АПОШНІ ЖЫХАР СТАРОГА ПАЛЕССЯ

*З аўтабіяграфіі*

Ні таго кутка (спляжыла меліярацыя), ні той вёскі (сцёр з твару зямлі Чарнобыль) ужо няма ў жывых. А гэта – чуты душою свет, адкрыты ён на ўсіх зямных шырэчах, той вядомы табе аднаму абсяг, на якім і ўскрык першы, і крок першы.

Прыпамінаецца яшчэ дзедаўская старая хата. Стаяла на процілеглым баку вуліцы ад бацькоўскай новай. Рослы сад – тварэнне душы і рук майго дзядзькі-агранома Івана: ружавашчокія жытнікі, спель вішань-галак, чорныя, чырвоныя і жоўтыя слівы, мядовы пах груш… Града клубніц на сонечным баку, каля пограба. І я, малы, праз шчыліны плоту падаю буйныя спелыя ягады мурзам-пагодкам… І рукі бабулі Антосі. І ёмкая алюмініевая міска ў іх, поўная ягад. І голас, які праганяе мяне з грады, «кеб не тарыў каляіны, як трахтар!». І лагодная ўсмешка на яе ссечаным маршчынамі твары: «Бярыце во, дзетачкі, спажывайце».

Дзед Яўхім выходзіць з сянец. Строга-вусата вітае паглядам гаманлівую чародку дзяцей. Ён перачытаў усё прынесенае з бібліятэкі – нясе ў сетцы-авосьцы назад. І я ўплятаюся зноўку за ім услед – крочу паважна побач на вачах сябрукоў-суседзяў. Мы абыходзім пакінутыя чэрвеньскімі заліўнымі дажджамі лужы на вуліцы, прабіраемся ўтаптанымі сцежкамі, мошчанымі кладкамі каля платоў, а то сям-там, як ля гежышынай лужыны, і па жэрдках перабіраемся. І вось, нарэшце, ужо ў цэнтры вёскі, ля клуба і калгаснай канторы. У сценах драўлянага клуба, які як бы навіс над вялізнаю лужынай прыстанню-ганкам, і месціцца бібліятэка. На ганак дабіраемся, агінаючы клуб. Дзед задаўга перабірае на паліцах кнігі – пакуе «сетку» пад назіркам вечна незадаволенай, тоўстай, як Раманава борць, бібліятэкаркі.

– От бо! Ізноў етулькі згроб!

Пакуль дзед апраўдвае сваю чытацкую прагавітасць, а бібліятэкарка, усеўшыся за сталом, запаўняе нейкі там «хвармуляр», я паспяваю перагартаць цэлую кіпу шматкалёрых часопісаў.

– Дай от і хлапцу чаго ўзяць! – гучыць дзедаў бас.

– Падзярэ, як і ў той раз! – не згаджаецца няўступлівая бібліятэкарка. – У школу пойдзе – тагды!

– Ён ужэ і цяперака чытаць умее… – ганарліва адказвае дзед.

– Да ўжэ ж, вучыш. Будзе етак, як ты, людзей смяшыць вершамі…

Дзед хмыкае і ляскае дзвярыма. З бібліятэкі кіруемся да магазіна – па махорку. І ўжо зацягваючыся самакруткай каля вакон магазіна, стоячы ў шчыльным атачэнні ўсцешаных сустрэчай вяскоўцаў-пакупнікоў, па іх настойлівых просьбах – «Яўхім, пачытай!», гэтак жа басавіта-няспешна дзед пачынае прамаўляць любоўна падрыхтаваны спецыяльна для гэтай сустрэчы свой новы верш:

Просіць Кез Брагіду, як роднага брата:
«Пахарані мяне, Хведар, каля апарата.
Гарэлка прасочыцца цераз пясок
І пападзе проста ў мой раток…»

Рогат аж сатрасае сцены недалекаватай канторы. Ужо і адтуль павыходзілі на бясплатны «Яўхімаў канцэрт». Дзед увайшоў у настрой, яго не спыніць:

Зажурылася Куліна,
Што няскошана даліна.
Пакасілі, паграблі,
І Куліну – правялі!

Героі дзедавых вершаў вядомыя вяскоўцам «з галавы да пят», таму грамавіты рогат аж выкрасае слёзы.

Вечарам мой захмелены бацька зноў ушчувае дзеда: «Канцэрт устроіў!» Гэта ад таго, што Брагіду данеслі, – закрыўдаваў! Можа

і самагоннага апарата свайго не даць, і апахмяліцца бацьку адмовіць. Дзед як і не чуе. У адной руцэ – кніга, у другой – самакрутка.

Свет маленства… Менавіта на ягоных зыркаросых прасцягах і нараджаюцца першыя захапленні, якія потым з гадамі наталяюцца з прагавітасцю, крэпнуць, вызначаючы лёс чалавека. Мяне ў маленстве навучылі палюбіць і кнігу, і прыроду. Кніга сваёй яшчэ неразгаданай таемнасцю ўвайшла ў душу «з дзедавых рук», а прырода – палеская, некранутая яшчэ згубаю асушэння – адкрывалася таксама з ласкі дарослых. І тыя ж бабуля і дзед, і бацька, і маці, і вяскоўцы-суседзі – сцераглі кожны крок, «кеб дзе не заграз у балоце!», «кеб якая гадзюка не ўджаліла!», «кеб дзе ваўкі не раздзерлі!». І яшчэ: «кеб дзе гранаціну якую не падняў!» Жывой і балеснай была ў маім Бабчыне памяць мінулай вайны. Яна жорстка кранулася лёсу і нашай сям'і. У Нямеччыну падлеткамі былі вывезены мае цётка Маня і бацька. Бацька вярнуўся, а Маня не вярнулася. І колькі бабуля Антося праліла слёз па дачцэ, якая страцілася за светам. (Потым праз гады цётка знайшлася, але ўжо не было ў жывых бабулі і дзеда). У вайну карнікі расстралялі сям'ю дзедавага брата Дзям'яна Мятліцкага. У партызанах быў сын Міша. На той момант, як бралі, дзед Яўхім якраз быў у іхняй хаце.

– А ваша фамілія?!

– Кірчанка!

Дзеда Яўхіма адпусцілі. Ён за руку вывеў з хаты і шасцігадовую пляменніцу Полю. Але на двары не ўтрымаў дзіцячай рукі – вырвалася, да сваіх пабегла. Дзед не мог гэтага даравань сабе ўсё астатняе жыццё. Успамінаў, перажываў – курыў. Не раз прыводзіў мяне, малога, на калгасны двор, да былых сілосных ям – на месца расстрэлу. Адсюль пасля вызвалення астанкі пастраляных вяскоўцаў перавезлі на могілкі, узвялі над брацкай магілай абеліск з зоркай. Ямы засыпалі, з зямлёй зраўнялі. А неўзабаве на гэтым месцы распачалі будаўніцтва. Дзед абурыўся публічна:

Ну вот, дожились мы – какой то чиновник
На братской могиле поставил коровник.

Мабыць, ніхто з вяскоўцаў не данёс, куды трэба, дзеда не зачапілі. А потым ужо на франтоне нашай новай хаты з'явілася пяць чырвоных зорак – памяць пра сям'ю Дзям'яна Мятліцкага. Бацькаў стрыечны брат Міша вярнуўся з вайны, але, узрушаны крываваю памяццю, у Бабчыне не застаўся. Засталіся толькі гэтыя крывавыя зоркі. Яны чырванелі на сценах многіх вясковых хат. А болей, як на нашай, – аж сем! – было на хаце майго школьнага настаўніка Васіля Адамавіча Зелянкоўскага.

Ужо школьніку, юнкору «Піянера Беларусі» выпала пачуць ад вясковых старажылаў паданне пра тое, чаму наша вёска называецца Бабчын. Яшчэ з мангола-татарскіх набегаў, калі ацалела небагата людзей, сюды, на востраў сярод балот, дабавілася група знямоглых жанчын з дзецьмі на руках. Тут яны і абсталяваліся – высеклі ляда. Жылі ўдалечы ад трывожнага і пагрознага свету. Якім падобным да таго даўняга жыцця было жыццё вёскі ў пасляваенныя дні! Усе равесніцы майго дзеда – удовы. І памяць пра іхніх забітых мужоў засталася толькі ў іх вясковых прозвішчах – Іваніха, Пеціха, Касцеіха, Ахрэміха, Сідарыха, Ігнаціха, Сяменіха, Аўдзеіха… (Гэта з маёй вуліцы. Адна толькі суседка Якубіха дачакалася з фронту свайго мужа каваля).

У гэтым аўдавелым Бабчыне мне і выпала нарадзіцца 20 сакавіка 1954 года. Пасля Нямеччыны бацька быў прызваны ў армію, служыў сем год. Перад вайной сям'я маці выехала ў Новасібірскую вобласць. Вярнулася бабуля Аксіння ў Бабчын пасля перамогі зноў удавой, з чатырма малалетнімі дзецьмі, а двое ад першага мужа, ужо дарослыя, прайшлі сваю дарогу вайны – дзядзька Іван Кірчанка шляхі Фінляндскай і Вялікай Айчыннай, цётка Каця – жахоты акупаванага Бабчына. Тут, у Бабчыне, Міша Мятліцкі і Валя Сінкевіч і згулялі 1 мая 1953 года сваё вяселле.

1 верасня 1961 года я пераступіў парог Бабчынскай сярэдняй школы.

Двухпавярховы, з чырвонае цэглы будынак школы вабна праглядваў з-за рослых клёнаў, і я з прытоеным дыханнем, з мройлівым чаканнем – калі ж! – пазіраў на яго сцены і вокны зводдалі. Выкладзеныя яшчэ ў 1905 годзе сцены былі трывуча-стойкімі, адлівалі лагоднай чырванню. Пабліскваў у сонцы бляшаны дах, сіметрычнай строгасцю глядзеліся высокія вокны. Даведаўся потым, што будаўніцтва нашае школы выхадзіў па інстанцыях дэпутат царскае Думы, мясцовы святар, свяшчэннік Драздоўскі. Ужо нейкая гістарычная патаемнасць ажывала на саміх калідорах, у светлых сонечных класах хапала зваблівай вышыні. Само сабой узнікала жаданне вучыцца. Уважлівай і лагоднай да кожнага з нас была першая настаўніца Алена Андрэеўна Дашук. На грыфелі школьнае дошкі мы пісалі крэйдай першыя словы.

Неўзабаве для мяне, як і для многіх аднакласнікаў, першай сапраўднай пакутай сталі ўрокі чыстапісання. Пёры-зорачкі пырскалі чарнілам на шурпатай паперы добрушскіх сшыткаў, часцяком пакідалі пляміны. З класа ў клас пераступала і гэтая марока пісьма чарніламі, аж да першай шарыкавай ручкі. Гэтыя ручкі неяк неўпрыкмет зрабілі «школьную рэвалюцыю» – дабавілі чысціні на старонках. Аднак яны і адправілі ў былое прыгажосць каліграфічную

почырку. Якой, памятаю, была адметнай і прыгожай вязь літар у некаторых умельцаў пісьма з майго класа.

Ужо ў чацвёртым класе я напісаў свой першы верш. Дзед Яўхім памёр восенню, калі я пайшоў у другі клас – не было каму паслухаць. Бацька адносіўся да дзедавай творчасці з заўсёднай пагардай. Гэтак аднёсся б і да маёй. Дзядзька Павел, уральскі шахцёр, прывёз мне некалькі тоўстых агульных сшыткаў у падарунак. Ужо ў сёмым класе адзін з іх напалову быў запоўнены вершамі. Асабліва часта кранаўся слова пачынаючага паэта чараў хараства тае, у каго быў закаханы. Як самую вялікую таямніцу хаваў гэты сшытак глыбока ў парце. Пакідаў дома, прадчуваючы небяспеку, – з жахам уяўляў гэты сшытак у руках аднакласнікаў. Аднак вершы часцей за ўсё нараджаліся на ўроках – як пярэчанне той абавязковай працы, якую і патрэбна выконваць на ўроку. Не станеш іх занатоўваць у іншых сшытках. Даставаў агульны схытак патайна, спешна запісваў. Суседка па парце Люда Нікіценка не звяртала ніякай увагі на мае творчыя ўлоўкі. І вось аднойчы вяртаюся ў клас на званок з перапынка, а сцены трасе рогат. Мой сшытак у руках Колькі Рудчанкі.

– Паэт! Паэт! Паэт! – водгулле грому.

Укрыўджана-счырванелая аднакласніца, у слязах.

Назаўтра не пайшоў у школу – пераў жываў. Душыўся сорамам. Глыбока ў тумбачку засунуў ненавісны сшытак. У грубку потайкі захацелася кінуць – і кінуў! Але неўзабаве, астыўшы, завёў другі – таксама з дзядзькавых. (Гэты якраз і ацалеў на ўзвеях часу).

У гэты сшытак з-за пляча зазірнула неяк на ўроку мая любімая настаўніца рускай літаратуры Эмілія Мечыславаўна Купрэйчык, па яе парадзе даслаў вершы ў раённую газету, а потым у Мінск – у газеты «Піянер Беларусі» і «Чырвоная змена». Упершыню вершы надрукавалі ў Хойніцкай раённай газеце «Ленінскі сцяг», а потым пачаргова ў «Піянеры Беларусі» і «Чырвонай змене», адкуль прыходзілі мне лісты ад уважлівых літкансультантаў Анатоля Сербантовіча і Сымона Блатуна.

Эмілія Мечыславаўна жыла на нашай вуліцы, ведала і не раз слухала майго дзеда Яўхіма, таму адразу ж як на прадаўжальніка яго вершатворчае справы на мяне паглядзела. А калі вершы пачалі друкавацца асабліва часта ў раёнцы, маёй літаратурнай падрыхтоўкай занялася ўсур'ёз, дзе там сягонняшнім рэпетытарам!.. Любімая настаўніца многіх вучняў Бабчынскай школы, яна дасканала ведала не толькі рускую літаратуру, якую выкладала, але і беларускую, была аднакурсніцай Івана Пятровіча Шамякіна, чым асабліва ганарылася. У суседнім Ленінскім пасёлку ў пачатковай школе настаўнічаў яе муж Раман Акімавіч. Разам з імі жыла яе незамужняя сястра Марыя

Мечыславаўна, якая працавала нашым школьным бібліятэкарам. Мяне запрашалі па вечарах дамоў «на тэлевізар» (тады рэдкасць у вёсцы). Гаварылі-раілі. Склалі цэлую праграму абавязковай для прачытання літаратуры, хоць я і так гарнуўся да кніг усім сэрцам. Не толькі школьную бібліятэку наведваў, але і калгасную не забываў, у якую яшчэ з дзедам хадзіў. Цяпер калгасная бібліятэка перабралася на другі паверх новага Дома культуры, мела асобны ўваход. Бібліятэкарам працавала жонка аднаго калгаснага начальніка – абыякавая да кніг. І ўжо шасцікласнікам я ўсмак зачытваўся Мапасанам і Заля, чаго б ніколі не далі ў рукі ў школьнай бібліятэцы.

Дома ў маёй любімай настаўніцы я і здаваў, можна сказаць, самы сур'ёзны экзамен на літпрыгоднасць. Мяне пераканалі паступаць не на журналістыку, куды збіраўся, а на філалогію. Памятаю і сягоння словы аргументацыі: журналісты вывучаюць літаратуру павярхоўна, філолагі – глыбінна. Мудрыя словы! Асабліва сягоння яскрава бачна, як наша тэлебачанне і газеты верхаглядна праходзяцца па літаратуры.

Вывучаць глыбінна літаратуру на філалагічным факультэце БДУ імя У.І.Леніна, куды паступіў у 1971 годзе, мне пашчасціла ў Алега Антонавіча Лойкі, Вольгі Васільеўны Казловай, Міхася Рыгоравіча Ларчанкі, Ніла Сымонавіча Гілевіча, Івана Якаўлевіча Навуменкі, Дзмітрыя Якаўлевіча Бугаёва, Рыгора Міхайлавіча Семашкевіча, Вячаслава Пятровіча Рагойшы, Маргарыты Барысаўны Яфімавай…

І гэта толькі родную беларускую. А рускую, а замежную. Яшчэ адзін спіс дарагіх імён…

Філалагічны факультэт! Чатырохпавярховы корпус на Чырвонаармейскай. Інтэрнат на Паркавай магістралі. Незабыўныя дні студэнцкага юнацтва. Наша літаратурнае аб'яднанне «Узлёт», прафесар, паэт, літаратуразнаўца Алег Антонавіч Лойка – яго нязменны кіраўнік. Філфакаўскае літаб'яднанне сфарміравала ядро не аднаго літаратурнага пакалення. Гэтак жа «шліфавала» і нас. Бяру ў рукі блакітны, як само неба над намі, зборнік вершаў «Вёсны» і чую незабыўнае водгулле студэнцкага літаратурнага жыцця. Быццам зноў прымоўкла сядзім у аўдыторыі, а вершы чытаюць па чарзе Ваня Рубін, Васіль Сахарчук, Люба Тарасюк, Жэня Мальчэўская, Коля Цялега, Толя Шушко, Саша Емяльянаў, Віця Стрыжак, Саша Пісьмянкоў, Валодзя Марук, Хрысціна Лялько, Тамара Купрэвіч, Вольга Русілка, Валодзя Мазго, Косця Жук, Валодзя Ягоўдзік… Перад кожным была свая літаратурная дарога. Некаторыя сышлі-саступілі з яе адразу ж пасля універсітэта, многія і сягоння нястомна крочаць па ёй. А некаторых ужо няма сярод нас. Абарвалася недапетая песня

І.Рубіна, В.Сахарчука, В.Стрыжака, М.Цялегі, А.Емяльянава, А. Пісьмянкова, Л.Тарасюк, Я. Мальчэўскай. Светлая ім памяць і доўгае жыццё іх паэтычным радкам. Светлая памяць і вялікая ўдзячнасць і нашым «узлётаўскім» кіраўнікам – Рыгору Міхайлавічу Семашкевічу і Алегу Антонавічу Лойку.

У студэнцкія гады адбыліся мае пэтычныя дэбюты ў самых салідных літаратурных выданнях Беларусі – часопісах «Полымя», «Маладосць», «Беларусь», «Нёман», штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва». Паэтаў майго пакалення рэдагавалі і друкавалі такія аўтарытэтныя паэты і не менш аўтарытэтныя загадчыкі паэтычных аддзелаў, як Анатоль Вялюгін, Мікола Аўрамчык, Аляксей Русецкі, Браніслаў Спрынчан, Юрась Свірка. З Анатолем Сцяпанавічам Вялюгіным у мяне асабіста склалася сапраўднае чалавечае і літаратурнае сяброўства. Ён і стаў «хросным бацькам» першае кнігі «Абеліск у жыце» – адрэдагаваў зборнік на грамадскіх пачатках і напісаў прадмову. Першы паэтычны зборнік быў прыхільна сустрэты. 6 сакавіка 1981 года мяне прынялі ў Саюз пісьменнікаў Беларусі.

Яшчэ пісаў дыпломную работу па «Вечы славянскіх балад» Янкі Сіпакова пад кіраўніцтвам А.А.Лойкі, а ўжо быў запрошаны на штатную пасаду ў штотыднёвік «Літаратура і мастацтва». Падарунак лёсу? Думаю, што проста А.Вялюгіну не хацеласяператвараць у ростань наша сяброўства, і ён папрасіў па-зямляцку галоўнага рэдактара «ЛіМа» Алеся Харытонавіча Асіпенку ўзяць філфакаўскага выпускніка на працу ў рэдакцыю. Ужо на руках было накіраванне ў Хойнікі. І мы шчыра з жонкай збіраліся ехаць туды. Хойніцкая раёнка для мяне была патаемнай прывабай. А тут такая прапанова! Многія раілі: заставайся. Дый што казаць, разумеў і сам добра – сур'ёзная літаратурная праца магла быць толькі ў сталіцы, толькі ў пісьменніцкім асяродку, у прафесійнай і духоўнай еднасці… А ўсе клопаты па пераразмеркаванні па-зямляцку шчыра дапамог вырашыць І.П.Шамякін. З гэтай просьбай Іван Пятровіч звярнуўся непасрэдна да міністра асветы М.Г.Мінкевіча. «Калі міністр пачне дакараць, што ў школу працаваць не едзеш, не пярэч, а глядзі вінавата» – параіў Шамякін. Атрымалася зусім адваротнае: усцешаны шамякінскай просьбай міністр папрасіў, каб не падвёў прызнанага майстра слова, пажадаў поспеху на літаратурнай дзялянцы. Пра тое, ці апраўдаў выдадзены літаратурны аванс, Іван Пятровіч напісаў у «Дзённіках». І я ўдзячны народнаму пісьменніку, класіку айчыннай літаратуры за тое, што маёй творчасці даў адзнаку станоўчую. Нас потым звязала вялікае сяброўства – колькі незабыўных сустрэч! Колькі сумесных вандровак па Беларусі! Колькі адкрытых і шчырых гаворак пра літаратуру!

Іван Пятровіч падбухторыў мяне і на самую значную авантуру – балаціравацца на пасаду старшыні Саюза пісьменнікаў. Вельмі ж яму хацелася, каб справа, якой нястомна аддаў многія гады, будучы першым сакратаром творчага Саюза, займела дастойнага пераемніка. На маё шчасце, гэтаму не далі збыцца калялітаратурныя гульні. Стары творчы саюз мізэрнеў у вачах грамадства, бо сама літаратура перастала быць часткай партыйнай ідэалогіі. Творчы саюз станавіўся своеасаблівым прафсаюзам ад літаратуры, якой далі магчымасць дыхаць на ўсе грудзі. Зніклі цэнзура і сумнавядомы Галоўліт. А прафесіяналізм – гэта і ёсць той аргумент творчай свабоды, што, валодаючы ім, пісьменнік ніколі не напіша твор, які абразіў бы годнасць яго народа. Падобныя «творы» сягоння кляпаюцца на камп'ютэрах мноствам калялітаратурных дзялкоў, зрабіліся фінансавай помпай для некаторых і айчынных спрытнюг.

Каля пяці год працы ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва» ўспамінаюцца мной з асаблівай пяшчотай. Выключная інтэлігентнасць і высокі прафесіяналізм Алеся Асіпенкі, працалюбства і дасведчанасць Аляксандра Капусціна, непадробны каларыт і творчая імпульсіўнасць Веры Вярбы, клапатлівыя адносіны Міколы Гіля, літаратурныя чытанні з Юрасём Свіркам, сяброўская ўвага Алеся Марціновіча, Анатоля Астрэйкі, Алеся Казаннікава… Напружаны, пошукавы ход планёрак і шумнагалоссе «Лімаўскіх пятніц», калі ў кафэ Дома літаратара за гасцінны стол сядалі рэдактары, аўтары і героі твораў.

Бурліла літаратурна-культурнае жыццё Беларусі. Не толькі падводзіла пэўныя творчыя вынікі, аднак намацвала-шукала сцежку ў будучыню. Тады наіўна думалася многім: культура і літаратура ў грамадскім жыцці значаць усё! Яшчэ далекавата-прыцемненай сцяной стаялі разбуральныя наступы свету, якія пошасна хлынулі апасля, прынеслі свае «каштоўнасці».

…Маладосць і даецца, відаць, на тое, каб узнімацца на крылы. Таму неўзабаве адчуў, што праца ў газеце, журналістыка, няхай і не скарацечная лімаўская, – не маё. Хацелася напоўніцу скарыстаць набытыя філалагічныя веды. Напачатку 1983 года пачаў працаваць рэдактарам рэдакцыі крытыкі і літаратуразнаўства ў выдавецтве «Мастацкая літаратура». Каля дваццаці год аддаў самаму хвалюючаму працэсу – нараджэнню кнігі. Ці можна перадаць тыя пачуцці, з якімі бярэш у рукі аўтарскі рукапіс, чытаеш засяроджана, чуючы жывое творчае дыханне чалавека, які гады працы аддаў гэтым старонкам, перагортваеш іх з асцярогай, сям-там падкрэсліваеш недакладнасці, захоплены талентам і пранікненнем у глыбіні жыцця, робіш усё тэхнічна належнае, каб рукапіс, прайшоўшы пад тваёй рэ-

дактарскай увагай і мастацкі, і тэхнічны, і карэктарскі аддзелы і паліграфкамбінат, вярнуўся жаданым сігнальным экземплярам толькі што народжанай кнігі.

А сама выдавецкая рэдакцыя? Побач Вера Сямёнаўна Палтаран, Алесь Разанаў, Ала Сямёнава, Наталля Давыдзенка… Заходзяць Алесь Адамовіч, Васіль Быкаў, Янка Брыль, Уладзімір Калеснік, Іван Пташнікаў, Іван Чыгрынаў, Барыс Сачанка, Уладзімір Гніламёдаў, Уладзімір Конан, Фёдар Янкоўскі… Рабочыя моманты вырашаеш з галоўным рэдактарам Серафімам Антонавічам Андраюком і наместнікам галоўнага рэдактара Варленам Леанідавічам Бечыкам. І сягоння ганаруся ўсімі адрэдагаванымі і падпісанымі ў друк кнігамі. Кожнай з іх аддадзена часцінка душы, за гады працы іх набралася болей сотні…

Магчыма таму, што сам працаваў у «крытычным цэху» выдавецтва і ведаў усю сур’ёзнасць стаўлення крытыкаў да новых кніг, так доўга ішоў да другога ўласнага паэтычнага зборніка. «Мой дзень зямны» выйшаў у свет ажно праз пяць год пасля «Абеліска ў жыце». Хацелася стварыць кнігу што называецца на вышыні, Анатоль Вялюгін і тут дапамагаў мне шчыра. Школа майстра – палымянскія падборкі, ашчадна адабраныя, «каб верш у верш», – як казаў сам Анатоль Сцяпанавіч. Строгім вокам прачытаў рукапіс незабыўны Варлен Бечык, параіў сёе-тое з залішне пафаснага апусціць. Ухваліў – падпісаў у друк.

Сягоння з горыччу адзначаю, што гэта мой апошні дачарнобыльскі зборнік. Яшчэ выйдзе напачатку 1987 года «Ружа вятроў», таксама створаны да Чарнобыля, але ўжо самой датай выдання адсечаны ад таго залатога, поўнагалосага часу, калі думалася пра іншыя творы і кнігі, калі стваралася паэзія жыцця, а не страт.

Памятаю, з якім хваляваннем у сяброўскай падтрымцы Вадзіма Спрынчана і Алы Канапелькі ехаў у Хойнікі восенню 1986 года, каб перадаць прэмію Ленінскага камсамола Беларусі – кнігі з аўтографамі нашых вядомых пісьменнікаў – новай трэцяй школе. Родная, бабчынская, як і сама вёска, была ўжо за калючым дротам сумна вядомай на ўвесь свет зоны адчужэння.

У родных мясцінах пабываў за пяць дзён да аварыі. Пасля яе адразу ж паехаў забраць у Мінск сястру з двумя груднымі дзецьмі. Бываў і потым. Прыгадваю, як 29 жніўня 1986 года стоячы на падворку маёй роднай хаты ў Бабчыне, трое нас – І.П.Шамякін, Б.І.Сачанка і я – паведамілі суседзям-вяскоўцам, якія абступілі заезджых гасцей, пачутае раніцай у Гомельскім абкаме: прынята рашэнне выселіць Бабчын. Мае суседзі і людзі-перасяленцы з надпрыпяцкіх вёсак, якія знайшлі, як абяцалі ім, часовы прытул у бабчынскіх хатах,

не адразу паверылі ўчутаму. І, магчыма, не паверылі б зусім, каб пачулі тое ад каго-небудзь іншага, а не ад Івана Пятровіча Шамякіна, любімага пісьменніка, паважанага і аўтарытэтнага чалавека. Аб суровай праўдзе сказанага промнікам-водсветам гаварыў і яго чырвоны значок-сцяжок дэпутата Вярхоўнага Савета СССР.

27 верасня 1986 года Бабчын быў выселены. Якраз на святое Узвіжанне, рэлігійнае свята, якое адзначалася ў вёсцы штогод. У апошні раз перад развітаннем бабчынцы вынеслі сталы прама на вуліцу, выпілі горкую чарчыну ростані і выцерлі слёзы. Апусцелі падворкі і хаты, схаваліся за высакарослай сцяной травастою. З гадамі вымахалі дрэвы і на самой вуліцы. Сягоння толькі вузкая чорная стужка асфальту прабіраецца ў іх зацені каля ледзь кметных хат. А цэнтр вёскі – жывы. Тут у былых памяшканнях магазінаў і двухпавярховых жылых дамоў асталяваліся навукоўцы з Палескага дзяржаўнага радыялагічна-экалагічнага запаведніка, працуюць вахтавым метадам, прыязджаючы нават з Мінска. Вясной на радаўніцу з'язджаюцца ў вёску былыя яе жыхары – прыбіраюць магілы бацькоў і дзядоў, плачуць над імі не толькі па мёртвых, але і па жывых. Заглядваюць і ў свае хаты, і зноў плачуць у выстылых сценах. Ужо разумеюць – ніколі сюды не вярнуцца. Многія з параскіданых па ўсім свеце аднавяскоўцаў пажадалі, каб іх пахавалі на бабчынскіх могілках. Як не штогод паяўляюцца тут свежыя надмагільныя груды. Дазіметр паказвае на іх радыяцыю ў дзесяткі разоў меншую.

Мой літаратурны Чарнобыль пачаўся з «Горкага выраю» – цыкла вершаў, змешчанага ў «Полымі», потым у 1988 годзе па жаданні незабыўнай Яўгеніі Янішчыц ён выйшаў кніжкай у серыі «Бібліятэка часопіса «Маладосць». Горкім чарнобыльскім смуткам прасякнуты мае кнігі «Шлях чалавечы» (1989), «Палескі смутак» (1991), «Бабчын» (1996), якая ў 1998 годзе была ўдастоена Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя Янкі Купалы. Напалову засталіся чарнобыльскімі па тэматыцы, бо перакідаю мост на другую сваю радзіму – Астравеччыну, – «Жыцця глыбінныя віры» (2001) і «Замкнёны дом» (2005). Гэткай будзе і новая кніга «На беразе маім», куды ўвайшлі не толькі новыя перавозніцкія і быстрыцкія вершы, аднак і выбранае з кніг папярэдніх.

Сягоння прынята рашэнне будаваць нашу беларускую АЭС якраз жа на Астравеччыне. Родныя мясціны маёй жонкі Ірэны Браніславаўны дарагія і мне ўжо больш трыццаці год, а дваццаць два з іх я жыў і тварыў тут наводдалі ад жахотаў Чарнобыля. Да Перавознік і Быстрыцы прырасло маё сэрца, зачараванае харастом запаветнай прыроды і светланоснасцю Віліі. Канешне, я разумею, што наша будучая атамная станцыя – станцыя новага пакалення і іншага

тыпу. Што мы, беларусы, спасцігшы горкія ўрокі Чарнобыля, ніколі не аступімся ў эксплуатацыі станцыі, зробім усё, каб яна была бясшкоднай для людзей і для навакольнага асяроддзя. Дый экспартаваць лішкі электраэнергіі будзе эканамічна выгадна – побач Еўрасаюз. Аднак, думаючы пра ўласны жыццёвы і літаратурны лёс, зазначаю журліва:

Разгон бярэ прагрэс
Над куляю зямной.
Мой лёс – між дзвюх АЭС
Нацятаю струной.

Спадзяюся, што гэтая струна вытрымае, не парвецца…

У чэрвені 2002 года я быў прызначаны на пасаду галоўнага рэдактара часопіса «Полымя» і вось ужо сёмы год ім з'яўляюся. Знаходжуся ў эпіцэнтры сучаснага літаратурнага працэсу. Каб працаваць належным чынам, згадваю часта, што сярод маіх папярэднікаў былі Платон Галавач, Міхась Лынькоў, Пятрусь Броўка, Максім Танк. Аднак гэтыя старонкі сваёй біяграфіі , калі дасць Бог права на тое, напішу значна пазней.

*Снежань 2008 года*



## *Наварыч*
***Алесь Іванавіч***

# САМАЖЫЦЦЯПІС

Нарадзіўся 2 лістапада 1960 года на Століншчыне ў старадаўнім, пад 500 гадоў, сяле Відзібор. Сяле, а не вёсцы таму, што ў Відзіборы меўся невялічкі прыпісны храм. Прыпісны – азначае, што бацюшка ў сяле не жыў, а правіць службу прыязджаў ці са Століна, ці з бліжэйшага Дубая.

Бацькі мае, Іван Купрыянавіч і Мар’я Лукашаўна, паходзяць са звычайных незаможных сялян. Бацька з роду Наварычаў, маці з роду, які і дагэтуль носіць прозвішча Баран. І бацька, і маці рана засталіся сіратамі: дзядуля Купрыян, мабілізаваны ў 1944 ў савецкае войска, адразу памёр ад тыфусу, а матчына маці памерла ад моцнай прастуды ў 1946 г., калі некаторыя сем’і яшчэ жылі ў зямлянках. Такім чынам вайна забрала ў мяне дзеда і бабу, спалавініла магчымыя повязі з роднай зямлёй.

Бацька мой вучыцца пайшоў у першы клас яшчэ польскай школы, але правучыўся да 17 верасня, бо прыйшлі, як тады казалі, саве-

ты. Пачатковая школа адчынілася ўжо толькі ў 1940 годзе. Неўзабаве пачалася вайна, і зямля паўднёвей Прыпяці стала належыць паводле нямецкага адміністратыўнага дзялення Украіне. Гэта вызначыла тое, што і школа ў Відзіборы ў 1942 і 1943 гадах была ўкраінскай, падкантрольнай нямецкім акупацыйным уладам. Адукацыю, уласна сямігодку, мой тата змог завяршыць ужо зноў за савецкім часам. Ён меў схільнасць да кніжнага слова, і любоў да літаратуры, да друкаванага слова мой родны «таточко» пранёс праз усё сваё жыццё. У цеснай, на адзін пакой, хатцы-паляшучцы чытаў нам, траім сваім дзецям, на сон ўголас «Вечера на хуторе близ Диканьки», «Тараса Бульбу», што прышчапіла і мне мілату да прыўкраснага слова, да мастацтва прыгожага пісьменства. Бо людзі ў сяле, тутэйшыя жыхары з сялян, мужычага саслоўя, лічылі за гонар мець уласны кажух, сала і ўласную самагонку, а ні газет не выпісвалі, ні кніжак не мелі і не чыталі. Шляхта ж паважала Івана, называла яго няйначай Янэк, а мужыкі кпілі з бацькавай любові да літаратуры.

Наша сяло ў час майго маленства акаляла лясістая прыбалочаная раўніна – так званая марочня. Раўнюсенькая зямля, неабсяжны прастор з альховымі лясамі ўсцяж небакраю, маладыя дубровы і бярозавыя гаёчкі паўз пясчаныя дарогі і сцежкі, процьма канаваў, раўкоў і раўчукоў з балота ў балота -- вось мілы з малых гадоў краявід Прыпяцкага Палесся. Ён назаўжды стаў ці не галоўнай структурнай адзінкай маёй свядомасці.

Пасля школы (гэта ўжо чыста стандартна-савецкай) рынуўся я на заваяванне сталіцы, паступаў ва універсітэт на звышмодную на той час біяхімію, але не прайшоў па конкурсе. Што ж, давялося ісці на свой хлеб – працаваў цесляром у Столінскай вытворча-механізаванай калоне, лабарантам у роднай школе. Праз год зноў паступаў, і паступіў у Мінскі мединстытут. Правучыўся там два гады, зразумеў, што цягі да літаратуры не перабароць. Не столькі хацелася пісаць, як чытаць. Чытаць мастацкія кнігі, у асноўным класіку, бо ў школе яе і не разумеў, і не цаніў. Каб уладкаваць жыццё, не лічыцца адшчапенцам, на агульных пачатках мусіў паступаць у 1980 г. на філфак Белдзяржуніверсітэта.

Ва універсітэце, у філфакаўскай бібліятэцы, зрабіў для сябе і зусім нечаканае адкрыццё. Аказваецца, той мой край, які сядзіць у памяці, і тыя людзі, у якім яны жывуць, і тая і мая мова, на якой яны гавораць, ёсць паўнацэнная, паўнавартасная, годная ўласнай долі і павагі праява універсальнай прыроды чалавека. І праявіцца яна павінна праз мяне. Вось такую вось звышзадачу паставіў яшчэ ў юнацтве.

Задумкі ішлі сваім шляхам, жыццё – сваім. Пасля універсітэта настаўнічаў у Скірмантаўскай сярэдняй школе на Дзяржыншчыне,

потым, у 1987 г. – у Малюшыцкай сярэдняй школе ў Карэліцкім раёне. Нешта пісаў, нешта друкавалася.

У 1988 г. мяне заўважылі, стаў працаваць літрэдактарам ў часопісе «Вожык», з 1990 г. – метадыстам Рэспубліканскага цэнтра эстэтычнага выхавання дзяцей. На хвалі грамадскіх перамен удзельнічаў у стварэнні Грамадска-культурнага згуртавання «Полісьсе», з 1992 г. па 1995 г. быў галоўным (зрэшты і адзіным) рэдактарам асветніцкай газеты гэтай арганізацыі «Збудіньне».

З 1995 г. стаў працаваць у штаце часопіса для дзяцей і падлеткаў «Бярозка», з 2004 – займаў пасаду намесніка галоўнага рэдактара выдавецтва «Выдавецкі цэнтр БДУ», з 2005 – загадчык аддзела прозы часопіса «Полымя», з 2007 – намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Маладосць» і ў гэтым жа годзе ўзначаліў часопіс «Всемирная литература».

У Саюз пісьменнікаў, яшчэ СССР, быў прыняты ў 1988 г.

Што да творчай біяграфіі, то першыя апавяданні з'явіліся ў 1983 г. ў часопісе «Маладосць». Выйшлі асобныя кнігі: зборнік апавяданняў «Рабкова ноч» (1988), «Ноч пацалункаў незалежнасці» (1989), гістарычны раман «Літоўскі воўк» (2004), апавяданні для дзяцей пра прыроду «Звяры» (2005).

*Жнівень 2008 года*



***Пазнякоў***
***Міхась Паўлавіч***

## КРЫХУ ПРА СЯБЕ

У Быхаўскім раёне Магілёўскай вобласці, у баку ад бальшакоў, каля невялікай рэчкі з прыгожай рамантычнай назвай Грэза, стаіць маленькая вёска Заброддзе – ціхая, маляўнічая, непаўторная сваімі садамі і прысадамі. Тут я і нарадзіўся 24 студзеня 1951 года.

Тата мой, Павел Кузьміч Пазнякоў, быў чалавекам працавітым, шчырым, мудрым і вельмі паважаным ва ўсім наваколлі (памёр у 1989 г. на 84-м годзе жыцця). Працаваў ён брыгадзірам, ляснікам, але больш за ўсё (гадоў каля 25-ці) дагледаў Грэзу – абкошваў берагі, чысціў рэчышча на ўчастку даўжынёю звыш 4 км. Быў ён цікавым апавядальнікам, часам экспромтам рыфмаваў свае выказванні, ведаў шмат вершаў на памяць, асабліва рускіх паэтаў і нашых Якуба Коласа і Янкі Купалы. Майстрам тата быў на ўсе рукі: земляроб, садоўнік, цясляр, сталяр, бондар, кравец, пчаляр, паляўнічы, рыбак, лекар. Мог змайстраваць сані, калёсы, пабудаваць дом, зваліць валёнкі або катанкі, вылечыць жывёлу і чалавека. Удзельні-

чаў у трох войнах: белапольскай, фінскай і Вялікай Айчыннай. Працаваў шмат і нас, дзяцей, вучыў усяму і трымаў у працы пастаянна. Быў добры, але строгі і патрабавальны. Вельмі падтрымліваў і заахвочваў чытанне і вучобу. Часта наладжваў хатнія «канцэрты», калі мы, дзеці, становячыся па чарзе на табурэт, дэкламавалі спецыяльна завучаныя вершы, а ён уручаў падарункі. Хораша ён і спяваў, ведаў народныя песні, а танцор быў і зусім непараўнальны! Вельмі любіў я назіраць, як танчыў ён вальс, польку, кракавяк, іншыя народныя танцы, заводзячы ўсіх прысутных і захапляючы мудрагелістымі і нечаканымі то зменамі, то паваротамі, то іншымі дзіўнымі каленцамі. Тата быў веруючым, імкнуўся жыць па запаведзях Божых і нас вучыў рабіць толькі дабро.

Матуля мая, Марыя Еўдакімаўна (дзявочае прозвішча Зыкава), шчыравала ў калгасе (затым саўгасе) і дома. Была руплівай гаспадыняй, клапатлівай і надзвычай добрай маці (памерла ў 1996 г. на 83-м годзе жыцця). Кожны раз, успамінаючы матулю, дзіўлюся, якой інтэлігентнай і мудрай была яна! І да канца жыцця свайго буду ў вялікім даўгу перад ёю, хоць ніколі нічым не пакрыўдзіў і любіў па-сыноўняму ўдзячна і з глыбокай пашанай. Ды ўсё ж патрэбна было часцей прыязджаць са сталіцы да яе, цалаваць спрацаваныя рукі і казаць, якая яна дарагая і слаўная... Колькі жыта пажала, колькі лёну пабрала, колькі буракоў прапалола матуля ў калгасе! А як хораша ўмела яна прасці і ткаць! У хаце доўгі час стаялі кросны. Я вельмі любіў дапамагаць маме і слухаць, як спявае калаўрот, назіраць, як уецца нітка з кудзелі, як з-пад маміных спрытных рук нараджаецца тканіна з прыгожымі ўзорамі. Матуля была арыгінальнай расказчыцай, ведала шмат цікавых гісторый, мясцовых легенд і паданняў і проста заварожвала імі.

Сям’я ў нас была вялікая, панавалі лад і парадак, спраў і працы хапала кожнаму. Шлюб тата і маці ўзялі адразу пасля вайны. Прычым у маці на руках было двое дзяцей (першы муж загінуў на фронце), а ў таты – аж трое (першая жонка памерла ад тыфу, калі тата быў на фронце). Яго адпусцілі, дарэчы, выхоўваць дзяцей. Затым нарадзілі і выхавалі яшчэ шасцярых, сярод якіх я – чацвёрты.

З самага маленства незвычайна яркімі засталіся ў памяці дзве карціны. Першая – зімовая: я ў хаце адзін, старэйшыя ў школе, бацькі павезлі малодшую сястрычку Марыну ў бальніцу і доўга не вярталіся. Мне зрабілася так сумна, так балюча на душы, што я ў адной кашулі, басаножвыбег на вуліцу і прабег па санным следзе метраў сто, і не так было холадна, як я нема крычаў і плакаў ад суму. Другая карціна – летняя: родная цётка Зіна з сынам ішла ў суседнюю вёску. Я ўгледзеў і паплёўся за імі. Дазволілі толькі да канца вёскі ісці, а я на адлегласці крочыў далей. Узышоў на ўзгорак і застыў, зачараваны будынінай удалечыні: казачнай, прыгожай, неверагодна расфарбаванай.

Гэта была мясцовая царква. Настолькі яна мяне ўразіла, што я не мог зрушыць з месца і прастаяў там аж пакуль не вярталася цётка.

Працаваць у дзяцінстве даводзілася шмат. На падворку, у садзе, на агародзе, у лесе, у полі, на лузе, з татам на Грэзе. Тата рана навучыў касіць, габляваць, хадзіць за плугам і бараною, стагаваць сена, нарыхтоўваць дровы... Пасля сёмага класа кожнае лета працаваў у саўгасе. Асабліва падабалася ездзіць з дарослымі на дняпроўскія лугі, дзе сушылі і стагавалі сена для саўгаснага статка, любіў начаваць пасля доўгага працоўнага дня на сене ў будане, змываць стому ў гаючых дняпроўскіх хвалях.

Забаў, гульняў у забродскай дзятвы было вельмі шмат. У вольныя часіны бавіліся на Грэзе, гулялі ў «лапту», «чыжыка», «пана», «хованкі», «вайну»; хадзілі ў лес збіраць ягады і грыбы. Садзілі дрэўцы і кветкі, майстравалі кармушкі для птушак і шпакоўні. З пятага класа захапіліся фізкультурай і спортам. Летам арганізавалі футбольную каманду. Разбілі футбольнае поле, прымалі каманды бліжэйшых вёсак, ездзілі на веласіпедах на гульні ў адказ. Часам нават выйгравалі ў больш моцных сапернікаў.

Вучыўся я спачатку ў Забродскай пачатковай школе. Вучыўся старанна, з вялікім хваляваннем і адказнасцю. Ды і настаўнік першы трапіўся вопытны і патрабавальны – Мікалай Апанасавіч Кандраценка. У адным пакоі сядзелі вучні двух розных класаў, я паспяваў рабіць сваё і засвойваць тое, што рабілі старэйшыя вучні. З пятага класа я вучыўся ўжо ў Глухскай сярэдняй школе, новы будынак якой пабудаваў на свае грошы наш знакаміты зямляк – маршал Герой Савецкага Саюза Сцяпан Акімавіч Красоўскі. Тут я актыўна ўдзельнічаў у грамадскім жыцці, займаўся ў гуртках і спартыўных секцыях. У 9 класе быў абраны рэдактарам «Камсамольскага пражэктара» – насценнай газеты камсамольскай арганізацыі школы. Падабаліся спачатку ўсе прадметы. Асабліва захапляўся гісторыяй, геаграфіяй і матэматыкай. Пазней, калі пачаў рыфмаваць радкі, спрабаваць пісаць вершы, гуманітарны ўхіл узмацняўся, цікавасць да дакладных навук пачала згасаць.

Кніга змалку вабіла, чаравала, здавалася нечым звышвыдатным і незвычайным, салодка-таямнічым і пільна неабходным. Трапляючы ў захапляючы свет цудоўнай кнігі, забываў пра ўсё, сам нібы станавіўся яе героем. Нават і цяпер, чытаючы вельмі цікавую кнігу, магу не пачуць, што да мяне звяртаюцца. Адна з першых прачытаных кніжак – зборнік успамінаў дзяцей вайны «Ніколі не забудзем». Большай трывогі, больш моцнага перажывання я, відаць, не адчуваў ніколі! Гэта падштурхнула мяне потым перачытаць усё, што было ў бібліятэках аб партызанах, падпольшчыках, франтавіках. І першая мара аб прафесіі была таксама вайсковага характару: стаць афіцэрам. Дарэчы, працуючы ў выдавецтве «Юнацтва», я сустрэўся з некаторымі стваральнікамі

гэтай вельмі вартай кнігі. Затым былі творы Янкі Маўра, Міхася Лынькова, Якуба Коласа, Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, Аляксандра Пушкіна, Антона Чэхава, Льва Талстога і многіх іншых пісьменнікаў.

Часта згадваю сваю першую сустрэчу з жывым пісьменнікам – чараўніком мастацкага слова. Адбылася яна ў 1968 г. у школе, і быў гэта слынны Адам Русак. Яго словы аб прыгажосці і багацці роднай мовы назаўсёды прараслі ў маім сэрцы.

Ужо ў старэйшых класах нарадзілася ў мяне мара звязаць сваю далейшую вучобу з літаратурай, мовай, культурай нашай Бацькаўшчыны. Да таго ж старэйшая сястра Ганна паступіла на філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. А мне настойліва раіла паступаць у будучым на факультэт журналістыкі, маўляў, з маімі здольнасцямі можна паступіць. Прызнаюся, было страшнавата нават марыць аб гэтым, але пачаў рыхтавацца загадзя. Рэкамендацыю для паступлення на факультэт журналістыкі атрымаў у рэдакцыі Жлобінскай аб'яднанай газеты «Камуніст», дзе друкаваў допісы і вершы ў час адпачынку ў санаторыі і дзе мяне заўважыў і падтрымаў супрацоўнік газеты, пісьменнік Мікола Янчанка. Ды конкурс быў вялікі, і я з першага заходу не паступіў. Застаўся ў Мінску, дзе жылі ўжо мае старэйшыя сёстры і браты. Уладкаваўся без прапіскі на завод шасцерань. Гэта быў адчувальны працяг майго працоўнага выхавання, універсітэт працоўнага гарту. На другі ж дзень свайго вучнёўства я выканаў норму сталага рабочага цэха парашковай металургіі. Праз некалькі дзён стаў перадавіком, чым здзівіў кіраўніцтва і заслужыў прапіску ў заводскім інтэрнаце. А праз некалькі месяцаў быў ужо і ўдарнікам камуністычнай працы, заданні дзённыя выконваў на 170–180 %. Вольны час аддаваў тэатру, кнігам, кіно, падрыхтоўцы ва універсітэт. У 1971 годзе я адчуў, што такое вялікае шчасце, – стаў студэнтам філалагічнага факультэта (так параілі пісьменнікі, з якімі сустракаўся ў Мінску) знакамітай вышэйшай навучальнай установы Беларусі – Белдзяржуніверсітэта. Гады вучобы праляталі напружаныя і вельмі цікавыя. Яшчэ б! Сярод маіх выкладчыкаў былі Ніл Гілевіч, Алег Лойка, Вячаслаў Рагойша, Павел Ткачоў, Маргарыта Яфімава, Ірына Шаблоўская, Вольга Казлова... Пасля трэцяга курса перавёўся на завочнае аддзяленне і з верасня 1994 г. я ўжо настаўнік роднай мовы і літаратуры, а таксама нямецкай мовы і этыкі ў Ягадскай васьмігадовай школе Бярэзінскага раёна. Пасля закрыцця гэтай школы працаваў у Кукараўскай васьмігодцы гэтага ж раёна. Рабоце аддаваўся ўсёй душой, кожны ўрок рыхтаваў старанна, любіў і заўсёды разумеў дзяцей, і яны адплачвалі мне тым жа. Калі развітваўся ў Ягадскай школе

з першым сваім выпускным класам, пасля двухгадовай працы, плакалі вучні і плакала мая душа, так сумна было расставацца.

Здольнасць пісаць, бачыць прыгожае вакол сябе – ад бацькоў, ад роднай зямлі, ад неба. Ды каля нашай Грэзы, у нашым маляўнічым Заброддзі не мог не абудзіцца хоць у кім-небудзь паэтычны талент. Першы вершык напісаў у шостым класе. Падштурхнула да творчасці настаўніца рускай мовы і літаратуры Роза Сямёнаўна Нікіфарава, даўшы на ўроку заданне напісаць верш. З таго часу ўсё і пачалося, вершаплёцтва захапіла мяне занадта моцна. Каб падтрымаць маё захапленне творчасцю, старэйшая сястра Паліна прыслала з Адэсы «Словарь русского языка» С. І. Ожэгава. Пісаў спачатку для сябе, для сяброў. Першы верш быў надрукаваны ў 1966 г. у газеце «Браслаўская звязда» (г. Браслаў), дзе я вучыўся некалькі месяцаў у санаторнай школе. Заўважыў і падтрымаў мяне там кіраўнік літаратурнага аб’яднання, вядомы пісьменнік Павел Прудніказ. Першы верш на беларускай мове быў надрукаваны ў 1976 г. у газеце «Беларускі універсітэт».

Пасля заканчэння універсітэта (у 1977 г.) вярнуўся ў Мінск. Выкладаў родную мову і літаратуру ў СШ № 26. Праз некалькі месяцаў, вычытаўшы ў газеце, што аб’яўлены конкурс на замяшчэнне вакансіі навуковага супрацоўніка Інстытута мовазнаўства АН Беларусі, адважыўся падаць дакументы. Праз месяц радасці не было межаў, я перамог і быў залічаны на працу ў Інстытут мовазнаўства. Прымаў удзел у распрацоўцы двухтомных «Русско-белорусского словаря» і «Беларуска-рускага слоўніка», а таксама з’яўляўся памочнікам навуковага рэдактара гэтых выданняў. Навуковым жа рэдактарам быў сам Кандрат Крапіва – у той час віцэ-прэзідэнт АН Беларусі. Мовазнаўчая школа славутага пісьменніка, вучонага і цікавага чалавека дапамагла мне глыбей пранікнуць у бясконцае нацыянальнае багацце – моўны скарб, заняцца навуковай працай, напісаць шэраг навуковых артыкулаў, а пасля распрацаваць і выдаць вялікі «Слоўнік эпітэтаў беларускай літаратурнай мовы» (1988).

Вельмі важная для маладога творцы падтрымка старэйшых майстроў слова. Мае публікацыі, падборкі вершаў, апавяданні ў перыёдыцы заўважылі і падтрымалі ў свой час Анатоль Вялюгін, Уладзімір Карызна, Анатоль Грачанікаў, Яўгенія Янішчыц, Павел Ткачоў, Валянцін Лукша, Вячаслаў Рагойша, Раіса Баравікова, Юрась Свірка.

Першая мая кніжка была адрасавана дзецям – «Дзіўныя «блізняты» (1987), якую склалі загадкі на беларуска-рускія амонімы. Затым з’явіліся «Побач з татам» (1988), «Тры чарадзеі» (1991), «Ехаў поўны воз дзівос» (1994), «Шые вожык кажушок» і «Дзівосны свет» (1996)...

Выйшлі кніжкі вершаў для дарослых: «Колер радасці» (1988), «Час надзеі» (1991), «Крутит время свои жернова» (2004), «Любі і помні» (2006). Сягоння я – аўтар 22 кніг паэзіі і прозы. У маім перакладзе на беларускую мову выйшлі кніжкі «Дапаможаш ты – табе дапамогуць» (афганскія народныя казкі), «Залатая ракавінка» (кітайскія народныя казкі), «Дванаццаць месяцаў» С. Маршака, «У заапарку» М. Гелера, раманы: С. Лагерлёф «Пярсцёнак Лёвеншольдаў», В. Скот «Квенцін Дорвард», М. Сервантэс «Дон Кіхот», – некаторыя творы В. Біянкі, Я. Пермяка, Л. Махмудава, Х. К. Андэрсена, братоў Грым і іншых. У апошнія гады шмат перакладаю нашых вядомых творцаў на рускую мову: Янку Сіпакова, Івана Пташнікава, Васіля Ткачова, Уладзіміра Гніламёдава, Паўла Саковіча, Казіміра Камейшу...

У 1981 г. мне было прапанавана кіраўніцтвам Міністэрства культуры ўзначаліць стварэнне Дзяржаўнага літаратурнага музея Максіма Багдановіча. Справа мне падалася (і не памыліўся) такой надзвычай цікавай і вельмі важнай, што я пагадзіўся. Пакінуў Інстытут мовазнаўства і цалкам аддаўся новым шматлікім праблемам і клопатам. За тры гады працы на пасадзе дырэктара музея было зроблена шмат для таго, каб у Траецкім прадмесці адчынілася цудоўная ўстанова, якая стала адным з цэнтраў прапаганды беларускай літаратуры і культуры.

З 1984 г. па 2000 г. працаваў у дзяржаўным выдавецтве «Юнацтва», з 1990 г. – галоўным рэдактарам. Затым два гады ўзначальваў часопіс «Вожык». З 2003 г. працую ў часопісе «Нёман»: да мая 2008 г. – намеснікам галоўнага рэдактара, а цяпер – галоўным рэдактарам. Вельмі часта і з вялікай прыемнасцю сустракаюся з юнымі чытачамі. Дзеці для мяне – крыніца натхнення, творчай энергіі, жыццёвых сіл. Сустракацца з маленькімі, жыць іх думкамі і спадзяваннямі – вялікая чалавечая радасць. Не сапсаваныя нашым жахлівым светам, дзеці для мяне – своеасаблівы астравок дабраты, чысціні і хараства. І без такога астраўка жыццё не мае сваёй адметнасці, значнасці, ды і сэнсу, бадай. Таму больш пішу для дзяцей, каб на душы было святлей, каб дарыць ім хоць часцінку таго, што яны дораць мне – мае маленькія настаўнікі.

Ніколі не цураўся грамадскай работы. І асабліва ў апошнія гады як сакратар Праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі, як старшыня яго сталічнага аддзялення.

Кожны дзень мой напоўнены творчымі клопатамі, надзеямі і пошукамі хараства, сустрэчамі і выступленнямі. Гэтым жыву, гэта робіць мяне шчаслівым, бо няма нічога вышэйшага за служэнне роднаму слову, роднаму народу, роднай Беларусі.

*2008 год*



***Панізнік***
***Сяргей Сцяпанавіч***

## НЕ ТОЛЬКІ ГАМЕРУ…

З сеціва можна выклікаць на экран камп’ютэра геаграфічныя выявы. І тады бачу я берагі Дзвіны, знаёмыя абрысы вёсак, лясных масіваў… Пазнаю свой мацярык. Але лягчэй пранесціся ў думках на падкову Дзвіны між Друяй, Дрысай, Дзісной, «прызямліцца» на маё радзіннае поле. 10 траўня 1942 года я з’явіўся на свет у вёсцы Бабышкі. У вёсцы? На даўняй карце бачыў абрысы такой вёскі. А на мяне з дзяцінства глядзелі сядзібы хутароў пры рэчцы Волце ў Мёрскім раёне Віцебскай вобласці. Сёння толькі адна Волта, абмялелая, асірацелая, і засталася. Сярод ворыва – зарослыя курганкі ад былых сельбішчаў. Вось і былое котлішча бацькоў…

Зляцелі з бэзавай пупышкі
гады юнацкае тугі…
Даездак чэрствы і глухі
у заараныя Бабышкі.

Але тое, што прамінула, ува мне не знікае. Маё радзіннае поле – у полі касмічнай інфармацыі. У ім заўсёды існуе тое, што

прамінула. Адлюстраванне людства, галасоў маіх Бабышак можна адчуць, ажывіць, калі толькі захацець. Таму я лёгка пераношуся ў думках не на пустэчу, а ў тыя згусткі энергіі, у тую рухомую матэрыю, дзе пачыналася мая існасць.

У мамы быў свой каляндар. Узгадвала: гэта было пры першых саветах, так мы жылі пры паляках, а гэтая бяда спасцігла пры немцах… Вясна 1942-га года – гэта «пры немцах». Аказалася, што я два разы ўратаваў партызанскую сям'ю ад вывазу ў Нямеччыну. Першы раз, калі мама «хадзіла» мной: якая карысць рэйху ад цяжарнай? У другі раз знаёмы солтыс Шадурскі даводзіў акупантам, што народжаны малец цяжка хворы. Гэта было праўдай. Вынасіць мяне нялёгка пад буламі самаахоўцаў, паліцаяў, партызан. «Дзе хлеб?», «Ты схавала кажух!», «Што, гарэлку перастала гнаць?»

Сялянская сям'я павінна была аддаць здароўе, кроўны набытак і падчас калектывізацыі, і на каксагызных палях. Памятаю, як мама змушала мяне станавіцца побач і вырываць лён, абы толькі выканаць норму. Бацька быў конюхам у калгасе, і зранку я мяняў яго пры табуне коней. Бацька ішоў дагледзець свае соткі, а я каля вогнішча браўся за лягчэйшую работу, раскрываў дабытую ў сельскай бібліятэцы кніжку. Не я коней пасвіў, а яны мяне. Падыдзе, спутаны, да вогнішча, паглядзіць, чым я займаюся. Праз хвілінку – усе яго браткі ў аўсе. Кніжкі на адзін дзень не хапала. А тут мой сябрук Федзя Кудзянаў паказаў аднаго разу свае крамзолы, назваў іх вершамі. Мяне здзівіла тое, што вершы бываюць не толькі ў кніжках, што іх можна пісаць самому. І першы верш быў напісаны на кані, калі я пасля дажджу збіраў свой парадзелы табун.

А ў запісную кніжачку пазначаў, калі расцвіла першая сунічка, калі прыляцелі бацяны. Прырода гадавала мае ўяўленні. Я цешыўся, як спяваюць валачобнікі, як гукі ад гармоніка плывуць па вечаровым русле Волты. Вясной 1959 года адважыўся паслаць свой верш у раёнку. Тым жа летам надрукавалі і маю байку. Калі паказаў ганарар у рубель дваццаць капеек бацьку, той пахіляў галавой і сказаў: «Сынок, ты з гэтых грошай сыт не будзеш…»

Маім хросным бацькам быў фельчар Леў Іванавіч Кураш. Наш знакаміты лекар толькі чуйнай душой і слухаўкай вызначаў дыягназ, надзейна лекаваў людзей. Я вырашыў: таксама буду фельчарам, мой хросны – прыклад служэння людзям. У 1962 годзе я ўжо працаваў у Княжыцкай участковай бальніцы. Акрамя рэцэптаў, запаўняў паперыны радкамі сваіх вершаў. Паказваў іх Аляксею Пысіну: пры газеце «Магілёўская праўда» ён вёў літаб'яднанне. На той час многія паэты пад загалоўкам свайго твора пазначалі: «З народнага». У сябе на радзіме, у вёсцы Латышы, ад Ядзі Сялюн я запісаў яе ўлюбёную

песню, якая пачыналася словамі: «У суботу Янка ехаў ля ракі…» Дабавіўшы нешта сваё, тэкст з падзагалоўкам «З народнага» паказаў Аляксею Пысіну. Той, адсунуўшы мой рукапіс убок, папрасіў пісаць «ад сябе». А праз некалькі месяцаў засмяяўся, убачыўшы мяне: «Не дагледзеў, не дагледзеў…» Аказваецца, ён па радыё пачуў песню пра Янку, у якой былі свае аўтары: Вера Вярба і Мікола Пятрэнка. Яны па-свойму пачулі тое, што ідзе з народнага і што стала пазней сапраўды народнай песняй.

Летам 1962 года мяне паклікалі ў войска. Стаў фельчарам артдывізіёна. За год службы некалькі перавязак і дыягностыка аднаго фурункула. У вершаванай практыцы набытак быў большым. Салдацкая газета знакамітай Рагачоўскай дывізіі публікавала мае нататкі і вершы ці не ў кожным нумары. Па рэкамендацыі рэдакцыі я і трапіў з Уруčча ў Львоў. Мяне чаравала сама назва горада, па старажытнасці вельмі падобная на ўжо знаную Рыгу. Я стаў культоргам факультэта журналістыкі Вышэйшага ваенна-палітычнага вучылішча СА і ВМФ і амаль сілком прымушаў курсантаў хадзіць на спектаклі ў прыгажэйшы ў свеце оперны тэатр, на філарманічныя канцэрты. Але найбольшая радасць была ад таго, што мне пасля самападрыхтоўкі дазвалялі адлучацца ў бібліятэкі, архівы. А там – скарбы ўкраінскай і беларускай гісторыі, культуры. Вышукваў сляды Цёткі (Алаізы Пашкевіч). Яна сябравала з сям’ёй вучонага Іларыёна Свянціцкага. І вось я ў тым доме. Мне даюць у рукі Біблію Францішка Скарыны, кнігі з аўтографамі Янкі Купалы… У спецфонды я змог праходзіць з фотаапаратам! Упершыню ўбачыў фота Максіма Танка ў вышыванцы, маладой Арсенневай, Забэйды-Суміцкага, Аляхновіча, Галубка… Фатаграфаваў старонкі «Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі» Вацлава Ластоўскага. Пра яе загаварылі ў Мінску мо праз дзесятак гадоў пасля майго вяртання з Львова.

Перад адбоем вяртаўся ў казарму, дзе на тумбачцы мяне чакала лустачка хлеба з задраным рыбіным хвастом, драбок цукру. А ў мыцельніку – вада з-пад крана. Затое ў сшытках адна на адну насядалі выпіскі, цытаты, слупкі бібліяграфій…

У 1965 г. было арганізавана «Беларускае зямляцтва». Дапамагалі нам львоўскія літаратары. Я стаў перакладаць вершы ўкраінскіх паэтаў, а Іван Гнацюк, Раман Лубкіўскі – мае. Даводзілася чытаць у львоўскіх музеях надпіс на слуцкіх паясах на лаціне: «Мэ фэцыт Слуцэ» («Мяне стварыў Слуцк»). А я напісаў верш «Мяне стварыў Львоў»:

На акварэльнай любаце
Бузок у Стрыйскім парку цвіў.
І ў Алаізіным куце
Свяцілася: «Мэ фэцыт Львіў»…

У Львоў (а ў беларускіх народных песнях – Альбоў) прыйшла да мяне і незвычайная радасць – выдадзены ў Мінску мой першы паэтычны зборнік «Кастры Купалля» (выдавецтва «Беларусь», рэдактар А. Кудравец). Рыхтуючы да друку, «адгабляваў» яго Рыгор Барадулін. Удзячны яму за падтрымку, апякунства, за ўсе павучанні. Па яго рэкамендацыі я і быў у 1967 годзе прыняты ў Саюз пісьменнікаў, хаця маё прафесійнае ўмельства было далёка не дасканалым.

Дзякуючы заступніцтву Максіма Танка, служыць пасля вучылішча я трапіў зноў жа ва Уручча. А калі даведаўся, што ў хуткім часе мяне выправяць за мяжу, купіў магнітафон, каб запісаныя галасы Беларусі мяне цешылі далёка ад Радзімы. Зноў абабег сваё радзіннае поле ў Мёрскім раёне. На падкове Дзвіны запісаў на стужку сотні фальклорнай аўтэнтыкі. І сёння слухаю голас мамы, бабулькі Альжбеты, якая прымала мяне на свет… Напоўнена згукамі радаводная прастора. Песні – нібы аднаўленне дэкарацый Бабышак, Лявонпаля. І мелодыі ўжо не могуць сцерціся, зарасці бяспамяцтвам. Поле працярэблена згусткамі нязбытнай энергіі продкаў. Жывое народнае слова напаўняе мае паэтычныя радкі, прадаўжаюць узбагачаць мяне як творцу ўзоры народнага думання і маўлення.

У 1969 г. з прыбабунькамі, купальскімі, жніўнымі, талочнымі песнямі я аказаўся на службе ў Цэнтральнай групе войскаў, у гарадку Мілавіца над Лабай, за 30 вёрст ад Прагі. Горад Скарыны, Забэйды-Суміцкага… У вольны час – экскурсіі па зямлі замкаў, праца ў Страгаўскім музеі, у Славянскай бібліятэцы. Пасля рэдакцыйнай работы я не хадзіў «на півэчко», а перакладаў вершы чэшскіх паэтаў. Міхаіл Гарбачоў праз 20 гадоў пасля «пражскай вясны» папрасіў прабачэння ў чэхаў за танкавыя калоны. А я сваімі перакладчыцкімі пакутамі выбачаўся перад новымі сябрамі.

Мяне заўсёды цікавіла дыфузія культур, беларуская прысутнасць у свеце. Яркія сведчанні знаходзіў у Рызе, Львове, Вільні, Празе. «Мы для братніх народаў бяздонныя верныя донары», – пісаў Пімен Панчанка. Але ж і для беларусаў многа зрабілі суседзі па планеце. Пра гэта сцвярджаюць творчыя наробкі чэхаў Вацлава Жыдліцкага, Міласлава Зімы… Пад Прагаю, у Мілавіцы, пачалі складвацца мае «Пражскія прыпавесці»:

Чакаю Прагу – вуснамі. Радкамі…
Яна расце крыжамі-чаранкамі,
Градчанамі і Кралаўскай заградай.
Чакаю Прагу – прагнаю і радай.

З-пад Прагі я трапіў пад Мінск, у тое ж самае Уручча. А з 1976 года пачалося маё цывільнае жыццё. Яно было аздоблена працай у рэдакцыі літаратурна-драматычных перадач Беларускага тэлебачання

і 14-гадовым рэдактарствам у выдавецтве «Юнацтва» пад апекай Валянціна Лукшы. У «Юнацтве» выходзілі і мае паэтычныя зборнікі, і кнігі дакументальнай прозы пра Асвейскую трагедыю. Помню згадку мамы: «Калі ты радзіўся, за Дзвіной гарэла неба». Асвейшчыну называлі Брацкім партызанскім краем. У 42-м, 43-м гадах там праходзілі жорсткія карныя экспедыцыі. У архівах Рыгі знайшоў дакументы на вязняў Саласпілса. І пачаў шукаць ацалелых пасля вогненных вёсак – у Ленінградзе, Кіеве, Рызе. Гутарыў з саласпілскай ахвярай у Нью-Ёрку, чытаў лісты асвейца з Марока… У Цінкаўцах пад Бігосавам набыў хаціну, каб адтуль пачаць вандроўкі па Верхнядзвінскім раёне. Паспеў наведаць былых вязняў Саласпілса, Майданака, Асвенціма, Равенсбрука. Тыя сустрэчы з асвейцамі згадалі аб нашай народнай трывушчасці, узбагацілі прагаю жыцця. Цяпер у Цінкаўцах знаходзіцца музей «Хата бабкі Парaскі», мае званне народнага. Трэба ехаць на Дзвіну адзначаць яго 30-годдзе. І зноў наперад – у мінулае! 1999 год – год заснавання Музея радзімазнаўства ў Лявонпалі. Там цяпер сельскі цэнтр культуры і вольнага часу, адзін на ўвесь Мёрскі раён. Што прамінула – не знікла, а засталося, хай сабе ў экспанатах музея і яго філіяле – «Хаце бабкі Ядзвіні». Дзе як не ў родным Лявонпалі мне адзначаць 50-годдзе творчай работы – дату маёй першай публікацыі ў раённай газеце. Прыйдзецца зноў паўтарыць перад маладым земляком, мёрскім мальцам:

Тут падрасла арэшына-ляшчына,
тут голас мамы – голас ручая…
Жыве сцяжына,
твая сцяжына,
сцяжынка незарослая мая.

У бабышаўскім доме ў нас стаялі кросны. Але я зусім нядаўна даведаўся, што ткача, які нацягваў аснову, звалі так: панізь. Таму мяккі знак з наймення ткача-прафесіянала я часам устаўляю ў сваё прозвішча: Панізьнік. Не ўсе карэктары прымаюць мой сімвалічны мяккі знак. Але ж Сяргей Панізьнік і Сяргей Папар (гэта мой псеўданім) выдаў 13 зборнікаў вершаў (у тым ліку і для дзяцей), апублікаваў тры кнігі дакументальнай прозы і адзін спеўнік. А ў зборніку «Сустрэча роднасных сусветаў» (1977) змешчаны мае пераклады вершаў замежных паэтаў на беларускую мову і пераклады маіх вершаў на сямі мовах. Так я загадзя рыхтаваўся да глабалізацыі.

Удзячны гадам уздымнай працы ў выдавецтве «Юнацтва». Там падрыхтаваў 10 тамоў зборніка гістарычнай літаратуры «Бацькаўшчына», «Падарожную кніжку Скарыны»… У серыі «Школьная бібліятэка» выйшлі ўкладзеныя мною кнігі пра М. Багдановіча, К. Каліноўскага, Янку Купалу.

Вясной 2009 года споўніцца 15 гадоў, як узначальваю раду таварыства «Беларусь – Латвія». А ўвогуле паўжыцця аддаў вяртанню доўгу Янісу Райнісу, апекуну латвійскіх беларусаў, сябру Купалы. Спарадненне з Латвіяй у мяне асаблівае: у Юрмале пахаваны бацькі, там жыве і грамадзянка Латвіі Ніна Янсанэ, мая родная сястра.

Мой сабрыс на Даўгаве жыў.
Якія дайны ён злажыў!
Не брала плытагона змора.
Выводзіў крывічоў да мора:
Дзвіне-Даўгаве ён служыў.

У Рызе я атрымаў вышэйшую ўзнагароду Латвіі – ордэн Трох зорак. Ёсць і медаль роднага Ф. Скарыны, дыплом ЮНЕСКА… Немалаважнай была і падзея 2003 года, калі я стаў ганаровым грамадзянінам Асвеі. А каб не турбаваць чытача пералікамі выслугаў і высілкаў, працытую Алеся Бельскага, доктара філалагічных навук, прафесара БДУ. У 2005 г. ён выдаў кнігу «Беларуская літаратура XX стагоддзя: гісторыя і сучаснасць». Там ёсць артыкул пра мяне пад назвай «… І ўсе мае дні – Беларусі». А. Бельскі мне ўяўляецца сапраўдным доктарам паэтаў. Вось як ён выпісвае мой анамнез жыцця: «Паэт жыве ў глыбокай лучнасці з родным улоннем, народнай песняй, па запаветах продкаў, шануе спадчыну, нашу пракаветную даўніну. У ім палымнее сэрца грамадзяніна, які па-сыноўняму заклапочаны лёсам Беларусі, роднай мовы, нацыянальнай культуры».

Удзячна палагоджуся з доктарам паэтаў і надалей буду праўдзіць ягоныя словы. З фельчарскага навучання запомнілася выслоўе: «Ін поэціс нон Гомеро солі лёкус эст» – не толькі Гамеру ёсць месца сярод паэтаў. Паспрабую застацца сярод іх.

*2008 год*



## ***Пашкоў***
***Генадзь Пятровіч***

### У АБРЫС МАЙГО СЛЕДУ

Не перапішаш лёс на чыставік,
праверыўшы як след чарнавікамі.
Ідзеш жыццём, –
                    як полем.
Чаравік то ў яму трапіць,
то пабудзіць камень…
…Тут спатыкнуўся…
Там пайшоў на дно…
А тут пражыў – аж сэрца замірае!
Мой лёс – мой чарнавік,
дзе ўсё відно,
дзе ўсё баліць,
шчыміць
          і дакарае.

Гэтыя радкі напісаў, калі меў за плячыма крыху больш трыццаці, а што казаць цяпер, калі пераступіў сталы парог. Толькі дзіўная рэч – тое, што здавалася раней значным, як бы адступіла на другі

план, пацяснілася, а то і зусім пачало ўяўляцца малазначным, і наадварот, тое, што тады было для цябе малазначным, пачало набываць вагу, займаць у біяграфіі прыкметнае месца. Вядома ж, для мяне асабіста.

Малалецтва звязваю з дзвюма мясцінамі. Самы пачатак жыццёвага шляху – у вёсцы Ліпавічы Чашніцкага раёна на Віцебшчыне, дзе ў пару вясновага сонцастаяння, 23 сакавіка 1948 года, нарадзіўся пад зорным знакам Авена і набыў характар, які шмат у чым супадае з апісаннем у гараскопе, прынамсі, так сцвярджаюць тыя, хто добра ведае мяне. Цяпер Ліпавічы зусім невялікая вёска, у маркотным задуменні паціху дажывае лёс, як і старыя дуплаватыя ліпы над яе комінамі. Але ўлетку ажывае, калі з няблізкага свету з'язджаюцца да састарэлых ліпаўчан унукі і праўнукі. Дармо што чыгунка побач, па накірунку з Оршы да Лепеля і назад ходзіць прыгарадны цягнік. Каб трапіць у Ліпавічы, можна ехаць да станцыі Вятна, а можна сысці на паўстанку – і адразу ступіш на лугавую дарогу, што вядзе да вёскі.

Другая палова дзяцінства, а пасля і ўсё юнацтва адзвінелі на Смаргонскай зямлі, на зялёным, у арабінавым абрамленні хутарку паблізу вёскі Войстам. Сюды пераехала сям'я на пачатку пяцідзесятых. Мая маці, Марыя Харытонаўна, была настаўніцай, яшчэ да вайны працавала ў вёсцы, на месцы якой вырас цяперашні Новалукомль. Педагагічная спецыяльнасць маці якраз сталася прычынай пераезду сям'і на новае месца жыхарства. Шмат якія спецыялісты ў той час накіроўваліся ў заходнія раёны дапамагаць хутчэйшаму ўздыму і цяснейшаму аб'яднанню. З прапанаванага маці выбрала Смаргоншчыну. Там, каля Крэва, да таго часу пасяліліся яе сёстры – Паліна і Вольга. Цётка Вольга таксама настаўнічала, жыла адна і ўпрасіла маю маці, каб на час пераезду ды ўладкаванняў тая аддала ёй на выхаванне маю сярэднюю сястру Валю. Так і жылі мы некалькі гадоў у адным раёне ды ў розных сем'ях.

Войстам, дзе я жыў і вучыўся, мае даўнюю гісторыю. Пад назвай Ушакова згадваецца яшчэ ў 1460 годзе. Пасля яна была пазначана на карце Тамаша Макоўскага, мастака, які на пачатку XVII стагоддзя выграviраваў першую дакладную карту ВКЛ. Тая гравюра ўвайшла ў гісторыю пад назвай «Карта Макоўскага» і цяпер лічыцца самым знакамітым творам мастака.

Пра больш даўняе паходжанне Войстама сведчыць гарадзішча VII стагоддзя да нашай эры і селішча VI–VIII стагоддзяў. Пра ўсё гэта я даведаўся значна пазней, бо ў школе пра тое нам не казалі: прыезджыя настаўнікі (а яны былі нават з Масквы) таго не ведалі, а мясцовыя краязнаўцы былі захопленыя рэвалюцыйным духам Смаргонскіх гарбароў у пару рэвалюцыі 1905 года ды яшчэ Агін-

скім, маёнтак якога захаваўся ў Залессі. З прычыны гістарычнай недасведчанасці бесклапотная войстамская дзятва ўзімку рэзала іскрамётнымі палазамі схілы загадкавых пагоркаў, а ўлетку тут, гуляючы ў вайну, капала акопы, ладзіла розныя бліндажы, выпрабоўвала розныя самапалы ды крывулькі. Порах здабывалі з патронаў, якімі было ажно ўсеяна блізкае поле. Той арсенал дастаўся з часоў Першай сусветнай.

Хату каля Войстама купілі незайздросную, маці старгавала, што называецца, па наяўных грашах. Гаспадар хутарка выехаў у Польшчу, а хату на сваю рызыку – а што як вернецца з «амэрыканцамі»?! – прадаў ягоны далёкі родзіч.

Колькі гадоў было хаце – адзін пан Езус ведаў. Падлога гліняная, падрубы прагнілі так, што ажно свяціліся наскрозь. Рабіць перасыпку не мела сэнсу, бо хата ў такім разе рассыпалася б цалкам. І займацца той працай не было каму.

Майго бацьку, Пятра Трафімавіча, віднага мужыка з моцнага і разумнага роду, скрышыла вайна, ён цяжка хварэў і найчасцей ляжаў у шпіталях. Зімовымі днямі, застаючыся ў хаце адзін, я час ад часу саскокваў з цёплай печы, абкладзенай кнігамі, і, апякаючы пяткі аб настылую падлогу, адхукваў у замерзлай шыбе вочка: углядаўся ў завеяную далеч – ці не ідзе часам бацька? Нават пасля смерці яго спадзяваўся дагледзецца.

Маці выпаў цяжкі лёс, і ўжо цяпер, калі яе таксама няма, усё больш дзіўлюся неверагоднай сіле, цярплівасці і жыццялюбству яе.

Здаецца, ні разу не бачыў на яе твары ценю паныласці і безвыходнасці. А яна ж за вайну згубіла двух малалетніх дзяцей – Эдзіка і Волю, у трыццаць з нечым стала ўдавой і адна падымала, ставіла на крыло траіх дзяцей.

Пасля смерці яе сярод дакументаў, розных папер знайшоў я пажоўклую даведку, завераную пячаткай і подпісам партызанскага камандзіра. Дакумент сведчыў, што маці час вайны была сувязной і вяла агентурную разведку нямецкага гарнізона ў Вятна і Чашніках, а звесткі перадавала для партызанскай брыгады «Дубава». А яна ж нават дакументаў на ветэранства не афармляла і ніякімі ільготамі не пакарысталася за тое партызанства.

Мае першыя жыццёвыя ўспаміны сведчаць пра тое, што з самага пачатку быў я непаседлівым хлопцам, і мая радня з тае прычыны мела нямала дакукі. Як ні згадаю, увесь час мяне шукалі.

Першы раз знайшлі пад яблыняй у аддаленым кутку дзедавага саду. Сядзеў у высокай траве перад вуллем, накрыўшыся палатняным ручніком, зазіраў у шчыліну, адкуль вылятаюць пчолы. Чамусьці ніводная не жыганула.

Другі раз знайшлі за вёскай у полі. Патэпаў з дому, каб знайсці бацьку на сенакосе. Каля паўдня шукалі моцна напалоханыя родзічы. У пасляваенныя гады па тамтэйшых лясах і па кустоўі шнырalі адзічэлыя нямецкія аўчаркі. Хітрыя і драпежныя, яны па нахабстве давалі фору ваўкам, нярэдка сярод белага дня залятаді ў вёску, хапалі гуся або курыцу ці іншую жыўнасць. Сярод людзей таксама былі ахвяры, асабліва як пярэйме зграя ў дарозе.

Тым разам вандроўніка знайшлі ў лёне. Зялёныя, гнуткія з блакітнымі вочкамі сцёблы апяразалі рукі і ногі.

Цяга да вандровак і па сённяшні дзень вярэдзіць душу, а калі надараюцца падарожжы, то пачуваю сябе самым шчаслівым чалавекам. Гэта не раз вырывала з цёплага прытулку ды кідала ў дарогу, дзе хапала і неўладкаванасці, і самых нечаканых паваротаў, і небяспечныя прыгоды здараліся. Найбольш па душы выдаліся тры падарожжы-экспедыцыі на вёслах па Гарыні і Прыпяці. То была не проста дарога ў Прыроду, а найперш дарога да чалавечых сэрцаў, пра што напісаў у кнізе прозы «Палескія вандроўнікі» ды і ў вершах, якія разышліся па розных паэтычных кнігах. Быў больш шчаслівым, чым у юную пару, калі ўзахлёб чытаў прыгодніцкія кнігі. «Палескія рабінзоны» Янкі Маўра ажно да восьмага класа перачытваў кожную зіму. Мне не трэба было дужа ўяўляць тыя палескія дрыгвянікі, бо да нашай хаты таксама падступала балота. Парослае чэзлым лазоўем, яно разлягалася ажно да небакраю, там-сям выдзяляючыся хваёвымі астравамі. Нейдзе за гэтымі далёкімі выспамі люстравала нябесную сінь Нарач. Восенню балота загаралася журавінамі. Дабрацца да іх было няпроста. Толькі найбольш спрытныя ведалі дарогу да самых шчодрых журавінавых купінаў.

Ідзеш між чорных прорваў, і ажно сэрца замірае: ледзьве зробіш крок, мяккі грунт пад нагой апускаецца ўніз, а перад табою па самыя грудзі вырастае рудавата-зялёная мшэлая сцяна.

За вёскай праз балота і лес прабівалася рэчка. Была яна невялікая, выцякала з Вішнеўскага возера і мела афіцыйную назву Спягліца, хоць ніхто з вяскоўцаў так яе не называў. Мела тая рэчка ўсяго паўтара дзесятка кіламетраў цёку, перш чым упадзе ў раку Нарач, але на гэтым прамежку хапала і віроў імклівых, і чорных пелек, дзе, нырцануўшы з берага, не заўсёды кранеш рукою дно. Вадзіліся ў Спягліцы і шчупакі, і язі, і ментузы, і залатыя карасікі. І выдры былі. У прыбалочаным месцы жыўнасці той харчу хапала, бо на вудачкі рэдка што клявала, адно бродзень або крыгу запусцяць мужыкі ў даступным месцы, то ў торбу трапляў важкі ўлоў. А ўжо ты са сваёй лескай дзень прасядзіш, а зловіш тры-чатыры краснапёркі ці столькі ж паласатых акунёў – матросікаў.

З-за рэчкі выпала мне несвядома здзейсніць добры ўчынак – выратаваць жыццё чалавеку. А было гэта так. На суседнім хутары жыў у развалюшцы Эдзік Пастарнак – мой старэйшы сябрук, хлапец кемлівы, але часта шкодны ў паводзінах. Ва ўсякім разе пад яго атаманствам падлеткавы гурт не раз калаціў вясковыя сады ды вытоптваў ушчэнт трускалкавыя дзялянкі. Тым чэрвеньскім ранкам я доўга канючыў, усяляк угаворваў Эдзіка пайсці на раку: аднаму было страшна на рацэ сярод балота і панурага лесу. Ніколі так не ўпарціўся Эдзік, як гэтым разам. На вуліцы чэрвень, а ён як прырос да печы, нейкую кнігу чытае ў прыцемку. Я і так да яго, і гэтак, а ён – не хачу! То я прыклаў нямала настойлівасці, каб ён нарэшце злез з печы.

Адышлі ад хаты недалёка, чуем – расце металёвы гул. Азірнуліся, а тады паўскідалі вочы ў неба. Бачым – самалёт. За ім – чорная паласа дыму, а скрозь яе – агонь. І той самалёт расце на вачах.

– Глядзі! – крычу. – Пагранічнікі збілі шпіёна.

Тым часам самалёт даляцеў да зямлі, якраз да таго месца, дзе над жытам стаяла старая высахлая бярэзіна. Бярэзіна пахілілася, а тады цяжка рухнула на зямлю, як падсечаная. Разам з ёю некуды прапаў самалёт. У той жа момант ускінуўся слуп агню. Нешта цяжэзнае прасвістала над галовамі, і страшэнны выбух зваліў нас на зямлю. Аглушаныя, мы паўскоквалі на ногі, азірнуліся. Дзе стаяла Эдзікава хата – параскіданае бярвенне, а над ім бушаваў агонь. Жыта таксама вакол гарэла. Нічога не разумеючы, мы кінуліся да вёскі, але адтуль насустрач беглі людзі. З вёдрамі, з бусакамі. Тады мы развярнуліся і таксама пабеглі зноў да агню. Перад месцам, дзе нядаўна стаяла хата, у пяску на дарозе кранулася яшчэ жывое пашкуматанае чалавечае цела. Гэта быў адзін з чацвярых лётчыкаў з таго самалёта, які пацярпеў катастрофу. Страшэнна скурожаны чалавек дажываў на нашых вачах апошнюю хвіліну і, мабыць, апошняе, што ён бачыў, гэта нас. З таго жахлівага дня прайшло багата часу, але Эдзік па сённяшні дзень лічыць мяне выратавальнікам.

Дзесьці ў дзевятым класе я надумаў падацца ў добраахвотнікі. Якраз былі шасцідзесятыя гады, калі амерыканцы палілі напалмам в’етнамскія джунглі. Пра гэта пастаянна паведамляў друк. На імя раённага ваенкома я старанна напісаў пранікнёную заяву з просьбай паслаць мяне на дапамогу сяброўскаму народу. Праз колькі дзён атрымаў з ваенкамата позву. У той час адзін раз на год усіх хлопцаў з нашага класа, рыхтуючы да вайсковай службы, выклікалі ў раён на медыцынскія агляды. Паколькі на гэты раз позву атрымаў толькі я, былі ўсе падставы спадзявацца – паеду! Пра тое пад вялікім сакрэтам прызнаўся толькі лепшаму сябру.

У райцэнтр дабіраўся аўтобусікам-тарантасам. Глядзеў на заінелы лес ды ўяўляў непраходныя джунглі з пальмамі і ліянамі.

Дзяжурны пакруціў у руках позву, пагартаў уліковую кнігу і, мабыць, не знайшоўшы ў ёй належнага запісу, сказаў пачакаць.

Прыняў мяне маёр. Аглядзеў з ног да галавы, усмешліва чмыхнуў, а тады кажа:

– За парыў патрыятычны дзякую, але на вайну мы не пасылаем.

Пасля распытаў, хто мае бацькі, як вучуся. Даведаўшыся, што бацькі я не маю з першага класа, задумаўся, тады прыкметна расчуліўся:

– Ты вось што… Давучвайся ў школе, а як надумаеш у ваеннае вучылішча паступаць, то я асабіста дам рэкамендацыю... Хоць, як бацька, параю табе – лепш інстытут закончыць...

Апошнія словы як кіпенем ашпарылі: у будучым я сябе бачыў выключна вайскоўцам.

Праўда, меў я таксама іншае захапленне, як бы пабочнае – друкаваў допісы ў раённай газеце «Светлы шлях». І гэты занятак не абыходзіўся без прыгод. Аднаго разу напісаў заметку, як масцовы апальшчык так натапіў калгасную лазню для прасушкі лёну, што яна згарэла разам са снапамі. Заметку надрукавалі, але пад ёй замест майго прозвішча дзеля маёй жа бяспекі рэдактар паставіў псеўданім Г. Цемназор.

Хто гэты «цемназор», у вёсцы адразу здагадаліся, а той няшчасны апальшчык паспрабаваў аднойчы ўчыніць над селькорам расправу. Ды п’яная справа і тут яго падвяла.

Ужо да адзінаццатага класа я цвёрда быў нацэлены на журналісцкую працу. Студэнцкія гады былі вясёлыя, з паездкай на цаліну, з цікавай практыкай у газетах, на радыё. Тады ўпершыню сутыкнуўся з бюракратыяй, з яе вечным імкненнем навязаць журналісту, як і пра што трэба пісаць. На сталую працу мяне ўзялі ў апошні год вучобы на журфаку, запрасілі ў рэдакцыю літаратурна-драматычных перадач для дзяцей і юнацтва Беларускага радыё. Памятаю, як галоўны рэдактар Валянціна Рыгораўна Шапавалава павяла мяне прадстаўляць старшыні Камітэта Вячаславу Палескаму. Быў ён пэўным чынам літаратар, драматург, але меў строгае аблічча кіраўнічага чалавека і адпаведны гэтаму нораў. Глянуў з-пад ілба на мяне старшыня і адразу выдаў:

– Вообще-то говоря, мог бы постричься...

На тым візіт закончыўся. Праўда, другога заходу не было: загад з’явіўся на наступны дзень.

З вопытнымі ды бітымі радыстамі маладзёну было напачатку цяжкавата, але затое штодня знаёміўся з жывымі, што называецца, пісьменнікамі, артыстамі, навукоўцамі.

Запомніўся выпадак з Піліпам Пестраком. Да юбілею Міхася Васілька запланавалі мне зрабіць радыёкампазіцыю. А што за радыёперадача без «жывога голасу». Пачаў я гадаць, каго б з пісьменнікаў запісаць. Спыніўся на Пестраку: як-ніяк падпольшчык з Заходняй Беларусі. Піліп Сямёнавіч без лішніх угавораў даў згоду паўдзельнічаць і назначыў сустрэчу на кватэры.

Калі я прыйшоў, Піліпа Сямёнавіча дома не заспеў. Мне прапанавалі прайсці ў кабінет, крыху пачакаць, бо ён толькі пазваніў з выдавецтва і папярэдзіў, што едзе дадому.

З'явіўся Піліп Сямёнавіч прыкметна ўзбуджаным, вясёлым. Пакорпаўся ў секцыі, дастаў бутэльку віна, прынёс з кухні хлеба, сала.

Па прычыне сціпласці я пачаў аднеквацца ад пачастунку, на што меў строгае папярэджанне – размова не атрымаецца! Перш чым падняць чаркі, Піліп Сямёнавіч тыцнуў пальцам у радыёрэпарцёр:

– Гэту скрынку стаўляй туды, – паказаў на аддаленае акно. – Пра Васілька пагаворым пасля…

Піліп Сямёнавіч аказаўся красамоўным апавядальнікам. Гаварыў і гаварыў. І пра падполле згадаў і пра партызанаў, і пра кіраўніка Панамарэнку. Асобныя ацэнкі нязвыкла было чуць цнатліваму вуху нядаўняга студэнта. Мо праз гадзіны паўтары Піліп Сямёнавіч выгаварыўся:

– А цяпер бяры скрыню, скажу, што хочаш…

Уся палымяная прамова пра Міхася Васілька заключалася ў адной бездакорнай фразе: «Што тычыцца Міхася Васілька, то я з ім знаёмы ўпрытык не быў... але яго творчасць у пэўнай меры аказала ўплыў і на маю»... Як ні стараўся я разгаварыць Пестрака далей, нічога не выйшла. Так і пайшла перадача з кароткай Пестраковай прамовай. Гэта дало глебу радыёзубрам не раз з мяне падцвельваць, маўляў, трэба спачатку запісаць, а пасля выпіць, іначай парушаецца творчы працэс!

Па дзіўным збегу акалічнасцей у адзін і той жа жнівеньскі дзень 1972 года я атрымаў адразу два запрашэнні на працу – у рэдакцыю часопіса «Полымя» і ў газету «Літаратура і мастацтва». Вядома ж, выбраў «Полымя», хоць было страшнавата – там такія «зубры» твораць! Працаваў літаратурным супрацоўнікам ажно на два аддзелы – паэзіі, дзе кіраваў Анатоль Вялюгін, і нарыса з публіцыстыкай на чале з Іванам Чыгрынавым.

Тая праца была для пачынаючага літаратара шчаслівай школай у творчым, грамадзянскім ды і ў жыццёвым сэнсе, бо акрамя Вялюгіна і Чыгрынава ў той час працавалі ў часопісе Кастусь Кірэенка, Іван Пташнікаў, Рыгор Шкраб, Аляксей Русецкі, Барыс Сачанка, ды і само выданне мела вялікую грамадскую і чытацкую вагу і папулярнасць.

У той час газета «Праўда» надрукавала крытычны артыкул пра слабое асвятленне рабочай тэматыкі ў літаратурных выданнях. «Полымя» трапіла ў пералік. На выступленні «Праўды» рэагавалі тады імгненна. «Падняць» рабочую тэматыку ў часопісе галоўны рэдактар Кастусь Кірэенка даручыў мне. Іван Чыгрынаў на тое бліснуў шкельцамі і па-філасофску заўважыў:

– Бярыся сам за сціло, бо мала хто напіша. Тут трэба ездзіць, шукаць…

Так з перапуду з’явіліся на старонках «Полымя» мае нарысы, якія пасля склалі кнігу «Будзень як свята». Фактычна дэбютаваў я ў літаратуры адразу дзвюма кнігамі – паэзіі і публіцыстыкі.

У канцы васьмідзесятых гадоў выбралі мяне сакратаром партыйнай арганізацыі Саюза пісьменнікаў. Гэта пасада была вызваленая, таму прапанавалі заняцца выключна той справай і пакінуць «Полымя», дзе я працаваў ужо намеснікам галоўнага рэдактара. Але кідаць часопіс не хацелася, і я заявіў, што спраўлюся з дзвюма пасадамі адразу, а лішніх грошай мне не трэба, і ад сакратарскага заробку адмовіўся.

Гэта быў час крутой раскруткі «перабудовы». Пісьменніцкая арганізацыя настойліва ўкручвалася ў палітычны вір. Часта мы, самі таго не заўважаючы, пілавалі сук, на якім утульна сядзелі. Колькі выліліслоў, колькі энергіі перакіпела! Справаздачны партыйны сход у 1989 годзе ішоў як ні разу за ўсё існаванне пісьменніцкай суполкі – ажно дванаццаць гадзін. Першы дзень – восем, другі – чатыры. Перад сходам мая кватэра была як Смольны. Я раптам быў удастоены ўвагі не толькі сакратароў райкама, гаркама, абкама, але і сакратара ЦК і Старшыні Вярхоўнага Савета. Давалі параду, як правесці гэты сход. У той мітынговай бураверці, вядома ж, былі запявалы, і сядзелі яны не ў прэзідыуме. Толькі гэта ўжо іншая тэма, і яна патрабуе асобнага асэнсавання ў больш шырокім маштабе падзей. Ёсць што ўзважыць, ёсць пра што згадаць, і ў гэтым сэнсе я нават удзячны лёсу, што са жніўня 1989 па жнівень 1991 года апынуўся на караблі, які цярпеў крушэнне. І нават у якасці сціплага кансультанта Гуманітарнага аддзела ЦК КПБ я меў магчымасць больш выразна адчуць некаторыя з’явы той пары, убачыць пэўную сістэму іх, распазнаць канкрэтных выканаўцаў.

З 1991 года мы разам з Анатолем Сабалеўскім, разумным і дужа далікатным па характары чалавекам, збіралі калектыў для новага часопіса «Тэатральная Беларусь». І калектыў падабраўся прыстойны, і працавалі, што называецца, усмак, і даволі выразны твар часопіса зрабілі. Вядома ж, дзякуючы аўтарскаму калектыву. На вялікі жаль, сёння часопіс не выходзіць. Меў я дачыненне і да

стварэння недзяржаўнай «Цэнтральнай газеты», якую рэдагаваў пасля. Выходзіла яна адзін раз на тыдзень, у палітычным сэнсе прытрымлівалася ўзважаных цэнтрысцкіх пазіцый. Каля газеты згуртавалася значная частка аўтарытэтных дзеячаў культуры, мастацтва, літаратуры, вучоных, вайскоўцаў. Газета праводзіла ідэі сацыяльнай справядлівасці, стаяла за грамадскую згоду, за еднасць славянскіх народаў, за развіццё ўзаемасувязей паміж нацыянальнымі культурамі, прапагандавала народную духоўнасць. З газетай супрацоўнічалі шмат якія знакамітыя пісьменнікі, вучоныя, мастакі, вайскоўцы. У іх кагорце – народныя пісьменнікі Іван Шамякін, Іван Навуменка, Іван Чыгрынаў, баявыя генералы Анатоль Баранкевіч і Юрый Іваноў, народны артыст Уладзімір Гасцюхін. Нярэдка збіраліся ў рэдакцыі за «круглым сталом», радзіліся і спрачаліся наконт накірункаў творчага і грамадскага жыцця. Нярэдкімі гасцямі былі ў нас святары. Айцец Фёдар вёў пастаянную рубрыку «За веру праваслаўную», дзе друкаваліся звесткі пра святароў, якія былі рэпрэсіраваныя ў 30-я і 50-я гады. Прыходзіла нямала пісем ад чытачоў, і гэта радавала. Адчувалася, што наш асноўны чытач – адукаваны чалавек, нераўнадушны да ўсяго, што адбываецца вакол.

Калі «Цэнтральную газету» даводзілася пачынаць з нуля, то ў выдавецтве «Беларуская энцыклапедыя», куды прызначылі працаваць галоўным рэдактарам у лютым 1996 года, была ўжо багатая творчая традыцыя, закладзеная Петрусём Броўкам, Іванам Шамякіным, прадоўжаная Барысам Сачанкам. На рахунку выдавецтва мела некалькі соцень фундаментальных энцыклапедычных і даведачных выданняў. Сярод супрацоўнікаў багата добрых спецыялістаў, дасведчаных людзей па розных накірунках ведаў. З імі працавалася заўсёды натхнёна.

Больш за дванаццаць гадоў майго жыцця аддадзена энцыклапедычнай справе. Пакідаў выдавецтва спакойна і светла: за адведзены мне час працы тут – 18-томная «Беларуская энцыклапедыя», асноўныя тамы 6-томнай «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі», распачатая шматтомная серыя «Гарады і вёскі Беларусі», выйшлі 7-томная энцыклапедыя «Республика Беларусь» на рускай мове, двухтомныя энцыклапедыі «Тэатральная Беларусь», «Беларускі фальклор», «Минская область», «Вялікае княства Літоўскае». Апошні двухтомнік меў надзвычай вялікі рэзананс, тыраж разышоўся імгненна. Мы выдалі яшчэ адзін, каб заадно палепшыць фінансавае становішча выдавецтва, якое, як і ў іншых, складвалася не лепшым чынам.

Якія дарогі наперадзе – жыццёвыя і творчыя – падкажа лёс. А на яго шляху хочацца пакінуць не паганы след. Каб ім не пагрэбаваў наступнік...

Што пражыта – мудрасці зарок.
Кожнаму прайсці сваё.
На тое
дорыць лёс дарог цяжкі клубок –
тчэ жыцця будзённыя сувоі.
Жыць бы толькі верай у цяпло,
ды цяпла –
звычайнага, зямнога,
а яшчэ –
каб ціха не было
ля твайго гасціннага парога.
Каб у дзень,
цяжкім ці светлым быў,
лепшыя,
адданыя бясконца,
чашу з табой выпілі б сябры,
горкую,
салодкую –
да донца.
Што той лёс?
Няўмольныя гады
хай апаляць скроні серабрыста, –
толькі сэрцам быць бы маладым,
праўдалюбам і максімалістам.

*Кастрычнік 2008 года*



***Пісьмянкоў***
***Алесь Уладзіміравіч***

## ДУМАЦЬ ВЕРШЫ…

*(замест аўтабіяграфіі)*

**Яго Бесядзь заўсёды чыстая**

Бесядзь... Вось я зноў напісаў дарагое мне слова і задумаўся. Задумаўся не толькі таму, што яно абудзіла ў маёй памяці мноства асацыяцый і родных сэрцу вобразаў. Не толькі таму, што «птушкі помняць гнёзды свае», хоць гэта і святая праўда.

Я раптам адчуў, што ў маёй свядомасці даўно ўжо жыве дзве Бесядзі: адна з іх – рака майго маленства, а другая – вось ужо колькі гадоў жыве ў нашай літаратуры. Прачытайце творы А. Куляшова, І. Чыгрынава, М. Сяднёва, А. Русецкага, В. Хомчанкі, П. Прыходзькі, Л. Левановіча, М. Губернатарава і вы пераканаецеся ў гэтым. Але будзем паслядоўнымі... Бесядзь, як сведчыць энцыклапедыя, – «рака, левы прыток Сожа (бас. Дняпра). Даўжыня 261 км. Пачынаецца

ў Смаленскай вобласці, цячэ ў Магілёўскай, Бранскай і Гомельскай абласцях. Шырыня рэчышча ад 10–20 м у верхнім цячэнні, да 30–40 м у ніжнім, на асобных участках да 100 м».

Не, так, відаць, у нас наўрад ці што атрымаецца – адсунем у бок салідны том энцыклапедыі, бо яе сухая навуковая даведка гаворыць усё і ў той жа час – нічога. Прынамсі, у ёй няма ні слова пра самае істотнае: Бесядзь – адна з самых найчысцейшых рэк на Беларусі. Далёкая ад прамысловых цэнтраў і густанаселеных гарадоў, яна захавала надзіва чыстую і празрыстую, аж да крынічнасці, ваду. Нават у летні спякотны дзень яна не губляе прыемную, трохі калючую прахалоду. А цяпер ва ўсё гэта ўдыхніце жыццё, дайце ўволю святла і сонца, уявіце крутыя стромістыя берагі з карабельнымі соснамі і старымі як свет дубамі, з аднаго боку, і шырокімі заліўнымі лугамі са шматлікімі старыцамі – з другога. Дадайце да гэтага гарэзлівых ластавак, што жывуць па-над самай вадой у пячорах абрывістых берагоў, не забудзьце руплівых пчол і басавітых чмялёў, якія непадалёк ладзяць свае гнёзды... Я не памятаю, каб прыбяседскія мужчыны, ідучы касіць, бралі з сабою збанкі з вадой – касцы пілі проста з рэчкі. Але затое я добра помню старога Гарашчонка, які, калі верыць мясцовым рыбакам (на Бесядзі ці не ўсе рыбакі), адпускаў злоўленых акунёў назад у ваду і пры гэтым скептычна моршчыўся: «Чысціць кепска...»

### Пісьмянкоў луг

«У час цяжкі, у момант паваротны свайго жыцця» я ўсё часцей вяртаюся ў шчаслівае маленства.

Мае думкі і ўспаміны там, дзе нясуць свае светлыя воды мае любімыя Бесядзь, Зубар і Сураў, «дзе трымаюць зямлю на карэннях сваіх сасна і бяроза», там, дзе некалі разам са мною радаваліся і журыліся, смяяліся і плакалі Бяльгакавічы, Белы Камень, Мізырычы, Канічы, Калодліва, Белая Дуброва... Божа мой, і якія назвы! Што ні назоў, то яркі, непаўторны вобраз! Колькі ў іх глыбокага сэнсу і высокай паэзіі! І ад кожнай назвы вее таямнічай старажытнай славяншчынай. Любая з іх можа смела стаць загалоўкам верша, паэмы, рамана. Зрэшты, я так і зрабіў, назваўшы сваю першую кніжку «Белы Камень». У мяне было два варыянты, і я доўга вагаўся: «Падкова ў расе» ці «Белы Камень»? Прыдуманы мной гордзіеў вузел адным рашучым і ўладным махам рассек адмірал ад паэзіі Анатоль Сцяпанавіч Вялюгін: «Толькі «Белы Камень»! Філолаг, успомні Максіма Багдановіча: «Дзень гэты, – так пісаў Катул, – я белым каменем адзначу...»

Можа, я і пішу нешта сваё толькі таму, што ў мяне былі і ёсць Белы Камень і Мізырычы на Зубары, Бялынкавічы на Бесядзі, Канічы на Сураве... Нездарма ж сам Аркадзь Смоліч заўважыў у сваёй славутай «Географіі Беларусі», што Касцюкоўшчына «ляжыць над Бесяддзю ў прыгожай мясцовасці». Можа, дзякуючы акурат гэтай прыгажосці тут і з'явіліся на свет пісьменнікі Якуб Брайцаў, Аркадзь Куляшоў, Іван Чыгрынаў, Аляксей Русецкі, Масей Сяднёў, Васіль Хомчанка, Пятро Прыходзька, Леанід Леванові, Сямён Пацёмкін, Міхась Губернатараў, Мікола Мельнікаў, выдатны мастак Антон Бархаткоў.

Такая ўжо тут, як любіў казаць мой незабыўны настаўнік літаратуры Аляксандр Іосіфавіч Нікіценка, генетыка зямлі.

А хіба не быў паэтам той, хто даў густому лясному масіву за вірлівым Зубарам дзіўную назву Штаны! Кажуць, што з самалёта гэты грыбны і ягадны лес сапраўды нагадвае дзве шырокія калашыны. Гэтая назва спрадвечная, і ўзнікла яна яшчэ задоўга да самалётаў. А колькі досціпу і гумару ў назове бяздоннай азярынкі, якую нейкі весялун трапна назваў Чортавай Срачкай! А яшчэ ж ёсць Рафееў Беражок, Саўкіна Лужа, Вербачка, Гамарня, Сіні Вір...

Гэтым спякотным летам, вудзячы рыбу каля Вербачкі, я сустрэў двух цыбатых хлапчукоў, выгаралых на сонцы аж да саламянасці, якія горда неслі па вяслу ладных акунёў і плотак. На пытанне, дзе гэтак добра ловіцца, хлопчыкі дружна і зычліва параілі: «Ідзіце на Пісьмянкоў Луг».

Пісьмянкоў Луг... Эх, як шкада, што гэта ніколі ўжо не пачуюць мае бацька і маці. Гэта яны, паліваючы потам зямлю, расчысцілі і зраўнялі зарослае непралазным хмызняком месца над Зубарам і ператварылі ў прыгожы раздольны луг.

Сёлета ўпершыню там не звінелі нашыя з братам косы.

## Слоўнік бабы Насты

Аляксей Пысін раіў вучыцца роднай мове ў вясковых жанчын. Раіў вывучаць не толькі лексіку, якая ў іх багацейшая і чысцейшая, чым у мужчын, але і ўвесь адмысловы склад і лад іхняй гаворкі. Жанчына, казаў паэт, больш блізкая да прыроды, яе мяккая і чуллівая душа бліжэй да народнай песні.

Жанчыны,
Маці-словатворцы,
Ў час калыханак вы спялялі
Імя вясне, пчале і зорцы,
Ўсім добрым дзівам на зямлі.

Гэтыя мудрыя радкі заўсёды ўсплываюць у маёй памяці, калі я сустракаюся з бабай Настай.

Вось і зараз мы з ёю не здароўкаемся, а рукаемся. А на каніцкай вуліцы сёння, даруйце, сянні не галалёд, а ледзяніца, і ў рукі баба Наста бярэ не кій ці кавеньку, а цапок, каб цапаць коўзкую дарогу. Яна вельмі непакоіцца, што на маіх ботах амаль зусім сцёрся падпятак – так мая бабуля называе абцас. На дварэ не толькі ледзяніца, але і яшчэ дужа ёдка – золка, ветрана і на халодным скавышы брыніць (рабаціць) вада ў хуткім Сураве, які тут жа, за бабулінай хатай, імклівa бяжыць да Бесядзі.

Частуе мяне баба Наста не проста яечняй, а цалкавухай (неразбітыя жаўткі) і добра ўжалелай (смажанай) бульбай. Вядома, што мы ахвотна бяром па каліву (па кроплі) яе мяккай, хатняга вырабу гарэлачкі. І ў свае восемдзесят шэсць яна не любіць верзяі (лухты). Жыва, з цікавасцю распытвае пра сваіх праўнукаў і зычліва кажа, што яны занадта вялікія малізыннікі (ласуны).

Я са смакам бяру каліва гарэлачкі, ем цалкавуху, ужалелую бульбу і з асалодай слухаю яе гаворку і не перастаю здзіўляцца, які яна выдатны лексікограф і бліскучы стыліст.

**Каніцкі дзед**

У аснову знакамітага куляшоўскага верша «Мая Бесядзь» пакладзена паданне пра птушку каню:

Кажуць, што рэкі птушкамі створаны, –
Такімі малымі на першы пагляд, –
Капалі і ў дзюбах адносілі ў бор яны
Мяшочкі з зямлёй
І ляцелі назад.
Ды каня гуляла ды мыла іх здзекамі,
І птушкі паслалі ёй вечны праклён,
Таму і лятае яна над рэкамі
І просіць піць
Аж да сённяшніх дзён.

Я доўгі час думаў, ды і зараз схільны думаць, што назва прыбяседскай вёскі Канічы паходзіць ад назову гэтай птушкі. Ва ўсялякім разе, я ніколі нідзе не сустракаў іх так многа, як у нашай мясцовасці. Асабліва багата гэтага птаства на лясной прырэчнай дарозе з маіх Бялынкавіч на Канічы – радзіму Васіля Хомчанкі. У гэтых самых Канічах жыў некалі мой дзед па маці Сямён Масеевіч. Дзеда мы з братам вельмі любілі. З ім, чалавекам незвычайнай шчырасці і непасрэднасці, было проста і лёгка і можна было без аглядкі гаварыць пра ўсё на свеце. Каніцкі дзед быў лёгкі на хаду – прайсці сем кіла-

метраў туды і назад для яго нічога не значыла. І таму бываў ён у нас даволі часта. Адпускалі назад дзеда Сямёна мы заўсёды неахвотна, і, здаецца, ніколі не было выпадку, каб я і брат не правялі яго далёка за Бесядзь. Падарожжа звычайна доўжылася гадзіну, а то і болей. Каніцкі дзед любіў пагаварыць, ці, як ён казаў, прыстояць з маладзічкамі. Трэба сказаць, што тыя «маладзічкі» былі ў асноўным дзедавага веку. Пры сустрэчы з ім яны зычліва ўсміхаліся, і пры гэтым іхнія вочы молада яснелі. Разгладжваліся маршчыны і на дзедавым твары. Мы з братам у такіх выпадках шматзначна пераглядваліся. Для сябе мы даўно вырашылі, што наш дзед у свой час быў не абыякі лавелас. Падстава для такога меркавання ў нас была відавочная. Прынамсі, мы заўсёды з цікавасцю разглядвалі дзедаву франтавую фотакартку – з яе на нас усмешліва пазіраў вясёлы і зухаваты прыгажун. Неяк пад час аднаго з такіх падарожжаў мы падзяліліся з дзедам сваёй саматужнай версіяй. Дзед задаволена рагатнуў. Адчувалася, што нашае падазрэнне цешыць ягонае самалюбства, хоць, як аказалася, сакрэт дзедавай папулярнасці ў «маладзічак» насіў зусім іншы характар; у галодныя трыццатыя гады наш дзед працаваў рабочым на пякарні, і местачковыя жанчыны, на той час сапраўды яшчэ маладзічкі, цёмнымі зімовымі вечарамі нярэдка прыходзілі да пякарні ў надзеі разжыцца хоць якім-небудзь кавалкам хлеба для сваіх дзяцей. І дзед, чалавек жаласлівы і спагадлівы, не мог адмовіць ім, заўсёды пры магчымасці, крадком, вядома, выносіў хлеб, бо і ў яго самога дома сядзелі на печы малыя Манька і Танька.

На нашае пытанне, ці боязна было, што зловяць, маглі ж пасадзіць, каніцкі дзед скрушна ўздыхаў: «Сэрца ж не зялезнае...»

Пазней пад уражаннем гэтай гісторыі ў мяне нарадзіліся радкі, якія, на жаль, я так і не давёў да ладу:

У мяне не хапае жалеза –
хвароба мая спадчынная.
Гэта – ад дзеда
па лініі матчынай.

Майго дзеда чамусьці звалі Блін (моднае слоўца ў сённяшняй «крутой» моладзі). Дзед казаў, што і мой прадзед быў Блін, і прапрадзед таксама – Блін. І калі хто казаў, што я «Сямёнаў унук», гэта ні аб чым не сведчыла, а вось калі казалі «Блінаў унук», то тут усё станавілася на месца і ўсё ўсім было зразумела.

### Прозвішча абавязвае

Усе мае кніжкі, выдадзеныя «Мастацкай літаратурай», рэдагаваў мой равеснік і сябра Леанід Дранько-Майсюк. Рэдагуючы зборнік

вершаў «Планіда», ён раптам пачаў прымушаць мяне скрозь пасля галосных паставіць «ў» («у» нескладовае). Натуральна, я абурыўся, бо прыняў ягонае пажаданне за звычайную рэдактарскую сваволю. Я, помніцца, пачаў пярэчыць, што вельмі цаню ў вершы музыку, што вершы нарадзіліся арганічна і гэткая «хірургічная аперацыя» разбурыць натуральнасць радка, але Дранько-Майсюк трымаўся жалезна і ўпарта даводзіў сваё. Я пачаў спасылацца на класікаў, на вопыт старэйшага пакалення і г. д. Уважліва выслухаўшы ўсе мае аргументы, рэдактар з уласцівым яму спакоем, цвёрда і перакананa заявіў:

– Ім – можна, а табе – не. Ты – Пісьмянкоў, значыць, пісьменны.

Што тут скажаш, давялося саступіць і, дзе толькі магчыма, паправіць: прозвішча абавязвае... Тым больш што яшчэ задоўга да Дранько-Майсюка мне гэта самае сказалі Даль у «Толковом словаре живого великорусского языка», Насовіч у «Словаре белорусского наречия» і Уладзімір Міхайлавіч Юрэвіч у сваім «Слове жывым, родным, гаваркім...».

## Думаць вершы

На вечарыне, прысвечанай памяці паэта-пакутніка Тодара Кляшторнага, Сяргей Грахоўскі ўспамінаў, што пры сустрэчах з Кляшторным на пытанне: «Што робіш, Тодзік?» – той звычайна адказваў: «Вершы думаю...»

Думаць вершы – якое трапнае і дакладнае вызначэнне складанага псіхалагічнага працэсу! Паэты з уласнай практыкі ведаюць, што вершы не пішуць, вершы думаюць, вершы выношваюць і толькі потым запісваюць. Невыпадкова раней у літаратуры існавала дума як жанр. Памятаеце, у Лермантава – «Дума», у Янкі Купалы – «Думка», у Тараса Шаўчэнкі – «Дума»...

У хуткім часе пасля вечарыны Тодара Кляшторнага я з ціхай радасцю прачытаў у Марыны Цвятаевай: «...лірыка – усяго толькі запіс нашых сноў і адчуванняў». Радасць мая тлумачыцца проста: я ніколі не пісаў вершаў – я іх думаў.

## Я не жабрак

Не ведаю, як каму, а мне заўсёды шкада развітвацца з уласнымі вершамі. Можа, таму і не спяшаю аддаваць іх у друк. Пакуль яны са мною, мне – не пуста, я – не жабрак. А аддасі – яны ўжо нібыта і не твае. Міжволі ўзнікае адчуванне нейкай пустаты, якая бог ведае калі яшчэ запоўніцца ды і ці запоўніцца ўвогуле, бо залежыць гэта не толькі ад мяне...

Нездарма ж у Ганны Ахматавай некалі вырвалася: «Когда б вы знали, из какого сора растут стихи!» «Сор» у мяне ёсць і будзе, але

ўсё жывое расце доўга і пакутліва. Усё жывое кволае. І не ўсё, што прарасце, выжыве.

## Ці збываюцца вершы?

Што вершы збываюцца, мне вядома даўно... Яшчэ ў студэнцкія гады я напісаў верш «Калі ў вёсцы маёй паміраюць дзяды». Пасля публікацыі верша ў «ЛіМе» я неяк сустрэў свайго даўняга знаёмага, чалавека сталага і вопытнага, літаратурным густам якога заўсёды даражыў.

– Не пісаў бы ты, стары, такіх вершаў, – ці то параіў, ці то папрасіў мяне мой знаёмец, – не трэба…

– А што, слабы верш? – насцярожыўся я.

– Ды не ў гэтым справа, – адмахнуўся ён ад маёй насцярогі, – ты не крыўдуй, але такія вершы збываюцца.

Той размове я не надаў ніякага значэння і, відаць, зусім бы пра яе забыў, каб не адзін трагічны выпадак, які і сёння не дае мне спакою.

Мой каніцкі дзед па раннім зазімку пайшоў у суседнюю вёску ў госці да франтавога сябра і назад не вярнуўся. Яго шукалі ўсю зіму. Шукала радня, сваякі, суседзі, аднавяскоўцы, міліцыя, але пошукі былі марныя, як скрозь зямлю чалавек праваліўся: ні слыху ні дыху. А быў ён яшчэ моцны і жылісты стары і ў касавіцу намнога маладзейшым мог лёгка падрэзаць пяты. Усю тую зіму мы пражылі ў страшэнным напружанні. На кожны рып весніц, на кожны стук у акно баба Наста і мая маці падхопліваліся з надзеяй: «Вярнуўся...» Але дзед не вяртаўся. Знайшлі яго толькі ўвесну, у самае разводдзе, калі Бесядзь выйшла са сваіх берагоў. Усю зіму ён праляжаў пад лёдам і быў як жывы.

Зразумела, што мяне можна лёгка аспрэчыць і ўсю гэтую гісторыю звесці да прыватнага выпадку, а заадно і папракнуць у нясціпласці: маўляў, бач ты яго, якую сілу свайму твору прыпісаў... Але давайце ўважліва прыслухаемся да таго, што раіў Барыс Пастарнак маладому Яўгенію Еўтушэнку: «Я хачу даць вам адну параду. Ніколі не прадказвайце сваю трагічную смерць у вершах, бо сіла слова такая, што яна абавязкова прывядзе вас да прадказанай смерці. Успомніце хоць бы, якія неасцярожныя былі са сваімі самапрадказаннямі Ясенін і Маякоўскі. І ўрэшце скончылі пятлёй і куляй. Я дажыў да сваіх гадоў толькі таму, што пазбягаў самапрадказанняў...»

І яшчэ адзін выпадак, дакладней, ілюстрацыя да сказанага... На гэты раз з гісторыі нашай айчыннай літаратуры. У майго земляка, таленавітага і рана адышоўшага Анатоля Сербантовіча, ёсць верш, які не ўключаўся ні ў адну прыжыццёвую кнігу, цяпер дзякуючы руплівасці крытыка Сяргея Кавалёва ён змешчаны ў выбраным па-

эта «Жаваранак у зеніце». Кожны раз, калі мне даводзіцца яго чытаць, я адчуваю, як па маёй скуры прабягае мароз. Мяркуйце самі:

Выплываюць тры новых труны,
Дзве вялікіх, адна малая.
Адплываюць у рэдкія сны,
З нашай памяці адплываюць.
Ці зусім я ўжо акалеў,
Адкажыце: у вас пытаю.
На адной труне «Аляксей»,
На другой я «Сцяпан» чытаю.
Проста кружыцца галава,
Разбягаюцца літары тыя...
Хто жывымі нас пахаваў?
Мы, здаецца, яшчэ жывыя...
Адплываюць тры новых труны,
Дзве вялікіх, адна малая...
Гэта сны, гэта толькі сны
З нашай памяці адплываюць.

На вялікі жаль, сны паэта спраўдзіліся. Не трэба быць літаратуразнаўцам, каб лёгка расшыфраваць гэтыя страшныя ў сваім прароцтве радкі. Першым на трыццатым годзе пакінуў гэты свет аўтар, а затым, як і прадказана ў вершы, Аляксей Пысін і Сцяпан Гаўрусёў. Таксама заўчасна і таксама трагічна. Дзве вялікія труны – гэта іхнія, а малая – Анатолева, ён быў малы ростам...

Тры выдатныя паэты-магілёўцы былі звязаны не толькі зямляцтвам, але і цесным сяброўствам. Яны былі вельмі блізкія па духу, і іхні талент вызначаўся выключнай шчырасцю.

Самае дзіўнае, што ўпершыню гэты верш я пачуў з вуснаў Сцяпана Захаравіча дажджлівым вераснёўскім вечарам 1981 года ў рэйсавым аўтобусе Мінск – Магілёў, калі мы, прыгнечаныя агульным горам, вярталіся з пахавання Аляксея Васільевіча Пысіна.

*З кнігі «Думаць вершы»*



## *Пракаповіч*
***Ігар Міхайлавіч***

# ЗАВАБЛЕНЫ КРАЕМ ЧАРОЎНЫМ

Чалавечае жыццё – дзіўная рознакаляровая стужка лёсу, што паступова раскручваецца ў невядомую будучыню, пакідаючы ў гісторыі планеты Зямля свае адметныя сляды. Прычым, некаторыя з іх бачацца з другіх мацерыкоў і краін, іншыя – толькі ў той мясцовасці, дзе наканавана было чалавеку нарадзіцца, жыць, ствараць.

Мой радавод па бацькавай лініі пачынаецца, можна сказаць, з невялікага ўрочышча Бароўка, дзе ў першай палове XX стагоддзя стаяла некалькі хутароў. Зараз на гэтым месцы расце высокі сасновы лес, багаты на грыбы, ягады, дзічыну, а «за польскім часам» тут ладныя плошчы займалі ворныя землі. Іх уладальнік, які меў прозвішча Жук, здаваў частку надзелаў у арэнду, некаторыя прадаваў. Так і ўтварыліся хутары. Са слоў маёй цёткі, бацькавай сястры Таццяны, «дзед Кацкель прывёз на прымакі на зямлю Аляксандра Пракаповіча, які і пабраўся шлюбам са сваячніцай таго Жука Антанінай». Трэба думаць, жыла маладая сям'я не ў раскошы, але даволі заможна

для свайго часу, як і большасць хутаран. Па ўспамінах, ім належала, акрамя ворыва, каля 30 гектараў лесу, а ў пару ўборкі ўраджаю на работы да Пракаповіча наймаліся некаторыя жыхары суседніх вёсак. У шлюбе дзед з бабай мелі сямёра дзяцей: чатыры дзяўчыны і тры хлопцы, з якіх мой бацька, Міхаіл Аляксандравіч (1932 г. н.), быў старэйшы.

Магчыма, жыццё ішло б адносна ладна і спакойна, каб не фашысцкая акупацыя, якая прынесла трагедыю ў сям'ю. У пачатку вайны Аляксандр Пракаповіч вёў сваю гаспадарку і, жывучы пры вялікім лесе, час ад часу дапамагаў партызанам то харчаваннем, то вопраткай, то коньмі. Нейкі час у яго лазні хавалася сям'я яўрэяў, якая ратавалася ад акупацыйнага рэжыму, стараючыся пазбегнуць лёсу ахвяр мядзельскага гета.

А трагедыя адбылася 13 чэрвеня 1943 года, калі суседзі з бліжэйшых хутароў сабраліся ў хаце Грынцэвічаў, каб сустрэцца, пагаварыць, згуляць у карты. Туды ж зайшоў і партызан з вінтоўкай. Неўзабаве ад дарогі Вілейка – Мядзел пачуўся гул машын. Гэта былі грузавікі з нямецкімі вайскоўцамі. Партызан, убачыўшы фашыстаў, выскачыў з хаты праз акно, стрэліў уверх і кінуўся наўцёкі ў лес. Астатнія засталіся ў доме. Немцы акружылі хутар і ўсіх, хто ў ім быў, паставілі да сцяны і расстралялі. А потым, падпаліўшы хату, паехалі далей. Так загінуў мой дзед Аляксандр Макаравіч. Зараз на месцы трагедыі стаіць помнік, на якім выбіты прозвішчы загінуўшых: Пракаповіч, Талайка, Брэскі, Грынцэвічы (5 чалавек), Сівіцкія (2 чалавекі).

Я часта бываю ў Бароўцы, бо адчуваю духоўную повязь з гэтай мясцінай: тут жылі родныя людзі, тут яны радаваліся, кахалі, перажывалі шчаслівыя і трагічныя імгненні свайго жыцця. Можа быць адсюль у маё светаўспрыманне перайшло жаданне справядлівасці ў адносінах паміж людзьмі, непрыняцце насілля ў розных яго формах, у розных праявах, асабліва там, дзе праліваецца кроў нявінных ахвяр...

Калі загінуў дзед, бацьку майму было ўсяго адзінаццаць гадоў, і яму, як старэйшаму, прыйшлося ўзяць на сябе абавязкі гаспадара: араць, сеяць, садзіць бульбу, вырашаць іншыя гаспадарчыя пытанні. Тады ж ён захапіўся паляваннем і гэту страсць пранёс праз усё жыццё. А тады гэты занятак даваў магчымасць выжыць у цяжкі галодны пасляваенны час. У 50-я гады бацьку прызвалі ў войска. Адслужыўшы, ён застаўся на звыштэрміновую службу ў горадзе Паставы, дзе ўладкаваўся, пабудаваў хату, стварыў сям'ю і пражыў усё жыццё. Ён нядрэнна разбіраўся ў аўтамабілях, рознай тэхніцы. Доўгі час служыў прапаршчыкам у авіяцыйных і ракетных часцях, што раз-

мяшчаліся ў горадзе. Выйшаўшы на пенсію, працаваў у Пастаўскім раённым таварыстве паляўнічых і рыбаловаў, быў яго дырэктарам. Вялікі аматар палявання і рыбалкі, ён з малых гадоў браў мяне з сабой у лес ці на возера, даючы такім чынам мне магчымасць спазнаць і палюбіць таямніцы і прыгажосць нашай беларускай прыроды.

Мама мая родам з вёскі Шыкавічы, што ляжыць за пяць кіламетраў на поўдзень ад Мядзела на беразе возера Баторына. За час вучобы на геафаку БДУ, працуючы ў экспедыцыях, мне давялося аб'ехаць амаль усю Беларусь, і, мушу шчыра прызнацца, што хоць і шмат прыгожых мясцін у нашай краіне, а ўсё ж няма прыгажэйшых, чым Мядзельшчына, а ў ёй – Шыкавічы і ваколле. Вёска забудавалася на маляўнічай паўвыспе, што шырокім пасам падзяляе водную прастору Баторына на два вялікія плёсы. І ў які бок ні пайдзі – абавязкова патрапіш на ўзбярэжжа. Нават ідучы на захад у бок Нарачанскай пушчы, што цягнецца аж да Занарачы, усё адно хутка выйдзеш да невялічкага сімпатычнага азярца Запортава пры дарозе Мінск – Мядзел. Шыкавічы маюць чароўную аўру: там адчуваеш сябе вольным і шчаслівым. Там паветра, настоенае на зёлках і хвоях, удыхае ў душу бадзёрасць і аптымізм, а хвалі натхнення накатваюць на пачуцці, як бурлівыя азёрныя хвалі на бераг.

Вось у гэтай вёсцы Бог даў мне магчымасць спасцігнуць прыгажосць Сусвету, і праваднікамі ў гэтым былі мае дзед і бабуля – маміны бацькі. Чым больш набіраешся вопыту і чым далей адыходзіць час іх зыходу ў іншы свет, тым выяўней адчуваеш і разумееш, наколькі духоўна багатыя, далікатныя і, можна сказаць, святыя былі гэтыя простыя вясковыя людзі. І ў школьныя гады, і ў час студэнцтва я кожнае лета праводзіў у дзеда з бабай і за ўсе гады ні разу не пачуў ад іх у свой бок ні крыку, ні папроку, ні нейкіх натацый. З імі было проста і ўтульна, бо душа саграваласся і ачышчалася іх ласкай і пяшчотай. Зараз мне здаецца, што яны былі ўвасабленнем усіх лепшых якасцяў беларусаў: працавітасці, спакою, памяркоўнасці, такту, суперажывання. Многа ёсць людзей, якія закончылі вышэйшыя навучальныя ўстановы, але так і не атрымалі пачатковай адукацыі. Дзед і баба мелі адукацыю толькі пачатковую, але гэта была грунтоўная энцыклапедыя жыцця. Ці не таму ў іх хаце часта спыняліся госці – і простыя вяскоўцы, і навукоўцы, і кіраўнікі, – і ўсе яны з павагай і любоўю ставіліся да гаспадароў. Цяпер я разумею, што прычынай гэтаму была шчырасць – адна з галоўных рыс тыповага беларускага характару.

Дзед, Уладзімір Васільевіч Звяруга, нарадзіўся ў 1909 годзе ў Шыкавічах. Бабуля, таксама шыкаўская і таксама Звяруга, была на восем гадоў маладзейшая. Дзед Валодзя адбываў тэрміновую служ-

бу ў Войску Польскім у Беластоку і, вярнуўшыся, незадоўга перад вайной ажаніўся. Пачатак сямейнага жыцця амаль супаў з пачаткам Другой сусветнай вайны. У першыя дні верасня 1939 года дзед атрымаў павестку – была абвешчана агульная мабілізацыя ў польскае войска. Прызваны ў армію, спачатку патрапіў у Вільню, потым – пад Ліду на фронт супраць германцаў. А 17 верасня ў тыл палякам ударыла Чырвоная Армія. Дзед патрапіў у палон да бальшавікоў і разам з іншымі жаўнерамі быў вывезены ў Катынь. Там каля месяца знаходзіўся ў канцлагеры, з якога вызваліўся шчаслівым выпадкам і вярнуўся на радзіму, дзе ўжо ўсталёўвалася ўлада Саветаў.

22 чэрвеня 1941 года Германія пачала вайну з СССР, 28 чэрвеня фашысты захапілі Мядзел, а 6 ліпеня нарадзілася мая маці, Раіса Уладзіміраўна.

У час акупацыі жыць у Шыкавічах было вельмі цяжка. Побач, у Мядзеле, знаходзіўся ваенны гарнізон германцаў, а адразу за вёскай пачыналася Нарачанская партызанская зона. У Шыкавічы наведваліся то адны, то другія. У час блакады фашысты спалілі вёску. Шчаслівы выпадак уратаваў жыхароў ад расстрэлу: у той момант, калі шыкаўцы, у тым ліку дзед і баба з малой дачкой на руках, стаялі перад руляй нямецкага кулямёта, у вёску прымчаў ганец, які паведаміў камандзіру карнага атрада, што памыліліся з назвай вёскі: трэба было паліць не Шыкавічы, а Шымкі. І жыхароў адпусцілі. Але ў хуткім часе немцы пагналі шыкаўскіх людзей у Мядзел, дзе каля царквы быў створаны канцлагер для тых, каго збіраліся адправіць на работу ў Германію. Зноў жа з дапамогай добрых людзей сям'і ўдалося вырвацца з-за калючага дроту і вярнуцца ў родную вёску.

Пасля вайны дзед працаваў у рыбалавецкай арцелі, у калгасе, а выйшаўшы на пенсію, доўгі час вартаваў ферму. Аднойчы, нечакана для сябе стаў кінаакцёрам. У 60-ыя гады каля Мядзела здымалі фільм пра Несцерку – вось там дзед Валодзя разам з іншымі рыбакамі здымаўся ў масоўцы.

Паўліна Фёдараўна, або, як яе ўсе звалі, баба Паўлінка, амаль усё жыццё прапрацавала свінаркай на ферме. Ёй, жанчыне невялікага росту, хударлявай, даводзілася цягаць вялікія вёдры, каб накарміць калгасных свіней, ды яшчэ і ўпраўляцца з ладнай хатняй гаспадаркай. Шчырыя адносіны да працы і яе вынікі былі заўважаны кіраўніцтвам. Паўліна Фёдараўна адна з першых на Мядзельшчыне была ўдастоена ордэна Леніна, мела і шэраг іншых узнагарод. А для мяне гэта быў блізкі, дарагі і спагадлівы чалавек. Не скажу, што бабуля была вельмі набожнай, хоць і прытрымлівалася праваслаўнага календара, аднак яе светапогляд засноўваўся на асноўных хрысціянскіх канонах. Па іх яна жыла. І таму такія хрысціянскія цноты, як

пакора, шчодрасць, сарамлівасць, спагадлівасць, мернасць, лагоднасць, працавітасць былі яе натуральнай сутнасцю.

Мая мама выйшла замуж у няпоўныя 18 гадоў, пераехала ў 1959 годзе ў Паставы, дзе і пачалося яе сямейнае жыццё. Спачатку не працавала, выхоўвала мяне з братам. Потым уладкавалася на працу ў раённую друкарню, дзе і адпрацавала да пенсіі. Умовы работы былі шкодныя: ёй, наборшчыцы газетных палос, прыходзілася дыхаць парамі свінцу, што дрэнна адбілася на здароўі. Цяпер яна жыве ў хаце адна (бацька памёр у 2002 годзе), часта хварэе, але, як і заўсёды, стараецца хоць чым-небудзь дапамагчы блізкім і родным. Думаю, многія рысы свайго характару я атрымаў з малаком і выхаваннем ад мамы. Яна была побач і ў складаныя, і ў лягчэйшыя часіны, вельмі дапамагла ў першыя гады сямейнага жыцця, асабліва – даглядаць і гадаваць дзяцей.

Акрамя маёй мамы, у дзедавай сям'і была яшчэ адна дачка, Галіна. Яна ўсё жыццё адпрацавала настаўніцай матэматыкі ў школах Мядзельскага раёна, зараз на пенсіі, жыве ў Мядзеле і апякуецца дзедавай хатай у Шыкавічах. Менавіта дзякуючы ёй і яе мужу Уладзіміру Чарняўскаму, кандыдату філасофскіх навук, дом захоўвае сваю чароўную аўру і заўсёды вабіць да сябе, каб надаць сілы, радасць і натхненне. Галіна Уладзіміраўна – блізкі і дарагі мне чалавек, які дапамагае ў розных жыццёвых справах і сітуацыях.

Я нарадзіўся 9 снежня 1960 года ў Паставах. І хоць ужо на календары была зіма, на вуліцы ішоў дождж. Мо таму вобразы дажджоў, туманаў і восені так часта сустракаюцца ў маёй паэзіі. Амаль праз два гады нарадзіўся брат Віктар – адзін з бліжэйшых і даражэйшых мне людзей на зямлі. Усё маленства і юнацтва мы былі побач: разам хадзілі ў школу, разам бавілі час у Шыкавічах, дзе лавілі рыбу, збіралі грыбы і ягады, ганялі на пасту кароў, нарыхтоўвалі сена, дапамагалі садзіць і капаць бульбу ды і шмат чаго яшчэ. Зараз ён жыве ў Паставах, мае жонку Таццяну, настаўніцу фізікі, і дваіх дзяцей – дачку і сына.

Першапачатковую адукацыю я атрымаў дома, а з сямі гадоў пайшоў у першы клас пастаўскай сярэдняй школы № 2. Вельмі пашанцавала з першай настаўніцай – Людмілай Антонаўнай Кайровіч. Гэта спакойная і ўраўнаважаная жанчына навучыла мяне пісаць першыя словы, складаць першыя сказы, выказваць першыя самастойныя думкі. У старэйшых класах таксама было многа эрудзіраваных настаўнікаў-прафесіяналаў, з якіх найбольшы ўплыў на фарміраванне маіх інтарэсаў і захапленняў зрабілі Алена Браніславаўна Тэраз – класны кіраўнік і настаўніца матэматыкі, Ніна Афанасьеўна Гушчына – настаўніца хіміі і Ніна Аляксандраўна Катовіч – настаў-

ніца рускай мовы і літаратуры. Менавіта з апошняй звязаны самы запамінальны эпізод вучобы ў школе. Ніна Аляксандраўна арганізавала і правяла з нашым класам вечар-баль літаратурных герояў, на якім мне давялося іграць ролю Яўгена Анегіна, чытаць урывак з аднайменнай паэмы, а на літаратурнай вечарыне – і верш Сяргея Ясеніна. А яшчэ былі рэпетыцыі старадаўніх танцаў, падрыхтоўка тагачасных касцюмаў, выступленне перад бацькамі. Баль, несумненна, даў штуршок, энергетыку для маіх першых больш-менш сур'ёзных літаратурных спроб. Але гэта, бадай, адна самая яркая старонка, якая засталася ў кнізе памяці, бо закранула душу. У асноўным, навучанне ў школе было цяжкім руцінным непрыемным працэсам, у якім кожны дзень знаходзіўся пад ціскам неабходнасці падрыхтоўкі па 6–7 урокаў, боязі атрымаць дрэнную адзнаку, абавязковага ўдзелу ў непатрэбных і нават шкодных для фарміравання ўласнай самасвядомасці мерапрыемстваў. Заместа таго, каб вывучаць беларускія традыцыі, абрады, святы, культуру, асвойваць найвялікшую каштоўнасць нашага народа – мову, мы, вучні, хадзілі строем, спяваючы псеўдапатрыятычныя песні і прыгаворваючы нейкія «рачоўкі», праводзілі адчэпныя камсамольскія сходы, вывучалі на класных гадзінах матэрыялы з'ездаў КПСС, канспектавалі кнігі Л. Брэжнева «Целина» і «Возрождение», перажывалі за камуністаў ЗША і Афрыкі, якія ніяк не могуць скінуць ярмо капіталізму і пачаць будаваць светлую будучыню, ну і гэтак далей. Нам мэтанакіравана прамывалі мазгі, замбіравалі, і, трэба сказаць, работа гэта давала плён. Я сапраўды шчыра лічыў, што жыву ў самай багатай, справядлівай і магутнай краіне, якая мужна будуе камунізм у атачэнні варожых дзяржаў. Што ў нас усё самае лепшае: навукоўцы, армія, ракеты, калгасы, кіраўнікі... І разам з тым атмасфера школы выхоўвала ўва мне пагарду да ўсяго беларускага, і ў першую чаргу – да роднай мовы. І я, прыязджаючы ў Шыкавічы, дзе мае дзед і баба размаўлялі па-беларуску, падкрэслена пнуўся «разгаварываць на велікам рускам языке».

Ва ўмовах пастаяннага ціску школьных прадметаў рафініраванай школьнай праграмы душа падсвядома шукала сваю вольную прастору, той эфір, тыя сферы, дзе ёй было б цікава і ўтульна. Паступова акрэсліліся тры такія абсягі: прырода, у якую я заглыбляўся ў час вандровак, палявання і рыбалкі; вершы, якія з дзевятага класа пачалі нараджацца амаль штодзённа; і астраномія, якая прыадчыняла таямніцу адказаў на філасофскія пытанні сэнсу і мэты жыцця, будовы і стварэння свету, магчымасцяў раскрыцця новых сіл і здольнасцяў чалавека. Менавіта апошняе захапленне ледзь не стала прафесіяй: пасля заканчэння школы разам з бацькам ездзіў аж у Кіеў, дзе ва універсітэце мелася спецыялізацыя «астраномія», каб пасту-

піць на вучобу. Але ў час іспыту прафесар параіў выбраць іншую сферу дзейнасці, каб засцерагчы вочы. Зрок ужо тады быў «у мінусах».

Спроба амаль без падрыхтоўкі паступіць на лясную гаспадарку ў Мінскі тэхналагічны інстытут аказалася няўдалай, і я вымушаны быў вярнуцца ў Паставы, дзе з адзнакай закончыў СПТВ-2 і атрымаў спецыяльнасць шафёра. Між іншым, лесагаспадарчы факультэт закончыў пазней мой брат.

Дыплом з адзнакай даваў магчымасць ільготнага паступлення ў ВНУ адпаведнага профілю, але тэхнічныя спецыяльнасці мяне не прываблівалі. Мне здавалася, што геаграфія знаходзіцца найбліжэй да прыроды, і таму, здаўшы паспяхова экзамены, паступіў на геаграфічны факультэт БДУ.

Вучоба ва універсітэце дала вельмі многа ў плане асабістага развіцця. З'явілася шмат сяброў і знаёмых, пашырыліся магчымасці далучыцца да культурнага жыцця сталіцы.

Абраўшы спецыялізацыю «геамарфалогія» на кафедры фізічнай геаграфіі, меў магчымасць пазнаёміцца з вядомымі беларускімі географамі: В. П. Якушкай, В. А. Жучкевічам, Р. Г. Гарэцкім, А. У. Матвеевым, П. С. Лопухам і іншымі. Асабліва блізкія творчыя адносіны склаліся з Эрнстам Аркадзьевічам Ляўковым і Валерыем Станіслававічам Аношкам, якія ўсяляк падтрымлівалі мае геаграфічныя і краязнаўчыя праекты, цікавіліся літаратурнай творчасцю, былі рэцэнзентамі маіх кніг.

Значна пашырыўся кругагляд у час вучэбнай практыкі на Кольскай паўвыспе і работы ў экспедыцыях галіновай лабараторыі азёразнаўства БДУ і лабараторыі геахіміі ландшафтаў інстытута геахіміі і геафізікі Акадэміі навук. Удзел у навуковых даследаваннях даў магчымасць вывучыць методыку пошукаў, адчуць смак знаходак і адкрыццяў, што ў далейшым стала добрай крыніцай жадання даведацца і спазнаць штосьці новае ў жыцці, літаратуры, мастацтве. Наогул, стала яшчэ адной спружынай творчасці і натхнення.

Разам з калегамі мы вывучалі азёры Паазер'я, ландшафты Заходняй Беларусі, праехалі па Палессю з усходу на захад ад Мазыра да Маларыты. Потым я і курсавую працу напісаў па геаграфіі Брэсцкай вобласці. Экспедыцыі пакінулі незабыўны след у памяці і пачуццях.

Але, напэўна, найбольшы ўплыў на фарміраванне майго светапогляду зрабіла сям'я вядомага беларускага літаратурнага крытыка Генадзя Шупенькі, у якой давялося жыць на першым і другім курсах навучання ва універсітэце. Генадзь Серафімавіч і яго жонка, Галіна Міхайлаўна, адносіліся да мяне як да сына, апекаваліся мной, дапамагалі ў вырашэнні розных жыццёвых пытанняў. Дабры-

ня, спагадлівыя адносіны ў сям'і, беларуская мова ў штодзённым побыце, а таксама магчымасць па запрашэннях наведваць розныя мерапрыемствы, якія ладзіў Саюз пісьменнікаў у Доме літаратара, зрабілі ўрэшце пераварот у сістэме маіх поглядаў на навакольны свет. Я перастаў быць савецкім і паступова ператвараўся ў свядомага беларуса. Пачаў чытаць шмат беларускай літаратуры, завёў беларускамоўны дзённік, каб прывучыць сябе думаць па-беларуску, пазнаёміўся з хлопцамі і дзяўчатамі, якія ўжо ўсвядомілі каштоўнасць свайго, нашага, роднага.

На той час у мяне было сем агульных сшыткаў рускамоўных вершаў, у асноўным даволі слабых, вучнёўскіх, хоць, як цяпер бачу, з усяго напісанага можна было б скласці нядрэнны паэтычны зборнік. Але ні адзін рускамоўны верш пакуль не надрукаваны, і, думаю, так яно і павінна было быць. Тады, у 1983–1985 гадах я перайшоў на беларускую мову і з таго часу па-руску нічога не пішу. Праўда, выйшла ў 2006 годзе рускамоўная навукова-краязнаўчая кніга «И край родной откроет тайны…», але яна – пераклад з беларускамоўнага арыгінала.

Такім чынам, у свядомасці адбылася рэвалюцыя, вынікі якой замацаваліся ў 90-ыя гады, калі пачалася перабудова, утварылася незалежная Беларусь, стваралася нацыянальная беларуская сістэма адукацыі...

Пасля заканчэння універсітэта меў магчымасць застацца ў Мінску: прапаноўвалі паступіць у аспірантуру, запрашалі на працу ў СШ № 64, дзе праходзіў педагагічную практыку. Быў варыянт уладкавацца на геафізічную станцыю, якая будавалася каля Нарачы. Але абраў вяртанне ў родныя мясціны. Было жаданне працаваць у Мядзеле, але на сустрэчы з тагачасным загадчыкам РАНА атрымаў прапанову паехаць у нейкую далёкую школу ў вёсцы, пра якую ні разу і не чуў. Не пагадзіўся, вярнуўся ў Паставы. А там накіравалі яшчэ далей: апынуўся на мяжы з Літвой у Апідамскай васьмігадовай школе настаўнікам геаграфіі, біялогіі і хіміі. Працаваць спачатку было цяжка па прычыне вялікай нагрузкі і неабходнасці, не маючы вопыту, штодзень рыхтавацца да 5–6 урокаў. Але паступова ўсё наладзілася, знайшоўся час і для вершаў, і для ўдзелу ў мясцовай мастацкай самадзейнасці. Жыў на хутары ў жанчыны па прозвішчы Бодрая, якую ўсе называлі Ларывонаўна. Застаўшыся ў дзеўках па прычыне фізічнага недахопу (яна моцна кульгала) і не маючы дзяцей, яна паставілася да мяне, кватаранта, вельмі прыхільна, а пазней – дык і наогул, як да роднага чалавека. Звярталася заўсёды паважліва «Міхайлавіч», старалася кожны дзень састроіць смачнай ежы, клапацілася, каб у пакоі, дзе я жыў, заўсёды было чыста, цёпла і ўтульна.

Прайшло крыху больш, чым паўгода, і вясной на выбарах у мясцовыя саветы мяне абралі старшынёй Палескага сельсавета, на тэрыторыі якога знаходзілася Апідамская школа. Пасада быццам бы значная, а сродкаў – ніякіх. Запомнілася, як павучаў мяне адзін з тагачасных кіраўнікоў раёна: «Будуць прыходзіць людзі са сваімі праблемамі. Усім усё абяцай, нікому не адмаўляй. Але нічога не рабі, бо на гэта ты не маеш ніякіх магчымасцяў». Хутка зразумеў, што такая праца не па мне: не ўмею прымушаць людзей штосьці рабіць, лепш зраблю сам. І таму, скарыстаўшы магчымасць, з 1 верасня 1986 года перайшоў на работу ў СШ № 1, дзе і працую па сённяшні дзень настаўнікам геаграфіі і астраноміі. Некалькі гадоў вёў урокі гісторыі Беларусі.

У 1990 годзе ў Мядзеле пазнаёміўся з настаўніцай гісторыі Наталляй Фёдараўнай Хіла, з якой у пачатку 1991-га і ажаніўся. У сям'і дзве дачкі: Юлія (1991 г. н.) і Вольга (1994 г. н.). Зараз жонка працуе настаўніцай англійскай мовы ў Пастаўскай раённай гімназіі. Дочкі – школьніцы. З жончынай раднёй падтрымліваю добрыя адносіны. Асабліва люблю сваю цешчу, Кацярыну Ягораўну, – спакойную, памяркоўную, далікатную жанчыну. Яна – поўная супрацьлегласць тых вобразаў цешчаў, якія вымалёўваюцца ў вядомых народных анекдотах.

З 1991 года з бацькам пры дапамозе сваякоў і родных пачаў будаваць уласны дом у Паставах. Ва ўмовах эканамічнага крызісу і інфляцыі, што былі тады ў краіне, усе працаёмкія работы давялося рабіць сваімі рукамі, або збіраць талаку. Толькі праз сем гадоў справілі наваселле. У гэтым доме зараз і жыву. Будаўніцтва забірала амаль увесь вольны час і на творчасць заставаліся імгненні.

Маё захапленне прыродай і падарожжамі знайшло ўвасабленне ў школе: спачатку стварыў турыстычны гурток, потым – краязнаўчы, які зараз уяўляе сабой навуковае краязнаўчае таварыства школьнікаў «Ювента». За дваццаць гадоў змянілася некалькі пакаленняў вучняў, рэалізавана шмат краязнаўчых праектаў. Удзельнікі гуртка былі пераможцамі краязнаўчых рэспубліканскіх конкурсаў амаль на ўсіх этапах усебеларускай экспедыцыі «Наш край». Праведзена больш за сотню вандровак па найцікавейшых кутках Пастаўшчыны і Мядзельшчыны, у тым ліку і вялікая экспедыцыя па вывучэнні старажытнага воднага шляху з Заходняй Дзвіны ў Нёман праз сістэму Нарачанскіх і Мядзельскіх азёр. Некаторыя мае праекты, якія рыхталіся сумесна з вучнямі, рэалізаваліся ў выглядзе кніг: «Манькавічы» – з І. Заяц і Н. Вансовіч, «Мястэчка каля пушчы» – з І. Собаль, «Мястэчка над возерам» – з І. Заяц.

З дзяцінства не люблю розных відаў спаборніцтваў і стараюся трымацца ад іх найдалей. Але ў 1995 годзе па настойлівай просьбе адміністрацыі школы мусіў удзельнічаць у конкурсе прафесійнага

майстэрства «Настаўнік года – 95». Вынікам гэтага працэсу стала 1 месца ў вобласці, удзел у фінале рэспубліканскага этапу.

У 1996 годзе паступіў завочна ў аспірантуру Нацыянальнага інстытута адукацыі па спецыяльнасці «агульная педагогіка», падрыхтаваў кандыдацкую дысертацыю «Арганізацыйна-педагагічныя асновы пабудовы сістэмы краязнаўчай работы ў агульнаадукацыйнай школе». Навучанне закончыў у 1999 годзе, але не абараняўся, бо ўзніклі праблемы са здароўем і навуковая праца была адкладзена на неакрэсленае «потым».

За час работы ў школе падрыхтаваў некалькі прызёраў абласных алімпіяд па геаграфіі, склаў шэраг аўтарскіх навучальных праграм, якія займалі прызавыя месцы на абласных і рэспубліканскіх конкурсах, у тым ліку «Турызм-краязнаўства», «Фізічная геаграфія Пастаўскага раёна», «Спадчына». З 2006 года па сумяшчальніцтву выкладаю геаграфію ў Пастаўскай раённай гімназіі.

Але гэта – работа. А большая частка вольнага часу ішла на любімыя заняткі – літаратурную творчасць, аўтарскую песню, даследаванні па розных накірунках геаграфіі, гісторыі і культуры Пастаўшчыны і Мядзельшчыны.

З сярэдзіны 80-х гадоў літаратура стала адным з галоўных захапленняў жыцця. Вершаў пісалася многа, пачуцці пераліваліся праз краі радкоў, і не заўсёды творы мелі падабенства да тых ідэалаў, да якіх імкнуліся. На пачатак 2008 года ва ўласным архіве знаходзілася больш за 3000 вершаў. Першая паэтычная публікацыя з’явілася ў пастаўскай раённай газеце «Звязда» 13 снежня 1986 года. Былі надрукаваны тры вершы: «Няўтульная асенняя пара...», «Гарыць агнём мой даўні лёс...», «І зноў настане дзень...». Потым паступова паэтычныя творы пачалі з’яўляцца на старонках абласных і рэспубліканскіх выданняў. У 1988 годзе быў запрошаны на семінар маладых літаратараў Віцебскай вобласці ў горад Новалукомль, у наступным годзе ўдзельнічаў у рэспубліканскім фестывалі маладой літаратуры ў Іслачы, яшчэ праз год – у рэспубліканскім семінары маладых пісьменнікаў у тым жа Доме творчасці літаратараў. У 1993 годзе ў бібліятэчцы часопіса «Маладосць» выйшла першая мая кніжка «Рэха малітваў» (рэд. В. Гардзей). Быў вельмі ўзрадаваны, калі даведаўся, што гэты паэтычны зборнік рэдкалегія часопіса прызнала лепшай кніжкай года. Тады ж перадаў у выдавецтва «Мастацкая літаратура» новы паэтычны рукапіс, але працэс выдання зацягнуўся, і толькі ў 1999 годзе ў серыі «Першая кніга паэта» ў свет выйшаў зборнік «Шляхі наканаванага бязмежжа» (рэд. Г. Шупенька). Насамрэч гэта ўжо была чацвёртая кніжка: акрамя «Рэха...» былі выдадзены «Фізічная геаграфія Пастаўскага раёна» (рэд. Э. Ляўкоў) і зборнік вер-

шаў «Намагнічаны космас» (рэд. М. Шабовіч). У 2005 годзе выйшлі зборнікі «Я Вас каханнем растрывожу...» і «Луска вечнасці» (рэд. Н. Давыдзенка), у 2007 – зборнік хрысціянскіх вершаў «Калядны ранак» (рэд. Г. Каржанеўская) і паэма па сюжэту даўняй мядзельскай легенды «Белая Панна» (рэд. З. Падліпская).

У 2006 годзе ў Паставах адбылося Свята беларускага пісьменства. Да гэтай адметнай падзеі выдавецтва «Мастацкая літаратура» ў серыі «Беларусь літаратурная» выдала зборнік твораў пісьменнікаў Пастаўшчыны «Дзе Мядзелка песні пяе...», над укладаннем якой я працаваў амаль год. Да гэтага ж свята ўдалося запісаць аўдыёкасету лірычных песень, якія на мае словы напісала і выканала Людміла Логінава – кампазітар, уладальніца чароўнага голасу і, воляй лёсу, мая аднакласніца і калега па працы. У той жа год выйшаў фотаальбом «Паставы», для якога мной напісаны гістарычны нарыс.

Пастаўшчына – радзіма выдатнага беларускага пісьменніка Уладзіміра Дубоўкі. Захапіўшыся яго творчасцю, я ў 1996 годзе арганізаваў і правёў у вёсцы Дзеравянкі пры возеры Доўжа літаратурны семінар з удзелам пісьменнікаў У. Арлова, В. Аксак, Г. Шупенькі, М. Баравік, Я. Лецкі, Я. Мальца, А. Касценя, П. Літвіновіча, Г. Жук, А. Жыгунова, Ф. Сіўко, А. Нафрановіча, М. Кенькі. Падобны семінар, але ўжо для маладых літаратараў быў праведзены мной там жа ў 1999 годзе. У якасці кансультантаў у ім удзельнічалі М. Кенька, А. Жыгуноў, Я. Малец. Вялікую дапамогу ў арганізацыі гэтых семінараў аказаў мой бацька, Міхаіл Аляксандравіч.

У літаратуры, як і ў геаграфіі, лёс падарыў мне знаёмства і сяброўства з шэрагам творцаў, якія аказалі значны ўплыў на літаратурныя захапленні. Першым сур’ёзным крытыкам і рэдактарам маіх твораў быў вядомы на Пастаўшчыне журналіст і паэт Алесь Касцень. Менавіта дзякуючы яму ў канцы 80-х – пачатку 90-х гадоў у Паставах пры рэдакцыі раённай газеты актыўна дзейнічала літаратурнае аб’яднанне «Світанак», вынікам чаго сталі калектыўныя зборнікі «Рунь-91, 92, 93».

Жывучы на значнай адлегласці ад сталіцы і абласнога цэнтра складана падтрымліваць творчыя кантакты з іншымі літаратарамі, ды і сяброў сярод іх не так і многа. Але мяне заўсёды радуюць сустрэчы з такімі блізкімі мне па духу пісьменнікамі як Янусь Малец, Міхась Кенька, Мікола Шабовіч, Алесь Жыгуноў, Франц Сіўко, Галіна Каржанеўская, Зоя Падліпская, Генадзь Шупенька, Уладзімір Арлоў, Аркадзь Нафрановіч, Навум Гальпяровіч, Люда Сіманёнак, Алесь Карлюкевіч. Гэты спіс мог бы быць і значна большы, але па сціпласці сваёй я не імкнуся «набівацца» ў знаёмства, а на нейкіх літаратурных імпрэзах, дзе такія знаёмствы маглі б надарыцца, быць не выпадае.

Практыка работы са школьнікамі паказала, што многія праекты, асабліва краязнаўчыя, рэалізуюцца больш хутка і эфектыўна, калі над імі працуе некалькі чалавек. Таму шэраг кніг напісаны мной у сааўтарстве. Тры краязнаўчыя выданні мы падрыхтавалі разам з маёй былой вучаніцай, цяпер студэнткай журфака БДУ Ірынай Заяц, кнігу «Гута-Голбія» напісалі разам з настаўнікам гісторыі Гуцкай школы Мікалаем Арэхам. Працягваецца сумесная творчая праца з юнай таленавітай мастачкай, таксама маёй вучаніцай, Наталляй Зямчонак, чые ілюстрацыі ўпрыгожваюць паэтычныя кнігі «Белая Панна» і «Калядны ранак». Новыя высокамастацкія малюнкі Наташа падрыхтавала для рукапісу прозы «Булён», які чакае фундатараў і выдаўцоў. Да яшчэ двух паэтычных зборнікаў арыгінальныя ілюстрацыі зрабіла мастачка Валянціна Драгунова.

Плённай атрымалася сумесная работа з супрацоўніцай мядзельскай раённай газеты, добрым фатографам і здольнай журналісткай Таццянай Несцярэнка. Разам з ёй мы падрыхтавалі да выдання рукапіс пра горад Мядзел.

Мае кнігі марудна ідуць да чытача. У рэдкіх выпадках ад заканчэння працы над рукапісам да выдання праходзіць 2–3 гады, звычайна ж разбежка часу складае 5–7 гадоў. Удзячны лёсу за тое, што ёсць людзі, якія цікавяцца маёй творчасцю, дапамагаюць у выданні кніг. Некалькі з іх выйшла за сродкі дзяржавы ў дзяржаўных выдавецтвах, шэраг выданняў фінансавалі раённыя ўлады, дзякуючы падтрымцы намесніцы старшыні райвыканкама А. Э. Кейзік. Асабліва ўдзячны свайму быламу вучню, удзельніку краязнаўчага гуртка і шматлікіх вандровак, а зараз паспяховаму прадпрымальніку Андрэю Жуку, які паспрыяў выхаду ў свет пяці маіх кніг.

У рэалізацыі праектаў вельмі дапамагаюць мае бліжэйшыя сябры: прадпрымальнік і выдатны фатограф Антон Чалей, знакаміты народны майстар, каваль Юрась Фурс, выдаўцы Генадзь Вінярскі і Міхась Гіль, былыя аднакурснікі, прадпрымальнікі Павел Анціпаў і Ігар Навумаў.

Такім чынам, азірнуўшыся на пройдзены шлях, бачыш пэўныя свае здабыткі на ніве беларускай культуры, літаратуры, гісторыі, геаграфіі, педагогікі. Выдадзена дваццаць кніг. Быццам бы многа. Але глянеш наперад – і новыя ідэі, праекты, планы ў вобразах прыгожых людзей, гераічных падзей, чароўных палацаў, казачных пачуццяў напаўняюць усю прастору да самай мяжы гарызонту. Дзевяць рукапісаў падрыхтавана да друку, над трыма праца набліжаецца да завяршэння, а ў папках на паліцы кніжнай шафы чакаюць сваёй чаргі матэрыялы вандровак, сустрэч, пошукаў і знаходак, успамінаў і дзённікаў...

*Лістапад 2008 года*



***Рагойша***
***Вячаслаў Пятровіч***

## З ХАТЫ НА ПЛЯЦЫ ВОЛІ

Гэты будынак стаіць у Ракаве (цяперашняга Валожынскага раёна) на Пляцы Волі. Да яго ой як часта імкнуцца мае думкі, горнецца душа – больш, чым да тых, таксама шчымліва-свойскіх, пакойчыкаў у студэнцкім, а затым аспіранцкім інтэрнатах Беларускага дзяржаўнага універсітэта або да сённяшняй мінскай, з усімі выгодамі, кватэры, у якіх я пражыў разам у разоў пяць даўжэй, чым у сценах бацькоўскай хаты. Кожны адпачынак, а па магчымасці і кожнае свята я імкнуся прабавіць у родным кутку, балазе ад стольнага Мінска ён зусім недалёка…

Асацыяцыі, што непарыўна лучаць мяне з родным кутом і роднай ракаўскай хатай, выклікаюцца двума галоўнымі паняццямі: падзеі і людзі, людзі і падзеі. Зразумела, тое і другое было і ў дзвюх папярэдніх – яшчэ дзедаўскіх – хатах, у якіх мне давялося пражыць тры ваенныя і тры пасляваенныя гады: у налібоцка-пушчанскай вёсачцы Круплі Іўеўскага раёна (у хаце мацінага бацькі Антося) і ў Пярэжа-

рах каля Ракава (у хаце татавага бацькі Іосіфа, па-вясковаму – Юзі). Але з тых часоў помніцца вельмі мала і смутна, хіба што слодыч партызанскага цукру, які прыносілі маладыя хлопцы са стрэльбамі (сярод іх, як пазней выявілася, быў і будучы вядомы пісьменнік Валянцін Тарас), ці – пазней – страшэнны боль пры стрыжцы, дакладней – вырыванні, валасоў на галаве трафейнай нямецкай машынкай, якую бацька захапіў пры дэмабілізацыі з фронту. Дый тыя хаты ўсё ж былі не свае, не тваімі бацькамі зробленыя, не з тваімі прысадамі, не з тваім садам…

Помню бацькоўскую хату яшчэ зрубам, які ставілі ў пасляваенныя 1947–48 гады на жудасным пагарэлішчы – месцы былой яўрэйскай аптэкі. Ракаў – прыгожы заходнебеларускі прыгранічны гарадок з багатай гісторыяй і культурай (воблік яго выразна зафіксаваны ў рамане польскага пісьменніка С. Пясецкага «Каханак Вялікай Мядзведзіцы») – быў тады суцэльнай выжарынай. У Ракаве і яго ваколіцах замыкаўся ў 1944 годзе так званы «Мінскі кацёл» (адна са знакамітых аперацый Савецкай Арміі па разгроме нямецка-фашысцкіх войск). Агонь вынішчыў ледзь не ўсе трыццаць вуліц паселішча. На шчасце, ні бомбы, ні снарады, ні ўсёпаглынальны агонь не зачапілі двух самых яго велічных мураваных будынкаў – царкву і касцёл. Усе нашы дзіцячыя гульні-забавы праходзілі затым на папялішчах, парослых палыновымі джунглямі, у сутарэннях абгарэлых танкаў (пяці нямецкіх і двух савецкіх), якія здолелі парэзаць на металалом толькі ў сярэдзіне 1950-х гг., у шкілетах машын, здаравенных нямецкіх цягачоў… Мы ладзілі свае «партызанскія зямлянкі» ў паўразбураных скляпах, шукалі і потым узрывалі міны і снарады (некаторыя мае старэйшыя сябры пры гэтым пайшлі з жыцця), выдабывалі і здавалі на прыёмныя пункты каляровыя металы і волава (яно за мілую душу ішло на мясцовую ганчарню для кафельнай палітуры), гулялі ў вайну – наступалі вуліца на вуліцу, прычым нярэдка выкарыстоўвалі (пакуль дарослыя не спынілі такія «гулі») і сапраўдную зброю…

Увогуле, доўгі час пасля вайны, па сутнасці ўсе мае школьныя гады (1948–1958), быт, нават увесь лад жыцця «браткоў-ракаўцаў» у значнай ступені вызначаўся мінулай вайной. У нас дома, напрыклад, яслямі для каровы служыў агромністы балотнік нямецкага цягача, куры пілі ваду з вайсковай каскі, дзверы зашчэпліваліся кантовым рускім штыком, а ваза для кветак была з меднай снараднай гільзы. Дзеці гулялі «ў нашых і немцаў». Для вучняў «пайсці ў партызаны» азначала збегчы з урокаў. А дзіцячы фальклор узбагаціўся адмысловымі вершыкамі, накшталт такога: «Што немцы курылі? Прыбой. Чым харчаваліся? Рыбай. Што немцы хацелі? Бой. Як яны крычалі? Ой!!!»…

Ракаў адбудоўваўся паволі. Да нашай хаты, што напачатку стаяла як на водшыбе (уцалелыя даваенныя будынкі, у тым ліку найбліжэйшая суседка – царква былі за дзвесце-трыста метраў), паступова пачалі прымошчвацца ў падсуседзі ракаўскія пагарэльцы, ваколічныя хутаране (іх прымусова ссялялі ў большыя паселішчы), жыхары суседніх вёсак. За нейкія дзесяць-пятнаццаць гадоў чатырохкутны Пляц Волі ў цэнтры мястэчка амаль цалкам адбудаваўся. А яшчэ за дзесяцігоддзе з яго сарцавіны прыбралі рэшткі былых мураваных гандлёвых радоў і на іх месцы пасадзілі сквер. Захаваўся ў сямейным архіве здымак: глыбокай восенню 1967 года мы з Таццянай Вячаславаўнай Кабржыцкай, за некалькі дзён да нашага вяселля, разам з талакою ракаўцаў садзім у скверы маладыя таполі. Глянеш на здымак – і сэрца соладка зашчыміць, прыгадаўшы і само талочнае «мерапрыемства» (а яно, як пісала раённая газета, было прымеркавана «да знамянальнай падзеі – 50-годдзя Вялікага Кастрычніка»), і тое наша, ужо даўняе, «вяселле веку», як у сваёй кнізе «Жыццё і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча» ахрысціў яго Адам Мальдзіс. Вяселле, якое мы не маглі не справіць у бацькоўскай ракаўскай хаце…

Аднак пра само вяселле крыху пасля. Вернемся назад, у нялёгкі пасляваенны час.

Надышоў 1949 год, год «вялікага пералому» для жыхароў усёй былой Заходняй Беларусі, толькі дзесятак гадоў далучанай да СССР. У тым годзе распачалося па-сталінску рашучае і шырокае наступленне на аднаасобныя гаспадаркі, фарсіраванае стварэнне калгасаў на заходнебеларускіх землях. У хату на Пляцы Волі зачасціла начальства з Радашковічаў (Ракаў уваходзіў у склад Радашковіцкага раёна ажно да яго скасавання ў 1960 годзе). Пачалі ўгаворваць бацьку стварыць і ўзначаліць мясцовы калгас. Як я сёння разумею, разлік начальства быў зусім слушны. Бацька мой, Пётр Іосіфавіч Рагойша, быў на той час чалавекам даволі адукаваным. Скончыў пры Польшчы амаль усё, што мог тады скончыць селянін-беларус: сямігадовую Ракаўскую «школу паўшэхну» і «школу ральнічу» (сельскагаспадарчую школу, нешта накшталт сельгастэхнікума) у Лаздунах цяперашняга Іўеўскага раёна. Ён аказаўся лепшым вучнем школы, і пасля яе заканчэння яго пакінулі ў ёй кіраўніком вучэбнай гаспадаркі (а там, апрача вялікай плошчы ворнай зямлі, былі фермы з рознай жывёлай, вялікая пасека, агарод). Калі ж прыйшлі, як у нас кажуць, «тыя саветы», школьную гаспадарку не сталі дзяліць між сялянамі, а на яе аснове стварылі ці не першы ў Заходняй Беларусі калгас. І бацьку – як вопытнага прафесіянала, чалавека з «працоўнага класа» – паставілі яго старшынёй. Пасля ж вайны, па вяртанні яго

з фронту (а з немцамі змагаліся яшчэ два бацькавы браты; адзін з іх, Іван, загінуў ва Усходняй Прусіі), бацька ўзначаліў Выганіцкі сельсавет. І вось цяпер новая прапанова: узначаліць калгас… Чалавек увогуле мяккі, бацька пасля некалькіх «выклікаў на дыван» гатовы быў пагадзіцца з прапановай. Тым больш, што жылі ўжо ў ракаўскай хаце, праца была на месцы, а не за чатыры кіламетры, як у Выганічах. Аднак раптам востра заўпарцілася маці: «Не згаджайся! Кругом па лясах розныя банды ходзяць, заб'юць, дзіця асіроцяць». І бацька «даў у хамут». Прыехалі супрацоўнікі НКВД, нават сталі пагражаць. Ды маці сваё: «Разводзьце нас, усё роўна мужа заб'юць, дзіця сіратою застанецца. Развядзіце – і тады рабіце з ім што хочаце…» І аб'явіла бестэрміновую ляжачую галадоўку…

Помню, бацька сам даіў і выганяў у поле карову, карміў свіней, курэй, увіхаўся ў хаце, ездзіў на ровары на працу, а маці ўсё ляжала на ложку і ні з кім не гаварыла. Розныя начальнікі, у тым ліку і энкэвэдзісты, колькі разоў заглядвалі ў хату, угаворвалі, пагражалі. А пасля махнулі рукой («Што ты зробіш з упартай бабай!»), знайшлі на пасаду старшыні малапісьменнага, але рашучага былога партызана Кульшу. Бацьку ж прапанавалі пасаду калгаснага рахункавода. Маці хоць з неахвотай, але ўсё ж з гэтай пасадай пагадзілася (усё-такі не першая асоба ў калгасе) і скончыла сваю галадоўку.

Калі я пазней у Ракаўскай школе вывучаў «Узнятую цаліну» М. Шолахава, не раз з радасным захапленнем адзначаў: дык і ў нас тое самае было! І бясконцыя сходы з крыкам, плачам, а таксама кепікамі мясцовых дзядоў Шчукароў, і запісванне ў калгас з дапамогай «бізуна і перніка», і вялікія чалавечыя крыўды, і маленькія людскія радасці… Усё гэта я мог непасрэдна назіраць, бо калгасную кантору ніхто з ракаўцаў, як аказалася, не захацеў пусціць у сваю хату (баяліся, што саму хату «бандыты» спаляць), і кантора ажно да сярэдзіны 1950-х гг. месцілася ў нас. Сёння пра гэта, магчыма, і не асабліва цікава апавядаць, аднак жа гэта – частка не толькі маёй асабістай біяграфіі, але і гісторыі майго народа. А з гісторыі, як з той песні, слова не выкінеш.

Вышэй я згадаў вяселле, што адбылося ў бацькоўскай хаце. Адбылося пасля таго ўжо, як я скончыў філалагічны факультэт БДУ і аспірантуру пры ім, год адслужыў гранатамётчыкам у Савецкай Арміі, абараніў кандыдацкую дысертацыю, стаў універсітэцкім выкладчыкам. Вяселле ж успамінаецца найперш у сувязі з тымі людзьмі, якія ледзь не тыдзень гасцявалі на ім, а значыць – сталі не чужымі і ў хаце на Пляцы Волі. Ніколі да гэтага хата (хоць і месцілася ў ёй былая калгасная кантора) не бачыла разам столькі людзей увогуле і такіх знакамітых – у прыватнасці, ніколі не чула такой музыкі (вясельны

аркестр складаўся з баяна, бубна, цымбалаў, скрыпкі і флейты), такіх спеваў (рэй у іх, вядома, вёў бацька маладой, оперны спявак, заслужаны артыст Украіны Вячаслаў Кабржыцкі), такіх тостаў (празаічных, вершаваных, музычна-песенных). Сярод больш чым ста вясельнікаў (родзічы, суседзі, бацькавы таварышы па працы) вылучаліся госці з Мінска – у асноўным мае сябры і калегі па працы на тагачаснай славутай кафедры беларускай літаратуры БДУ. Над усімі галасамі лунаў гучны бас свата – загадчыка кафедры і майго навуковага кіраўніка па дысертацыі Міхася Ларчанкі. Яму нястомна дапамагалі другі вопытны сват – сусед і сваяк, школьны настаўнік гісторыі і вядомы краязнавец Васіль Налецкі разам са сваццяй жонкай Леакадзіяй Іванаўнай. Захоўваючы ўсе народныя традыцыі (парадак віншавання маладых, дзяльба караваю і інш.), яны давалі слова родзічам і сябрам як з беларускага боку, так і з украінскага. Маладая ж была украінка, са старажытнага і слаўнага горада Львова! Як сёння чую зычлівыя  галасы многіх людзей (большасці з іх, на жаль, ужо няма ў жывых) – бацькоў Пятра Іосіфавіча і Валянціны Антонаўны, родных цётак Надзеі Іосіфаўны і Аляксандры Антонаўны, родных дзядзькоў Антося Іосіфавіча і Рыгора Іосіфавіча, маіх стрыечных сясцёр і братоў, а таксама Вячаслава Апанасавіча і Клаўдзіі Васільеўны – бацькоў маладой, яе малодшага брата Усевалада. Слова бралі таксама (называю па алфавіту) Леанід Акаловіч, Надзея Батурыцкая, Ніл Гілевіч і яго жонка Ніна Іванаўна, Аляксей Зяневіч і яго жонка Зінаіда Аляксееўна, Алег Лойка і яго жонка Лідзія Іванаўна, Фёдар Мазура, Адам Мальдзіс і яго жонка Марыя Карлаўна, Сяргей Панізьнік, Мікола Пашкевіч, Мікола Прашковіч, Валянцін Рабкевіч, Пятро Рогач, Янка Саламевіч, Язэп Семяжон, Генадзь Шупенька, Фёдар Янкоўскі і яго жонка Серафіма Андрэеўна… У кожнага, хто хоць крыху знаёмы з беларускай навукай і культурай, імёны гэтыя выклічуць належныя асацыяцыі.

Усеагульную ўвагу сваімі досціпамі і частым залівістым рогатам прыцягваў да сябе высокі, прыгожы, выкшталцоны Уладзімір Караткевіч. Наша з Таццянай вяселле, апрача ўсяго, ён выкарыстаў і для першага прадстаўлення сваім сябрам Валянціны Браніславаўны – сваёй будучай жонкі, тагачаснай выкладчыцы гісторыі Брэсцкага педінстытута, з якой ён пазнаёміўся літаральна тыдні за два перад тым на літаратурным вечары ў Брэсце. Калі яму далі слова для віншавання, Валодзя ўстаў і зычным, добра пастаўленым голасам артыстычна зачытаў «Эпіталаму Таццяне і Славе»:

Кахання Бог у светлай сіле
Сядзіць між нас. Я п’ю нагбом
За вас: прыгожых, добрых, мілых,

За ваш стары і новы дом.
Да схілу дзён сваіх астанніх
Мы вам сябры. Няхай жыве
Наш гонар: Слава і Таццяна,
Сябры ад сёння і – навек.
Малю аб вечным і адзіным:
Хай будзе шчасны на вякі
Шлюб Беларусі і Украіны,
Шлюб Львова й Іслачы-ракі.

Эпіталама (наколькі мне вядома, гэта першая эпіталама ў сучаснай беларускай паэзіі) была акуратным караткевічаўскім почыркам напісана на белым аркушы паперы, пад ёй стаяла: 8 лістапада 1967 года, Ракаў. Уладзімір Караткевіч пры ўсіх паставіў пад ёй свой подпіс і пусціў «па крузе» для подпісу іншым гасцям. Многія ахвотна падпісваліся, але некаторыя (у асноўным бацькавы саслужыўцы) адмаўляліся падпісваць – баяліся мець дачыненне да «калектыўных заяў». Гэта выклікала смех, жарты, кепікі…

«Вяселле веку» памятнае яшчэ і тым, што для асобных гасцей яно стала пачаткам рэгулярнага наведвання Ракава і ўсёй Валожыншчыны. Калі, скажам, прафесар і пісьменнік Фёдар Янкоўскі, былы партызанскі разведчык і заядлы рыбак, і да вяселля як свае пяць пальцаў ведаў не толькі Ракаў, але і кожны глыбокі вір на Іслачы, то Караткевіч у мой родны кут прыехаў упершыню. Але з таго часу ён так палюбіў гэту мясціну, што па-сяброўску заглядваў сюды неаднойчы, нават намерваўся набыць лецішча ў ваколіцах Ракава. І Караткевіча, і Лойку, і некаторых іншых удзельнікаў вяселля я пасля вазіў на сваіх «Жыгулях» у недалёкую марцінкевічаўскую Люцінку, у Івянец да народнага мастака Апалінарыя Пупкі. Мы завіталі ў Вішнева да паэта Пятра Бітэля і славутага ксяндза, перакладчыка «Бібліі» на беларускую мову  Уладыслава Чарняўскага, заязджалі ў Багданава на магілу Фердынанда Рушчыца, наведвалі Гальшаны (ці не тады ў Караткевіча выспела задума і назва рамана «Чорны замак Альшанскі»?..). І калі праз колькі гадоў на адным з пісьменніцкіх сходаў вырашалася пытанне пра месца будаўніцтва Дома творчасці пісьменнікаў (варыянтаў было не менш за дзесятак), то пераважыў мой варыянт – «каля Ракава». І не ў малой ступені – дзякуючы падтрымцы тых, хто ўжо пазнаёміўся з гэтымі мясцінамі…

Новы пісьменніцкі Дом творчасці «Іслач» імя В. Дуніна-Марцінкевіча адчыніў свае гасцінныя дзверы  восенню 1986 года. І не толькі для беларускіх пісьменнікаў, але і для майстроў мастацкага слова з усяго Савецкага Саюза і некаторых замежных краін, якія ахвотна прыязджалі сюды плённа папрацаваць і добра адпачыць. У ракаўскую хату на Пляцы Волі «на аганёк» сталі завітваць не

толькі мінчукі, але масквічы і ленінградцы, кіяўляне і землякі Таццяны Вячаславаўны – львавяне… Некалькі разоў прыязджаў у Дом творчасці Раман Лубкіўскі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Украіны імя Тараса Шаўчэнкі, выдатны перакладчык і прапагандыст беларускай літаратуры. Кожны раз, вядома, ён быў жаданым госцем і ў хаце на Пляцы Волі. Аднойчы ён прыйшоў сюды са славутым украінскім паэтам, цяперашнім Героем Украіны Дмытром Паўлычкам. Тады ж у Рамана нарадзіўся верш-экспромт. Прыводжу яго цалкам на мове арыгінала:

**Присьвята Ракову**
Сонет
Вячеславу Рагойші
В дитинстві я остерігався раків:
Лекали клешні, вуса і хвости;
Зумів я давній страх перемогти,
Коли відвідав знаменитий Ракаў...

Здаля від українських вурдалаків
(Хоч тут не гірші відьми та чорти)
Пріємно з другом бесіду вести
Про Прагу, Братиславу, Львів чи Краків.

Рагойша мовить: друже, все лиши;
Перекладай нас і своє пиши,
Сміливо лізь поперед батька в пекло!

Почуєш: свисне рак, то согріши:
Хоч би як метр* не опирався встекло,
На раку з ним до Ракова спіши!
-----------------------------
**Метр – Дмитро Павличко, якого довго довелося вмовляти їхати до Мінська (Заўвага аўтара).*

У «Існачы» любіў працаваць і вядомы майстар украінскай гістарычнай прозы Раман Іванычук, дарэчы, сябар нашага Уладзіміра Караткевіча. Тут ён, у прыватнасці, пісаў свой раман «Бо вайна – вайною» (1989) – пра падзеі, што разгортваліся ў Галіцыі падчас Першай сусветнай вайны. Недзе ў 1988 годзе, у час адной з сяброўскіх сустрэч у маёй бацькоўскай хаце ў Ракаве, ён, прыгадваючы Караткевіча (тады ўжо нябожчыка), згадаў і колішнюю «Валодзеву просьбу» – напісаць што-небудзь і пра беларускую гісторыю. Я тут жа ўспомніў, што на Румынскім фронце якраз у перыяд дзеяння рамана «Бо вайна – вайною» знаходзіўся паручык Міцкевіч – Якуб Колас, і такім чынам беларускі паэт мог стаць хоць эпізадычным персанажам твора. Іванычук ухапіўся за гэтую ідэю, папрасіў даць яму пачытаць тагачасныя творы песняра. Да твораў Якуба Коласа я далучыў і кніжку Сяргея Палуяна «Лісты ў будучыню», якую мы з Таццянай Кабржыцкай незадоўга да таго выдалі ў выдавецтве «Мастацкая лі-

таратура». Зразумела, з належнымі каментарыямі: пра сувязь Палуяна з Украінай, пра яго актыўны ўдзел ва ўкраінскім друку… І вось праз нейкі час Іванычук даслаў урывак з рамана, які ён назваў «Паручык Міцкевіч». З урыўка як жывы паўстаў рэальны вобраз Кастуся Міцкевіча – Якуба Коласа, якога на пачатку стагоддзя ваенны лёс закінуў у Галічыну, пад самую Румынію. Па дарозе паручык Міцкевіч захварэў на жаўтуху, апынуўся – ужо воляю пісьменніка Іванычука – у адным гуцульскім сяле, дзе яго выхадзілі мясцовыя настаўнікі... Пазней аповед «Паручык Міцкевіч» я пераклаў на беларускую мову і надрукаваў у газеце «Літаратура і мастацтва» (29 мая 1989 г.).

З часу «вяселля веку» палюбіў ракаўскую зямлю і ўвогуле Беларусь і беларусаў мой цесць, тагачасны вядучы тэнар Львоўскага дзяржаўнага тэатра оперы і балета імя С. Крушальніцкай (тады – імя Івана Франка) і адначасова загадчык кафедры сольных спеваў Львоўскай кансерваторыі Вячаслаў Кабржыцкі. Разам з цешчай Клаўдзіяй Васільеўнай (карэнная сібірачка, яна з часам вывучыла беларускую мову і стала самым зацікаўленым чытачом публікацый «любімага зяця») яны кожны год леталі ў Ракаве. Сюды ж да свайго лепшага сябра яшчэ па Львову часта завітваў з Мінска народны артыст СССР і Украіны Яраслаў Вашчак, у той час галоўны дырыжор і мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага Вялікага акадэмічнага тэатра оперы і балета Беларусі. Бывала, у радасным ці прыгнечаным настроі ён імчаў сюды на сваёй легкавушцы не толькі ў выхадныя дні, але нярэдка і адразу пасля вячэрняга спектакля, захапіўшы з сабой каго-небудзь з беларускіх артыстаў ці гастралёраў. Успаміналіся мінулае, агульныя радасці і дасягненні. Цесць прыгадваў асобныя цікавыя моманты ў падрыхтоўцы і выкананні сваіх самых любімых оперных партый – Ёнтака («Галька» С. Манюшкі), Германа («Пікавая дама» П. Чайкоўскага, Фаўста («Фаўст» Ш. Гуно), Каварадосі («Тоска» Дж. Пучыні), Пятра («Наталка-Палтаўка» М. Лысенкі), Міколы Задарожнага («Украдзенае шчасце» Ю. Мейтуса)… Яраслаў Вашчак расказваў пра новыя пастаноўкі на галоўнай беларускай опернай сцэне, пра надзвычай паспяховыя гастролі Дзяржаўнага Вялікага акадэмічнага тэатра оперы і балета Беларусі на сцэне крамлёўскага Палаца з’ездаў у Маскве… Да гаворкі падключалася Клаўдзія Васільеўна, аматар і знаток опернага мастацтва. Яна згадвала і сваё: як яна, вопытны ўрач, оталарынголаг-фаніятар, лячыла ў час вайны ў Алма-Аце (а працаваць ёй давялося тады ва ўрадавым шпіталі) знакамітага казахскага акына Джамбула, пісьменніка Канстанціна Сіманава, а таксама эвакуяваных у сталіцу Казахстана С. Лемешава, Г. Уланаву, Л. Русланаву, Л. Уцёсава, М. Чаркасава, П. Нарцова і многіх іншых артыстаў, пісьменнікаў, вучоных. Успаміны, абмер-

каванні спектакляў, актуальных грамадскіх падзей, музыказнаўчыя развагі, палітычныя і творчыя спрэчкі ў хаце на Пляцы Волі нярэдка доўжыліся ўсю ноч…

Я, зразумела, расказаў толькі пра некаторыя з тых падзей, сведкам якіх была ракаўская хата на Пляцы Волі, толькі пра некаторых людзей, галасы якіх рэхам гучаць у ёй і да сёння. Усё гэта – і людзі, і падзеі – фармавалі ва мне любоў да роднага кута і ўсёй Бацькаўшчыны-Беларусі, да яе трывушчага народу, гераічнай гісторыі, самабытнай беларускай культуры, адвечнай беларускай мовы. А таксама – увагу і павагу да іншых народаў, культур, краін. Паступова склалася ўстойлівае перакананне, якое вызначыла мой асноўны жыццёвы прынцып: любі і беражы роднае, працуй дзеля яго ў любых умовах, не чакаючы лепшага часу! Толькі з такой патрыятычнай зоркаю ў душы ты зможаш дасягнуць нечага ў жыцці, пакінуць свой след на зямлі. Толькі ў такім выпадку цябе змогуць ацаніць суайчыннікі, стануць паважаць блізкія і далёкія суседзі. Гэты прынцып я імкнуся ўвасабляць і ў сваёй ледзь не паўвекавой выкладчыцкай працы ў Беларускім дзяржаўным універсітэце, і ў навуковай, а таксама творчай дзейнасці. І калі я дасягнуў што-небудзь значнае на гэтых трох – педагагічнай, навуковай і творчай – дзялянках, то толькі дзякуючы такому жыццёваму крэда.

Кажуць, кожны сапраўдны мужчына за сваё жыццё павінен зрабіць тры рэчы: пабудаваць хату, выгадаваць сына, пасадзіць дрэва. Я пасадзіў не адно дрэва. Жонка-львавянка падаравала мне трох сыноў, якіх мы пастараліся выгадаваць у любові і да бацькавай Беларусі, і да матчынай Украіны, і да бабулінай Расіі. Новай хаты, праўда, я не збудаваў, але тую, што ў Ракаве на Пляцы Волі, шаную і даглядаю як магу. Каб і для маіх дзяцей і ўнукаў яна засталася такою ж роднаю, як і для мяне, – сапраўды бацькоўскаю.

*2008 год*



***Рублеўская***
***Людміла Іванаўна***

## ПА АБОДВА БАКІ АД КАЛЬВАРЫІ

Можа, у каго іншае меркаванне, але я веру, што мы нараджаемся менавіта там, дзе болей за ўсё патрэбныя.

Што праўда, большасць бачыць сэнс жыцця ў тым, каб месца, якое яны ашчаслівілі сваім з'яўленнем, давала ім як мага болей усяго. Каб я была з такіх людзей – таксама пачувала б сябе няшчаснай.

Але я шчаслівы чалавек. І я нарадзілася на Беларусі.

Магла нарадзіцца ў Францыі, Эстоніі, Фінляндыі, у Егіпце…

Дарэчы, пра Егіпет – я і праўда магла там нарадзіцца. Бацьку, інжынера, запрашалі на будаўніцтва Асуанскай плаціны – у той адрэзак часу Савецкі Саюз моцна сябраваў з радзімай фараонаў. Бацька не хацеў ехаць без маёй маці, а маці была цяжарная мною і ехаць таксама не хацела…

Урэшце Егіпет не пабачыў ніхто з вышэйзгаданых асобаў, а я амаль не бачыла бацьку – маці ў хуткім часе пасля майго нараджэння развялася, і ён паехаў кудысьці ў Мардовію ствараць трэ-

цюю сям'ю… Маё з'яўленне, як вы разумееце, было не самым пажаданым эпізодам у ягонай бурлівай біяграфіі. З'явіўся толькі на маё шаснаццацігоддзе, каб падараваць нешта на памяць (выбралі гадзіннік), звадзіць да сябра, былога шафера, у міністэрства электрыфікацыі сельскай гаспадаркі, распавесці пра сваю маці, якая была да вайны настаўніцай на Гомельшчыне, а ў вайну яе расстралялі немцы, і знікнуць назаўсёды, як фараоны з Егіпту.

Так, захаваўся яшчэ каляровы здымак – мы сфатаграфаваліся напамяць. Бацька – у самавітым касцюме, з ордэнскімі калодкамі – быў сувязным у партызанскім штабе, я – з кароткай стрыжкай, у кофтачцы, пашытай з бабулінай кашаміравай хусткі….

Мяне выхоўвалі маці і бабуля.

Маці, Галіна Міхайлаўна, працавала медсястрой у дзіцячым садку, хаця ў свой час скончыла журфак. Для дыпломнай працы яна абрала тэмай творчасць Даніэля і Сіняўскага, надзвычай папулярных тады журналістаў, якія пісалі кранальныя рэпартажы пра землятрус у Ташкенце.

Трэба ж было ім выявіцца злоснымі дысідэнтамі якраз перад тым, як маці надышоў час абараняць дыплом!

Кіраўнік збянтэжана раіў змяніць тэму… Але перапісваць было позна, і дзіва – дыплом неяк залічылі. Але на журналісцкую працу маму так ніколі і не ўзялі.

А ад бабулі Паліны ( насамрэч яе звалі Пелагея, але гэтага імя яна страшэнна не любіла, змушала ўсіх называць сябе Палінай) мне засталіся жменька беларускіх песень – яна напявала асабліва падчас рэлігійных святаў, ціхенька, сама сабе… І расповеды пра тое, як падчас вайны яна з сястрой Вольгай і іх двое маленькіх дзяцей дайшлі пешкі з Ленінграда на Беларусь, на радзіму, у вёску Люці Пухавіцкага раёна. Каб апынуцца ў самым пекле, трапіць нават на нейкі час у канцэнтрацыйны лагер… І страціць спаленымі жыўцом адзінаццаць чалавек радні – усе Часлаўскія. У тым ліку мой прадзед Максім Часлаўскі, які да рэвалюцыі паспеў пабываць у Амерыцы, ведаў напамяць шмат вершаў і зладзіў для партызан маленькі млын... Мая маці была адзінай, каму удалося выбрацца з хаты, куды замкнулі вясковых дзяцей і спалілі. Маме было гадоў сем.

У пасляваенным Мінску мая радзіна жыла ў падвальнай кватэры ў доме на вуліцы Горкага, насупраць Опернага тэатра. У тым жа доме жыла сям'я Куляшовых.

Быў у маёй бабулі да вайны дом у Ленінградзе, дакладней, у прадмесці Вырыца – атрымала як службовую кватэру, бо працавала на чыгунцы… Пасля вайны туды засяліліся іншыя людзі, і калі бабуля з сястрой прыйшлі ў свой дом, на іх літаральна наставілі стрэльбу…

Час быў суровы, справядлівасці не прадбачылася… І сёстры зноў вярнуліся на Беларусь.

А дом, дзе я нарадзілася, знаходзіцца зусім блізка ад Кальварыйскіх могілак. Можа, адзінае на той час месца, дзе захаваўся Дух Горада. Дзе на помніках з цёмнага граніту віюцца вензелі беларускіх шляхецкіх прозвішчаў, дзе надмагіллі нагадваюць выкінутыя на бераг пасля буры чоўны, у вершалінах неабхватных старых ліпаў шуміць варонін горад, а тады яшчэ і запеклай крывёй чырванелі парэшткі касцёла, які калісьці распісваў вядомы мастак Ян Дамель…

Чытаць я навучылася ў тры гады. І пачала чытаць усё запар… У дзесяць гадоў маёй любімай кнігай сталася «Джэн Эйр» Шарлоты Бронтэ, у адзінаццаць я адолела падручнік па філасофіі, забыты ў нас маміным стрыечным пляменнікам, які паступаў ва універсітэт… Вельмі ўразіў раздзел пра ўнутраныя супярэчнасці сацыялізму.

Як могуць ставіцца ў звычайным «хрушчоўскім» двары да дзяўчынкі, якая падчас летніх вакацыяў на пытанне «Ці хочаш у школу?» адказвае равесніцам «Абсалютна – не, адносна – так», можаце самі здагадацца.

Чытала я на рускай і на беларускай мове… Відаць, у той час, калі добрая кніга была страшэнным дэфіцытам, беларускамоўная была ўсё-ткі дэфіцытам меншым, бо «Прыгоды Мюнхгаўзена» і «Прыгоды Бураціна» я прачытала па-беларуску.

Вось толькі размаўляць на роднай мове мне не было з кім.

Улетку мы ездзілі ў вёску Люці, дзе жыла бабуліна сястра Ліда. Насупраць дому люляў таямнічыя туманы «выган». Далей пачынаўся лес Белая лужа. Уночы да вясніцаў маглі падыходзіць дзікі ці ласі… Бабулю Ліду яе дарослыя дзеці называлі на «вы». Я ніколі ўвогуле не чула ў сваёй сям'і кепскіх словаў і да школы была ўпэўнена, што самае благое слова – «дурань», і яго нельга вымаўляць.

Маці запісвала за мной вершы яшчэ тады, калі я не ўмела пісаць… Пасля я пачала запаўняць агульны жоўты сшытак сама… Час ад часу пісала і на беларускай мове – ніхто на гэта не скіроўваў, проста чамусьці адчувала патрэбу.

Калі сшытак запоўніўся цалкам, а я пачала складаць, як лічыла, сапраўдныя вершы, жоўты сшытак спаліла, як нявартыя дзіцячыя практыкаванні, за якія мусіць быць сорамна.

Беларусь я знайшла прыблізна ў той жа час, як і сапраўдную паэзію. Уладзімір Караткевіч і Максім Багдановіч – без іх я была б іншай… І, магчыма, не пісала б біяграфію для гэтай кніжкі.

А яшчэ быў у мяне зялёны сшытак вершаў, які таксама зведаў аўтадафе, але ўжо не ад маёй рукі. У доме ўвесь час вяліся сапраўдныя дысідэнцкія размовы – пра несправядлівасць савецкага ладу,

пра тое, што бедныя і засталіся беднымі, а буржуі буржуямі. Таму гадоў з трынаццаці я пачала пісаць вершы кшталту «Черная «Чайка» летит по проспекту, черная «Чайка» везет пузатого, важного, лысого «некто» на семинар или слет». Ну і пра «шамкающего вождя», ману, якую гавораць з трыбун і гэтак далей… Аднойчы, калі я вярнулася са школы, зялёны сшытак ляжаў на стале. Побач сядзелі перапалоханыя бабуля і мама, якія няўцямна спрабавалі мне тлумачыць, чым небяспечнае змесціва сшытку, а мне ж яшчэ жыць ды жыць… Карацей, сшытак знік.

Праўда, гэта ніяк мяне не напалохала.

Увогуле, мне ў доме дазвалялася ўсё. Я магла маляваць на шпалерах. Крэсліць на падлозе крэйдай класікі і скакаць па іх… Ляжаць на шафе з кніжкай і будаваць з падушак ад канапы буданы…Раскладаць па ўсёй кватэры лялькі і разыгрываць бясконцыя спектаклі…

На вобраз «батаніка», аднак, я не цягнула – з маёй любоўю да прыгодаў і ўвесьчаснай арганізацыяй усемагчымых імпрэзаў. Хатнія канцэрты з удзелам суседскіх дзяцей, самаробны лялечны тэатр, пракраданне без білету ў залу кінатэатра «Цэнтральны»… Я любіла блукаць па горадзе, зведваючы самыя нечаканыя ягоныя абліччы, і дома мяне ніколі не дапытвалі – дзе была. Дзякуй анёлу-ахоўніку, не трапляла ў непрыемныя прыгоды… Аднойчы проста пада мною ў цемры сашчыкнуліся стрэлкі чыгункі, якую мы з сяброўкай пераходзілі, і толькі нейкі інстынктыўны скачок выратаваў мяне. А неяк на дыскатэцы «Карчы», у парку 50-годдзя Кастрычніка, мы патрапілі на першы ў Мінску выступ культурыстаў. Гэта былі хлопцы з беларускай хакейнай каманды. Праўда, мала хто разумеў, што і навошта яны дэманструюць – пра культурызм тады амаль ніхто на Беларусі не чуў. А пасля моладзь развярнулася ад сцэны і пайшла на ланцуг міліцыянераў, сценка на сценку… Добра, мы апынуліся з краю…

Калі я вучылася ў другім класе, маці паслала мой верш пра хмары, якія лятуць праз рэкі і лес і нямала пабачылі цудаў, у газету «Зорька». Праўда, апошні радок пра цуды маці параіла замяніць на больш правільны. Напрыклад, пра шэрую даль шэрых нябёсаў. Замянілі.

З газеты прыйшоў ліст, дзе мне дзякавалі за верш, казалі, што ён спадабаўся, акрым апошняга радка.

А праз нейкі час я атрымала з рэдакцыі запрашэнне на пасяджэнне літаб'яднання, якое будуць праводзіць вядомыя беларускія паэты.

Пасяджэнне мусіла адбыцца ў Палацы піянераў, дзе ні я, ні маці дагэтуль не былі. Мы доўга мясілі вясновае разводдзе, шукаючы гэны палац. Нас перапынілі два важныя, але нейкія разгубленыя дзядзькі, якія таксама шукалі Палац піянераў, і маці скіравала іх

у тым напрамку, у якім, як мы лічылі, ён мусіць быць… Дзядзькі ажывіліся і прыспешыліся...

Але будынак аказаўся зусім у іншым баку.

У бібліятэцы Палаца сабралася з дзесятак юных паэтаў, усе старэйшыя за мяне, а будучых кіраўнікоў усё не было. Час ішоў, бібліятэкаркі хваляваліся. Урэшце, узяліся за справу самі, папрасілі юных талентаў агучыць свае творы (першую, вядома, мяне, як самую маленькую). Пачыталі, пахвалілі, разышліся.

Потым мы з мамай прыйшлі да высновы, што сустрэтыя намі і скіраваныя ў невядомасць дзядзькі і былі беларускімі паэтамі, што мусілі праводзіць літаб’яданне.

Маці пазнаёмілася з жанчынай, якая загадвала «масоўкай» на кінастудыі «Беларусьфільм». Так у маё жыццё ўвайшло кіно (пра гэта – мае апавяданні «Масоўка»). Плацілі няшмат, але й гэтыя грошы не былі лішнімі. Таму маю радзіну – стрыечную бабулю Волю, маю маці й мяне можна пабачыць там-сям у кадрах старых фільмаў. Незвычайны свет, дзе палац аказваўся выбудаваным з упаковак ад яек, а ў партызанскай зямлянцы ладзілася грымёрка, здаваўся працягам прыдуманых мною сюжэтаў. Карнавал, без якога сумна жыць. Я была дзяўчынкай, якая падчас бамбёжкі бяжыць ля насілак з параненым партызанам. Была маленькай сялянкай, якая ставіць на полі снапы. Падчас начных здымак у фільме «Побач з камісарам» назірала за пажарам у сельсавеце, зладжаным падступнымі кулакамі. А ў фільме «Брама неўміручасці» па п’есе Кандрата Крапівы, яшчэ чорна-белым, я стаяла ў чарзе па бессмяротнасць да лабараторыі геніяльнага прафесара разам з бабуляй Вольгай. На мне была сіняя матроска, пашытая той жа бабуляй, выдатнай швачкай, а народ побач уздымаў да сафітнага неба павільёну транспаранты з патрабаваннем бессмяротнасці і па камандзе рэжысёра неміласэрна штурхаўся.

Не люблю стаяць у чарзе нават па бессмяротнасць.

Школа таксама не была маім улюбёным месцам. Раённая школка «рабочага гета», як называлі вуліцу Бірузова ля завода ацяпляльнага абсталявання. Снег на ёй быў брунатны ад дыму з трубы згаданага завода. Вядома, я была выдатніцай… Але часцей хварэла (што, цяжка было паскардзіцца раніцай на боль у горле?). Смярдзючы дым з трубы, частыя выступленні (я звонка чытала вершы і празаічныя прывітанні на ўсіх школьных імпрэзах) скончыліся ларынгітам.

І ў пяты клас мяне адправілі ў санаторна-лясную школу ў Ждановічах.

Падрабязней пра гэта – у цыкле маіх апавяданняў «Шкельцы». Год на становішчы інтэрнацкага дзіцяці ды яшчэ ў будынку сярод лесу, непадалёк ад могілак, добра такі на мне адбіўся. Я цяжка за-

сынаю, а тут даводзілася спаць у адным пакоі з дзесяткам дзяўчатаў, якім перад сном трэба было насмяяцца, нагаварыцца, і гэта зацягвалася за поўнач… Я купляла спакой тым, што расказвала на хаду прыдуманы чарговы раздзел рамана ўласнага аўтарства. Гаварыла, пакуль усе не засыналі. Раманы былі доўгія, з надзвычай пакручастымі сюжэтамі – шпіёны, скрадзеныя дзяўчаты, варожыя базы на Месяцы, прывіды і пераваратні і ўжо не памятаю што…

Пасля я вярнулася ў сваю школу, якую бачыць не хацела, да аднакласнікаў, якія не хацелі бачыць мяне. Падлеткавы асяродак даволі жорсткі, але мне ўдалося сцвердзіць сваё месца. Прынамсі, нават арганізавала ў класе, які называўся «бандай», сваю невялічкую «партыю» – «анархістаў», якія не ўдзельнічалі ў жорсткіх гульнях большасці, але й не належалі да «шасцёрак». Праўда, былі й станоўчыя прыдбанні на ўсё жыццё: перакананне, што на таварыша нельга даносіць ніколі, што часам лепей памаўчаць, чым выхваляцца ведамі, і ўстойлівая агіда да афіцыйных мерапрыемстваў для галачкі.

Але пасля восьмага класа са школы я сышла – выбралі з сяброўкай з магчымых прафесіяў сярэднеспецыяльных навучальных установаў самыя прывабныя.

Так я трапіла на архітэктурнае аддзяленне Мінскага архітэктурна-будаўнічага тэхнікума. Выбар быў абгрунтаваны: я некалькі гадоў хадзіла ў ізастудыю гарадскога Дома піянераў да Кацярыны Міхайлаўны Мізінай. Маляванне было маёй другой любоўю (паралельна з літаратурай), і нейкі час я вагалася між імі… Але мая настаўніца, калі я пачала разважаць, ці не пайсці ў мастацкую вучэльню, сказала: «Ну і будзеш маляваць пушкі для запалак»… Гэты вобраз настолькі мяне напалохаў, што я пакінула такую думку. Калі няма ўпэўненасці, што ў прафесіі дойдзеш да вяршыні – ці варта пачынаць?

Я дыхала вершамі, яны ліліся, нібыта ім не будзе канца, кожную ноч я сядзела за пісьмовым сталом прынамсі да гадзіны ночы… Думаю, гэта самыя шчаслівыя гадзіны ў жыцці паэта. У той жа час, начытаўшыся «Чырвонага і Чорнага», загартоўвала сілу волі (тыдзень не размаўляць, схадзіць апоўначы на могілкі) і вяла адчайныя дзённікі. Хацелася перамен і подзвігаў.

Мама, мая першая і самая цярплівая слухачка, абзваньвала рэдакцыі, шукаючы, да каго мне можна звярнуцца, каб паказаць вершы. І я трапіла да літаратурнага кансультанта газеты «Знамя юности» Уладзіміра Някляева. Жыццё набыло іншы рытм: напісаць за месяц-два вершаў, выбраць пару дзесяткаў лепшых, акуратна перапісаць на асобных лісціках і несці паказваць паэту.

У 1983-м годзе у газеце «Знамя юности» быў надрукаваны мой першы верш. На рускай мове, кароценькі…

Я ішла па вуліцы, і мне здавалася, што ўсе павінны мяне пазнаваць – хаця фотаздымка майго на старонках газеты не змясцілі.

Як шкада, што пасля немагчыма перажыць тую ж вастрыню пачуццяў, як ад першага верша і першай кнігі.

Я скончыла тэхнікум, і мяне размеркавалі ў праектна-канструктарскае бюро вытворчага аб'яднання «Гарызонт» (стрыечны дзядзька Саша, сын бабулі Вольгі, дапамог). Прадпрыемства было рэжымнае, я ўпершыню апынулася за прахадной, калі спазненне на хвіліну рэгістравалася і цягнула за сабой вымову… Але ў бюро панаваў паўбагемны настрой. Ціхая фронда савецкай інтэлігенцыі. Падрыхтоўка чарговага «капусніка» альбо прыкольнай насценгазеты здавалася больш важлівым, чымся чарговы праект убудаванай шафы ці эскіз малюнка абліцоўкі цэху. Калі я прынесла ў гарызонтаўскую шматтыражку свае вершы, праз нейкі час ад мяне запатрабавалі прынесці чарнавікі… Вырашылі – чужыя творы збіраюся прыўлашчыць. Выручыла выразка са «Знамени юности» з маім вершам…

Праз год мяне запрасілі на рэспубліканскі семінар маладых літаратараў у Каралішчавічы. Для мяне – падзея надзвычайнай важнасці. Я ўпершыню апынулася сярод сваіх равеснікаў, якія таксама пісалі вершы, і пісалі іх на беларускай мове. А пасля я атрымала накіраванне ад Саюза беларускіх пісьменнікаў у Літаратурны інстытут імя Горкага.

Напярэдадні ад'езду на іспыты я доўга блукала па Кальварыйскіх могілках, і, відаць, застудзілася. Таму ў Маскве ў мяне паднялася тэмпература. У інтэрнацкім пакоі не мелася коўдраў, замест іх даводзілася выкарыстаць паласатыя брудныя матрасы, сцены былі зmаляваныя багемнай графікай, маладзенькія ўрачы, што прыехалі на «хуткай» ратаваць мяне, ушпілілі ўкол, ад якога я лячылася пасля месяц, але іспыты я здала на выдатна. І апынулася на аддзяленні паэзіі, на семінары Аляксандра Міхайлава і Галіны Бяляевай.

Масква часу перабудовы… Цэнтральны дом літаратараў, дзе Акуджава купляе піроржныя, і іх загортваюць яму ў адмысловы пакецік на шнурочку… Выступы Юрыя Кузняцова і скандальных Паршчыкава і Яроменкі… Аднакурснікі, якія яшчэ не падыйшлі да ідэі стварэння Ордэна куртуазных маеньерыстаў, але адзін з іх у гонар паступлення голіць галаву. За вакном майго пакоя на начах выяўлялася прывідным блакітным слупом Астанкінская вежа.

8 верасня мая новая сяброўка, расійская паэтка, пацягнула за кампанію знаёміцца з ейным земляком, на сёмы паверх нашага інтэрната, дзе жыла эліта – навучэнцы Вышэйшых літаратурных курсаў. Усе «члены», усе з кніжкамі… І хадзіць туды адной было страшнавата. Ейнага земляка не найшлі, і я ўспомніла, што паэт Яўген

Міклашэўскі, які адказваў за працу з маладымі літаратарамі, параіў мне, калі якія праблемы ўзнікнуць, знайсці на ВЛК паэта Віктара Шніпа…

Вось і адшукала. Паэт, зусім не пагрозны, ішоў да нас па змрочным інтэрнатаўскім калідоры, з-за ягонае спіны свяціла сонца, і светлыя непаслухмяныя валасы здаваліся німбам.

Вочы таксама, здаецца, свяціліся…

Замуж ён мне пачаў прапаноўваць падчас другой сустрэчы.

Дзесьці праз паўгода я згадзілася.

На нашым вяселлі ў рэстаране гатэля «Мінск» шаферам быў паэт Леанід Галубовіч, сватам – паэт Мікола Мятліцкі, сярод гасцей можна было пабачыць паэтаў Алеся Пісьмянкова, Уладзіміра Марука і мастака Алега Карповіча, крытыкаў Яўгена Гарадніцкага і Тамару Чабан…

А тады я перавялася з Літаратурнага інстытута на філфак БДУ, на беларускае аддзяленне. Як – трохі апісана ў аповесці «Пярсцёнак апошняга імператара».

Пачыналіся «Тутэйшыя», нефармальны літаратурны моладзевы рух, мы апынуліся ў яго плыні гэтак жа натуральна, як ручаіны цякуць у раку.

Хутка ў часопісе «Маладосць» з'явілася мая падборка вершаў. У аддзеле паэзіі працавала Яўгенія Янішчыц. Яна павінна была стаць і рэдактарам маёй першай кнігі ў «Бібліятэчцы часопіса «Маладосць». Але калі рукапіс быў амаль падрыхтаваны, «ластаўка Палесся» з жыцця пайшла.

Кніжка выйшла ў свет у 1990-м годзе. Тады ж мяне прынялі ў Саюз беларускіх пісьменнікаў. Наступная кніга, «Замак месячнага сяйва», пабачыла свет у выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў 1992-м, а тады пачалося бяскніжжа і безграшоўе. У нас гадавалася двое дзяцей – Максім і Вераніка, мелася процьма творчага імпэту і аніякай бізнэсоўскай жылкі. Давялося працаваць карэктарам у газеце «Паляўнічы і рыбалоў Беларусі», літкансультантам у «Народнай газеце» (дзякуй Валянціне Аксак, якая запрасіла на падпрацоўку). У часопісе «Першацвет» Алесь Масарэнка прапанаваў мне быць загадчыкам аддзела крытыкі. Сыну быў месяц, а я яшчэ наважылася здаваць сесію… І праца патрэбная была… Як я вытрымала тады – не ведаю.

Цікава, што на вокладцы самага першага нумара згаданага часопіса змясцілі мой малюнак пралескі, не скажу, каб надта прафесійны, але сімвал часам важней за факт. Праз некалькі гадоў мне прапануюць узначаліць гэты часопіс, і я на нейкі час пагаджуся. Прыдумаю новае аблічча, новую канцэпцыю…

Пасля «Першацвету» я апынулася загадчыкам аддзела мовы ў газеце «Наша слова», потым перайшла загадчыкам аддзела крытыкі

ў штотыднёвік «Літаратура і мастацтва»… Сем гадоў правяла там. Гэта быў цікавы час і цікавы калектыў. З дарагіх мне праектаў – «Гарбата ў Шніпоў». Гэткі дыскусійны клуб творчай інтэлігенцыі, якую я запрашала проста ў нашу хрушчоўскую кватэру, атрыманую ад Літфонда і якая (вось жа лёс!) таксама аказалася непадалёк ад Кальварыйскіх могілак, толькі з іншага боку. Хто толькі не сядзеў на нашай канапе! Матэрыялы, якія друкаваліся ў «ЛіМе» пасля дыскусій за гарбатай, напраўду люстравалі эпоху… Напэўна, кагосьці і моцна раздражнялі. У 2003-м годзе я прыняла прапанову стаць літаратурным аглядальнікам газеты «Беларусь сегодня». Там у мяне таксама ёсць падобная рубрыка, толькі яна стала феміністычнай і звузілася да трохкутніка – так і называецца: «Трыялет».

Прыемна было супрацоўнічаць з Паэтычным тэатрам аднаго актора «Зніч», які ачольвае актрыса Галіна Дзягілева, я нават пабывала літсупрацоўнікам гэтага тэатра. Быў свой праект на радыёканале «Культура» – перадача па гісторыі беларускай мовы «Дзеяслоў».

Але пісьменнік, які піша і не можа выдаць свае творы, адчувае боль проста на фізічным узроўні. У 2000-м годзе мы з Віктарам трохі падсабралі грошай і выдалі мізэрнымі накладамі па зборніку ў Полацку, у паэта Алеся Аркуша, які ўзначальвае там Таварыства Вольных літаратараў. Мой зборнік называўся «Балаган».

Пасля мы пачалі карыстацца сямейным становішчам і эканоміць свой бюджэт, змяшчаючы па два зборнікі пад адной вокладкай. Некалькі з іх выдалі ў Маладзечне, з дапамогай краязнаўцы Міхася Казлоўскага, рупліўца і энтузіяста, які колькі ўжо гадоў выдае там цікавы альманах «Куфэрак Віленшчыны».

Мне пачало не хапаць паэтычнай прасторы. Можа, з-за маёй цікаўнасці – заўсёды хацелася выпрабаванняў. З'явіліся драматычныя паэмы – першую, «Пасля Цэзара», дзеянне ў якой адбываецца ў Рыме часоў Актавіяна Аўгуста, колькі разоў хацелі ставіць… Адзін раз быў ужо адзняты матэрыял для перадачы «Тэатр у фатэлі», якую вяла тэатразнаўца Жана Лашкевіч… Але проста перад эфірам перадачу закрылі. Потым тэлефанавала рэжысёр з тэлебачання, але і гэта не здзейснілася… На экране з'явіўся відэафільм па адной з маіх наступных паэм, пра Сафію Слуцкую – «Апошняя з Алелькавіч». Маладому рэжысёру Уладзіміру Луцкаму замест дэклараваных паўтарох гадзінаў урэшце вылучылі толькі дваццаць хвілінаў экраннага часу. Адзнятае ( у тым ліку ў Мірскім замку) давялося бязлітасна рэзаць, выкідваць цэлыя эпізоды… А шкада, фільм рамантычны, артысты выдатныя… Згадаю п'есу «Янук, рыцар Мятлушкі», якую паставіў на сцэне Акадэмічнага тэатра Якуба Коласа знакаміты рэжысёр Віталь Баркоўскі – мы з дачкой Веранікай ездзілі на соты па-

каз яе ў Віцебск. П’есу «Амор ардэнс», пра каханне Івана Луцкевіча і Юльяны Менке, паставіў Валянцін Ермаловіч у сваім народным тэатры ў Магілёве. Збіраўся ён ставіць і напісаную мною сумесна з гісторыкам Віталём Скалабанам п’есу «Людвіка і Фабіян», пра расстралянага беларускага паэта і грамадскага дзеяча Фабіяна Шантыра і Зоську Верас, але не паспеў, памёр.

А проза пачалася з казак. Я вельмі хацела, каб дзеці мае жылі ў свойскім казачным свеце, і нанач расказвала ім прыгоды пра тлустую лянівую мышку, якая жыве ў нашай кватэры і штоноч выпраўляецца на пошук салодзенькага… Ну а тады з ёй адбываюцца розныя прыгоды.

Мая сяброўка, паэтка з Беластока Міраслава Лукша, неаднойчы начавала ў нас і чула мае казкі… І папрасіла, каб я запісала іх для газеты беластоцкіх беларусаў »Ніва».

Так казкі пра мышку Пік-Пік пачалі з’яўляцца напачатку ў «Ніве», тады на беларускім радыё, у розных дзіцячых выданнях, тады ў асобнай кніжцы…

Сёння ў мяне прозы напісана па аб’ёме, мабыць, болей за «паэтычную частку» (праўда, пісаць даводзіцца збольшага па начах, у вольны ад журналісцкай працы час). З любімага згадаю цыкл «Старасвецкія міфы горада Б». Дзіўны сінтэз антычных міфаў і рэалій беларускага мястэчка канца XIX стагоддзя… З гэтымі апаведамі мне давялося выступаць і ў Нямеччыне, і , здаецца, прымалі добра… З рубрыкі, якую я задумала ў часопісе «Першацвет», а тады давялося самой здзяйсняць, атрымаўся зборнік эсэ па гісторыі філасофіі, перакладзены на рускую мову. Напісалася і кніга краязнаўчых артыкулаў «Я – мінчанін». Праца над гісторыяй Мінска выявілася і ў аповесці «Ночы на Плябанскіх млынах», дзе я бязлітасна перамяшала ўласную фантазію, гарадскія паданні і гістарычныя факты. Для рамана «Золата забытых магіл» давялося пазнаходзіць фактаў з гісторыі паўстання Каліноўскага… А раман «Забіць нягодніка» – самы цяжкі для мяне эмацыйна, бо перачытала сотні дакументаў часоў сталінскіх рэпрэсій... Пратаколы допытаў, лісты зняволеных, успаміны ацалелых… Немагчыма было выкарыстаць многія факты – бо нармальны чалавек не паверыць, што такое магло быць у рэальнасці, спіша ўсё на хворую аўтарскую фантазію. Здаралася, я прыдумвала нейкую дэталь – а яна пацверджвалася пасля дакументамі… Гэтак пацвердзілася ўбачаная мною ва ўяўленні сцэна смерці мінскага біскупа, замардаванага ў 1933-м, як высветлілася, непадалёк ад нашага дома... А вось гісторыя маладзенькага садоўніка з рамана «Золата забытых магіл» крытыкі (нават вельмі таленавітая навукоўка з Кіева, даследчыца маёй творчасці) аднагалосна назы-

ваюць прыдумкай – а я ўзяла эпізод з архіўных дакументаў XIX стагоддзя, ні адной дробязі не памяняла…

Што яшчэ раз, спадарове, ілюструе думку, што міф важней і прыймальней за факт.

У 2002-м годзе мы з Віктарам распачалі тое, пра што даўно загаворвалі – абвесцілі аб пачатку працы у «ЛіМе» новага літаратурнага аб’яднання. Да нас пачалі патроху прыходзіць маладыя паэты. Дужа не хацелася, каб гэта было нешта звычайнае… Мы назваліся суполкай маладых творцаў і дэкларавалі сур’ёзную літаратурную вучобу. Мянялася назва – напачатку «Літаратурны квартал», тады – «Літаратурнае прадмесце»… Мяняліся месцы збораў… З двух кіраўнікоў застаўся адзін, гэта значыць, я. Суполка прырастала сябрамі, выйшаў агульны зборнік з дапамогай пісьменніка Леаніда Дайнекі. З’явіліся непарушныя традыцыі, вандроўкі і святы, кшталту «Літаратурных Дзядоў»… Свой сімулякр, віртуальная паэтка Рагнеда Крышталюк, якая з’яўляецца ў выглядзе ружовага кітайскага парасона. І ўласная нонканфармісцкая літаратурная прэмія «Блакітны Свін» (дыплом плюс сто «чаго-небудзь», напрыклад, алоўкаў).

Думаю, што паэт памірае тады, калі страчвае здольнасць да гульні і самаіроніі. Пакуль я на вачах публікі адчыняю ружовы парасон з двума аголенымі спіцамі і наўсур’ёз тлумачу,  што гэта паэтка Рагнеда Крышталюк, а спіцы тырчаць, бо ў яе характар такі, я за сваё паэтычнае «сёння» спакойная.

Хочацца верыць, што нешта ўдалося зрабіць для паэтычнага «заўтра», якое творыць моладзь з «Прадмесця».

Праўда, ёсць у мяне падазрэнне, што калі Рагнеда кудысьці знікне, я прыдумаю што-небудзь (ці каго-небудзь) яшчэ.

Свет па-ранейшаму для мяне цікавы, Беларусь па-ранейшаму неспазнаная і адзіная ў свеце, сугуччы і сюжэты разлітыя ў прасторы, як водар восеньскага лісця альбо яблыневай квецені, а біяграфія… Ці можа яна мець адзіную інтэрпрэтацыю, хай не абсалютна, а хаця б адносна?

*2008 год*



***Саламаха***
***Уладзімір Пятровіч***

## ЯК БЫЦЬ ЗАЎСЁДЫ ДОБРЫМ І МУЖНЫМ?..

… І ў шэсцьдзесят, калі раптам задумаешся над тым, колькі пражыта і перажыта, кожны раз засяроджваешся на гэтым: здаецца, нямала і шмат што, але ж ці многае зразумеў у жыцці?.. Тым больш у самым галоўным – у адносінах паміж людзьмі. Асабліва «абвострыцца» ўсё гэта, калі юныя з якой нагоды папросяць расказаць пра сябе. Тады спахопішся: ці ж ёмка? Ты ж лепш, чым хто, ведаеш, што хапала і кепскага і добрага. Ведаеш, помніш, што не толькі цябе крыўдзілі, але і ты крыўдзіў. А чалавечая прырода такая, што хочаш не хочаш, а будзеш «прыхарошваць» сябе. Але кажуць, што трэба. Маўляў, і твой жыццёвы і літаратурны вопыт для некага можа быць цікавым… Ды, можа, да сваіх дзённікаў звярніцеся, падкажуць.

Ніколі не пісаў дзённікаў. Яшчэ падлеткам, маючы ў сабе такі сверб, уяўляючы сябе важным – у раёнцы друкаваўся – класічнае вычытаў: «Дневники – самые неверные документы о человеке». Тым не менш чытаў дзённікі класікаў: яны для мяне – святыя. Карцела

даведацца, як і чым яны жылі? Якая эпоха была, час? Ды і шмат што іншае з іх жыцця цікавіла. Верыў ім і зараз веру.

Чытаў ужо ў нашы часы дзённікі проста літаратараў, не намнога старэйшых за мяне і маладзейшых. Некаторых асабіста ведаў і ведаю. Чытаў і думаў: «Сапраўды «неверные документы о человеке». І хто б што сам пра сябе не казаў, гэта не можа быць гранічна аб'ектыўным. Так што ўсе мы «суб'ектывісты». (Жахліва, калі людзі выкарыстоўваюць дзённікі для таго, каб прыніжаць іншых.)

І запісных кніжак не пішу. Мабыць, лянота такая, усё на памяць спадзяюся. Але, прызнаюся, іншая лянота таксама ёсць: ні голад, ні холад, ні што іншае не можа прымусіць сесці за пісьмовы стол, калі няма такой унутранай патрэбы (кажу пра прозу). А вось іншае ёсць: рэдагую аўтараў, рыхтую ўласную публіцыстыку, адказваю на лісты – да ўсяго гэтага адношуся, як да звычайнай працы, якую павінен мець кожны чалавек і якая хлеб дае. (Зараз не шмат хто і з майго пакалення гуляе.)

А што проза для мяне?

Мабыць, нейкі імпульс ці настрой. Бывае, доўга нешта хвалюе, трывожыць. Хочацца выказацца. І стан такі, што пісьмовы стол не патрэбны: на вуліцы, у метро, у рыбацкай лодцы, днём, сярод ночы – усё ў галаве «прагаворана» ды «ўбачана». Урэшце – за стол сеў. Выпісаўся – гуляй! Адчуванне радасці, што сказаў, ёсць да той пары, пакуль не аддасі чытаць у рэдакцыю ці ў выдавецтва. Наогул жа ведаю – у кожнага літаратара – па-свойму. І як ён піша, і чаму, і для каго.

Як пішу – сказаў. Для каго?.. Пытанне таксама няпростае, а здавалася б… Часам чую: «Пішу для сябе», «Для жонкі». Няўжо? Калі так, мог бы і не друкавацца: для сябе, дык для сябе. Пішу, хачу, каб чыталі. А што для сябе, дык яно ў душы і застаецца і ў тыражыраванні патрэбы не мае.

Ці ёсць, так бы мовіць, зваротная сувязь? Ёсць. Розная. Напрыклад, і такая: некалі адзін чалавек, якога не надрукавалі ў «Маладосці» (калі я там працаваў), патэлефанаваў мне і радасна сказаў, што, не чытаючы, парваў маю кніжку і выкінуў у сметніцу (я ўзрадаваўся: дорага, але купіў жа!). А ён патлумачыў: «Вы не надрукавалі маю аповесць, дык я парваў кніжкі ўсіх вашых супрацоўнікаў». А я падумаў: аказваецца, і тваё маленькае рэдакцыйнае крэселка можа быць для цябе небяспечным, хоць аповесць ты тую і не чытаў (не твой аддзел) і лёс яе ад цябе не залежаў.

І яшчэ пахвалюся: лічу, што ў свае гады ўжо ведаю асабістыя рэальныя магчымасці ў той справе, якой займаюся. Адношуся да сябе ў гэтым кірунку спакойна, з пэўнай доляй самаіроніі. Таму не

раблю спробы ўзяць тыя «вышыні», якія не для мяне. Зрэшты, яны – у любой справе для кожнага з нас свае. Напэўна, зразумеўшы гэта з часам, нічога, што з табой адбываецца ў працы, як трагедыю не ўспрымаеш. Але як бы там ні было, а ўсюды людзі адной прафесіі, аднаго занятку лепш за іншых разумеюць, хто чаго варты. І ў літаратуры – таксама. Так што, хваліся не хваліся, хвалі не хвалі сябе – Багдановіча сярод нас няма, як няма Купалы, Коласа, Чорнага, Гарэцкага, Мележа, Адамовіча, Брыля, Шамякіна, Стральцова, Караткевіча, Рубанава… Але затое ёсць іншыя пісьменнікі, «хорошие и разные», – і гэта цудоўна. (Мой погляд на іх – у кнізе «Сусвет дабрыні».)

Увогуле стараюся чытаць усё, што друкуюць нашы сапраўдныя пісьменнікі. Спрабую займацца «бягучай» крытыкай. (Думаю, што гэта не столькі крытыка, як маё асабістае ўспрыняцце талентаў літаратараў, якія мне падабаюцца.) Пераканаўся: беларуская літаратура і сёння, калі большасць з нас не могуць выдавацца (прычыны розныя), па-ранейшаму надзвычай багатая на сапраўдныя таленты. Але сёння ёсць такая бяда: ваяўнічая, усюдыісная графаманія, амбіцыі бяздараў, якія па-стаханаўску «працуюць» нібыта ў літаратуры, разбураюць яе, сапраўдную. А мы пры гэтым часта ім «аплодируем»: «Геніяльна!..» (Не ўсе, вядома, «рукоплещем».) І ўпэўнены, калі ўзяць хаця б яе перыяд з пасляваенных да нашых часоў, падобнай ёй няма нідзе ні на «просторах бывшего СССР», ні ў якой іншай краіне (калі параўноўваць з тым, што чытаў). Так што, калі хто хваліць сваю літаратуру як «вялікую», дык хай жа ўважліва і нашу пачытае!

Здаецца, выказаў некаторыя меркаванні аб сваёй працы, аб нашай літаратуры. Можа і да біяграфіі перайсці…

Памятаеце, казаў, што пачынаў з раёнкі. Бацькі ставіліся сур'ёзна да маёй пісаніны школьніка. Маці была зусім непісьменнай, не ўмела пісаць і чытаць. Бацька меў чатырохкласную адукацыю. Ён на апошнія грошы выпісваў нам, дзецям, усе беларускія літаратурныя часопісы і нават «ЛіМ», а таксама «Юность», «Роман-газету» і мне асабіста – часопіс «Художник». Да ўсяго ў п. Скачок, на лесаўчастку, дзе працаваў бацька, была добрая бібліятэка: як зараз разумею, туды трапялі ўсе мастацкія беларускія кнігі. Калі я пачаў стала друкавацца з прозай, маці прасіла іншы раз, каб пачытаў. Але яна ніколі не казала, добра ці дрэнна. Толькі аднойчы, калі пачула па радыё маё апавяданне, пахваліла: «Дзед Астап».

Дзед Астап, мамін бацька, прозвішча якога Печань, у нас у сям'і аўтарытэт быў найвышэйшы, хоць ні сястра Валя, ні брат Саша, ні я яго не бачылі – памёр у канцы вайны. Думаю, што чалавек ён быў някепскі, і тую пахвалу маці помню. Як вызначыў, што някепскі? Проста. Кожны год на Радаўніцу мы – сястра, брат і я – прыязджаем

у маміну вёску Буду на Кіраўшчыне, наведваем могілкі, дзе пахаваны дзед, баба Матруна, дзядзька, цётка, іншыя сваякі. Дык старыя жанчыны, якія нас не ведаюць, пытаюць: «Ці не Любы Астапавай вы дзеці?» Адказваем: «Любы, а як здагадаліся?» – «Па Астапаўскай прыродзе». Разумею, па абліччы. Дзеда Астапа людзі ўспаміналі добрым словам, пры гэтым адзначаючы, што ён быў цікавы расказчык і выдумшчык.

Аўтарытэтам у сям'і быў і дзядзька Валодзя, бацькаў брат, франтавік. Характар у яго быў своеасаблівы: зычлівы да іншых, але самаіранічны. А так усё ў яго праз жарты. Казала мама, як я быў малы такое здарылася… «Даю я, сынок, карову каля хлява, ты побач круцішся. А Валодзя, усё яму гы-гы, дастаў з-пад страхі ружжо, ваяка гэтакі, ды круць-верць. Крычу яму, што яно зараджана. Адказвае, што не, не зараджана. А яно і стрэліла. Прама каля цябе, сынок, у сцяну. Ты – брык на зямлю. Я – брык на зямлю. Валодзя – брык на зямлю. Карова – праз цябе, як не растаптала».

Пасля бацька казаў мне, што гэта быў абрэз, які яму, бацьку, далі яго таварышы-франтавікі, з якімі рабіў на лесаўчастку. Прыйшоў ён у 1945 годзе з вайны, якую пачаў у Бабруйскай крэпасці, а скончыў на Далёкім Усходзе. Адразу пасля вайны яны з маці жылі ў Бераснёўцы (мая радзіма), і бацьку даводзілася на працу хадзіць у Скачок праз лес, дзе ў яго не аднойчы пастрэльвалі. Падлеткам ужо пытаў я ў бацькі, ці адстрэльваўся? Адказваў, што пару разоў страляў угору. «Можа і на вайне ўгору страляў?» – няўдала спрабаваў я жартаваць, пытаючы далей, як ён наогул ваяваў. Пра вайну адказваў: «Усе стралялі, і я страляў». Пазней, працуючы ў Дзяржкіно, я расказаў, як «ваяваў» мой бацька – медалёў і ордэнаў у яго хапала, – аднаму нашаму кінадраматургу і пісьменніку. Той, вопытны таварыш, паставіўся да ацэнкі бацькавай вайны зусім інакш, чым я. Бацькаву ж фразу: «Усе стралялі, і я страляў», – уклаў у вусны героя аднаго свайго фільма, ролю якога выконваў Анатоль Папанаў. Калі бацька глядзеў фільм, то зазначаў: «Бач, як чалавек кажа, як я. А ты – як ваяваў, як ваяваў…» Я і сёння не магу зразумець, чаму ні бацька, ні іншыя франтавікі, яго таварышы па працы на лесаўчастку, ніколі не хваліліся сваімі ваеннымі справамі, не пісалі ўспамінаў, адно, калі спытаеш, дык хто адкажа, што, маўляў, было, навошта ўспамінаць?

Але вось з такіх эпізодаў і эпізодзікаў, мабыць, і складаецца мая чалавечая і, калі ўжо так, творчая біяграфія. Тут, напэўна, мне, сваё ўспамінаючы, ёсць над чым падумаць сур'ёзна. Таксама ёсць над чым паіранізаваць, калі гэта са мной звязана. І, безумоўна, ёсць чым ганарыцца. (А вось пустой ганарыстасці ў сям'і не любілі: «Няхай людзі цябе пахваляць, – казала маці, – а не сам».)

Толькі як не «ганарыцца», калі, як ужо казаў, прайшло столькі гадоў, а на радзіме маці і яе, і дзеда твайго памятаюць, ды і цябе нейкім чынам у сувязі з імі прыпамінаюць: чый ты... Але добра, што знойдзецца пры гэтым які стары (за плугам ходзіць), павітаешся, скажаш: «Бог у дапамогу». А ён спыніцца, усміхнецца: «Ну, дык пакуль так, то прайдзі-тка, чалавеча, і ты круг». Ага, прайдзі... Тут ганарыстасць твая як прыйшла, так і выйшла. Пасля аднаго такога разу ўсё-такі плуг навучыўся сяк-так трымаць – «дзеяч», які, магчыма, каб інакш склалася жыццё, можа, і стаў бы аратым, ці лесарубам.

Чаму не стаў?..

Мяркуем разам.

Мы часта ўспамінаем ці стараемся прыпомніць, з якой пары, з якіх гадоў сябе ведаем. Дык і я паспрабую... Здаецца, першы ўспамін пра сябе – незагойнае, як вечны апёк у душы – гаротныя, з нявыказанай крыўдай слёзы маці каля нашай хатцы-куранька ў вёсцы Бераснёўка, дзе я нарадзіўся 23 сакавіка (запісаны 24-га) 1949 года.

Чаму плакала мама? Чужыя дзядзі (дзядзька ў нас – не зусім... грубавата) тапталіся на нашым падворку, размахвалі пугаўём перад маміным тварам, перад тварыкам хворай маёй сястрычкі Зойкі, якая была ў яе на руках, ды крычалі: «Мы твае соткі па вуглы трактарам абрэжам і хату з зямлёй зраўнуем!» (Запісваю даслоўна па маміным ўспаміне.)

Мы з сястрой Валяй (яна 1946 года нараджэння) трымаемся за маміну спадніцу і «равём роўма». А мама, галосячы, ледзь не цалуючы рукі чужым дзядзям, просіць, каб не губілі: «У мяне ж калека на руках, дзеці малыя, а ён жа (бацька) франтавік. Ці ж я працадні не вырабляю?»

«Ён – не калгаснік!»

Казала мама, што бацька ў далёкай камандзіроўцы тады быў, а ёй – хоць з намі кладзіся жывой ў магілу ды памірай – ніякай літасці, з калгаса вытураюць…

А далей гэты эпізод бачыцца мне так: плачуць суседкі-жанчыны каля нашага падворку, плача маці. А іншыя дзядзькі бураць жытло наша, ажно трэскі ляцяць! І бацька тут... Грузяць на машыну... І я ўжо ў кабіне ў бацькі на каленях, за руль учапіўся. «Ды ты трымай мацней руль, шафёр!» – крычыць мне ў самае вуха дзядзька Валодзя.

Маміна тая крыўда, прыніжанасць і зараз не даюць мне спакою: няўжо так можна было рабіць, «дзядзі» чужыя, кіраўнікі, ці хто вы там былі?.. Не пакідае і пасля таго, як выпісаў сцэну прыніжэння наогул жанчыны-маці, калгасніцы, проста чалавека ў аповесці «Перакулены свет», у якой, між іншым, усё асноўнае, з вёскай звязанае, – мамiны ўспаміны, якія я паспрабаваў ужо ў сталыя гады асэнсаваць у прозе.

Ёсць у гэтай аповесці яшчэ адзін эпізод з маёй біяграфіі, скажам так, з уласнага жыццёвага вопыту. Гэта калі старавер Яўцеха п'е з аднае конаўкі з паганцам-хлопчыкам, які быў у яго падпаскам. (Дарэчы, і кароў, і цялят, і іншую жыўнасць мы, дзеці пасялкоўцаў, не грэбавалі пасвіць і «жаніхамі».)

Мы, выгнаннікі з бацькавай радзімы (тут жа ў Бераснёўцы, дзе ён нарадзіўся, дзе нарадзілася мая сястрычка-пакутніца Зойка, дзе немцы жывой укінулі ў палаючую хату маю бабулю Вольгу, татаву маму, дзе ляжаць у зямлі мае продкі (бацькаў род) да пятага калёна, дзе і зараз у нас столькі знаёмых), як нас выгналі з калгаса, пераехалі ў пасёлак Скачок. Як зразумеў чытач, маці мая – з тых беларускіх жанчын, якіх горам і пакутамі лёс не абдзяліў. Асабліва ў вайну. Казала: «Сынок, днём немцы ці паліцаі паставяць рулю да скроні: дай тое, давай гэта, не глядзяць, што дзіцятка ў цябе нямоглае, а ноччу іншы раз які ілжэпатрыёт перад тварам зброяй трасе: «Давай! Твой на фронце ў сытым і добрым, а мы тут гібеем». Сапраўдны ж партызан прыйдзе, ціха пастукае ў шыбу: «Можа, ёсць што паесці ці з вопраткі...» Такому апошняе аддасі».

Памятаю, ужо ў 70-х адшукаў маю маці адзін былы партызан. Прозвішча яго Анішчанка. Быў ён дырэктарам адной з салігорскіх школ. Увайшоў у хату – людзі паказалі, дзе мы жывём, – ды давай маці рукі цалаваць: «Сястрычка! Як жа ты нас ратавала...» Ды расказаў нам, дзецям, як маці нашу паслалі партызаны ў гарнізон у Кіраўск забраць закатаванага народнага мсціўца Пятра Юхнаўца. Юнака параненага схапілі ворагі, як ні катавалі, нікога не выдаў. Паехала яна туды на падводзе з Петраковай маці, бабуляй Кулінай, якую і я памятаю. Тая самлела перад магілай сына, а мая маці рукамі зямлю раскопвала, здзірала да касці пальцы. Немцы ж са зброяй над ёй стаялі, рагаталі. Жанчына-перакладчыца казала: «Яго адкапаеш, бандытка, а сама туды ляжаш...»

Наогул ворагі і «свае», здраднікі, надта любілі «жартаваць» з маці. Адзін з такіх «жартаў» я апісаў у апавяданні «Жыць тры дні».

Якое ўсё гэта, успаміны пра маці, мае дачыненне да маёй біяграфіі? Кроўнае. Можа, усё гэта ў маёй, калі ёсць такая, генетычнай памяці... Здараецца, і нярэдка, вочы заплюшчваць не трэба: бачу. І галасы чую. Цэлыя дыялогі. І цела часам, здаецца, агонь пякельны адчувае. Можа таму агонь і людзі ў ім – у трох маіх аповесцях. У сітуацыях, калі чалавек не па сваёй волі на мяжы свайго існавання... Ведаю, колькі б пра гэта не пісаў – ніколі не «выпішуся». Між іншым, мой зямляк, выдатны паэт і пісьменнік Леанід Дайнека, калі неяк я малады расказваў яму пра гэта, зазначыў: «Вось пра што табе трэба пісаць. Ды і ўсім нам: пра бацькоў нашых. Калі мы пра

іх не напішам, дык хто? А яны – народ»... Так, уся наша «мужыцкая», «рабочакласаўская», і «інтэлегенцкая» літаратура якраз такая: пра дзядоў і бацькоў нашых. Пра нас. Праз гэта, уласнае, на агульналюдскае выходзім. І класікі, і мы, простыя работнікі літаратуры.

Але вернемся да Скачка. Такі ён «знак» у маёй біяграфіі, у маім жыцці наогул, што – помная радзіма. Жыў там да васемнаццаці гадоў, пакуль не пайшоў у войска. І, забягаючы наперад, скажу: дзе б пасля не быў, што б не пражыў, усё адно больш нішто не пакінула ў душы такога свайго следу, як Скачок. І дазвольце мне гэтыя словы – усе мае духоўныя набыткі – адтуль, са Скачка.

Скачок, пакуль была жывая мама (яна памерла ў 1989 годзе) – гняздо наша. Дзе быў дух свой. Святло. Цеплыня... (Бацька, калі маці памерла, пераехаў да сястры Валянціны ў вёску Жылічы, што ў нашым раёне, памёр у 1997 годзе). Зараз там, у Скачку, гнязда няма, але засталіся ў памяці вобразы, галасы, фарбы...

Было гняздо, дык, жывучы і працуючы ў сталіцы, дамоў ездзіў часта. Асабліва любіў летам. Агарод, сенажаць, дровы – мой вясковы клопат.

Скачок любілі мае сябры-таварышы па працы ў раённай газеце «Кіравец». Любілі слухаць расказы маці. Любілі туды ездзіць і мае сябры-кіношнікі. Казалі: «Паедзем да тваёй маці, Валодзя». Думаю, усім ім падабаўся мой бацькоўскі дом духам зычлівасці, прыветнасці і гасціннасці. Там збіралася шмат людзей. І працякоў, як бацькі і суседзі. І знакамітых: рэжысёры, аператары, сцэнарысты. Але усе мы з хат, як сказаў выдатны пісьменнік і цудоўны чалавек Янка Сіпакоў. І я цаніў роднасць сваіх землякоў, па сутнасці, чужых мне людзей. Увогуле і зараз, праз шмат гадоў, адчуваю духоўную роднасць з многімі землякамі. Сіваковы, Белабародавы, Бычковы, Івановы (Міхаіл і Уладзімір), Ступні, Русецкія, Пархамовічы (Хведар і Валодзя), усе Сураўцы, Куляшовы, Рыжкевічы, Юшкевічы, Саламахі (аднаго прозвішча з намі), многія іншыя блізкія мне людзі... (Ужо і я па прыродзе пазнаю іх дзяцей і ўнукаў…)

Скачок будавалі былыя франтавікі. Думаю, што ў гэтых людзей, (вельмі многія ўжо адышлі) была свая жыццёвая філасофія, свая праўда, свой менталітэт. І закон такі: маеш патрэбу ў дапамозе? Дапаможам. І платы за гэта не патрабавалі. Чужая для іх формула: ты – мне, я – табе. Людзі, якія высокіх званняў не мелі, ніколі ні перад кім не прыніжаліся.

Але ж і жорсткімі маглі быць мае землякі! Зычлівыя, спагадлівыя, здаецца, усё ў жыцці разумелі, усё маглі растлумачыць, акрамя аднаго: здрады...

Праводзілі мяне ў войска. Па тым часе гулянка – здаецца, ці не ўсёй вёскай. І трэба ж было аднаму (з чужых), важных увогуле, а тут нікім не заўважанаму, пакрыўдзіцца за гэта, ды ляпнуць франтавікам: «Ды вы ведаеце, кім я быў на вайне?» Насцярожыліся: няўжо самім Жукавым?.. «Ды я быў тайным асведамляльнікам! А вы мяне тут за дранае лыка не лічаце! Ды я і зараз любога з вас магу ў барановы рог скруціць!»

Каго і як скруціць – дык яшчэ паглядзець трэба. А вось «тайны асведамляльнік»… Згрэблі, па-а-валаклі за хлеў свой суд чыніць. Ледзь «адбілі» жанчыны. І мяне тады ўразіла неймаверна: здраднік! Хаця, мабыць, як і многія з нас, пасля здрады нямала пабачыў, – не разумею: як ён мог так? З'яву як такую паспрабаваў асвядоміць у аповесцях «Прывід у скураным крэсле», «Апазнаецца асоба мужчыны», «Перакулены свет». Адчуваю: усядно як след не разабраўся.

Землякі здалёк бачацца мне людзьмі са шчырай святасцю ў сэрцах. Усе. А жылі ў нас, ды і зараз жывуць не толькі беларусы і рускія. Ёсць некалькі ўкраінскіх сем'яў. Польская. Былі нават адна яўрэйская і адна нямецкая. Але не было між людзьмі ніякай розніцы, хто ты па «нацыі». А вось калі з «гнільцой» унутры – выбачай, хто б ні быў.

Шануючы сваё, шанавалі і тваё. Разам і ў радасці, і ў горы. Вось Кірыленкі, нашы суседзі. Украінцы. Вялікі род. Перасяленцы з 30-х гадоў. Ім беларусы тут далі прытулак. Кірыленкі заўсёды дапамагалі маім бацькам, а бацькі – ім. Помню бабулю Полю і дзеда Хвёдара. Бабуля Полька згатуе цэлы эмаліраваны тазік варэнікаў ды – на вуліцу: «Ешце, дзеткі...» Ці дзед Хвёдар: нясе дзятве кош яблыкаў (у нас тады на вуліцы садок толькі ў іх пладаносіў, раней пасаджаны быў). Таксама нам, чужым дзецям. А іх на вуліцы было шмат. У асноўным мае аднагодкі. Таму і гулялі разам. Чамусьці найчасцей на нашым падворку. Калі ў вайну гулялі, дык немцам, а яшчэ горш – здраднікам ніхто не хацеў быць. Сусед Мацей Котаў дапамагаў знайсці выйсце: «Гуляйце ў манеўры. І адны і другія – нашы». Былы кавалерыст, зараз плотнік, ён рабіў нам лялечныя лесавозы і тралёвачныя трактары, каб гулялі ў «лесаўчасткі». Мы вызначалі, хто кім будзе. Хлопцы найчасцей хацелі быць маім бацькам. Яго ролю мне не давалі. Дзе ў каго аварыя – бацька едзе на лінію. Хто напіўся – бацька разбіраецца... Наогул, «адыгрывалася» тады намі роля бацькі кожнага з маіх сяброў – Стралкова, Котава, Якубовіча, Боева, Зорына, Здобніка, Краўчанкі, Савіна, Белягова (былых франтавікоў і партызанаў, а тады – прыметных лесаўчасткаўцаў). Аказваецца, кожны з іх шмат чаговарты быў.

Як разумею, гульня гульнёю, а бацькава роля на лесаўчастку і начальніка аўтакалоны, і начальніка лесавозных дарог, і загадчыка га-

ража была прыкметная. «Строгі быў, але ж справядлівы. Калі хто вінаваты, усыпе дык усыпе, а зла чалавеку не зробіць, – расказваў мне былы шафёр Хвёдар Пархамовіч. – Выцягне каго п'янага за каршэнь з кабіны – у 60-я ўжо строга з гарэлкай было – ды далей ад чужых вачэй. Потым, як праспіцца які «герой», скажа: «Дзяцей пасіраціць хочаш? Глядзі ў мяне!..»

І такое расказвалі... У адной камандзіроўцы «пракраліся» з маладзейшых: «загналі» лесавоз хлыстоў. Суд. Адзін кажа, маўляў, Саламаха падбіў на такое, давайце і яго сюды! А другі, Савелій А. (я гэтага добра памятаю: цяжкі характарам), пачуўшы такое, ажно ўзвіўся на лаве падсудных: «А вось Саламаху не чапай! Век чужога і дзяржаўнага не возьме. Не помсці за тое, што п'янага цябе не раз ратаваў. Красці ён – баязлівец».

Вось да гэтага «баязліўца» зімой і летам, у любое надвор'е часта ноччу стукаліся шафёры ў шыбу: «Максімавіч!..» А ён: «У чым справа?» Ды адразу тварам да шыбы. А справа ў тым, што бяда ў некага.

Маці засцерагала: «Глядзі, колькі разоў у цябе пастрэльвалі, а ты адразу да шыбы». Папярэджваў пра гэта і сусед дзядзя Ваня Кірыленка: «Нэ смелься, набрыдзь е… А ў тэбэ, Пятро, дыты. І Зоя хварае...»

Сястра хварэла і пасля вайны. Бацькі нідзе ёй не маглі знайсці рады… Жыццё ёсць жыццё: адышлі бабуля Полька і дзед Хвёдар, іх дачка, маці майго аднакласніка Васі Чубацюка, цёця Каця... Прыходзіць неяк да нас дзядзя Ваня ды маці кажа: «Люба, як ты глядзіш, калі я (ён электразваршчык выдатны быў) зраблю адну агароджу на нас, Кірыленкаў, і на Зою вашу, на цябе з Пятром?» Аказваецца, падлічыў сусед: усім месца хопіць. «Тое і скажу – рабі». І ляжаць зараз на могілках у Скачку пад адной агароджай украінцы Кірыленкі (ужо і дзядзя Ваня), і мая сястра з бацькамі – беларусы.

Так, меў рацыю Леанід Дайнека, калі казаў нам, маладзейшым: і пра гэта пісаць трэба. І пішу, сябры-суседзі, украінцы і беларусы, у зямным жыцці разам, і ў тым... А людзі ж, здавалася б, – чужыя.

Часта думаю над гэтым: чужыя людзі. І таксама думаю, што іншы раз жыццёвая сітуацыя зусім розных людзей можа зблізіць ды многае «перавярнуць», перайначыць у тваёй свядомасці... Вось аднойчы пайшлі мы з маці ў маліны. А там мяне гадзюка – джыг! Крыку са страху (не ад болю) нарабіў – на ўвесь лес: бачыў, як асядала, джыгнуўшы...

Маці таксама – галосіць: што ж рабіць? А тут выходзіць з кустоў нейкая бабулька. Ранку агледзела, дастае свой хлеб, пашаптала на яго, потым: «Еш!» Ем. Горкі вельмі. Тады падае старая фляжку: «Пі!» А маці праз плач: «Цётачка, няможна! Мы – паганцы. А ты – я

ведаю, стараверка з Негаўлі (вёска каля Бераснёўкі)». Што тады для нас азначала: стараверка? Ды тое, што яе вера забараняе піць з намі з аднаго: розныя мы.

У гарачцы не падумала маці, што можна было «лодачку» з рукі скласці ды з фляжкі па ёй ваду мне ў рот (посуд у нас быў самаробны, з ліпавай кары). А старая: «Нічога, няма такой веры, якая б дапамагчы чалавеку забараняла».

Выратавала мяне старая: вечарам гуляць пабег.

Вырас. Памятаю і зараз: «Няма такой веры, якая б дапамагчы чалавеку забараняла». У «Перакуленым свеце», дзе характары, многія падзеі з жыцця маіх землякоў «спісаны», і гэтую народную мудрасць паспрабаваў асэнсаваць, праз пастуха-старавера (рускага) Яўцеху. У жыцці ён – дзядуля Фока Сідараў з якім не раз кароў пасвіў і з якім з аднае хустачкі палуднавалі, але пілі кожны са свае конаўкі. І ні ён, ні я не крыўдзіліся: я паважаў яго, старавера, ён – мяне, «паганца», звычайнага праваслаўнага, «атэіста і бязбожніка», як вучыла школа. Можа, таму я і інтэрнацыяналіст, што ўсё гэта было ў маёй біяграфіі. Можа, таму «нацыянальная палітыка» мая такая – усе людзі роўныя.

...Вось так, як і ўсе мае равеснікі, нібы непрыкметна вырас, у вялікі свет людзей пайшоў.

У раёнцы працаваў два гады. Потым – войска. Затым – універсітэт, факультэт журналістыкі. На курсе вучыліся літаратары Уладзіслаў Рубанаў, Вячаслаў Лапцік, Валянціна Гіруць, Таццяна Красікава. У. Рубанаў, які дачасна пайшоў з жыцця, думаю, мог бы як мастак заняць асобнае месца ў нашай літаратуры: незвычайна дакладна адчуваў слова, сапраўды вялікі пісьменніцкі талент меў.

Што ведаю ў жыцці? Здаецца, многа і… нічога. Памятаю з юнацтва «формулу» чалавечага жыцця, адкрытую праз аднаго са сваіх герояў нашым геніяльным пісьменнікам Міхасём Лявонавічам Стральцовым: «...няма іншай мудрасці для нас, чалавекаў, акрамя той, што трэба быць па-чалавечы добрым і мужным, – у часы бурнаплыннай маладосці і на марудлівым сконе дзён...»

Але, мабыць, як і многія з нас, таксама не ведаю, як ЗАЎСЁДЫ быць добрым і мужным.

Маладосць прайшла. Мінаецца сталасць. А астатняе – як лёс...

*Кастрычнік 2008 года*



***Салтук***
***Алег Уладзіміравіч***

## ЯК ШМАТ МНЕ ХОЧАЦЦА СКАЗАЦЬ…

Гэты радок – пачатак аднаго з маіх вершаў. А за шмат-кроп'ем – дарога даўжынёй у шэсцьдзесят два гады, якая пачыналася там, дзе плывуць самыя прыгожыя аблокі, дзе жылі і жывуць самыя дарагія і спагадлівыя людзі, дзе помніцца усё да самай маленькай пясчынкі, куды хочацца вяртацца яшчэ і яшчэ і ў хвіліны самай вялікай радасці, і ў хвіліны адчаю, каб нязмушана і шчыра пацiснуць рукі землякоў, паглядзець на някідкія, шчымлівыя да болю краявіды, пахадзіць па таямнічых сцежках дзяцінства, набрацца моцы і жыць далей.

А нарадзіўся я ў самую любімую для мяне, як потым аказалася, пару – 25 жніўня 1946 года ў невялічкай вёсачцы Рыжэнькі Шумілінскага раёна Віцебскай вобласці. Пасляваеннае маленства было скупым нават на ежу, не кажучы ўжо пра нейкія ласункі, але багатым на забаўкі, востры зрок і памяць, светлае адчуванне і ўспрыманне таго, што акружала і давала веру ў бясконцасць жыцця.

І як было канчацца яму, калі побач жылі маладыя яшчэ мама і тата, родная цётка Кастуся, з якімі хадзіў па навакольных лясах, гаях і пералесках у пошуках баравікоў, чарніц, малін, брусніц і журавін ў вольныя для дарослых гадзіны!

Сёння іх няма – зямля пухам, царства нябеснае бацькам, цёткам, дзядзькам, усім добрым людзям, якіх ведаў, сярод якіх жыў і ў якіх вучыўся ўсяму добраму і светламу. Асабліва бацькам – гаротным дзецям нястачы, холаду і голаду, патомным сялянам, перажыўшым страшную вайну – маці ў вёсцы, бацька – у партызанскай блакадзе на Ушаччыне, дзе ён нарадзіўся, і на фронце. Менавіта пасля цяжкога франтавога ранення і шпіталю ён прыехаў да знаёмцаў на ШумілІншчыну, дзе пазнаёміўся з мамай і пабраўся з ёй шлюбам.

Гэта праўда, што чалавека цягне туды, дзе нарадзіўся, да сваіх каранёў. Пацягнула і бацьку: задумаў пераехаць у 1963 годзе ў сваю радзінную вёску Якаўкі на тую ж Ушаччыну. Вось таму блізка-блізенька і суседнічаюць у маіх вершах гэтыя непаўторна маляўнічыя куткі – дзве маленькія мае радзімы, дзве крывінкі найроднай да скону Беларусі.

Школа ж мая пачыналася ў лясах, палях, на нівах і сенажацях разам з аднавяскоўцамі. Там я ўпершыню ўбачыў пот на іхніх тварах, мазалі на руках, навучыўся трымаць граблі, вілы, сякеру і плуг. А галоўнае – увабраў дабрыню, сумленнасць і непасрэднасць землякоў.

З кнігай пазнаёміўся крыху незвычайна яшчэ да пачатку школы наступным чынам. Тады яшчэ калі-нікалі пускаліся ў свой гандлёвы шлях незвычайныя карабейнікі: у ліку іншых іх тавараў былі і кніжкі. Напэўна адзін дзядзька прыснуў ці глыбока задумаўся і згубіў на павароце некалькі выданняў. Бацька знайшоў і прынёс кніжку ў хату. Божа, як пасвятлела ў ёй, калі я разгарнуў адну – байкі Крылова з каляровымі сцэнкамі з жыцця герояў, з таямнічымі значкамі-літарамі. Чытаць навучыўся хутка. А праз некаторы час на цёткіным гарышчы адшукаў драўляны куфэрак стрыечнага брата, паехаўшага вучыцца, і мне ў душу глянулі Колас з Багдановічам.

Потым была пачатковая Далуеўская школа, першыя настаўнікі. Адзін з іх Лявон Сцяпанавіч Скобаў, здавалася, ведаў усё.

Мішкавіцкую сярэднюю школу скончыў у 1963 годзе. Усіх яе настаўнікаў помню ў твар. Любімымі былі Юлія Мікалаеўна Какорка – настаўніца хіміі, гісторык і дырэктар школы Аляксандр Мікалаевіч Шмаўганец, настаўнік нямецкай мовы Вячаслаў Адамавіч Жаўрыд, настаўніца рускай мовы і літаратуры і беларускай таксама Надзея Мікалаеўна Курганава, якая ў многім прадвызначыла мой далейшы шлях, параіўшы паступіць вучыцца на філалагічны факультэт Магілёўскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя Аркадзя Куля-

шова. Паступіў. Тут у факультэтскай газеце «Голас філолага» быў надрукаваны мой першы верш, дзякуючы дарадцу майму ў паэзіі, старшакурсніку Міколу Коўзелеву, на вялікі жаль, нябожчыку – загінуў у самым росквіце сіл і творчых здольнасцей – пісаў і друкаваў таленавітыя апавяданні.

Былі пад час вучобы літаратурныя пасядзелкі, спрэчкі ў літгуртку пад патранажам выкладчыка рускай літаратуры ўсяіснага, няўрымслівага Яна Ісаевіча Маленковіча, сябра і сяброўкі. І была ў Магілёве найважнейшая для мяне сустрэча з цудоўным чалавекам, вялікім паэтам Аляксеем Васільевічам Пысіным, які працаваў тады ў «Магілёўскай праўдзе». Менавіта з яго лёгкай рукі я пайшоў у паэзію, бо незабыўны мой чалавек адабраў для друку і надрукаваў у сваёй газеце першую нізку маіх вершаў з фотаздымкамі. І не толькі публікацыя запомнімася – усе вершы франтавіка амаль ведаю на памяць: столькі ў іх мудрасці, глыбіні, дабрыні, пяшчоты, душы і сэрца!

У тыя ж гады – першы верш у «Чырвонай змене», падборка вершаў у «Маладосці» – усё было першым і непаўторным.

Пасля заканчэння інстытута адну першую чвэрць працаваў у Даўгапольскай школе-інтэрнаце Гарадокскага раёна – прызвалі ў войска. Служба ракетніка дапамагла стаць мужчынам і афіцэрам.

Адразу пасля арміі ўладкаваўся ва ўшацкую раённую газету «Патрыёт». Працаваў літрабам, адказным сакратаром. Журналісцкай справе вучыўся ў загадчыка сельскагаспадарчага аддзела Уладзіміра Арсенавіча Нервянёнка і ў рэдактара Вадзіма Антонавіча Грынкевіча, кіраваў мясцовым літаратурным аб’яднаннем.

За чатыры гады працы тут пазнаёміўся з многім і многімі. Незабыўнай стала сустрэча прама ў рэдакцыйным кабінеце з Рыгорам Барадуліным, матчына хатка якога амаль суседнічала з рэдакцыйным памяшканнем і творчасцю якога захапляўся даўно, – маэстра, віртуоз, словатворца, добраахвотны яго раб, паэт ад нябёсаў! Рыгор Іванавіч дапамог мне падрыхтаваць да друку першую кніжку, выйшла ў «Мастацкай літаратуры» у 1974 годзе, потым рэдагаваў некаторыя наступныя кнігі. Хочацца пажадаць сёняшнім пачынаючым і маладым літаратарам мець такіх настаўнікаў, якія былі ў мяне.

А за пяць гадоў працы ўласным карэспандэнтам абласной газеты «Віцебскі рабочы» у 1974-1979 гадах удоль і ўпоперак аб’ездзіў заходнія раёны вобласці – Глыбоцкі, Докшыцкі, Шаркоўшчынскі. Там нарадзіліся мае двайняты – сын Ігар і дачка Ілона, там напісаў другую кніжку вершаў, адтуль ездзіў у Мінск, дзе ў 1977 годзе быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў Беларусі, і ў Маскву, дзе ў 1979 годзе ўдзельнічаў у VII Усесаюзнай нарадзе маладых пісьменнікаў, пасля якой у ліку іншых стаў сааўтарам кніжкі вершаў «Молодые поэты

Белоруссии», выдадзенай у тым жа годзе. На рускую мову ўпершыню мае вершы пераклаў Іван Бурсаў – шчыры паклон яму.

Значнай падзеяй не толькі ў маім жыцці, але і ў жыцці вобласці, лічу стварэнне ў 1980 годзе абласной пісьменніцкай арганізацыі, калі і быў абраны сакратаром аддзялення. На гэтым немалым адрэзку свайго жыцця спынюся падрабязней.

Напачатку ў аддзяленні было недзе каля васьмі чалавек. Час ішоў, у паэзію і прозу ішлі новыя творцы. Аддзяленне стала паўнавартасным як у колькасным, так і ў якасным складзе. Дастаткова пералічыць імёны празаікаў – Леанід Калодзежны, Адольф Варановіч, Мікола Воранаў, Марыя Філіповіч – аршанская школа, Міхась Барэйшак, Уладзімір Саўліч, Герман Кірылаў, Уладзімір Міхно; паэты – Уладзімір Папковіч, Анатоль Канапелька, Марыя Баравік, Алесь Жыгуноў, Пятро Ламан, Вольга Русілка.

Цікава жылі і працавалі мы тады, яшчэ маладыя, здаровыя і шчаслівыя, поўныя светлых мар і памкненняў, творчых задум. Прыемна і сёння ўспамінаць паездкі ў Зялёную Гуру, з літаратарамі якой падтрымлівалі цесныя творчыя і сяброўскія кантакты, перакладалі адзін аднаго. Амаль роднаснымі былі сувязі з літаратарамі Смаленска і Пскова: двухбаковыя сустрэчы, пераклады для літаратурных старонак у «Віцебскім рабочым», для альманаха «Братэрства». Амаль штогод праводзіліся семінары творчай моладзі, абласныя і рэспубліканскія святы паэзіі. І дзе ж ім было адбыцца, калі не на Віцебшчыне – радзіме народных – Міхася Лынькова, Петруся Броўкі, Васіля Быкава, Рыгора Барадуліна, Пімена Панчанкі. А Уладзімір Караткевіч, Еўдакія Лось, Сяргей Законнікаў, Юрась Свірка, Генадзь Бураўкін, Янка Сіпакоў, Алесь Петрашкевіч, Анатоль Вярцінскі… Адных ужо няма, другія – далёка. Тут узышлі і свецяць зоркі нашай заступніцы і ахоўніцы Еўфрасінні Полацкай, славянскага першадрукара Францішка Скарыны, асветніка Васіля Цяпінскага. На кладах у вёсцы Глыбачка Ушацкага раёна знайшоў свой апошні прытулак адзін з першых беларускіх паэтаў Фелікс Тапчэўскі.

Працягваючы пералік зробленага, прыгадаю яшчэ газету аддзялення «Зарніцы», што выходзіла фарматам і памерам раёнкі ў «Віцебскім рабочым», не кажучы пра поўнавартасныя літстаронкі ў ёй, за што мы, літаратары, былі вельмі ўдзячныя тадышнім галоўным рэдактарам «ВР» Мікалаю Дарафеенку і Уладзіміру Скапе. З горыччу і крыўдай зазначу, што сёння ў нашай абласной газеце літстаронкі, ды і не толькі яны, змізарнелі. І што самае балючае – з дапамогай надгазетных чыноўнікаў з дзевяностагадовай газеты ўцякла беларуская мова.

У гады майго сакратарства мы аднавілі пасля доўгага трыццаціпяцігадовага перапынку выпуск свайго альманаха «Дзвіна»

(Віцебшчына літаратурная). Ён выйшаў у 1992 годзе ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» у цвёрдай вокладцы на 336 старонках і аб'яднаў каля сямідзесяці пачынаючых, маладых і сталых пісьменнікаў, пішучых у розных жанрах.

Знамянальнай падзеяй стала для ўсіх літаратараў вобласці ўстанаўленне ў лістападзе 1990 года літаратурнай прэміі імя Караткевіча да 60-годдзя з дня яго нараджэння. Ганаруся, што наша суполка зрабіла для гэтага калі не ўсё, то вельмі многае, бо толькі дзякуючы нашаму хадайніцтву адбылося тое, што магло і не адбыцца.

Цікавымі, насычанымі сталі ў той час паездкі ў калгас імя Сільніцкага Полацкага раёна, над якім аддзяленне ўзяло, так бы мовіць, культурнае шэфства і які ўзначальваў улюбёны ў беларускую песню – спяваў у калгасным хоры – старшыня, Герой Сацыялістычнай Працы Яўген Іванавіч Кімстач. Куды гэта ўсё падзелася сёння і ці адновіцца некалі, адказаць складана.

Ды жыццё працягваецца. Да выхаду на пенсію працаваў рэдактарам аддзела нацыянальнага адраджэння таго ж «Віцебскага рабочага», вёў літаратурную старонку, раздзел крытыкі ці хутчэй бібліяграфіі, знаёмячы нашых чытачоў з беларускімі літаратурнымі навінкамі, кансультаваў пачынаючых, аглядаў кніжкі паэзіі і прозы землякоў.

Узнагароджаны медалямі. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Уладзіміра Караткевіча. Дужа ганаруся, што мне прысудзілі яе першаму. Лаўрэат Прэміі федэрацыі прафсаюзаў Беларусі. Журналісцкая праца адназначана дыпломам Беларускага саюза журналістаў «Залатое пяро». Заслужаны член Саюза пісьменнікаў Беларусі, ганаровы грамадзянін г. п. Шуміліна.

Мой літаратурны і жыццёвы лёс склаўся, як бачна, ніштавата: дзесятак зборнікаў вершаў і паэм, тысячы журналісцкіх артыкулаў грэюць мяне і сёння.

Цяжкая літаратурная ноша. Крыж слова нельга скінуць у адначассе. Калі ты яго ўзваліў на сябе, то нясі да апошняга дыхання і кажы дзякуй Богу, што нясеш.

*19 лістапада 2008 года*



***Семашкевіч***
***Рыгор Міхайлавіч***

## АЎТАБІЯГРАФІЯ

Люблю пакланенні вячэрнім агням на лузе.
Касцёр гарыць. З агнём размаўляю.

1

Нарадзіўся ў сорак пятым. Беларус.
Ахрысціла вайна. Гадавала маці.
Жыве вайна. Жыве і маці.
Вайны не бачыў.
А чуў, што туляецца па завуголлях.
Дома куплялі соль на запас і сухары
сушылі.
Дарма куплялі, сушылі,
Бо калі б пачалася трэцяя драма
стагоддзя,
То праз многа гадоў госці з далёкіх
планет

Знайшлі б на знямелай Зямлі
на 120-м кіламетры ля аўтастрады
Мінск – Вільня
ўсю правізію гэту цэлай і некранутай.
Запісалі б так:
«Тут жылі гаспадарлівыя тубыльцы…»
Што гаспадарлівыя, то праўда,
Хату збудуюць – звініць, як шклянка.
Жыта жнуць – у сярпе заначуюць.

2

Хацеў усё знаць. Настаўніку безліч
пытанняў:
«Чаму павесілі тых паўстанцаў?»,
«Чаму хаваліся людзі ў лесе?»
Стаў студэнтам, хадзіў хоць калі
на лекцыі,
Слухаў такое: «У цэнтры творчасці
класіка эн,
У яго геніяльных паэмах і вершах
стаіць мужык».
Пяць год у цэнтры стаяў і стаяў
той мужык.
Хоць бы прысеў ці прылёг.
Даўно ўжо знаю,
за што павесілі тых
паўстанцаў.
Мне ад таго не стала лягчэй.

3

Найбольш сябрую з дзецьмі і дрэвамі.
Убачу вярбу, і прыпомніцца свіст.
З галінак вярбы спускалі свісткі
кожнай вясной.
Адсвісталі.
Бярозы падобны на тых дзяўчат,
Якіх я кахаў.
Некалі ж уцякалі, а цяпер стаяць ля дарог.
Асіна – другое. Бабуля казала:
«Заваліла б я долю сваю асінай горкай».

Долю, відаць, завальваюць горкай асінай,
А што крыжам дубовым, то гэта дакладна.
А дзеці ўлезуць заўсёды
Ў гліну, пясок і сонца.
Ніяк не адмыеш.

4

Добрыя людзі вучылі:
«Не плач ніколі на ветры – застудзішся».
Стараўся не плакаць на ветры і на марозе,
Нідзе не плакаць,
Але прызнаюся: праз гэта ў сэрцы
Некалі знойдуць не золата, не серабро,
А цяжкі камень.
Толькі якое шчасце – змайструем плыт
і плывём па Віліі.
А плыт калыша. Ляжы і слухай
Дыханне ракі і дыханне друга.

5

Гэта даўно напісана
Канькамі – на лёдзе,
Вяслом – на хвалях,
Бліскавіцамі па хмарынах.
Ды аўтабіяграфія – не рэклама.
Лёд растае, сплываюць хмарыны і хвалі.
Вось і вогнішча дагарае,
Трэба падкінуць голля…

*1965 год*



## ***Сліва***
***Міхась Мітрафанавіч***

# ЯК Я СТАЎ МІХАСЁМ СЛІВАЙ

Было гэта трыццаць сем гадоў таму. Мяне, тады студэнта чацвёртага курса Беларускага дзяржаўнага універсітэта, мой сябар-аднакурснік Міхась Кузьміч прывёў у рэдакцыю часопіса «Вожык» і пазнаёміў са Змітраком Бяспалым і Уладзімірам Правасудам, у той час ужо вядомымі гумарыстамі-сатырыкамі. Было крыху страшнавата і адначасова прыемна гутарыць з такімі людзьмі. Змітро Аляксандравіч даў некалькі пісьмаў для апрацоўкі ў стылі «Вожыка». На маё шчасце, у мяне атрымалася: сатырычныя заметкі, якія я падрыхтаваў, прынялі да друку. Ад радасці я папрасіў яшчэ пісьмаў. Да майго літаратурнага «выхавання» падключыўся і Валянцін Зуб, які тады загадваў аддзелам фельетонаў. Побач з гэтым сур'ёзным настаўнікам, інтэлігентным чалавекам я, пачатковец у літаратурна-журналісцкай працы, пачуваў сябе вельмі добра, спакойна.

І зараз яшчэ памятаю, з якой радасцю заходзіў у Дом друку, у рэдакцыю «Вожыка». Заўсёды тут можна было пабачыць вядомых пісьменнікаў, шмат іншых цікавых людзей. Успамінаюцца

«вожыкаўцы» розных гадоў – Уладзімір Корбан, Янка Сіпакоў, Іван Грамовіч, Яраслаў Пархута, Міхась Пянкрат, Васіль Найдзін, Васіль Маеўскі, Іван Стадольнік, Пятро Сушко, Валянцін Блакіт, Нэля Тулупава, Валянцін Жвалеўскі, Міхась Пазнякоў, Алесь Пісьмянкоў, Уладзімір Саламаха і іншыя, хто дапамагаў аўтарам словам і справай. Была добразычлівая абстаноўка. Чуліся выбухі смеху, а ў гэтым хоры вылучаўся бадзёры голас Уладзіміра Правасуда, які заўсёды радаваў субяседнікаў свежымі анекдотамі.

І вось у далёкім 1972 годзе мне прапанавалі прыдумаць сабе псеўданім, бо часта ў адным нумары змяшчалася некалькі маіх сатырычных заметак або гумарыстычных замалёвак. Адразу я прапанаваў «М. Кавальскі», але ён не прыжыўся. А калі быў дома, у бацькоў, пайшоў у сад. Погляд мой спыніўся на вялізнай спелай сліве. І тут жа мільганула думка: а што, калі – Сліва?.. На Украіне ж ёсць Астап Вішня (у той час яго творы ў перакладзе на беларускую мову часта друкаваліся ў «Вожыку», а ў маладыя гады хочацца на каго-небудзь са знакамітых быць хоць чым падобным), хай будзе ў Беларусі свой «плод» – Сліва! На смак яна бывае і кіславатая, і саладкаватая, вось табе сатыра і гумар. І прапанаваў псеўданім рэдакцыі. Там пасмяяліся і адобрылі. Такім чынам, пайшоў «у людзі» псеўданім Міхась Сліва.

А ўвогуле мая творчая дзейнасць пачалася ў 1966 годзе публікацыяй гумарыстычных мініяцюр у часопісе «Вожык». Пісаць жа прозу стаў яшчэ ў шостым класе. У той час у сваёй роднай вёсцы Каменка Рагачоўскага раёна, дзе я нарадзіўся 31 ліпеня 1950 года, мы з сябрамі выпускалі рукапісныя газеты «Вясковыя навінкі» і «Заря».

Бацькі жылі ў вёсцы, працавалі ў мясцовай гаспадарцы. Бацька – Мітрафан Фёдаравіч – любіў чытаць казкі ўслых, а ў маці – Марыі Сідараўны – была вобразная, сакавітая мова, з выкарыстаннем народных прыказак, прымавак, выслоўяў. Чытаць і пісаць я навучыўся яшчэ да школы, ведаў і табліцу множання – вельмі ж хацелася вучыцца!

Пасля Гарадзецкай дзесяцігодкі паступіў у Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна на філалагічны факультэт па спецыяльнасці беларуская і руская мова і літаратура. Закончыў яго ў 1973 годзе і стаў працаваць літсупрацоўнікам сельгасаддзела Быхаўскай раённай газеты «Маяк Прыдняпроўя». І там пачаў выкарыстоўваць свой псеўданім, і ў іншых газетах і часопісах друкаваліся мае мініяцюры, гумарэскі, апавяданні.

З 1975 па 1985 год я працаваў у Беларускім навукова-даследчым інстытуце жывёлагадоўлі (г. Жодзіна) на пасадзе галоўнага рэдактара рэдакцыйна-выдавецкай групы. Рэдагаваў навуковыя матэрыялы, займаўся выдавецкай дзейнасцю. Адначасова як журналіст супрацоўнічаў з газетамі «Сельская газета», «Ленінскі заклік» (ця-

пер «Край Смалявіцкі») і іншых. І пісаў гумарыстычныя творы, якія друкаваліся ў часопісах «Вожык», «Сельское хозяйство Белоруссии», газетах «Літаратура і мастацтва», «Мінская праўда», пазней – у газетах «Звязда», «Чырвоная змена», часопісе «Першацвет» і іншых. Займаўся і перакладамі з чэшскай і ўкраінскай моў, творы таксама друкаваліся ў газетах і часопісах.

З 1986 года – інструктар, затым галоўны спецыяліст аддзела арганізацыйна-кадравай работы Рагачоўскага райвыканкама, з 1999 года – рэдактар аддзела сельскага жыцця Рагачоўскай раённай газеты «Свабоднае слова».

У 1983 годзе ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшаў «Слоўнік беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў (XVI–XX стст.)», у які ўключаны і М. Сліва. А ў 1984 годзе М. Сліва трапіў у кнігу «Жарты, анекдоты, гумарэскі» (Мінск, «Навука і тэхніка»), у 1987 годзе – у кнігу апавяданняў, пародый і афарызмаў «Кубік Рубіка», якая выйшла ў выдавецтве «Мастацкая літаратура».

Былі гады, ураджайныя на публікацыі М. Слівы ў «Вожыку». Прынамсі, стаў лаўрэатам прэміі імя Ведзьмака Лысагорскага за 1988 год у жанры мініяцюры. Часта друкаваліся пад псеўданімам «М. Сліва» мае невялікія фельетоны і памфлеты пад рубрыкай «У джунглях капіталістычнага раю».

Міхась Сліва быў і дыпламантам першага і другога Усебеларускіх фестываляў народнага гумару ў Аўцюках.

Выйшлі з друку пяць кніжак гумару: «Усмешка Джаконды», «Прыгожыя караблі», «Запрашаю ўсміхнуцца», «Ход канём», «Сустрэліся кум з кумой», кніга літаратуразнаўчых артыкулаў і рэцэнзій «Найвышэйшае і светлае», раман «Дочь за отца» (на рускай мове, у сааўтарстве з Я. Якаўцавым). Творы друкаваліся таксама ў шматлікіх зборніках, альманахах, часопісах і газетах Беларусі, Расіі, Украіны і Польшчы. Дзве казкі змешчаны ў кнізе «Вежа міру» (Мінск, «Мастацкая літаратура», 2007).

Пішу апавяданні, казкі, гумарэскі, мініяцюры, літаратурна-крытычныя артыкулы і рэцэнзіі на беларускай (у асноўным) і рускай мовах, перакладаю з украінскай і чэшскай моў, публіцыст.

Член Саюза пісьменнікаў Беларусі і Беларускага саюза журналістаў. Няштатны карэспандэнт часопіса «Вожык», грамадскі карэспандэнт газеты «Белорусская нива», супрацоўнік прэс-цэнтра Упраўлення ўнутраных спраў Гомельскага аблвыканкама. Значную ўвагу ўдзяляю рабоце з літаратарамі Рагачоўшчыны – самадзейнымі паэтамі і празаікамі, а таксама пачынаючымі аўтарамі.

*20 лістапада 2008 года*



***Ткачоў***
***Васіль Юр'евіч***

## МОЙ РАЙ ЗЯМНЫ

...Царква, гарыць лампадка, святар дае нешта дужа смачнае ў пазалочанай лыжачцы... Я п'ю да канца з вялікай асалодай. Гэта ці не сон? Пазней, калі трохі падрос, мама казала: не, то быў не сон. Хрысцілі. Амаль у пяць год. І вядома ж, падпольна. Бацькі – настаўнікі: нельга, яны павінны быць атэістамі.

І, канешне ж, яны былі імі...

Калі падрос, я часта хадзіў з Гуты (а нарадзіўся я ў гэтай вёсцы, што на роднай мне Рагачоўшчыне, 1 студзеня 1948 года) у Старыя Журавічы і назад паўз тую цэркаўку. Яна нагадвала мне чамусьці хатку на курынай ножцы. Пазней яе разбурылі. А свечка, якую там запаліў для мяне святар, гарыць і сёння. Я берагу яе агонь. Бо гэта – мая свечка. І ніхто іншы, акрамя цябе самога, не ўратуе яе крохкае цяпельца.

Хата, дзе я нарадзіўся, і сёння стаіць у Гуце. Калі пісаў апавяданне «Пад горадам Горкім» – гэта пра яе, пра сваю хату, пра людзей, што некалі жылі пад саламяным, а пазней шыферным дахам.

Вёска памерла, хата – жыве... Дзед Якаў Тарасаў і баба Пелагея спяць побач на пагосце. Жывучы ў іх, а дакладней сказаць – з імі, я тры гады хадзіў на пасёлак Ільіч за два з паловай кіламетры ў тамашнюю сярэднюю школу. Васьмігодку я скончыў у Іскані, гэтая вёска побач з Гутай, мяжуюць, аднак ужо другі раён, Быхаўскі, і вобласць, такім чынам, Магілёўская. Калі падрос і з'явіўся селькораўскі сверб, я хутка зразумеў, што пра адных людзей трэба пісаць у рагачоўскую райгазету «Камунар» (навошта памянялі назву ў час перабудовы, і сам не зразумею?), пра другіх – у быхаўскую «Маяк Прыдняпроўя», так і ў абласныя. Таму ў той час сустрэўся ў рэдакцыі газеты «Магілёўская праўда» з вядомым паэтам Аляксеем Васільевічам Пысіным, які на сваім зборніку «Мае мерыдыяны» напісаў для мяне першы ў жыцці аўтограф.

Другі ж аўтограф атрымаў я ад гомельскага празаіка Міхася Пятровіча Даніленкі. Апошняму даслаў апавяданне «У завіруху...», напісаў яго, прызнаюся, пад уражаннем кнігі Алеся Савіцкага «Белы гарлачык». Як цяпер помню цёплае і акуратнае пісьмо ад Міхася Пятровіча з вернутым апавяданнем, якое было густа папраўлена прыгожымі, акуратнымі слоўцамі. Я доўга яго бярог, тое апавяданне, як узор. Напішу што-небудзь – пагляджу, ці так... ці спадабалася б пісьменніку?

Пазней, калі пасля заканчэння ў 1973 г. факультэта журналістыкі Львоўскага вышэйшага ваенна-палітычнага вучылішча лёс закіне мяне ў Ашхабад, я буду рэгулярна перапісвацца з М. Даніленкам, а пераеду ў Гомель – мець магчымасць з ім сустракацца, а калі спатрэбіцца – перамаўляцца па тэлефоне. І, дзякаваць Богу, такая магчымасць ёсць у нас і сёння.

У Міхася Пятровіча маецца цікавая звычка: кожнае апавяданне, надрукаванае мною ў тыднёвіку «Літаратура і мастацтва», акуратна выража, выкажа ў кароткай нататцы пра яго сваю думку і абавязкова дашле, хаця ведае, што газету я і сам маю.

Вяртаючыся да першых крокаў у «пісьменнікі», прызнаюся, што з замеценай снегам Гуты пасылаў пісьмы не толькі М. Даніленку, пісаў колькі разоў Алесю Якімовічу, Алесю Пальчэўскаму, Генадзю Бураўкіну і... Анатолю Бутэвічу. Апошні тады сам быў вучнем Сноўскай СШ Нясвіжскага раёна, маім, вядома ж, равеснікам. Іншы раз мы згадваем з ім той час.

Шмат дапамог мне Мікола Чарняўскі, добрай душы чалавек. Вельмі шмат. Перад ім я ў вялікім даўгу. Ён стаў для мяне як бы старэйшым братам. Друкаваў мяне нярэдка ў «Бярозцы», дзе на той час працаваў, падрыхтаваў і здаў у выдавецтва «Мастацкая літаратура» маю першую кнігу апавяданняў «Хітры Данік», а тады, калі яна пабачыла свет, даслаў мне ў Туркменію 15 асобнікаў. Што да-

тычыць А. Пальчэўскага, то пасля здачы ўступных экзаменаў у БДУ імя Леніна я забег у «Вясёлку», дзе ўжо быў, як мне здавалася, сваім чалавекам – друкаваўся, нешта было падрыхтавана да друку, – і сказаў Алесю Восіпавічу, што, відаць, не дабраў балаў (тройка па замежнай), хоць сачыненне і напісаў на пяцёрку. На што ён паківаў белай, як мяккі снег, галавой:

– Эх, хлопча Васіль! Табе варта было б зайсці не пасля экзаменаў, а перад тым...

У цесным пакойчыку на Карла Маркса сядзелі таксама Васіль Вітка і Сяргей Грахоўскі. Яны сказалі тое ж самае. І я тады падумаў, што ўсе пісьменнікі вельмі добрыя людзі. Гэта пазней пераканаюся, што ёсць сярод іх і нявартыя добрага слова.

Пазней, калі я рабіў першыя крокі ў драматургіі, падтрымаў мяне Алесь Петрашкевіч. Шмат чаму навучыўся я і ў Міхася Герчыка, які рэдагаваў маю кнігу публіцыстыкі «Пахвалі пражыты дзень». Пасля працы з ім я, здаецца, пачаў пісаць крышачку інакш. І больш смела таксама. Калі ж «пайшла» ў мяне дарослая проза, то ў многім дзякуючы вядомаму празаіку Івану Пташнікаву, ён ухвальна ставіўся да маёй прозы, даваў ёй зялёнае святло ў часопісе «Полымя». Там я надрукаваў нават дзве п’есы – «Блакада ў Кругліцы» і «Стары і дарога». Пазней адчуў такую ж падтрымку ад пісьменніка Барыса Пятровіча. Удзячны я і Міхасю Пазнякову, які заўважыў маю прозу і публіцыстыку, ухваліў яе і пачаў перакладаць на рускую мову. Але я крыху забег наперад.

Пасля школы я адразу падаўся ў «раёншчыкі». Мне вельмі хацелася стаць сапраўдным карэспандэнтам, і мяне ўзялі. За няпоўны год у кармянскай «Зары над Сожам» вырас да загадчыка аддзела пісьмаў і масавай работы. Друкаваў допісы ў абласной і рэспубліканскіх газетах. Вось у той час і паступаў на журфак універсітэта на завочнае аддзяленне. «Асадзі назад!» А там пара і ў армію. Служыў у Расіі, дзе скончыў вучэбнае падраздзяленне і атрымаў сяржанцкія лычкі. А потым быў Казахстан, знакаміты касмадром Байканур. Рабіў аналізы ракетнага паліва, але нядоўга: неўзабаве мне прапанавалі пасаду інструктара па камсамольскай рабоце ў палітычным аддзеле аб’яднання. Відаць, гэтаму садзейнічала тое, што маё прозвішча часта з’яўлялася на старонках акруговай газеты «Фрунзевец» і ў Ільічоўскай школе я быў два гады сакратаром камсамольскай арганізацыі.

Пра касмадром у мяне засталіся самыя цёплыя ўспаміны. У мяне, дарэчы, быў пропуск на ўсе стартавыя пляцоўкі. Таму я часта ездзіў на пускі, меў магчымасць бачыць многіх касманаўтаў, вядомых журналістаў, адказных на той час асоб дзяржавы.

Потым была вучоба ў Львове, стварэнне сям'і, служба ў Ашхабадзе, праца ў шматтыражцы «Сельмашавец», у абласной газеце «Гомельская праўда», доўгі час узначальваў абласную пісьменніцкую арганізацыю. Калі абіралі сакратаром, першымі падтрымалі мяне вядомыя нашы літаратары Міхась Даніленка, Віктар Ярац, Іван Сяркоў, Уладзімір Верамейчык і Мікола Янчанка. Потым нашу пісьменніцкую арганізацыю папоўнілі Ізяслаў Катляроў, Соф'я Шах, Анатоль Бароўскі, Іван Кірэйчык, Валянціна Кадзетава, Таіса Мельчанка, Ніна Шклярава, Іван Афанасьеў... Пераехаў з Гатчыны Юрый Фатнеў. Агульнымі намаганнямі мы выдавалі альманах «Магістраль», ладзілі літаратурныя святы, і не толькі мясцовага, як кажуць, значэння: запрашалі нас і запрашалі мы да сябе ўкраінскіх і расійскіх пісьменнікаў. Нярэдка прыходзілі пісьмы на гомельскі адрас ад Міколы Калінковіча. Яшчэ жывучы ў Ашхабадзе, ён завітаў да мяне, назваўся. Беларус, выпускнік Белдзяржуніверсітэта, цяпер – афіцэр КДБ. На мяне яго вывеў паэт Мікола Федзюковіч, які на той час працаваў літкансультантам «Чырвонай змены». Ці трэба казаць, як абрадаваўся я Калінковічу. З ім мы потым часта сустракаліся – землякі ж. Далёка ад Беларусі слова «землякі» мае зусім іншае гучанне. Хадзілі на футбол. Хадзілі проста так па сонечных ашхабадскіх вуліцах. У цеснай кухні маёй двухпакаёўкі я чытаў яму і ягонай жонцы Святлане свае першыя дарослыя апавяданні, якія пазней склалі зборнік «Дзень у горадзе». А Мікола таксама пісаў – дакументальную прозу. У асноўным, пра землякоў-беларусаў, якія ўсталёўвалі ў Туркменістане савецкую ўладу. Выдаў некалькі кніг. Стаў членам Саюза пісьменнікаў. А потым мы раз'ехаліся: я – у Гомель, Мікола – у Маскву на вучобу ў акадэмію. Абараніў кандыдацкую і пачаў выкладаць у вучэльні КДБ, што месцілася ў Тбілісі. Там трагічна і абарвалася яго жыццё. Але адзначу, што на радзіме Калінковіча, на роднай яму Лунінеччыне, памяць пра яго жыве: перад гарадской бібліятэкай устаноўлены бюст пісьменніка, ладзяцца вечарыны па творчасці земляка. На адной з такіх вечарын давялося пабываць і мне, дзе зноў сустрэўся з удавой пісьменніка Святланай і пазнаёміўся з дачкой Ксеніяй.

На вялікі жаль, і іншых хлопцаў-пісьменнікаў, з якімі падтрымліваў сяброўскія адносіны, няма, яны пакінулі гэты свет у росквіце сіл і таленту. Шкада. Вельмі шкада. Не дакахалі, не дапісалі... Няма Міхася Барэйшы. Перапісваліся, званілі адзін аднаму. Ён дасылаў мне святочныя паштоўкі, напісаныя высокімі і роўнымі, як і сам, літарамі. Няма Уладзіслава Рубанава. Кожны раз пры сустрэчы ён пытаўся: «Дзе рукапіс?» Няма Міколы Федзюковіча і Яўгена Крупенькі, якія знаходзілі сваімі лістамі ўсюды, куды ні заносіў лёс. Я помню вас, хлопцы.

Не стала і маіх бацькоў Вольгі Якаўлеўны і Юрыя Трафімавіча – яны знайшлі свой апошні прытулак на могілках у Іскані.

Да слова сказаць, у 1989 годзе быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў СССР і БССР. Удзельнічаў у рабоце IX з'езда Саюза пісьменнікаў СССР (Масква, 1992). З'яўляюся членам Саюза тэатральных дзеячаў (2006). Лаўрэат прэміі Саюза беларускіх журналістаў і міжнароднай прэміі «Дружба» за лепшы публіцыстычны твор (нарыс «Сонцам хлеб на стале»). Пераможца літаратурнага конкурсу часопіса «Вясёлка» на лепшае апавяданне. П'еса «Стары і дарога» адзначана першай прэміяй на Рэспубліканскім конкурсе ў 1985 г. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя М. Доўнар-Запольскага і расійскай прэміі Баяна. Лаўрэат абласной літаратурнай прэміі імя Аляксандра Капусціна.

Першае апавяданне надрукаваў у 1966 г. (часопіс «Вясёлка»). Выдадзены кнігі для дзяцей «Хітры Данік» (1975), «Партрэт салдата» (1984), «Вятрак – птушка вольная» (2003), «Незвычайны дыктант» (2004), для дарослых – «Дзень у горадзе» (1985), «Мой рай зямны» (1997), «Тратнік» (2002), кніга публіцыстыкі «Пахвалі пражыты дзень» (1988), кнігі гумару – «Смех на прызбе» (1995), «Карасі на пяску» (1977) і «Крутыя хлопцы» (2001), а таксама зборнікі п'ес «Сівы бусел» (1996), «Непаразуменні» (1997) і «Кто-то ходит за окном...» (2003). Выдаў кнігу нарысаў «Вячыстыя лясы Гомельшчыны» (2005). Аўтар рамана «Дом камуны» (часопіс «Нёман», № 5–6, 2008). Аўтар п'ес «Сівы бусел» (пастаўлена ў 1985, Магілёўскі абласны драмтэатр), «Вокны» (1985, Гомельскі абласны драмтэатр), «Прыгоды з Канапухіным» (1988, Магілёўскі абласны драмтэатр), «Кветкі-ягадкі» (1990, НАДТ імя Якуба Коласа; 1991, Йашкар-Ала, Марыйскі нацыянальны драмтэатр), «Усміхаўся месяц белай вішні» (1996, Гомельскі абласны драмтэатр), «Шкірдзюкі займаюць абарону» (1996, Мазырскі гарадскі драмтэатр імя І. Мележа; 1998, г. Смаленск, народны драмтэатр атамнай станцыі), «Перапалох» (2004, Гомельскі абласны драмтэатр), «Нехта ходзіць за акном...» (2006, Гомельскі абласны драмтэатр); казак «Два мяхі цукерак» (2005, НАДТ імя Якуба Коласа), «Вушасцік» (2006, Гомельскі абласны драмтэатр і Палескі драматычны тэатр, г. Пінск), «Дзе жыве Некукарэка» (2008, Гомельскі тэатр лялек); тэлеп'ес «Добрае стаўленне да сабакі» (1996) і «Следчы эксперымент» (1999). У народных тэатрах краіны пастаўлены спектаклі па п'есах «Лесвіца», «Кветкі і тайнае каханне Макізара», «Дублёр», «Курорт для зяця» і «Банкамат». Аўтар радыёп'ес «Стары і дарога» і «Ігнатаў рубеж». Пераклаў на беларускую мову п'есы «Маскоўскі хор» Л. Петрушэўскай (1989), «Сцэны каля фантана» С. Злотнікава (1990) і казку Л. Усцінава «Ста-

рамодныя цуды» (2003). Усе гэтыя п’есы пастаўлены ў НАДТ імя Якуба Коласа. З’яўляюся ўкладальнікам і рэдактарам шматлікіх калектыўных літаратурна-мастацкіх зборнікаў, у тым ліку «Настрой», «Вуліца Настаўніцкая», «Магістраль», «Пад небам Палесся» і інш.

На абласным тэлебачанні вёў аўтарскую літаратурна-мастацкую праграму «На прызбе з Васілём» (2001–2003).

Некаторыя творы перакладаліся на рускую, украінскую, польскую, туркменскую, удмурцкую і марыйскую мовы. Асобныя апавяданні ўключаны ў чытанкі для вучняў малодшых класаў. У Быхаўскім гісторыка-краязнаўчым музеі створана экспазіцыя, дзе шырока і ўсебакова прадстаўлены мае жыццё і творчасць, яна ўключае ў сябе кнігі з аўтографамі, тэатральныя афішы, у тым ліку і з прэм’ерных спектакляў, праграмкі, пісьмы, фотакарткі, некаторыя асабістыя рэчы і іншыя матэрыялы.

Узнагароджаны Ганаровай граматай Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь (2007).

Можа, не зусім сціпла было пералічваць усё гэта? Але ж тады няпоўным атрымалася б слова пра сябе. Што маем, тое маем. Дадам толькі, што, працуючы над п’есамі, я пабываў яшчэ ў савецкі час на творчых семінарах у Піцундзе, Рузе і Дубултах. Тры месяцы вучобы ў мэтраў драматургіі. У далёкім цяпер ужо 1995 годзе ў Доме літаратара быў мой творчы вечар. На яго завітаў і народны пісьменнік Іван Пятровіч Шамякін. І сказаў пра мяне цёплае слова. Ён, як прызнаўся, сачыў за маёй творчасцю і амаль усё, што друкавалася, чытаў. Мяне гэта здзівіла і парадавала. Слухаючы тады Івана Пятровіча, я зноў успомніў сваю родную Гуту, дзе нарадзіўся, Іскань, дзе прайшло маленства і дзяцінства, Ленінадар – вёсачку, што прытулілася сёння да цёплай спіны лесу, у якой стаіць мая хата, паблізу ад Гомеля, дзе мой рай зямны. І захацелася зноў вярнуцца да людзей, сярод якіх жыву і жыву дзякуючы якім.

Мая свечка, дзякаваць Богу, пакуль гарыць.

*Май 2008 года*



***Трахімёнак***
***Сяргей Аляксандравіч***

# АЎТАБІЯГРАФІЯ*

Я нарадзіўся 7 лютага 1950 года ў горадзе Карасук Новасібірскай вобласці.

Горад гэты  да майго паўналецця налічваў каля трыццаці тысяч жыхароў і быў буйным вузлом Заходне-Сібірскай чыгункі. Карасукскае аддзяленне Запсібжд забяспечвала чатыры кірункі на поўдні Сібіры і лічылася вельмі перспектыўным. Але з распадам СССР два кірункі «абрэзаў» незалежны Казахстан, аддзяленне чыгункі пераведзена ў Омск і горад у сувязі з гэтым страціў перспектыву развіцця.

Мае бацькі мелі вялікую па мерках сібірскай правінцыі бібліятэку, і я шмат чытаў, аднак ніколі не жадаў стаць пісьменнікам, у адрозненне ад майго сябра добрага навэліста і паэта Мікалая Шыпілава, які ведаў аб тым, што ён стане такім з дзяцінства.

Па заканчэнні сярэдняй школы я пайшоў працаваць на Карасукскі малочнакансервавы камбінат. Быў токарам-універсалам у механічным цэху. Адтуль у 1968-м пайшоў у войска, праз два гады вяр-

нуўся і зноў стаў за свой станок. Тэрміновую службу мне давялося служыць у Маскве ў так званай «каралеўскай» брыгадзе. Дакладная яе назва – Першая асобная стралковая брыгада аховы Міністэрства абароны СССР.

Як высветлілася на службе, у мяне добрая памяць, асабліва візуальная, я фатаграфічна запамінаў выклейкі і віньеткі дакументаў, якія сведчаць асобу, а таксама розных узораў міністэрскіх і генштабаўскіх пропускаў. Перад звальненнем у запас у мяне адбылася гутарка з прадстаўніком Камендатуры аховы МА СССР. Ён прапанаваў мне застацца служыць у Маскве. Але я адмовіўся, прачытаўшы яму напамяць урывак з «Горе от ума»: «Вон из Москвы, сюда я больше не ездок, уйду не оглянусь, пойду искать по свету…»

Вярнуўшыся ў Карасук, я зноў прыйшоў на завод і стаў рыхтавацца да паступлення ў ВНУ. У семдзесят другім я паступіў у найблізкі ад Карасука юрыдычны інстытут у горадзе Свярдлоўску (СЮІ). Аднак неўзабаве мне прыйшлося перайсці на завочнае аддзяленне, паколькі да гэтага часу быў ужо жанаты і трэба было ўтрымоўваць сям'ю. У сувязі з гэтым я перавёўся бліжэй да дому, на Новасібірскі факультэт СЮІ.

Праца і вучоба навучылі мяне арганізоўваць свой час. Акрамя таго, я паспяваў займацца грамадскай працай і спортам.

На чацвёртым курсе інстытута мне прапанавалі пайсці працаваць сакратаром Карасукскага райкома камсамола. На гэтай пасадзе я прапрацаваў тры гады.

Менавіта тады мне прыйшлося супрацоўнічаць з раённай і абласной маладзёжнымі газетамі, у якіх сталі з'яўляцца мае першыя публікацыі. Але аб мастацкай прозе я тады не думаў наогул, хоць менавіта тады я раптам стаў бачыць адрозненне лепшых узораў рускай прозы ад таго, што выдавалася ў Сібіры. Розніца была не на карысць маіх землякоў. І я вырашыў: альбо сучасныя сібірскія пісьменнікі не ведаюць жыцця, альбо яны не могуць аб ім цікава распавесці. А паколькі я пазбаўлены гэтых недахопаў, то магу зрабіць гэта лепш за іх.

У 1978-м годзе я паказаў свой першы апавед «Кантакт» добраму пісьменніку Васілю Каньякову, які ў той час у Новасібірску працаваў з маладымі літаратарамі. Прачытаўшы яго, ён сказаў: «Сержык, гэта не апавед, але гэта кавалак добрай прозы, і хай гэта цябе пацешыць».

У гэтым жа годзе мяне зноў заклікаюць у войска на два гады, але ўжо як афіцэра запасу. Так я патрапіў у будаўнічы батальён намеснікам камандзіра адной з рот па палітычнай частцы. Там я ўбачыў розніцу паміж маёй маскоўскай службай і службай у будаўнічым батальёне. Шок ад убачанага паслужыў у далейшым асновай

рамана «К торжественному маршу» (часопісны яго варыянт выйшаў у «Нёмане» ў 1991 годзе і называўся «Груз небесный»).

У будаўнічым батальёне я служыў дзевяць месяцаў, пакуль не патрапіў у якасці дазнаўцы ў ваенную пракуратуру. Там, даведаўшыся, што дыпламаваны юрыст служыць не па профілі, прапанавалі мне перайсці да іх. Камандаванне будупраўлення акругі было супраць. Але мне ў нейкай меры пашанцавала: мой атрад перакідваўся ў Маскву на будаўніцтва аб'ектаў Алімпіяды-80, і я, прычыніўшыся той жа грыбаедаўскай фразай, застаўся ў Новасібірску і перайшоў у пракуратуру гарнізона на пасаду вайсковага следчага.

Скончыўшы службу ў ваеннай пракуратуры, я атрымаў прапанову працаваць у Камітэце дзяржаўнай бяспекі на пасадзе следчага. Але кіраўніцтва Новасібірскага ўпраўлення накіравала мяне на Вышэйшыя курсы ў Мінск, а затым стала выкарыстоўваць ужо ў якасці аператыўнага супрацоўніка.

За дзевяць гадоў у Новасібірскай вобласці мне давялося працаваць і ў Новасібірску, і ў перыферыйных апаратах. Пастаянныя раз'езды на вялікія адлегласці мелі адзін недахоп – вялізныя непрадуктыўныя страты часу на дарогу і пражыванне ў гасцініцах, інтэрнатах і гэтак далей. І менавіта ў гэтыя адрэзкі часу ў мяне з'явілася магчымасць вярнуцца да літаратурнай творчасці.

Я пісаў апаведы, пасылаў іх у Новасібірск, у Свярдлоўск, у Маскву і атрымоўваў адтуль рэцэнзіі і адмовы. Магчыма, я кінуў бы гэты занятак, калі б не Мікалай Самохін, добры новасібірскі белетрыст і сатырык. Ён адкрыў мне вочы на некаторыя калялітаратурныя рэчы. І супакоіў мяне тым, што я сам павінен ацэньваць свае опусы і не верыць ні рэдактарам, ні выдаўцам, у якіх могуць быць зусім іншыя матывы да адмовы. Як бы там ні было, але гэтым прынцыпам я кіруюся дагэтуль.

Калі лічыць напісаны ў 1978-м годзе мой першы твор пачаткам пісьменніцкай дзейнасці, то выхад у свет першага апаведу «Возница» у «Молодости Сибири» адбыўся толькі ў 1988 годзе. Нармальны дзесяцігадовы тэрмін для прызнання празаіка ў Расіі. У гэтым жа годзе мой раман «Груз двести» прыняла да выдання маскоўскае выдавецтва «Современник», але трохі пазней у «Новом мире» выйшла аповесць С. Каледзіна «Стройбат», і выдавецтва страціла цікавасць да маёй кнігі.

У тым жа годзе мне прыйшлося ўдзельнічаць у дзвюх аперацыях па вызваленні заложнікаў. І я пачаў пісаць аповесць «Заложники», жадаючы «папярэдзіць калі ўжо не ўсё чалавецтва аб будучай небяспецы тэрарызму», то нейкую яго частку, а менавіта савецкую.

На жаль, асобнай публікацыяй гэтая аповесць выйшла толькі ў 2002 годзе ў часопісе «Крыніца». Такім чынам, у мяне не атрыма-

лася папярэдзіць чалавецтва, і я раз і назаўжды засвоіў адзін урок: калі Богу заўгодна, каб чалавецтва разбіла сабе нос на чарговай гістарычнай купіне, значыць так яно і будзе.

У 1990-м годзе я атрымаў прапанову перайсці на педагагічную працу на Вышэйшыя курсы КДБ у горадзе Мінску і ў красавіку гэтага ж года з'ехаў у Беларусь.

Тут варта адзначыць, што з 1988 года я заняўся даследаваннем праблем метадалогіі забеспячэння бяспекі сацыяльных сістэм, бо менавіта ў гэты час у адным з палітычных часопісаў выйшаў артыкул У. Рубанава «Дэмакратыя і бяспека краіны». Інтуітыўна адчуўшы надуманасць яе высноў, я, тым не менш, не змог у рамках навуковай метадалогіі абвергнуць аўтара і стаў вывучаць дадзеныя праблемы.

У Мінску я пазнаёміўся з У. Жыжэнка, тагачасным загадчыкам аддзела прозы часопіса «Нёман». Ён, у сваю чаргу, пазнаёміў мяне з Я. Брылём, які тады прынёс у «Нёман» рукапіс аповесці «Муштук і папка». Першая кніга, якую я прачытаў у Беларусі на беларускай мове, была падораная мне Я. Брылём кніга «На сцяжынцы дзеці».

Такім чынам, ясна пазначыліся пачатковыя «вехі» маёй творчасці. Першы надрукаваны аповед – у 1988-м годзе. Першая надрукаваная аповесць «По фактам возгораний» у «Молодой гвардии» – у 1991-м. Першы раман у часопісным варыянце – у тым жа годзе ў «Нёмане». Першая кніга «Игры капризной дамы» – у 1995-м годзе ў выдавецтве «Юнацтва», Асар».

За дзевяць гадоў працы на Вышэйшых курсах КДБ (Інстытуце нацыянальнай бяспекі) я абараніў дзве дысертацыі (кандыдацкую – у 1993-м і доктарскую – у 1998-м г.), стаў начальнікам кафедры прававых дысцыплін. У 1994-м годзе быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў Расіі, а ў 1996-м – Беларусі.

У 1999–2000-м працаваў начальнікам сітуацыйна-аналітычнага цэнтра Савета бяспекі рэспублікі. У жніўні 2000-а года пайшоў у адстаўку. Да 2005-м года чытаў лекцыі па тэорыі права ў некалькіх ВНУ Мінска. З 2005-м па 2008-ы год быў намеснікам дырэктара Інстытута дзяржаўнай службы і дырэктарам НДІ тэорыі і практыкі Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь.

Дзесьці ў сярэдзіне дзевяностых, калі па Мінску хадзілі крутыя хлопцы ў малінавых пінжаках і прапаноўвалі фінансаванне культурных праектаў, на мяне выйшлі два рэжысёры-вгікаўцы – Аляксандр Бяспалы і Уладзімір Грыцэўскі. Яны сказалі мне, што ў маіх «рэчах» прысутнічае тое, што яны завуць «драматургіяй». Што гэта такое, я дагэтуль не ведаю і ведаць не жадаю, каб гэтую драматургію не спудзіць. І я стаў пісаць ім сцэнарыі прыгодніцкіх і дэтэктыўных фільмаў. Тым больш што хлопцы ў малінавых пінжаках абяцалі іх

прафінансаваць. Але так ужо атрымоўвалася, што да запуску таго або іншага сцэнарыя аказвалася, што ў «фінансістаў» то грошы заканчваліся, то яны прапаноўвалі зрабіць гэта сумесна з іншымі «фінансістамі», і ні адзін праект поўнаметражнага мастацкага фільма рэалізаваны не быў. І тут мне прапанавалі папрацаваць на іх дакументалісты. Яны сталі эксплуатаваць мяне ў якасці сцэнарыста, кансультанта, а часам і вядучага або каментатара ў цыкле шпіёнскага негульнявога кіно.

Крытыкай добразычлівай і не вельмі я быў заўважаны пасля 2000-а года.

Але круг праблем і пытанняў, якія звычайна цікавяць маіх інтэрв'юераў, мала датычаць саміх тэкстаў, яны ў большай ступені зводзяцца да наступнага: ці не адбівае мая «мужчынская» проза чытачоў-жанчын, якія, дарэчы, складаюць вялікую частку чытацкага корпуса; ці не хацелася мне заняцца камерцыйнымі літаратурнымі праектамі; чаму, жывучы ў Беларусі, я пішу аб Расіі; чым беларускія персанажы адрозніваюцца ад расійскіх; хто я: навуковец, пісьменнік або сцэнарыст? Паколькі ўсё гэта звязана з маёй творчасцю, адказваю адразу на ўсе гэтыя пытанні.

Жанчыны не толькі лепшыя чытачы, але і лепшыя гледачы і слухачы. Пісаць «жаночую» прозу не магу з прычыны генетычнай і сацыякультурнай прыналежнасці да мужчынскай паловы чалавецтва. Але мімікрыраваць, падрабляцца пад «жаночую» прозу адмыслова, каб пашырыць круг чытачоў, я не буду. Ды і калі б я пайшоў па гэтым шляху, усе белыя ніткі такога спосабу прыцягнення чытача былі б бачныя, і перш за ўсё мне. Але тым, хто мяркуе, што ў мяне толькі «мужчынская» проза, жадаю запярэчыць. Калі мне трэба патрапіць у нейкую сацыяльную праблему, то мая пазіцыя вызначаецца калі не аўтаматычна, то інтуітыўна. Ёсць з'явы, якія мужчыны могуць проста не заўважыць, а жанчыны не толькі іх бачаць, але і амаль пастаянна знаходзяцца «ў стрэсе дадзеных праблем». І асвятленне іх з пазіцый жанчыны больш дзейсна ў дасягненні мэтаў, якія ставіць перад сабою аўтар.

У мяне ёсць «жаночы» раман «Синдром выгорания» з галоўнай гераіняй – урачом-нарколагам (дарэчы, ён стаў першым у конкурсе на лепшы літаратурны твор у Беларусі ў намінацыі «дэтэктыўны жанр» у 2007 годзе) і мноства апавяданняў, якія маглі б быць ацэненыя як «жаночая» проза, у прыватнасці: «Охламон», «Была весна», «Иголка в квадрате», «Это страшное слово «кино» і, канечне, «Родная крывинка».

Камерцыйныя праекты ў літаратуры мне на дадзены момант не цікавыя, паколькі я ведаю, як спрошчана, калі не сказаць прымітыўна, ставяць задачы аўтарам такіх праектаў кнігавыдаўцы.

Беларусь і Расія знаходзяцца ў рамках аднатыпнага спосабу выжывання. Хай нікога не крыўдзіць гэты тэрмін. Бо ў апошні час усё

большая колькасць інтэлектуалаў заяўляе, што трэба жыць, а не выжываць. А выжыванне – вы-жываць – азначае выходзіць з жыцця, гэта значыць рух да смерці. Так яно і ёсць. Што ўзнікае, тое знікае, а што нараджаецца – памірае або павінна памерці. І не варта муляцца ад слова «выжыванне», бо яно і ёсць самая адэкватная назва жыцця. Выбар месца дзеяння і персанажаў залежыць ад значнасці таго, што ты апісваеш, а таксама ад разумення, што ніхто, акрамя цябе, гэтага не чуе, не бачыць, не разумее і так, як ты, асвятліць не можа. Таму большасць маіх раманаў мае месцам дзеяння Расію: ні «Заказа на двадцать пятого», ні «Диалектики игры» я не мог бы напісаць у Беларусі, таму што заказныя забойствы, як нейкі сектар аргзлачыннасці для Беларусі не з'яўляюцца такімі злабадзённымі і актуальнымі, як для Расіі.

Але я ніколі не мог бы напісаць «Миллениум в Авсюках» у Расіі. Гэта спецыфічны беларускі феномен. Ён паказвае характар беларуса, які нават ва ўмовах экалагічнай катастрофы, што адбылася на ЧАЭС, не затужыў, а з мужыцкай хітрынкай знаходзіць выхад з любой, здавалася б, бязвыхаднай сітуацыі. І, здаецца, у мяне гэта атрымалася, і можа быць не столькі таму, што я маю значны досвед літаратурнай працы, колькі таму, што я чалавек з боку і не пакутую аберацыяй, якая ўласцівая прадстаўнікам апісваемага асяродку.

Што датычыць ментальнасці рускіх і беларусаў. Ментальнасць – спараджэнне фактараў прасторы, на якой працягла пражываюць пэўныя этнасы. Ментальнасці, якія фарміраваліся на прасторы сённяшняй Беларусі і, скажам, сярэдняй часткі еўрапейскай прасторы Расіі, не адрозніваюцца кардынальна: там няма фактараў блізкасці мораў, гор, асобай розніцы зімовых і летніх тэмператур. І прынцыпова характары беларусаў і рускіх не адрозніваюцца. Але ўсё ж адрозненне ёсць: ва ўзроўні пасіянарнасці, пры прыняцці рашэнняў ва ўмовах рызыкі і інш. Расейцы хутчэй «запальваюцца» на новыя праекты, але гэтак жа хутка «згасаюць», калі нешта не атрымоўваецца. Беларусаў трэба доўга разварушваць, але, разварушыўшыся, яны маюць большую інэрцыю, чым расейцы.

Мне цяжка адказаць на пытанне, хто я, але, пэўна, было б правільна сказаць, што сярод навукоўцаў я – навуковец, а сярод пісьменнікаў – пісьменнік, з усімі вынікаючымі наступствамі. Хоць ва ўсім гэтым праяўляецца нейкая адзіная аснова – я даследчык і, як персанаж казкі Дж. Радары «Чыпаліна», даследую людзей.

*Кастрычнік 2008 года*

---

* Напісана на рускай мове. Пераклад зроблены ўкладальнікам.



***Фатнеў***
***Юрый Сяргеевіч***

## ЗЯЗЮЛЯ МНЕ ЛІЧЫЦЬ ГАДЫ*

Снежаньскай ноччу 1962 года ў Каменнай цясніне – гэта ў Нябесных гарах за Алма-Атой – ірванулася на ланцугу, радасна завішчала Майка: да вартоўні набліжаўся хтосьці свой. Закракталі наскрозь прамарожаныя дзверы. У вартоўню разам з марознымі клубамі ўваліўся бацька, цягнучы па падлозе заснежаны мяшок. Дванаццаць кіламетраў у цясніну даводзілася дабірацца пешкі. Але бацька гэтым разам не выглядаў стомленым. Хутчэй – чымсьці ўсхваляваны. Нейкую таямніцу ўтойваў да пары. Кінуўшы на пусты вулей рукавіцы, узяўся развязваць мяшок. Я загадзя ведаў яго змесціва: хлеб, абавязкова – «Литературная Россия», можа, кнігі. Нядаўна бацька прывёз трохтомнік К. Паўстоўскага. Што будзе гэтым разам?

Пасля многіх гадоў, праведзеных у бальніцах, я пагадзіўся замяніць бацьку на саўгасным пчальніку ў якасці вартаўніка. Ён з'язджаў да мачахі ў Алма-Ату. А я заставаўся ў гарах адзін. Са-

мае блізкае сяло Тургень знаходзілася ў дванаццаці кіламетрах. Калі заканчвалася ў лямпе газа, я ляпіў свечкі, нагрэўшы вашчыну ў пячурцы. У вартоўні станавілася цёпла. Са шчыліны каля пячуркі выпаўзаў цвыркун. Цвыркаў. І больш ні гуку. Зрэдку, раз у некалькі месяцаў, праскача лясны аб'ездчык ды завернуць пагрэцца чачэны, зірнуць на стрэльбу на сцяне, да якой у мяне было ўсяго два патроны. Спытаюць, дзе бацька. І зноў бязлюддзе вакол. Раз у тыдзень наведваў мяне бацька.

Нарэшце ён развязаў мяшок. Дастаў з яго бандэроль. Кнігі! І прадаўгаваты карычневы канверт са штэмпелем «Пошта касманаўтаў СССР». З яго выслізнула фатаграфія Юрыя Гагарына. Я паслініў краёк подпісу. Сапраўдны. Зроблены рукой першага касманаўта! У бандэролі былі вершы Роберта Бёрнса, санеты Шэкспіра і ліст С. Я. Маршака. Іскрынку маёй здольнасці яны разглядзелі ў Нябесных гарах – кожны са сваёй вышыні. Чый прыход у літаратуру віталі так?

Цяжка хворы Самуіл Якаўлевіч прасіў мае лісты і вершы дастаўляць яму ў бальніцу. Зараз мы ведаем, што сваю падтрымку ён аказваў і іншаму пачынаючаму паэту – Іосіфу Бродскаму.

30 сакавіка 1963 года газета «Известия» на адной старонцы сутыкнула двух пісьменнікаў. Мяне хвалілі. Салжаніцына крытыкавалі…

У красавіку 1965 г. сябар Барыса Карнілава Канстанцін Пазняеў у «Литературной России» даў старонку з маімі вершамі.

На мяне ўпершыню ў жыцці абрынуліся сотні, калі не тысячы, чытацкіх лістоў. Я быў не падрыхтаваны да ўсесаюзнай славы…

А тут яшчэ і ЦК ВЛКСМ тэрмінова шукаў замену Яўгену Еўтушэнку. Пра мяне здымалі кінафільм. Пад час здымак я паказаў свой нораў. Справа ў тым, што амерыканцы першымі высадзіліся на Месяцы. Гэтага я не мог перанесці. Адправіў у ЦК КПСС ліст, што гатовы ляцець куды заўгодна без гарантыі вяртання… Зараз вы смеяцеся, а ўспомніце: вы такіх лістоў не пісалі?

Здымкі фільма тэрмінова згарнулі. Кажуць, яго дарабілі без мяне, дзесьці паказвалі. Я не бачыў. І далей я заставаўся нетыповым героем. Нават дысідэнта з мяне не выйшла, хоць лісты мае правадырам былі больш моцныя, чым у Салжаніцына і Сахарава. Розніца была паміж намі вялікая: яны хацелі развалу СССР. Я жа ўсяляк жадаў умацавання дзяржавы. Савецкая ўлада не павінна памыляцца, таму што яна лепшая ў свеце. І не толькі ідыёты павінны друкавацца, але нават геніі, такія, як я. У абразе ўлады пераходзіў усе межы. Пісаў лісты зусім не ў стылі Плінія Малодшага, якога шанаваў, але на практыцы аддаваў перавагу Авакуму перад рымлянінам. Для генсека не пагрэбаваў нават мацюком, хоць у звычайным жыцці грубых слоў не ўжываю.

У Казахстане ішоў на роўных з Алжасам Сулейменавым, вялікім паэтам, вершы якога любіў, люблю і любіць буду, таму што ён – Казахстан.

Вядома, ён быў мацней тады, я разгарнуўся толькі сёння, бліжэй да смерці. Ён, як паэт, выдыхнуўся раней. Як асоба – застаўся ачагом, ля якога доўга грэцца мерзнучаму чалавецтву.

Ад знаёмства з Булатам Акуджавам засталося ў памяці: «Не горш, чым у нас. Друкаваць нічога нельга». Ды ліст, які ён укінуў у маю паштовую скрыню, не заставўшы мяне дома ў Гатчыне.

Тады ж я адзіны раз размаўляў з Яраславам Смеляковым. Стоячы ў праёме дзвярэй, я злосна кінуў: «Ды ці ёсць у Маскве паэты?»

Зараз я ведаю – нічога ў Маскве няма, акрамя грошай. Тады паэты былі. Напрыклад, усімі праклятыя Яўген Еўтушэнка, якога я так і не засланіў. Я – празрысты.

Тады ж – прашу разумець мяне літаральна – стукнуўся лбом аб лоб з Маршаком. Ён раззлаваўся, потым усміхнуўся. А я нават не прывітаўся – вось які ёлуп.

Яшчэ аб класіках.

Жывучы на Пінскай у Гомелі, сумуючы па вялікіх, – вакол адна драбяза, акрамя Валодзі Шварца і Міхася Башлакова, – напісаў я Мікалаю Ціханаву, які калісьці па маладосці гадоў прапаноўваў: «Гвозди бы делать из этих людей. Крепче б не было в мире гвоздей». Ён раскусіў мяне: сказаў, што люблю я больш Ясеніна, чым яго, але і пахваліў верш, у якім не было нічога жалезнага, – «Поёт рожок у Сожа».

Вось гэты і падобныя яму вершы я даслаў у выдавецтва «Беларусь», дзе і надрукаваў іх добры чалавек Хведар Жычка.

Мне ў жыцці шанцавала на добрых людзей. У Гомелі, куды я пераехаў з Казахстана, я пазнаёміўся з Леанідам Гаўрылкіным і Анатолем Грачанікавым. Цудоўныя людзі. Дзякуючы ім я апынуўся ў Саюзе пісьменнікаў. Выйшаў на ЦК ВЛКСМ.

Прыйшла ў Гомель тэлеграма: «Камандзіруйце паэта Юрыя Фатнева ў Маскву, у ЦК ВЛКСМ. Фелікс Аўчарэнка». Адшукалі мяне – і вось я ў Маскве.

Паднімаюся па лесвіцы ў велічэзным будынку. Нехта ў шэрым, які сядзеў ля тэлефона ў вестыбюлі, кінуўся да мяне: «Таварыш! Таварыш! Вы куды?»

Я, жыццё правёўшы ў лесе, гарах, бальніцы, бурчу: «Куды трэба, туды і іду!»

– Таварыш! Таварыш! – і загароджвае мне дарогу.

Вось яшчэ кітайская сцяна! Я працягваю паднімацца.

– Прабачце, – упрошвае мяне вартавы парадку. – Можа, Вас выклікалі? Можа, у Вас камандзіроўка?

Ах, вось чаго яму трэба… Я лезу ва ўнутраную кішэню, дастаю камандзіроўку.

У Аўчарэнкі ў кабінеце сядзела Ларыса Васільева. Пазнаёміўся і з «Льняной луной».

Фелікс у пасмяротна выдадзенай кнізе сказаў пра мяне і мае вершы добрыя словы. А пакуль пазнаёміў з Вадзімам Кузняцовым, які і выпусціў маю кнігу «Лирика» з прадмовай, дзе назваў мяне магутнай асобай. Ладна, гэта я яму прабачыў, паступова набліжаючыся да ідэалу.

Неяк Міхаіл Васільевіч Гарбачоў, задуменна гледзячы на мяне, распавёў, як дзяржаўную таямніцу: «Вершы ў Вас добрыя. Але Вам пастаянна перашкаджае адзін чалавек…»

– Хто? – сціснуў я кулакі.

– Юрый Фатнеў, – спакойна адказаў суразмоўца.

На дзень або два я акупаваў ЦК ВЛКСМ, дакладней, адзін кабінет. Далі мне машынку. З цікаўнасцю зазіралі, як ідуць справы.

Тарзан за пішучай машынкай – гэта відовішча.

Выйшла кніга. Рэшткі ганарару я распыліў на дарогу: Гомель–Чачэрск. Закахаўся ў лінатыпістку з фатальным прозвішчам Разорына. Я ж казаў, што мне шанцуе на добрых людзей…

Не магу добрым словам не ўспомніць Гомельскі абкам камсамола. Колькі дарог, колькі раённых гарадкоў пабачыў я дзякуючы пастаянным камандзіроўкам. Звычайна адпраўляліся ўтрох: я, Валодзя Шварц, Міхась Башлакоў. Потым да нас далучыліся Ніна Шклярава, Анатоль Зэкаў, Ірына Багдановіч. Зараз Ірына – сур’ёзны чалавек, а ў юнацтве? Выступаць трэба, а што яна спявае?

– Хачу на арэлі!

Давядзецца вярнуцца ў ЦК ВЛКСМ, каб расказаць аб адным эпізодзе. Але спачатку пра тое, як «даймалі» мяне камсамольскія важакі:

– Хто, па-вашаму, зараз лепш за ўсіх піша?

– Тыя, каго не друкуюць.

Яны былі «прагрэсіўныя» правадыры. Выкінулі з майго зборніка няўдалыя радкі, накшталт гэтых:

Что этот мир?
Всего лишь тир.
Поэты в нем – мишени.
Чем больше в нас свинцовых дыр,
Тем больше повышений.

З такімі вершамі з’явіўся я ў ЦК ВЛКСМ. Нездарма затрымліваў мяне нехта ў шэрым. Нюхам адчуў ва мне ідэйнага ворага.

Але да супрацьстаяння яшчэ было далёка.

Міхаіл Васільевіч Гарбачоў шчыра хацеў мне дапамагчы. Накіраваў да Васіля Васільевіча Казіна. Дагэтуль у маіх паперах захаваў-

ся яго адрас. Памятаю, жыў ён у Лаўрушынскім завулку, недалёка ад Траццякоўкі.

Стукаюся ў дзверы сябра Ясеніна.

Сівенькі дзядок, быццам пасыпаны мукой, глядзіць на мяне вачыма без веек.

– Дабры дзень, я – Фатнеў.

Твар Казіна святлее.

– Фатнеў? Мне тэлефанаваў Гарбачоў. Пачакайце хвілінку.

Ён бяжыць у глыб калідора. Вяртаецца. Дзве рукі яго занятыя. У адной чорны том – Яўген Еўтушэнка, у другой – мой рукапіс.

Васіль Васільевіч узважвае іх на далонях, як быццам вызначае: хто перацягне?

– Вось выдадзены Еўтушэнка. Вось нявыдадзены Фатнеў.

Ён запрашае ў пусты пакой справа, у якой з мэблі толькі канапа, на якой сядзіць плюшавы ладна патрапаны мішка ў мытых трусах.

Здаецца, быў яшчэ стол, старыя крэслы. Відаць, Казін не раз прачытаў мой рукапіс. Ён хутка знаходзіць упадабаныя радкі:

Дымок плясал танцовщицей индийской
На язычке оранжевой свечи.

– Сёе-тое бракуе, але з маёй згоды.

Даведваецца, што рукапіс мой блукае некалькі гадоў. Гэта яго абурае. Ён успыхвае. Хапае мой рукапіс, і мы ляцім па Маскве да Гарбачова. Я паспяваю спытаць:

– Васіль Васільевіч, а чаму Вы пра Ясеніна не напішаце?

– Так, гэта ж прыяцель мой быў, – будзённа, мімаходам канстатуе ён.

Мне становіцца сорамна: стары чалавек цягне мае рукапісы, а я іду ўлегцы.

– Не, Вашы рукапісы я сам данясу! – упарціцца прыяцель Ясеніна.

Не данёс. Памёр. Знявечылі мой рукапіс, але выпусцілі. Памятаю я выдавецтва «Советский писатель»…

Вось і эпізод замаячыў, пра які я хацеў распавесці…

Калі я сядзеў у ЦК ВЛКСМ і пацяшаў камсамольскіх правадыроў, раптам перапалохаліся яны. Чую: «Федзін прыйшоў! Федзін!» Аказалася – усяго толькі Рурык Іўнеў. І нават не зазірнуў у кабінет, дзе сядзеў я. Калі б зазірнуў…

Справа ў тым, што Рурык Іўнеў быў лаўцом геніеў. Ён арганізаваў першае публічнае выступленне Сяргея Ясеніна ў Піцеры, а Паўла Васільева – ва Уладзівастоку.

А ў кабінет, дзе сядзеў я, не зазірнуў! Прапусціў магчымасць адкрыць трэцяга генія. Відаць, з гадамі нюх стаў не той.

Ці памятае свае вершы?

> Пусть приснятся мне, пусть приснятся,
> Хоть в бреду, хоть на полчаса,
> Староверческие святцы
> И архангельские леса.

Не па глыбіні думкі, не па яркасці метафар… Па інтанацыі паэт пазнаецца, па інтанацыі! Мільёны ідыётаў складаюць вершы, а многія і кнігі выдаюць. Але толькі той, хто ад Бога атрымаў інтанацыю, той паэт! У Рурыка Іўнева яна была.

Помніце, як загадкава ўсміхаўся ў канцы жыцця Поль Сезан, паведамляючы, як пра найвялікшую таямніцу: «Адчуванне ў мяне з'явілася, разумееце…»

Вось у чым пытанне.

Без інтанацыі, без адчування няма паэта, няма жывапісца.

А каб яны з'явіліся – вельмі неабходны дарогі! Мікалай Астроўскі, перш чым напісаць «Как закалялась сталь», жыў! Канстанцін Паўстоўскі, які напісаў «Повесть о жизни», жыў!

І я, столькі гадоў правёўшы ў бальніцах, павінен быў рынуцца ў жыццё!

Дарогі. Я напісаў пра дарогі некалькі аповесцей, раманаў, якія яшчэ не дайшлі да людзей. І гэтыя нататкі толькі бегла пералічаць мае жыццёвыя шляхі.

Нарадзіўся я на Алтаі 10 лютага 1938 г. 10 лютага загінуў Пушкін. 10 лютага нарадзіўся Барыс Пастарнак, здаецца, Барыс Зайцаў.

Потым была Манголія, Беларусь, Украіна, бунінскі і прышвінскі Ялец, Казахстан, Каўказ, Браншчына, Гатчына, Гомель.

Гэта месцы, дзе я жыў. Але дарог было больш. Усё не пералічыць. Затрымаюся на некаторых больш падрабязна. Міхайлаўскае… Мы – я і Міхась Башлакоў – прыехалі да Пушкіна. Уначы выходзім да яго магілы. Цішыня. З раніцы да вечара трасуць пушкінскую магілу самазвалы, быццам няма ў Расіі прасторы, каб аднесці праклятую гэтую дарогу за сто, за тысячу кіламетраў! Дайце супакой паэту. Але ўначы тут цішыня. І толькі конік адзін на ўсю Расію цвыркае на пушкінскай магіле.

– Памятаеш, Міхась, – кажу сябру. – У гуртку «Арзамас» у кожнага была мянушка. У Пушкіна – Свярчок (Цвыркун)…

І яшчэ дарога. Мы ў Канстанцінаве. Кожны дзень у музеі. Экскурсаводы раяць нам пазнаёміцца з сёстрамі Ясеніна. Шура і Каця не кожны год прыязджаюць, а цяпер якраз гасцююць на радзіме.

– Ды мільёны прыхільнікаў Ясеніна прайшлі перад іх вачамі. А тут яшчэ мы…

Так і не наведаліся да іх, аб чым потым не раз шкадавалі. А іншыя ламіліся, не задумваючыся: як вынесці цяжар народнай любові ім, якія пераршылі ў жыцці, колькі нам і не снілася.

Бялее ў маёй памяці царква Пакрова на Нерлі. Калуга. Волагда. А памятаеш, Міхась, як мы ўпершыню ўбачылі Віктара Пятровіча Астаф'ева?

А яшчэ я не расказаў аб сустрэчы з Мікалаем Рубцовым і аб тым, як не падаў рукі Індзіры Гандзі. Хай разбураецца кампазіцыя біяграфіі, але пра гэта я павінен расказаць.

Я згадваў, што бацька жыў з мачахай у сталіцы Казахстана. У гэтым доме я спыняўся, калі бываў у Алма-Аце. Насупраць быў сціплы асабняк, у якім жыў першы сакратар ЦК Казахстана. Я бачыў не раз чорныя «зімы», з якіх выходзілі госці. А Індзіра цікавіла больш за іншых. Тады быў разгар савецка-індыйскай дружбы. Прайшла чутка: вось-вось прыедзе Індзіра Гандзі. Чалавек пяць жыхароў нашага дома падышлі да асабняка Брэжнева, каб паглядзець на Індзіру. І праўда – пад'ехалі два «зімы». З аднаго выйшлі сухі, як палка, прэзідэнт Індыі і прэм'ер-міністр Індыі Індзіра Гандзі. Вылітая гомельская цыганка. Хтосьці падаў ёй руку, потым другі. Яна адказала на поціск рукі. А я стаяў трэцім. І не падаў рукі. Яна паглядзела на мяне больш ўважліва, чым на іншых, і прайшла далей, дзе зноў паціснула працягнутую ёй руку.

Дык чаму я не падаў ёй рукі? Няўжо я любіў Індыю менш за іншых? Не. Уся справа была ў маім выхаванні. Я памятаў словы бацькі: першым мужчына не павінен вітацца. Калі жанчына сама падала руку, то адкажы на прывітанне або пацалунак. І да такіх тонкасцей я, адзіны жыхар Каменнай цясніны, вядома не мог дайсці.

Не, калі пісаць біяграфію, то на некалькі тамоў. Тут я шмат чаго прапушчу. Але не Браншчыну. Герадот што пісаў? Што акадэмік Рыбакоў даказваў? Жылі тут некалі неўры, якія час ад часу ператвараліся ў ваўкоў. А вы думалі – сёння прыдумалі мянушку «бранскі воўк»? Але перад тым як знікнуць у туманах Браншчыны, хочацца зазірнуць у Калугу, угледзець ліхтары ля Акі, паслухаць, пра што шэпча кляновае лісце, абсыпаючыся ў Беразуйскі роў, ці ў які раз наведаць сціплую хаціну К. Э. Цыялкоўскага. А яшчэ абуджаюць маю памяць Растоў Вялікі, Мурам… Ведаеце, колькі каштуюць лапці ў Мураме? Два з паловай рублі! Зусім нядорага. І любуйцеся Старажытнай Руссю колькі душы заўгодна. А грыбы здаравенныя, грыбы-волаты ў Вялікім Ноўгарадзе прадаюць прама на вуліцы. А як жа не пабыць зноў у Пскове? А адчуваеце, як пахне Мядынь? А ці забуду я Тарусу? Магілу К. Г. Паўстоўскага? Ды толькі пара завітаць на Браншчыну. Калісьці яна давала Русі волатаў. Перасвета

ўсё ведаюць. Але і бунтароў хапала. Атаманы Хлапко, Чарнадыр. Пугач тут шнырыў. І Грышка Атрэп'еў наш. А Фёдар Крэчатаў вам не знаёмы? Паплечнік Радзішчава. Згінуў у Сібіры. Філосаф самы з'едлівы і паэтычны, самы-самы рускі, вядома ж, Васіль Розанаў! Каго больш за іншых чытаюць па ўласным жаданні? А пачынаў у Бранску. Ён тут у гімназіі выкладаў. І пісаў свой першы трактат «О понимании». У Бранску – і аб разуменні? Вось пацеха! Выдаў і кожны божы дзень бегаў даведацца: колькі асобнікаў прадалі? Аніводнага… Падаўся адсюль сёрбаць кісель Васіль Васільевіч, так і не ашчаслівіўшы Бранска. Ад нас хто з'едзе, чалавекам становіцца, а часцей за ўсё гіне, як Леанід Дабычын, які падаўся ў Піцер, самы жорсткі і самы нярускі горад у Расіі!

Захаваўся ў Бранску каля Пакроўскай гары дом, у які нярэдка прыязджаў у дзяцінстве Канстанцін Паўстоўскі, потым самы пранікнёны пісьменнік Расіі. Чакаю – не дачакаюся, калі ж бранская ўлада зробіць ласку і назаве вуліцу ў гонар гэтага выдатнага чалавека. Ёсць у гэтым горадзе вуліцы, якія носяць імёны чыноўнікаў, бунтаўшчыкоў, што сутыкнулі рускіх людзей у самазабойчай рэвалюцыі, Грамадзянскай вайне. А вуліцы чалавека, які не запляміў ні сябе, ні радзіму, няма! Пара і сумленне мець!..

У савецкі час не збяднеў Бранск на падзеі. Паўтара месяца ўтрымоўваўся ў мясцовай турме выдатны лётчык Валерый Чкалаў, прызнаны бранскімі псіхіятрамі вар'ятам. І ў такі горад я ірвануў, верагодна, для таго, каб даказаць, што слаўная гісторыя Бранска на Чкалаве не заканчаецца. Была важкая прычына: у Гомелі мяне не друкавалі і ў Мінску нічога добрага не абяцалі.

У Бранску была адна з лепшых пісьменніцкіх арганізацый Расіі, але яе душыла сталіца, як і ў цяперашнія часы.

Маскве хапала сваіх. Аб Расіі яна не думала. Знайшоўся чалавек, які спрабаваў выправіць дзікае становішча, – Юрый Львовіч Прокушаў. Ён многіх выратаваў, выдаўшы кнігі правінцыйных паэтаў у выдавецтве «Современник».

Шмат гадоў выгароджваў мяне перад мясцовай уладай Уладзімір Канстанцінавіч Сокалаў. Калі яго «з'елі», я апынуўся ў псіхушцы. Ужо занадта я дапёк Маскву і асабіста Міхаіла Сяргеевіча Гарбачова. Для абразы ўлады я выкарыстаў усё багацце рускай мовы. І вось я гляджу ў акно за кратамі, а хтосьці за спіной ветліва пытае:

– Любуецеся дарамі прыроды?

У палаце акрамя ветлівага псіха знаходзіліся арыгіналы больш крутыя, чым я.

Адзін хадзіў па палаце, спяваючы: «Вышли мы все из народа…» Што і казаць…

Самым паэтычным стварэннем сярод нас быў найдалікатнейшы Серафім. Усё жыццё ён туляўся па вар’яцкіх дамах з адзінай марай – зарэзаць выбітную асобу. Але вакол мітусілася драбната – бессмяротнасці не заробіш.

Калі ён даведаўся, што я – пісьменнік, ён паверыў: нарэшце яго план можа ажыццявіцца…

У якасці санітараў працавалі забойцы, якія пазбеглі турмы. Партрэт правадыра вісеў у туалеце. Ён пільна «сачыў», каб мы не спускалі лекі ў унітаз.

Часам у наша элітнае асяроддзе віхурай улятáлі такія ж выбраннікі лёсу. Маленькі чалавечак спыніўся ля майго ложка.

– Чыталі «В августе сорок четвёртого»?

– Багамолава? Чытаў.

– Таманцаў[1]!

Па яго словах, ён – вучоны. Доктар нейкіх чыгуначных навук. Вынайшаў спосаб узрываць гарады на адлегласці без усялякіх ракет. Навошта? Гэта яго не цікавіла.

Ехаў з Масквы і «ўзрываў» адзін горад за другім. Знялі з цягніка яго ў Бранску – і ў Полпінку...

Інтэлігентны злодзей чытаў том за томам Чэхава. Прачытае трыццаць і зноў пачынае спачатку.

А ўжо экстрасэнсаў – хоць гоць гаці. Не верыш у іх асаблівасць? Правядуць далонню вышэй галавы – жар адчуеш адразу.

«Таманцаў» навучыў мяне, як пазбаўляцца ад лекаў, якія ператвараюць чалавека ў ідыёта. Робіш выгляд, што глытаеш, а на самай справе…

Нягледзячы на яго хітрыкі, праз некалькі дзён яго было не пазнаць – звычайны псіх.

А яшчэ… здзекваліся музыкай.

А яшчэ апраменьвалі рэнтгенам. Уключаць – і не выключаюць. Забылі…

А яшчэ…

Людзі – яны ўсюды людзі, г. зн. звяры.

А да псіхушкі я быў на Старой плошчы… Шукаў праўду ў ЦК і сказаў на развітанне, што ў наступны раз зазірну да іх з гранатай. Так што было ад чаго ўладзе нервавацца.

Сярод урачоў было шмат яўрэяў. Аднаму я сказаў:

– Па якім праве ты, іншаземец, эксперыменты над рускім паэтам праводзіш?

---

[1] Таманцаў – адзін з галоўных герояў рамана Ул. Багамолава «В августе сорок четвёртого».

Тэрмінова пайшоў у водпуск…

Да яўрэяў я стаўлюся добра. Ёсць у іх шмат дадатнага. Гнуткасць розуму. Цвярозасць. Шмат іншых чалавечых якасцей. Але памятаю, што рэвалюцыя і Грамадзянская вайна – на іх сумленні. Не забываю, аднак, што Маршак, Пастарнак нярэдка ўступаліся за рускіх людзей. Так што – не шыйце мне антысемітызм. Усё значна прасцей. Я лічыў і лічу сябе лепшым рускім паэтам XX стагоддзя. І ніякімі псіхушкамі гэта з мяне не выб’еце. У мяне ёсць доказ – рукапісы. Выдайце іх – тады паглядзім, якое месца я займу ў гісторыі, а якое – Пастарнак. «Негістарычнае прозвішча», як казаў Сталін, які аднойчы пачуў прозвішча Фатнеў. Ах, аб гэтым выпадку я не расказваў? Ну дзе ж я ўсё раскажу з такой біяграфіяй? Між іншым, у маці было больш выразнае прозвішча – Белавусава Таццяна Гаўрылаўна.

Дарэчы, не ўсе задумваюцца над тым, якое значэнне для пісьменніка мае часам нейкі жыццёвы факт для пачатку работы над творам. Аднойчы заехаў пачынаючы пісьменнік Іван Пятровіч Шамякін у Старыя Дзятлавічы і пачуў аб выратаваным жыхарамі хлапчуку і яго маці Таццяне. Для пісьменніка галоўнае – штуршок да задумы, астатняе прыдумаецца. І з’явілася «Глыбокая плынь». Толькі ў адным я з Шамякіным не згодны. Я паходзіў у дзяцінстве больш на цыганёнка, а не на яўрэя.

Вернемся да «эліты». Але перш вось пра што.

Бранцы ваявалі на Куліковым полі за волю Русі. Алег Разанскі паддобрываўся да Мамая.

Разанцы «здалі» Салжаніцына. Пісьменніцкая арганізацыя прагаласавала за выключэнне яго з Саюза пісьменнікаў. Толькі адзін яўрэй быў супраць выключэння.

У Бранску было інакш. З сямнаццаці чалавек за выключэнне Юрыя Фатнева прагаласавалі толькі трое. Астатнія паступілі супраць волі Масквы і Бранскага абкама. Не атрымалася неўраў ператварыць у ваўкоў. З удзячнасцю ўспамінаю сваіх бранскіх сяброў.

Уначы я слухаў, як у батарэях глуха стагнала вада. Ды крычаў нейкі псіх у іншай палаце доўга і працягла: «Ві-і-ця!»

Не атрымалася запалохаць маю жонку. Ёй таксама пагражалі псіхушкай. Яна напісала заяву, што яе мужа незаконна арыштавалі, трымаюць у псіхушцы. Вядома, пракурор заяву не прыняў. Яна ездзіла ў Маскву. Растлусцелыя ад бяздзейнасці кэдэбісты сілай выцягвалі яе з тэлефоннай будкі. Яна тэлефанавала касманаўту Джанібекаву. Дзіцячы голас адказваў: «Таты няма дома». Да Церашковай яна не пайшла. Запанела. Не прабіцца да яе на прыём.

Пісьменнік Родзічаў звяртаўся ў «Правду», у «Литературку».

А я ўсяляў ва ўрачоў няўпэўненасць, намякаючы, што хутка ўвесь свет загаворыць аб злачынстве ў Бранску.

Спрабавалі запалохаць Родзічава. Ён быў хворы. Яму неабходна была аперацыя. «Хуткая дапамога» дзяжурыла каля яго дачы ў Белых Берагах не для таго, каб выратаваць, а каб знішчыць, як калісьці зрабілі з Фрунзе.

Родзічаў заявіў у абкаме, што ў яго ёсць каналы, па якіх ён перадасць паведамленне за мяжу.

Карацей – я выйшаў на волю.

Нам далі кватэру ў цэнтры Бранска з умовай вымятацца з горада партызанскай славы!

Наш выпадак не выключны. Гэта стыль работы бранскай улады. Міліцыя затаптала да смерці героя-партызана Зебалава, які не мог абараняцца – у яго не было рук…

«Гестапаўцы» не панеслі пакарання. І за тое, што адбылося са мной, іх ніхто не судзіў. А трэба было б… І хто адкажа за тое, што ў Расіі адабралі вялікага паэта? Але… «Любая Тэмза, цішэй. Не скончыў я песню маю», як пісаў Томас Стэрнс Эліот.

Мы памянялі кватэру на Гатчыну. Там будзе спакайней. Піцер – не Бранск. Стане вядома ўсяму свету, калі зноў буду арыштаваны.

Снежань. Пабітае акно. Дзве свечкі на падлозе. Гэта наша гатчынская кватэра. Падрабязна аб жыцці ў Гатчыне я расказаў у аповесці «Гатчинские призраки». Не буду паўтарацца. Толькі сёе-тое. Я звярнуўся да Грамыкі з патрабаваннем судзіць бранскіх бандытаў, якія кінулі мяне ў псіхушку. Запатрабаваў выдання кніг. Хутка Грамыка выйшаў з Палітбюро. А я быў зноў арыштаваны.

Калі чытаць аўтабіяграфічную кнігу Набокава «Другие берега», то відаць, як ён сумуе па родных мясцінах. Ён не ведаў, што зараз там творыцца. Ува што ператварылася Расія.

Раніцай мяне ўвялі ў залу, поўную халатаў. Голас – да чаго знаёмы – прарыпеў:

– Уявіце, што гэта – журналісты, да якіх вы звярталіся.

– Што ж, мне цікава зірнуць у вочы людзей, якія баяцца праўды.

– Такім чынам, вы нарадзіліся ў Алтаі…

– На Алтаі, – паправіў я.

– Ваша меркаванне аб псіхіятрыі?

– Дрывасек, які размахвае сякерай у крыштальным палацы.

– Розніца паміж Талстым і Дастаеўскім?

Я сказаў: Талстой – здаровая норма. Дастаеўскі – чалавек з факелам у дрыжачых руках, які спускаецца ў чорнае падзямелле чалавечай псіхікі.

Потым я абурыўся прымітыўнасці пытанняў. За каго вы мяне прымаеце?

– Тут пытанні задаём мы.

Мяне адпусцілі. Я думаў – на волю. Раптам нейкі паварот – і я ў цесным пакоі. Перада мной стол. За сталом тройка. Гэтыя, падаецца, пасур'ёзней. І доўга лясы тачыць са мной не збіраюцца. Усяго адна фраза, але якая!

– Вы выходзіце дзякуючы просьбе Міхаіла Сяргеевіча, але ён для нас – не аўтарытэт.

Дастаткова зразумела сказанае: у СССР улада належыць КДБ, а Палітбюро, урад, генсек – для выгляду.

Я выйшаў на волю, але ці была гэта воля?

У мяне не было ў Гатчыне ні аднаго знаёмага, акрамя імператара Паўла. Бронзавага помніка насупраць Палаца-музея, дзе мастаком-афарміцелем уладкавалася Алена. Часам я дапамагаў ёй маляваць афішы. У Палацы мне падабаўся толькі партрэт Марыі Фёдараўны, некалі напісаны Баравікоўскім. А больш за ўсё мне падабаўся Прыарацкі палац за яго інтымнасць, лірызм, адзіноту.

У думках гутарыў я з прывідамі мінулага. Аднойчы я падцікаваў момант, калі камячылася нешта ў паветры, якое не можа ўвасобіцца.

Фофанаў, Купрын з'яўляліся мне. Яны, вядома, былі больш жывыя, чым многія жыхары Гатчыны.

На сходах бачыў Ліхачова. Але мяне больш цікавілі Б. А. Рыбакоў і Леў Гумілёў. Аднойчы прывітаўся з Пікулем, прыняўшы яго за іншага чалавека.

Канецкі ў кнігарні пісьменніка вітаўся са мной, але я не ведаў, што гэта Канецкі. Запомніўся лёгкі, светлы, добразычлівы Міхаіл Дудзін.

На сходах заўсёды побач са мной садзілісяВаскабойнікаў і Гордзін, але за некалькі гадоў я так з імі і не пазнаёміўся. Пазней я даведаўся, што Якаў Гордзін быў сябрам Іосіфа Бродскага.

Бродскага ўпершыню я пачуў у Бранску. Быў у Алены транзістар. Пакруціў я нейкі рычажок, і раздаўся плаксівы голас, які чытаў вершы. Я вырашыў паслухаць. Вершы былі, на мой тагачасны погляд, нікуды не вартыя, а чытанне і таго горш. Вядучы перадачы сказаў, што Іосіф Бродскі – малады паэт. За складанне вершаў у СССР яго кінулі ў псіхушку, а потым адправілі ў ссылку. Зараз ён жыве ў ЗША. Піша, выдаецца. Мне было шкада літаратара. «І чаго прычапіліся да хворага, – думаў я. – Няхай бы пісаў, калі хоча. Дык не, здзекваліся». І раптам – Нобелеўская прэмія! У друку замільгацелі вершы. Я чытаў «Рождественский романс», «Ты поскачешь во мраке…», «Памяти Жукова» і думаў: выдатныя вершы.

Нeяк мяне запрасілі на секцыю паэзіі. Убачыў я семдзесят паэтаў у адной зале. Устаў і сказаў, што не бывае такога. Раней у Піце-

ры было некалькі паэтаў – Блок, Гумілёў, Анненскі, Клюеў, Ясенін, але гэта былі паэты.

Жанчына ў інваліднай калясцы глядзела на мяне з Срэбнага стагоддзя, і ў яе вачах не было асуджэння. Гэта была Ірына Адоеўцава, якая вярнулася на радзіму.

Яўген Еўтушэнка прыехаў у Піцер. Стоўпатварэнне народаў каля «Юбілейнага». Чытаў па-майстэрску. Было што чытаць.

Неяк разгарнуў «Огонёк». Тады ён быў самым папулярным часопісам. Потым ператварыўся ў глянцавую поскудзь. На старонцы яго знайшоў вершы. Бэла Ахмадуліна прапаноўвала ўвазе чытачоў правінцыйнага паэта. Прачытаў – ахнуў. І Алену закранулі выдатныя вершы. Пачалася перапіска. Потым слухалі яго ў Доме пісьменніка. Але не падышлі да Барыса Чычыбабіна.

Ад трэцяга арышту мяне выратаваў Віктар Пятровіч Астаф'еў, які надрукаваў мае вершы ў маскоўскім часопісе «Смена». Праз гады дзякую Міхаіла Кізілава, цяперашняга рэдактара, за гэты мужны ўчынак.

У той змрочны час падтрымкай нам былі лісты Праскурына, Прокушава, Кулікова, Акуджавы. Ніл Гілевіч даў камандзіроўку для выступленняў у раёнах, што пацярпелі ад аварыі на ЧАЭС. Тады мала было жадаючых ехаць у Нароўлю, Хойнікі, Чачэрск… Хто арганізоўваў гэтыя выступленні? Міхась Башлакоў. На ленінградскіх вакзалах устанавілі лічыльнікі. Калі я праходзіў – зазвінела…

Некалькі слоў аб крушэнні савецкай імперыі. Галоўная бясспрэчная заслуга належыць дзвюм асобам: Гарбачову і Кручкову. Другі не арыштаваў першага. Бяздзейнасць КДБ пры змове ў Белавежскай пушчы пацягнула за сабой усё далейшае. Трэба было не на Фатнева паляваць, а арыштаваць непасрэдных віноўнікаў. Я па-ранейшаму лічу: сацыялізм захаваў шанцы на будучыню. Капіталізм амаральны. Усе яго героі – алігархі-крымінальнікі. Яны абрабавалі народ, які раней мы звалі савецкім. Народ мае права ўзяць уладу ў свае рукі. Зараз у яго больш падстаў для гэтага, чым у 17-м годзе. Найбольш разумным, абачлівым аказаўся беларускі народ.

Я не збіраюся эміграваць у ЗША. Не чакаюць мяне і ў Германіі. Але ёсць у мяне радзіма, якой ёсць што сказаць. Чаму мае раманы «Ладья Харона», «Кумиры творяху», «Брянские волки», «Убегающий лось», аповесці «Бусел-колода», «Небесные горы», славянскія міфы, многія вершы дагэтуль не апублікаваныя? Я пішу не слабей за лаўрэатаў Нобелеўскай прэміі. І ў іншых пісьменнікаў ёсць свае праблемы.

Калісьці мой прыход у літаратуру прывіталі Юрый Гагарын і Самуіл Маршак.

Зараз снежань 2008 г.

І зноў бязлюддзе. Не на дванаццаць – на тысячы кіламетраў. І нябачны я ні з Зямлі, ні з космасу. Да каго звярнуцца? Ці прыйдуць мае кнігі да людзей?

*15.12.2008 года*

---

*Напісана на рускай мове. Пераклад зроблены ўкладальнікам.



***Федасеенка***
***Уладзімір Канстанцінавіч***

# ЖЫЦЦЁВЫЯ ШЛЯХІ-ДАРОГІ

Некалі ў аўтабіяграфіі я пісаў, што нарадзіўся ў пасёлку Бор, хаця гэта не так. На самай справе Бор – гэта невялікі хутар, дзе было ўсяго некалькі хат. Ён знаходзіўся ў кіламетрах трох ад даволі вялікай вёскі Мормаль.

Мой бацька Канстанцін Васільевіч Федасеенка ў часы нэпа працаваў у Жлобіне на гарбарным заводзе і жыў на кватэры. Мая маці Юлія Андрэеўна Матросава, якую чамусьці запісалі як Андросава, ездзіла да бацькі з хутара ў Жлобін. Па дарозе са Жлобіна дадому я і з'явіўся на свет 22 красавіка 1926 года ў вёсцы Мормаль, у чужой хаце. Мой хутар даўно не існуе. І вось чаму я пішу цяпер пра месца свайго нараджэння – вёска Мормаль Жлобінскага раёна.

У пачатку мінулага стагоддзя мой бацька закончыў чатыры класы Мормальскай царкоўнапрыходскай школы (у 2000 годзе адзначаўся стогадовы юбілей гэтай школы). У Першую сусветную вайну бацька ваяваў на Заходнім фронце. Недзе каля Картуз-Бярозы

быў паранены і лячыўся ў Пецярбургу. Потым Грамадзянская вайна. Вярнуўся дадому ў 1922 годзе. Тады ж і ажаніўся. У бацькоў нарадзілася чацвёра дзяцей: Аляксандра, Уладзімір, Раман, Мікалай. Сястра Аляксандра працавала выхавацелем у дзіцячым садзе, жыла ў Падмаскоўі. Брат Раман быў дырэктарам Лідскага электрамеханічнага завода, трагічна загінуў. Брат Мікалай быў намеснікам дырэктара Навукова-даследчага інстытута электронікі, цяпер на пенсіі.

Я закончыў восем класаў у Мормалі і ўступіў у камсамол. Пачалася вайна. Мой дзядзька Афанасій Гаўрылавіч Мартынаў, стары камуніст, старшыня калгаса «Чырвоны баец», быў з адной вёскі і сябраваў з загадчыкам ваеннага аддзела Жлобінскага райкома партыі Георгіем Васільевічам Злынавым. Дзядзька прапанаваў мне паехаць у Жлобін да Злынава, які быў прызначаны камісарам знішчальнага батальёна ў Жлобінскім раёне. Пасля размовы са Злынавым я ўступіў у знішчальны батальён. Я павінен быў збіраць разведданыя. Вёскі на поўдзень ад Жлобіна ўжо былі акупіраваны немцамі. Я пранікаў ў тыя вёскі пад выглядам пастушка. Хадзіў у латаных штанах, старой выцвілай сарочцы, босы, з пугай і прыносіў каштоўныя звесткі аб размяшчэнні нямецкай артылерыі. І вось аднойчы (я не ведаў, што ўначы быў бой і немцы прасунуліся на ўсход ад Жлобіна) толькі выйшаў з балота на шлях, як пачуўся крык «Хальт!». Немец наставіў на мяне аўтамат. Я падняў рукі ўгору. Да мяне падышоў з біноклем на грудзях унтэр-афіцэр. Ён абмацаў мае кішэні і паказаў, каб я ішоў уперадзе яго на пагорак. На пагорку, на абочыне дарогі ляжалі пасінелыя трупы гітлераўцаў. Салдаты капалі магілы, а некаторыя рабілі з бярозак крыжы. Унтэр, які прывёў мяне, паклаў на абочыну свой аўтамат, узяў вінтоўку, якая ляжала там, загнаў у канал ствала патрон і падышоў да мяне. На другім баку дарогі была глыбокая яма, закіданая камянямі і ламаччам. «Вось туды», – паказвае мне унтэр, каб я лез. Я зразумеў, што расстраляе, і не лезу. Ён раззлаваўся і ствалом вінтоўкі зачапіў маю сарочку, разарваў яе. Але я выкруціўся і стаю на дарозе. Раптам салдат, які рабіў крыжы, штосьці крыкнуў і ўстаў. Унтэр узняў галаву і хуценька пабег, паклаў вінтоўку і схапіў аўтамат. Па дарозе, узнімаючы пыл, імчала легкавая машына з адкрытым верхам. Усе салдаты падбеглі да дарогі. Машына спынілася, з яе выйшаў нямецкі генерал. «Мой» унтэр штосьці адрапартаваў яму. І мне запомнілася, як ён працягнуў генералу чорны бінокль, а той браў яго рукамі ў бялюткіх пальчатках. Генерал прайшоў па пярэднім краі, паглядзеў у бінокль. Нашы чырвонаармейцы былі за балотам, кіламетры за два. Генерал пайшоў да машыны. За ім увесь час хадзіў афіцэр з аўтаматам. Я ста-

яў з узнятымі рукамі каля ямы. Бачу, афіцэр накіраваўся да мяне, а потым махнуў рукой, каб я крочыў да машыны. Генерал сеў наперадзе, а мне афіцэр адчыніў заднія дзверцы і загадаў садзіцца. Я ехаў з узнятымі ўгору рукамі. Прывезлі мяне туды, куды я і хацеў патрапіць. Невялікі сасновы лес, запоўнены павозкамі, каля іх – укормленыя куцахвостыя коні, мноства салдат. Тут жа каля лесу раней размяшчалася МТС, стаяў барак, ужо без вокнаў і дзвярэй, абгароджаны калючым дротам. Там сядзелі нашы палонныя. У мяне нейкі нямецкі афіцэр запытаў: «Ты, парэнь, бежаль сказать немецкому зольдату, где большвистский зольдат ест». Я адказаў, што ў мяне тут у вёсцы жыве цётка і я бег да яе. Мяне завялі і ўпіхнулі ў барак, дзе амаль адзін на адным былі чырвонаармейцы. Ляжалі мёртвыя, стагналі параненыя. Праўда, хутка падышла машына, туды пагрузілі мёртвых, параненых і кудысьці павезлі. Нас жа (а гэта чалавек пятнаццаць) праз пару дзён пагналі ў вёску Галы. Там мы сядзелі ў гумне ў ёўні. Да нас там ужо былі палонныя. Недзе тыдні праз два палонных пасадзілі ў вялізную крытую машыны і павезлі у бабруйскі лагер. Па дарозе мне ўдалося ўцячы і прыйсці на Жлобіншчыну.

Хутка я сустрэўся са Злынавым і Харамецкім, які таксама быў у знішчальным батальёне. Абодва яны былі пакінуты па лініі ЦК КПБ у тыле ворага для падпольнай работы і арганізацыі партызанскага руху. Адным з першых партызанаў у іх быў я. Збіраў зброю, рабіў засады. Да вясны 1943 года я ўжо быў камандзірам дыверсійнай групы. З групай пусціў пад адхон дзесяць варожых эшалонаў, узарваў воданапорную вежу ў Жлобіне. Узарвалі і спалілі мост цераз прыток Дняпра. Там жа спалілі паліцэйскі ўчастак і ўзялі ў палон шаснаццаць паліцаяў. Пасля падрыву дзесятага эшалона з жывой сілай я дапусціў памылку. З вагонаў пачалі выскокваць немцы. Я не вытрымаў і даў чаргу з аўтамата. І мяне з ахоўнай байніцы засеклі і накрылі з мінамёта. Я згубіў прытомнасць. Хлопцы падабралі мяне і даставілі ў вёсачку Курган. Адтуль на кані – пад Рэчыцу. Там мы злучыліся з Савецкай Арміяй. Я быў накіраваны ў эвакашпіталь за Гомель, лячыўся.

Потым паступіў у Гомельскі рачны тэхнікум. Пасля тэхнікума працаваў у Гомельскім абкоме камсамола. У 1947 годзе паступіў у Мінскі юрыдычны інстытут. Вучыўся год. Не вучыўся, а пакутаваў, галадаў. Трыццаць пяць рублёў стыпендыі і без інтэрната. Мой бацька прыйшоў з вайны, пачаў будаваць хату, бо наша была спалена як хата партызанскай сям’і. Я ездзіў на таварную станцыю разгружаць вагоны, каб крыху зарабіць і купіць абутак. У 1948 годзе якраз быў набор у Рэспубліканскую партыйную школу. Я пайшоў у ЦК КПБ да загадчыка аддзела прапаганды Мікалая Арцёмавіча Халіпава.

Мы былі з ім знаёмыя. Ён працаваў у Гомельскім абкоме партыі, а я – у абкоме камсамола. Халіпаў ваяваў на Ленінградскім фронце. Кандыдат філасофскіх навук. Гэта быў вельмі добры чалавек. Ён мне паведаміў, што ў партыйную школу студэнтаў не бяруць, трэба інстытут з біяграфіі выкінуць. І ён мяне накіраваў як супрацоўніка Гомельскага абкома камсамола. Я паступіў у партшколу. У юрыдычным інстытуце перавёўся на экстэрнат. Здаў яшчэ адзін прадмет, а потым кінуў. У партшколе я ажыў, пашыў сабе касцюм, купіў абутак. Па заканчэнні мяне ўзялі у ЦК камсамола ў сектар друку, дзе выконваў абавязкі загадчыка сектара. З 1952 года працаваў на розных пасадах у зазетах «Піянер Беларусі», «Настаўніцкая газета», «Літаратура і мастацтва», часопісах «Сельская гаспадарка Беларусі», «Беларусь», выдавецтве «Беларусь». У 1979 годзе пайшоў на пенсію як інвалід вайны з пасады старшага рэдактара часопіса «Беларусь».

Свой першы раман «Дубовая града», прысвечаны падзеям Вялікай Айчыннай вайны, напісаў у 1962 годзе. Рукапіс рамана ўхвалілі Аркадзь Чарнышэвіч, Іван Шамякін, Нічыпар Пашкевіч. Але, як ні дзіўна, некалькі гадоў раман праляжаў без руху ў выдавецтве «Беларусь» і пабачыў свет у 1965 годзе, толькі дзякуючы Пятру Міронавічу Машэраву, які прачытаў раман і высока ацаніў яго. У другім сваім рамане «Віхры на скрыжаваннях», што выйшаў у 1970 годзе, я расказаў аб далейшых жыццёвых шляхах-дарогах галоўнага героя рамана «Дубовая града» Валодзі Байкача.

Абодва раманы атрымалі станоўчыя водгукі, і мяне ў 1972 годзе прынялі ў Саюз пісьменнікаў Беларусі. З удзячнасцю згадваю Івана Паўлавіча Мележа і Піліпа Сямёнавіча Пестрака (светлая ім памяць!), якія далі высокую ацэнку маёй творчасці і падтрымалі мяне.

У 1975 годзе выйшаў з друку раман «Пасля смерчу», у якім распавядаецца гісторыя трагічнага кахання маладых людзей Рамана Зіміна і Надзі Валенцік у апошнія ваенныя і першыя пасляваенныя гады. Адкрыю сакрэт, што ўсе мае раманы ў значнай ступені аўтабіяграфічныя.

У чацвёртым рамане «Мутныя росы» (1999) уздымаюцца многія балючыя праблемы пасляваеннай вёскі і нашага часу. Тэма чалавека і прыроды, іх цеснай узаемасувязі, бяздумна-варварскіх адносін да прыроды чырвонай ніткай праходзіць праз увесь раман. Асабліва ўдаўся ў «Мутных росах», як мне здаецца, ды і крытыкі адзначаюць таксама, вобраз Цераха – палешука, нястомнага працаўніка, стваральніка па натуры і праўдалюбца, якому давялося пабачыць нямала гора і які, нягледзячы на ўсе цяжкасці, напасці і беды, застаецца сумленным чалавекам…

Але самыя лепшыя мае творы – гэта, безумоўна, мае дзеці. Дачка Тамара – мастак па касцюмах, член Беларускага саюза кінематаграфістаў. Сын Аляксандр – урач, хірург. У іх ёсць таксама дзеці і нават унукі. Так што я ў гэтым плане даволі шчаслівы чалавек.

На літаратурных сустрэчах, калі я расказваю пра сваё ваеннае юнацтва, мне часта задаюць пытанне, якія ў мяне ёсць ўзнагароды. Дык вось, напрыканцы гэтых кароткіх аўтабіяграфічных нататкаў я і адкажу на гэтае пытанне. Я ўзнагароджаны ордэнамі Айчыннай вайны I ступені, Чырвонай Зоркі, медалямі «Партызану Айчыннай вайны» I, II ступені, Францыска Скарыны і інш. З’яўляюся ганаровым грамадзянінам горада Жлобіна.

*Снежань 2008 года*



***Чарняўскі***
***Мікола Мікалаевіч***

# ПАД ЗНАКАМ ВАСІЛЬКА, АЛЬБО ПРА ТОЕ, ШТО НЕ ЗАБЫВАЕЦЦА

Напэўна, не адзін я, беручыся за аўтабіяграфічныя нататкі, міжволі задумваўся: з чаго пачаць? Што прыгадаць, адзначыць, што пакінуць толькі ў сховах сваёй памяці: можа, ужо не такое значнае, істотнае, нават другараднае, не вартае належнага ўспаміну, асэнсавання? Аднаго, відаць, ніяк не абмінеш, не забудзеш успомніць: таго самага дня, калі з’явіўся на свет, тых мясцін, дзе прайшло тваё маленства, адкуль бярэ пачатак сцяжынка ў шырокі свет жыцця, у якім чакаюць цябе невядомасць лёсу, безліч выпрабаванняў і хваляванняў, тое, што ты абавязкова павінен прайсці.

Таму пачну адразу.

Нарадзіўся я 16 студзеня 1943 года ў вёсцы Буда-Люшаўская Буда-Кашалёўскага раёна Гомельскай вобласці ў сялянскай сям’і. Наша сям’я, у якой гадавалася шасцёра дзяцей – пяць братоў і сястра, – рана асірацела. Мне было сем гадоў, калі памерла маці. Гэта здарылася зімою, а ўжо недзе пад восень бацька пры-

вёў у хату мачыху: трэба ж было некаму прыглядаць за намі. Пры ёй пайшоў у школу.

Жылі бедна, як і большасць вяскоўцаў. Былі рады асцюкаватай скарынцы хлеба, кожнай бульбіне. Прычакаўшы вясны, збіралі яе, гнілую, таўклі у ступе, пяклі «пышкі», як у нас казалі. Сваёй хапала ў гэты час толькі на пасадку. Выручала шчаўе, поліўка з яго: падбеленая малаком, нярэдка была ў хаце і сняданкам, і абедам, і вячэрай.

Бацька з лета ў лета пастухаваў у калгасе. Працадзён зарабляў многа, але ж на іх тады мала чаго давалі. Ні таго збожжа, ні тых грошаў. Ад ранняй вясны да позняй восені бегалі босыя. Зрэбная кашуля, латаная-пералатаная світка – ці не лепшым апранкам даводзіліся. А за што купіць абноўку якую, калі ўсё з хаты забіралі няўмольныя падаткі? Фінінспектар па мянушцы Піковы выграбаў з куфра нават трубы натканага за зіму палатна, каб такім чынам прымусіць гаротнага гаспадара хоць з-пад зямлі дастаць колькі чырвонцаў, вярнуць забранае. На ўсё жыццё ўрэзался ў памяць, як аднаго разу бацька схапіў сякеру і кінуўся ў сад ссякаць маладыя яблыні, бо яны таксама абкладаліся падаткам…

Зыходзячы з усіх памянёных абставін, смак пастухоўскага хлеба я напоўніцу зведаў змалку. Ад рання да змяркання гойсаў з пугаю за статкам у полі, то падмяняючы бацьку ў пару сенакосу ды жніва, то падрабляючы на падручнікі ды на такую-сякую адзежыну ці чаравікі, адпасваючы за вяскоўцаў радоўкі. Аднак гэты нялёгкі, не такі ўжо вясёлы час успамінаецца ўсё ж з нейкім асаблівым пачуццём: кожны раз, выганяючы ў поле статак, клаў у торбачку з полуднем адну ці дзве кніжкі, якія браў у небагатай школьнай бібліятэцы або ў вясковай хаце-чытальне. Знаходзілася ў той торбачцы і месцейка для запаветнага агульнага сшытка, куды, седзячы на купіне ці пад стогам, запісваў вершаваныя радкі, што прыходзілі ў душу ад сустрэчы з харaством летніх світанкаў і надвячоркаў, з васількамі на жытнёвых узмежках і сцежках.

Беліцкая сярэдняя школа, куды пайшоў вучыцца, скончыўшы сямігодку ў роднай вёсцы, знаходзілася за 13 кіламетраў ад нашай Буды, ужо ў суседнім Рагачоўскім раёне. Матавозам, які падвозіў па вузкакалейцы рабочых торфапрадпрыемства «Беліцкае», а нярэдка і пехатою, кожны дзень, у дождж і завею ды мароз даводзілася дабірацца на заняткі ў школу, вяртацца прыцемкамі з яе пад марш галоднага жывата, бо мала ў каго вяліся грошы, каб можна было нечага прыкупіць у школьным буфеце ці ў пасялковай рабочай сталоўцы.

Менавіта ў час вучобы ў Беліцкай СШ найбольш сур’ёзна праявілася цяга да вершаскладання. Нямала паспрыяў гэтаму выкладчык рускай літаратуры Георгій Раманавіч Голухаў. Апрача свайго

прадмета ён сэрдцам любіў паэзію, усяляк імкнуўся падтрымаць тых вучняў, што цікавіліся ёй, спрабаваў займацца рыфматворчасцю. Пад яго непасрэдным прыглядам працаваў у школе літаратурны гурток, выходзіла насценгазета, выдаваліся рукапісныя альманахі, дзе змяшчаліся першыя пробы пяра нашы, пачаткоўцаў. Падахвочаны такой магчымасцю друкавацца, я нават прыдумаў для свайго літаратурнага выдання эпіграф. Эпіграф быў вершаваны, прасякнуты пэўнай філасофскасцю ў дачыненні да свайго паэтычнага захаплення: «Хаця не звонкі яшчэ маю голас, не вельмі цвёрдая мая рука, ды знаю: з зерня вырастае колас, рака бярэ пачатак з ручайка». З тым, што пісалі, часцяком выходзілі на людзі: літаратурныя вечарыны ладзіліся ў школе, ездзілі з выступленнямі да суседзяў – у вёскі Гарадзец, Стоўпню.

Знаёмства з творчасцю такіх жа пачаткоўцаў, як і я, чые вершы часта друкаваліся ў газетах «Піянер Беларусі» і «Зорька», падштурхнула мяне таксама паспрабаваць удачы на іх старонках. З нецярпеннем чакаў адказаў з рэдакцыі. Адказы прыходзілі, ды не заўсёды суцяшальныя для зялёнага пачаткоўца. Шмат было крытычных заўваг. Здзіўляюся цярплівасці, якую праяўлялі ў адносінах да маіх паэтычных дамаганняў Хведар Жычка і Міхась Герчык, разбіраючы іх, прыдзірліва, грунтоўна, падказваючы нават, як вызначаць рытміку радкоў, бо гэты рытм чамусьці, як дрэнна падкаваны конь, часта «кульгаў». Памятаю, Міхась Герчык не-не ды апрача ўсяго астатняга не забываў нагадаць, што ў маіх рускамоўных вершах часта сустракаюцца беларускія словы. Параіў выбраць нейкую адну мову: ці рускую, ці беларускую. Што я ўрэшце і зрабіў.

Першы мой верш надрукаваны ў газеце «Піянер Беларусі» 18 ліпеня 1958 года. І называўся – «Васілёк». Усяго восем радочкаў.

Пасяліўся ён у збожжы,
І віднеецца здалёк
Такі сіненькі, прыгожы –
Беларускі васілёк.
Пад праменнем жыта спее,
Долу гнуцца каласкі.
Васілёк між іх сінее,
Як нябесны той блакіт.

Забягаючы наперад, хачу прывесці такую дэталь, магчыма, цікавую для ўсіх, хто прачытае гэтую аўтабіяграфію: вобраз сінявокага васілька, дата яго з’яўлення ў друку, сталі ў маім далейшым жыцці, можна сказаць, па-свойму зорнымі, знакавымі: пад дэвізам «Васілёк» я двойчы станавіўся лаўрэатам рэспубліканскіх закрытых конкурсаў на лепшы твор для дзяцей і юнацтва, менавіта 18 ліпеня, але ўжо 1970 года, нарадзіўся мой сын-першынец Саша, чаму я таксама быў бязмежна рады…

«Асада» рэдакцый працягвалася, і праз нейкі час з’явіліся публікацыі ў газеце «Зорька», а таксама ў часопісе «Вясёлка», куды я дасылаў вершы і празаічныя абразкі. Асабліва мяне, дзесяцікласніка, дзіўна ўзрадавала «Вясёлка»: змясціла адразу два вершы – «Дзяжурны» і «Простая навука», ды на ўсю старонку! Яшчэ больш уразіў ганарар, што атрымаў я, – аж чатырыста «сталінскіх» рублёў. Іх хапіла на тое, каб колькі разоў адведаў у пасялковай сталоўцы смажанай траскі і чаю з булачкай, а сястра Рыма, можа, дабавіўшы трошкі сваіх, купіла ў Гомелі прыстойны касцюм, у якім я потым прыехаў у сталіцу вучыцца.

Будучы школьнікам, шмат друкаваўся ў раённай газеце «Ленінскі шлях»: вершы, нарысы, фельетоны, карэспандэнцыі, рэцэнзіі-водгукі на новыя кнігі. Сёе-тое з допісаў змагло прабіцца і на старонкі рэспубліканскіх газет «Калгасная праўда» і «Чырвоная змена». Як на ўсё пісанне хапала часу і цярпеня – сам цяпер здзіўляюся!

Напэўна, рэдакцыя «Вясёлкі» праспрыяла таму, што ў чэрвені 1960 года мяне раптам выклікалі на рэспубліканскую нараду дзіцячых пісьменнікаў. Вельмі хацелася паехаць у Мінск, сустрэцца з жывымі пісьменнікамі, з тымі, каго я ўжо ведаў па перапісцы, але, на вялікі жаль, не ўдалося: якраз здаваў выпускныя экзамены. Аднак тым жа летам мне ўсё ж пашанцавала: я пабываў у рэдакцыі «Вясёлкі», дзе ўпершыню ўбачыў Янку Маўра, чыімі творамі зачытваўся змалку, Васіля Вітку, Артура Вольскага, знаёмага па рэдакцыйных лістах Алеся Пальчэўскага.

Хачу больш падрабязна згадаць пра сустрэчу з апошнім.

Калі зайшоў у рэдакцыю, насустрач мне ступіў з-за стала высокі, пажылы, з сівізной у валасах, але з прыветным паглядам вачэй дзядзька. «Алесь Пальчэўскі», – назваўся ён. І я сумеўся. Па апавяданнях у часопісе «Вясёлка», якія друкаваліся даволі часта, я думаў, што ён малады аўтар, бо раней чамусьці не сустракаў яго імя ні ў друку, ні ў школьных чытанках. А тут – пажылы, у гадах пісьменнік перада мною, той, хто парадаваў мяне мінулым летам нечаканай навіной: мае вершы будуць надрукаваны ў лістападаўскім нумары. І Алесь Восіпавіч, па-мойму, крышку сумеўся. Ён уяўляў мяне ўжо дарослым, сталым аўтарам, настаўнікам, а перад ім – учарашні школьнік. Прызналіся ў сваіх думках-меркаваннях і рассмяяліся абодва.

Чаму так атрымалася? Сакрэт быў просты: і я, і мае равеснікі ў той час лічылі маладымі, адкрываючы іх для сябе ўпершыню, многіх пісьменнікаў, хто ў змрочныя 30-ыя зведаў пакуты і жахі сталінскіх рэпрэсій, сібірскіх высылак, а потым, вярнуўшыся на радзіму, нанава пачынаў свой творчы лёс, каму, канешне, пашан-

цавала выжыць… Алесь Пальчэўскі – адзін з іх. Але пра гэта я даведаўся пазней.

Пры паступленні ў БДУ імя Леніна не пашанцавала двойчы. Спачатку не прынялі дакументаў на аддзяленне журналістыкі, куды я марыў паступіць вучыцца, – па правілах прыёму не было ў мяне двухгадовага працоўнага стажу. Тая вязанка публікацый, што прыклаў да заявы, не змагла пераканаць прыёмную камісію, каб зрабілі па мажлівасці выключэнне: закон для ўсіх адзін. Параілі падацца на беларускае аддзяленне. Што і зрабіў. Аднак не дабраў на экзаменах патрэбных балаў і быў залічаны не на стацыянар, а на вячэрняе аддзяленне, якое толькі адкрылася ва універсітэце. Добра не ведаючы, што гэта такое, прыняў «выклік», прыехаў у Мінск. Аказалася, трэба шукаць самастойна прытулак, спалучаць вучобу з працай. Апынуўшыся ў ролі «вольнага студэнта», я зачасціў у рэдакцыю «Піянера Беларусі», у шэрую камяніцу па вуліцы Карла Маркса, 40, дзе знаходзіўся штаб беларускага камсамола – ЦК. Я мог гадзінамі праседжваць у крэсле каля акна, часам уступаючы ў размову, а нярэдка – моўчкі назіраць за працай людзей, якіх добра ведаў па шматлікіх газетных публікацыях, па пісьмовых адказах з рэдакцыі, пранікаючы ў таямніцы рэдакцыйнай «кухні», назіраючы за тым, як робіцца газета.

Неяк пад час такіх «пасядзелак» у пакой зайшла Наталля Сцяпанаўна Рокаш – рэдактар «Піянера Беларусі». Паглядзела праз акуляры, як няўцешна сумую ў прыаконным крэсле, сказала раптам: «Мікола, зайдзіце да мяне». Я ажывіўся: можа, у камандзіроўку пашлюць, ужо ж размова такая была ў рэдакцыі? А яна мне кажа: «На стаўку, нават на паўстаўкі ўзяць цябе не можам, бо іх няма ў нас цяпер, а вось ганарарам падтрымаць трохі зможам. Бачыў наш «Куток Васі Зацейкіна»? Яго ў нас вядуць усе па чарзе, а цяпер ты бярыся. Думаю, справішся. А з’явіцца якая вакансія – залічам цябе».

Наталля Сцяпанаўна, як і ўсе астатнія ў рэдакцыі, ужо ведала, што я рос без маці, у беднай сям’і, чакаць дапамогі з вёскі асабліва не выпадае, таму спагадліва паставілася да той сітуацыі, у якой я апынуўся, і, як я потым даведаўся, параіўшыся з усімі ў рэдакцыі, знайшла магчымасць менавіта такім чынам падтрымаць мяне фінансава і, напэўна ж, маральна, не дала скрушна апусціць крылы. Прайшло няшмат, і я таксама ў тым пакоі, дзе бавіў час у «пасядзелках», займаў сваё месца, свой стол.

За паўтара года, што правёў у рэдакцыі газеты «Піянер Беларусі» (з двума кароткачасовымі пераходамі ў «Зорьку», дзе вызваляліся вакансіі з вышэйшымі стаўкамі), я вельмі блізка сышоўся з людзьмі, якія там працавалі, шмат чаму навучыўся ў іх. І з радасцю, і з вялі-

кай трывогай браўся заўсёды за літаратурную пошту. Хоць Васіль Зуёнак – загадчык аддзела, пераемнік Хведара Жычкі – перад тым як аддаць адказы на машынку, пасля мяне сам іх прачытваў і нярэдка папраўляў, хвалявання было нямала: ці спадабаліся мае адказы, ці грунтоўныя, пераканаўчыя, як гэта ўмелі рабіць Хведар Жычка дый сам Зуёнак? Так воляй-няволяй вучыў іншых працаваць над вершамі і вучыўся гэтаму сам.

Тут, у «Піянеры Беларусі», у вольны час, калі ўсе разыходзіліся дадому, я на старой машынцы спасцігаў майстэрства друкавання, адстукваючы адным пальцам радкі свайго першага зборніка вершаў для дзяцей «Дзе лета канчаецца». Ён выйшаў у 1963 годзе, калі мне толькі стукнула дваццаць. На той час яго з'яўленне выглядала нейкай неверагоднай выпадковасцю, бо прабіцца ў выдавецтва, трапіць у тэмплан было неймаверна цяжка. Ды кніжка выйшла. Не ведаю, колькі б я чакаў такога свята, каб не сяброўская падтрымка, якая нечакана паспрыяла стаць мне «ранняй птушкай» у дзіцячай паэзіі.

Было ўсё так.

Пры рэдакцыі газеты «Чырвоная змена» тады вельмі дзейсна працавала літаратурнае аб'яднанне. На пасяджэнні ў Доме друку збіраліся Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Юрась Свірка, Янка Сіпакоў, Уладзімір Паўлаў, Сымон Блатун, Кастусь Цвірка, Сцяпан Гаўрусёў, Васіль Макарэвіч – паэты, якія паспелі ўжо чынна заявіць пра сябе, адзначыцца першымі кніжкамі. Кіраўнічыя лейцы трымаў у руках такі ж малады Іван Калеснік, які на той час займаў у рэдакцыі пасаду загадчыка літаратурнага аддзела. Стаўшы студэнтамі, блізка пазнаёміўшыся ў інтэрнаце па вуліцы Свярдлова, прыходзілі на пасяджэнне і мы, яшчэ маладзенькія, мала абстраляныя ў творчасці: Мікола Маляўка, Хведар Чэрня, Анатоль Сербантовіч, Марыя Шаўчонак, Міхась Зарэмба, Мікола Міцкевіч і іншыя. Праўда, больш незалежна і самастойна трымаўся адзін з нас – Толя Сербантовіч. У яго на гэта былі прычыны – яго вершы вылучаліся сярод нашых сваёй паэтычнай адмысловасцю, нечаканасцю вобразаў і параўнанняў. Ды ў Маляўкі яшчэ…

Восенню 1961 года, на адным з пасяджэнняў літаб'яднання, прайшло абмеркаванне маіх вершаў (разбіралі ўсіх пачаткоўцаў па чарзе). Розныя водгукі былі. Адзначалася і добрае, і няўдалае. Самі пачаткоўцы дужа не цырымоніліся, разбіралі прыдзірліва, да самых костачак. Не было скідкі і ў дачыненні да мяне. Аднак у той разчамусьці ўсе прыйшлі да думкі, што мае дзіцячыя вершы вартыя таго, каб іх выдаць асобнай кніжачкай, ад імя літаб'яднання прапанаваць іх выдавецтву. Вызначылі куратара, як сказаў Юрась Свірка, – «хроснага бацьку».

«Збяры ўсё, што лічыш лепшым, пакажы мне, а потым занясеш у выдавецтва», – сказаў пасля пасяджэння Рыгор Барадулін. Ён паспеў ужо выдаць дзве ўласныя кніжкі і, нягледзячы на малады ўзрост, карыстаўся аўтарытэтам.

Я сабраў свой «скарб». Прагледзеўшы яго, дзе-нідзе падправіўшы, Рыгор Іванавіч напісаў пісьмо-суправадзілаўку на імя Авяр'яна Дзеружынскага, які працаваў рэдактарам выдавецтва і, мабыць, ужо меў з ім нейкія творчыя стасункі.

З дрыготкай ў каленях, з бояззю панёс я свой рукапіс у выдавецтва. Хваляванне прайшло, як толькі пераступіў парог рэдакцыі і аддаў свой рукапіс. І загадчык рэдакцыі Уладзімір Міхайлавіч Шахавец, і Авяр'ян Дзеружынскі, тут жа прабегшы мой рукапіс, сказалі: «Аснова кніжкі ёсць. А там – дабавіш яшчэ з новага, што напішацца. Будзем планаваць на 1963 год». І пісьмо-суправадзілаўку пакінулі: «Гэта замест рэцэнзіі будзе».

Праз няпоўныя два гады мая першая «ластаўка» вясною «выпырхнула» ў свет. Сустрэлі яе, чаго я, прызнаюся, не чакаў, прыветна. «Задушэўна, з пачуццём», – напісаў у «ЛіМе» Васіль Макарэвіч. «Ці канчаецца лета?» – запытвала ў сваім аглядным артыкуле Еўдакія Лось. Загаловак ішоў ад назвы маёй кніжкі «Дзе лета канчаецца».

Пройдзе яшчэ два гады – і адбудзецца мой дэбют у прозе: асобнай кніжкай выйдзе гумарыстычная аповесць «Бегунок пачынае думаць», напісаная па слядах нядаўняга школьнага дзяцінства. Яна, лічу, яшчэ болей падмацавала мой літаратурны статус – статус дзіцячага пісьменніка.

Здавалася, усё ішло гладка, я часта друкаваўся, аднак здараліся, як сёння кажуць, і «праколы».

На ўсё жыццё запомніўся ўрок Васіля Віткі: не трэба спяшацца. Памятаю, прынёс аднаго разу ў рэдакцыю «Вясёлкі» новыя вершы. Спярша прачытаў іх Сяргей Грахоўскі, потым Алесь Пальчэўскі, апошнім – галоўны рэдактар. Такая была завядзёнка – чыталі ўсёй рэдакцыяй, каб даць аўтару канкрэтны адказ: прымаюцца ці не. Дарэчы, гэта добрая, на мой погляд, традыцыя засталася ў рэдакцыі па сённяшні дзень.

Дык вось, прачытаў мае вершы Цімох Васільевіч, дзе-нідзе алоўкам кропачкі паставіў. «Рады за цябе, Мікалай, ты пачынаеш лепш адчуваць дзіцячую паэзію, душу дзіцяці, пачынаеш думаць. Давай і надалей старайся». Акрылены такой пахвалой знакамітага майстра-казачніка, я праз два ці тры дні прынёс у «Вясёлку» зноў каля дзесятка вершаў, якія напісаў за гэтыя дні ў запале нечаканага натхнення. На што спадзяваўся? Вядома ж, на новую пахвалу. Цяпер чамусьці чытаў іх Вітка даўжэй, чым папярэднія, нешта часцей

ставіў кропачкі вострым носікам алоўка, пасля зазначыў сумнавата: «Выходзіць, перахваліў я цябе, Мікалай (ён гаварыў не Мікола, не Коля, як Пальчэўскі і Грахоўскі, а Мікалай), ты толькі паглядзі сюды…» А мне ўжо і глядзець расхацелася: што да чаго – усё зразумеў адразу. Зразумеў: спяшацца можна тады, калі на цягнік спазняешся. А тут – чым хутчэй бяжыш, тым хутчэй усё перад вачыма мільгае, не прыкмеціш таго, што патрэбна было б… З таго часу верад на спешку памалу мінуўся…

Недзе ў сярэдзіне 90-х, калі Цімох Васільевіч пазваніў у рэдакцыю і цёпла адазваўся пра маю вершаваную нізку, змешчаную ў «Вясёлцы», я прыгадаў яму той даўні выпадак і падзякаваў. Ён, як мне падалося, усміхнуўся, а потым прамовіў: «Буду лічыць, што яшчэ адзін мой урок пайшоў на карысць, даў плён…» Я ж зноў, як тады ў маладосці, адчуў прыліў нечаканай радасці, нейкага ўзлёту, бо Васіль Вітка быў вельмі скупы на пахвалу. Праўда, на гэты раз я ўжо не кінуўся падмацоўваць пачутае вязанкаю новых вершаў. Як тады…

Мне пашанцавала на добрых і спагадлівых людзей. Не толькі ў рэдакцыях, дзе ў няпросты для мяне перыяд жыцця змог знайсці шчырую падтрымку, дзе атрымаў першыя ўрокі прафесійнага майстэрства, трымаў экзамен на самастойнасць і сталасць. Шчыра ўдзячны пісьменніку майго дзяцінства Алесю Шашкову. Зайшоўшы аднаго майскага дня 1962 года ў рэдакцыю газеты «Піянер Беларусі», даведаўшыся, што я знаходжуся тут «на птушыных правах», нечакана прапанаваў: «На радыё стварылася новая рэдакцыя, якая вядзе перадачы для беларусаў, якія жывуць за мяжой. На беларускай мове. Мне даручана весці аддзел культуры і мастацтва. Патрэбен чалавек. Пойдзеш да мяне рэдактарам?»

Як там працавалася? І цікава, і цяжка. Бо радыё – не газета. Тут свая спецыфіка. А ў замежнай рэдакцыі – яшчэ тая, з вызначаным прапагандысцкім ухілам: «Савецкае – значыць лепшае». Праца днём, частыя вячэрнія дзяжурствы, камандзіроўкі, а ў мяне ж апрача ўсяго – вучоба на філфаку, заняткі па вечарах, экзаменацыйныя сесіі. Тым болей што праз нейкі год апекуна майго Алеся Шашкова «падкарацілі», перавялі ў іншую рэдакцыю, і я застаўся ў аддзеле літаратуры і мастацтва адзін. Дзякуй Богу – не разгубіўся, цягнуў давераны воз без адчувальнага пасцёбвання начальства. Не шкадую, што ў тую пару засерабрыліся ў валасах першыя сівінкі: за гады працы на Беларускім радыё я прайшоў яшчэ адну школу творчага сталення, добра спазнаў, што такое радыйны хлеб, праца радыёжурналіста.

Запрашэнне ў «Бярозку» атрымаў восенню 1966 года. На гэты час я ўжо скончыў вучобу ў БДУ, меў дыплом філолага. Доўга не

раздумваў: праца ў часопісе была бліжэйшая майму сэрцу, а галоўнае – бліжэйшая да дзіцячай літаратуры, да многіх пісьменнікаў, да ўласнай творчасці.

У «Бярозцы» мне выпала працаваць, кажучы мовай сучасных рэклам і серыялаў, аж пры чатырох «шэфах» – розных па характары, але сходных у адным: і Кастусь Кірэенка, і Васіль Зуёнак, і Анатоль Грачанікаў, і Вячаслаў Адамчык, будучы цікавымі творчымі асобамі, таленавітымі пісьменнікамі, з пашанай ставіліся да мастацкага слова, да літаратурнай творчасці. Кожны з іх на той час, апрача ўсяго, паспеў зрабіць свой значны ўнёсак у дзіцячую літаратуру. Ці не таму ёй, літаратуры, вольна і камфортна пачувалася на старонках часопіса: друкаваліся аповесці, шмат апавяданняў, вершаў, перакладаў. Расквечана кусціўся «Верасок» – старонкі, на якіх у кожным нумары змяшчаліся творы школьнікаў. Чаго, на вялікі жаль, не скажаш сёння: падхопленая імкненнем да модных павеваў сучаснага жыцця, «Бярозка» страціла свой твар, а з ім – і чытачоў. Як каму, а мне шкада, балюча…

За дваццаць два гады, што пражыты мною ў «Бярозцы», было ўсё: і радасці, і засмучэнні, выкліканыя ідэалагічнымі прыдзіркамі партыйных бажкоў, калі нават на здымках, што змяшчаліся ў часопісе і расказвалі пра гісторыю нашых гарадоў, даводзілася ў друкарні «здымаць» крыжы з храмаў. Ды я, згадваючы той час, усё ж саграваюся пачуццём сапраўднай радасці ад таго, што быў першым чытачом многіх цікавых твораў, якія, перад тым як выйсці асобнымі кнігамі, спачатку друкаваліся ў «Бярозцы», што змог паспрыяць з’яўленню ў ёй першых проб пяра дзесяткаў і дзесяткаў юных аўтараў, многія з якіх не згубіліся, творча выраслі, сталі сёння прызнанымі майстрамі паэзіі і прозы, не саромеюцца сказаць пры сустрэчы: «Мой настаўнік»…

Працаваў у «Бярозцы», дайшоў да пасады сакратара, ды чамусьці ў апошнія гады бытнасці ў ёй усё часцей пачаў кідаць позірк у бок такой жа блізкай майму сэрцу «Вясёлкі». І калі там вызвалілася пасада літаратурнага рэдактара – са шчымлівым пачуццём развітання з «Бярозкай» усё ж перайшоў працаваць у новы калектыў, дзе шчыравалі людзі, якіх я даўно добра ведаў і паважаў: Уладзімір Ліпскі, Мікола Маляўка, Тамара Тарасава, Яўген Ларчанка. Што ж да Міколы, дык з ім вяду сяброўскі хаўрус ужо амаль паўстагоддзя, з дня першай сустрэчы ў студэнцкім інтэрнаце, калі паступаў, як і ён, у БДУ.

Працуючы ў рэдакцыях, ужо маючы адпаведны жыццёвы і прафесійны вопыт, ні на хвіліну не забываў (дый не забываю цяпер!), як сам станавіўся на ногі, пра тую цярплівасць і добразычлівасць,

якую праяўлялі да мяне, да маіх «твораў» мае першыя літаратурныя настаўнікі, таму заўсёды стараўся пазбягаць адказаў-трафарэтаў на вучнёўскія пробы пяра, а рабіў падрабязны іх разгляд, каб гэта прынесла нейкую карысць пачаткоўцу, дапамагло яму хутчэй зразумець сакрэты творчасці, каб дзень, калі прыходзіў ліст з рэдакцыі, станавіўся святам для яго; таму ніколі не адмаўляўся ад удзелу ў шматлікіх конкурсах і злётах маладых літаратараў; таму амаль трыццаць гадоў з'яўляўся аўтарам і вядучым штомесячнай радыёперадачы «Першыя сцяжынкі», праз якую прайшлі сотні і сотні пачаткоўцаў – прыхільнікаў прыгожага пісьменства; таму паўтара дзесятка гадоў нязменна кірую літаратурнай суполкай «Купалінка», якая гуртуе пачаткоўцаў-школьнікаў Мінскага раёна; таму я бясконца рады ад таго, што дапамагаю ім знайсці сваю сцяжынку ў творчасці, далучыцца да прыгожага, што, нягледзячы на ўсе жыццёвыя абставіны, жыве ў сэрцах дзяцей і моладзі любоў да роднага слова, да літаратуры, якая стала неад'емнаю часткаю майго жыцця.

За пяцьдзесят гадоў літаратурнай працы зроблена, здавалася б, нямала: выйшла больш за трыццаць кніг для дзяцей і дарослых. Чатыры разы станавіўся лаўрэатам рэспубліканскіх конкурсаў на лепшы твор для дзяцей і юнацтва. У выдавецтве «Детская литература» ў Маскве асобным выданнем выйшаў пераклад маёй паэмы «Огненная баллада», а ў перакладзе на польскую мову – вершаваная кніжка «Адрас наш – дзіцячы сад». Асобныя творы перакладзены таксама на ўкраінскую, малдаўскую, кіргізскую, туркменскую, літоўскую, грузінскую, башкірскую мовы.

Пераклаў на беларускую мову творы многіх паэтаў далёкага і блізкага замежжа, з якіх сабралася асобная кніжка для дзяцей «Як зрабіць вясёлым дзень».

Адрэдагаваў, дапамог дайсці да свайго чытача добраму дзесятку кніг літаратараў-інвалідаў, маладых паэтаў, а таксама дзіцячых зборнікаў, прыкметнай з'явай стала выданне кнігі «Казкі дзяцей Беларусі».

Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Маўра (1995) за зборнік вершаў і казак «Каго баіцца зубр?», прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі (2001) за кнігу «Хто пакрыўдзіў кракадзіла?», прэміі імя Васіля Віткі – за публікацыі ў часопісе «Вясёлка» 2002 года.

Выдатнік народнай асветы БССР. Выдатнік друку Беларусі.

Узнагароджаны медалём Францыска Скарыны. Як гаворыцца ва Указе, падпісаным Прэзідэнтам, «за высокае прафесійнае майстэрства, значны асабісты ўклад у развіццё нацыянальнай літаратуры і культуры».

Што напісана ў апошні час? Хоць цяпер думаецца і пішацца не з той лёгкасцю, як раней, рыначныя адносіны балюча стукнулі па

таварнасці роднага слова, адціснуўшы на кніжных паліцах творы нацыянальнай літаратуры, а з ёй – і дзіцячай, далей ад чытацкага вока, за спіну камерцыйных выданняў, усё ж цягнецца рука да пяра і паперы, верыцца ў свята роднай кнігі. Чакаю выхаду ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» новай кніжкі для дзяцей «Сонечны кошык», калі ўдасца, магчыма, убачыць свет зборнік лірыкі і гумару «Прызба, альбо Смяяцца – не плакаць», у якім запрашаю чытачоў пасядзець са мною на «прызбе часу», прыгадаць пражытае і перажытае, дзе пасумаваць, дзе пасмяяцца, бо такое жыццё ў нас, бо час такі выпаў на нашу долю, на долю майго пакалення. І будуць у ім радкі, прасякнутыя роздумам, што падвёў бы рысу пад усёй маёй аўтабіяграфічнай споведдзю. Пад знакам Васілька. Пра тое, што не забываецца…

Колькі б ні пражыў – усё тваё.
Колькі б ні зрабіў – тваё таксама.
Хоць жыццё парой – і фарс, і драма,
Колькі б ні пражыў – усё тваё.

Што прыдбаў – не змарнаваць ні грама.
Грэцца тым, што роднае, сваё.
Колькі б ні пражыў – усё тваё.
Колькі б ні зрабіў – тваё таксама.

Ці не так?

*Верасень 2008 года*



***Чыгрын***
***Сяргей Мікалаевіч***

## У ТВОРАХ – МОЙ ЖЫЦЦЯПІС

Я жыву ў правінцыі – у старажытным і спрадвечным горадзе над Шчарай – Слоніме. Слонім – мая правінцыя, хаця сябе ніколі правінцыялам не лічыў і лічыць не буду. А нарадзіўся я 24 верасня 1958 года ў вёсцы Хадзявічы, якая знаходзіцца каля 10 кіламетраў ад Слоніма. Мяне выхоўвала адна мама. Яна, дзякуй Богу, яшчэ жыве, але ўжо са мной у маёй гарадской кватэры ў Слоніме. У старую хату, якую яшчэ пабудаваў мой дзед – мамін бацька ажно ў 1907 годзе, мы цяпер прыязджаем толькі ў госці. Хату нікому не прадавалі і не будзем. Яна для нас – Божы храм. У 2007 годзе мая сям'я разам з творчай беларускай інтэлігенцыяй адзначыла яе 100-гадовы юбілей. Гэта было Свята Хаты. І маёй роднай хаты і Хаты беларускай у шырокім сэнсе.

Каля кіламетра ад маёй вёскі знаходзіцца Сынковіцкая крэпасць-царква. Некалі, дзе цяпер стаіць мая хата, была лясная дарога, па якой у Сынковічы прыязджаў славуты наш князь Вітаўт. Пра гэта

я ўсім распавядаю і гэтым ганаруся. Бо, сапраўды, калі Вітаўт уцёк з Крэва, то перш чым паехаць у Прусію, ён, заблытваючы сляды ад Ягайлавых служак, схаваўся ў слонімскіх лясах, дзе цяпер знаходзіцца мая вёска. Там Вітаўта выратавалі мае землякі. А потым, калі ён стане вялікім князем Вялікага княства Літоўскага, у знак удзячнасці тутэйшым людзям, вялікі князь узнясе да нябёс Сынковіцкую крэпасць, ад якой нам у спадчыну сёння засталася царква. Некалькі разоў Вітаўт са Слоніма прыязджаў у Сынковічы, а ў 1409 годзе ён наведаў Сынковічы разам са сваёй жонкай Ганнай. Праязджаў там, дзе стаіць мая хата. Хату мой дзед праз 500 гадоў пабудаваў на вельмі шчаслівым месцы, на тым, дзе праязджаў некалі Вітаўт Вялікі.

Вось у гэтай старой стогадовай дзедавай хаце ў Хадзявічах, а таксама ў суседніх Сынковічах, прайшлі мае гады маленства. Мама заўсёды спяшалася на працу ў калгас, а я любіў кніжкі, бо з вёскі яны мяне вярталі да герояў Янкі Маўра, Якуба Коласа, Алены Васілевіч, Фенімора Купера ды іншых. Маці не было калі мною займацца, але за мяне чырванець у школе не прыходзілася: я вучыўся добра. У старэйшых класах пачаў пісаць замалёўкі і дасылаць іх у «Бярозку», «Піянер Беларусі» (цяпер – «Раніца»), у «Зорьку», слонімскую раёнку. Пазней пачаў пісаць вершы, якія рэдагаваў і шмат мне дапамагаў у пісьмах Мікола Чарняўскі. Ён тады працаваў літкансультантам у «Бярозцы». Гэта быў мой першы літаратурны выкладчык, якому я шчыра ўдзячны і нізкі яму паклон. Я, вясковы хлопчык, кожны тыдзень адсылаў яму ў Мінск свае вершы, смяшынкі, замалёўкі, а Мікалай Мікалаевіч іх чытаў і на кожнае пісьмо прысылаў адказы. А лепшыя творы друкаваў. Усе яго пісьмы я зберагаю да сённяшніх дзён. Чытаю іх і дзіву даюся: якое ў чалавека было цярпенне, каб адказваць на кожнае маё наіўнае і часам смешнае пісьмо. Вось гэта была школа! Ці так цяпер з творчай моладдзю працуюць літаратурныя выданні? І ці выходзіць сёння «Бярозка» – я нават і не ведаю.

Калі я вучыўся ў школе – захапіўся кінамастацтвам, быў апантаны кіношнік. У той час пра савецкае і беларускае кіно ведаў усё. Мне мама выпісвала ці купляла ў Слоніме часопісы «На экранах Беларусі», «Советский экран», «Искусство кино», «Спутник кинозрителя» і многія іншыя. Адначасова з кіно мяне захапіў тэатр.

Аднойчы я прачытаў у газеце «Знамя юности» аб'яўку, што ў далёкім ад Слоніма Магілёве ёсць такое культасветвучылішча, куды пасля 8-га і 10-га класаў прымаюць хлопчыкаў і дзяўчынак. Сабраў чамаданчык і паехаў у невядомы вялікі горад на Дняпры. Тады мне яшчэ не было і 16 гадоў. Знайшоў я гэтае вучылішча, здаў дакументы і… дачакаўся ўступных экзаменаў. Але перад экзаменамі абітурыентам неабходна было расказаць верш, урывак з прозы

і паказаць сцэнічны эцюд. Верш і прозу я ведаў, а вось што гэта за эцюд – першы раз чуў. За некалькі хвілін да паказу эцюда я атрымаў кансультацыю ў дзяўчат, якія паступалі разам са мною. Яны былі больш дасведчаныя ў тэатральнай справе, бо ў сваіх гарадах наведвалі драмгурткі і народныя тэатры, таму добра ведалі, што такое эцюд і як яго трэба паказваць. На хаду прыдумаў свой уласны эцюд і пайшоў перад прыёмнай камісіяй на маленькай сцэне яго паказваць. Сюжэт эцюда быў вельмі просты і нават смешны: я пайшоў у грыбы, там убачыў лісіную нару, пачаў чакаць, калі ліса адтуль вылезе, каб яе злавіць за хвост. Замест нары – паклаў на сцэне крэсла. Гэта дазвалялася. У прыёмнай камісіі сядзела чалавек восем. Сярод іх быў і рэжысёр Валянцін Іванавіч Ермаловіч. Усе ўважліва глядзелі, што я буду паказваць. І вось у самы адказны момант эцюда, калі нібыта ліса «выскачыла» з нары і я кінуўся яе «лавіць», крэсла ад майго падзення паляцела проста на прыёмную камісію. Але я не разгубіўся, а паказаў эцюд да канца. Пасля падзякаваў усім за ўвагу, выйшаў у калідор. Адразу падумаў, што ўсё – мяне не дапусцяць да асноўных экзаменаў, не здаў эцюд. Але выйшла ўсё наадварот. Памятаю, Валянцін Іванавіч перад абітурыентамі сказаў, што лепш за ўсіх эцюд паказаў Чыгрын.

Так я стаў навучэнцам тэатральнага аддзялення Магілёўскага культасветвучылішча. Але рэжысуру ў нас выкладаў не Валянцін Ермаловіч, а Леанід Багам’я, якога ў 60-гадовым узросце некалькі гадоў таму скасіў інфаркт. Гэтыя рэжысёры сябравалі. Больш вопытны Валянцін Іванавіч бываў у нас на занятках і рэпетыцыях, дапамагаў маладому рэжысёру і выкладчыку Леаніду Багам’ю. Вельмі часта Валянцін Ермаловіч гутарыў са мной, цікавіўся маім жыццём, называў мяне сваім земляком, заходнікам. Мне ад гэтага было цяплей і лягчэй. А яшчэ Валянцін Іванавіч заўсёды размаўляў на беларускай мове. І ўсе навучэнцы, якія з ім гутарылі, стараліся размаўляць таксама па-беларуску.

Даведаўшыся, што я пішу вершы, Валянцін Іванавіч аднойчы мне сказаў: «Я гутарыў са сваім сябрам паэтам Аляксеем Пысіным пра цябе. Заўтра ў памяшканні рэдакцыі «Магілёўская праўда» будзе пасяджэнне абласнога літаратурнага аб’яднання. Выберы найлепшыя вершы і сходзі туды…»

Я вельмі хваляваўся, бо ўпершыню выносіў на суд свае яшчэ кволыя першыя творы. У рэдакцыі сустрэлі мяне шчыра і добрадушна. За сталом моўчкі сядзеў Аляксей Васільевіч Пысін. Маўчаў ён і тады, калі ўсе па чарзе чыталі свае вершы (пераважна рускамоўныя). Пасля паэты паміж сабою пачалі спрачацца і нават сварыцца. Напрыканцы літаб’яднання загадчык ідэалагічнага аддзела газеты

таварыш Ізотаў даў слова Аляксею Пысіну. Аляксей Васільевіч ціха сказаў: «З усіх вершаў, якія тут прагучалі, мне найбольш спадабаліся вершы Сярожы Чыгрына. Іх я і буду прапаноўваць для газеты».

Праз некалькі дзён я атрымаў ад Аляксея Пысіна ліст, дзе ён прасіў тэрмінова прыслаць два вершы, выбраныя з усіх мной прачытаных, для літстаронкі. Я даслаў адзін верш пра хлеб. Ён і быў надрукаваны побач з вершамі Алеся Пісьмянкова і Алеся Емяльянава.

За тры гады вучобы ў Магілёве з Валянцінам Ермаловічам і Аляксеем Пысіным мне давялося не раз прымаць удзел у літаратурна-музычных вечарынах і сустрэчах з чытачамі. У Магілёўскім абласным аддзяленні Саюза пісьменнікаў Валянцін Ермаловіч быў адказны за нумары мастацкай самадзейнасці, а Аляксей Пысін – за літаратурную частку. Дзе мы толькі на Магілёўшчыне не былі! Дзе мы толькі не выступалі! Гэта быў рамантычна-светлы і найцікавейшы час майго юнацтва. З ініцыятывы Аляксея Пысіна мы разам з Валянцінам Ермаловічам выдавалі ў вучылішчы рукапісны літаратурны часопіс «Лучынка». Знайсці б цяпер хоць адзін нумар…

Валянцін Ермаловіч вельмі любіў беларускую паэзію. Ён вучыў мяне дэкламаваць вершы са сцэны. Асабліва ў той час мой настаўнік захапляўся паэзіяй Янкі Непачаловіча. Неяк паехалі выступаць на Краснапольшчыну. У сельскім Доме культуры сабралася поўная зала людзей. Наперадзе сядзелі кіраўнікі мясцовага калгаса, Аляксей Пысін, Валянцін Ермаловіч. А я на сцэне чытаю Янку Непачаловіча:

Хоць нельга і розум, і сэрца
Пакласці на шалі,
Ды ўсё ж чалавек пазнаецца
Па крупнай дэталі…

Зала прыціхла. Аляксей Пысін, апусціўшы галаву, нешта думаў, а пасля сказаў: «Добра, Сярожа, добра!..» У гэты вечар мы яшчэ паказалі жарт Л. Родзевіча «Збянтэжаны Саўка», дзе я іграў Саўку, мае аднакурснікі –Генадзь Гавароўскі – жабрака, а Валянціна Паўлоўская – Магрэту. Зала ад смеху проста грымела. Нас выклікалі некалькі разоў на біс. А пасля канцэрта Валянцін Іванавіч мяне абняў і сказаў: «Маладзец!»

Гэта я пазней даведаўся, што Валянцін Іванавіч Ермаловіч – родны брат Міколы Ермаловіча. Я часам іх згадваю, і мне становіцца ад гэтых успамінаў светла на душы і радасна, што я іх ведаў. А Аляксей Пысін і Валянцін Ермаловіч мяне шчыра вучылі літаратуры і тэатру. Хаця я пра вялікую сцэну не марыў. Я марыў быць тэатральным крытыкам. І крыху мая мара збылася. Бо я па-ранейшаму люблю тэатр. І працую не толькі журналістам (не люблю журналістыку),

але і загадчыкам літаратурнай часткі Слонімскага дзяржаўнага драматычнага тэатра. Бо тэатр – гэта хвароба: калі яе падхапіў – то назаўсёды. У 2008 годзе пра гісторыю тэатральнага мастацтва на Слонімшчыне я нават напісаў і выдаў кнігу «Тэатр у Слоніме».

У 1977 годзе я скончыў Магілёўскае культасветвучылішча і пайшоў у войска. Служыў на савецка-кітайскай граніцы ў Забайкальскай ваеннай акрузе, па-руску пішацца так: Забайкальский военный округ (ЗАБВО). Абрэвіятуру ЗАБВО мы, салдаты, расшыфроўвалі як «забудь вернуться обратно». Многія салдаты не вытрымлівалі забайкальскіх халадоў, дзедаўшчыны і вайсковай муштры. Таму некаторыя дамоў і не вярнуліся, ці вярнуліся інвалідамі. Мне таксама цяжка было служыць, асабліва першае паўгоддзе. Але потым справа пайшла лягчэй. Фізічных нагрузак я не баяўся, бо займаўся шмат гадоў гімнастыкай, на перакладзіне падцягваўся за ўсіх салдат свайго аддзялення. А яшчэ пісаў у ваенныя газеты пра армейскія будні і жыццё. Наогул, пра сваю армію можна напісаць цэлую кнігу, і яна будзе значна «круцейшай» у параўнанні з аповесцю рускага пісьменніка Юрыя Палякова «Сто дней до приказа». Але гэтая тэма пакуль мяне не цікавіць...

Позняй восенню 1979 года я прыйшоў з войска. І, каб не сядзець без справы, уладкаваўся загадчыкам Сынковіцкага сельскага клуба. Як казаў вышэй, вёска Сынковічы побач з маёй роднай вёскай Хадзявічы. Дзве вёскі якраз знаходзяцца на мяжы двух раёнаў – Зэльвенскага і Слонімскага. Да клуба ад маёй хаты хвілін дзесяць язды на ровары. Бываў я ў Сынковічах не кожны дзень, таму дома ў вольны час рыхтаваўся да паступлення ў Белдзяржуніверсітэт, пісаў вершы, замалёўкі, вёў вялікую перапіску з пісьменнікамі і з сябрамі. Сусед мой выпісваў «Сельскую газету» і, седзячы на прызбе, кожны дзень чытаў. Аднойчы і я ўзяў паглядзець гэтую «Сельскую газету» (цяпер яна называецца «Белорусская нива»). І мне якраз трапіў той нумар, дзе на чацвёртай старонцы друкаваліся вершы і розныя матэрыялы на тэму культуры. Вырашыў і я даслаць падборачку сваіх вершаў у «Сельскую газету». Тым больш, што я вярнуўся з войска дамоў, у сельскую мясцовасць, працую ў клубе, ды яшчэ пішу вершы. Пра гэта я таксама паведаміў у пісьме. Праз тыдзень атрымліваю з газеты ліст ад літаратурнага кансультанта гэтага выдання. А кансультантам тады была Яўгенія Янішчыц. Яўгенія Іосіфаўна напісала ліст вельмі шчыра, каб не пакрыўдзіць мяне, каб не спалохаць. Яна пахваліла мае вершы, раіла пісаць больш і дасылаць ёй усё самае лепшае. Але ў канцы пісьма паэтка сказала, што вершы апублікаваныя не будуць, бо да ўзроўню рэспубліканскай газеты яны яшчэ не дацягваюць.

Але мяне ліст узрадаваў. Таму я зноў і зноў дасылаў вершы Яўгеніі Янішчыц у «Сельскую газету». А яна мне адказвала, вучыла мяне пісаць, давала розныя парады, заўвагі, пажаданні. А 9 красавіка 1980 года ад яе я атрымаў і такі ліст: «Добры дзень, дарагі Сяргей! Уважліва прачытала два твае вершы: «Вёска – радасць мая» і «Беларусь – мая калыска». Падкупляе сваёй шчырасцю верш «Беларусь...», і асабліва – такія радкі: «да цябе зноў вяртаюся жменькаю ўспамінаў, і ты – як сон перад вачыма». Хораша і паэтычна сказана! Хацелася б пажадаць табе такой шчырасці і надалей, сваіх нечаканых і адметных мастацкіх вобразаў. Верш «Беларусь» буду прапаноўваць у друк. Дашлі свае вершы (гэтыя і новыя) на радыё («Шчырага сэрца парывы») і напішы пра сябе: дзе і калі нарадзіўся, што скончыў і г. д. Я вяду гэтую перадачу і хацелася б цябе прадставіць нашаму рэспубліканскаму слухачу. Для «Сельскай газеты» дашлі сваё фота і яшчэ новыя вершы. Ці друкаваўся дзе раней? Пішы тэрмінова. З пажаданнем поспехаў Яўгенія Янішчыц».

Ад такога ліста я быў на «сёмым небе» ад радасці. Хуценька ўсё выканаў, аб чым прасіла Яўгенія Іосіфаўна. Паслаў у газету некалькі новых вершаў і фотаздымак, а таксама падборку вершаў на радыё. Сапраўды, Яўгенія Янішчыц вяла тады на радыё адзін раз на месяц літаратурную перадачу «Шчырага сэрца парывы». Я стараўся не прапускаць гэтыя перадачы, а аднойчы, дзякуючы паэтцы, пачуў там і свае вершы. Не ведаю, ці гучыць цяпер на Беларускім радыё такая цудоўная літаратурная перадача, якая ў 1980-я гады гучала голасам Яўгеніі Янішчыц.

Не прайшло і месяца, як у «Сельскай газеце» з’явілася падборка маіх вершаў з фотаздымкам і ўступным словам Яўгеніі Янішчыц. Я не буду хваліцца тымі цёплымі радкамі, якія пра мяне напісала паэтка. Скажу толькі, што да сённяшніх дзён я ведаю іх на памяць. І газету тую берагу, як самую дарагую рэч. І калі чытаю-перачытваю яе, слёзы самі з’яўляюцца на вейках: ці то ад радасці, ці то ад суму, ці то ад болю. І прыгадваюцца радкі Яўгеніі Янішчыц:

Як дзіўна і зусім незразумела:  
Між усяго, што ў сэрцы набалела,  
На нейкай дзікай сцежачцы лясной  
Вярнуць ізноў празрысты свой настрой.

У жніўні 1980 года я паступіў у Белдзяржуніверсітэт. Наш філалагічны факультэт знаходзіўся тады на Чырвонаармейскай вуліцы, 6. Побач на Ульянаўскай вуліцы жыла Яўгенія Янішчыц, а зусім побач на вуліцы Карла Маркса, 40 была рэдакцыя часопіса «Маладосць». Надрукавацца ў тыя гады ў «Маладосці», ды яшчэ студэнту, было няпроста. Асабліва складана было з’явіцца на старонках

выдання другі раз. Я неяк асмеліўся і вырашыў занесці з дзесятак вершаў у часопіс. Тым больш, што дэбютаваў тут у 1981 годзе, таму няхай ляжаць вершы і чакаюць сваёй чаргі. Я прыйшоў у аддзел прозы і паэзіі, дзе за сталом у кабінеце сядзеў адзін Уладзімір Дамашэвіч. «Я вяду аддзел прозы, а за паэзію ў нас адказвае Яўгенія Янішчыц. Пачакайце крыху, яна хутка павінна быць, бо жыве тут недалёка», – сказаў Уладзімір Максімавіч. Мы пачалі гутарыць і праз хвілінку-другую зайшла Яўгенія Іосіфаўна, тая самая Яўгенія Янішчыц, з якой я перапісваўся і якую ўбачыў упершыню. Паэтка хутка распранулася, села за стол і пачала чытаць мае вершы. Вершы яна прачытала імгненна і для друку выбрала сем паэтычных твораў. «Але яны, Сяргей, будуць надрукаваныя крыху пазней», – сказала Яўгенія Іосіфаўна. Вершы, сапраўды, з’явіліся ажно летам 1985 года.

Калі вучыўся на філалагічным факультэце Белдзяржуніверсітэта, у мяне была (на добрых і шчырых выкладчыкаў мне заўсёды шанцавала) выкладчыца французскай мовы Святлана Мікалаеўна Любіч. Яна любіла і шанавала хлопцаў, якія пісалі вершы. Менавіта Святлана Мікалаеўна прымушала мяне перакладаць з французскай мовы на беларускую. Прымушала... Кожны дзень яна мне прыносіла то вершы Луізы Мішэль, то Поля Элюара, то Поля Верлена, то Сальвадора Далі і вершы іншых французскіх паэтаў, а я іх перакладаў. Некалі яна навучыла так з французскай мовы перакладаць паэта Юрку Голуба. А потым за мяне ўзялася. І пераклады мае друкавала ў розных выданнях. І заўсёды мною ганарылася. Мне здавалася, што большае задавальненне ад маіх перакладаў атрымлівала яна, чым я. Але яе школа, як трэба перакладаць, мне дапамагае і сёння. Цяпер я перакладаю з вялікім задавальненнем не толькі з французскай мовы, але і з польскай, украінскай, рускай, а ў апошні час спрабую з турэцкай мовы. Пераклаў цэлую кнігу вершаў турэцкага паэта Фазыла Хюсню Дагларджы. Невялікую падборку перакладаў апублікаваў у часопісе «Дзеяслоў». Для свайго роднага Слонімскага драмтэатра я пераклаў на беларускую мову каля 30 п’ес рускіх, украінскіх і французскіх драматургаў. Спектаклі па гэтых п’есах і сёння ёсць у рэпертуары тэатра.

Але што гэта я пра пераклады. Калі ёсць яшчэ літаратуразнаўства, гісторыя, краязнаўства. А тут – поле не аранае і не засеянае. Вось гэтае поле і кліча ў апошнія гады мяне да працы. Свет пабачылі кнігі «Янка Купала і Слонімшчына» (1993), «Родам са Слонімшчыны» (2003), «Пакліканыя на родны парог» (2005), «Чамяры і чамяроўцы» (2006), «У пошуках слонімскіх скарбаў» (2007), «Беларус-

кая Беласточчына» (2008) і іншыя. Часам пішуцца і вершы. Выдаў зборнікі «Шчырая Шчара» (1993), «Горад без цябе» (1999), «Лірыка» (2007). Ведаю, што гэта пералічэнне кніг не вельмі цікавае для чытачоў. Але і ў іх мая біяграфія, мой жыццяпіс. Таму мне ў правінцыйным Слоніме сумаваць не прыходзіцца. Хвалюе толькі тое, што гады бягуць занадта хутка. І чым больш гадоў пражыта, тым хутчэй яны пралятаюць. Але колькі Бог дасць – столькі пастараюся зрабіць дзеля нашай айчыннай літаратуры, гісторыі і культуры.

*Студзень 2009 года*



***Шабовіч***
***Мікола Віктаравіч***

# ПАЦЕРКІ ЎСПАМІНАЎ

*(Некалькі імгненняў з майго жыцця)*

Кажуць, што ўспаміны – гэта сведчанне блізкага старэння і набліжэння жыццёвай восені, калі ўжо не стае свежасці пачуццяў і перажыванняў. «Нам рано жить воспоминаньями». Але ж нельга ўвесь час ісці наперад, не азіраючыся на пройдзены шлях, не ўзважваючы і не ацэньваючы сваіх набыткаў і страт, не робячы пэўных высноў... Нават для таго, каб проста ўсміхнуцца...

Так што, шаноўны чытач, у цябе ёсць магчымасць на колькі хвілін зазірнуць у сшытак маіх успамінаў, дзе прызапашана некалькі невядомых табе летуценных, а можа, і легкадумных старонак з майго, так бы мовіць, «жыццёвага летапісу». Думаю, што ты не раз усміхнешся, як усміхаўся і я, калі пісаў гэтыя нататкі...

«У нашай вёсцы трыццаць тры двары, / Людзей з гадамі менее і менее...» – менавіта гэтымі радкамі калісьці пачынаўся мой верш

пра родную вёску Бадзені, што на Мядзельшчыне. Прыгадваю рэцэнзію-заключэнне на першую кніжку «Сэрцатрасенне», якая так і не выйшла ў «Мастацкай літаратуры» і ў якой рэцэнзент Рыгор Яўсееў пісаў, што малады паэт згушчае фарбы, што, маўляў, адзін трактарыст замяняе на вёсцы столькі і столькі чалавек (не помню дакладнай лічбы – 20 ці 30)... З іншага боку, можа, і добра, што тая кніжка не пабачыла свет: далёка не ўсё ў ёй было на належным узроўні. І хоць «Каб вымавіць: «Люблю!» у 1984 годзе нясмела закрыляла падборкай з 17 вершаў у калектыўным зборніку «Крыло», што выйшаў у серыі «Першая кніга паэта», яна не сталася асаблівай радасцю для мяне.

Шмат што ў памяці не пакідае значнага следу, шмат што пралятае-прамінае, а вось сваю вёсачку, свае першыя крокі, першыя сцяжынкі помню, як быццам толькі нядаўна сядаў на веласіпед, ці, як у нас кажуць, ровар, і ехаў – калі наўпрост, а калі праз Бакачы – у сваю Дзягільскую васьмігодку, хоць месцілася яна ў Маргах, якія потым сталі называцца Леанардавам, як Гарбы – Рамашкамі (а чаму не Рамонкамі?), як Юткі – Вусаўшчынай... Ды ці стала ад такіх перайменаванняў жыццё сяльчан хоць трохі шчаслівейшым? Ці стала больш квяцістым, больш радасным?..

Прыгадваецца камічная гісторыя з вучнёўскага дзяцінства, калі мяне ў чацвёртым класе (!) ледзь не выключылі, па словах бацькі, са школы за ўдзел у так званай «галадоўцы». А было так: мы, вучні з аддаленых вёсак, у зімовы час жылі ў інтэрнаце, дзе кармілі нас, як тады здавалася, занадта часта гарохавым супам. І хоць я любіў «гарохавік» і да таго ж поварам тады працавала мая сваячка, цётка Анюта, але старэйшыя падбухторылі: будзем галадаць! А я што? Чытаць-пісаць умею, чаму б для салідарнасці і не падключыцца! Ну і напісаў на вырваным са сшытка лістку тлустымі літарамі малазнаёмае мне слова «галадоўка» і павесіў гэту «пракламацыю-лістоўку» на дзвярах... Клічуць на вячэру, а мы не ідзём. Вечар прагаладалі. Назаўтра пачаліся разборкі. Выклікалі нашых бацькоў, мабыць, далі ім прачуханцу. Ну, а тыя, адпаведна, усыпалі і нам. Не памятаю, можа, і я атрымаў па адным месцы. Хапіла, як кажуць, страху... Затое дні два-тры харчаваліся выключна катлетамі. Нават з дабаўкай... Так што ёсць у мяне і пэўны «палітычны» стаж...

А ў пятым класе я даў слова не курыць. О, гэта была прыгодніцкая гісторыя! На перапынку курым у прыбіральні, і раптам – фізрук. Усе пакідалі цыгарэты, а я паклаў у кішэню. Ну, думаю, ён пойдзе – і я спакойна дакуру. А тут слова за слова, жарт за жарт – і забыўся я на сваю цыгарэту. І ўжо ў класе адчуваю пах дыму. «Што гарыць?» – «Гэта ты, Шабовіч, гарыш!» І тут я адным вокам заўважаю, як з правай маёй

кішэні лёгкай змейкай цягнецца-віецца такі свавольны дымок... Вось гэта было самавыкрыццё!.. Выбег я на двор, схаваўся ад усіх, выкінуў тую «праклятую» цыгарэту, якая прапаліла-такі падкладку майго пінжака, і даў слова, якое трымаю ўжо 37 гадоў.

Тут, у Маргах, а найчасцей – па дарозе са школы дадому, і нараджаліся мае першыя вершы, тут прыходзілі да мяне трапяткія пачуцці, якія прынята называць першым каханнем. «Увезу тебя в Бадени, увезу тебя одну», – так я калісьці перапяваў вядомы тагачасны хіт. Былі і не зусім перапевы: «... И в кармашке грудном сберегу / Твой зелёный листочек на память...»

Пісалася тады часцей па-руску. Мажліва, таму, што Купалу з Коласам я спасцігаў ужо ў студэнцкія, а па-сапраўднаму нават у аспіранцкія гады, калі даследаваў словатворчасць, а вось Блока, Цютчава, Фета, Ясеніна яшчэ падлеткам чытаў і перачытваў у вольную хвіліну, асабліва па вечарах. «Не сляпі вочы!» – берагла мяне мама, ну, а я, канечне, не слухаўся. Можа, і дарэмна, бо зараз без акуляраў ужо не абыходжуся, хоць яшчэ сігнальны экзэмпляр кніжкі «Падары мне сваю адзіноту» чытаў у электрычцы «сваімі» вачыма. І не так даўно гэта было – толькі шэсць год таму...

Мядзельская сярэдняя школа – асобная старонка маіх успамінаў. Тут я вучыўся ў 9–10 класах. Менавіта тут, на раённай алімпіядзе па хіміі, калі я яшчэ і не быў яе вучнем, а спасцігаў азы ў Дзягільскай васьмігодцы, менавіта тут і, можа быць (баюся памыліцца), у кабінеце хіміі, які потым стане маім 9 «В», а праз год і 10 «В», упершыню нарадзіліся першыя паэтычныя радкі, якія потым ужо, у родных Бадзенях, аформіліся ў закончаны верш з сямі-васьмі строф, ці, як мы казалі, слупкоў. Верш, які я чытаў гурбам снегу, што – не ў параўнанне з цяперашнімі зімамі – так шчодра пакрывалі родныя аселіцы і ставок ля калгаснай фермы... Шчасцю майму, здавалася, не будзе канца... Яшчэ многа гадоў прыгадваў (ды прыгадваю і зараз) тую бялявую дзяўчынку на першай парце, да якой падсадзілі мяне, «прыпозненага» алімпійца (удзельніка алімпіяды), бо вольных парт не засталося (хоць ты «дзякуй» скажы таму аўтобусу, які чамусь прыпазніўся), тую дзяўчынку-выдатніцу, якая адгароджвалася ад мяне сваёй прыгожай рукой (ды і плячом таксама), калі я кідаў позіркі на яе запісы, і зусім не для таго, каб спісаць якую хімічную задачу ці формулу, а толькі каб даведацца яе імя і з якой яна школы...

«Все оксиды, кислоты и соли / Реагируют только с тобой...» – гэта радкі з таго першага верша, які з часам згубіўся, на жаль, і па якім я сумую гэтаксама, як і па спаленых на вогнішчы вершах-прысвячэннях Людміле Клебан, маёй мядзельскай аднакласніцы і, можа, трошкі больш, чым аднакласніцы... Люда, Люда... Толькі гадоў праз

дзесяць, калі мы сустрэліся класам на беразе маляўнічай Нарачы, я расказаў ёй пра свае школьныя пачуцці і прачытаў некалькі вершаў. «Чаму ж ты тады пра ўсё не сказаў», – не то спытала, не то ўздыхнула яна...

Але час бяжыць... Што варушыць старыя раны? Ды і не ўсё раскажаш. А нават калі і раскажаш, ці будзе гэта цікава незнаёмаму мне чытачу...

Шмат гадоў таму я даў слова не сядаць за руль аўтамабіля, хоць і ёсць шафёрскае пасведчанне з паметай «шаф-праф-люб-мота», што дае дазвол на кіраванне ледзь не ўсімі відамі транспарту, акрамя аўтобусаў і цягачоў, хоць і працаваў амаль год шафёрам у родным калгасе «Шлях Ільіча». І яшчэ як працаваў! Праеду пару кіламетраў – спыню машыну і нешта рыфмую. Напішу колькі радкоў – і еду далей. Тут, за рулём, сустрэў навіну пра свой першы верш, змешчаны ў раёнцы і прысвечаны, зразумела, усё той жа Людміле Клебан.

Скажи мне, ветер,
Куда ты мчишься,
Куда ты гонишь
Берёзы листья?

Листочек этот,
В окраске красной,
Отдай девчонке,
Что всех прекрасней.

Скажи ей нежно,
Что жду, как прежде,
Как лист осенний,
Живу надеждой...

Так мчись же, ветер,
Чтоб всё звенело,
Неси привет мой
Девчонке в белом.

На той час у мяне была ўжо нейкая сотня вершаў, частку з іх я нават даслаў у «Мінскую праўду» і неўзабаве атрымаў адказ, што творы надрукаваць не выпадае, бо яны маглі быць напісаны ў мінулым стагоддзі, што, маўляў, няма подыху часу і г. д. А які патрэбен подых часу (і ці можа ён быць?!) у вершах пра каханне?

Але вернемся да шафёрскіх будняў.

Дзе ты зараз, мой «ГАЗ-51», мая першая «баявая» машына амаль без тармазоў?.. Ты ўжо, канечне, не помніш, як я аднойчы добра-такі пасмяшыў землякоў. А ва ўсім быў вінаваты Юрый Антонаў, дакладней кажучы, яго пяшчотна-шчымлівыя песні, якія я любіў слухаць у маладыя гады ды слухаю нярэдка і зараз. Тады, помніцца,

адным з хітоў быў «Не забывай». Дык вось, калі гэтае «Не забывай» загучала па маім радыёпрыёмніку «Селга», машына наскочыла на нейкую яміну і транзістар зваліўся. Нахіляюся яго падняць, а мой «баявы газон» рэзка бярэ ўлева, з’язджае-спаўзае з дарогі, і я, падымаючы галаву, бачу, як кладзецца пад цяжарам машыны штыкетнік, як валяцца слупы, як прабівае кузаў жардзіна… Не каб па тармазах, а я дык – газу! З горам папалам выруліў-такі на дарогу. Прабачаюся перад цёткай, а тая: «Не бядуй, сынок! Гаспадар – ляснік, паставіць новы плот. Галоўнае, што сам жывы застаўся…» Хто яшчэ так суцешыць, як не нашы беларускія жанчыны?! Як тут не ўспомніць маміна суцяшэнне, калі ў мяне ўкралі на мядзельскім вакзале сумку з магнітафонам, з касетамі запісаў (у тым ліку і яе песнямі), з блакнотамі вершаў… «Што ўкралі – не бяда. Вось калі б ты ўкраў – была б бяда. А гэта – нажыўное…»

Іду я да сваёй «параненай» машыны, а тут і «хуткая дапамога» пад’язджае ў асобе калгаснага інжынера. «Ну, што ў цябе, Шабовіч?» – «Ды так, не размінуўся трохі, у канаву з’ехаў», – чырванеючы ад сораму, маню-прыдумляю я, а ён ужо вяртаецца да свайго «бензавоза», бярэ трос, і мы трохі раўняем сагнуты буфер маёй гаротніцы-машыны. «Абы толькі даехаць да гаража, – думаю я, – а там сябры-бабры дапамогуць». Канечне, тады я яшчэ не карыстаўся зваротам «сябры-бабры» – яго я запазычыў у сярэдзіне 90-х у свайго сябра Міхася Хамца, будучага рэдактара «Раніцы», а пакуль яшчэ яе фатографа, чые здымкі вось ужо колькі гадоў (аж 12!) побач з маімі вершамі.

Ніколі не забуду і першы «далёкі» рэйс, як павёз у іншы калгас (кіламетраў за трыццаць) здаваць цялят. Хапіла страху-перапалоху, калі я, спыніўшы машыну пад гару (дзесьці паміж Мядзелам і Мікольцамі), вырашыў падрэгуляваць тармазны шток. Ляжу пад машынай, паварочваю гайку і тут раптам заўважаю, што мой «газон» паволі коціцца проста на мяне. Як я паспеў вышмыгнуць з-пад колаў, і зараз не магу ўцяміць. Ускокваю ў кабіну, цісну педаль тормазу адзін раз, другі, і з трэцяга качка, нарэшце, машына спыняецца…

Гэтак жа, толькі перад самым абрывам у канаву, спыніўся і шваграў «запарожац», на якім я зухавата падвозіў маму з поля, дзе мы бралі бульбу. Як аказалася, машына была з сапсаваным рулявым упраўленнем – паварочвала толькі ў адзін бок. А я не ведаў... Тут, як кажуць, і смех і грэх. Яшчэ й зараз ходзяць показкі сярод нашай радні, як швагер пытаецца ў сына пасля яго паведамлення, што дзядзька Мікола ледзь не сігануў з машынай у канаву: «Што, і нумар пагнуў?» – «Пагнуў, усё пагнуў», – адказвае мой пляменнік…

Больш за руль я не садзіўся…

Зараз я прыгадваю той час і сам з сябе дзіўлюся ды смяюся. А пра што думалася тады, калі ў няпоўныя васемнаццаць вазіў у кузаве шэфаў на сваёй  практычна бестармазной машыне і мог, як кажуць, наламаць дроў… (у пераносным сэнсе, бо ў прамым, як я расказваў вышэй, такі наламаў...)

Гэта потым ужо, калі паступаў у Львоўскае ваенна-палітычнае вучылішча, мне сказалі, што і камісію я нібыта не прайшоў з-за сваёй вестыбуляркі. «А вам нельга вадзіць машыну». – «Як нельга? Я ж год шафёрам працаваў!»  Такія вось казусы, такі вось экстрым...

«Вёсачка вілейская Шыпкі, / Ты мне так нагадваеш Бадзені...» Дзякуючы гэтым радкам мяне часам прыпісваюць да вілейскіх паэтаў, за што вялікі дзякуй, бо менавіта там, у маленькай вёсачцы Шыпкі з ласкі тагачаснага загадчыка райана Ільі Мікалаевіча Солдака лёс звёў мяне з цікавымі, неардынарнымі людзьмі, якія неўзабаве сталі маімі калегамі і сябрамі, – Фёдарам Міхайлавічам Сівым (дырэктарам школы), яго жонкай Вандай Паўлаўнай, Міколам Мажулем, Кацярынай Бажко, якая даўно ўжо Мажуль, і, канечне, Кацярынай Кірылавай, маёй будучай жонкай. Так сталася, што два Колі (Мікалай Першы і Мікалай Другі, як называў нас сусед, раздзяляючы, ці дыферэнцыруючы, кажучы навуковым словам, па часе з'яўлення ў Шыпках) узялі шлюб з дзвюма Кацямі. Можа, лёс, а можа, проста выпадковае супадзенне імёнаў. Не ведаю. Але хіба гэта галоўнае? Галоўнае, што тут нарадзіліся мае два сыны, ва ўсякім разе так пазначана ў іх пасведчаннях аб нараджэнні, хоць насамрэч з'явіліся яны на свет у мядзельскім раддоме…

Даўно няма ўжо той школкі ў Шыпках, яшчэ раней аджыла свой век і Бадзенеўская, дзе я скончыў два класы і пра якую калісь напісаў такія радкі: «А школка родная старая, не дачакаўшыся дзяцей, на ўзгорку ціха памірае...». І колькі двароў зараз у маіх родных Бадзенях? Даўно ўжо не 33.  Як заўважылі некаторыя крытыкі, невыпадкова паэт (гэта значыць я) ужыў такую знакавую лічбу. І, канечне, у сваіх развагах яны праводзілі паралелі з узростам Хрыста. Але ўсё было прасцей, больш банальна (хоць, магчыма, у гэтай банальнасці якраз і хаваецца нейкая таямніца): менавіта столькі двароў было тады, трыццаць год таму, у маёй роднай вёсцы... Зараз хацін значна паменела, а што да «жылых» двароў, то іх, на жаль, засталося толькі дзевяць...

«Вёсачка вілейская Шыпкі»! Ці помніш ты мяне, свайго «рэжысёра», які ставіў з калегамі мо з год ці больш (прынамсі, рэпеціраваў) «Мікітаў лапаць» Міхася Чарота, ды так і не паставіў, які хацеў зрабіць Шыпкоўскую васьмігодку самай «паэтычнай» школай у раёне?! І хай з мяне пасмяюцца, але большасць маіх вучняў пісала

вершы, а Алесь Сівы нават перамог на абласным літаратурным конкурсе, а потым паспяхова закончыў журфак БДУ і адным з першых (а можа, і самым першым) браў інтэрв'ю ў жонкі Прэзідэнта. Ці помніш ты свайго настаўніка, ці, як там кажуць, настоўніка, які выкладаў і родную мову з літаратурай, і хімію, і фізіку, і спевы... Здаецца, як сёння, стаю перад класам і, чуючы іхняе: «А вы пакажыце, як трэба спяваць», гляджу ў акно (ведама, які саліст!) і максімальна стараюся патрапіць у ноты, якіх не разумею і сёння, і разам з тым імкнуся «пахуліганіць» і нешта стварыць уласна сваё, за што Дзмітрый Рымша (ён жа Дзмітрый Пятровіч) неаднойчы «абазваў» мяне са сцэны і ў друку «кампазітарам».

Хораша прайсціся па дарогах успамінаў, каб яшчэ раз узгадаць перажытае ці перажыць узгаданае, добра разумеючы, што ніколі не вярнуцца ў сваё Учора, а таму, спыніўшыся на прыпынку «Шыпкі», паедзем у Мінск шукаць сваё шчасце, сваю долю.

На дарозе ўспамінаў, як і на дарозе ў Заўтра, важна не забываць тых, хто спрычыніўся да твайго (хоць і невялікага) поспеху. І тут, канечне, я нізка схіляю галаву перад прафесарам Міхасём Станіслававічам Яўневічам, які мяне і ведаў-то не вельмі, але чамусь даслаў у 1986 годзе ў Шыпкі вось такі ліст: «Мікола Віктаравіч! Ёсць магчымасць пайсці ў аспірантуру. Можна ў гэтым годзе, можна ў наступным…» Я вырашыў не выпрабоўваць лёс і адразу ж падаў дакументы. Потым было аспіранцкае жыццё, асістэнцтва, выбары на пасаду старшага выкладчыка, дацэнта… Ну і, канечне, доўгачаканая абарона дысертацыі…

Помніцца і Мінскі абласны драматычны тэатр у Маладзечне, дзе па просьбе дырэкцыі і найперш мастацкага кіраўніка Мікалая Пятровіча Мацкевіча 10 гадоў узначальваў літаратурна-драматычную частку. «Заўвага прыехаў», – казалі артысты, але я не крыўдаваў на іх, а міла пасміхаўся з дасціпнай мянушкі. Не ведаю, ці крыўдавалі яны, калі пасля рэпетыцый і прагону спектакляў я часцяком вывешваў на сцяне свой «заглітаўскі» прысуд – «Заўвагі па вымаўленні...». Там быў (не ведаю, як цяпер) выдатны калектыў, як «мясцовы» акцёрскі, так і «творчы дэсант» з Мінска. І кожны – неардынарная і таленавітая асоба. Дастаткова прыгадаць народную артыстку Беларусі, маю знакамітую зямлячку Марыю Георгіеўну Захарэвіч, якая вяла майстар-клас, а таксама выконвала ролі ў некаторых спектаклях і нават была рэжысёрам-пастаноўшчыкам, загадчыка музычнай часткі Алега Залётнева, мастака Яўгена Волкава, рэжысёра Венядзікта Растрыжэнкава... І, канечне, мастацкага кіраўніка Мікалая Пятровіча Мацкевіча, які любіў тэатр, як роднае дзіця, ды інакш і не магло быць, бо менавіта з яго лёгкае рукі, па яго іні-

цыятыве Мінская вобласць займела свой прафесійны драматычны тэатр.

У кожнага свой лёс, свае шляхі, па якіх наканавана прайсці, каб набраць багаж уражанняў, якія потым нязмушана перальюцца-перацякуць і ў творчыя планы, і ў іх рэалізацыю.

Мае шляхі-дарогі не такія, відаць, яркія і разнастайныя, як у многіх маіх калег, якія бачылі (і не толькі бачылі) мора і акіян, горы і пустыні, Парыж і Лондан, Стамбул і Токіо. Мае шляхі-дарогі былі скіраваны ў родныя мясціны, у маю маленькую вёсачку Бадзені, дзе я адпачываю ў летнюю спёку ў засені высознай грушы-дзічкі, а росным ранкам ці астылым ад сонца вечарам люблю прайсціся з касой і пакласці ладную колькасць пракосаў на лузе каля бацькоўскай хаты. Найлепшы адпачынак там, дзе спакойна на душы, дзе нараджаюцца радкі, дзе душа не пакутуе ад шматлюднага шуму, бегатні, тоўхання-штурхання. Калі ў Мінску, то адпачываю (вядома ж, з ручкай і блакнотам) у парку Чалюскінцаў. Колькі там нарадзілася вершаў! Былі дні, што і па пяць запар. Вось тады адчуванне як пасля касьбы, калі скасіў-такі за адзін дзень тое, што планаваў за двачы. Лічыцца, што напісанне вершаў – нялёгкая, карпатлівая праца. Безумоўна, гэты працэс патрабуе вялікай аддачы энергіі. Але ўсё ж ні адну працу я не параўнаў бы з вершаскладаннем, якое прыцягвае і зацягвае, не раўнуючы, як наркотык наркамана, якое прыносіць такую асалоду, што гатовы займацца гэтым кожную хвіліну, добра ўсведамляючы, што так званыя ганарары (а якія там ганарары?!) не кампенсуюць нават дзесятай часткі твайго «хлеба надзённага», што ўсё адно твае сардэчныя парывы-хваляванні ў большасці так і застануцца ў нататніках і ў камп’ютэрных файлах ці флэшках...

І ўсё ж ёсць надзея, што, мажліва, сёе-тое з надрукаванага застанецца. Хочацца верыць…

А дарогі ўспамінаў вядуць далей. Дзе прыпыніцца, каб, азірнуўшыся, успомніць-прыгадаць нядаўнія сустрэчы, нядаўнія радасці і засмучэнні або проста паразважаць з самім сабою?

...Як бы там ні было, але сёе-тое стварыў, ці, як я люблю казаць, нарадзіў. Можа, не так шмат, як хацеў сам, як жадалі-чакалі (а мо і не чакалі і не жадалі) іншыя, але імкнуўся па магчымасці апець прыгажосць роднага краю, хараство і прыгажосць Жанчыны, святасць і веліч пачуццяў, радасць кахання… Хай даруюць тыя, хто хацеў бы бачыць ува мне прыкладнага ва ўсіх адносінах адналюба, цалкам сямейнага чалавека, добрага гаспадара, мужа… Тады б я, відаць, не нарадзіў столькі лірычных радкоў, бо адна жанчына, хай нават самая чароўная, пяшчотная, з гадамі ўсё ж не выклікае тых пачуццёвых усплёскаў, без якіх радкі зрыфмавацца могуць, а вось

напісацца прыгожы пранікнёна-лірычны верш – наўрад. Ва ўсякім разе, без унутранага пад'ёму, усхваляванасці, без пэўнай закаханасці, замілаванасці прыгажосцю стараюся не пісаць.

Мае «літаратурныя універсітэты» пачаліся ў 1980 годзе ў Каралішчавічах, куды мяне дэлегавалі на семінар кіраўнікоў літаратурных аб'яднанняў рэспублікі. Як усё ж было хараша ў той час! Начное чытанне вершаў, выпуск газет, абмеркаванне твораў такімі масцітымі паэтамі, як Рыгор Барадулін, Сцяпан Гаўрусёў, Артур Вольскі, Мікола Федзюковіч і многія іншыя. Тут пазнаёміліся і даволі цесна сышліся, нават, я сказаў бы, пасябравалі («Я с тобой не дружу, а сябрую…») з Анатолем Аўруціным, Аляксандрам Быкавым, многімі-многімі іншымі.

А Каралішчавічы-82! А Іслач-84!.. Таццяна Зіненка, Анатоль Сыс, Мікола Ждановіч, Людміла Паўлікава, Валянціна Аколава, Ала Канапелька, Хрысціна Лялько, Ігар Пракаповіч...

Часам задаюць пытанне: «Паступленне на філфак педінстытута было заканамернасцю ці выпадковасцю?» Што тут адказаць?.. Хутчэй за ўсё, і заканамернасцю, і выпадковасцю. Дарэчы, пасля школы я наогул паступаў на факультэт прыкладной матэматыкі ў БДУ. Хацелася новага, нязведанага. Прытым ледзь не паступіў. Ва ўсякім разе, не хапіла толькі аднага бала ці нават паўбала. Матэматыку здаў на максімальную адзнаку, хоць, чэсна кажучы, не дужа заседжваўся з кніжкамі, затое не прамінаў схадзіць і ў тэатр і сёетое зрыфмаваць. У гэты ж год з'явіўся мой першы верш у раённай газеце, да таго ж я навучаўся ў школе селькораў, напісаў нямала артыкулаў на самыя розныя тэмы. Калі ў ваенкамаце прапанавалі падумаць пра ваеннае вучылішча і падказалі, што ў Львоўскім ваенна-палітычным ёсць спецыяльнасць «ваенная журналістыка», вырашыў паспрабаваць, але, атрымаўшы чацвёркі і развітаўшыся з «заходняй сталіцай» (а на што яшчэ было спадзявацца сыну даяркі і трактарыста?!), прыехаў у Мінск і паспеў падаць дакументы ў педінстытут на філфак (за што вялікая мая ўдзячнасць Святлане Афанасьеўне Лепешавай і светлай памяці Сяргею Уладзіміравічу Кабяку і Леаніду Пракопавічу Падгайскаму).

Тут, на філфаку педінстытута, вось ужо трыццаць год таму мной і маімі сябрамі-аднадумцамі было створана літаратурнае аб'яднанне «Крокі», якое дало беларускай літаратуры такіх прафесійных паэтаў, як Мікола Ждановіч, Таццяна Сівец, Сяргей Карчыцкі, Ганна Міклашэвіч, Ксенія Шаржановіч, ваш пакорны слуга, а таксама крытыклітаратуразнаўца Мікола Мікуліч і інш. Да таго ж, яно акрыліла на паэтычнае светабачанне сотні маладых творцаў, хоць, можа, далёка не ўсе зараз актыўна працуюць у літаратуры і друкуюцца, але, не-

сумнення, помняць тыя залатыя часы, поўныя юначага максімалізму, нашы пасяджэнні, вечары, выступленні ў школах, на рэспубліканскіх алімпіядах, выпуск літгазет. Як помняць і тое здзіўлена-рытарычнае пытанне Міколы Іванавіча Мішчанчука, нашага настаўніка і паэта, якое ён задаў сабе і нам, стоячы перад першым выпускам насценнай газеты «Крокі»: «Што за «маладагвардзейцы»? І чаму «Крокі»? Чаму не «Крыніцы»?..»

Аб'яднанне маладзейшае за мяне толькі на 20 гадоў, на ўзрост таго хударлявага юнака ў клятчастым пінжаку, па якім мяне, дарэчы, пазнавалі і які я пранасіў ледзь не ўсе свае чатыры гады навучання. Для кожнага з нас, тагачасных маладых і няўрымслівых, – а гэта найперш Мікола Ждановіч, Людміла Харужык (Глінская), Вікторыя Чарняўская, Мікола Мікуліч, Сяргей Ільюшчыц і многія-многія іншыя – слова «Крокі» святое. Гэта, бадай, самыя прыемныя, самыя светлыя і радасныя ўспаміны не толькі для мяне, як кіраўніка, а, думаю, для ўсіх крокаўцаў. Мне і сёння, калі аб'яднанню спаўняецца 30 гадоў, ёсць чым пахваліцца, бо менавіта ў БДПУ імя Максіма Танка, менавіта на маім родным факультэце навучаюцца такія таленавітыя творцы, як Ксенія Шаржановіч, бадай, самы малады (21 год) член Саюза пісьменнікаў Беларусі, Вераніка Мандзік, чыя падборка ў «ЛіМе» выклікала вельмі станоўчы розгалас, Ірына Чарняўская, якая друкавалася ў «ЛіМе» і «Маладосці», Кацярына Цвяткова, Ганна Барадзіна, Наталля Пушкарова…

Маё новае паэтычнае дыханне прыйшло дзесьці ў канцы дзевяностых – пачатку 2000-х гадоў і, дзякаваць Богу, доўжыцца і зараз. Штогадовыя падборкі ў «ЛіМе», а потым «Маладосці» і «Полымі», сяброўства з Алесем Пісьмянковым (як ты *там,* браце Алесь?), Навумам Гальпяровічам, а пазней Міхасём Башлаковым, мастакамі Міколам Бушчыкам, Міхасём Барздыкам, Алегам Карповічам і многімі-многімі іншымі, вядомымі і менш вядомымі творчымі асобамі, а таксама маладымі і пачынаючымі паэтамі і выканаўцамі – усё гэта, відаць, спрыяла фарміраванню мяне як паэта лірычна-рамантычнага складу, які «апявае жанчыну, будзь то дзень сакавіцкі ці чэрвеньска-майскі».

Чым магу пахваліцца? За 32 гады творчай дзейнасці выдаў не так і шмат кніг – толькі шэсць, ды і то першая («Каб вымавіць: «Люблю!») з'явілася, як я ўжо згадваў, у калектыўным зборніку «Крыло» (1984). Толькі праз 12 гадоў, у 1996 годзе, у бібліятэчцы «Маладосці» выйшаў мой «Дом» (гадоў за 10 да выхаду аднайменнай кнігі Адама Глобуса), а ў працяг – зборнік любоўнай лірыкі «Яшчэ пакуль не лістапад» (у прыватным выдавецтве «Тэмікс»). Калі прымалі ў Саюз беларускіх пісьменнікаў (а было гэта ў снежні 1998 года), па-

сля абвяшчэння вынікаў галасавання да мяне падышоў Ніл Гілевіч. «А можаце падпісаць мне гэтую кніжку?» – спытаў ён. «Канечне. З задавальненнем!» – адказаў я. А Генадзь Бураўкін тады зазначыў: «Я думаў, што ты ўжо гадоў 15 у Саюзе…»

Што да Саюза, то я аказаўся яго даволі познім «дзіцем». Калісьці Анатоль Аўруцін мне сказаў: «Лепш, калі ў саюз клічуць, а не сам просішся». Чакаў я, чакаў, а ніхто не кліча. Калі б не Віктар Шніп, які падахвоціў («Хто цябе будзе клікаць?! Ніхто нікога не кліча! Падавай хутчэй паперы!»), то, можа, і зараз бы «бессаюзнічаў».

Карыстаючыся выпадкам, падзякую маім «рэкамендатарам» – Раісе Баравіковай, Рыгору Барадуліну, Кастусю Жуку і Алесю Камароўскаму («зусім ужо непатрэбнаму», як жартаўліва-іранічна падкрэсліў тагачасны старшыня Саюза Уладзімір Някляеў пры абмеркаванні маёй кандыдатуры на Радзе. Чаму «непатрэбнаму»? Бо дастаткова было і трох рэкамендацый). Дзякуй і Леаніду Дранько-Майсюку, і Казіміру Камейшу, чые важкія словы ў падтрымку, напэўна, таксама шмат што вырашылі на маю карысць.

Наступныя кніжкі выйшлі ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» – гэта і «Падары мне сваю адзіноту» (2002), і «Мая надзея» (2006), і «Хор болей не спявае» (2008). Тут, спадзяюся, неўзабаве з'явіцца і мой томік інтымнай лірыкі «Дзень Святога Валянціна».

Імкнуўся раскрыцца і ў песенным жанры. Вынікам творчага супрацоўніцтва з прафесійнымі і самадзейнымі кампазітарамі стала больш за сотню песень, некаторыя з іх у свой час дэбютавалі на фестывалях у Маладзечне і Віцебску, а потым часта гучалі па радыё і тэлебачанні, як, да прыкладу, «Залатыя арэлі сноў» у выкананні Алесі Гайдук (кампазітар Алег Елісеенкаў), «Будзь маёй» у выкананні Дзмітрыя Мінько (кампазітар Алена Атрашкевіч), «Малады казак» у выкананні Ірыны Дарафеевай (кампазітар Уладзімір Сарокін), «Люся» (кампазітар і выканаўца Алег Цівуноў) і інш. Больш за 30 песень напісана ў сааўтарстве з кампазітарам Міколам Яцковым, частка іх прагучала па радыё ў яго сольным выкананні і ў дуэце з Алай Яцковай. Генадзь Кубарка і Алег Малашчыцкі стварылі па 15 песень, некаторыя з іх гучаць на маіх паэтычных вечарынах у выкананні Алега і маладых спявачак Кацярыны Сапожнікавай і Кацярыны Цішкевіч (Алег, дарэчы, запісаў цэлы дыск нашых песень пад назвай «Не забывай»). Хочацца падзякаваць і маім сябрам Дзмітрыю Пятровічу і Анатолю Міхальчэнкаву, якія напісалі музыку не толькі на мае лірычныя вершы, але і на пародыі (нават запісалі магнітаальбом «Хор болей не спявае» з 10 парадыйных песень). За музычную інтэрпрэтацыю маёй паэзіі я ўдзячны таксама Валерыю Іванову, Алегу Залётневу, Міхасю Вітко, Алёне Гаўрыленцы, Андрэю Зыгмантовічу, Генадзю Сыраквашу, светлай памяці Уладзіміру Будніку...

Большасць вершаў напісана ноччу (я – сава!), недзе з адзінаццаці да дзвюх-трох гадзін. Сёе-тое створана ў парку, у аўтобусах, электрычках, маршрутках... Што натхняе? Найперш, жаночае харасство, дасканаласць, чысціня душы, узнёсласць памкненняў. Натхняюць позіркі цікаўных і адначасова засмучана-таемных вачэй, шчырасць, уменне радавацца не толькі за сябе, але і за іншых. Маё крэда – уславіць у вершах светлыя пачуцці і жаночую прыгажосць, таму не дзіўна, што творы маюць нямала прататыпаў, ці адрасатаў...

Чым запоўнены мой «святдзень і буддзень» акрамя творчасці? Гэта, канечне, праца. Дадам – любімая праца. Мае калегі-лінгвісты з кафедры беларускага мовазнаўства... Мае вучні-студэнты... Мае радасці і расчараванні... Мая педагогіка... Мой лёс... Лёс паэта – педагога – лінгвіста.

Мінаюць-мільгаюць гады, і разам з імі мільгаюць-перагортваюцца старонкі ўспамінаў. Калі-нікалі бяруць і сумненні: а навошта я пісаў гэтыя «мемуары» сваіх не самых цікавых, напэўна, жыццёвых здарэнняў-прыгод, большасць з якіх пры ўсёй іх іранічнай лёгкасці (у цяперашняй інтэрпрэтацыі) не асабліва, відаць, паўплывалі на мой светапогляд і наўрад ці паўплываюць на светапогляд і духоўныя арыенціры чытача. «Пісаў пісака, не разбярэ і с...», – як пазначыў аднойчы ў маім сшытку незабыўны Фёдар Міхайлавіч Янкоўскі, мой настаўнік. Што ён уклаў у гэтае «с», мне сёння, у адрозненне ад тагачаснага першакурсніка, больш-менш вядома, хоць, як кажуць, ёсць варыянты...

Бывай, мой сшытак успамінаў. «Калі што не так, то выбачай...», – так заканчваецца адна з нядаўніх маіх песень. З гэтымі ж словамі хочацца звярнуцца і да цябе, мой незнаёмы чытач. Бо той, хто мяне ведае, спадзяюся, і без таго зразумее і прабачыць. А іначай – і нашто гэта ўсё...

Такія вось штрыхі-пункціры маёй біяграфіі. Іншае – у вершах. Але пакінем сёе-тое і лірычнаму герою...

*Снежань, 2008 год*



## ***Шніп***
***Віктар Анатольевіч***

### ЁСЦЬ НА ВАЛОЖЫНШЧЫНЕ ВЁСКА ПУГАЧЫ

Ёсць на Валожыншчыне вёска Пугачы,
Дзе рэчышчы сцяжын не зараслі ў лугах,
У агародчыках красуюць касачы,
Буслы на захад сонца коцяць па дубах...

У вёсцы Пугачы 26 сакавіка 1960 года я і нарадзіўся. Маці – Ніна Міхайлаўна (да замужжа Лемяшонак) – больш сарака гадоў адпрацавала на кароўніку даяркай, хоць у свой час закончыла сем класаў. Нават крыху ведала нямецкую мову. Бацька – Анатоль Іосіфавіч – працаваў у калгасе пастухом. У сваіх бацькоў ён быў самым старэйшым, таму з-за працы па хатняй гаспадарцы і з-за вайны закончыў усяго толькі адзін клас. Нягледзячы на непісьменнасць, бацька часта вечарамі нам, сваім дзецям, па некалькі гадзін запар расказваў вершы і казкі, якія ён запомніў, калі вучылі іх яго дзве малодшыя сястры і брат. І даводзілася чуць бацьку ад мамы: «Перастань там сачыняць...» Магчыма, бацька і сапраўды многае выдумляў, але ён выдумляў так, што, як кажуць, не падкапаешся...

Сваёй хаты напачатку мы не мелі і жылі ў бацькавых бацькоў – маіх дзеда Юзі і бабулі Параскі. Дзед працаваў у калгасе, быў адукаваны, любіў пагаварыць. Бабуля была швачкай, і пра яе ведалі далёка ад Пугачоў. Мела нават вучняў. Аднак усё ж мы жылі беднавата, і, калі мне споўнілася восем месяцаў, гадаваць мяне забрала бабуля Ганна (пражыла сто гадоў), маміна мама, у невялікую, усяго 10 хат, вёску Лягезы, ля якой працякае рачулка Яршоўка. У Лягезах, што ў пяці кіламетрах ад Пугачоў, я і гадаваўся да школы. Быў я хлапчуком цікаўным і непаслухмяным. Зімой вечна цягаў за сабой саначкі і збіраў на іх сухое галлё, абламанае з дрэў вятрамі. Цягаў галлё пад хату, складаў у кучу. Для чаго? Цяпер не памятаю. Але час ад часу за яго на мяне пакрыквалі маміны браты – дзядзькі Ваня і Віця, і сёстры – цёткі Шура і Аля. Яны на той час яшчэ сваіх сем’яў не мелі і глядзелі за мной, як за родным сынам. Расказвалі розныя гісторыі, бралі мяне на вечарынкі, на кірмаш у Ракаў і ў Яршэвічы. Бабуля Ганна (дзявочае прозвішча Мацееўская) адна выгадавала васьмёра дзяцей. Муж яе, Міхаіл, загінуў у 1944 годзе – падарваўся на міне, едучы ў Ракаў. Ад выбуху ўцалелі мой дзядзька Ваня, што сядзеў на возе ззаду з коцікам на руках, і жарабятка. Я яшчэ сам з дзядзькам Ванем пасвіў нашчадка таго жарабяткі, амаль казачнага чырвонага каня. І калі часам дзядзька прыходзіў з працы нецвярозы, ён расказваў мне пра сваю бяду, якую перажыў, будучы хлапчуком. Расказваў так, што сам плакаў і ад слёз не мог утрымацца і я...

Вечарамі да нас часта заходзілі сябры маіх дзядзькоў і цётак. Пры лямпе (электрычнасці ў Лягезах не было да 1967 года) дзяўчаты пралі кудзелю, воўну і спявалі песні. Хлопцы расказвалі пра вайну, пра тое, як жылі пры паляках. Я слухаў, пакуль не засынаў...

З дзядзькам Ванем, які ў вёсцы Русакі працаваў конюхам, я даглядаў коней і нават некалькі разоў хадзіў з ім у начное. Дзядзька мяне любіў і я яго называў татам, а цётку Алю – мамай. І калі прыйшоў час майго вяртання ў Пугачы (трэба было ісці ў школу), мяне не хацелі аддаваць маім бацькам. Ды і я сам не хацеў некуды з’язджаць з Лягезаў. І цяпер, калі еду з Мінска ў Пугачы каля Лягез, у мяне ад успамінаў на вачах слёзы, бо тут прайшлі самыя светлыя гады майго жыцця. Тут, у Лягезах, відаць, ува мне і абудзіўся паэт...

Мне было недзе гадоў пяць. Дзяцей у Лягезах было трое, і мне часцей за ўсё даводзілася гуляць аднаму. Цягаўся па палях і лясах, а часам і па суседскіх агародах. Шкоды асаблівай нікому не рабіў, але лазіў дзе можна і няможна. Тады па радыё і ў размовах старэйшых часта даводзілася чуць пра Амерыку, дзе жывуць вельмі дрэнныя людзі, якія хочуць знішчыць не толькі нас, але і ўсіх, хто жыве на зямлі. Наслухаўшыся пра дрэнных амерыканцаў, мая дзіцячая гала-

ва выспеліла ідэю – раз у Амерыцы жывуць дрэнныя людзі, а ў суседкі ў садзе ёсць калодзеж, а ён глыбокі (відаць, праз усю зямлю), то можна праз калодзеж пабамбіць амерыканцаў. Ні бомбаў, ні гранат у мяне не было, але каменняа хапала ўсюды. І я, назбіраўшы паболей каменняў і прабраўшыся ў суседчын сад да калодзежа, стаў бамбіць Амерыку. Бамбіў даўгавата. Не ведаю, ці патрапіў у Амерыку, але суседцы на вочы – дакладна. І яна мяне прагнала. Я вельмі пакрыўдзіўся на цётку – як жа гэта яна не разумее, што я раблю карысную справу – бамблю Амерыку! І ад крыўды прыдумаўся пра цётку вершык, з якім заўтра зноў прыйшоў да калодзежа і зноў стаў кідаць каменне ў дрэнных амерыканцаў. А суседка, убачыўшы, чым я зноў займаюся ў яе садзе, зноў прагнала мяне ад калодзежа. І я, адбегшыся, прачытаў цётцы вершык. І тут цётка зусім «азвярэла» – вырвала пук крапівы і, дагнаўшы мяне, добра адсвянцавала. А я не зразумеў, за што... І гэта быў мой першы верш, і першы ганарар...

Летам 1967 года ў адзін дзень у Лягезах адбыліся два вяселлі – жаніўся мой дзядзька Ваня і выходзіла замуж цётка Аля. Тады ўпершыню я і пазнаёміўся бліжэй са сваёй роднай сястрой Валяй, якая на год маладзейшая за мяне. Мы з ёй адразу пасябравалі, і нібыта не было тых гадоў, калі мы гадаваліся не разам. У Пугачы мяне з поўным мехам цацак праводзілі амаль усе Лягезы, і ўсе плакалі. У той дзень па дарозе дамоў, а ў нас ужо была свая хата, мы трапілі пад вялікую навальніцу. Казалі, што той дождж быў мне на шчасце...

Восенню я пайшоў у першы клас Пугачоўскай васьмігодкі. Школа была невялікая, драўляная, перабудаваная з панскага будынка. Вучыўся добра. Не быў круглым выдатнікам, але і троек за чвэрці амаль не было. З прадметаў найбольш падабаліся геаграфія, гісторыя і батаніка. Вывучаючы па гісторыі паўстанне Спартака, уяўляў сябе адным з яго воінаў, які з часам станавіўся больш магутным і вядомым, чым Спартак. Я наогул прыдумляў свае працягі да ўсіх гістарычных падзей. Нават іх расказваў сястры Валі і брату Валодзю, якім падабаліся мае прыдумкі. Беларускай і рускай літаратурамі ў школе не захапляўся, бо не любіў вучыць на памяць вершы. Любімымі кнігамі былі «Палескія рабінзоны» Янкі Маўра і «Мы з Санькам у тыле ворага» Івана Сяркова. Асабліва падабаліся «Палескія рабінзоны», таму што аднаго з галоўных герояў звалі, як і мяне, Віктар. І мне здавалася, што гэта напісана пра мяне. Чытаючы гэтую кніжку, а чытаў яе разоў дваццаць, марыў пра падарожжы і прыгоды. Нават вясной, у час паводкі, майстраваў з сябрамі плыты і спрабаваў плыць на невядомыя астравы, не думаючы пра тое, што астравоў у нашым наваколлі няма і блізка, бо жывём жа не каля мора...

У школе была мода мець сшытак, у якім запісваліся любімыя песні. І неяк летам, калі мне было дзевяць гадоў, нагуляўшыся ў футбол з сябрамі, я прыстаў да мамы, каб яна прадыктавала песню, якую часта пад добры настрой напявала. Маме не было часу сядзець са мной, і яна сказала, каб сам успомніў і запісаў. Давялося сядзець і ўспамінаць. Што ўспомніў, што сам прыдумаў, але праз нейкі час на паперы з'явіліся паэтычныя радкі. Я іх зачытаў маме. Яна паслухала і сказала, што гэта не яе песня, а мая, мной складзеная. Я ўзрадаваўся, выбег на вуліцу да сябрукоў і пачытаў ім сваю песню. Адны спакойна выслухалі мяне, другія пасмяяліся: «Віця паэтам зрабіўся!» Пасля мамінай песні, не ведаю як гэта атрымалася, стаў напачатку недзе раз у месяц, а пасля часцей, рыфмаваць. І ўжо праз год, наслухаўшыся па радыё пра пяцігодкі і пра выкананне іх планаў за тры гады, стаў сабе выдумляць планы па напісанні вершаў. Зразумела, як і ў самой краіне, так і ў мяне планы выконваліся датэрмінова. Праўда, пра мае паэтычныя справы доўгі час мала хто ведаў. Аднак, недзе ў класе пятым, калі хлопцы-аднакласнікі пачалі заляцацца да дзяўчат і да ўсяго я і сам пачаў на іх заглядацца, аднаму з сяброў я прызнаўся, што пішу вершы. Паказаў яму, і хутка ў школе амаль усе ведалі, што Віця Шніп умее рыфмаваць. І тут пачалося – хлопцы сталі прасіць напісаць ім вершы пра каханне. І я выконваў заказы. Як раней многія рускія паэты любоўную лірыку пісалі па-французску, я пісаў па-руску. Здавалася, што так прыгажэй. Гледзячы на маё рыфмаванне, той-сёй таксама пачаў спрабаваць нешта пісаць і нават хваліцца перада мной, што ў яго атрымоўваецца значна лепей. Пасля гэтага я перастаў паказваць свае творы знаёмым. А неўзабаве і сам закахаўся. А каханне пачалося з таго, што...

У нас не было тэлевізара. У суседкі быў – невялікі, чорна-белы і ўсяго з адной тэлепраграмай. А мне так хацелася паглядзець мульцікі! Праўда, зрэдку выпадалі шчаслівыя дні, калі суседка пускала дзяцей у хату на кіно. І мы ўжо сядзелі каля тэлевізара, нібы каля вогнішча, у якім пяклася бульба, і чакалі. Кожны чакаў нечага свайго. А мяне клікала мама дахаты, каб ішоў дапамагчы агледзецца. Часцей за ўсё выпадала напаіць карову і даць ёй сена. Я рабіў гэта з ахвотай, бо пасля зноў мог збегчы да суседкі. І ўсё ж тэлевізара мне не хапала, і ён мне часта сніўся, як далёкія цёплыя краіны, якія часам даводзілася бачыць па тым жа тэлевізары. І вось у адзін зімовы дзень суседка некуды з'ехала і пакінула маёй маме ключы ад хаты. Мама, зрабіўшы ўсё ў суседкі па гаспадарцы, павесіла ключ на цвічок. А я гэтага толькі і чакаў. Мама з хаты, а я за ключ і хутчэй да суседкі. Уключыў тэлевізар і гляджу. Якраз паказвалі казку пра Снягурачку. Снягурачка прыгожая-прыгожая, аж, калі яна ў кан-

цы фільма прапала, я заплакаў. І вырашыў ісці ў лес шукаць Снягурачку, каб прызнацца ёй у каханні. Напачатку хацеў знесці з хаты вазон, каб у знак свайго кахання падарыць Снягурачцы, але перадумаў, бо мама заўважыць прапажу. Ідучы ў лес, склаў верш для Снягурачкі. Доўга лазіў па гурбах, клікаў прыгажуню, але яна так і не паказалася. «Відаць, баіцца», – вырашыў я і сказаў Снягурачцы, што калі я ёй спадабаўся, то няхай яна забярэ мой верш сабе на памяць, а я заўтра прыйду за адказам. І, напісаўшы верш на снезе, пайшоў дамоў. Спаў дрэнна, чакаў раніцы і, як толькі развіднела, пабег у лес. Верша на снезе не было. І я яшчэ больш паверыў у Снягурачку і нават зусім не падумаў, што ноччу была мяцеліца, і яна замяла і мой верш, і мае сляды...

У школе, нягледзячы на тое, што ў мяне няма ні голасу, ні добрага музычнага слыху, я быў адным з актыўных удзельнікаў школьнай самадзейнасці. Мяне нават наша кіраўніца хваліла, але, відаць, хваліла толькі таму, што я слухаўся яе і не прапускаў рэпетыцый. Выступалі на ўсе святы ў школе і ў клубе. Суседзі маёй маме гаварылі: «Віця твой, відаць, артыстам будзе...» Мама ўсміхалася, але не аспрэчвала таго, што можа што з мяне талковае і атрымаецца, бо бацькаў жа брат Славік некалькі гадоў у свой час правучыўся ў Мінску ў тэатральным інстытуце. Сябе ж артыстам я не ўяўляў і не думаў ім быць. Акрамя песень і танцаў у нашым рэпертуары быў невялічкі спектакль пра партызанскі атрад. У мяне была роля немца, які ахоўваў чыгунку і якога партызаны, даўшы яму калацінай па галаве, узялі ў палон. Паказаўшы спектакль у сваёй вёсцы, мы пачалі заваёўваць гледача ў суседніх. Дарослыя ўспрымалі нас нармальна, нават плакалі, а вось нашы аднагодкі часам смяяліся і здзекаваліся з нас. І ўсё ж мы працягвалі выступаць...

У час канікулаў выступленняў школьнай самадзейнасці не было. Але ў мяне заставалася жаданне нешта вытварыць. Раскладваць вогнішча на ганку сваёй хаты ці нешта падобнае я ўжо не мог, бо разумеў, што можна спаліць усю вёску. І я прыдумаў паставіць спектакль пра Бураціна і Карабаса-Барабаса. Са мной пагадзіліся сястра з братам, некалькі стрыечных братоў і сясцёр, а таксама суседскія дзеці. Размеркаваўшы ролі, падрыхтаваўшы касцюмы, на рэпетыцыі збіраліся ў ляску каля вёскі. Нейкі час я камандаваў усімі, але праз тыдзень мая стрыечная сястра Света пачала не згаджацца з тым, як я фантазірую. Кончылася тым, што я пакрыўдзіўся на ўсіх і некалькі дзён стараўся, каб наш тэатр развальіўся. Развалу не атрымалася, а наадварот – маці аднаго нашага артыста запрасіла ўсіх у дзіцячы сад, каб паглядзець наш спектакль. Клікалі і мяне, але я не пайшоў. Сядзеў дома і злаваўся. Праз гадзіны дзве прыйшлі мае брат

з сястрой і прынеслі мне кавалак торта, які яны атрымалі ў дзіцячым садзе. Я еў торт і плакаў...

Да нас у пяты клас вучыцца перайшлі вучні з Еленкі. Сярод іх была Зоя Шымель, якая мне адразу спадабалася. Яна сядзела на апошняй парце і я час ад часу азіраўся на яе. Зоя не звяртала ніякай увагі на мае азіранні і мяне гэта яшчэ больш круціла на месцы. Я ўжо тады пісаў вершы пра каханне. І кожны мой верш пра каханне быў прысвечаны Зоі, і гэтыя вершы, перапісаўшы начыста, пускаў чытаць сярод вучняў, спадзеючыся, што іх прачытае Зоя і зразумее, як я кахаю яе. Вершы мае Зоя чытала, але ніякай рэакцыі з яе боку не было, да ўсяго ў класе пачалі шаптацца пра маю закаханасць. І на адным з урокаў я перадаў Зоі запіску з прапановай сябраваць. Праз некалькі хвілін на кусочку прамакаткі з сшытка прыйшоў адказ: «Нет». І сёння ў мяне ў дзённіку для запісаў захоўваецца гэта кароткае слова...

Пасля адмовы Зоі сябраваць са мной я яшчэ больш стаў пісаць вершы пра каханне. Але ўжо не пускаў іх па класе, каб усе прачыталі, а пасылаў па пошце Зоі. Дзяўчына, атрымоўваючы мае пісьмы, прыходзіла ў школу, нібыта маіх вершаў і не чытала. Я ж не пераставаў пісаць. І да чаго б я дапісаўся, не ведаю, калі б на адным з канцэртаў мастацкай самадзейнасці не пачуў, што вусны ў хлопцаў існуюць у першую чаргу не для таго, каб заклейваць канверты з любоўнымі пісьмамі, а каб цалаваць каханых. Калі гэтыя словы гучалі са сцэны, мой позірк сустрэўся з Зоіным, і мая каханая мне паказала язык...

У сёмым класе напярэдадні восьмага сакавіка падарыў Зоі прыгожую паштоўку, на якой напісаў верш пра каханне. Прачытаўшы маё віншаванне, Зоя сказала: «Сёння буду з табой танцаваць...». Пачуўшы ўпершыню такое ад Зоі, з нецярпеннем чакаў вечара, калі ў школе будуць праходзіць святочныя мерапрыемствы. Адным з першых прыйшоў дапамагаць старэйшым вучням вызваліць ад парт клас для танцаў. Парты не выносілі на калідор, а тут жа ў класе ставілі адна на адну. І вось пачаліся танцы. Я ж з хлопцамі залез на парту аж пад самую столь. Прыйшла Зоя. Паглядзела, дзе я сяджу, і стала танцаваць з сяброўкай. І дасядзеўся я пад столлю да белага танца. Чакаю запрашэння ад Зоі, а тут на табе – да мяне падыходзіць Люда з шостага класа і сцягвае мяне з парты танцаваць з ёй. Патанцаваўшы з Людай, зноў залез на парту і ўбачыў, што Зоі ў класе ўжо няма. Пасля зноў быў белы танец, і мяне зноў запрасіла Люда. Натанцаваўшыся з шасцікласніцай, вярнуўся дамоў, ужо думаючы не пра Зою. Сябры ж мае, убачыўшы, як я танцаваў з Людай, назаўтра раніцай прыйшлі да мяне з прапановай ісці ў Новы Двор да яе. І мы пайшлі. У Люды бацька працаваў у сельсавеце, і мы пабаяліся адра-

зу ісці да дзяўчыны ў хату. Доўга стаялі каля плота, свісталі, клікалі Люду выйсці на вуліцу. Дзяўчына не выйшла...

Пасля школы яшчэ амаль чатыры гады пісаў пісьмы Зоі. Яна, як і раней, не адказвала. І ўсё ж надзей на сяброўства не губляў і дачакаўся пісьма, у якім Зоя пісала, што яна вучыцца ў тэхнікуме, дзе трэба шмат чарціць, і, ведаючы, што я вучуся ў архітэктурна-будаўнічым, папрасіла дапамагчы ёй зрабіць курсавую. Здавалася б, вось той чаканы момант, калі магу сустрэцца з дзяўчынай, якую кахаю, але замест таго, каб сустрэцца, я адпісаў, што ўжо няма таго хлопчыка Віці...

Напачатку сямідзесятых гадоў бацькі пачалі выпісваць газету «Звязда». У ёй хоць зрэдку, але друкаваліся вершы. І мне таксама захацелася быць надрукаваным. Перапісаў некалькі вершаў, паклаў у канверт, напісаў адрас рэдакцыі, а свой адрас пабаяўся пазначыць. Вечарам, калі сцямнела, хаваючыся, як партызан, які ідзе ўзрываць чыгунку, занёс пісьмо ў паштовую скрынку. Назаўтра раніцай чую, мама на кухні расказвае бацьку: «Сустрэла паштарку. І яна мне кажа: «Ніна, ты там глядзі за сваім хлапцом! Ён у цябе ўжо нейкія пісьмы піша ў газеты. Скажы яму, каб болей не пісаў, а то прыедзе міліцыя на чорным воране і забярэ...» Пачуўшы гэта, я два гады не пасылаў свае вершы ў газеты...

Недзе ў гадоў дванаццаць, калі па беларускай літаратуры вывучалі творчасць Янкі Купалы, даведаўся, што ў дзесяці кіламетрах ад Пугачоў знаходзіцца Вязынка, радзіма паэта. І я вырашыў схадзіць да Купалы і паказаць яму свае вершы. Мне чамусьці і не падумалася, што паэта даўно няма ў жывых. І вось, выбраўшы дзень, калі бацькі з ранку пайшлі на працу, прыхапіўшы сшытак з вершамі, я збег з дому, папярэдне даведаўшыся ў старэйшых хлопцаў, як ісці ў Вязынку. Ішоў па палях, хаваючыся ад вяскоўцаў, якія маглі пацікавіцца, куды я гэта іду адзін, і адправіць мяне дамоў. Прыйшоўшы ў Вязынку, напачатку пахадзіў па вуліцах, паўглядаўся ў дзядзькоў, спадзеючыся сярод іх убачыць Янку Купалу. Затым распытаўся, дзе хата Купалы, але ў яе не зайшоў, бо пабаяўся перашкодзіць паэту пісаць новыя вершы. У кіёску купіў кніжачку Купалы і, пастаяўшы каля хаты, пайшоў дамоў. Вярнуўся позна. Бацькі мяне ўжо шукалі, і, відаць, мне б перапала, але я прызнаўся, што хадзіў у Вязынку да Янкі Купалы са сваімі вершамі. Бацька моўчкі выслухаў мяне, а маці запыталася: «А што табе сказаў Купала?..»

Першы ліст на дасланыя вершы атрымаў са «Звязды» ў 1975 годзе. Ён быў падпісаны Міколам Гамолкам і Алесем Траяноўскім. Адказ быў абнадзейваючым, таму ў хуткім часе свае творы паслаў ужо і ў «Чырвоную змену», дзе літкансультаваў Яўген Крупенька.

І ў «Чырвонцы» да маіх твораў аднесліся памяркоўна, але нічога не надрукавалі...

Пугачоўскую васьмігодку закончыў у 1975 годзе. Без троек. Трэба было думаць, куды ісці вучыцца далей: ці канчаць дзесяць класаў у Ракаве, ці куды-небудзь паступаць у Мінску. Выбралі Мінскі архітэктурна-будаўнічы тэхнікум. Параілі калгасныя шэфы, што былі якраз з гэтай  навучальнай установы. Экзамены здаў добра. Дыктоўку пісаў па беларускай мове. Са мной такіх хлопцаў было пяць чалавек, і мы ўсе паступілі. У тэхнікуме на тое, што я пішу вершы, мае сябры глядзелі спакойна. 17 жніўня 1977 года ў «Чырвонай змене» з'явіўся мой першы верш «Семнаццаць мне...». Я быў на сёмым небе ад шчасця. Затым надрукаваўся ў «Настаўніцкай газеце», «Вячэрнім Мінску» і «Мінскай праўдзе». Па запрашэнні літкансультанта «Чырвонай змены» Яўгена Крупенькі стаў хадзіць у рэдакцыю на пасяджэнні літаб'яднання «Крыніцы», дзе пазнаёміўся з Яўгенам Гарадніцкім, Алесем Пісьмянковым, Віктарам Стрыжаком, Іванам Рубіным, Алесем Емяльянавым і іншымі філфакаўцамі. Нейкі час я жыў у інтэрнаце тэхнікума, а потым на кватэры ў знаёмых маёй стрыечнай сястры Ніны – дзеда Матвея і Марыі Цяслёнак. Бабуля была сваячніцай літаратурнага крытыка, які нарадзіўся ў вёсцы Гарані (у дзесяці кіламетрах ад Ракава), Сымона Куніцкага. Дзед яшчэ да вайны працаваў у мінскіх тэатрах і ведаў многіх артыстаў. Сам ён быў рэпрэсіраваны, і таму мне даводзілася чуць шмат цікавага і страшнага з жыцця творчай інтэлігенцыі 30–50-х гадоў. Дзед быў заядлым чытачом. Любіў не проста чытаць кніжкі, а чытаць іх услых і са мной абмяркоўваць напісанае...

У вольны час ад вучобы ў тэхнікуме хадзіў па рэдакцыях. Светла ўспамінаюцца сустрэчы ў «Маладосці» з Міколам Аўрамчыкам, у «Полымі» з Анатолем Вялюгіным, у «Беларусі» з Аляксеем Русецкім. Мая першая часопісная публікацыя – дзевяты нумар «Маладосці» за 1979 год. Купіўшы часопіс, сабраўся ў вёску, каб паказаць бацькам сваю першую сур'ёзную публікацыю. У аўтобусе побач са мной сеў хлопец, які, убачыўшы ў маіх руках «Маладосць», пацікавіўся, ці надрукаваны ў гэтым нумары Уладзімір Караткевіч. Я даў хлопцу паглядзець самому часопіс, спадзеючыся, што ён наткнецца на мае вершы. Аднак, адшукаўшы Караткевіча, хлопец пачаў яго чытаць. Толькі недзе праз паўгадзіны я не вытрываў і пахваліўся, што ў часопісе надрукаваны і мае вершы. Так я пазнаёміўся са сваім земляком з Ракава, навукоўцам Язэпам Янушкевічам. Праз яго пасябраваў і з яго братамі – мастаком Фэліксам і скульптарам Валяр'янам. Вельмі шмат дало мне сяброўства і з Яўгенам Гарадніцкім, з якім, калі мы былі яшчэ без сем'яў, марылі на роварах аб'ехаць усю Беларусь. Шкада, што нашы мары засталіся толькі юначымі марамі...

Напачатку 1980 года знаёмыя хлопцы-паэты параілі мне паказаць свае вершы Рыгору Барадуліну. Акуратна перапісаўшы творы ў школьныя сшыткі, пайшоў да Рыгора Іванавіча ў выдавецтва «Мастацкая літаратура». Якраз Барадулін быў на месцы. Ён вельмі добра сустрэў мяне і сказаў, што мае вершы змесціць у калектыўным зборніку «Сцяжыны», які рыхтаваўся да друку на наступны год. Але ўжо так выйшла, што калектыўная кніжка затрымалася, і Рыгор Іванавіч праз год прапанаваў мне выдацца асобна. Я не адмовіўся, і ў канцы 1983 года ў «Мастацкай літаратуры» выйшла ў свет мая «Гронка святла», за якую ў 1984 годзе мяне прынялі ў Саюз пісьменнікаў Беларусі...

У 1981 годзе пашчасціла трапіць на семінар маладых літаратараў у Каралішчавічы. Жыў у адным пакоі з Міколам Мятліцкім і Алесем Лісіцкім. З прыемнасцю ўспамінаю тыя снежаньскія дні і вечары, калі блізка пазнаёміўся з Леанідам Галубовічам, Вадзімам Спрынчанам, Уладзімірам Арловым, Алегам Мінкіным, Анатолем Сысам, Васілём Сахарчуком, Анатолем Шушко, Алесем Жыгуновым, Уладзімірам Мазго, Паўлам Шрубам і іншымі маладымі паэтамі і празаікамі...

У 1984 годзе быў удзельнікам Усесаюзнай нарады маладых літаратараў у Маскве. Жыў у гасцініцы ў адным пакоі з Леанідам Галубовічам і Сяргеем Дубаўцом. Дзякуючы нарадзе, пазнаёміўся з Масквой і рускімі паэтамі. Пасля гэтай паездкі яшчэ больш захацелася вучыцца ў Літаратурным інстытуце на Вышэйшых літаратурных курсах. У наступным годзе мара мая збылася. А да таго часу ў маім жыцці было ўсяго, бо пасля тэхнікума, не забраўшы дакументы і не пайшоўшы працаваць на будоўлю, без прапіскі сем гадоў жыў у Мінску. Даводзілася працаваць грузчыкам на лікёра-гарэлачным заводзе «Крышталь», літкансультантам у часопісе «Неман» і газеце «Вячэрні Мінск». А часам жыў толькі на ганарары. Раз на месяц ездзіў у Валожын у рэдакцыю «Працоўнай славы», дзе ў 1980 годзе прапанаваў арганізаваць літаб’яднанне «Рунь» і дзе маю ідэю, дзякуючы Галіне Шаблінскай, якая там пачынала сваю працоўную дзейнасць, падтрымалі. На пасяджэнні літаб’яднання з Вішнева прыязджаў перакладчык «Пана Тадэвуша» Пятро Бітэль, дырэктар Шыкуцёўскай школы, нястомны краязнаўца Генадзь Равінскі, вайсковец з Гудоў Леанід Шчарбінскі. Шмат было моладзі. Яны вучыліся ў мяне, а я вучыўся ў іх. З тых «рунеўцаў» Міхась Курыла і Валянціна Гіруць-Русакевіч (ім пісаў рэкамендацыі на прыняцце ў Саюз пісьменнікаў) сёння ўжо члены нашага творчага саюза...

На самым пачатку васьмідзесятых гадоў у калідоры рэдакцыі «Маладосці» пазнаёміўся з Адамам Глобусам. На той час ён пра-

цаваў мастаком-афарміцелем. Пасябраваўшы з Глобусам, я часта хадзіў да яго дахаты і ў майстэрню ў падвал. Там пазнаёміўся з яго братам Міраславам Шайбаком, Уладзімірам Сцяпанам, Максімам Клімковічам і Уладзімірам Сіўчыкавым. Сабраўшыся разам, мы не толькі гаварылі і спрачаліся пра тое, дзе што прачыталі, але чыталі і абмяркоўвалі свае творы. Нашы пасядзелкі былі пачаткам таварыства «Тутэйшыя». Пад час адной сустрэчы ў Глобуса ў нас узнікла задума стварыць кніжку беларускага хоку. Стварылі. Здалі ў выдавецтва, і там яе «зарэзалі» як кнігу чужую для нашай літаратуры. Ды ўсё ж наша праца, дзякуючы Адаму Глобусу, пабачыла свет у 1996 годзе...

У 1985 годзе разам з паэтам Уладзімірам Маруком быў у Грузіі на Усесаюзным свяце паэзіі, прысвечаным Уладзіміру Маякоўскаму. Пакідаючы там на конкурс сваю кнігу «Гронка святла», я і не думаў, што праз два гады зноў паеду ў Кутаісі і адтуль вярнуся лаўрэатам Усесаюзнай прэміі Савета міністраў Грузіі імя Уладзіміра Маякоўскага. Прэмія гэта – як наша Дзяржаўная прэмія імя Янкі Купалы. Мне тады было 27 гадоў. І наогул 1977 год для мяне быў багатым на прыемныя падзеі – закончыў ВЛК, выйшла ў свет мая другая кніга «Пошук радасці», ажаніўся і ўпершыню ўладкаваўся на сур’ёзную працу ў часопіс «Беларусь» рэдактарам аддзела культуры...

На вучобу ў Маскву ехаў з вялікім хваляваннем і радасцю, бо мяне чакалі калідоры, па якіх у свой час хадзілі многія вядомыя пісьменнікі і сярод іх наш Уладзімір Караткевіч. У першыя ж дні вучобы ўзніклі такія-сякія праблемы з ваенкаматам. Я ж у войску не служыў, і да ўсяго з вайсковага білета было бачна, што апошнія чатыры гады нідзе не стаяў на вайсковым уліку. Мне нават давялося ў ваенкамаце пачуць ад маёра пытанне: «Где ты столько лет скрывался от советской власти?» Я не разгубіўся: «Пісаў вершы!» і, паказаўшы членскі білет Саюза пісьменнікаў СССР, застаўся вольным...

Першыя зімовыя канікулы правёў у Пугачах. І неяк вечарам, калі ўжо не было жадання ні пісаць, ні чытаць, уключыў тэлевізар. Якраз натрапіў на літаратурную перадачу – знаёмілі з удзельнікамі нарады маладых літаратараў у Каралішчавічах. Вёў сустрэчу Рыгор Барадулін. І раптам чую: «Маладая паэтэса Людміла Рублеўская нядаўна закончыла Мінскі архітэктурна-будаўнічы тэхнікум...» Я адразу ж падсеў бліжэй да тэлевізара і, як у дзяцінстве глядзеў на Снягурачку, стаў глядзець на дзяўчыну. Акрамя таго, што мяне зацікавіла тое, што Людміла вучылася ў тым жа тэхнікуме, дзе і я, яна мне спадабалася знешне...

Блізкімі сябрамі на ВЛК у мяне былі тры палякі, украінец, рускі і літовец. Мы часта збіраліся вечарамі. Часам за размовамі пра-

седжвалі да раніцы. А гаварыць было пра што – ішлі першыя гады гарбачоўскай перабудовы. У кнігарнях з’явіліся раней не выдаваемыя кнігі, у кінатэатрах паказваліся раней забароненыя фільмы, у тэатрах – спектаклі. Слухачоў ВЛК вазілі на экскурсіі па Расіі. Мне давялося пабыць на Барадзінскім полі, у Яснай Паляне каля магілы Льва Талстога, у Суздалі, ва Уладзіміры, у Яраслаўлі і іншых гістарычных мясцінах. Семінар паэзіі ў мяне вялі Аляксандр Межыраў, Уладзімір Сакалоў і Юрый Кузняцоў. У якасці члена Саюза пісьменнікаў я меў магчымасць хадзіць у Цэнтральны дом літаратара, дзе часта адбываліся цікавыя вечарыны, сустрэчы, пасяджэнні. Нават пашчасціла быць удзельнікам з’езда Саюза пісьменнікаў Расіі, які праходзіў у Крамлёўскім палацы. Так у прыемных клопатах і праляцеў першы год маёй вучобы ў Літінстытуце...

Вечарам 8 верасня 1996 года я з сябрамі на кухні інтэрната Літінстытута курыў. На нашым сёмым паверсе, як звычайна, было ціха, і тут раптам чуем на калідоры стукат жаночых абцасікаў. Хлопцы прыслухаліся і сказалі: «Да цябе, Віця, госці пайшлі!» Я пачаў аднеквацца, але ўсё ж выглянуў з кухні на калідор. Каля дзвярэй майго пакоя сталі дзве дзяўчыны. Падышоў да іх, пацікавіўся, каго яны шукаюць. Аказалася – мяне. Адна з іх была – Людміла Рублеўская. Так я пазнаёміўся з паэтэсай, якую амаль год назад бачыў па тэлевізары. Мінаў дзень за днём, і наша з Людмілай зямляцкае сяброўства перарасло ў каханне. Людміла кожныя выхадныя вадзіла мяне па тэатрах, музеях, выставах, чаго я раней адзін амаль не рабіў, хоць і меў магчымасць. Мой лепшы сябра, паэт з Чэлябінска Генадзь Суздалеў, з якім я першы год вучобы быў як не разлі вада, стаў крыўдаваць і казаць: «Нас на бабу прамяняў…» Але з часам і ён быў задаволены тым, што я знайшоў у Маскве сваё шчасце. 24 ліпеня 1987 года мы з Людмілай ажаніліся. Вярнуліся назад у Мінск. Я пайшоў працаваць у часопіс «Беларусь», а Людміла перавялася з Літінстытута ў наш БДУ на філфак, які закончыла з чырвоным дыпломам. 6 красавіка 1989 года ў нас нарадзілася дачка Вераніка, а 1 мая 1993 года – сын Максім. Сваіх дзяцей мы назвалі ў гонар Максіма Багдановіча і яго Веранікі. Дзеці нашы ўдаліся ў Людмілу – добра малююць. Максім заканчвае гімназію-каледж мастацтваў, а Вераніка ўжо закончыла і цяпер вучыцца ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў на факультэце дызайну. Акрамя малявання, дзеці пішуць вершы, а Вераніка да ўсяго ў рок-гурце іграе на бас-гітары.

Пасля працы ў часопісе «Беларусь», працаваў у газетах «Наша слова» адказным сакратаром і ў «Літаратуры і мастацтве» намеснікам галоўнага рэдактара і галоўным рэдактарам. З лютага 2004 года працую ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» спачатку намеснікам галоўнага рэдактара, а цяпер галоўным рэдактарам...

Акрамя сястры Валі, у мяне ёсць брат Валодзя 1968 года нараджэння. Хлопец таленавіты, але чамусьці бярэцца за ўсё і да канца не даводзіць. У свой час пісаў вершы і прозу. Нават друкаваўся ў «Чырвонай змене» і ў часопісах «Бярозка» і «Першацвет». Вучыўся ў БДАМ на курсе тэлерэжысёраў. Не закончыў. Ды і мой дзядзька Славік (бацькаў родны брат) таксама нейкі час вучыўся на артыста, пісаў вершы, друкаваўся, а на пенсію пайшоў аграномам...

На сённяшні дзень у мяне пятнаццаць кніжак вершаў. Некалькі дзесяткаў песень. Сярод якіх «Усе мы родам з дзяцінства», якая дала назву Рэспубліканскаму конкурсу маладых талентаў. Пішу прозу, але пакуль што сябе празаікам не лічу...

Я ўдзячны сваім бацькам – Ніне Міхайлаўне і Анатолю Іосіфавічу – за тое, што яны далі мне жыццё на беларускай зямлі, дзе столькі паэзіі...

*2008 год*



***Шугля***
***Уладзімір Фёдаравіч***

## АЎТАБІЯГРАФІЯ*

Мне часта прыходзіцца сустракацца з моладдзю на розных сходах, сустрэчах, адказваць на іх разнастайныя пытанні, якія часцяком зводзяцца да пошуку сэнсу жыцця: што хаваецца за поспехам, чаму акалічнасці прымушаюць нас рабіць той або іншы выбар, а галоўнае – дзеля чаго?

На адной з сустрэч са студэнтамі Цюменскага дзяржаўнага універсітэта гутарка ад агульнага перайшла да прыватнага, і я, у парыве адкрытасці, распавёў ім аб тым, як аднаўляў свой радавод, якое значэнне для чалавека і яго поспеху мае сям’я, грамадзянская пазіцыя, Радзіма і нават усведамленне нацыянальнай прыналежнасці, зрабіўшы ўпор на тое, што ў жыцці дробязяў не бывае, яны, часцяком, складнікі нашага шанцавання, поспеху, шчасця. Я распавёў ім, як шмат сіл і часу было патрачана на вывучэнне радаводу маёй сям’і, і што вынік аказаўся ўражлівым – Нацыянальным архівам Беларусі дадзеныя даведкі, па якіх радавод сям’і Шугляў складзены з сярэ-

дзіны XVII стагоддзя. А само прозвішча Шугля перакладаецца са старабеларускай як «лодка-даўбёнка з дубу». Не, нездарма нашы продкі крывічы, дрыгавічы, калі юнакі станавіліся воінамі, патрабавалі ад іх не толькі подзвігаў, але і ведання радаводу да пятага-сёмага калена.

Сярод маладых людзей былі тыя, хто мае беларускія карані, і тыя, каго цікавіла Беларусь зыходзячы з наяўнай інфармацыі або, наадварот, з-за яе адсутнасці.

Падчас дыскусіі мяне нечакана спыталі: «А як стаць багатым?»

Такое пытанне паўстала, пэўна, таму, што я стварыў і ўзначальваю адну з самых першых рыначных структур у Заходняй Сібіры – холдынгавую кампанію «Торговый Дом «Мангазея». Я не лічу сябе вельмі багатым менавіта ў тым сэнсе, які быў укладзены ў гэта пытанне, але паспрабаваў на ўласным прыкладзе раскрыць формулу поспеху як чалавек, які насуперак або дзякуючы акалічнасцям сёгатаго ў жыцці дабіўся...

Такім чынам, я нарадзіўся 30 студзеня 1947 года ў г. Кыштыме Чэлябінскай вобласці. Лёс кідаў майго бацьку – Шуглю Фёдара Міхайлавіча – у розныя канцы Савецкага Саюза.

Ён, кадравы вайсковец, сын палка, патрапіў у Чырвоную гвардыю яшчэ ў 1919 годзе. Сам будучы ўраджэнцам вёскі Руціцы Карэліцкай воласці Навагрудскага павета Мінскай губерні, шмат паездзіў па розных гарадах і вёсках СССР: Невель і Барнаул, Гомель і Тбілісі, Новасібірск і Гжацк, Барысаў і Куйбышаў, Феадосія і Чэлябінская і Свярдлоўская вобласці. І вось на засакрэчаным аб’екце ў Чэлябінскай вобласці, які сёння ўсім вядомы як першы вытворца атамных бомбаў у СССР, – «Маяк» з’яўляюся я. У гонар каго мяне назвалі здагадацца няцяжка. Два Уладзіміры былі шырока вядомыя. Адзін Уладзімір – Вялікі князь Кіеўскай Русі – хрысціцель усёй рускай зямлі, а іншы – які адмовіўся ад веры ў бога, атэіст – Уладзімір Ленін.

Мая маці, як і бацька, – беларуска, у дзявоцтве Усава Ганна Паўлаўна, ураджэнка г. Барысава, выхавала шасцярых дзяцей, сёмы – Уладлен, які нарадзіўся ў 1927 годзе, памёр праз год-паўтара пасля нараджэння. Чатыры сястры нарадзіліся да вайны і былі нашмат старэйшыя за мяне. Мы з братам Алегам ужо пасляваенныя, калі ва ўсёй краіны пасля завяршэння Вялікай Айчыннай была «другая маладосць». Няма ўжо жывых сясцёр, засталіся мы з братам...

У 1962 годзе скончыў Свярдлоўскую сярэднюю школу № 130. Як сын кадравага вайскоўца, па традыцыі паступіў у Чэлябінскае вышэйшае ваеннае авіяцыйнае вучылішча штурманаў. Аднак праз сем месяцаў напісаў рапарт на звальненне – вырашыў, што цалкам

прысвяціць жыццё войску не змагу. З-за гэтага паміж мной і бацькам-франтавіком, узнагароджаным у гады вайны ордэнам Леніна, двума ордэнамі Баявога Чырвонага Сцяга, двума ордэнамі Айчыннай вайны, пралягла немалая расколіна. І, можа быць, сваім далейшым жыццём я даказваў і яму, і сабе, што змагу «на гражданке» шмат чаго дабіцца.

Скончыў у 1971 годзе Маскоўскі інстытут народнай гаспадаркі, дзе вучыўся завочна. Потым працаваў на камсамольскай будоўлі ў г. Балакава Саратаўскай вобласці, а затым і на Урале.

Наогул, у маім жыцці шмат дзіўных збегаў акалічнасцяў, быццам хтосьці мудры, той, хто мяне любіць, вядзе за руку па жыцці ад адной прыступкі да другой. Тое, што камусьці давалася за кошт «блату» або неймаверных высілкаў, да мяне прыходзіла неяк проста і немудрагеліста. Пэўна, гэта таму, што я шчыра вучыўся ў сваіх настаўнікаў. А якія гэта былі людзі! Амаль усё – франтавікі! Мне дапамагала ў зносінах з імі жаданне пазнаваць новае і вучыцца, жаданне падыходзіць да працы творча.

Так, лёс гэта не толькі гены, але і, першым чынам, выхаванне ў сям’і, грамадстве, працы, а таксама самавыхаванне плюс характар, а затым ужо і акалічнасці. Філасофскі погляд на жыццё з’яўляецца сам па сабе, калі ты паважаеш старэйшых, выкарыстоўваеш іх вопыт. Я тады яшчэ не ведаў формулу: калі сутыкаюцца факт і паняцце, мяняй паняцце, але ўжо інтуітыўна адчуваў гэта. Зараз ужо яно стала нормай: калі факты паўтараюцца некалькі разоў, значыць, ты ў чымсьці не праў, мяняй падыход, разумовыя ўстаноўкі, свае паводзіны і адносіны да таго, што здарылася. Нездарма Канфуцый гаварыў аб самым высакародным шляху мудрасці – шляху разважанняў, роздумаў.

Так развіваліся мае адносіны да жыцця. У войска я ўсё-ткі пайшоў, нягледзячы на бронь, і адслужыў тэрміновую службу. Патрапіў у войскі, якія толькі гадоў праз 15–20 назавуць элітнымі – «спецназам».

Кар’ера мая пасля войска склалася годна. На ўсіх пасадах працавалася цікава, творча. Дай Бог, каб сёння так прыкмячалі і рыхтавалі кадравы рэзерв, як у мой час. Без якой-небудзь «валасатай рукі» я прайшоў шлях ад слесара да начальніка глаўка, і цяпер досвед і характар дазваляюць мне кіраваць «рыначнай» структурай. Атрымаў прызнанне навуковых арганізацый: абраны акадэмікам дзвюх Акадэмій – Акадэміі Расійскіх энцыклапедый і Міжнароднай Акадэміі інфармацыйных тэхналогій. Адзначаны ўрадавымі ўзнагародамі Расійскай Федэрацыі і Рэспублікі Беларусь.

У 1991 годзе скончыў Уральскі сацыяльна-палітычны інстытут. Навошта? Мне было цікава. Калі «разваліўся» Савецкі Саюз,

многія згубілі арыенціры ў жыцці... Новая сітуацыя прымусіла мяне шукаць новыя формы працы. У Цюмені была створана Асацыяцыя «Тюменьторгпром». Але калі першы Прэзідэнт Расійскай Федэрацыі зразумеў, што яму гэтыя асацыяцыі не патрэбныя, ён адным Указам падрэзаў нам крылы. Але што мяне ўражвала, дык гэта тое, што першымі ўласнікамі станавіліся былыя партыйцы. Вось што здзіўляла!

Я зразумеў адну рэч: цяпер у выбранніках той, у каго ў руках уласнасць. Гэта бясспрэчна. Людзі жадалі як мага хутчэй атрымаць грошы. Вось сёння ён хоча на Канары, яму патрэбен «Мерседэс».

Гэты смутны час правяраў і працягвае правяраць людзей на маральную трываласць.

– Я не быў выхаваны бізнесменам, – падкрэсліў я ў той гутарцы са студэнтамі. – Але ўвесь час прысутнічала нейкая доказная база – а чаму не я? І калі ў савецкі час быў кіраўніком, то чаму не зараз? Што пра мяне скажуць? Што ты, Шугля, у іншых умовах нічога не можаш? Так што, прызнаюся, бізнесменам стаў нехаця.

Ведаеце такую прыпавесць Саламона? «Падыдзі да мурашкі, гультай, паглядзі на дзеянні яе і будзь мудрым. Няма ў яе ні начальніка, ні наглядчыка, ні ўладара, але яна нарыхтоўвае ўлетку хлеб свой, збірае своечасова ежу сваю. Дакуль ты, гультай, будзеш спаць? Трохі паспіш, трохі падрэмеш, трохі, склаўшы рукі, паляжыш – і прыйдзе, як прахожы, бедната твая і патрэба твая, як разбойнік». Так, бываюць моманты, калі адчуваю, што не магу ў поўнай меры надаваць часу творчасці, становіцца цесна, фінансавыя справы прызямляюць. Але бізнес, акрамя ўсяго іншага, гэта яшчэ магчымасць дапамагаць людзям плюс дзейнасць грамадскай рэгіянальнай арганізацыі «Союз – интеграция братских народов», якую я ўзначальваю, выпуск газеты пад аднайменнай назвай і шматлікае іншае з грамадскіх спраў, на што неабходныя сродкі. Адказваючы на пытанне аб формуле поспеху, заўсёды падкрэсліваю тры яе складнікі: характар, розум і пачуцці (сэрца). Для сябе я вывеў тры жыццёвыя пастулаты: формулы «трех С» (стыд, совесть, сострадание), «трех Т» (труд, творчество, терпенье) і «трех НЕ» (не бояться, не сдаваться, не доверять). Возьмем апошнюю формулу. Яна ў асноўным датычыцца бізнесу – як бы там ні было, поўны давер у гэтай сферы небяспечны. Так, у бізнесе не давяраю нікому, таму што чалавек грэшны, можа нешта забыць, выпусціць, памыліцца. Аднойчы я вымушаны быў аддаць кватэру і на паўгода пасяліцца ў гасцініцы, таму што бракавала грошай разлічыцца з пастаўшчыкамі. Вы гатовыя не толькі жадаць зарабляць грошы, але і несці адказнасць за вынік вашай справы маёмасцю, кватэрай? Мець каласальныя нервовыя і фізічныя нагрузкі,

стрэсы? – спытаў я студэнтаў. Яны задумаліся. А я быў рады, што прымусіў іх задумацца...

Прачытаўшы папярэднія радкі майго аповеду-біяграфіі, пэўна, хто-небудзь ды скажа: а дзе ж паэзія?

Думаю, што нараджэнне чалавека, яго з’яўленне на свет – гэта ўжо і ёсць вышэйшая праява паэзіі кахання, пачуццяў. А адносіны да жыцця, успрыманне навакольнага свету, грамадзянская пазіцыя – яго працяг.

Так ужо склалася, што пісаць вершы пачаў у юнацтве. Дзве старэйшыя сястры былі філолагамі, і пад іх уплывам, асабліва старэйшай сястры Яніны, фарміравалася і мая літаратурная мова. Маці, мая любая маці, сваім каханнем, арганізаванасцю, аповедамі аб Беларусі, вечным клопатам па хатняй гаспадарцы рабіла непаўторным маё дзяцінства, юнацтва ў бацькоўскай хаце.

Вядома, мае першыя вершы, якія пачаў пісаць з 15 гадоў, былі наіўнымі. Я кідаў і зноў браўся за пяро. На мой погляд, чалавек – гэта птушка, у якой адно крыло «дзелавое», другое – «лірычнае». Калі абодва добра «працуюць», то птушка ляціць прама. Калі махае адно крыло, то прыйдзецца хадзіць па крузе. Да мяне прычапілася назва – «деятельный поэт». Дарэчы, Афанасій Фет не толькі пісаў вершы. Ён быў руплівым гаспадаром, памешчыкам, ведаў агратэхніку. На сучаснай мове яго цалкам можна назваць прадпрымальнікам.

Шматлікіх маіх калег па пяру бянтэжыць, што я кіраўнік, бізнесмен, але, як заўважыў Анатоль Аўруцін – вядомы беларускі паэт, сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі, па прачытанні маіх вершаў гэтая няёмкасць хутка праходзіць. Спадзяюся, што ён не памыліўся ў гэтай ацэнцы. За апошнія тры гады выйшла некалькі зборнікаў маіх вершаў. Апошнія з іх – «Души отчаянная юность» і «Избранное».

Ёсць і кніга прозы «Мой родны кут «Сибирь-Беларусь». Спадзяюся, што гэта не апошнія кнігі. Ва ўсякім разе, ёсць над чым працаваць і пра што пісаць...

Пусть скажет «нищий» мне моя судьба,
Я не боюсь, давно мне то не страшно.
Ее я сердцем выбрал для себя,
Рискуя часто многим бесшабашно...
Творю без устали – вот это важно –
С полей судьбы не собраны хлеба.

*2008 год*

---

*Напісана на рускай мове. Пераклад зроблены ўкладальнікам.

# З М Е С Т

На пачатку вялікай дарогі....................................................................3
***Аўласенка Генадзь***
Пра сябе і сваю творчасць....................................................................5
***Аўруцін Анатоль***
Пад сузор'ем слова....................................................................13
***Баравікова Раіса***
Шукаю сваю Беларусь....................................................................22
***Башлакоў Міхась***
Шчыміць душа аб незваротным....................................................................28
***Бельскі Алесь***
Вытокі і прасцягі майго жыцця....................................................................47
***Бутэвіч Анатоль***
«А я ў Баяры, дамоў хачу...»....................................................................65
***Гальпяровіч Навум***
На шляху да сябе....................................................................78
***Гарадніцкі Яўген***
Прастора-часавыя вымярэнні памяці....................................................................84
***Гіруць-Русакевіч Валянціна***
Мой лёс, мая дарога....................................................................91
***Гніламёдаў Уладзімір***
З таго, што помніцца і што думаецца....................................................................97
***Давідовіч Сяргей***
«Увесь я тут»....................................................................114
***Далідовіч Генрых***
Радасць і боль, або Спроба аўтабіяграфіі....................................................................117
***Дудзюк Зінаіда***
З пачуццём любові....................................................................128
***Жук Алесь***
Кожнаму сваё поле....................................................................133
***Зэкаў Анатоль***
Патапаўка – мая буслянка....................................................................139
***Казлоў Анатоль***
Не люблю грыбоў ды ягад....................................................................147

***Калінковіч Мікалай***
Кароткі погляд на пражытае.............................................................151
***Капыловіч Іван***
У часе балючага роздуму.................................................................157
***Карызна Уладзімір***
Некалькі абзацаў пра сябе..............................................................160
***Касцючэнка Наталля***
Мара здзейснілася...........................................................................163
***Краснова-Гусачэнка Тамара***
«Я в храме выросла березово-ржаном...».......................................167
***Крупенька Яўген***
З майго жыццяпісу...........................................................................177
***Купрэеў Мікола***
Абрысы творчай постаці пісьменніка.............................................181
***Курыла Міхась***
Як варта любіць жыццё...................................................................191
***Лёвановіч Леанід***
Жыць у суладдзі з прыродай...........................................................196
***Ліпскі Уладзімір***
Хачу заставацца чалавекам..............................................................200
***Лукша Валянцін***
З берагоў Дзвіны-матухны...............................................................211
***Мазго Уладзімір***
Абрысы лёсу......................................................................................216
***Макарэвіч Васіль***
Дарогай веку......................................................................................219
***Мароз Уладзімір***
Знакі гісторыі....................................................................................241
***Марціновіч Алесь***
Іншага жыцця не ўяўляю..................................................................248
***Мушынская Тацяна***
У самых розных жанрах…................................................................268
***Мятліцкі Мікола***
Апошні жыхар старога Палесся.......................................................283
***Наварыч Алесь***
Самажыццяпіс...................................................................................294
***Пазнякоў Міхась***
Крыху пра сябе.................................................................................297

***Панізнік Сяргей***
Не толькі Гамеру…........................................................................303
***Пашкоў Генадзь***
У абрыс майго следу......................................................................309
***Пісьмянкоў Алесь***
Думаць вершы..............................................................................319
***Пракаповіч Ігар***
Заваблены краем чароўным...........................................................327
***Рагойша Вячаслаў***
З хаты на Пляцы Волі....................................................................339
***Рублеўская Людміла***
Па абодва бакі ад Кальварыі...........................................................348
***Саламаха Уладзімір***
Як быць заўсёды добрым і мужным?.............................................359
***Салтук Алег***
Як шмат мне хочацца сказаць…......................................................369
***Семашкевіч Рыгор***
Аўтабіяграфія..................................................................................374
***Сліва Міхась***
Як я стаў Міхасём Слівай...............................................................377
***Ткачоў Васіль***
Мой рай зямны...............................................................................380
***Трахімёнак Сяргей***
Аўтабіяграфія..................................................................................386
***Фатнеў Юрый***
Зязюля мне лічыць гады.................................................................392
***Федасеенка Уладзімір***
Жыццёвыя шляхі-дарогі.................................................................406
***Чарняўскі Мікола***
Пад знакам Васілька, альбо Пра тое, што не забываецца.............411
***Чыгрын Сяргей***
У творах – мой жыццяпіс...............................................................422
***Шабовіч Мікола***
Пацеркі ўспамінаў..........................................................................430
***Шніп Віктар***
Ёсць на Валожыншчыне вёска Пугачы..........................................442
***Шугля Уладзімір***
Аўтабіяграфія..................................................................................454

**З росных сцяжын** : аўтабіяграфіі пісьменнікаў Беларусі / уклад.
З-11 Мікола Мінзер. – Мінск : Літаратура і Мастацтва, 2009. – 464 с.

ISBN 978-985-6720-57-7

Творчасць многіх пісьменнікаў канца ХХ – пачатку ХХI ст. вядома сёння шырокаму колу чытачоў не толькі на Радзіме, але і за яе межамі. Зборнік «З росных сцяжын» склалі аўтабіяграфіі пяцідзесяці чатырох творцаў слова, якія распавядаюць пра мясціны, дзе нарадзіліся, выхоўваліся і вучыліся; пра жыццёвыя і працоўныя дарогі, на якіх сустрэлася багата добрых людзей і сяброў; пра літаратурныя сцежкі і шляхі, якія прывялі іх да зорных вяршыняў.

Кніга прызначаецца для выкладчыкаў, настаўнікаў, студэнтаў, школьнікаў, а таксама для ўсіх тых, хто цікавіцца беларускай літаратурай.

**УДК 821.161.3.09(092)**
**ББК 83.3(4Беи)**

